# ІВАН МЕЛЕЖ

## ЗБОР ТВОРАЎ
## У ДЗЕСЯЦІ ТАМАХ



Мінск
«Мастацкая літаратура»
1979

# ІВАН МЕЛЕЖ

## ТОМ I

## АПАВЯДАННІ, АПОВЕСЦІ

РЭДАКТАР ТОМА
У. В. ГНІЛАМЁДАЎ

ПАДРЫХТОЎКА ТЭКСТАЎ І КАМЕНТАРЫІ
К. В. ПІЛІПОВІЧ

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1979

# АД РЭДАКЦЫІ

Збор твораў народнага пісьменніка БССР Івана Мележа ў дзесяці тамах — найбольш поўнае выданне яго мастацкай, публіцыстычнай, літаратурна-крытычнай, эпісталярнай спадчыны.

Апрача твораў, якія ўваходзілі ў шасцітомнае выданне (1969—1971), падрыхтаванае пры ўдзеле аўтара, сюды ўключаны некаторыя апавяданні са зборніка «Белыя вішні і яблыні», трэцяя кніга «Палескай хронікі» — раман «Завеі, снежань», крытычныя і публіцыстычныя артыкулы, літаратурныя эсэ, выступленні, інтэрв'ю, ваенныя дзённікі, запісныя кніжкі.

У аснову размяшчэння твораў пакладзены жанрава-храналагічны прынцып:

першы том — апавяданні і аповесці;

другі том — нарысы і п'есы;

трэці і чацвёрты тамы — раман «Мінскі напрамак» (частка першая — «Хмары на світанні» — у трэцім томе; частка другая — «Мінск за небакраем», частка трэцяя — «Будучыня з намі» — у чацвёртым томе);

пяты, шосты і сёмы — трылогія «Палеская хроніка» (раман «Людзі на балоце» — у пятым, «Подых навальніцы» — у шостым, «Завеі, снежань» — у сёмым тамах);

восьмы том — крытычныя і публіцыстычныя артыкулы;

дзевяты том — аўтабіяграфічныя нататкі, ваенныя дзённікі;

дзесяты том — пісьмы, з запісных кніжак, летапіс жыцця і творчасці І. П. Мележа, алфавітны паказальнік, паказальнік імёнаў.

За асноўны тэкст твораў узята іх апошняе прыжыццёвае аўтарызаванае выданне. Асобныя творы і эпісталярная спадчына друкуюцца па часопісных публікацыях, па рукапісных матэрыялах архіва і аўтографах.

Па свайму тыпу дадзены Збор твораў з'яўляецца навукова-масавым выданнем. Тэксты твораў зверany з усімі прыжыццёвымі выданнямі і вядомымі рукапіснымі крыніцамі. У выніку

навуковай зверкі ў тэксце, узятым за асноўны, выяўлены асобныя недакладнасці і друкарскія памылкі. Кожная з унесеных паправак, у тым ліку і ўдакладненні даты напісання твора або асобнай яго часткі, у каментарыях дакументальна абгрунтаваны і зацверджаны тэксталагічнай камісіяй. Відавочныя памылкі друку спецыяльна не агаворваюцца.

У раздзеле «Каментарыі» прыводзяцца звесткі аб крыніцах асноўнага тэксту, крыніцах першадруку, аб даце напісання твора, змяшчаюцца некаторыя найбольш значныя ў ідэйна-мастацкіх адносінах варыянты і розначытанні, выходзячы з тыпу выдання, даецца кароткая ідэйна-мастацкая характарыстыка твора, раскрываецца гісторыя яго напісання і друкавання, сцэнічная гісторыя драматычных твораў, прыводзяцца найбольш характэрныя крытычныя ацэнкі ў друку і аўтарскія самаацэнкі, узнаўляюцца літаратурна-творчыя, грамадскія ўмовы, у якіх ствараўся твор, даецца падрадкоўны гісторыка-літаратурны і рэальны каментарый.

Збор твораў І. П. Мележа падрыхтаваны Інстытутам літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР у адпаведнасці з пастановай Савета Міністраў БССР.

# ХАРАСТВО ПРАСТАТЫ

(Урокі творчасці Івана Мележа)

Недзе ў 1974 годзе Іван Паўлавіч паклікаў: «Прыйдзі, аказваецца, я табе не падпісваў свой шасцітомнік».

У яго кабінеце, каля кніжных паліц, размова ў нас ішла пра ўсё, але як бывала абавязкова пры сустрэчах з Мележам — пра яго наступную рэч, працу і пра тую, што нядаўна скончыў. Ён заўсёды і доўга яшчэ жыў гулам зробленай працы. А гэта якраз закончыў яшчэ адну пераробку «Мінскага напрамку» — асабліва грунтоўную. Рыхтаваў рускае выданне, уцягнуўся і аддаў тры гады. З тых, што яму яшчэ былі адпушчаны...

Ён радаваўся зробленаму, нават ганарыўся трохі, але і мучыла яго нешта. Ці не пачуццё віны — перад Васілём, Ганнай, «Палескай хронікай»? Клікала яна яго, галоўная кніга, усе гэтыя тры гады. Але, магчыма, і палохала. Складанасцю тых задач, якія не нехта, а сам ён перад сабой ставіў, бачыў...

Можа, якраз таму, што самога гэта мучыла і бачыў маю нячуласць да яго пісьменніцкага стану і настрою, Іван Паўлавіч з вострай нязгодай рэагаваў на мае разважанні, што ён «не меў, не мае права». Пра вайну, маўляў, напісана і яшчэ напішуць — не горшае і нават лепшае за «Мінскі напрамак». А пра гэта сумее, здольны толькі Мележ, ніхто за яго не скончыць «Палескую хроніку». І што мала ёсць кніг, якія так неабходны, бо так удаліся...

Потым папракаеш сябе за жорсткасць, але, пакуль мы жывыя, лічыш, што так нам паміж сабой і трэба — каб дайшло!

І, здаецца, «дайшло», і настолькі, што цёмна-зялёны Мележаў падарунак і сёння стаіць на маёй паліцы непадпісаны: мілая, шчырая, здалёк яшчэ больш дарагая непасрэднасць Івана Мележа!

І вось рыхтуецца ўжо дзесяцітомнік Мележа. Пасмяротны. Справа для нашай літаратуры, культуры надзвычай важная, адказная.

Калі чалавек пакідае жыццё, месца, якое ён у жыцці займаў (пісьменнік — у літаратурным), застаецца, бы ніша, пустата, якую бачыць, адчуваць балюча. Ад пустэчы такой не робіцца прастарней, як ні дзіўна, у нашай літаратурнай будыніне. Зусім наадварот: памёр вялікі пісьменнік — і як бы паменшала «хата», ніжэйшай здаецца столь...

Той маральны, літаратурны аўтарытэт, які выпраменьвала асоба пісьменніка, цяпер увесь сабраўся ў творах, у яго спадчыне. Ужо толькі са старонак кніг Іван Паўлавіч Мележ робіць свае палемічныя заўвагі, дае ацэнкі жыццю, людзям, іх паводзінам, літаратурным творам — усяму, чым жыў ён так зацікаўлена, няўрымсліва.

Прачытваючы яго раманы, апавяданні, п'есы, яго выступленні і артыкулы, вывучаючы яго запісы, варыянты няскончаных твораў, накіды планаў (у сшытках, блакнотах, на лістках) — што засталося, з чым засталіся?! — пачынаеш лепш разумець і тое, што ведаў пра сябе і сваю творчасць толькі сам пісьменнік. А ён ведаў, разумеў куды больш і больш значнае, чым мы, крытыкі яго і сябры яго, маглі яму сказаць.

Як сур'ёзна, як глыбока, як балюча задумваўся ён над справай, якую называў бязлітаснай.

«Літаратура — рэч бязлітасная: яна дае права на жыццё толькі таму, хто дакажа права на жыццё ў адкрытай, годнай спрэчцы...», «У літаратуры маюць значэнне толькі свае дарогі» («Раман і яго праблемы», 1967).

Не ўсімі сваімі мыслямі, сумненнямі ён дзяліўся, але прарывалася праз паляшуцкую стрыманасць — у запісках, у сяброўскай гутарцы ці ў звароце да чытача — тое, што гаварыла аб сапраўднай «драме ідэй», вышэй за якую няма драмы. І тады рабілася зразумела, як не проста і не спакойна ён глядзіць на тое, што зрабіў, што робіць, і якіх пакут, сумненняў каштуе яму пісьменніцкая праца.

«Працуючы, пісьменнік адначасова як бы робіць дзве справы. Можна сказаць — ствараe дзве кнігі.

Адна з гэтых кніг потым будзе выдадзена, будзе апранута ў вокладку. Яе аблічча будзе відаць усім. Другая кніга, як правіла, ніколі не пабачыць свету...

Непрыкметная для староннягa, яна будзе доўга жыць у сэрцы пісьменніка, можа, усё жыццё.

Гэта другая кніга — тая ўнутраная работа, якая заўсёды папярэднічае напісанай і надрукаванай. Папярэднічае, суправаджае на працягу ўсёй работы за пісьмовым сталом і нярэдка — потым застаецца, разам з многімі пытаннямі.

Ненапісаная гэтая кніга ўся складаецца з пытанняў. Пытанні гэтыя часцей за ўсё канкрэтныя, практычныя: пра галоўную думку кнігі, герояў, характары іх, адносіны да іх, узаемаадносіны паміж імі. З чаго пачынаць, як развіваць, чым закончыць? Як будзе паводзіць сябе герой, якія словы скажа, што падумае?

Потым, калі кніга пойдзе ўжо ў бібліятэкі, да чытача, пытанні гэтыя будуць прыходзіць трывожнымі сумненнямі: ці добра, ці правільна зроблена? Ці пераканаўча пададзены характары, ці дакладныя ацэнкі? Ці лепшыя знойдзены рашэнні? Мноства пытанняў.

І чым даражэй і сур'ёзней кніга — тым больш гэтых пытанняў і тым даўжэй яны будуць трывожыць» («Праца пісьменніка», 1968).

З гэтых нікім не прачытаных і не ўбачаных «тамоў» — яшчэ аднаго Збору твораў — чытачам, крытыкам застаюцца асобныя «старонкі», часта нават не самыя значныя, часта выпадковыя — у выглядзе запісных кніжак пісьменніка, інтэрв'ю, адказаў на анкеты, артыкулаў і г. д. «Старонкі» гэтыя Іван Паўлавіч сам сабраў у адну з апошніх сваіх кніг — «Жыццёвыя клопаты». А ёсць яшчэ архіў пісьменніка. І галоўнае — яго мастацкія творы.

Што ж нам засталося, з чым засталіся? Каб ацаніць спадчыну Івана Мележа — вельмі не раўнацэнныя па значэнню творы

яго — паспрабуем убачыць, зразумець унутраную логіку, дыялектыку развіцця гэтага незвычайнага таленту.

Так ужо атрымалася, што сваёй «Палескай хронікай» Іван Мележ, магчыма, больш, як хто іншы ў 50—70-я гады, прыўзняў «столь» нашай літаратуры. І калі нешта здрабнела, стала меншым і менш значным пад гэтай падвышанай столлю ў спадчыне і самога Мележа, дык у гэтым асаблівая «віна», як бачым, яго ж таленту, які раптоўна «ўзарваўся» «Людзьмі на балоце», «Подыхам навальніцы», «Завеямі, снежнем».

А ці «раптоўна»?

На гэты «парадокс Мележа» звычайна даваліся, даюцца адказы больш эмацыянальныя, чым даследчыя.

Першы адказ: у Мележа шлях, «рух» быў роўны, паступальны — знізу ўверх.

Адказ другі: «Палеская хроніка» была нечаканым і нават незразумелым адрывам пісьменніка ад усяго, што ён напісаў раней. Як у таго незвычайна вясёлага чалавека, што самога сябе падняў за валасы.

Дзмітрый Бугаёў сваёй кнігай «Вернасць прызванню» (1977) паклаў пачатак навуковаму даследаванню гэтага пытання. Тым жа шляхам паспрабуем ісці таксама і мы. Адштурхоўваючыся ад першапачатковага эстэтычнага пачуцця. А яно сапраўды падказвае, што «ўзрыў» адбыўся, што вялізарны «перапад узроўняў» ёсць — недзе на мяжы 1955—1956 гадоў. Складанасць якраз у тым, каб зразумець, што падрыхтавала яго, як і якія якасці накапліваліся, што паслужыла «дэтанатарам».

Сам Іван Паўлавіч пісаў, зноў і зноў падкрэсліваў:

«Людзі на балоце» ў такім выглядзе, у якім яны напісаны, маглі з'явіцца толькі пасля тых перамен, што адбыліся ў выніку XX з'езда партыі. Кажучы шчыра, не так проста, як можа здацца, было пісаць гэты твор, хоць ён і аб далёкіх падзеях. Мне прыходзілася нанава пераасэнсоўваць матэрыял, знаёмы для літаратуры, падаваць як высокую паэзію з'явы, якія мы прывыклі лічыць амаль што не вартымі паэзіі. Мне вельмі перашкаджалі многія старыя ўяўленні, да якіх я прывык і якія, фактычна, давялося пераадольваць» («Бачыць глыбока і шырока. Інтэрв'ю А. Гардзіцкаму», 1966).

На пытанне нямецкага часопіса «Freie Welt» (1966) «Якая падзея выклікала ў Вас жаданне напісаць пра гэта?», Іван Мележ адказвае:

«Памяць аб перажытым, якая з гадамі зрабіла гэтае перажытае цікавым, яркім і значным.

XX з'езд Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, у святле якога многія старыя падзеі ўбачыліся па-новаму».

Што ж адбывалася з самім пісьменнікам, як праходзіў праз яго, як праяўляўся ў ім — у самой яго творчасці — час, на які прыпадаюць гады яго жыцця, з дня нараджэння і да дня смерці: 1921 (8 лютага) — 1976 (9 жніўня).

«З радасцю і болем пад'язджаю я кожны раз к родным сваім мясцінам. Ад Гомеля ці ад Мазыра — гледзячы па тым, з якога боку ідзе дарога к роднаму кутку,— пачынаюцца гарады, станцыі, вёскі, на якія не магу ўжо глядзець без хвалявання. Рэчыца, Васілевічы, Мазыр — для мяне не проста назвы паселішчаў, а як бы жывыя істоты, таварышы маладосці... Чым бліжэй вядзе

дарога к Глінішчам, тым бліжэйшыя, даражэйшыя таварышы выходзяць насустрач — Юравічы і Хойнікі, Княжыца і Тунеўшчына. І нарэшце — родныя Глінішчы, дзе ўжо выходзяць насустрач такія таварышы, якія не названы на самых дасканалых картах, але якія моцна, на ўсё жыццё прапісаны ў сэрцы. Луцішчы, Тур'я, Канапельскае, Казекава, Перавельскі круг, Паўлаў круг, беразняк, балота, выганы. Гайкі гэтыя даўно сцёрты з зямлі так, што і пнёў не асталося, у рацэ вады па костачкі, «кругі» многія высахлі нашчэнт — і ўсё ж яны жывуць успамінам у сэрцы, шчымлівай, непатрэбнай тугой страты» («Трохі згадак і думак», 1962).

Адсюль пачаўся Мележ, сюды вярталіся яго ўспаміны, яго сыноўні позірк. І калі ён вучыўся нядоўга ў маскоўскім Інстытуце гісторыі, філасофіі і літаратуры, і калі служыў у Карпатах у арміі, а пасля сумленна ваяваў і доўга ляжаў у шпіталях — у Растове, у Тбілісі. Спрабаваў пісаць, бо ўжо да вайны адчуў гэтую прагу. Не пра Палессе пісаў. І нават не пра тое, што сам зведаў на вайне. «Сачыняў», як потым сам прызнаваўся: «Даўно прыйшоў я да невясёлага вываду, што пачаў пісаць, маючы вельмі цьмянае ўяўленне аб літаратурнай справе. Можна сказаць нават, што пачаў пісаць, будучы літаратурна малапісьменным чалавекам. Ужо ў працэсе работы прыходзілася спасцігаць асновы літаратурнага майстэрства...» І як вынік гэтага: «...мяне чамусьці цягнула да таго, што я ведаў горш, а то і зусім дрэнна. Здавалася, што тое, што было з другімі,— значнейшае і важнейшае...» («Знайсці сябе», 1972).

Але жыло, працягвалася і нешта іншае, глыбіннае, што на паперу не клалася, а ў душы, у сэрцы адкладвалася, збіралася. У дзённікавых запісах ваеннага часу, апрацаваных і надрукаваных Іванам Паўлавічам ужо ў 60-я і 70-я гг., чытаем:

«У Растове, калі трохі сціх боль, я чытаў у часопісе «Новый мир» раман «Ціхі Дон» М. Шолахава, чацвёртую кнігу.

Кніга вельмі хвалявала. Успамінаўся Каменск, дзе я быў так блізка ад тых мясцін, у якіх жылі героі кнігі. Я быццам нанава хадзіў па роднаму цяпер, такому знаёмаму стэпу. І як бы зноў дыхаў яго, насычанымі ветрам і травамі, паветрам. І разам з гэтым я ўспамінаў Глінішча: жыццё на Доне здавалася такім падобным да нашага. А вайна і памяць пра тое, што мая радзіма і радня мая там, за фронтам, надавалі чытанню майму горыч і вастрыню перажыванняў» («Першая кніга. Дзённікі, сшыткі, з запісных кніжак», Мн., 1977, стар. 94).

У 1965 годзе Іван Мележ так нагадае пра тыя свае адчуванні: «Я яшчэ жыў трывогамі фронту, адчуваннем нетрываласці франтавога спакою, адчуваннем вялізнасці вайны і вялізнасці чалавечай бяды, што захапіла ў сябе мільёны лёсаў; недзе — пад нямецкай няволяй — была мая родная палеская вёска, і недзе выглядвала, чакала мяне мая Ільінічна, мая маці» («Прыклад Шолахава»).

А тым часам ён спрабаваў пісаць свае першыя апавяданні — з тым жа хваляваннем і такой жа шчырай захопленасцю, як калісьці, яшчэ ў школе, вершы. «Увесь гарэў у цесным, пустым шпітальным пакойчыку, адведзеным мне ўрачом-практыкантам», — з усмешкай успамінаў потым пісьменнік («Знайсці сябе»). Так нарадзіліся першыя апавяданні — «Сустрэча», «Канец размовы», «Апошняя аперацыя»... «У мяне было поўна самых яркіх і

значных уражанняў вайны. Здавалася, бяры іх і пішы, не мудруючы, але мяне чамусьці цягнула да таго, што я ведаў горш... Мяне вабіла магчымасць выдумляць, «сачыняць». І я «сачыняў...» («Знайсці сябе»).

І ўсё ж была ўжо ў першых апавяданнях Івана Мележа, пры ўсёй іх няспеласці, тая шчырасць і захопленасць — калі не жыццёвай праўдай чалавечых пачуццяў, дык лёсамі людзей і самой літаратурнай справай — якая дазволіла Кузьме Чорнаму напісаць маладому аўтару, земляку-беларусу: «Пішыце, працуйце над сабой. Я адчуваю ў вас талент і жадаю вам вялікіх поспехаў».

А затым удалося апавяданне «У завіруху», якое Мележ асмеліўся прысвяціць Кузьме Чорнаму. І меў падставу для такога жэста, бо ёсць, ёсць у гэтым, усё яшчэ вучнёўскім, творы тая праўда перажытага, з якой пачынаецца сур'ёзная літаратура. Мы разам з аўтарам суперажываем герою: верым, адчуваем, што сапраўды праз сілу брыдзе той кавалерыст Засмужац па цаліку, праз снежны буран, што не спаў ён больш за суткі, верым, што ўпарты, што смяртэльна стомлены чалавек гэты — жывы чалавек, і таму нам неабыякавы ён.

Адзінае, што надзеяй свяціла праз цемру Засмужцу — далёкі агеньчык, аказаўся пажарышчам. «Весяліў і грэў у полі — агеньчык нечай бяды...» Так напісаць, проста і балюча, мог толькі талент.

Пасля вайны, калі аспірант, малады выкладчык Беларускага дзяржаўнага універсітэта Іван Мележ «замест дысертацыі» будзе пісаць раман «Мінскі напрамак», ён у накідах да ўсё ж такі распачатай дысертацыі зробіць цікавыя назіранні над мовай, стылем ранняга Чорнага. У кнізе «Жыццёвыя клопаты» ёсць такая заўвага пра яго раннія творы:

«Пісьменнік, які пазней будзе імкнуцца да прастаты і дакладнасці ў мове твораў, у пачатку шляху, відаць, не давяраў хараству прастаты».

І зноў: «Гэта выклікана, відаць, недаверам маладога аўтара да хараства прастаты».

А ў 1972 годзе ўжо пра самога сябе, колішняга, Іван Мележ скажа: «Творы псавала таксама боязь прастаты, якая мінуча прыводзіла да нейкай уяўнай значнасці ў стылі, у характары адлюстравання, у адборы матэрыялу» («Знайсці сябе»).

І гэта пра сябе — пісьменнік, творы якога, сярод тагачасных, усё ж вылучаліся, адрозніваліся якраз прастатой стылю, звычайнасцю сітуацый, рэальным маштабам чалавечых паводзін, перажыванняў.

Але сама мера мастацкай прастаты і наогул мастацкая мера ў творчай практыцы 40-х гг. была яшчэ далёкай ад той, да якой Мележ і ўся наша проза ўзняліся пазней — у 50-я і 60-я гг. Да гэтай, новай меры ішоў Мележ праз апавяданні «Ноччу» (слёзы салдаткі, якія «адкрыліся», прыйшлі, калі радасць нечаканая прыйшла — вестка, што муж у шпіталі, жывы), «Такі кароткі водпуск» (добрая замалёўка кароткай салдацкай радасці, сустрэчы са сваім каханнем), праз аповесць «Гарачы жнівень», дакументальны твор «Дарогі на ўсход і на захад», раман «Мінскі напрамак»...

Сярод твораў 40—50-х гг. некаторыя былі і заставаліся асабліва дарагімі самому аўтару.

«З усяго, што напісана, мне найбольш дарагія рэчы, з героямі якіх я жыў, у падзеях якіх я сам быў удзельнікам, перажытыя мной самім («У завіруху», «Гарачы жнівень», «У гарах дажджы», некаторыя раздзелы «Мінскага напрамку», «Людзі на балоце»). Відаць, трэба пісаць перш за ўсё аб тым, што асабліва дорага душы, што яе хвалявала і хвалюе, што стала дарагой часткай тваёй асабістай біяграфіі... Як я шкадую, што часам браўся за тое, што не вельмі добра ведаў, браўся, хоць не меў права...» («Трохі згадак і думак»).

Тое, што сярод асабліва дарагіх — «Мінскі напрамак», зразумела. Гэта яго першы раман — як першае каханне! І ён столькі ў яго ўклаў сіл, часу, надзей, столькі яму аддаў. І нялёгкі шлях да чытача быў у гэтага твора. «Пяць гадоў працягвалася гэтае нецярплівае, ліхаманкавае гарэнне. Я жыў сваёй кнігай дзень і ноччу. Пазней, здаецца, нічога падобнага не было. Можа, усё было так таму, што гэта была першая мая, як мне здавалася, сапраўдная рэч. Першая вялікая любоў, першая надзея» («Знайсці сябе»).

Але таксама і «Гарачы жнівень». Некалькі разоў піша Мележ, чытаем мы ў яго нататках, як шмат значыў для яго гэты твор, гэтая невялічкая аповесць, якую пісаў ён ужо ў сваіх Глінішчах — у галодным, спаленым 1946-м, седзячы за чужым сталом, у чужой хаце, бо Мележава згарэла.

Вярнуўся ў сваё роднае Палессе, прынёс з далёкага свету, з вайны, вучобы, працы шмат усяго, што спазнаў і ўведаў, але і тугу сваю прынёс — вось па гэтых мясцінах, па гэтых людзях, абліччах, галасах — родных, паляшуцкіх. І туга загучала радасцю, шчасцем — простым і вечным шчасцем радзімы.

Усё гэта вылілася ў аповесць, першую, яшчэ не вельмі каб моцную і глыбокую, але столькі ёй было аддадзена шчырасці, надзей. Гэта была першая літаратурная разведка таго «матэрыялу», які потым паклікаў усур'ёз, як самая галоўная і непазбыўная памяць — вёска, Палессе, зямля і людзі на зямлі («на балоце»)... Гэта паклікала, бо заўсёды ў ім жыло. Па-рознаму ў розныя часы. Спачатку, калі толькі пакідаў свае Глінішчы, свае Юравічы, дзяцінства і юнацтва пакідаў, думалася: назаўсёды, і слава богу! Наперадзе столькі ўсяго было самага цікавага і, здавалася, больш важнага, нават для пісьменніцтва, аб якім ужо марылася, больш важнага. «Калі пакідаў вёску, я не здагадваўся, што забіраю з сабой сваё мінулае. Я быў упэўнены, што яно разам з балотамі і зараснікам засталося ззаду» («Не застацца ў даўгу», 1964).

А здалёку, праз вайну іростань, усё ўбачылася інакш. Горы, Каўказ, нават калі ты з параненым плячом,— гэта ж прыгожа, велічна! Але пацягнула «на раўніну» да «звычайных» траў, дрэў, хоць бы ў заволжскія мясціны (Вугуруслан), каб хоць трохі нагадвала родныя краявіды. А потым, пасля Масквы, якая ў часе вайны дала прытулак і Беларускаму універсітэту, дзе Мележ вучыўся, быў Мінск, аж да канца жыцця. Але чым далей, тым больш важнай для творчасці, для ўсяго самаадчування пісьменніка аказвалася сыноўняя сувязь з тым, што засталося і працягвалася там, дзе пакінуў сваё дзяцінства, юнацтва — Палессе.

«З успамінамі аб прыродзе прыйшлі ўспаміны аб людзях, зямлю засялялі людзі. Фарбы, гукі, лёс людзей усё больш звязваліся...» («Майстэрства — гэта імкненне», 1969).

«Я не мог — рана ці позна не напісаць гэтыя раманы — «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы»,— бо насіў іх у сабе як радасць і пакуту доўгія гады» («Жыццё, якое я зведаў», 1972).

«Увесь час, пакуль я працаваў над «Мінскім напрамкам», жыла ўва мне, хвалявала мяне задума палескай кнігі, якую я ўсё адцягваў» («Знайсці сябе»).

Усё адцягваў і пісаў тым часам другое, і як бы чакаў, калі можна будзе. І калі набярэцца моцы, зможа. Бо гэта павінна было супасці: умовы і сталасць таленту. Без таго ці без другога мы б не мелі шэдэўра «Людзі на балоце».

Пісьменнік сам пра гэта гаворыць: «Спазненне, з якім я звярнуўся да гэтай тэмы, мела свае перавагі і дало свой плён. З пазіцыі сённяшняга дня мінулае бачыцца, на маю думку, глыбей, а значыцца, і — праўдзівей» («Жыццё, якое я зведаў»).

Калі рашаў для сябе, што пісаць — вайну ці Палессе? — і час той (40-я гады), і светапогляд, і талент яго, яшчэ неакрэпшыя для Галоўнай кнігі, падказвалі, дыктавалі: «аб меліяратарах», аб асушэнні балот... Нешта звычайнае для тагачаснай літаратуры, «на патрэбу дня».

І ён усяго сябе аддаў працы, да якой больш гатовы быў, падрыхтаваны — раману аб вайне, «Мінскаму напрамку». Ён піша шырокі панарамны твор аб «трудах і днях» народа ў шматгадовай бітве за само існаванне сваё.

«Подзвіг народа быў велізарны; вайна абвастрыла ў кожным пачуццё злітнасці, з'яднанасці з народам; мабыць, ніколі з такой сілай, як у вайну і пасляваенныя гады, не адчувалі мы, што мы — народ» («Знайсці сябе»).

Калі мы гаворым (і маем права сказаць), што галоўная кніга Мележа «Палеская хроніка» — наша нацыянальная сучасная эпапея, дык павінны ўсведамляць і гэтую заканамернасць яе паяўлення іменна пасля такой вайны, такога подзвігу народнага. Толькі так і па-новаму «адчуўшы, што мы — народ», мог нечы талент — і гэта быў Мележаў талент — асмеліцца на задуму, роўную «Новай зямлі» Коласа альбо цыклу чорнаўскіх раманаў аб векавой гісторыі беларускага народа.

Завяршаючы першы раман «Хронікі», Мележ напісаў у 1961 годзе: «Калі стане сілы, напішу некалькі раманаў, звязаных адзін з адным, якія ахопяць трыццаць гадоў палескага жыцця. Цыкл, мусіць, будзе называцца «Куды ідуць дарогі» («Калі гартаеш старонкі»).

Думаючы пра беларускую нацыянальную эпапею, створаную Мележам, мы не можам не памятаць і пра тое, што шлях да яе праходзіць не толькі праз Айчынную вайну, але і праз творы Мележа аб гэтай вайне. «Мінскі напрамак» шмат даў пісьменніку: без працы над ім, без вопыту напісання гэтага шматпланавага рамана, першым аказаўся б раман «Людзі на балоце», і ці такой упэўненай, смелай рукой раманіста напісаны быў бы ён? Каб нічога лішняга і ўсё неабходнае...

Шмат якія прынцыпы пабудовы эпічнага твора Мележ адкрыў для сябе, практычна асвоіў у працэсе працы над «Мінскім напрамкам». А вось гэты прынцып кампазіцыі, асабліва важны

ў яго наступнай, над «Палескай хронікай», працы нават сфармуляваў тэарэтычна (у артыкуле «Наш раман і яго крытыкі»):

«Дзе пісаны такія законы, што ў цэнтры эпічнага твора павінен стаяць абавязкова адзін герой, што ўсё дзеянне павінна групавацца вакол адной асобы. Мне здаецца, што эпічны раман часта даказвае якраз адваротнае. Сапраўды, калі цэнтральным героем, напрыклад, «Ціхага Дона» мы можам, з рознымі агаворкамі, яўна збядняючы змест і сэнс, лічыць Грыгорыя Мелехава, то паспрабуйце адказаць, хто галоўная дзеючая асоба «Вайны і міру» — Андрэй Балконскі, П'ер Бязухаў, Наташа Растова ці мудры, дзіўнаваты фельдмаршал Кутузаў?»

А ў 60-я гады мы тое ж пытанне задавалі сабе, калі чыталі «Людзі на балоце»: Васіль? Ганна? Міканор? Ці, можа, Апейка з Башлыковым? Бо так і атрымалася ў наступным рамане «Хронікі» — з ліку «негалоўных» у «галоўныя» выйшаў Апейка. А ў трэцім рамане, у «Завеях, снежні», асноўныя падзеі і ніці сюжэта завязваюцца вакол Башлыкова... Усё той жа прынцып, адкрыты для літаратуры яшчэ Талстым: кожны з персанажаў у ходзе падзей можа аказацца «ў фокусе» і нават павесці за сабой сюжэт — усё вызначае пачуццё праўды, меры, а не нейкія загадзя прынятыя каноны.

Вось колькі моцных ніцяў цягнуцца ад першых спроб, апавяданняў, аповесцей, ад першага рамана да вяршынных твораў Мележа. Прыклады можна было б множыць да бясконцасці. Тут і вобразы сялян у «Мінскім напрамку» (Шабуніха і іншыя), якія заўважыў і адзначыў як найбольшую ўдачу яшчэ А. Фадзееў у пісьме да аўтара, тут і вопыт драматургічны — выдатная школа змястоўнага, дакладнага дыялога і г. д.

Ды што казаць: усё, што было ў яго, з ім, вакол яго,— усё гэта і падрыхтавала творчы ўзлёт ці «ўзрыў», назва якому — «Палеская хроніка».

Тут нават аднаго таленту мала. Для такога твора. Напісаць такое можа толькі пісьменнік, што вырас у асобу. (Кажучы парускy: «личность».) А гэта фармуецца ўсім, што перажыў і што зрабіў чалавек.

Ёсць у Мележа некалькі думак, мабыць, яму асабліва дарагіх, важных для яго — бо ён іх не раз паўтараў, зноў і зноў націскаў на іх. Гэта — яго разважанні, яго спрэчка, яго нязгода з празмерна звужаным разуменнем сучаснасці ў літаратуры, з-за якога столькі выдатных твораў аднасілі да другарадных, а «скараспелкі» атрымлівалі ўсялякія «індульгенцыі».

Гэта — яго спрэчка з такімі ж спекуляцыямі на «наватарстве» і настойлівае сцверджанне Мележам «хараства прастаты» як вечнага і вышэйшага ў літаратуры наватарства.

І гэта яшчэ думка пра тое, што кожны сапраўдны твор, ды не твор, а старонка, нават фраза, калі перад намі сапраўдны пісьменнік, талент, пішацца ўсім жыццём. Калі «стыль — гэта чалавек», гаворыць І. Мележ, «то каб стыль мастака праявіўся больш выразна, своеасабліва, трэба, каб выразна праявіліся асоба чалавека, яго светаадчуванне, яго погляды, яго матэрыяльны і духоўны вопыт. Чалавек не толькі не павінен хаваць сябе, а, наадварот, адкрывацца ва ўсёй шырыні, глыбіні, шчырасці. Не трэба здавацца ні горшым, ні лепшым, чым ты ёсць, трэба быць самім сабою... Гэтыя думкі прывялі натуральна да вываду, што ўсе

вагадкі майстэрства залежаць урэшце ад аднаго — ад асобы мастака» («Знайсці сябе»).

Быць самім сабой, ні горшым, ні лепшым, а які ёсць! — як проста, але як гэта не лёгка даецца кожнаму, і ў жыцці, і ў літаратурнай справе. «Тут міжволі задумваешся: чаму ж праўда лічыцца такой складанай задачай; праўда ж, здавалася б, павінна быць самай простай з'явай. Бяры жыццё і пішы, як яно ёсць...» («І сёння, і заўтра, і заўсёды!», 1966).

Спатрэбілася настойлівая праца многіх год — над словам і над уласнай асобай, патрэбны былі вялікія перамены ў самім грамадскім жыцці і яго атмасферы, каб даўняе, «прыроднае» імкненне гэтага пісьменніка да хараства прастаты і шчырасці знайшло (яшчэ да «Людзей на балоце») дакладнае, злітнае выражэнне, праяўленне — у невялічкім апавяданні «У гарах дажджы»... Былі перад гэтым «На скрыжаванні», «Спатканне за горадам» — апавяданні таксама моцныя прастатой і адкрытасцю самавыражэння. Але толькі «У гарах дажджы» маюць усё і не маюць нічога лішняга. Ні слова лішняга, як з аднаго кавалачка зроблена, а выказана ўсё. Здаецца, так проста, так стрымана расказана пра малапрыкметнага артылерыста Лёню Макоўчыка, які служыць у Карпатах, нічога мы не даведваемся ні пра ранейшае яго жыццё, ні пра дом, сям'ю, а адчуванне такое, што ведаеш усё, што б нам хацелася ведаць. Нашы думкі, нашу цікавасць аўтарскае апавяданне скіроўвае на тое, што адбываецца з надвор'ем, горнай ракой Стрый, вясёлым і ненадзейным салдатам Халютай, патрабавальным і самаўпэўненым намкамузвода Запарай, з малапрыкметным і «нягеглым» (з пункту гледжання Запары) артылерыстам Макоўчыкам і канём, якога Халюта прывязаў да дрэва і пра якога забыўся, калі прыйшлося ратавацца ад выйшаўшага з берагоў Стрыя...

Макоўчык неахвотна і злосна накіраваўся да вады. Паспрабаваў, пад нядобрым, недаверлівым поглядам Запары, дайсці да выспы, на якой трывожна хроп і бегаў конь вакол дрэва, на ўсю сілу нацягнуўшы ланцуг чымбура. Вярнуўся, успомніўшы, што не ўмее плаваць. Зноў пайшоў і падступіў да віру, ужо не раздумваючы. «Гэта быў цяпер першы, самы галоўны абавязак у жыцці. Абавязак неабходны, не якія-небудзь заняткі, дзе невядома чаму Запара ўвесь час падганяе. Яго чакае жывое стварэнне, гняды быстры Арол, конь Федзькі Камарова, што не мог са шпіталя прыбегчы на ратунак...»

Нешта высокае, вялікае адбылося ў свеце:

«Дапаўшы да берага, Арол рыўком ускочыў на яго і прыпыніўся. Ён заматаў мокраю грываю і фыркнуў,— Макоўчыка гэта нібы абудзіла. Хлопец адпусціў чымбур, прыпаў да шыі каня тварам і засмяяўся.

— Што, выбраліся?! Выбраліся з чортавага пекла».

Так, высокае — мы гэта адчуваем, бо літаратура дае ўсяму рамку, узбуйнены маштаб. А ў жыцці такое адбываецца, мінае і пераходзіць у новую звычайнасць, будзённасць. І пісьменнік пра гэта не забывае: што за літаратурай — жыццё са сваімі меркамі, вымярэннямі, што яно ёсць, працягваецца і за «рамкай», у якую літаратура жыццё ловіць...

Вось як проста, звычайна, як будзённа (і па-майстэрску) заканчваецца гэта апавяданне:

«Тут ён убачыў паблізу Запару і спахмурнеў. Выпрастаўшыся, Макоўчык тузануў каня і абыякава паехаў да шасэ».

Памятаеце, у «Казаках» Талстога. Аленін падарыў непастаяннаму і, як само жыццё, няўдзячнаму Ярошку выдатную стрэльбу, пакідаючы станіцу, азірнуўся, а Ярошка ўжо адвярнуўся, і ён ужо забыўся і пра «барына» і пра яго падарунак.

А сапраўды, ёсць яна, талстоўская прастата і палеміка жыцця з «літаратурай», у апавяданні «У гарах дажджы». Да высокай, новай для сябе, меры мастацтва ўзняўся Іван Мележ. Ні ад аднаго з апавяданняў (аповесцей, п'ес) Івана Мележа не правесці такую прамую і кароткую лінію да «Палескай хронікі», як ад гэтага, такога дакладнага і ў той жа час вельмі свабоднага па выяўленню пачуццяў, апавядання. Такая ўнутраная раскаванасць таленту і асобы мастака рыхтавалася ўсім папярэднім творчым ростам, рухам пісьменніка, натуры якога асабліва адпавядае прастата, хараство прастаты.

Да яе, да такой высокай «мастацкай меры» пісьменнік імкнуўся, ішоў праз усе свае апавяданні, аповесці, п'есы: «Як трывожыла мяне тады (ды нярэдка і цяпер) гэтая немагчымасць спалучаць дзве якасці, сплаў якіх і нараджае сапраўднае мастацтва: нічога лішняга і разам з тым — нічога страчанага!» — прызнаваўся ён у 1972 г. («Знайсці сябе»). Гэтае, усім жыццём вынашанае, разуменне меры сапраўднага мастацтва і нават тая ж фармуліроўка гучаць і ў нататках 1969 года: «Ёсць, вядома, мудрая праўда ў тым, што майстэрства — гэта ўменне выкрэсліваць тое, што дрэнна напісана. Або адсякаць лішняе. Але мне ўсё ж здаецца, што ў гэтым вопыце — толькі палавіна ісціны. Другая палавіна ісціны ў тым — і ў гэтым немалая цяжкасць майстэрства, што ў творы не толькі не павінна быць нічога лішняга, але таксама не павінна быць нічога страчанага. Павінна быць усё неабходнае» («Майстэрства — гэта імкненне»).

Чаму так падкрэсліваецца пагроза нешта страціць, згубіць у пагоні за лаканізмам і стрыманасцю пачуцця?

Хіба лаканізм, «мужнасць стылю» — гэта дрэнна само па сабе? З пункту гледжання аўтара «Палескай хронікі» — гэта было і застаецца вартасцю прозы. Працягваючы працу над «Хронікай», дзяліўся такімі думкамі ў гутарцы з супрацоўнікам «Дружбы народов»:

«Пісалася і цяжка і лёгка.

Лёгка, бо раман нарадзіўся не ў выпадковых камандзіроўках, а ў сэрцы. Само жыццё доўгія гады як быццам рыхтавала мяне да гэтай кнігі.

Цяжка — бо хацелася выказацца без астатку, данесці да чытача тое, што дорага. Хацелася пісаць праўдзіва, мужна і чалавечна».

Але тут жа дабаўляе: «Баяўся, што імкненне да мужнасці пяройдзе ў сухасць, а любоўператворыцца ў сентыментальнасць» («Не застацца ў даўгу»).

Чаму баяўся? Бо гэта ўжо было і гэтым ён мучыўся незалежна ад таго, заўважала ці не заўважала гэтыя хібы крытыка.

«Як перашкаджала мне і даўняя слабасць — пісаць карацей, ад гэтага фразы станавіліся рванымі, няскладнымі, дыялогі не разгортваліся... Дарэмна, мне здаецца, я часта стараўся быць спакойным, гнаў усякую пяшчоту, цеплыню... Чаму гэта? Ці не

ад жадання быць падобным да некага? Ад недаверу да самога сябе, да сваіх схільнасцей?» («Знайсці сябе»).

А магчыма, і ад нежадання быць падобным на некага? Думаецца, што і ад гэтага. Штучны пафас замест сапраўднай глыбіні пачуцця — гэтага хапала ў літаратуры, калі пісаўся «Гарачы жнівень», «Мінскі напрамак». Пазбягаючы такога «лірызму» — а ён яго асцерагаўся, гэта пэўна! — малады аўтар міжволі «засушваў» свае творы: строгасць часам паварочвалася сухасцю.

У канцы 50-х — у 60-х гг. ён (разам з усёй літаратурай) пачынае больш цаніць лірызм, шчырую, адкрытую інтанацыю.

Для такой натуры, як Мележава, для такога таленту любы адказ ад поўнага самараскрыцця, ад адкрытай інтанацыі — страта, якую яму нічым не кампенсаваць, ніякім «строгім», «мужным» стылем. Гэты голас патрабуе поўнага гучання.

Затое такі талент здольны, раптам загучаўшы на поўны голас — калі прарвецца ці час пакліча,— здзівіць нечаканай сілай, прыгажосцю, задушэўнасцю. Як і адбылося з Мележам.

Калі ён пісаў сваіх «Людзей на балоце», рабіў ён гэтую працу з асаблівай радасцю, паўнатой самавыяўлення, бо ўсё тут было даўно вынашанае і сваё — і думкі і жыццёвы матэрыял.

«Багацце «матэрыялу» дало мне магчымасць карыстацца ім з рэдкай свабодай. Я шырока бачыў поле, па якім ішоў, адчуваў у ім сябе і работнікам і гаспадаром» («Знайсці сябе»).

Тую ж «свабоду» даў ён і сваім персанажам, і перш за ўсё — у мове. Даўно такой «свабоднай стыхіяй» не вылівалася на старонкі нашых раманаў народная беларуская мова.

«Героі мае гаварылі спачатку хоць і кожны ў адпаведнасці са сваім характарам, але — агульналітаратурнай мовай. Так, як гаварылі ў іншых кнігах, як лічылася тады нормай. Я, аднак, увесь час адчуваў нейкую дзіўную, непераадольную ненатуральнасць, фальшывінку ў іх мове. І чым далей, тым больш расло гэта адчуванне.

Гэта было падобна на тое, як адчуваеш фальшывы тон у музыцы. Тады ўсё настойлівей пачала браць мяне спакуса: а ці не паспрабаваць дазволіць героям гаварыць так, як яны гавораць у жыцці. Увесці ў раман іх сапраўдную, няхай, можа, і дзіўную для другіх мову... І адразу адчуў, як мае героі ажылі, сталі тымі людзьмі Палесся, якіх мне хацелася бачыць і чуць» («Майстэрства — гэта імкненне»).

Вельмі ён у кантэксце ўсяго мележаўскага твора — гэта паляшуцкі дыялект у вуснах герояў: нібыта дзіцячы голас гудзевымаўляе на пробу ўсе гэтыя «мамо», «було», «цётко», «кеб», «ето»... Але ўвесь кантэкст адразу настройвае чытача на ўспрыняцце і мовы паляшуцкай, як і ўсяго жыцця людзей на балоце, «усур'ёз», як натуральнага праяўлення рэальнага існавання народа. Ніякай гульні паляшуцкім словам, нават намёку на гэта, а гэта ж так, здавалася б, спакуслівa! Не, для аўтара гэта жывая мова яго памяці, дзяцінства, мова бацькі і маці, і яму грэх было б забаўляцца ёю. Але вось што дзіўна: чытач таксама, неяк адразу, проста і натуральна ўспрымае дыялект мележаўскіх герояў. Мабыць, таму, што адразу адчуў і паверыў у паўнату і значэнне духоўнага жыцця гэтых людзей, і таму мова гэтая, дыялект (а дакладней, элементы яго, выкарыстаныя смела, але з добрым адчуваннем меры) не здаюцца чытачу нечым такім, на

што трэба ўвесь час звяртаць увагу. Як ні звярнуў бы ён асаблівай увагі на зрэбную паляшуцкую вопратку Ганны, калі б убачыў і ацаніў яе прыгажосць у сапраўднай палескай вёсцы..., І яе «буў», «дзядзько» гучала б (і гучыць у рамане) па-асабліваму натуральна, пявуча, з мілай наіўнасцю і ўжо звыкла для нас; без гэтай фарбы многае ў рамане страціла б у сваёй паўнаце, першароднасці. Зікні яна — і з гэтым упэўненым (як усё жывое,— у «праве жыць») дыялектам знікла б з рамана нейкае святло, нейкая вельмі чалавечая падсветка ўсяго таго, што ў ім адбываецца.

Кожны твор, кожная старонка, нават фраза кожная пішуцца «ўсім жыццём» — пераконанне, да якога Іван Мележ прыйшоў праз уласны вопыт чалавека і пісьменніка. Так пішацца, робіцца сапраўдная літаратура. Калі пісьменнік увесь, поўнасцю, з бязлітаснай шчырасцю і адкрытасцю, усёй істотай выяўляе сваё разуменне і сваё адчуванне свету.

«У перакладах гэта,— адзначае Мележ, — на жаль, амаль не ўдалося захаваць» («Майстэрства — гэта імкненне»).

У перакладах, нават у самых удалых, беражлівых, гэта ўсётакі аслабляецца, і не сам дыялект (яго якраз стараюцца захаваць), а «шчапленне», «сумяшчальнасць», стылёвае ўзаемадзеянне яго з астатнім моўным фонам — гэтага дабіцца цяжэй.

А для гэтага, каб такое патрабаванне, такая прадумова высокай творчасці рэалізаваліся, пісьменніку мала валодаць прыродным талентам, ён яшчэ павінен стаць асобай (личностью).

Асоба пісьменніка, асоба Івана Мележа... Кожны, хто ўважліва чытаў Мележа альбо быў яшчэ і знаёмы з ім, ведаў яго асабіста, яго і яго жыццё ведаў,— кожны ўяўляе, адчувае асобу гэтага пісьменніка па-свойму. Але што ён сапраўды «личность», у высокім значэнні гэтага слова — адчуваў, мабыць, кожны.

У маім уяўленні Іван Паўлавіч Мележ, з усім выдатным, што было ў яго асобе, і з усімі чалавечымі слабасцямі, якія яму, як і кожнаму, таксама былі ўласцівы,— чалавек вельмі цэласны. Па-сялянску цэласны, хоць і рабіла яго такім справа самая што ні ёсць інтэлігенцкая — літаратура. Для Мележа родная літаратура — якой ён хацеў яе бачыць і якую рабіць хацелася — гэта частка, праява самога жыцця. Як хлеб сеяць ці дом будаваць. Вельмі ж па-народнаму, проста па-сялянску шчыраваў ён на літаратурнай ніве, не з меншай зацятасцю, чым яго героі на сваёй. Нездарма адну са сваіх кніг Іван Паўлавіч мне надпісаў: «Ад Васіля Дзятла». Так і бачыш усмешку яго, стрыманую, запытальную і загадзя ўдзячную. Такую я бачыў у простых, немаладых ужо жанчын, у якіх малыя, трохі запозненыя, дзеці і якім так хочацца пра іх расказаць, пагаварыць, пачуць нейкія парады. Вось так і ён — пра сваіх Васіля, Ганну, Апейку, Башлыкова, пра раманы свае. І гэта прарывалася праз усю яго «паляшуцкую» стрыманасць, нават замкнутасць, над якой можна было разам з ім бяскрыўдна пасмяяцца, таксама як і над яго гатоўнасцю ў любы час дня і ночы пазваніць, коратка спытаць, «як твае справы», і адразу ж пачаць расказваць, як жывуць і якія справы ў Васіля Дзятла, у Башлыкова...

У 1968 годзе ён запісвае: «Ціхая, адзінокая праца пісьменніка, можа, адна з самых грамадскіх па свайму характару» («Праца пісьменніка»). І яму трэба было гэта — адчуць, зноў і зноў,

што тое, чым ён жыве бесперапынна, чым мучыцца, што гэта патрэбна некаму, здольна мецъ водгук. Чым далей — праз «Людзей на балоце» да «Подыху навальніцы», да «Завеяў, снежня», — тым складаней усё бачылася, тым цяжэй давалася. Бо гэта ж не тая літаратура, дзе аўтар — поўны дыктатар, а персанажы — «шурупчыкі», паслухмяныя і ўзаемазамяняльныя. Мележу са сваімі героямі клопатаў было нямала: малапрыкметныя спачатку пачынаюць прэтэндаваць ледзь не на новы раман, спецыяльна пра іх (як было з Апейкам, а потым і з Башлыковым), а Ганна, тая дык «сама не ведае, чаго хоча»: пакінула Яўхіма, але і Васіль ужо здрабнеў у яе вачах, хоць вугольчыкі кахання ўсё яшчэ тлеюць, а тут — на табе! — пацягнулася насустрач той упэўненай і цвёрдай сіле, што павеяла ад Башлыкова, ды толькі і сама ўпэўненаму «гаспадару раёна» яна не даруе таго, чаго Васілю не даравала — калі ён сваю пасаду і «службовую анкету» паставіў вышэй за каханне. Зусім як Васіль — «сваю зямлю»...

Праз такое вось пранікненне ў характары персанажаў: Ганны, Васіля, Апейкі, Башлыкова, Яўхіма, старога Глушака, Дубадзела і іншых кожны раман і ўвесь цыкл «Хронікі» набывалі мележаўскую глыбіню і гармонію.

І таксама — праз смелае паглыбленне ў бязлітасна складаныя праблемы свайго і мінулага часоў: «Неяк у «Правде»... кінарэжысёр М. Ром, па-мойму, выказаў вельмі правільную думку: «Кожны гістарычны твор ёсць расказ пра два часы: час, аб якім расказваецца ў творы, і час, у якім гэты твор напісаны...» Я імкнуўся, каб раман мой быў з'явай сучаснай літаратуры; не толькі па асаблівасцях майстэрства, але і па вопыце, па шырыні і вышыні погляду на падзеі тых важных гадоў» («Ліст да М. А. Абалкіна», 1970).

У 1965 г., працуючы над «Подыхам навальніцы», Іван Мележ так вызначае псіхалагічную і сацыяльную накіраванасць канфлікта Апейкі і Башлыкова (а праз яго і «сувязь часоў»):

«Пра калектывізацыю напісана многа. Але, мне здаецца, сказана пра яе далёка не ўсё. Хочацца глыбока і праўдзіва паказаць гэты важны паварот у жыцці вёскі. У цяжкія трыццатыя гады брала пачатак не толькі добрае, але і злое. У тым, што адбывалася тады, было нямала такога, што выклікала непатрэбную вастрыню адносін, нараджала несправядлівасці, крыўды, прыводзіла да неапраўданых ахвяр» («Не застацца ў даўгу»).

Сучасны погляд на падзеі мінулага, смелае паглыбленне ў сутнасць грамадскіх канфліктаў дапамагала Мележу і характары ствараць, адкрываць новыя і па-новаму. Шмат ужо напісана пра Васіля Дзятла — вобраз, тып, праз які савецкая літаратура з новай глыбінёй, сапраўды гуманістычнай і народнай, тлумачыць і ацэньвае гістарычную рэальнасць 20-х—30-х гадоў.

Значным мастацкім адкрыццём Івана Мележа быў і вобраз Апейкі. Літаратура нас ужо неяк прывучыла, што «герой» — гэта той, хто дзейнічае. А хто замнога думае, разважае, а значыцца «хістаецца» — які ж ён герой нашага часу? Хутчэй — «клюпік», перашкода на шляху тых, хто дзейнічае. Так ацэньвае Апейку Башлыкоў і яшчэ мацней — з акцэнтамі, якімі карыстаўся яго час: «апартуніст», «перараджэнец...». Больш зразумелы яму Дубадзел, які — калі дзейнічаць дык дзейнічаць! — ужо і Ганну з Васілём гатовы «кулачыць». Заадно з Глушакамі.

«Мяне папракалі, што Апейка вельмі многа ўмясціў у сабе, што ад гэтага ён траціць дакладнасць,— гаварыў Іван Мележ у адным з інтэрв'ю.— З назіранняў над многімі, і не выдатнымі, людзьмі я пераканаўся, які шырокі свет чалавечых думак. Мне здаецца, што мы дарэмна так мала гаварылі пра тое, аб чым і як думае чалавек. Думкі ў чалавечым жыцці, відаць, займаюць не менш месца, чым эмоцыі» («Бачыць глыбока і шырока»).

Тым больш што думкі камуніста-ленінца Апейкі — яго нязгода з тым, як «дзейнічаюць» Башлыковы і Дубадзелы — роўныя самым вострым эмоцыям, пякучыя і жорсткія. Яны і ёсць ужо дзеянне, вышэйшае — гэта адчувае Башлыкоў, таму ён і ўспрымае Апейку як моцную перашкоду, якую трэба знішчыць...

«Каб глыбей асэнсаваць час, паводзіны герояў, я зноў перачытаў творы Леніна,— пісаў Мележ у 1965 г.,— вывучыў мноства дакументаў, разнастайных навуковых прац, якія датычацца праблем, што мяне хвалююць» («Не застацца ў даўгу»).

Леніна, памятаем мы, зноў і зноў перачытвае і Апейка і знаходзіць у яго працах падтрымку — калі яго самога мучаць сумненні: ■ ці не памыляецца ён, ці не губляе класавыя пазіцыі?

«Хочацца ўсё зразумець! Да ўсяго дайсці розумам і сэрцам!..— гаворыць Іван Анісімавіч Апейка ў накідах да рамана «Завеі, снежань», якія засталіся ў архіве пісьменніка.— Ёсць людзі, якія лічаць за доблесць, што яны ўмеюць не разважаць! Партыя сказала, партыя рашыла!.. Няма чаго разважаць!.. А я хачу думаць, хачу зразумець усё, адчуць, як сваю праўду! Я павінен быць перакананым ва ўсім, а для гэтага я павінен зразумець усё, адчуць! Розумам, сэрцам! Сапраўдны бальшавізм і ёсць перакананасць... Бо няма нічога мацней за перакананасць...»

У Івана Паўлавіча была спачатку вельмі шырокая задума «Палескай хронікі» — 30 год палескага жыцця. Тут і калектывізацыя, і ўсе 30-я гады, і Айчынная вайна...

Але ўжо ў 1972 годзе, у інтэрв'ю карэспандэнту «Известий», ён кажа: «Многае хочацца напісаць. Непакояць сэрца і фантазію, як ■ ўжо сказаў, думкі пра далейшы лёс герояў маёй «Хронікі», бачыцца мне яшчэ адзін раман (г. зн. пакуль што толькі — «Завеі, снежань» — *А. А.*). Разам з тым хочацца напісаць пра сучасны горад, пра яго людзей. Хочацца стварыць вельмі запаветную, вельмі асабістую кнігу — споведзь пра сваё пакаленне, якое ў 20 гадоў прыняло на сябе ўдар вайны. Зрэшты, мне і хочацца яе напісаць і я баюся яе. У планах і накідах — кніга пра літаратуру. Чакаюць сваёй чаргі мае салдацкія дзённікі. Хачу прадоўжыць сваю работу і ў галіне тэатральнай драматургіі. Вельмі многа хочацца. Уся закавыка ў тым, што ўдасца зрабіць...»

Паспеў сабраць і выдаць кнігу пра літаратуру — «Жыццёвыя клопаты», а таксама ваенныя дзённікі...

«Здароўя няма»,— гэта гучала ў яго пры сустрэчах з сябрамі, як сялянскае: «надвор'я няма». Такі абсяг працы, столькі трэба яшчэ зрабіць, такую цаліну ўзняў: разлічваў, што кожны з раманаў «Хронікі» «захопіць» пяць-сем гадоў «палескага жыцця», але вось ужо трэці пішацца, а ўсё тыя ж пераломныя гады — на мяжы дваццатых — трыццатых! Бо пайшоў углыбіню, не «па гарызанталі», а «па вертыкалі»... І там, на глыбіні, адкрыліся шмат якія праблемы і тлумачэнні падзей таксама і пазнейшых часоў.

А таму, магчыма, і палічыў, што можна завяршыць палескі цыкл раманам «Завеі, снежань». Пакуль што, а там бачна будзе... Сабраў першыя раздзелы, пачаў друкаваць у «Полымі», не без разліку, што гэта падштурхне, прымусіць, насуперак хваробе, знямозе, працаваць над недапісанымі старонкамі. «Лінію Башлыкова рашыў закончыць у гэтым рамане,— не раз чулі мы ад яго,— хай едзе ў свой Гомель...» Башлыкова ён прыводзіць да краху — і ўсю «башлыкоўшчыну». (Затое з душы Апейкі «як бы спаў камень. Значыцца, ён быў правы!..» — чытаем мы ў накідах да рамана «Завеі, снежань».)

Той махавік дагматычнай жорсткасці да чалавека, які старанна і бяздумна разганяў і сам Башлыкоў, цяпер пачынае крышыць і яго лёс.

«Калі Башлыкоў адчувае, што рушыцца ўсё, адчувае сябе малым, бездапаможным. Скардзіцца хочацца. Чаго несправядліва крыўдзяць.

Абуджаецца, мацнее чалавечае. Пашкадуйце. І адчувае — шкадавання няма. Гіне на людзях. Ніхто не хоча руку даць».

Калі гэта (таксама з архіва пісьменніка) папала на вочы, успомнілася, як тым апошнім сваім летам Іван Паўлавіч, з нейкай новай ужо інтанацыяй у адносінах да Башлыкова, пачынаў гаворку, і раз і другі, што Башлыкоў «па-свойму сумленны і нават шчыры», што не ў ім справа ў рэшце рэшт, і трэба літаратуры глядзець глыбей, «лепш бачыць саму атмасферу часу і фактычна псіхоз...»

Мабыць, гэтым роздумам прадыктаваны запіс: «Трагедыя Башл. — трагедыя чалавека сумленнага. Які хоча адпавядаць ідэалу часу» (І шмат разоў — слова «псіхоз», падкрэсленае і раз і другі).

Збіраючыся да канца 1976 г. (ці ў пачатку 1977 г.) закончыць друкаванне рамана «Завеі, снежань», завяршыўшы «лінію Башлыкова», Іван Паўлавіч перабіраў свае запісы, накіды, пачатыя і больш-менш напісаныя раздзелы, планы, сартыраваў усё, раскладваў па асобных папках (так і засталося), мабыць, каб убачыць, што ёсць, што патрэбна для гэтага, яшчэ аднаго, рыўка наперад (салдацкага, франтавога!), для якога ні сіл, ні часу, аднак, ужо не заставалася.

«Адламала галіну, на якой поўна зялёных яблык,— гэта напісана недзе за год да смерці,— я як гэтая галіна. Поўна ва мне задум, якія прападуць са мной».

Сярод запісаў пра Васіля Дзятла маецца — на палях: «Добры канец», а сам тэкст:

«Вясна, арэ. (Праз год-два?)

Толькі б тут. Хоць што.

От яна, Карчова паласа. Якую прагнуў. Усё паламалася. Ні Ганны, ні зямлі. «Дурань».

Так, пэўна, трэба.

І трэба жыць, як е. Як доля наканавала.

Жыць».

Шмат разоў — зноў і зноў! — Іван Паўлавіч гаварыў, пісаў пра «лепшы твор савецкай літаратуры «Ціхі Дон». Гэта была не проста чытачоўская ацэнка. Гэта ўдзячнасць мастака за падтрымку. Бо іменна ў гэтым вялікім творы — зусім не пра калек-

тывізацыю — Мележ чэрпаў упэўненасць, што і ён ідзе верным шляхам.

У «Ціхім Доне» ёсць — у найвышэйшым для нашай літаратуры мастацкім вырашэнні — тое, да чаго імкнуўся і Мележ: з аднаго боку — паказ, адлюстраванне жорсткай гістарычнай заканамернасці развіцця, а з другой — бясконцае спачуванне, суперажыванне чалавеку, якога гістарычная хваля так часта «волакам цягне», не даючы пярэдыху. Мележ піша раман высокагуманістычнага і высокапаэтычнага гучання, у якім замест стандартных літаратурных абвінавачванняў селяніна ў «сацыяльнай інертнасці», «вясковым ідыятызме» мы бачым сыноўнюю справядлівасць, жаданне ва ўсім разабрацца, усіх зразумець, быць са сваім людам, народам сваім. Ёсць у «Палескай хроніцы» і перакананае разуменне гістарычнай заканамернасці развіцця, але, як і ў «Ціхім Доне», гэтаму разуменню не прыносіцца ў ахвяру чалавек — з усімі яго сумненнямі, болем, яго драмамі.

«Палескую хроніку» Іван Мележ пачынаў як лірычны твор: «Людзі на балоце» я назваў бы лірычным раманам» («Жыццё, якое я зведаў»). Працягваў як раман-даследаванне: «Чым больш я думаю над тым, якой павінна быць літаратура, тым больш пераконваюся ў думцы, што літаратура, мастацкая літаратура — таксама навука...») («І сёння, і заўтра, і заўсёды!», 1966). «Подых навальніцы» я таксама пачынаў у ранейшай танальнасці, але хутка пераканаўся, што гэтыя рамкі будуць цесныя для ўвасаблення духу часу». Заканчвае «Палескую хроніку» Іван Мележ (надрукаваныя і асабліва ненадрукаваныя ім раздзелы рамана «Завеі, снежань») як твор драматычны, трагедыйны.

Так здзяйсняўся намер пісьменніка «напісаць кнігу ў поўным сэнсе народную, якая праслаўляла б народ, яго подзвіг, была б прасякнута вялікай павагай да яго і клопатам пра яго» («Ліст да М. А. Абалкіна»). Так стваралася беларуская сястра «Ціхага Дона» — сучасная наша нацыянальная эпапея «Палеская хроніка».

Першае апавяданне Івана Мележа надрукавана было ў 1944 годзе ў тым жа нумары газеты, дзе паведамлялася сумная вестка пра смерць Кузьмы Чорнага. Выпадковасць, якая здалёк, з нашага часу, бачыцца як нейкая эстафета: памёр класік — класік прыйшоў у літаратуру.

І застаўся ў ёй — побач, нароўні са сваім першым літаратурным настаўнікам.

*АЛЕСЬ АДАМОВІЧ*

# СУСТРЭЧА

Стары толькі што вымыў рукі пасля перавязкі. Згорблены, з нездаровым, ацёчным тварам, выціраючы рукі кашлатым ручніком, падышоў да раненага. Той сядзеў на аперацыйным стале і з дапамогаю дзяўчыны-медсястры апранаў халат.

— Значыць, скора чатыры месяцы? — сказаў стары, трохі картавячы, з грузінскім акцэнтам.

— Тры месяцы і дваццаць адзін дзень.

— Надакучыла да чорцікаў?

— Надакучыла. І не ведаю, калі выберуся.

— Ужо не доўга... Можаце лічыць сябе амаль здаровым, таварыш Васілец. На твары слядоў ад апёку ўжо і цяпер амаль не відаць. Вас можна павіншаваць, дарагі. Вашы бровы і шэрыя вочы будуць хвалявацъ сэрцы маладых дзяўчат,— яркія, рухавыя вочы старога хітравата заблішчалі.— Вы, відаць, танкіст?

— Не, лётчык.

— Лётчык? — Стары зноў зацікавіўся.— А дзе вы лёталі? Не на поўдні?

— На поўдні.

— На поўдні! А вы, часам, не сустракалі лётчыка Цулукідзе?

— Быў адзін Цулукідзе...

— Георгій Цулукідзе?

Ранены адказаў не адразу. Памаўчаў, нібы аб нечым разважаючы.

— Вы яго ведаеце? — асцярожна запытаў старога.

— Ён — мой сын...

Стары, было відаць, адчуў нешта нядобрае, занепакоіўся. Занепакоілася і сястра, якая глядзела так, быццам хацела спыніць раненага.

— З ім нічога паганага... дарагі?

— Нічога...

— Жывы быў... Здаровы?

— Здаровы...

На гэтым роспыты скончыліся. Цулукідзе вымушан быў адысці ад лётчыка, бо ў перавязачную ўнеслі другога раненага. Сястра падала лётчыку мыліцы і дапамагла спусціцца са стала.

Яны ўдваіх выйшлі ў калідор. Побач з рослым і плячыстым хлопцам Оля, кудзенькая, здаецца, лёгенькая, як пушынка, выглядала яшчэ меншай.

Калі адышлі трохі, яна спынілася:

— Можна вас на адну хвілінку?

Яны сталі каля акна. Оля ўважліва паглядзела на лётчыка, які з цікавасцю сачыў, як унізе па вуліцы ішоў трамвай.

— Вы добра ведаеце Жору Цулукідзе?

— Здаецца, нядрэнна...

— Вы ведаеце, што з ім... здарылася?

— Як вас разумець?

Яна нахілілася да яго і ціха, каб ніхто не мог пачуць, запытала:

— Ведаеце, што ён гарэў?

Лётчык шпарка павярнуўся да яе і іранічна ўсміхнуўся:

— Напэўна, болей, чым вы... Як-ніяк, я тады ляцеў з ім, штурманам...

Яны ўвайшлі ў палату. Тут яшчэ не было раненых, і Васілец на хвілінку спыніўся, каб выбраць сабе ложак. Ён падышоў да таго, які стаяў ля акна.

— Сядайце! — сказала Оля.— Не натруджвайце нагу.

Ён сеў, паклаў поруч мыліцы. Сястра паправіла падушку і, хоць ёй не было чаго тут рабіць, стаяла заклапочаная, асабліва ўважлівая.

— Вы з ім ляталі!.. Як жа здарылася гэта?

— Як звычайна здараецца...

— Вы можаце мне ўсё казаць,— лагодна загаманіла яна, здагадваючыся, што ён вагаецца, не ведае — гаварыць ці не гаварыць.— Я проста знаёмая доктара. Толькі знаёмая. Ад мяне можаце не хаваць нічога.

— Што ж,— падумаўшы, згадзіўся ён.— Калі вас так цікавіць... Сумная гісторыя!..

— Нічога. Вы кажыце...

— Мы ляцелі па чарговую партыю раненых. Вазілі раненых з фронту ў тыл. Прасцей сказаць — паветраныя возчыкі... Дзень быў звычайны. Як і ўсе іншыя дні... Вечарэла. Да пасадкі заставалася хвілін дзесяць палёту. І тут на нас напалі два «месершміты-109»... Што магла зрабіць з узброенымі груганамі наша паветраная павозка? Я кусаў губы ад злосці і праклінаў гэтую санітарную авіяцыю. Толькі вылечуся — папрашуся на знішчальнік. Я пакажу тады, як трэба сустракаць гэтых...

Ён спыніўся і, не знаходзячы належнага моцнага слова, абарваў сказ. Супакоіўшыся, Пятро працягваў размову суха і неахвотна.

— Мы пайшлі рэзка ўніз. А «месеры», нібы груганы, круціліся над намі. Расстрэльвалі наш самалёт. Кабіна напоўнілася дымам. На нас запалала адзежа. Але Жора вёў самалёт. Не разгубіўся!.. Потым машына страціла кіраванне, стала падаць. Перад самай зямлёй. Мяне кінула на сценку. Праз момант раздаўся трэск, мільганула думка: «Загінулі». Я страціў прытомнасць ад моцнага ўдару, але неўзабаве ачомаўся. Выскачыў з кабіны, глытнуў свежага паветра. Пасля выцягнуў Жору і аднёс метраў на сто ад машыны... Было цёмна. Ззаду палаў самалёт...

Ён узяў мыліцы, рэзка ўскочыў на іх, падышоў да акна. Моўчкі пазіраў на далёкія асмужана-сінія горы, да паловы накрытыя белымі шапкамі воблакаў.

— Прыгожа тут,— загаварыла яна пяшчотна, ціха наблізіўшыся.— Увесь горад перад вачыма. Рака ўецца... Кура... Стадыён... Вы, здаецца, з Беларусі?

— З Мінска.

— Там нарадзіліся і раслі?

— Там.

— У вайну не давялося яго бачыць?

— Не. Мне на Украіне выпала ваяваць.

Ён крыху супакоіўся, сеў на ложак. Яна, прысеўшы побач на табурэт, асцярожна, лагодна запыталася:

— Што ж далей было?

— Прыйшла дапамога. Артылерысты з батарэі... Пачаліся бадзянні па шпіталях. Ад апёку нас мучыў нясцерпны боль. Мы з Георгіем не гаварылі, амаль не маглі есці. Ледзь варухнеш губамі,— пячэ боль. Геор-

гій цэлыя суткі нерухома ляжаў на спіне, як нежывы. Сястра даглядала яго, нібы дзіця.

— Як гэта жахліва! — прашаптала Оля ледзь чутна.

— Цяпер боль прайшоў, а сляды засталіся. На ўсё жыццё. У Георгія ўвесь твар знявечан. Апрача ўсяго, левая нага ампутавана ніжэй калена...

— Якое няшчасце!

Оля, узрушаная апавяданнем, нервова збірала ў складачкі і разгладжвала далонямі халат на каленях. Некалькі хвілін абое маўчалі.

— Ён нават маме не пісаў пра гэта,— першая загаварыла Оля.— Толькі напісаў, што ранен у нагу — і ўсё... Вы не ведаеце, як яны жывуць,— у іх сям'і ролі нібы перамяніліся. Усе цяжкія справы бярэ сабе маці. Бацька здаўна хварэе на сэрца, ён да вайны цераз гэта зусім не працаваў... Яго стараюцца аберагаць, не хваляваць нічым. А тут такая бяда!.. Вы ведаеце, ён нічога не чуў пра Жораву трагедыю.

— Я здагадаўся...

— Чацвёрты месяц маці яму маніць. Яна непакоіцца, каб ён не даведаўся — памрэ з гора!

— Значыцца, доктар не павінен бачыць Жору?

— Так, не павінен. Чаму вы так дзіўна пазіраеце?

— Георгій тут.

— Як тут?

— У шпіталі. Мы разам прыехалі.

— Што ж вы раней не сказалі?!

Яна адразу пабегла ў перавязачную. Рукі яе шпарка перагортвалі гісторыі хвароб, складзеныя ў акуратны стос. На самым нізе яна знайшла тоўстую папку, на якой было напісана імя Георгія Цулукідзе. Оля трывожна азірнулася: стары Цулукідзе, акружаны студэнткамі-практыканткамі, знаёміўся з новым раненым. Твар старога быў заклапочаны. Оля з гэтага здагадалася, што ён нічога яшчэ не ведае. Яна непрыкметна выйшла і, азірнуўшыся, кінулася да лесвіцы, што вяла ўніз, к пакоям, дзе раненыя праходзілі санапрацоўку.

Не дабегшы да лесвіцы, каля павароту калідора яна тварам у твар сутыкнулася з апранутым у сінюю піжаму раненым, які ішоў, абапіраючыся на мыліцы. Нага яго была ампутавана крыху ніжэй калена. Ранены спы-

ніўся, мелькам зірнуў на Олю. Вочы, вялікія і карыя, былі вельмі падобны на вочы ўрача, толькі ў раненага яны пазіралі жвавей і ясней. Твар быў у сінявых і цёмных плямах.

— Георгій Цулукідзе? — здагадалася Оля.

— Так, лейтэнант Цулукідзе,— адказаў ён, злёгку шапялявячы, і ўважліва паглядзеў на яе, нібы пытаючыся, што ад яго трэба.

Трывожна азірнуўшыся ў бок перавязачнай і заўважыўшы, што там няма нікога, яна на момант задумалася, куды б схаваць яго, Георгія. Тут, побач за паваротам, быў урачэбны кабінет. Раздумваць не было калі. Яна адразу павяла Георгія за паварот, непакоячыся толькі пра адно, каб як мага шпарчэй сысці з калідора, дзе іх можа ўбачыць стары.

Вось і кабінет. У ім, вядома, таксама небяспечна, але яны тут будуць нядоўга — толькі дамовяцца, вырашаць, як быць далей.

Оля шчыльна прычыніла дзверы і замкнула іх знутры.

— Вы ведаеце, што ваш бацька працуе тут? — прамовіла яна да Георгія.

— У гэтым шпіталі?!

— Так, у гэтым. Вы зараз павінны ісці да яго на перавязку.

— Мне нельга да яго!

— Я таму і прывяла вас сюды. Каб дамовіцца...

— Значыцца, можна зрабіць так, каб... не сустракацца?

— Можна.

— Як?

— Я думаю, што ўдасца перакапаць галоўурача, каб перавялі вас... Так будзе лепш...

Оля ўжо задумалася, як лепш вывесці Георгія з гэтага небяспечнага яго схованішча, калі ў калідоры да дзвярэй сталі набліжацца крокі.

Яны спыніліся перад дзвярыма. Нехта пацягнуў за клямку.

«Адчыніце, дарагая»,— пачуўся ціхі, трохі картавы голас урача. «Ключа няма»,— адказаў грудны жаночы голас.— Ключ у Ольгі».— «Пакліччце зараз жа,— зноў пачуўся голас старога Цулукідзе.— Я ж казаў, не трэба зачыняць кабінета!» — сярдзіта прамовіў ён. За

дзвярыма на момант стала так ціха, што было чутна, як цяжка і ўсхвалявана дыхае ўрач.

Георгій напружана прыўзняўся, абапіраючыся на мыліцы, твар яго пабялеў. Ён, відаць, вагаўся — хацелася ўбачыць бацьку, асабліва цяпер, калі ён стаяў побач, за дзвярыма, калі быў чуваць яго голас, яго дыханне,— і разам з тым Георгію нельга было нават паварухнуцца, каб не выдаць сябе. Оля, заўважыўшы гэтае ваганне, падумала, што ён хоча падысці да дзвярэй. Шум яго крокаў бацька адразу пачуе! Оля занепакоена глянула на сына ўрача і прыціснула пальцы да рота, просячы маўчаць.

Крокі за дзвярамі пачалі аддаляцца.

— Так можна бацьку загубіць.

Ён апусціўся на канапу і стомлена адхінуўся да спінкі.

— Даруйце, сястра. Мы амаль тры гады не бачыліся.

Яна выйшла і, праверыўшы, ці няма ў калідоры старога Цулукідзе, асцярожна вывела Георгія. Ёй удалося непрыкметна перайсці з ім на іншы паверх, у другое аддзяленне, дзе Оля перадала яго сваёй сяброўцы. Тут Георгій павінен быў перабыць той час, пакуль не скончыцца бацькава дзяжурства.

Оля парашыла пакуль вярнуцца ў сваё аддзяленне,— Цулукідзе мог яе шукаць, у яго маглі ўзнікнуць якія-небудзь, няхай далёкія ад думак пра сына, але ўсё ж непатрэбныя, асабліва ў такіх акалічнасцях, падазрэнні. У перавязачнай старога не было. Ён сядзеў у першай палаце каля Васільцовага ложка.

— Жора, вядома, вырас, памужнеў...— пачула Оля ўрывак з яго размовы. Доктар быў вясёлы, радасна свяціўся, але, пабачыўшы Олю, адразу нахмурыўся.

— Дзе вы хадзіце?

— Хадзіла па пошту.

— Па пошту! Знайшлі час!..— Ён павярнуўся да раненага.— Эх, вы думаеце, нам тут соладка, дарагі! Думаеце, лёгка бачыць такіх вось, як вы, непакоіцца пра вас? Або — Жора. Не напіша тыдзень-два, жонка ўжо і малюе сабе страхі. Думаеце, соладка?.. Але я разгаварыўся лішне, дарагі, вам трэба адпачыць.

Оля і ўрач выйшлі ў калідор.

— Час, бадай, дамоў! Працоўны дзень скончыўся. Хадземце, аддам вам гісторыі.

Яны ўвайшлі ў перавязачную. Цулукідзе ўзяў стус гісторый хвароб.

— Вось вам дваццаць дзевяць гісторый. Адчыніце кабінет і пакладзіце іх у шафу.

Ён шпарка пералічыў папкі. Закончыўшы лічыць, нахмурыўся, рупліва пералічыў зноў.

— Трыццаць! Што за ліха! Раненых дваццаць дзевяць, а гісторый трыццаць. Оля, усіх раненых перавязалі?

— Усіх...

Яна жахнулася, раптам успомніўшы, што гісторыя хваробы Георгія засталася ў стусе,— забыла ўзяць. Оля са страхам сачыла за рукамі ўрача. Цулукідзе чытаў гісторыі, намагаўся прыпомніць пацыентаў.

— Васілец... апёк першай ступені, кулявое раненне левага каленнага сустава. Антонаў... Семянчук... Філіпенка... Цулукідзе Георгій... Георгій Анастасавіч! Апёк трэцяй ступені! Бядра! Твару! Кісцей рук. А-а! — прахрыпеў бацька.

— Цулукідзе Георгій,— не верачы сабе, прачытаў ён у другі раз.

Няцямнымі, нерухомымі вачыма ён утаропіўся ў Олю, але не бачыў яе. Ён глядзеў некуды далей, праз яе, нібы яе не было. Так прайшла секунда, другая. Потым вочы Цулукідзе ажылі, і твар яго скрывіла спазма болю. Ён зноў упіўся вачыма ў гісторыю хваробы.

— Георгій!

— Нічога ўжо страшнага... доктар!..— прамармытала Оля няўпэўнена, вінавата.

Ён нібы не чуў.

— Бядра!.. Твару!..

У яго словах было столькі пакуты, што дзяўчына сама заходзілася з болю.

— Нічога... усё будзе... добра, доктар...

Не, ні гаварыць, ні бачыць такое гора яна больш не магла. Яна раптам кінулася з пакоя, прыпала да вушака адчыненага акна. Падумала, што зрабіла кепска, пакінуўшы старога аднаго, у бядзе, намерылася бегчы назад, да яго, і тут пачула яго кліч-загад:

— Дзе ён?!

Оля не адказала. Яна чула, як Цулукідзе падбег і стаў поруч. Ён цяжка дыхаў. Оля азірнулася.

— Дзе ён?! Вы чуеце?

Дзяўчына глянула на яго. Твар старога пабялеў, вочы запалі глыбей, пацямнелі, і яна адчула, што перажыў ён за гэтыя некалькі секунд.

— Пакажыце мне яго!.. Зараз жа!

Ён гаварыў трывожна, з тым жа болем, нецярпліва і рашуча. Ён падганяў яе. Ва ўсёй яго істоце было цяпер адно жаданне: хутчэй, хутчэй убачыць. Оля паслухалася,— нельга было не паслухацца такога голасу, такіх вачэй. Подбегам павяла яго. Лесвіцу праскочылі, нібы праляцелі.

— Нічога страшнага... паверце, доктар!..

Ён не адказваў, бег,— хутчэй, хутчэй. Стары ўляцеў у пакой раней за яе, ледзь толькі здагадаўся, у якія трэба дзверы.

— Георгій! Жора!

Георгій разгублена прыўзняўся на руках. Ён узрушана, з трывогай, паглядаў на бацьку. А той стаяў каля дзвярэй і прагна глядзеў на сына, маўкліва, шкадуючы, трымаючыся рукой за грудзі, дзе часта білася сэрца, гатовае, здаецца, вось-вось разарвацца ад натугі.

Оля першая загаварыла, супакойліва, з намаганнем:

— Ну вось бачыце, нічога страшнага!..

— Вядома, нічога! — адразу, праз меру бадзёра адгукнууся Георгій.— Будзем жыць!

Стары Цулукідзе ўстрапянуўся, падбег да сына, парывіста прыціснуў галаву яго да сваіх грудзей.

— Жора... Мой хлопчык...

Цулукідзе пацалаваў сына ў шчаку, што была ў цёмных плямах, і стаў з горам і любоўю аглядаць яго твар. На вочы бацькі набеглі слёзы. Гэта былі слёзы гора і слёзы любасці.

— Як рукі? — заклапочана кінуў позірк на рукі, узяў іх, хутка, вопытнымі вачыма аглядзеў.

— Рукі — парадак! — прамовіў сын.

— Так, гэта пройдзе...

Яму было цяжка гаварыць,— такая ўзяла задышка. Ён мусіў раз-пораз прыпыняцца.

Абмацаўшы асцярожна ампутаваную нагу, ён выцер слёзы і ціха загадаў:

— Оля, падрыхтуйце да перавязкі! — Ён спакутавана зірнуў на сына.— Хлопчык, я не хачу маніць. Я з вялікім горам гляджу на тваё няшчасце... Ты ваяваў як трэба... Я рады за цябе... І таму ў мяне зараз вялікая радасць і вялікае гора. Я не хачу маніць... Але будзем мужнымі. Будзь мужны, мой хлопчык!

— Будзем мужнымі, тата... Ты — малайчына...

— Так, я таксама, стары корч, іншы стаў. Быў такі мякіш, ледзь што — ах, ах, сэрца. Помніш? А цяпер — паглядзіш — цягну, з натугай, а цягну, не многа горш, здаецца, за другіх. І старая мая машына трымаецца... Гм, вайна, яна, мусіць, усіх нас зрабіла ваеннымі...

— Тата, я многа яшчэ зраблю. У мяне столькі сілы. У мяне — цэлае жыццё!

— Жыццё, цэлае жыццё, мой хлопчык!.. А мама і не ведае, што ў нас сёння такі дарагі госць. Як яна будзе рада! Яна ж нічога не ведае...

Ён неспадзеўкі кінуў зноў неспакойны позірк на Олю.

— Вы яшчэ тут? Я ж вам сказаў — падрыхтуйце да перавязкі!

Оля выбегла з пакоя, адчуваючы, што праз хвіліну расплачацца, як і стары... Яна была рада за ўрача, за Георгія, за гэту сустрэчу, якой так баялася. «Хто б мог падумаць, што так будзе?..» — са здзіўленнем падумала яна, узбягаючы па лесвіцы.

Яна была занадта ўзрушана для таго, каб шукаць прычыны.

# АПОШНЯЯ АПЕРАЦЫЯ

Яны сядзелі ў амбулаторыі.

Недзе за вёскай бесперапынна стралялі гарматы, і вокны ў пакойчыку ліхаманкава трымцелі. Са сцяны, над акном, адваліўся карычневы абломак тынку, упаў на стол. Урач узяў абломак у руку, другой змёў пясок са стала і выкінуў усё ў фортку. Якраз у гэтую хвіліну артылерыйская кананада сунялася, і ў цішы, што настала, рассыпалася кароткая, імклівая чарга кулямёта. Урач — высокі і худы — усхвалявана прайшоў удоўж пакойчыка, шпарка павярнуўся. Стаў перад настаўнікам, што сядзеў на табурэце, прамовіў:

— Якая цішыня... Жудасна...

Хвіліну ён маўчаў, апусціўшы бліскучую голеную галаву. Затым рэзка падняў яе, сярдзіта і строга паглядзеў на дробненькага, у акулярах, настаўніка.

— Трэба ісці... Нельга, любы, закрываць вочы.

— Ісці. Лёгка сказаць...— уздыхнуў настаўнік.

— І мне цяжка. Але што ж. Немцы вось, можна сказаць, каля Бярозаўкі...— Ён раптам перамяніў гаворку: — Антось, усе будуць збірацца ў гаі, што каля Лапатаўскага шляху. Я сказаў, каб чакалі нас. Трэба спяшацца.

Антось маўчаў. Васіль Дзянісавіч шпарка крочыў па пакойчыку.

За акном, ужо не сціхаючы, зноў пачала грымець гарматная страляніна.

Антось падняўся, папраравіў акуляры. Не гледзячы на паплечніка, пайшоў да дзвярэй, урывіста кінуў:

— Пайду, вазьму манаткі...

— Добра, любы. Чакаю.

Урач падышоў да акна. Па вуліцы, залітай густою, як каламазь, восеньскай граззю, паўзлі тры фурманкі бежанцаў, заваленыя клункамі, скрынкамі і чамадана-

мі. На вазах туліліся дзеці. За апошняй фурманкай, з натугай выцягваючы ногі з гразі, неахвотна плялася рудая, у шэрых плямах, кароўка... Раскідваючы гразь у бакі, насустрач ім, к фронту, праплылі два грузавікі, нагружаныя скрынкамі са снарадамі.

Васіль Дзянісавіч адышоў ад акна, сеў на табурэт.

Усё было падрыхтавана. Яшчэ ўчора тое, што можа спатрэбіцца ўрачу ў партызанскім атрадзе, ён склаў у партфель.

У гэтым пакойчыку ён, Бацюня, пражыў апошнія дні. Штодзённа ад дзевяці да гадзіны і ад чатырох да шасці гадзін вечара прымаў пацыентаў, нібы спакойны, у добра выгладжаным халаце. Тут і спаў. У вольны ад працы час хадзіў да Антося. Яны былі даўнімі таварышамі. Разам трыццаць год праслужылі ў Бярозаўцы. Калі прыйшла вайна, разам эвакуіравалі сем'і да настаўнікавага сына, што служыў у Куйбышаве. Увечары часта разам заседжваліся каля рэпрадуктара, трывожна слухалі паведамленні з фронту... Лінія фронту шпарка набліжалася. Маленькую вёску запоўнілі войскі. Памяшканне амбулаторыі занялі пад ваенны штаб. Амбулаторыю перасялілі ў гэты цесны пакойчык у хаце калгасніцы. Аднойчы, выйшаўшы ад настаўніка, урач пачуў далёкі гул. Бацюня спачатку не паверыў, здзіўлена прыслухаўся — гул паўтарыўся. Устрывожаны Васіль Дзянісавіч вярнуўся да Антося і пераказаў навіну. Яны ўдвух стаялі на вуліцы і з заміраннем сэрцаў слухалі жудасную музыку. Той ноччу ён ні на хвіліну не заплюшчыў вачэй, усё перадумаў, а раніцою, калі падняўся з ложка, быў спакойны, меў цвёрдае рашэнне — ён будзе чакаць да той пары, пакуль тут будуць чырвонаармейцы, а затым пойдзе ў партызанскі атрад...

Доўгім развітальным позіркам Бацюня акінуў пакой.

Ложак панура чарнеў сеткаю. Каля адзінага акна стаяў маленькі шкляны столік, за якім цяпер сядзеў урач. На століку стаялі тры пустыя пляшачкі з этыкеткамі і ляжала тоўстая кніга запісу хворых. Сцены пакоя, цёмныя, даўно не беленыя, у многіх месцах патрэскаліся і агалілі дрэва. На падлозе бязладна валяліся шматкі паперы.

Васілю Дзянісавічу стала холадна.

Толькі халат, што вісеў на цвічку, быў выгладжаны, нібы падрыхтаваны да прыёму. Недарэчы весела блішчала белая эмалевая дошчачка — «Не парушаць цішыні».

Шпарка насоўвалася вячэрняя цемра. Чырвоныя водсветы гарматных выбухаў скакалі па сценах.

«Трыццаць год жыў на адным месцы,— успомніў ён і заплюшчыў вочы, сціснуў вусны.— Трыццаць год...»

У акно пастукалі.

— Васіль, гатовы?

Настаўнік стаяў на двары з мяшэчкам за плячыма.

— Зараз, любы, адну хвілінку.

Васіль Дзянісавіч надзеў халат, апрануў паліто, глыбей насунуў кепку і ўзяў у рукі партфель. Пастаяўшы трохі нерухома, перадумаў, паклаў партфель на стол.

«Пайду, а жыццё застанецца тут».

Акінуў позіркам пакой, які цяпер быў схаваны густою цемраю. Рука звыкла намацала ў кішэні сернікавы карабок, але выпусціла.

«Так, здаецца, лепш,— без лішніх расставанняў».

Выйшаў з хаты. Тхнула халоднай вільгаццю асенняй ночы. Вецер адхіліў крысо паліто. Бацюня сышоў з ганка, падняў каўнер.

— Пачакай, ці што. Трэба развітацца з гаспадыняй.

Стары павольна пайшоў паўз гародчык. У канцы плота ён падаўся направа, там быў прыгрэбнік. Бацюня пастукаў у дзверы. Яму спачатку не адказвалі. Ён пачакаў. Тады нясмелы жаночы голас запытаўся: «Хто там?» Нарэшце выглянула гаспадыня.

— Гэта вы, доктар? Заходзьце...

— Не... Дзякую... Я толькі развітацца...

Яны абое памаўчалі.

— А дзе вашы дзеці? Там, у склепе?.. Ага, правільна... Добра, што ў склепе...

Ён зноў замоўк. Васіль Дзянісавіч зусім не думаў пра тое, што сказаў. Гэта былі звычайныя словы, ён сказаў іх больш па прывычцы. У думках яго было адчуванне вялікага гора. Яно запаўняла ўсю істоту ўрача.

«Што ж яшчэ трэба сказаць?» — намагаўся ён ус-

помніць. Але думкі не ішлі. Яму нічога не хацелася гаварыць. Самае няцяжкае было — стаяць, маўкліва, ціха, і ні аб чым не думаць.

— Вось пакідаю, значыць.

Бацюня адчуў, як балючы горкі камяк стаў у горле. Стары сутаргава праглынуў камяк і, забыўшы пажадаць здароўя, падаўся прэч.

— Шчаслівай дарогі,— сказала ўслед жанчына.

Стары не адказаў. Ён не чуў гэтага пажадання.

— Нашы ўжо адступаюць,— паведаміў Антось, калі Васіль Дзянісавіч падышоў да яго.

Урач маўчаў, заняты сваімі думкамі.

— Ведаеш, Антось, мне толькі што ўспомніўся быў адзін выпадак з практыкі... У дваццаць чацвёртым годзе, ці што, да мяне прывезлі хворую семнаццацігадовую дзяўчыну. Кволая такая — памятаю — з вялікімі чорнымі вачыма. Сепсіс. Бацька ўвесь час плакаў у мяне ў кабінеце, прасіў, маліў выратаваць. Яна ў яго адна была і, акрамя таго,— выліты партрэт нябожчыцы жонкі. Я абяцаў зрабіць усё. Трынаццаць дзён я не счыняў вачэй і не адыходзіў ад яе ложка. Зрабіў усё, што мог. Але я быў бяссільны. Ты разумееш — бяссільны! Дзяўчына памірала на маіх вачах, павольна, а я нічога не мог зрабіць.

Надышло маўчанне.

— Пойдзем, любы,— схамянуўся ўрач.

Востры, свідруючы свіст прымусіў іх кінуцца на зямлю. Недалёка на вуліцы са скрыгатам разарваўся снарад.

Нехта голасам, поўным болю і жаху, закрычаў. Яны, не змаўляючыся, пабеглі на голас. Бацюня нахіліўся над чалавекам, які стагнаў. Па голасу ён здагадаўся, што раніла жанчыну, але каго менавіта, не мог пазнаць. У цемры твар жанчыны расплываўся невыразнай плямай.

— Хто гэта? — запытаўся ён, нахіляючыся ніжэй, каб разгледзець твар.

Жанчына ў адказ загаласіла:

— Ой, божачка літасцівы!.. Ой, смерць мая!.. Ратуйце!..

— Захарыха? Тэкля?

— Ой, я... Доктар, памажыце... Ой, смерць мая прыйшла.

Яна калацілася ад жаху перад нечаканым, страшэнным няшчасцем. Васіль Дзянісавіч узрушана маўчаў. «Трэба хуткая дапамога,— перш за ўсё падумаў стары.— Але ж — зараз сюды з'явяцца гэтыя... і, акрамя таго, мяне чакаюць там, у лесе... Не, я не магу заставацца...»

Васіль Дзянісавіч памацаў, ці зашпілена паліто. Так ён рабіў заўсёды, калі збіраўся ісці. Але праз секунду думка пра жанчыну зноў узяла яго.

«А як жа яна? Яна можа хутка сысці крывёю!..»

— Не кідайце... Памажыце... Ой,— нібы здагадваючыся пра развагі ўрача, застагнала жанчына.

— Не кіну,— адказаў ён, злуючыся.— Што ж ты, любая, ходзіш тут? Не бачыш, што страляюць?..

— Па хлопчыка ішла. Па Кастуся. Ён яшчэ ўпоўдзень збег гуляць да Бандарчукоў... Ой, божачка...

— Што ў цябе баліць? — спытаў Бацюня ўжо іншым тонам. Стрымліваючы злосць, надаючы голасу спакойную ўважнасць.

— Ой, смерць мая прыйшла! — застагнала з адчаем жанчына.— Паміраю, мабыць!.. Нага гарыць...

Бацюня запаліў запалку, прытульваючы трывожны агеньчык рукой, уважлівым позіркам акінуў жанчыну. Адзначыў крывавую пляму там, дзе бядро, калі вецер раптам задзьмуў запалку. Бацюня хапатліва запаліў другую, адсунуў спадніцу, агледзеў рану. Рана крывавілася на вяршок вышэй калена. Косць была перабіта.

— Вось, браце, здарэнне,— сказаў, выпростваючыся, Антосю.— Трэба вярнуцца.

Васіль Дзянісавіч зняў паліто, разаслаў побач з жанчынай. Удвух пералажылі Захарыху на паліто. Моўчкі паднялі і панеслі ў хату, дзе апошнія дні жыў урач. Тут паклалі Захарыху на лаўку.

Васіль Дзянісавіч борзда прынёс коўдру з суседняга пакоя, загадаў Антосю завесіць акно. Хутка выйшаў зноў і вярнуўся з лямпай у руках. Паставіў лямпу на стол, перасунуў, каб свяціла зручней.

— Дай партфель,— загадаў Антосю, падцягваючы да сябе табурэт.

Настаўнік падаў партфель. Бацюня разлажыў інструменты, выцер спіртам рукі і пінцэт і зноў агледзеў рану. Нахіліўся над ранай з пінцэтам...

— Антось, трэба пашукаць фурманку, ці што,— сказаў Бацюня, на момант адвярнуўшыся ад Захарыхі.— Ёй патрэбен будзе нагляд. Я думаю забраць яе ў лес, пакуль не падлечым...

— Зараз пашукаю...

— Ты там не баўся вельмі, любы...

Антось выйшаў.

Ён вярнуўся ў амбулаторыю хвілін праз дваццаць, вельмі неспакойны. Паліто было расхрыстана, валасы выбіваліся з-пад шапкі. Настаўнік часта і прагна дыхаў.

Урач яшчэ аперыраваў раненую. Васіль Дзянісавіч да таго захапіўся аперацыяй, што не заўважыў прыяцеля.

Страляніна на вуліцы раптам змоўкла, і ў пакоі настала такая цішыня, што звінела ў вушах. Было чуваць, як гучна цікае гадзіннік на руцэ ўрача.

— Васіль,— устрывожана парушыў Антось цішыню.— Няма нічога...

— Няма?

— Нічога не знайшоў... Ні аднаго чалавека ва ўсім сяле. Хаты забіты ці замкнуты. Хто і застаўся, дык хаваецца па склепах... Як вымерла сяло... Як пустыня. Страшна ісці...

Недалёкі выбух. Падлога страсянулася, са столі і сцен пасыпаўся тынк. Дзынкнула разбітая шыба. У хату са свістам уварваўся рэзкі вецер, скінуў коўдру з акна.

Палахліва замігаў язычок у лямпе. Бацюня нездаволена выпрастаўся. Антось падбег да акна, спіной засланіў разбітую шыбу і азірнуўся. Ухапіў зноў коўдру, знізу прыціснуў да падаконніка кнігай. Верхні край узняў аберуч.

Нацягнуў коўдру на акно.

— Васіль, як думаеш, нас не заспеюць тут? Палохае мяне гэтая маўчанка...— сказаў ён, аглядваючыся на Бацюню. Ледзь стрымліваў неспакой.

— А што рабіць?..— не паварочваючы галавы, адказаў урач.

Ён дастаў з партфеля шыну і, прыклаўшы яе да нагі, пачаў абкручваць бінтам.

— Ёй цяпер будзе лепей,— з палёгкай уздыхнуў

урач.— Трэба хіба насілкі, ці што... Занясём яе пакуль што да дзяцей...

На ступеньках — крокі. Рэзкія ўрывістыя галасы. Рыпнулі дзверы. Крокі бязладна стукалі ў сенцах.

Настаўнік кінуўся да дзвярэй:

— Хто тут?

У вузкую шчыліну святла ўсунуўся рослы гітлеравец. Бліснулі палоскі на пятліцах, крыллі свастыкі над правай кішэняй.

— Акно! — не ўздымаючы галавы, незадаволена крыкнуў урач. Ён нібы забараняў уваходзіць.

— Цурук! — загадаў немец.

— Тут... Аперацыя!..

Гітлеравец з сілай ірвануў дзверы да сябе. Антось, які не чакаў такога раптоўнага рыўка, тузануўся за дзвярыма і апынуўся проста перад гітлераўцам. Ён нібы загарадзіў дарогу.

— Прэч, ферфлюхтэн...

Удар нечым металічным паваліў настаўніка на падлогу.

Гітлеравец, паморшчыўшыся, пераступіў цераз настаўніка. За ім увайшлі яшчэ трое. Апошні, высокі і худы, наступіў на настаўніка ботам.

Бацюня выпрастаўся, строга і сярдзіта бліснулі яго прыжмураныя вочы.

— Я сказаў — нельга.

— Вы чаму крычыць?!

Першы немец з ліловым крывым шрамам на шчацэ, абляпаны граззю, стомлены, абражана ўпіўся ў яго цвёрдым позіркам.

— Бальшавік?.. Камісар?..

— Урач...

— Арцт. Бальшавік!

Васіль Дзянісавіч нічога не сказаў.

Гітлеравец адхіліў урача рукой і нагнуўся над раненай. Жанчына была без прытомнасці і трызніла.

— Бальшавік! Ранены...

— Жанчына. Матка,— адгукнуўся Васіль Дзянісавіч.

— Матка? Не!

Салдаты насцеражыліся.

Гітлеравец пацягнуў жанчыну за нагу. Шына з нагі

ўпала, жанчына войкнула і сціхла. Немец паморшчыўся. Перабітая нага бяссільна звісла на звязку мышцаў.

— Матка! Чуеш — матка! — падступіў урач.

Гітлеравец ударыў ботам па назе — тая, нібы маятнік, загойдалася.

— Вот на-аш ап-перацыя.

Адзін з салдат зарагатаў, а ён, прыплюснуўшы вочы, упіўся зноў у Васіля Дзянісавіча. Ён хацеў, каб гэты стары ведаў, што да бальшавікоў, да камісараў літасці не будзе.

Урок, здаецца, выдаўся яскравы і ўражлівы. Выняўшы хусцінку, немец выцер рукі. Урач усутыч — пахмура і нерухома — глядзеў на яго.

— Погань!.. Нелюдзь!..— раптам, пачырванеўшы ад гневу, закрычаў Васіль Дзянісавіч.

Каўнер ціснуў горла, замінаў гаварыць. Ён ірвануў каўнер, гузікі паляцелі на падлогу. Зрабіўшы намаганне, праглынуў камяк у горле.

— Чума!..

Не скончыў... Тупы ўдар па галаве ствалом аўтамата паваліў яго на падлогу. Апошняе, што ён пабачыў,— гэта кароткі, з шырокімі халявамі бот гітлераўца, занесены над ім...

Праз некалькі хвілін Антось, хістаючыся, падняўся на калені, харкнуў згусткам крыві.

У пакоі нікога не было.

На падлозе ляжаў урач — твар знявечаны, цьмяна жаўцела голеная галава, рука нязручна падгарнулася пад бок.

Апошнюю аперацыю Васіль Дзянісавіч не скончыў.

# КАНЕЦ РАЗМОВЫ

Машыніст выглянуў.

Ён не першы раз занепакоена выглядаў з акна. На пачарнелых снежных дарогах усё часцей віднеліся нямецкія аўтамашыны, цягачы з гарматамі, натоўпы салдат, коннікі, фурманкі са скрынкамі і клункамі. Часамі ўсё гэта цягнулася бесперапынна, нагадваючы вялікіх чарвякоў. Абапал дарог усюды віднеліся адзнакі нядаўніх баёў — пажарышчы, варонкі, скарэжаныя машыны. Іх ужо засыпаў снег...

Немцы ішлі ды ішлі няспынна.

Калі стары бачыў гэта, яму станавілася млосна, ногі згіналіся ад слабасці, усярэдзіне рабілася холадна і пуста. Яго ахопліваў непакой, і ён непрыкметна пазіраў на немца, каб праверыць, ці не чуе той часам яго думак.

Як заўсёды ў людзей, якія, набліжаючыся да нейкага адказнага моманту, яшчэ не наважыліся, яму хацелася адцягнуць той момант, сабрацца з думкамі. Хуткасць паравоза здавалася большай, чым была сапраўды. Рукі старога самі падымаліся да рэгулятара, каб прыцішыць ход, і ён не стрываў бы, каб не гэты ўважлівы немец, што сядзеў поруч.

Слупы ляцелі і ляцелі насустрач... «Набліжаецца маё няшчасце, мая ганьба... Што рабіць? Што рабіць?..»

— Машыніст! Што вы так думаеце? — раптам запытаў немец.

Стары не адразу знайшоўся, што сказаць.

— Я?.. Нічога, пан афіцэр...

— Можаце не адказваць. Я сам ведаю. Вы думаеце, што дрэнна весці рускаму чалавеку нямецкі эшалон. Правільна?

— Я не пра гэта... пан афіцэр.

Немец паважна курыў і паглядваў у акно. За акном падбягалі і адбягалі тэлефонныя слупы. Аднастайна круцілася снежная раўніна, абпаленая, голая. Постаць яфрэйтара выказвала нуду і абыякавасць да ўсяго, што робіцца на свеце, але машыніст адчуваў, што немец пільна сочыць за кожным яго рухам. Вострыя вочкі яфрэйтара нібы праціналі наскрозь, і нават думкі, здавалася, нельга было захаваць ад іх.

Дакурыўшы папяросу, яфрэйтар зноў выняў партсігар. У ім нічога не засталося. Ён глянуў у акно, бесклапотна пазяхнуў і павярнуўся да машыніста.

— Я жадаю працягваць нашу гутарку,— ён зрабіў націск на «працягваць».

Размова цягнулася ад самай раніцы, калі яфрэйтар прыйшоў у будку. Дзяжурыць павінен быў, як звычайна, салдат, але Кох хацеў сам, асабіста, давесці эшалон да фронту. Яфрэйтар, з прыбалтыйскіх немцаў, ведаў рускую мову. Ён быў жвавы, гаваркі, ветлівы, зусім не падобны да сваіх маўклівых і хмурных салдат. Размова вялася амаль увесь час — з перапынкамі, калі яфрэйтар курыў або еў. З гэтай размовы немец ужо ведаў, што машыністу болей за шэсцьдзесят, што перад вайной стары жыў на пенсіі, што ў яго недалёка ад станцыі дамок з садам...

Жаданне яфрэйтара занепакоіла старога Антоніка. Стары паспрабаваў схаваць хваляванне, але яму гэта не ўдавалася.

У чаканні адказу Кох запыніў позірк на памочніку машыніста: дзяўчына ў зашмальцаваных да бляску ватніх штанах і куртцы зачыняла топку. Не дачакаўшыся адказу, ён здзіўлена зірнуў на машыніста. Антонік стаяў, выціраў рукі пакуллем, нічога не гаварыў.

— Што значыць ваша маўчанне? Вы не хочаце гутарыць са мной?

— Няма калі, пан афіцэр...

— Што значыць — няма калі?

— Сачыць мне трэба за паравозам, за дарогай...

— Сачыце. Але гэта не значыць, што вы не можаце разам з тым пагаварыць. Прыемная размова — лепш за ўсякае блюда... Так гаворыць руская пагаворка?

— Так...

— Значыць, вы жадаеце гаварыць?

— Гаварыце...

— Я рад. Мне прыемна гаварыць з вамі. Вы зрабілі добрую паслугу нам... Калі машыніст Гуго і памочнік загінулі, вы, можна сказаць, выратавалі эшалон... Без вас ён і цяпер тырчаў бы там, на праклятым раз'ездзе...

Ад гэтай ухвалы немца стары адчуў сябе зусім ніякава. Ён паспрабаваў усміхнуцца, але ўсмешка выйшла сумная, крывая.

— Вы — разумны чалавек. Вы адразу зразумелі, што з нямецкай уладай спрачацца нельга. Таго, хто не хоча падпарадкоўвацца, нямецкая ўлада знішчае. Многія рускія не зразумелі гэтага і расплаціліся сваім жыццём... А вы зразумелі, сталі з намі працаваць, і мы даруем вам жыццё. Вы будзеце жыць...

Машыніст кіўнуў, як бы дзякуючы за гэтую вялікую міласць.

— Рускія — дзікуны, варвары. Яны ніяк не могуць зразумець, што старыя парадкі, якія ўстанавілі бальшавікі, кончыліся. Цяпер тут устанавіўся новы парадак, і трэба слухацца новых законаў. Бальшавіцкае панаванне скінута, і хутка будзе скінута па ўсёй рускай зямлі да Урала...

— І будзе ўсюды — нямецкае панаванне? — дзіўна адгукнулася дзяўчына.

— Нямецкая дзяржава будзе ўсюды да Уральскіх гор, нямецкія законы, нямецкая культура...

— Ага,— кіўнула дзяўчына так, што немец з падазронасцю перапытаў:

— Што значыць — ага?

— Ага, значыць: так, зразумела...

Яфрэйтар пільна зірнуў на дзяўчыну, як бы хацеў пабачыць, што тоіцца ў яе словах. Нечакана ўварваўшыся ў гаворку, гэтая дзяўчына перабіла роўную плынь яго думак, і ён які час маўчаў, адно пазіраючы за акенца. Загаварыў зноў ён ужо аб іншым:

— Мне падабаюцца бярозы. Яны падобны да дзяўчат у белых сукенках. Калі я атрымаю ў Расіі, як гэта сказаць,— калгас, я пасаджу бярозы пад акно. Бярозы... І свінней гадаваць буду. На свіннях можна добра зарабіць, калі прыдбаць добрыя пароды і наладзіць умелы догляд... Я зраблю вялікую гаспадарку, не менш як на тысячу свінней...

У голасе яфрэйтара пачулася захапленне:

— Тысячу свінней. Ружовых, як летняя раніца. Беленькіх, тоўстых! Рух-рух-рух. Уві-ўві-ўві... Якая прыгожая музыка! Кожны дзень я буду слухаць гэты цудоўны канцэрт!.. Што ты так усміхаешся? — нечакана асекся немец, зірнуўшы на дзяўчыну.

— На дзіўны канцэрт пан спадзяецца!..

— Што значыць — спадзяецца? — з падазрэннем запытаў немец.

— Пан сам ведае: спадзяецца пачуць калі-небудзь...

— Ты думаеш, я магу і не пачуць?

— Усё можа быць...

Яфрэйтар доўгім пранізлівым позіркам утаропіўся ў дзяўчыну.

— Усё можа быць? — перапытаў Кох.

Стары Антонік устрывожыўся. Ён ведаў, добра ведаў Валю, не першы раз сустракаўся з ёй: яна была дачкой прыяцеля, такога ж машыніста, як і ён. Не за што іншае, за характар устрывожыўся стары,— ведаў: яна здольна цярпліва маўчаць, спакойна пакутаваць, можна часам нават здзівіцца яе цярплівасці. Але ці не было і так, што вытрымкі не хапала: калі ўсё, што паліла душу, горача прарывалася, нядобрае, неразумнае. У такую хвіліну Валю ніштто не магло ні спыніць, ні спалохаць.

Гэтая хвіліна — здалося старому — прыйшла.

— Пан афіцэр, не злуйцеся. Яна ж дзіця.

— Дзяцей трэба вучыць! — сказаў немец.

Кох устаў, размахнуўся, ударыў яе па шчацэ. Ад яго залатога пярсцёнка застаўся чырвоны след, выступіла кроў. Валя выцерла шчаку, але кроў ішла.

— Гэта пачатак нашай размовы. Непрыемны пачатак, на жаль, але ты сама вінавата.

— Божа мой! Валя, маўчы! — спалохана папрасіў стары.

Валя ўстрапянулася, але нічога не сказала.

«Не стрымалася, гарачка. Наклікала на сваю галаву бяду... Нібы мала было аднаго няшчасця...»

Антонік адчуў сябе раптам вельмі адзінокім, як і не было ні сяброў, ні таварышаў. «Чужы. Чужы. Усім чужы». Нават жонка ўяўлялася цяпер далёкай і чужой.

Стары падкінуў вугалю ў топку, цяжка выпрастаўся. Зялёныя і барвовыя кругі пайшлі ў вачах, і ён апусціўся на лаўку. Паравоз дрыжаў, грымеў, скрыгатаў. Антонік адчуваў сябе вельмі змарнелым. Раней была нейкая надзея, старасць забывалася, і знаходзіліся сілы. Зараз яны некуды зніклі. Стары нібы адразу аслабеў і стаміўся.

Хацелася адагнаць думкі, а яны не адыходзілі. У іх было яшчэ больш, як раней, супярэчлівасці, ад іх цяжэй ціснула няшчасце. Ён падняўся, з заклапочаным выглядам высунуўся ў акно.

Цягнік прагрукаў над мастком. Праляцела рэчачка, напалову зарослая чаротам, зацярушаная снегам.

«Хутка станцыя»,— падумаў Антонік. Ён добра ведаў гэты ўчастак, па якім некалі часта вадзіў цягнікі. На станцыі, куды падыходзіў эшалон, раней змяняліся брыгады.

«Вось куды яны зайшлі. Ніколі ніхто сюды не даходзіў. Ён праўду казаў, гэты паганы немец: захапілі ледзь не ўсю Еўропу... Жудасная ў іх сіла. Ніхто не хацеў ёй падначальвацца, а яна ўсіх прымушае...» Яму здалося, што яго нікчэмнасць, яго страх — не проста страх за жыццё, а страх перад гэтай велізарнай ненавіснай сілай, якую, думалася яму, немагчыма адолець.

Яфрэйтар зноў занудзіўся.

— У рускіх ёсць хітрая пагаворка: не кажы «гоп» — пакуль не пераскочыш яму. Калі я адпраўляўся ў дарогу, я і не думаў, што гэта яма будзе такая небяспечная. І Гуго не ведаў, што трапіць у яе з партызанскай куляй. Ледзь не з кожнага лесу чакай стрэлаў... І ўсё ж мы яму пераскочылі,—і можна сказаць — гоп...

Ён засмяяўся і выглянуў з будкі.

Эшалон ішоў на павароце. З акна было відаць яго сярэдзіну і хвост. Вагоны дробненька гойдаліся, ляцелі, нібы за нечым гналіся ці баяліся адстаць. За імі несліся платформы з грузам, які быў абцягнуты брызентам. Брызент, быццам ветразь, надзімаўся і трапятаў на ветры. На апошняй платформе, хутаючыся ў каўнер кажуха, стаяў вартавы.

— Яшчэ толькі дзве станцыі, і мы здадзім эшалон! Нямецкі франтавік атрымае вялікі падарунак, які нецярпліва чакае...

Праз шум эшалона прарваўся недалёкі гарматны выбух. Затым яшчэ некалькі выбухаў большай сілы.

— О! Чуеце? Фронт! Хутка мы можам сказаць: злазь — прыехалі... Прымай падарунак! Гэтыя снарады будуць дабіваць рускую армію, каторая ўцякае за Маскву.

Яфрэйтар урачыста змоўк. Яму было не да размовы. Нуда скончылася, уперадзе, зусім блізка, была доўгачаканая мэта — канец усіх трывог і час прыемнага спакою.

З набліжэннем станцыі старога машыніста пакідалі апошнія супакойлівыя думкі і падымалася прыкрасць да сябе. Згадалася, як Валя ўгаворвала пусціць паравоз пад адхон,— згадалася з нямым цяжкім папрокам. «Трэба быць героем, каб не быць здраднікам... Сярэдзіны няма...» — успомніліся яму словы Валі, і ён падумаў, што ў іх была суровая праўда.

Ён не мог быць героем. Ён адчуваў, што не здолен нічога гераічнага зрабіць, не здолен задушыць няўпэўненасці, разгубленасці, якія прымушалі падпарадкоўвацца ненавіснаму гітлераўцу і весці эшалон наперакор свайму жаданню.

Але ён не хацеў быць нягоднікам.

З адчуваннем непапраўнага няшчасця, якое павінна давяршыцца, змучаны доўгай дарогаю і думкамі, стары падводзіў эшалон да станцыі.

Збоку пабег зараснік. Уперадзе, з-за ўзгорка, выпаўзалі чырвоныя камяніцы станцыі. Машыніст націснуў на рэгулятар.

Грукаючы на крыжавінах, цягнік прайшоў міма ўваходных стрэлак, паступова суцішаючы ход. Ён спыніўся каля напалову разбуранага каменнага пакгауза, за якім пачынаўся пераезд.

На пераездзе рабілася нешта незвычайнае.

Антонік здзіўлена глядзеў. Уся дарога была забіта аўтамашынамі, павозкамі, салдатамі. Слупы на пераездзе былі зламаны. Калі сціхла сіпенне пары, ён пачуў крыкі — кароткія, прарэзлівыя, бязладныя,— відаць, лаянку. Нічога нельга было разабраць. Адна машына ссунулася колам у кювет, стаяла нахіліўшыся. Ззаду, не спыняючыся, нецярпліва націскала наступная, пакуль урэшце не зваліла папярэднюю. З кабінкі

зваленага грузавіка вылез шафёр і, пагрозліва размахваючы рукамі, кінуўся да машыны, што ішла ззаду.

Валя, трымаючыся рукамі, вісела на поручнях.

— Уцякаюць... Кулём ляцяць,— шаптала яна і задыхалася ад хвалявання.

Антонік азірнуўся да акна, каля якога стаяў яфрэйтар. У тую хвіліну немец таксама неўразуменна азірнуўся, і позіркі іх сустрэліся. Яфрэйтар чамусьці расшпільваў і зашпільваў шынель. Стары ўсміхнуўся — не насмешліва, а ўрачыста-радасна. На хвіліну ён адчуў сябе мацней за яфрэйтара,— гэта было такое добрае адчуванне! Шкада, яно хутка прамільгнула і знікла. Яфрэйтар раптам схамянуўся і кінуўся з будкі, відаць, да каменданта эшалона.

Хвіліну пасля, схапіўшы чайнік, выбегла Валя. Яна лёгка пераскоквала цераз рэйкі. За пуцямі, каля пакгауза, праходзіў кульгавы чыгуначнік у чорнай ватоўцы, са скрынкай у руцэ. Валя спыніла яго, і яны аб нечым гаварылі, пакуль не падышоў нямецкі вартавы.

Валя вярнулася. З таго, што яна забыла набраць вады ў чайнік, і па стрымана дарослай хадзе Антонік здагадаўся, што яна вельмі ўзрушана. Ён адчуў, як з набліжэннем Валі ў ім нястрымна расце нейкая радасная трывога.

— Ну? — нецярпліва кінуў насустрач ёй стары, ледзь яна ступіла на падножку.

— Кулём ляцяць!

Валя засмяялася шырока, па-дзіцячаму.

І ўся яна ад радасці стала дзіцём, стала не падобнай на тую самотную задумлівую дзяўчыну, якой была ўсю дарогу...

Яна перавяла дых.

— Кулём! Кулём! — ёй падабалася вымаўляць гэтае слова.— Ляцяць гансы... Аж заняло дыхаць...

— Ды гавары ты хутчэй!

— Даюць лататы гансы! Эшалоны гоняць, кажа, адтуль, з фронту... Хочуць пагнаць назад. Учора самалёты прыляталі. Нашы! Спачатку бамбілі. Пакгауз гэты яны разбілі. А потым лістоўкі скінулі: «Чырвоная Армія наступае».

— Чырвоная Армія наступае? — узрушана, нібы не верачы, перапытаў стары.

— Наступае! Занялі многа гарадоў. Толькі я іх не

запомніла — ад радасці ўсё з галавы вылецела. Многа танкаў нямецкіх захапілі. Гоняць гансаў ад Масквы. Ух, слаўна! Што робіцца, а? Дзядзька Змітро? Вы чуеце?

Яна схапіла Антоніка за пінжак і затармасіла.

Размову перарваў яфрэйтар. Ён ускочыў на падножку і, трымаючыся за поручні, скамандаваў па-нямецку высокім прарэзлівым голасам. Салдаты, што былі выйшлі з вагонаў, хапатліва кінуліся назад.

Яфрэйтар стаяў каля акна і нецярпліва чакаў сігналу да адпраўкі эшалона. Паўз акно з лязгам і скрогатам марудна поўз таварны састаў. Ад непакою Коху захацелася курыць, ён выцягнуў партсігар. Але ўспомніў, што папярос няма, і вылаяўся. Таварны састаў доўга яшчэ плёўся міма акна.

— Самалёты! — раптам крыкнула Валя.

Яфрэйтар кінуўся да акна, дзе стаяў машыніст. Самалёты былі далёка, над дарогай, што вяла сюды, к пераезду. Адтуль далятаў іх рокат, які перарываўся глухімі і цяжкімі выбухамі бомб. Над дарогай адзін за другім узбіваліся ўгору клубы чорнага дыму. Цёмная густая хмара ўздымалася над трапяткімі пералівістымі языкамі пажару, выцягвалася, распаўзалася па яснаму блакіту зімовага неба. Тры самалёты аддзяліліся ад групы і накіраваліся да станцыі. Яны ішлі нізка, яшчэ болей паніжаліся. Здавалася, што яны цалкам сваімі целамі нацэліліся на будынкі станцыі.

Кох вылецеў з будкі. Перакульваючыся цераз зламаную агароджу каля пакгауза, ён зачапіўся нагою і ўпаў у снег.

Штурмавікі з рэзкім рокатам набліжаліся. Салдаты, гнетучыся ў дзвярах, высыпалі з вагонаў. На дарозе шафёры кідалі машыны і ўцякалі ў поле. Бегчы было цяжка — па пояс у снезе. Яны грузнулі, спатыкаліся, падалі, ускоквалі і беглі зноў, куды глядзяць вочы. Роў самалётаў нарастаў. Суха затрашчала кулямётная чарга.

Толькі стары машыніст і Валя не хаваліся. Яны нібы забылі, што іх могуць забіць. З ровам самалётаў шырылася радаснае хваляванне ў грудзях. У цішыні, што запанавала над усім, былі чутны роў самалётаў, кулямётныя чэргі, якія ўсё набліжаліся, мацнелі і з якімі мацнелі гулкія, важкія ўдары двух сэрцаў. Стары

і Валя стаялі поруч, неадрыўна сачылі за самалётамі. Пачалі біць зеніткі, брудныя воблачкі разрываў успыхвалі ў блакіце неба, але самалёты імчалі і імчалі.

Калі яны разварочваліся, Валя раптам убачыла ясную чырвоную зорку.

— Зорачка! Наша, любая!

Самалёты нізка-нізка пранесліся, прыцiскаючы вагоны кулямётным градам і грымотным рокатам матораў. У будцы пасыпалася разбітае шкло. Яны праляцелі так нізка, што па зямлі віхурай закруціўся снег. Валя мімаволі нагнула галаву.

Самалёты зніклі, паступова суцішыўся іх гул. Кох устаў, агледзеўся і зноў паваліўся.

— Вяртаюцца!

Валя ўхапілася за поручні, прагна сачыла за самалётамі. Штурмавікі зноў набліжаліся.

Антонік задыхаўся ад шчасця, ён забыў пра ўсё іншае, можа, у соты раз паўтараў: «Так іх, нелюдзяў! Так іх!..»

Валя бачыла, як з-пад самалётаў пасыпаліся чорныя, падобныя на рыб, бомбы. Яна скочыла ў будку і, прыціснуўшыся да сценкі, увабраўшы галаву ў плечы, замёршы, з трывогай прыслухоўвалася да гнятучага свісту бомб. Яна чакала, сэрца сціснулася, спынілася. Бомбы рваліся з цяжкім земляным выбухам, з рэзкім скрогатам — то адна за адной, то адразу па некалькі. Па будцы білі цвёрдыя, як камень, мёрзлыя камякі зямлі.

— Уцякайма,— тузанула Валя старога.

Антонік нахмурыўся.

— Уцячэм!.. Тут недалёка нашы...

— Я дзесяці крокаў не прабягу...

Раптам твар яго пасвятлеў, вочы заблішчалі рашучасцю.

— Добра. Толькі — па аднаму... Спачатку — ты, пасля я... Там, за пуцямі, пачынаецца вёска. Можна схавацца. Бяжы туды, ластаўка!

Яна саскочыла, азірнулася ў бакі і шмыгнула пад састаў, што стаяў на суседнім пуці...

Самалёты вярталіся, Антонік на хвіліну затрымаўся, падбег да акна. Ён быў у забыцці, ён упіваўся боем. Яму прагнулася ўсё бачыць. Стары пазіраў то на неба, то на снег — на перапалоханых немцаў. Ён рада-

ваўся і хваляваўся так, быццам сам бамбіў. «Туды, у кучку страляй!» — крычаў ён самалёту. Яму нібы перадавалася тая сіла, якую неслі самалёты і якой баяліся гітлераўцы. Ён цяпер ёю жыў.

«Трасцы ваш эшалон пабачыць Маскву»,— падумаў машыніст.

Ён саскочыў на зямлю, пераступіў цераз разарваны тэлефонны провад, што курчыўся на снезе. У галаве на міг ліхаманкава ўспыхнула: «Адбегчы б, адбегчы б — пакуль Кох адхаецца...»

Штурмавікі набліжаліся зноў — доўгія, цёмныя. «Усяго якую сотню крокаў... Адбегчы б... адбегчы б...» — стукала гулка ў грудзях старога.

Нечакана моцная паветраная хваля ўдарыла яго, падхапіла, перавярнула ніц і кінула ў чорную глыбіню. Адразу ўсё знікла, усё сцішылася. Ён не чуў больш ні выбухаў бомб, ні рокату матораў.

Стары апрытомнеў, калі самалётаў ужо не было. Колькі цягнулася забыццё, Антонік не ведаў. Уперадзе каля станцыі гарэлі эшалоны. Вакол стаяла такая цішыня, што ад яе нудзіла.

Затым цішыня стала радзець, крышыцца. Ледзь чутна, урыўкамі ўвайшлі галасы. Спачатку ён не мог разабраць ні аднаго слова, галасы зліваліся ў аднастайны гул. Недалёка хтосьці стагнаў. Потым Антонік адчуў, што сілы вяртаюцца і гукі яснеюць, і падумаў, што ён, мусіць, ранены. Стары паспрабаваў падняцца. З вялікім намаганнем яму ўдалося сесці. Галава кружылася ад слабасці.

Амаль у тую ж хвіліну ён убачыў Коха і некалькі салдат каля яго. Яны ішлі да старога. Салдаты ўзялі Антоніка пад рукі і павялі да паравоза.

— Шнэль, шнэль,— падганялі салдаты.

Яны, як ваўкі, абкружылі старога з трох бакоў і штурхалі наперад. І Антонік бязлітасна ясна адчуў, што цяпер ужо ніколі не ўдасца ўцячы.

Зноў перад ім паўстала пытанне: што рабіць? Дрыжаць, праклінаць сябе, поўзаць ніц... Жыццё ці смерць... Зноў успомнілася тое, ад чаго столькі пакутаваў дарогай, усе трывогі і сумненні.

І ён выбраў. «Не, хопіць, надрыжаўся». І калі парашыў гэта, адчуў палёгку ад таго, што рашэнне было годнае.

«Не танна возьмуць маё жыццё...»

Да яго паступова вярталася сіла, страчаная пасля кантузіі.

Узлёт наступлення, які кідаў у атаку байцоў, узняў, падхапіў машыніста, павёў яго. Не было ні маладушных думак, ні разгубленасці, ні прыкрасці да сябе. Было ясна, упершыню ясна за ўсю дарогу, светла і чыста. Ён азірнуўся думкамі назад, і ўсё, ад чаго столькі пакутаваў раней, здалося нікчэмным і бязглуздым.

Яму захацелася адпомсціць ненавіснаму Коху за здзекі і насмешкі. Стары адчуў, што ён цяпер мацнейшы за Коха. Нарэшце было суджана збыцца жаданню помсты, якое жыло ўсю дарогу.

Стомлены, суровы падняўся Антонік у будку.

— Працягнем размову,— сказаў ён, як толькі Кох апынуўся побач.— Ці не хочацца?..

— Цягнік назад, стары памяло! За-раз.

Машыніст не паварухнуўся. Кох пагрозліва дакрануўся да кабуры. Стары ў адказ пакруціў галавою.

— Э, палохаць?.. Мы і так напалоханы... і цяпер не баімся...

Збоку, недалёка ад станцыі, часта загрукаталі гарматы. Відаць, пачаўся гарачы бой, таму што стралялі вельмі часта. Яфрэйтар і машыніст, адразу забыўшыся пра размову, напружана прыслухаліся.

— Нашы! Бачыш, дзе фронт? Фронт ідзе сюды,— першы загаварыў Антонік.— Што, дрэнная ў нас армія?..

Яфрэйтар вылаяўся, расшпіліў кабуру, абарваў:

— Я апошняе слова гавару. Я не смяюся.

— Бачу, што не жартуеш... І самалёты самыя лепшыя...

— Мне няма калі жартаваць.

— Напэўна, твой падарунак дастанецца Чырвонай Арміі... Ён павінен нашым спадабацца. Падзякуюць мяне і цябе заадно...

— Хутчэй! Зараз назад! Стары памяло!

Кох наставіў пісталет, Антонік змоўк, нахмурыўся, выцвілыя бровы амаль схавалі вочы.

«Смерць...» — падумаў ён, і стала трывожна і няўтульна-адзінока. І разам з гэтым сэрца запаўняла радасць, вялікая радасць, якую прынесла вестка пра наша наступленне,— а з ёй, з радасцю, адчуванне ўну-

транай сілы, спакою і ўпэўненасці, якое ён доўга не мог знайсці.

«Жыць... Жыць... Убачыць разочак нашых... Хоць бы разочак...»

На міг з памяці вырвалася апошняя ноч на роднай станцыі, спалоханая заплаканая жонка, настаўленыя ў яго спіну вінтоўкі і салдаты, што маўкліва, цяжка ступалі ззаду, збоку, калі вялі яго на станцыю ў тую ноч. Калі вялі, падаў мокры снег, халодным няўтульным цуркам поўз за шыю... «Арына і цяпер, мабыць, гаруе, што мяне павялі ў турму...»

— Вядзі! Апошні раз.

— Не павяду.

Яфрэйтар, амаль не цэлячыся, стрэліў у яго. Антонік захістаўся і пачаў валіцца. Галава лягла нерухома, хутка заплывала крывёю, а рукі яшчэ жылі, хапалі падлогу, драпалі, чапляліся за жыццё...

Сочачы за забітым, Кох засунуў пісталет у кабуру, пацягнуўся за партсігарам — карцела курыць. Успомніўшы, што папярос няма, ён вылаяўся. Тады павярнуўся, каб уцякаць, і збялеў.

К паравозу і на станцыю беглі савецкія аўтаматчыкі.

# У ЗАВІРУХУ

*К. Чорнаму*

Лютавала завея. Угары над Засмужцам у вершалінах дрэў глуха шумеў вецер і сыпаў на дарогу халодны пыл. Міма цёмнымі высокімі сценамі бясконца ішлі сосны, варушачы кашлатымі лапамі. Сціснутая соснамі з двух бакоў дарога безліч разоў паварочвалася, выпроствалася, і ўсюды, не перастаючы, вёў аднастайную сумную песню вецер:

— Ууу-ууу!

Засмужцу здавалася, што не будзе канца гэтаму лесу, гэтай дарозе. Па яго разліках лес ужо даўно павінен быў скончыцца. Ён час ад часу з надзеяй падымаў галаву і паглядаў уперад, спадзеючыся ўбачыць поле, але там па-ранейшаму стаялі сосны.

Ён ішоў зморана, хістаючыся. Галава яго была звешана, і калі б Засмужац не падымаў яе, можна было б падумаць, што ён на хаду спіць. Снег пластам наляпіўся на яго шапку і плечы. Ззаду Засмужца, на повадзе, таксама звесіўшы галаву, неахвотна плёўся конь. Сядло на кані пабялела ад снегу: коннік, было відаць, даўно ішоў пешкі.

Здалёк, скрозь густы гул сосн аў, прарваўся гук гарматнага выбуху — напамінак пра тое, што і ў гэтую ноч ішла вайна. Данесліся яшчэ некалькі выбухаў, потым стала ціха. Засмужац прыслухаўся — выбухі не паўтараліся.

Нечакана моцны парыў халоднага ветру шалёна кінуўся на Засмужца і штурхнуў назад так, што хлопец адразу спыніўся і адступіўся, каб устаяць. Конь падняў галаву, грыва на ім заварушылася. Засмужац вышэй нацягнуў каўнер шыняля і, калі расплюшчыў вочы, убачыў, што наперадзе між рэдкімі соснамі зашарэла. Гэта было поле.

Ісці стала халадней,— Засмужац то апускаў галаву, то адхіляў твар убок, каб схаваць яго ад ледзянога ветру.

Ледзь пачалося поле, ён спатыкнуўся і ўпаў у снег. Дарога абарвалася, далей яна была замецена тоўстай гурбай снегу. Засмужцу не хацелася падымацца з мяккай снежнай пярыны. Ён ціха, нерухома ляжаў, з асалодай адчуваючы, як у целе прыемна ные стома і цяпло, нібы пасля віна, разліваецца па яго руках, нагах, кружыць галаву. Хацелася спаць.

Засмужац не спаў другія суткі. На світанні ён ішоў па гэтай дарозе насустрач, у штаб арміі, з данясеннем ад камандзіра кавалерыйскай брыгады. Да штаба арміі было кіламетраў дваццаць ці крыху болей. Але ўсе дарогі і сцяжынкі былі так закіданы снегам, што дабрацца да яго ўдалося толькі за шэсць гадзін, дашчэнту змучыўшы каня і сябе. У штабе затрымалі нядоўга, не далі спачыць. Відаць, пісьмо было важнае, бо праз паўгадзіны яму ўручылі новы пакет і загадалі неадкладна ехаць назад. Калі ён выязджаў з сяла, ад стомы і бяссонніцы адчуваў сябе змарнела. У давяршэнне да ўсяго звечара разлютавалася завіруха.

Засмужац з вялікім намаганнем прымусіў сябе падняцца і пайсці па цаліку. Ногі правальваліся да каленяў. Потым ён адразу схаваўся па пояс,— ногі згубілі пад пластам снегу цвёрды грунт... Засмужац збочыў правей і зноў з палёгкай адчуў дарогу.

Неўзабаве сумёт скончыўся, агаліўся цвёрды, вылізаны ветрам шлях. Ісці стала лепей, ногі здаваліся лягчэйшымі і высока падніmaліся. Толькі трэба было сачыць, каб не папасці ў санную каляіну, бо там было слізка.

Затым дарога зноў схавалася. Засмужац зноў блытаў — то губляў дарогу, то намацваў яе нагамі, лез, выбіваючыся з сілы. Хутка ён так звёўся, што спыняўся праз якія-небудзь тры-чатыры крокі, каб перавесці дыханне. За ўсе свае васемнаццаць год ён яшчэ ні разу не быў такі стомлены. Урэшце, калі ісці далей не хапіла сілы, хлопец сеў на каня. Гэта было каля адзінокага дуба са зламанай вершалінай, які ён запрыкмеціў, калі ішоў яшчэ першы раз. Дуб быў стары і такі шырокі, магутны, што Засмужац тады мімаволі прыпыніўся і аж свіснуў ад захаплення.

Каштан ішоў болей упэўнена, нейкім унутраным пачуццём адгадваючы дарогу. Але ён быў таксама змораны, часта спыняўся, натужна сапучы, і кранаўся далей з тупой жывёльнай упартасцю. Ад стомы ён хістаўся ў бакі, спатыкаўся. Потым, збіраючы апошнія сілы, пачаў ісці скачкамі. Засмужац пашкадаваў яго, злез з сядла і павёў каня на повадзе.

Весці каня стала цяжэй. Засмужац зразу пашкадаваў, што праехаў на ім гэтыя некалькі сот крокаў. У пачатку шляху Каштан ледзь не наступаў на пяткі і дыхаў яму на шыю; цяпер конь ледзь плёўся за ім: ішоў на тугім повадзе. Засмужцу прыходзілася не толькі ісці самому, а і цягнуць каня. Каштан часта спатыкаўся. Повад балюча рваў руку.

Засмужац зноў згубіў дарогу і ніяк не мог адшукаць яе. Ён правальваўся па пояс на кожным кроку, часам амаль поўз. Але ўparта гробся далей. У гэтым цяжкім шляху яго падмацоўвала думка пра тое, што ён робіць баявое заданне, што ад яго залежыць лёс, можа, тысяч людзей. Засмужац трымаўся за яе, як за ратунак, і, каб не выпусціць, упарта паўтараў сам сабе: «Дайсці. Што б ні было — дайсці... Данесці пакет.., Там мяне чакаюць». Па меры таго як расла стома, гэта думка рабілася аднастайнай, нібы ўціснуўся ў адно імкненне ўвесь сэнс яго цяперашняга жыцця: «Дайсці... Дайсці... Дайсці...»

Цяпер ён быў у нейкім забыцці ад нечалавечай стомы. Спатыкнуўшыся, ён упаў у снег і ляжаў колькі хвілін нерухома і маўкліва. Конь пастаяў крыху, пачакаў, потым занепакоіўся, шмаргануў повад раз, другі. Засмужац бяздумна павярнуўся і ўбачыў над сабою храпу каня: галава каня здавалася незвычайна вялікай. Каштан пазіраў круглымі вачыма трывожна і нецярпліва. Гэты позірк вывеў Засмужца з забыцця.

Ён павольна падняўся і палез уперад.

Раптам Засмужац перад сабою — крыху ўбаку — убачыў агеньчык. Ён не паверыў, з трывогай падумаў, што гэта здалося. Засмужац працёр вочы, але агеньчык гарэў.

Ён мігцеў, дрыжаў, вясёлы агеньчык. Ва ўсім свеце быў ён толькі адзін, а кругом, як і раней, трубіла бура. Але чалавек ужо нічога не бачыў, толькі гэты маленькі агеньчык. Яго ратоўны бляск трапіў у грудзі, і За-

смужцу зрабілася цёпла і хараша, нібы на такой адлегласці перадавалася яго цяпло. Ён быў упэўнены: агеньчык гэты — у яго вёсцы,— яго мэта. Агеньчык быў такі блізкі, жаданы, мігцеў перад самымі вачыма, і Засмужац, грузнучы ў снезе, пабег проста туды. Ён болей не шукаў дарогі.

Перад вёскай яго аклікнулі патрулі. Засмужац узрадавана адказаў.

Калі ён ішоў да штаба, што быў пасярэдзіне вёскі, то ўбачыў некалькі дзіўных, чорных пустыроў. На адным з іх варушыўся, трапятаў агеньчык — гарэлі галавешкі. Дзе-нідзе, астываючы, воўчымі вачыма• тлелі вугалькі. Завіруха круціла вакол іх пасмы снегу, хапалася закрыць сумную пустэчу халоднай беллю. На чарнаце пажарышчаў добра былі відны чыстыя лапіны замеці і языкі сумётаў.

Пасля таго як Засмужац мінуў пажарышчы, да яго дайшла здагадка, што адзін з тых агеньчыкаў, напэўна, і свяціў яму. Весяліў і грэў у полі — агеньчык нечай бяды...

Перадаўшы пакет, Засмужац лёгкай хадой накіраваўся ў свой узвод. Завёў каня ў хлеў, у зацішку рассядлаў, падкінуў яму сена і ўвайшоў у хату.

У хаце прыемна пахла цёплым хлебам і напаленай печкай. Салдат весела прывітаўся з маладзіцай і доўга расшпільваў шынель. Замерзлыя пальцы не слухаліся. Жанчына, сумна сочачы за ім, паківала галавой.

— Дай дапамагу...

Яна лёгка сцягнула задубелы ад марозу шынель і ватоўку. Пад гімнасцёркай вызначыліся вострыя, неакрэплыя яшчэ плечы.

Ад нечаканага наплыву вясёласці Засмужац моцна абхапіў жанчыну за стан і прыцягнуў да сябе. Маладзіца нявесела паглядзела на яго стрыжаную галаву, на якой спераду смешна, па-дзіцячаму, тырчалі вожыкам серабрыстыя валаскі, паспрабавала вызваліцца.

— Пусці. А то мамцы тваёй напішу — наб'е,— паспрабавала яна пажартаваць.

— Кажы, кажы. Усё роўна не пушчу...

— От, на гэта сілы дык хапае! Пусці!

— Не пушчу!

Яму было весела, а чаму — ён і сам не ведаў. Засмужац па-дзіцячаму шырока засмяяўся і нечакана ад-

пусціў яе. Усмешка, што цяпер не сыходзіла з ясна-ружовых шчок, з поўных лагодных губ, рабіла яго маладзейшым нават за васемнаццаць год. Цяпер цяжка было ўявіць, што зусім нядаўна гэты хлапчук з нечалавечай упартасцю прабіраўся праз завіруху.

Калі затым Засмужац сеў каля печкі, то адчуў сябе такім знябытым, што, здаецца, не змог бы скрануцца з месца. Але той вясёлы, радасны настрой, што невядома адкуль увайшоў у душу, заставаўся, хоць і крыху прыцішаны ад стомы. Ён з асалодай слухаў, як прыемна млее ўсё цела.

На хвіліну ён падумаў пра ўсё перажытае ў дарозе і сам здзівіўся, што столькі здолеў вытрымаць. Каб яшчэ раз прыйшлося, ён, здавалася яму, не зрабіў бы і паловы таго, што раней. Але ён ведаў, што на сягоння ўсё скончана, што болей не прыйдзецца. За акном лютавала завіруха, у коміне цягуча свістаў вецер — ууууу! — але Засмужцу радасна было чуць гэтую музыку. Цяпер усё — і вецер, і холад былі далёка.

Маладзіца выняла з печкі чыгунок і паставіла на стол. Запахла бульбай. Засмужцу было радасна сачыць, як над чыгунком падымаецца пара.

— Садзіся, кіслы. Зусім раскіс... Мужчына называецца!

Яна ўсміхнулася. Засмужац здзівіўся, як гэта ён раней не заўважыў, што ў яе такая харошая і шчырая ўсмешка. І ямачкі на шчоках прыгожыя, калі яна смяецца. І голас такі мілагучны і лагодны.

Жанчына паставіла кубак з малаком, Засмужац сеў за стол і пачаў вячэраць. А тая слала на падлозе пасцель — прывабліва шалясцела сена...

У Засмужца непераможна зліпаліся павекі, звінела ў галаве. Думкі варушыліся ляніва, часамі іх бязладна перабівалі то малюнкі сну, то малюнкі замеці... Зламаны дуб. Каламутнае поле... Агеньчык мігае... Ён паспрабаваў адагнаць сон,— нейкая надакучлівая думка неадчэпна, як сляпень, круцілася ў галаве. Засмужцу вельмі хацелася злавіць яе, а яна ніяк не давалася. Хлопец пачаў перабіраць думкі і нарэшце патрапіў на тое, што хвалявала.

— Ага... Дзе Казлоў і Бондар?

Казлоў і Бондар былі салдатамі з яго ўзвода і таварышамі на гэтай кватэры.

— Той ноччу на світанні як пайшлі...— уздыхнула жанчына.— Паклікалі іх на самым світанні, пасля таго як ты паехаў. Потым за сялом вельмі стралялі. І гарматы і кулямёты. У акне шыбы ледзь не павыляталі. Проста страх — так стралялі. Многа, кажуць, немцаў паклалі... Ды ты спі, Мікола. Паспі, пасля будзеш пытаць...

— І пра іх нічога не чуваць?

— Нічога... А ты кладзіся спаць... Нічога. Толькі Арсеніха казала, што і нашых лягло там. У Арсеніхі камандзір у хаце стаяў. Як бо яго прозвішча?

— Кандраценя.

— Не інакш Кандраценя. То яго забілі. Яна плакала, як па сыне. І яшчэ багата загінула. А Грышку таго рудога бачыла раненага. Уся галава ў марлях. Пра Бондара і Казлова пыталася, дык — не, кажа, не бачыў... Скінь боты, я прасушу іх...

Яна памагла яму зняць боты. Слала на печы анучы, калі стукнулі ў сенцах дзверы. У хату ўвайшоў Казлоў. Адзін рукаў яго шыняля быў адрэзаны да локця. Рука да таго месца, дакуль адрэзаны рукаў, была забінтавана і вісела на марлевай касынцы.

— Што так гледзіце? Не чакалі? А? Нечаканы госць!.. Здарова, салдат!.. Ну што, даплёўся?

— Выходзіць, даплёўся. І сам аж не спадзяваўся, што даграбуся. А дзе Бондар?

— Кепска з Бондарам... А Сіманава і Пятра забілі. Разведцы нашай дасталося больш за ўсіх. У нашым узводзе ты ды я ды мы з табой— чатыры чалавекі засталіся, а то ўсе раненыя. Я таксама ледзь не згуляў у скрынку, у бога душу яго!.. Але і фрыцаў намалацілі — поле ўсё пачарнела ад трупаў. У такую пагоду палезлі. З імі гэтых дзіваў яшчэ не здаралася... Увогуле заўтра, кажуць, трэба таксама чакаць...

Засмужац спытаў, хто застаўся жывы,— імя за імем назваў таварышаў. Казлоў адказаў, і перад Засмужцам паступова маляваўся ўпарты крывавы бой, што прайшоў мінулай ноччу. Бой гэты маляваўся яму нейкім нячутным, нерэальным. Засмужац ніяк не мог адчуць мёртвымі тых, якія ўжо не жылі. Усё ж ранейшы бесклапотна-радасны настрой, хоць і нялёгка, змяняўся трывогай і прадчуваннем недалёкага бою. Яшчэ разам з гэтым, як дамешак, было глухое пачуццё няёмкасці

за сябе, за тое, што ён цягнуўся недзе ў тылу тады, як тут біліся насмерць.

— Фрыцам вельмі не падабаецца наш клін. Ім ён што нож у сэрца. Наўрад ці астылі і цяпер... Але хай паспрабуюць! — пагрозліва прагаварыў Казлоў, здымаючы шынель.

Больш Засмужац нічога не чуў. Сон захапіў яго нечакана, адразу. Галава бяссільна ўпала на кулакі, пакладзеныя адзін на другі на стале.

Снілася — спакойна блішчыць Прыпяць. Засмужац узмахвае вёсламі. З вёслаў са звонам падаюць кроплі вады. А на карме, каля руля, сядзіць Галя, яго нявеста. Яна ў шаўковым белым плацці, на галаве вянок, што сплялі на лузе. Такая харошая, жаданая! Ён выпусціў вёслы з рук, пацягнуў Галю да сябе, каб пацалаваць, і нечакана пахаладзеў ад агіды. Гэта была не Галя, а немец. Той засмяяўся і выставіў губы для пацалунка. Раптам змяніўся з твару, нахмурыўся і штурхнуў Засмужца ў ваду. Смяротная стома скавала цела... Нехта схапіў яго, вывалак на бераг, валтузіў, каб вярнуць к жыццю. Засмужац чуў, як яго клічуць, і ніяк не мог падаць голасу.

Калі ён прачнуўся нарэшце, то ўбачыў, што сядзіць за сталом, а перад ім стаіць капітан, начальнік разведкі. Казлоў, з рукой на марлевай падвязцы, неспакойна ходзіць па хаце і курыць.

— Ну і спіце ж вы, Засмужац!

— Што? — недаўмеў ён.

— Спіце, кажу, моцна...

— Здарожыўся вельмі, таварыш капітан.

— Разумею... Але спаць больш не давядзецца. Трэба адвезці пакет у штаб арміі. Вельмі тэрмінова, неадкладна.

— Таварыш капітан...— папрасіўся Засмужац.

— Ведаю, што змарыўся.

— Я проста больш не магу.

— Спачуваю. Але некага паслаць.

— Пашліце каго... Ну, Бондара...

— Памёр... ад ран.

Пры апошніх словах капітана Засмужцу раптам прыгадалася нядаўняя размова з Казловым, забытая таму, што хлопец усё яшчэ быў у паўсне. Капітан кіўнуў галавою на лаўку. Толькі цяпер Засмужац убачыў

за спіною капітана на лаўцы цела таварыша. Яго прынеслі, калі Засмужац спаў. Трывожна і вінавата падышоў Засмужац да Бондара.

Капітан ступіў убок, і святло лямпы, якое загароджвала яго спіна, упала на нябожчыка. Бондар ляжаў на лаўцы, выпрастаўшыся, да грудзей накрыты шынялём, заплямленым закарэлай крывёю.

Засмужац некалькі хвілін стаяў, як скамянелы, не маючы сілы адарваць позірк ад твару таварыша. Рысы таго былі скрыўлены болем, выраз перадсмяротнай пакуты так і застыў на пабялелых, моцна сціснутых тонкіх вуснах, у напаўадкрытых цёмных вачах Засмужца ўзрушыў не столькі выраз пакуты, колькі нечаканы выраз гневу, які не магла сцерці нават смерць. Засмужцу здалося раптам, што Бондар зараз ускочыць і закрычыць яму: «Што ты яшчэ можаш патрабаваць ад мяне?! Як ты смееш звальваць на мяне?! І як ты можаш адмаўляцца пасля мяне!»

Засмужац ад неспадзеўкі спалохана выпрастаўся, падцягнуўся, як ад сапраўднага вокрыку. Стома адступіла. На яе месца прыйшлі туга ад сустрэчы са смерцю, страх і вінаватасць.

Ён быў малазнаёмы з Бондарам. Яны ўпершыню пазнаёміліся ўсяго некалькі дзён назад. Хадзілі разам перад цёмным начным полем, ахоўвалі свае зямлянкі, потым разам грэліся ў зямлянцы кіпенем з аднаго кацялка...

Ён толькі і ведаў, што Бондар — не раўня яму, вопытны, заслужаны разведчык, ваюе другі год. У іх узводзе разведкі ўсе паважалі Бондара; ён жа, Засмужац, навічок, крыху нават пабойваўся...

Цяпер, блізка стоячы перад загінуўшым, Засмужац упершыню адчуў, што нейкія не вядомыя дасюль сувязі збліжаюць і моцна яднаюць іх. Тое, што яны ваявалі ў адным узводзе, што ў іх была адна мэта, адзін вораг, паўстала цяпер у новым, вострым святле. Чалавек, якога ён мала ведаў, зрабіўся блізкі, як бы родны.

Побач з Засмужцам стаяла і плакала жанчына. У яго ж не было ні слёз, ні думак, усю яго істоту запаўняла адно вялікае пачуццё. У тым пачуцці неразрыўна спляталіся тужлівае адчуванне смерці, горыч віны і імкненне як-небудзь паправіцца.

Ён нічога не гаварыў, не кляўся. Тое, што ён пера-

жываў, было такім вялікім, складаным і цяжкім, што словы нічога не значылі. Засмужцу хацелася дзейнічаць, страляць, а не гаварыць. Яго вялікае пачуццё патрабавала вялікага, гераічнага.

Капітан, нібы заўважыўшы забытае, нахіліўся да мёртвага, скрыжаваў яго рукі на грудзях. Потым моўчкі павярнуўся да Засмужца. Той адвёў позірк.

— Таварыш капітан, мне патрэбен другі конь... Каштан не можа ісці...

— Вам асядлалі Бондарава Звера.

Болей Засмужац не сказаў ні слова, абуўся, адзеўся і, не развітаўшыся, выйшаў з хаты.

У твар біў сцюдзёны вецер. Курэла. Засмужцу было лягчэй стаяць пад ледзянымі ўдарамі ветру. Падвялі каня. Засмужац узняўся ў сядло, нацягнуў повад.

— Ну, бывай,— сказаў капітан, аддаючы пакет.— Шчасліва даехаць.

— Шчасліва заставацца, таварыш капітан.

Конь хутка вынес яго за сяло. Зноў аклікнулі патрулі і, пазнаўшы, прапусцілі ў поле.

Ад бяссонніцы звінела ў галаве. «Спаў дрэнна і мала; мабыць, і гадзіны не паспаў,— падумаў ён.— Нават у сне не адчэпішся ад немцаў».

Хлопец сутаргава пазяхнуў, успомніўшы перарваны сон, але ўжо не шкадаваў, што ён так нечакана скончыўся.

Халодны вецер памагаў адганяць сон. Паплылі думкі. «Цяжка будзе,— падумаў ён, згадаўшы ўвесь шлях наперадзе.— Але — нічога,— падбадзёрыў ён сябе.— Вытрымаю. Усю сілу збяру, але вытрымаю... Хоць і цяжка будзе, а дайду...»

Застаяўшыся ў хляве, конь ішоў лёгка, праворна. Засмужац, задумаўшыся, не заўважыў, як апынуўся сярод поля. Тут схамянуўся і агледзеўся.

Агеньчыка ззаду не было — патух ці закрыла мітуслівая заслона завірухі.

Больш Засмужац не азіраўся. Уперадзе зноў ляжала далёкая цяжкая дарога. Не змаўкаючы, гула завіруха.

# НОЧЧУ

Маша ўвайшла ў хату і пачала моўчкі распранацца. Развязала хустку, на якой блішчалі сняжынкі, скінула задубянелую ватоўку. Распраналася яна маруднa — ад утомы, што роўным цёплым цяжарам наліла цела.

— Ад Сямёна нічога не было? — спытала яна, зірнуўшы на свякруху пільнымі, знарок спакойнымі вачыма. Хоць па твары старой бачыла, што не было.

— Нічога...— адказала свякруха.

Сум зноў балюча здушыў Машына сэрца. Толькі зараз было цяжэй, чым днём у лесе, але гэта быў той жа важкі сум ад трывожных думак пра мужа, ад якога болей за два месяцы не прыходзіла пісьмаў. Гэты сум толькі часова адышоў у дарозе, калі жанчыны збіраліся ля яе воза і жартавалі.

Маша, расціраючы рукамі пунцовыя намёрзлыя шчокі, падышла да стала. Была яна невысокая, павольная і, відаць, дужая. Шарсцяны світэр шчыльна аблягаў поўныя грудзі і круглыя плечы. Не расчасаныя валасы былі прымяты і пераблытаны. За сталом сядзеў сын і чытаў, ён не звяртаў увагі на прыход маткі. Маша наблізілася да яго, пяшчотна пагладзіла любыя белыя валасы. («Зусім як у Сямёна»,— падумала яна.) Мікола, не адрываючыся ад кніжкі, нецярпліва крутнуў галавою. Ён не любіў, калі маці лашчыла, бо лічыў сябе ледзь не сталым мужчынам. Яму пайшоў дзесяты год.

— Якая кніга, Мікола?

— «Рускі характар».

— Цікавая?

— Угу,— адказаў сын, не ўзнімаючы вачэй ад кніжкі.

Маша зноў пагладзіла яго белую галоўку, затым адышла і села каля процілеглага ўскрайку стала. Свякруха — сухенькая, з худымі вострымі плячыма бабулька — паставіла на стол вячэру, падала ўсім лыжкі і села таксама.

— Кінь кнігу, Мікалай. Бяры лыжку ды вячэрай.

— Не хачу.

— Кінь, кажу,— строга загадала бабуля.

Мікола нічога не адказаў, як бы не чуў загаду, працягваў чытаць. Маці і бабуля пачалі вячэраць.

— Што ж гэта ты такая сумная, нявестачка? Змарнавалася, родная? Хіба жаночая справа дровы вазіць? Гэта і мужчыне не ўсякаму пад сілу... Усё — жанкі... Ох, ліха...

Маша маўчала. Ад ласкавага, спагадлівага слова сэрца сціснулася яшчэ цяжэй. Словы не ішлі, думкі нібы застылі, нібы завалакліся змрокам.

— За Сямёна ты не бойся,— лагодным голасам гаманіла свякруха.— Будзе жывы, Мар'ечка. Вернецца. Я ўжо ведаю. Чаго толькі сябе зводзіць, у сухоты ўганяць...

— Не магу я. Так баюся, каб чаго з ім, крый божа, не сталася.

— А ты паплач, Мар'ечка. Паплач. Жаночая сляза што вада, а паплачаш, і — лягчэй. Лепш робіцца. Ты паплач.

— Нашто? Хіба слязьмі паможаш чаму?

Мікола дачытаў раздзел да канца, паглядзеўшы для памяці на нумар старонкі, закрыў кнігу і пачаў сёрбаць крупнік. Еў ён спачатку маўкліва і задуменна, пад уражаннем прачытанага.

— Мам,— раптам загаварыў ён.— Васеў бацька ўчора прыехаў з фронту. Прыйшоў вечарам, а яго не пазналі. Кажуць — наш чалавек на фронце. А я свайго бацьку адразу пазнаў бы, каб толькі прыйшоў... А потым пусцілі. А сягоння ён быў у нас у класе. У шынялі і з пагонамі. А на пагоне дзве зорачкі і адна пасачка. Я сам бачыў. Яго бацька лейтэнант, а Вася гаворыць, што ён скора будзе капітанам. А я сказаў, што ён спачатку павінен быць старшым лейтэнантам, а пасля — капітанам. Праўда, мама?

— Не ведаю.

— От, і заўсёды ты не ведаеш! А настаўніца наша, Ліда Іванаўна, усё ведае.

— На тое яна і настаўніца.

— Мама, а чаму ад нашага таты няма пісьмаў? Я так занудзіўся. Усім прыносяць, а нам няма. Ён ранены, мам. А?

— Што ты вярзеш, дурны? — уз'елася раптам бабуля.— Вось зараз як плясну лыжкай па галаве. Скажы толькі шчэ раз.

— Я ж праўду кажу,— упарта запярэчыў Мікола.— Калі б ён быў не ранены, то пісаў бы.

— Пагавары шчэ трошкі!

— Не паграждай. Я цябе не баюся,— смела адказаў Мікола, але на ўсякі выпадак падсунуўся бліжэй да маткі.

Бабуля паглядзела на Машу. Тая сядзела сумная, з пачырванелымі вачыма, моцна сцяўшы журботныя губы.

— Мама, не крыўдзіцеся на Міколу. Што ён разумее?

— Я ўсё разумею. Ты заўсёды кажаш, што я малы. А Васеў бацька сказаў, што я ўжо вялікі.

Ніхто не запярэчыў яму, і рэшту вячэры сядзелі маўкліва. Калі павячэралі, Маша паслала ложак і лягла спаць. Побач прымасціўся Мікола, паклаўшы сваю белую галоўку на яе руку. Ён адразу заснуў, а Маша не магла.

У вачах, калі яна заплюшчыла іх, спачатку праходзілі задумлівыя, доўгія шэрагі танклявых аснежаных бяроз. Бель адбірала вочы. Потым бярозы валіліся, асыпаючы з веццяў снег-пушок, чапляючыся, нібы спрабавалі ўтрымацца, за галіны сваіх сяброўак; плыла бліскуча-бронзавая санная каляіна; скрыпелі сані, і галёкалі звонкія жаночыя галасы, падганяючы коней.

Затым усё кудысьці знікла, і яна ўбачыла, як у пакой нячутна ўвайшоў Сямён. Ён быў такі ж, як і раней: рослы, шыракаплечы, з моцнай шыяй, з белявым непакорным віхорам. Сямён ціха зачыніў дзверы і падышоў да яе. Ён прыйшоў з калгаснага сходу.

Сямён шчакой прыхінаецца да яе шчакі,— колецца, бо даўно не галіўся. «Работы шмат: старшыня калгаса»,— думае Маша. Як прыемна, як радасна з ім!

Маша адчувае хвалююча-знаёмае цяпло яго твару, і шчасліва пачуццё ўзнімаецца ўнутры. Яна ляжыць і не дыхае, не паварухнецца — так ёй хораша і лёгка!

І тады, у тую невыказна шчаслівую хвіліну, Маша мімаволі расплюшчвае вочы, і грудзі балюча сціскаюцца ад самоты. Яго няма! На печцы, як звычайна, не спіць, вохкае бабуля. Мікола аб нечым горача шэпча ў сне.

У акно пазірае белая месячная ноч. Пас мёртвага святла ляжыць на канапе, на стале, ручніком спадае на падлогу. Ноч застыла. Не чутно ні крокаў, ні галасоў, ні гукаў, нават мароз не трашчыць. Праз шыбы бачны кавалачак сіняга неба ў халодным раўнадушным бляску шматлікіх зорак. Нерухомая бясконцая ноч...

Цяжка ноччу. Колькі горкіх думак перадумана за доўгія зімовыя ночы. Усё ўспамянута, усё пераждана, засталося толькі адно: туга — важкая, цягучая. Нічога няма цяжэй за яе. Днём можна забыцца, уцячы ад тугі, а цяпер яна тут, нібы каменем ціснe грудзі.

Калі б хоць адно слова ад Сямёна. Толькі адно слова, што жывы, ну, і здаровы — і больш нічога. Тады ўсё стане інакшым. Цяжка жыць пры невядомасці... Горкую і балючую праўду, бадай, лягчэй перагараць, чым яе... Два месяцы і чатыры дні няма пісьмаў. Што з табою, любы? Ты пісаў, што баі былі моцныя. Мо паранілі? Ці захварэў?.. Паплач, паплач — лягчэй будзе. А дзе тых слёз узяць? Няма слёз — усе высахлі. З той пары, як пайшоў Сямён, не заплакала ні разу...

Марудна і доўга плылі невясёлыя думкі.

Бачыць яна: чалавек ідзе па полі. Шынель яго расперазаны, наросхрыст. Вецер паднімае полы. Гэта ён, Сямён. Сямён ідзе дадому... Ну так, дадому, у водпуск... Падыходзіць да хаты. Падымае руку і стукае... Пачакаў крыху і зноў стукае. Маша прыслухалася — тоненька сакоча шыба. Сямён стукае, а Маша ляжыць і не можа зварухнуцца. Што гэта такое з ёю дзеецца? «І ноччу няма ад яго спакою»,— бурчыць на печы бабуля. Чаму яна такая няласкавая? Яна, пэўна, не ведае, што гэта Сямён стукае?

— Гэта ж Сямён! — чуе Маша праз дрымоту свой

голас і прачынаецца. Дрыготкімі ад узрушанасці рукамі шукае спадніцу і не можа знайсці.

— Дзе той Сямён? Гэта ж твой брыгадзір, трасца яму, бяссоннаму.

Свякруха, крэкчучы і вохкаючы, марудна злазіць з печы, доўга ў прыцемках каля ложка шукае чаравікі, запальвае лямпу і нарэшце тупае ў сенцы. Бразгае засаўка.

— Няма на цябе ўгамону, бяссонны,— няласкава сустракае яна таго, хто ўвайшоў.

— Ціха, ціха. Я толькі на хвілінку.

— Спаць не дасць...

— А я не да вас. Спіце, калі ласка, на здароўе. Маша, выбачай, што патрывожыў позна... Заўтра зноў паедзеш у лес. І ўсе, хто сягоння былі. Што з табой? Ты хворая?..

— Нічога,— цяжка выціснула Маша.— Нічога. Сон прысніўся. Не глядзі... Я паеду...

Але чаму ў грудзях такая туга?

Брыгадзір — малады, цыбаты, без рукі хлопец, у паношаным франтавым шынялі з выгаралымі пятліцамі, занепакоена глядзеў на Машу. Яна вышэй нацягнула коўдру.

— Ну, бывайце!.. Чакай, от ліха! Ледзь не забыў!.. Тут табе, Маша, пісьмо — узяў на пошце... Другі дзень нашу.

— Пісьмо?!

Ён дастаў пакамечаны канверцік. Маша нецярпліва выхапіла яго з брыгадзіравых рук і прабегла вачыма надпіс. Почырк быў незнаёмы, хоць адрас стаяў ранейшы. «Пісьмо з часці»,— здагадалася яна. Хвіліну яна паглядала на канверт, не адважваючыся адкрыць, затым хутка разарвала яго і, нічога не гаворачы, упілася вачыма ў пісьмо. Яна зноў узрушылася, так моцна, што рука з пісьмом апусцілася ў знямозе.

Маша аддала пісьмо Максіму і папрасіла прачытаць.

Ён узяў пісьмо, здзіўляючыся, што яна так абышлася — не радуецца і не сумуе.

Гэта былі друкаваныя на машынцы радкі. Максім стаў чытаць:

— «Ты, мабыць, ужо хвалюешся, думаеш, ма-

быць,— што такое зрабілася з тваім мужам, што ён так доўга не піша пра сваё жыццё, ці здаровы і таму падобнае. Дык от — паведамляю табе гэтым пісьмом, мая дарагая жонка, што я, як і раней, так і ў цяперашні час, жывы і ў асноўным здаровы, і ніякіх страхаў, якія ты магла па сваёй фантазіі прыдумаць, са мной не было і быць не магло. Усё ідзе нармальна. Толькі выйшла адна маленькая прыгода. Паколькі я служу старшыною, то я вёз тыдзень назад хлеб і застраў з машынаю ў полі, і прыйшлося мне там, у полі, ноч начаваць, а было холадна, і я трохі памарозіў два пальцы на правай руцэ. З прычыны чаго і друкуе гэтае пісьмо на пішучай машынцы наш пісар і мой друг старшы сержант Гонта. Так што ў мяне ўсё ў парадку, і наогул у нас парадак поўны, і адно мяне толькі непакоіць, як там у нас дома, як Мікалай-сынок, як мама, асабліва, канешне, як ты адна па гаспадарцы... і наогул у маладым тваім... адзінокім жыцці...»

Максім спыніўся, не дачытаўшы пісьма. Ён збянтэжыўся,— Маша плакала. Хлопец паспрабаваў быў заспакоіць, але яна не адказала і заплакала мацней. Максім стаяў разгублены, не ведаў, што рабіць...

— Што ты стаіш, чорт бяссонны? Вады падай.

Ён з палёгкай кінуўся да вядра, прынёс корчык вады і працягнуў Машы. Але тая адвяла яго руку, лагодна загаварыла:

— Ты не трывожся, Максім. Гэта — так сабе... жаночыя слёзы. Чакала, чакала столькі, хвалявалася, пакутавала — і раптам, бачыш!.. Такая вестка!

— Сам не ведаю, як я забыў аддаць яго ўчора...

— А я — чаго ўжо толькі не падумала!.. То ж столькі часу — хоць бы знак які даў!..

Маша гаварыла, стрымліваючы слёзы, але на сэрцы яе было так лёгка і чыста, як лёгкія і чыстыя былі яе слёзы. Яна ўпершыню за многія дні ўсміхнулася.

— Столькі часу, хоць бы знак які! Нібы чула, што бяда нейкая!.. І от жа — пальцы два адмарозіў... Баліць, пэўна. І папакалеў, мабыць, за ноч тую... А, не дай бог, магло б і горай быць!

— Гэта нічога — пальцы!.. Зажывуць!.. Абы сам цэлы!

— Жывы, дзякуй богу!.. Толькі — чаго ж я плачу? Дурная! Ці не праўда, дурная? Трэба смяяцца, а ў мяне — слёзы!..

Бабуля, якая маўкліва паглядала на нявестку, моцна сцяўшы бяскроўныя вусны, раптам прамовіла задаволена:

— От і прыйшлі яны, тыя слёзы... Прыйшлі нарэшце.

# ТАКІ КАРОТКІ ВОДПУСК

Шкада было кожнай хвіліны, што марна прападала, але ўсё, нібы знарок, ішло насуперак.

Спачатку доўга не ўдавалася знайсці цягнік, каб пад'ехаць паўсотні кіламетраў. Эшалоны, якія праходзілі і якія стаялі тут,— або ішлі ў другі бок, або няхутка павінны былі адпраўляцца. Калі Васіль даведаўся, што на станцыю прыбыў новы састаў, які вось-вось пойдзе ў яго напрамку, ён адчуў сябе на сёмым небе. Добра, што з неба свайго бачыў зямлю: цягнік ужо крануўся, грымеў коламі па рэйках,— Васіль ледзь паспеў учапіцца за поручні.

Цягнік плёўся вельмі марудна.. Ноч была страшэнна золкая, і пранізлівы вецер, што рваўся праз тамбур, дзе ён стаяў, прашываў наскрозь. Каб не адубець, даводзілася час ад часу саскокваць з падножкі і трусіць навыперадкі з вагонам. Але хлопец не зважаў на гэтыя нягоды, адчуваў сябе нават шчаслівым: як-ніяк усё-ткі едзе, набліжаецца!

На станцыях і раз'ездах было горш: цягнік рабіў доўгія супынкі. Машыніст, здавалася, не мінаў ні аднаго самага занядбанага раз'езда без таго, каб не пастаяць колькі хвілін. Пры гэтых супынках у Васіля кожны раз нецярпліва падымалася жаданне кінуць састаў і ісці аднаму, пешкі.

На нейкай станцыі састаў спыніўся надоўга, паравоз адчапілі; чыгуначнік сказаў сяржанту, што далей цягнік пойдзе толькі праз тры гадзіны.

Васіль хутка абабег станцыю, цёмную, пустую, але навокал нічога не было, ні аднаго цягніка! Толькі ў тупіку бесклапотна сіпеў нейкі паравозік. Адчуваючы, што ўсё гіне, хлопец заспяшаўся туды. Гэта была адзіная надзея.

Паравозік быў, відаць, рабочы. У поясе святла, якое падала з будкі, стары чалавек у кароценькай ватоўцы і валёнках і худы падлетак грузілі дровы. Хлапчук, які працаваў у расшпіленай сарочцы, смыкнуўшы носам, паважна адказаў, што праз паўгадзіны паравоз пойдзе да таго гарадка, які патрэбен Васілю.

— Ну, калі так, то прымайце ў памочнікі! — весела сказаў Васіль.— Згодны?..

Ён падкасаў рукавы шыняля, з радасцю ўзяўся дапамагаць грузіць дровы.

Хутка дровы пагрузілі, і паравозік выбраўся на пуць. Васіль памагаў машыністу, паліў топку,— качагар з яго быў вельмі ўвішны і неспакойны.

— Куды гэта ты, хлопец, так спяшаешся? — запытаўся машыніст.

— У водпуск...

— А, вунь яно што! Хочацца хутчэй убачыцца?.. Але ты спакайней! Нікуды ён, водпуск гэты, не ўцячэ.

Хлопец выцер пот з твару.

— Хто ведае. У мяне такі водпуск, што можа і ўцячы...

Стары, бачачы нецярплівасць чалавека, не шкадаваў пары і выціскаў з паравозіка такую хуткасць, на якую той быў здатны.

Хвілін праз сорак паравозік спыніўся на станцыі, непадалёк ад якой у разбаўленай ранішняй сінечы мігацелі агеньчыкі гарадка. Забыўшы ў спеху развітацца, Васіль саскочыў на зямлю, азірнуўся — вакол не было ні адной постаці. Па бязлюдным пероне неспакойны вецер гнаў сухое лісце.

Адразу, як толькі Васіль ступіў на гэты перон, яго агарнула радаснае ўзрушэнне.

Ліда, яго любая Ліда, якую ён марыў пабачыць усе гэтыя гады, па якой столькі сумаваў, цяпер недалёка. Там, сярод тых агеньчыкаў у сінечы, адзін агеньчык пазірае з яе акна. Каторы?..

Па гэтым пероне Ліда, напэўна, не раз хадзіла,— можа, нават учора была... Раптам ён падумаў, што Ліда можа трапіцца кожную хвіліну насустрач, што яна можа спаткаць тут, на станцыі.

Ён зазірнуў у залу чакання і толькі пасля таго, як упэўніўся, што Ліды няма, падаўся са станцыі.

Да горада вяло шасэ, абсаджанае старымі разгалістымі асінамі. Васіль то ішоў, то пачынаў бегчы,— у сэрцы шчымлівым халадком варушыўся непакой: «Ці дома яна? А што, калі яе няма дома? Раптам паехала куды?»

«Трэба было б папярэдзіць аб прыездзе,— думаў Васіль.— Але як, калі да сённяшняй ночы я сам не ведаў, што ўдасца такое...»

Ужо добра ўднела, калі ён падыходзіў да моста, за якім пачынаўся гарадок. Вось той гарадок, які на фронт пасылаў яму столькі лістоў, напісаных рукой Ліды. Да вайны хлопец і не ведаў, што недзе на Волзе існуе такі гарадок, а потым, калі ад Ліды з эвакуацыі прыйшлі першыя лісты, гэты гарадок зрабіўся самым любым кутком на зямлі. Сотні разоў Васіль пісаў на канвертах імя гэтага гарадка. Нарэшце выпала і пабачыць...

На вуліцы хлопцу напаткаліся дзяўчаты, што весела і заўзята, перабіваючы адна адну, гаманілі. Нечакана для Васіля дзяўчына, якая ішла ўсярэдзіне, аказалася знаёмаю. Яна таксама да вайны жыла ў Мінску — вучылася ў адным інстытуце з ім і Лідаю. Калі ён прыходзіў да Ліды, то яшчэ нярэдка бачыў іх з Галяю разам...

Ён узрадаваўся гэтай выпадковай сустрэчы, памкнуўся быў падысці да Галі, але адразу падумаў, што гэта затрымае яго, што прамарнуе час, і моўчкі мінуў.

Калі ён знайшоў вуліцу Чкалава, Лідзіну вуліцу, то яшчэ здалёк убачыў нямоцны, згалелы клён і драўляны дамок з парканам. «Яна ў тым доме,— здагадаўся хлопец.— Яна пісала, што на іх двары стаіць клён».

Ён пайшоў цішэй.

Упершыню за ўсю дарогу яму захацелася не спяшацца, прыпыніцца, пачакаць.

«Што гэта са мной: хвалююся, як хлапчук які... З непрывычкі»,— вытлумачыў ён.

Колькі яны не бачыліся!.. Якая кароткая была растань той ноччу ў Мінску, у страхотным бляску пажараў! І якую разлуку прынесла яна!

Калі ён адчыніў фортку, маці Ліды секла дровы. Яна доўга, пільна ўглядвалася, не пазнаючы, потым здзіўлена і радасна ўскрыкнула:

— Васілёк?! Жывы і дужы!..

Мар'я Пятроўна выпусціла з рук сякеру, падышла да яго, пяшчотна абняла.

— А мае, Васілёк, два...— неспадзявана сумна сказала яна.— Мае...

Яна не скончыла,— апусціўшы галаву, ціха заплакала: Васіль ведаў, што ў яе на фронце загінулі два сыны.

Яе кволая, сагнутая горам постаць выклікала ў Васіля жаль і пяшчоту. Яму захацелася сказаць нешта ласкавае і добрае, каб суцешыць яе, але ён адно вінавата маўчаў.

Выцершы слёзы, маці запыталася, ці ўсе яго родныя засталіся жывыя пасля акупацыі.

— Ад бацькі няма нічога... А матка — жывая... і Верка, і Аленка... сястрычкі...— Ён нецярпліва азірнуўся.— А дзе Ліда?

— Ліда спіць. Учора прыйшла, працаўніца, толькі ў дзве гадзіны ночы... Але што ж мы сталі? Заходзь у хату, Васілёк,— схамянулася старая.

Ён чакаў, што старая скажа, адкуль Ліда прыйшла так позна,— яму гэта вельмі рупіла ведаць,— але старая не гаварыла.

Яны ўвайшлі ў хату.

Васіль наблізіўся да дзвярэй у Лідзін пакой. Ён вельмі хваляваўся — некалькі хвілін не мог крануцца, стаяў, каб перавесці дыханне. Потым паправіў шапку і пастукаў.

— Хто там?

Васіль пачуў голас Ліды, але не адказаў, каб не выдаць хвалявання, і пастукаў яшчэ раз. Ліда паўтарыла запытанне.

— Час падымацца, соня,— сказаў ён, не пазнаючы свайго голасу.— Госці да цябе...

— Ой! — ускрыкнула Ліда і сціхла.

Мар'я Пятроўна выйшла ў кухню.

Праз некалькі хвілін Ліда адчыніла дзверы і папрасіла зайсці. Яна стаяла каля акна, папраўляючы вязаную кофтачку, пазіраючы насустрач яму крыху заспанымі, але неспакойнымі, як бы недаверлівымі, вачыма. Ліда здалася яму незвычайна прыгожай. Яна пасталела і пахарашэла за гэтыя гады. Яна была шмат прыгажэй, чым на картачцы, што прыслала на фронт.

Яны абое стаялі разгубленыя, не ведаючы, як павітацца. Васіль яшчэ ў дарозе думаў, як моцна сцісне яе ў абдымках, пацалуе, яна таксама, напэўна, рада была б, каб ён абняў. Але яны так доўга не бачыліся, так адвыклі ад пяшчот, так хваляваліся абое, што разгубіліся,— асцярожна пацiснулі адно аднаму рукі...

Ліда падала табурэтку, папрасіла сесці, села сама на ўскрай ложка.

— Як гэта ты?.. Так нечакана.

— Ты не чакала? — спытаўся ён з жартаўлівай крыўдай, каб схаваць няёмкасць.

— Не, не чакала,— адказала яна ў тон.

— Значыць... я дарэмна спяшаўся?

— Выходзіць, дарэмна...

Яна паглядзела з ледзь прыкметнай усмешкай, і ў чыстых, як вада ў лясных азёрах, яе вачах, што здаваліся цёмнымі ад густых веек, успыхнулі знаёмыя гарэзныя агеньчыкі.

Гаворка пайшла весела і лёгка. Васіль жартаўліва апавядаў пра свае прыгоды ў дарозе, Ліда смяялася. Так, жартамі, яны гаварылі яшчэ доўга, пакуль ад разгубленасці, што зрабіла доўгачаканая сустрэча, не засталося і следу.

Тады ён раптам пачаў адчуваць нездавальненне. «Гэта не тое, што павінна,— падумаў ён.— Трэба сказаць нешта значнае, вялікае і пачуць шчыры адказ, трэба, каб кожнае слова было асаблівае. Бо гэта гадзіна не звычайная, асаблівая». І вясёлая, але пустая гаманлівасць пакінула яго, усмешка на чырванашчокім твары згасла, а між густымі ўскінутымі брывамі з'явіўся нездаволены раўчачок.

Ён абарваў гаворку, сціх. Ліда, даўно заўважыўшы незразумелую змену ў яго настроі, паглядзела на яго са здзіўленнем.

Васіль загаварыў з тугой і шчырасцю:

— Калі б ты, Ліда, ведала, як я рады, што бачу цябе зноў... У мяне, ведаеш, нейкае дзіўнае жаданне: хочацца, не зводзячы вачэй, глядзець і глядзець на цябе... Нават, ведаеш, гаварыць не так хочацца. Праўда... Мне ўсё роўна як шчасце — бачыць цябе, твае вочы, твае рукі... І аж нібы не верыцца, што гэта ты! Дзіўна, праўда? Гэта, мусіць, ад таго, што я прывык думаць, што ты далёка-далёка.

Ліда, крыху збянтэжаная гэтай раптоўнай гарачай шчырасцю, не прамовіла ні слова, але з позірку яе ён зразумеў, што́ яна адчувае.

Так, і яна вельмі шчаслівая, што ён тут, і для яе ён самы любы чалавек, яна любіць, як і раней. Не, больш, як раней!.. Васіль не мог адарваць вачэй ад яе.

«Хай гэтыя гадзіны будуць без смутку. Хай думае, што іх яшчэ многа»,— недзе далёка засенню наплывае думка. Яна хутка сходзіць, нібы хмурынка ў ясным, бязвоблачным небе. І зноў — толькі вочы, блізка-блізка...

— Як хораша! — ціха прашаптала Ліда.

Яе рукі даверліва ляглі на яго плечы, ён абняў яе і сядзеў моўчкі, напоўнены адчуваннем яе блізкасці і бязмежнага шчасця.

Скончылася гэта нечакана. Яны, здаецца, забыліся на ўсё на свеце, калі з кухні пачуўся голас Марыі Пятроўны:

— Ліда, час снедаць.

Ліда хутка ўстала, кінула позірк на ручны гадзіннік.

— Ой, мне трэба бегчы.

— Куды?

— На працу.

— Якую працу? Ты працуеш?

— Працую, на авіяцыйным заводзе. Хутка месяц...

— А інстытут? Вучоба?

— І вучуся, і працую... Чаму ты такі... дзіўны? — занепакоена спыталася яна.

Ён задумаўся: «Сказаць ці не?» І пасля моманту развагі рашыў: «Не, няхай пазней».

— Пасля скажу. Я цябе праўду. Добра?

Да завода, што быў кіламетры за два, на ўскраіне горада, яны ішлі вельмі хутка. Падаў першы снег, весела мітусіліся ўвішныя сняжынкі, усцілалі перад імі шлях.

— І вучышся, і працуеш! Гэта ж цяжка...

— Цяжка. Раніцай і днём — на заводзе, увечары — з чатырох да дзесяці — заняткі. Потым — падрыхтоўка да заняткаў. Учора прыйшла за поўнач. Так кожны дзень...

Вуліца падымалася ўгору. Час бязлітасна лічыў хві-

ліны, Васіль парываўся загаварыць пра тое, цяжкае, і ўсё адкладваў.

— Я хацела спачатку папрасіцца на фронт,— сказала яна,— не магла я больш сядзець тут. Мне так хацелася пайсці на фронт, Васілёк... Ды маці нельга было пакінуць адну. Гора зусім змагло яе. Бачыш, якая яна цяпер? Я адна яе падтрымлівала...

Каля заводскай брамы, на ўзгорку, яны спыніліся. Унізе ляжаў горад. Адсюль былі відаць стужкі яго вуліц, квадраты плошчаў, дахі бялелі некранутым снегам. Проста над горадам у мітуслівым прасцягу вісела нізкае, але вясёлае сонца.

— Ну, вяртайся. Адпачні, Васілёк, пасля дарогі. Маці там цябе ўладзіць... Я прыйду ў тры гадзіны. На заняткі — у такі дзень — не пайду. Будзем разам! Удваіх будзем! Удзень і ўвесь вечар!.. Як я рада, што ты прыехаў!..

Яна шчасліва засмяялася.

— А ты — нібы не рады! Зноў — хмурны! Нібы штосьці тоіш... Васіль!..

— Я хацеў сказаць, што мы... сёння... не сустрэнемся...

— Не сустрэнемся? Чаму?

— Мне трэба ісці на станцыю... Разумееш, Ліда, хутка павінен падысці мой эшалон... Мяне адпусцілі на дзесяць гадзін...

— Як гэта на дзесяць гадзін? Такі кароткі водпуск? — са здзіўленнем сказала яна.

— Я табе не хацеў гаварыць раней... Мне, Лідачка, пашанцавала. Праз вашу станцыю павінен прайсці эшалон нашага палка. Ён недалёка тут спыніўся на некалькі гадзін. Я папрасіўся, і мяне адпусцілі... На дзесяць гадзін. Каб праз дзесяць гадзін я чакаў іх тут, на станцыі...

— Толькі на дзесяць гадзін?..

— Ён скора павінен быць тут, на станцыі...

— Ну і няхай,— знарок весялей сказала яна,— чаго ж мы журымся? Мы яшчэ пабачымся! Ведаеш што,— я папрашу, каб мяне сягоння адпусцілі раней!..

Ён не ўзрадаваўся, вінавата схаваў позірк.

— Ліда, з тых дзесяці гадзін амаль восем пайшло на дарогу. Пакуль дабраўся — мінула восем гадзін...

— Восем!.. Значыць, толькі дзве!..

— Дзве.
— А я думала... А я хацела... увечар...
— Ліда, усё ж мы пабачыліся...
— На адзін міг!.. За тры гады!..
— Усё ж пабачыліся, Ліда... А што мала, то — калі на тое — хіба два гады было б досыць?
— На адзін міг!
Лідзе трэба было ісці, а яны марудзілі: здавалася, не хапала сілы, каб сказаць апошняе слова.
Васіль, каб супакоіць і яе і сябе, гаварыў пра тое, што вайна хутка скончыцца, што яны сустрэнуцца зноў і ніколі болей не разлучацца. Разам заўсёды будуць.
Напаследак, ужо развітаўшыся, ён сказаў:
— Я, калі ехаў да цябе, баяўся, што не пераганю наш эшалон ці не застану цябе. Крыўдна было б. А так я шчаслівы... Цэлых дзве гадзіны!

# АДНА

## I

На дзевяты дзень Аня зноў пераступіла парог хаты, у якой жыла сятра Арына.

У хаце нікога не было. Дзяўчына кінула на лаўку жакетку, стомлена прайшлася па пакоі. Дзе ж усе? Толькі яна падумала гэта, як у сенцах бразнула клямка і ўбегла ўстрывожаная бялявая Лорка, Арыніна дачушка.

— Цёця Аня! — узрадавана ўскрыкнула яна і кінулася да дзяўчыны. Лорка прыціснулася і хвіліну стаяла моўчкі, незнаёма сур'ёзная, нейкая пасталелая.— Ой, што тут было без вас,— раптам сумна прамовіла яна.

— А дзе мама?

— Мама на гародзе. Яна сказала — к нам нехта пайшоў, ідзі паглядзі, хто гэта?.. Табе трэба, каб яна прыйшла?

— Пакліч, Лорка.

Аня села на лаўку. Вось яна і дайшла да прыстанку. Скончыўся шлях, цяпер няма куды спяшацца, можна спачыць, даць спакой натруджаным нагам, падбітым доўгай неспакойнай дарогай. Аня так спяшалася дайсці сюды, але цяпер, калі яна ўжо тут, у яе, як і раней, няма жаданага спакою. Чаму на сэрцы такая трывога?

«Ой, што тут было без вас»,— успомніліся ёй словы Лоркі.

За акном праплыла сумным ценем Арыніна постаць.

Сястра спаткала нявесела. Увайшла павольна, паставіла да сцяны капаніцу і моўчкі стала пасярод хаты, не вітаючыся, апусціўшы пачарнелыя ад зямлі рукі.

Калі Аня падышла да Арыны і ўзяла за плечы, вус-

ны сястры задрыжалі, а ў кутках вачэй набеглі дзве светлыя празрыстыя кроплі.

— Што такое? — спалохана і разам з тым тонам, у якім чуўся загад, шапнула Аня.

— Маму нашу...

— Што?!

— Забілі маму. Няма мамы...— сястра, прыпаўшы да Анінага пляча, горка, и адчаем, не стрымліваючыся больш, загаласіла.

У грудзях Ані зрабілася пуста, усе думкі, усе пачуцці адразу зніклі. Гэта была важкая балючая пустата.

«Маму нашу...»

Яна стаяла нерухома, і нерухомым, застылым быў яе твар, на якім застаўся той выраз спалоху, калі яна гаварыла: «Што такое?»

— Калі гэта было?

— У тую суботу...

Больш яна нічога не пыталася, а Арына сама нічога не стала расказваць.

Толькі пад вечар, калі сядзелі на ганку, сястра зноў загаварыла:

— Маму расстралялі, як толькі прыйшлі. І яшчэ васемнаццаць чалавек. Бацьку Андрэя Віткоўскага таксама. І пра цябе дапытваліся, не верылі, што ты пайшла... Вывелі іх за сяло — туды, дзе гліну летась капалі. Стары Віткоўскі дык сам ісці не мог, так яго збілі. Яго вялі пад рукі Марыся Краўчукова і Алена... А мама — худая, белая як снег... Іх паставілі каля ямы на глінішчы. Людзей сагналі з сяла, каб глядзелі ўсе...

— За што іх?

— За тое, што за сялом нехта забіў салдата...

Рот яе перасмыкнула сутарга. Яна колькі хвілін стрымлівала слёзы, прыкусіўшы балюча ніжнюю збялелую губу.

— Не магу далей...— прамовіла Арына.

Аня сядзела ціха. Яна спачатку нібы не заўважала ні таго, што сястра змоўкла, ні таго, што потым тая заплакала,— ніводная рыска не варухнулася на Аніным твары. Збітая і спустошаная страшэнным горам, яна сядзела бяздумная, увабраўшы галаву ў плечы, з затоенай трывогай чакала, што Арына скажа яшчэ.

Але Арына не гаварыла нічога. Толькі рыдала, горка, уголас, па-жаночы. І чым больш яна рыдала, тым цвярдзей, нецярплівей станавілася на душы ў Ані. Яна сухім голасам выціснула:

— Кажы... Што далей.

Гэта было не падобна на просьбу. Арына здзіўлена падняла галаву.

— Я хачу ўсё ведаць... Усё.

Выціраючы ражком хусткі вочы, хліпаючы, як дзіця, Арына стала расказваць:

— Яны ляжалі там тры дні... І наша мамка, Аня, таксама. Немцы забаранілі хаваць, прыгразіліся, што будуць страляць тых, хто паспрабуе ўзяць забітага... На чацвёрты дзень навалач гэтая паехала, і мы з Ларкай мамку прыбралі і занеслі на могілкі...

Аня слухала цяпер стрымана, з упартай, строгай уважлівасцю. Арына заўважыла, што Аня змянілася за гэтыя некалькі хвілін,— калі раней яна была разгубленая, то цяпер здавалася амаль спакойнай, нават праз меру спакойнай.

— От, цяпер я ведаю ўсё,— нібы з палёгкай, з ноткай нейкай пагрозы прагаварыла яна, калі Арына скончыла.— Як сваімі вачыма пабачыла...

І быццам для доказу, што гаворка пра няшчасце скончана, Аня стала апавядаць пра дзевяць дзён, што аддзялялі яе ад той помнай раніцы, калі яна развіталася з Арынай.

— Дайшла я з таварышкамі аж да Полацка... Там са мной яшчэ дзве настаўніцы было з нашай школы... А тады я сказала: не пайду далей на ўсход, хоць што!.. Каля лесу, бачу, танкі стаяць. Я адразу да танкістаў,— трапіла на трох, што сядзелі на траўцы і палуднавалі. Я да іх, пытаюся, дзе тут пагаварыць з камандзірам якім? Адзін адказвае: я — камандзір. Кажу, прымайце да сябе, хачу ваяваць... А яны пачалі жартаваць, падсмейвацца,— асабліва адзін — бялявы такі. «Вазьмі,— кажа,— лейтэнант... Канцэнтрат пшонны варыць». Эх, і загарэлася я, Арына,— як сказала некалькі добрых слоў, дык ён адразу прысмірнеў. «Ого! — пакруціў галавою ды да хлопцаў: — Гэта язычок!» — і паказаў, як знайсці камандзіра. А я на развітанне яму: «Не маеш права, дык не затрымлівай бы!» Прыйшла да камбата, камандзіра батальёна, маёра

Бродкіна. Ён паслухаў, харошы такі чалавек, падумаў і кажа, што прымае — сястра ім патрэбна была. Далі мне, Арына, шынельку, сумку, і стала я — таварыш чырвонаармеец...

Яна раптам схілілася над каленам і дакранулася пальцамі да рудога, запыленага бінта, што абгартаў правую загарэлую лытку.

— Цябе ранілі, ці што?

— Ранілі,— прамовіла Аня такім тонам, што сястра не зразумела, жартуе яна ці сур'ёзна гаворыць.

Тугі, моцна сціснуты вузялок не развязваўся. Аня ўстала, увайшла ў хату, а ўслед падалася і Арына. У хаце Аня ўзяла са стала нож, разрэзала вузел і, прысеўшы на ўслон, пачала спрытна разгортваць зляжалую істужку бінта.

— От якая рана.

У яе руцэ Арына ўбачыла ўвагнутую шэрую кніжачку.

— Камсамольскі білет?

— Білет,— спакойна кіўнула Аня. Яна шурпатымі далонямі беражліва выпрастала і перагарнула вокладку. Прачытала павольна, з доўгімі паўзамі сваё прозвішча, імя, год нараджэння, час уступлення ў камсамол — май, 1940 год...— 14 мая 1940 года,— дадала яна сабе, памаўчала і перагарнула яшчэ старонку. Позірк прайшоў па некалькіх радках узносаў. Апошні ўзнос і подпіс стаяў супроць радка — «чэрвень». Здавалася, яшчэ не высахла чарніла.

Усе іншыя клетачкі былі пустыя.

Апошні ўзнос. За гэты месяц яна ўжо не плаціла і за наступны, за жнівень, мусіць, не будзе...

Ніколі такой блізкай і дарагой не была для яе гэтая маленькая кніжачка з абрысам Леніна на вокладцы.

— Каля Глыбокага наткнуліся на праверку, нас пачалі абшукваць. Адзін — высокі і руды, да мяне — лап, лап — і выцягвае з кішэні білет. «О, Ленін! Чый это? Твой?» Я сказала, што мой. «Камсамолка?! Цябе за это надо — пук, пук, расстраляць!» А сам, паганы, узяўся за яго і хоча разарваць. Я хапіла за білет і вырвала: «Не трэба рваць,— кажу,— у мяне іншых дакументаў няма».— «Куды ідзеш?» — пытаецца. «Дадому. Вучылася ў Віцебску, іду дадому. Не хацела адступаць». Гавару яму смела, голасна, упэўненая такая, аж

дзіва. «А, это гут,— зарагатаў немец.— Ну лядно, ідзі». Адпусціў мяне. Тады я адышла трохі, выняла білет з кішэні ды абкруціла бінтом... на назе...

— Адчайная ты! — прамовіла сястра, як бы з асуджэннем. Але Аня не заўважыла гэтага тону. Яна разгладзіла вокладку.

— Ну, а больш не чапляліся?

— Чапляліся. Яшчэ чатыры разы трапляла да іх... Казала ўсё: дадому з Віцебска іду...

Як толькі змоўкла, адышла ад ўспамінаў, грудзі сціснуў глухі боль: «Мама, мама». Аня не магла звыкнуцца, згадзіцца з думкай, што маці, такой любай, лагоднай, клапатлівай, ужо няма.

Яны доўга маўчалі. Прыйшла Лорка, і Арына адразу паклала яе спаць.

— Дзе Віткоўскі, ты ведаеш? — шапнула Аня сястры, калі тая вярнулася да акна.

— Не ведаю. Але, мусіць, недалёка недзе. Кажуць, што ён у партызанах.

Аня стала тым жа шэптам распытвацца пра іншых таварышаў, з якімі не бачылася — ёй здавалася — страшэнна даўно, але Арына амаль нічога не магла сказаць ёй. Усіх за нейкага паўмесяца вайна раскідала, развеяла па розных шляхах...

Як яно пойдзе, гэтае новае, незнаёмае жыццё? Што яно ёй прынясе?

## II

На наступны дзень яна пайшла з Арынай жаць.

Ах, якое дружнае, якое высокае жыта! Поўныя тугія каласы важка пагойдваюцца пад гарачым павевам ветру, пругка выгінаючы спелыя сцяблінны.

Толькі не радуе гэта багацце вачэй. Не ў час урадзіла жыта. Не ведалі людзі, кладучы зярняты ў старанна абробленую пульхную глебу, што іх праца можа прапасці марна, што буйныя каласы, якія вырастуць з тых зярнят, будуць не радасць выклікаць, а смутак, словы праклёну і нянавісці да варожай навалы.

Ах ты, жыта, жыта!

Аня закручвае перавясла, выпростваецца. Вакол поле — залатое бяскрайняе мора — перакатваецца хвалямі, шапоча. Упершыню яно тут красавалася загона-

мі, уперамежку з палоскамі, якія таксама былі ўжо дзе-нідзе калгаснымі. Вясной уступіла ў калгас і Арына,— і вось давялося зноў вярнуцца на сваю палоску.

— Стамілася? — пытаецца Арына ў Ані.

— Не... Пасядзець хачу.

Яна садзіцца на сноп. Не горнецца ў Ані душа да гэтай працы, да цішыні. Арына жне павольна, не спыняючыся. А Аня думае пра танкістаў, пра камбата Бродкіна, што ляжыць у зямлі пад Полацкам. Хіба ж можа яна пасля ўсяго, што прайшло за гэтыя дні цераз сэрца, жыць так — жаць сабе жыта паціху.

Эх, чаго яна вярнулася сюды, чаму яна не пайшла далей на ўсход?.. Яна марыла тут знайсці справу, сапраўдную справу, а замест гэтага жне жыта.

Што ж, гэта — дзень-два, а потым яна знойдзе тую справу, быць не можа...

Потым у яе памяці паўстае вобраз маці. Яна бачыць сіняватыя матчыны вочы, сумныя і вільготныя, што пазіраюць на яе з пяшчотай. І Ані ў каторы раз успамінаецца апошняе развітанне — ясная, залітая сонцам раніца за сялом. Як яна, маці, журботна глядзела на Аню, нібы ведала, што больш не прыйдзецца спаткацца.

«Мама, мама!.. Любая, родная мама! Каго я так любіла, як цябе. І хто столькі радасці і горычы зрабіў табе, як я, твая неспакойная дачка. Даруй мне, мама!..»

І не заўважыла, як ажылі, наплылі, пайшлі ўспаміны, сёння асабліва шчымлівыя і горкія.

Эх вы, бесклапотныя дні дзяцінства, што адляцелі сном так рана. Матчыны пяшчоты — як вясновыя, ясныя праменьчыкі!..

Згадалася, як маці шыла новую сукеначку, калі яна, Аня, стала хадзіць у школу. Згадалася, як, вярнуўшыся дахаты, узбіралася на матчыны калені, пыталася:

— Мама, а чаму нас вучаць па-чужому гаварыць? Чаму там не гавораць так, як дома?

— Бо там... чужыя настаўнікі.

— А чаму там чужыя настаўнікі? Хіба ў нас сваіх няма?

— Ёсць і свае, дачушка. Толькі ім не дазваляюць вучыць...

Анька тулілася да роднага пляча, дапытвалася:

— А чаму не дазваляюць?

— Таму, што паны хочуць, каб тут былі іх парадкі... Каб усё па-іхняму.

— Ну і хай не дазваляюць. А ён бы ўзяў ды і ўсё роўна вучыў па-нашаму.

— Нельга, дачушка. Яго б пасадзілі ў турму... Або як... тату нашага...

Маці больш не гаварыла, моўчкі гладзіла белую галоўку дачкі. Пачынала моргаць вачыма, што станавіліся бліскучымі, закрывала іх, адварочвалася. Анька прыціскалася галоўкаю да матчыных грудзей і не дыхала.

Згадалася: маці век гаравала па яе, Аніным, бацьку. Аня сама не помніла яго; маці казала: у той час, калі яна, Анька, нарадзілася, бацькі не было дома, быў на вайне, і вярнуўся, калі ёй было паўгода. Агародамі, хаваючыся падышоў да хаты, прынёс з сабою з роднай Арміі Чырвонай рускую вінтоўку, увечар змазаў яе, абгарнуў анучамі і схаваў у застрэшшы ў хляве.

Жыць ім было неспакойна: улада белай Польшчы, што запанавала нібы навек, не забыла, што бацька на фронце біўся супраць яе. Праз год наведаліся гайнёю — перакапалі, раскідалі ўсё ў хаце, на двары, у хляве, чагосьці шукаючы. Потым звязалі бацьку рукі за спіною і павялі, лаючыся, штурхаючы ў спіну карабінамі.

Назад бацька не вярнуўся...

Успомніла, як упершыню разлучылася з мамаю. Мама адвяла яе да Рыгора Лельчука, далёкага іх родзіча і першага багацея на ўсю вёску. Аньцы дазвалялі хадзіць у школу, увесь іншы час яна павінна была няньчыць дзіця гаспадара. Да заняткаў яна цяпер мала рыхтавалася, а часта і зусім прыходзіла непадрыхтаваная. Настаўнік лаяўся і гразіўся выкінуць яе са школы.

Дома злаваў Ляльчук,— яму не падабалася, што нянька, якая есць яго хлеб, ходзячы ў школу, марнуе час.

— Або школу пакінь, або ідзі ад мяне. Мне трэба няньку, а не дармаедку...— сказаў ён аднойчы.

Анька сабрала свае лахманы і вярнулася дамоў. Маці спаткала яе занепакоена. Паслухаўшы дачку, яна заплакала, а калі выплакалася, накінула на галаву хустку, пайшла да Рыгора. Вярнуўшыся, сказала:

— Трэба ісці назад, дачушка. Ён больш не будзе так, ён сказаў мне.

Правяла на ганак, прытуліла пяшчотна да грудзей і ўздыхнула.

Яна часта наведвалася. І кожны раз што-небудзь прынясе: ці сшытак, ці кніжку, ці гасцінец які. Сядзела ў каморцы, на ложку, дзе спала Аня, і ўсё пыталася, як яна вучыцца, ці не думае, не дай бог, кідаць школу, ды настаўляла:

— Вучыся, дачушка, вучаным усюды дарога... От, што я, невучоная?!

Тады з імі звычайна сядзела і Рыгорыха. Аня ведала, што Рыгорыха баялася, каб маці чаго не ўзяла ў яе. Анька чырванела ад сораму і абурэння: як яна можа думаць такое пра яе маму!..

Рыгорыха адрывала Аньку ад маці, прыдумляла знарок якую-небудзь работу...

«Эх, чаго гэта ўсё ўспамінаць»,— схамянулася Аня. Яна паволі перавязала хустку, устала са снапа, выпіла з гладышкі цёплай вады і падалася да сястры жаць...

Пасля полудня Аня пайшла ў лес, па ягады.

Хораша летам у лесе! Стаіць млосная, з густым пахам сосная і ягад, цішыня. Не варушачыся, дрэмлюць зялёныя іголчастыя лапкі, як раса, блішчыць смала. На палянцы — чырвоныя россыпы суніц. Буйныя, як клубнічныя, галоўкі суніц усцілаюць яркім агнём зямлю.

Аня збірае ягаду за ягадай у вязаны лазовы кораб, час ад часу кладзе сунічку ў рот. «Тут можна набраць адразу поўны кораб,— падумала Аня.— Пэўна, ніхто і не быў тут».

Аня любіць і ведае лес. Ёй тут, у гэтым вялізным лесе, бадай, знаёмая кожная палянaчка, кожная сцяжынка. Яна яшчэ малой, бывала, цэлымі днямі прападала ў лесе, заміраючы ад страху, хадзіла па цёмных сцежках, забіралася ў гушчары.

За дрэвамі ў цемры ёй маляваліся страшныя здані, ваўкі, мядзведзі, але неадольная сіла вабіла ў загадкавую глыбіню.

Далей, за палянкай, на ігліцы і ў траве Аня заўважыла ўмяціны. Сляды ад ботаў. Аня знайшла на пясчанай лапінцы два ясныя адбіткі: дзяўчыне здалося, што невядомцы былі ў вайсковых ботах.

Ззаду хруснула. Яна азірнулася і ўбачыла высокага чалавека ў вайсковым адзенні з партупеяй цераз плячо, без шапкі. Бялявыя густыя валасы рэзка аддзяляліся на чырвоным загары шырокага лба.

Чалавек уважліва пазіраў на яе. Усміхнуўся.

— Добры дзень!

Падышоў, узяў ягад з кораба.

— Смачныя ягады! — пахваліў, неўпрыкметку ўсё прыглядваючыся да Ані.

— Бярыце яшчэ,— сказала Аня.

Вайсковы чалавек моўчкі ўзяў яшчэ жменю і стаў кідаць у рот. Чалавек быў няголены, і гэта надавала яму пажылы выгляд, насуперак маладому позірку вачэй.

Кінуўшы ў рот некалькі ягад, незнаёмы прамовіў:

— Добрыя ягады. У нас, бадай, горшыя.

— Дзе гэта ў вас?

— Там,— чалавек махнуў рукою.— Далёка.

На баку яго ў кабуры ляжаў пісталет ТТ.

— Адкуль сама? — гледзячы ў вочы, проста, з прыяцельскай ноткай, нібы ён яе ведае, запытаўся чалавек.

— З Чапліч.

— З Чапліч?.. Далёка адсюль да іх?

— Кіламетры два.

Ён пацікавіўся, ці ёсць немцы ў сяле, дзе яны стаяць. Аня, расказаўшы пра гэта, запыталася: — Туды ідзяце? — Яна махнула на ўсход. Чалавек узяў суніц у руку, кінуў некалькі ў рот, кіўнуў галавою.

— Дзе тут лепш ісці на Полацк?

Аня адказала. Потым, чула адчуўшы, што гэты чалавек сапраўды свой, што яму патрэбна дапамога, яна без усякай перасцярогі адразу заявіла:

— Я магу вас правесці...

Чалавек, відаць, здзівіўся такому хуткаму рашэнню, але нічога не адказаў,— ён таксама рызыкаваў і не ведаў: верыць ці не верыць гэтай незнаёмай дзяўчыне, якая сама набіваецца ісці ў небяспечны шлях.

А дзяўчына, не даючы разважыць, меркавала ўжо спрытна:

— Вы тут застанецеся. Або не, лепей пройдзем бліжэй да сяла. Там ёсць адно глухое месца — ніхто не ўбачыць. А я пайду ў сяло, занясу ягады, скажу сястры, каб не чакала і не трывожылася. А ўвечары мы выйдзем, добра?

Аня, не чакаючы згоды, узяла кораб і павесіла на плячо. Яна не любіла марудзіць.

— А калі я цябе зараз завяду ў паліцыю? — чалавек узяў Аню за руку.— Можа, я правакатар?

— Вы — правакатар? Вы — лейтэнант, засталіся ў акружэнні. Тут недзе недалёка ад вас хаваюцца некалькі байцоў вашых.

Лейтэнант здзівіўся зноў, але стараўся не выдаць гэтага.

— Чаму вы так думаеце?

— Таму, што тут ёсць сляды не толькі вашы, і яшчэ — таму, што дрэнны той лейтэнант, які застаўся адзін... А вы, здаецца, не такі... А што вы мяне палохаеце — гаворыць аб тым, што вы не ўпэўнены. Не верыце мне... Не бойцеся, я не падвяду!

І чалавек згадзіўся. Гэтай бялявай худзенькай дзяўчыне нельга было не верыць.

...Увечары, ледзь трохі сцямнела, Аня выйшла з сяла.

У лесе яна сустрэлася з лейтэнантам, з якім было пяцёра байцоў.

Усю ноч без супынку ішлі па сцежках, а то і проста па полі, мінаючы вёскі, варожыя паліцэйскія пасты. Калі добра развіднелася, яны былі ўжо на ўскрайку лесу, за невялікім мястэчкам, кіламетраў за трыццаць ад сяла.

— Дай руку, сястра,— сказаў адзін з байцоў.— Дзякуй табе... Жыць буду, не забуду.

Ён памаўчаў, відаць, яшчэ хацеў штосьці сказаць, але не сказаў нічога, а раптам сціснуў Аніну далонь так, што занылі пальцы.

Другім стаў развітвацца лейтэнант.

— Дзякую, Анна Іванаўна. І ад мяне і ад усіх.

Аня перабіла яго:

— Нашто дзякаваць столькі? Хіба ж я магла інакш? Якая трэба яшчэ падзяка — толькі б дайшлі...

— Так, дайсці б. Далёка вельмі!

— Слухай, Анна Іванаўна,— загаварыў лейтэнант,— думаю, не памыляюся, што кажу гэта. У лесе за Паставамі я захаваў вінтоўкі. Людзі палеглі... А вінтоўкі я падабраў і закапаў. Патрэбны будуць, можа, каму-небудзь з нашых — аддай іх...

Ён выняў з кішэні лісток паперы.

— Тут напісана, як знайсці тое месца.

Ён даў паперку, зашпіліў кішэню і адразу прамовіў да сваіх:

— Пайшлі.

Яны хутка зніклі ў росных кустах. Ані, калі яна трымаючы у руцэ паперку, засталася адна, зрабілася раптам журботна, нібы рассталася з сябрамі.

Гадзіны дзве Аня перабыла ў лесе, што абуджаўся ад начной цішыні, а потым, як угрэла сонца, падалася назад. Яна адчувала сябе змарнелай. Бяссонная ноч і трыццацікіламетровы начны шлях даваліся ў знакі. Балелі ногі, і яна некалькі разоў садзілася адпачываць.

Дадому Аня дабралася толькі пад вечар.

## III

Ішлі дзень за днём, аднастайныя, здавалася, незвычайна доўгія і пустыя. Аня ўсё таксама ж хадзіла на поле, на агарод, старалася дапамагчы Арыне, і ўсё таксама ж за ёй услед хадзіла адчуванне адзінокасці, адарванасці, спусцеласці і непакой аб тым, што трэба штосьці рабіць, штосьці рабіць для тых, што на фронце, для той вялікай справы, якая чакала яе.

Дзе хлопцы, дзе Андрэй? Вось каго б знайсці, вось хто б даў ёй справу...

Але ішлі дні,— хутка тыдзень будзе,— а яна не магла знайсці нікога і вымушана была сядзець, адна, адна...

І вось зноў знайшлася справа.

— Анечка,— усхвалявана зашаптала Арына,— у жыце тры чырвонаармейцы. Раненыя ляжаць... У сяло не паказваюцца — баяцца, што немцы расстраляюць іх...

— Дзе ў жыце?

— На нашым полі, каля трох бяроз.

— Ты нікому не казала пра гэта? — запыталася Аня.

— Нікому.

— Добра... І не кажы нікому.

«Памагчы ім»,— падумала Аня. Гэтая думка адразу захапіла дзяўчыну, якая не так занепакоілася, як узрадавалася, адчуўшы, што зноў з'явіўся раптам клопат.

— Мы іх перанясём да цябе ў хлеў, добра?

Яна пачне з гэтага... А там... а там будзе відаць, што рабіць...

Як толькі сцямнела, Аня накінула хустку і ціха выйшла з хаты. Услед за ёй стукнула клямкаю, выйшла Арына. «Пайду з табой,— прашаптала яна і, нібы апраўдваючыся, дадала: — Яны ж параненыя, трэба весці».

Мінулі хлеў, між жывога плота з кіяшніку і маку, што буялі на агародзе, выбраліся на прыгуменне. Каля цёмнай сцяны гумна Аня прыпынілася, прыслухалася.

За гумном — поле. Туды хадзіць ноччу забаронена. Стараста гаварыў, што на гэта ёсць строгі загад.

Ці не заўважылі іх? Не, не заўважылі, здаецца.

Ах, якая цішыня вакол. Няўжо ж толькі што змерклася! Калісьці (дзіўна, гэта ж было менш за месяц таму назад, а здаецца, даўно-даўно) у такі час сяло як бы абуджалася пасля дзённай цішыні. Вярнуўшыся з поля, хутка павячэраўшы, збіраліся дзяўчаты і хлопцы каля прызбаў. Усплёсквалі ў начным змроку звонкія маладыя галасы, час ад часу гамонку перабіваў вясёлы дружны рогат або раптоўны віск дзяўчыны...

— Пойдзем? — шэптам прамовіла Аня. Арына ціха адказала:

— Пойдзем.

Аня запыталася ў яе не таму, што вагалася — ісці або не ісці,— Арына ведала, што аб гэтым у сястры не магло быць нават думкі. Аня пыталася, ці не перадумала яна, Арына: Арына — не адна, у яе сям'я...

«Добра, што месяц яшчэ не ўзышоў,— супакоіла сябе Аня.— Трэба хутчэй спяшацца, каб не застаў ён».

Блізка, ледзь не з-пад ног, раптам, як стрэл, вырваўся пагрозны свіст. Арына трывожна прысела.

Лапочучы крыламі, у цемры штосьці праляцела.

— Гэта перапёлка,— сказала Аня.— Ах, каб ты!..

Яны ішлі разораю. Шапаткія каласы чапляліся за Аніны рукі, за адзенне, нібы прасіліся ўзяць з сабою. Але Аня не заўважала гэтага, яна ўся была апанавана адным клопатам.

Цяпер недалёка. Цяпер хутка, каля трох бяроз.

— Стой, хто гэта?

Перад імі ў змроку ўстала цёмная постаць з вінтоўкай у руцэ.

— Сяргей? Гэта мы.

Чалавек адразу стаў лагаднейшы.

— А, сястра! А я думаў, што не прыйдзеш.

— Я ж казала — прыйду...

— Мала што казала. Рознае бывае...

Яны моўчкі слухалі тое, што гаварыла Аня. Сяргей першы адгукнуўся:

— Павел, Сцяпана панясу зараз я. Бяры гэтую...

Ён падаў Паўлу вінтоўку, узваліў з яго дапамогаю на плячо чалавека, які стагнаў і трызніў.

— Другі дзень так. Амаль непрытомны... Аслаб зусім,— сказаў Сяргей.

Павел дадаў нявесела:

— Плямы нейкія пайшлі па назе і па целу...

Яны падаліся ў вёску. Наперадзе — Аня, за ёй Сяргей са Сцяпанам, потым Арына і апошні — Павел.

Цяпер Ані чамусьці стала спакайней і весялей. Можа, таму, што разам ішлі байцы. А можа, таму, што цяпер яна непакоілася толькі пра іх.

Да прыгумення і цераз агарод перабіраліся па адным, прыгнуўшыся, асцярожна. Спыняліся раз-пораз, слухалі. Цішыня. Каля хлява Аня і Павел, пакінуўшы іншых, прыпалі да чорнай сцяны, яшчэ раз азірнуліся.

Цьмяна чарнелі поблізу купы дрэваў, высокіх, вастраверхіх, і нізкіх, раскідзістых, якія ціха, але неспакойна шумелі.

І вось яны ўсе ў хляве, на палацях, агорнутыя цемрай і духмяным, казытлівым пахам сена. Двое ляжаць, а Сяргей сядзіць поруч з Аняй. Арына пайшла ў хату, непакоячыся, ці не прачнулася Лорка.

— Сястра,— прашаптаў Сяргей,— як ты думаеш,— надоўга гэта ў яго, з нагой?

— Заўтра пагляджу рану, скажу.

— Эх, каб вылечыць хутчэй! Нельга цяпер нам сядзець...

— Што ж, ён застанецца пакуль.

— Нельга, сястра. Мы з ім на адным самалёце лятал. Разам гарэлі... Пад Шаўлямі была такая справа... Ад немцаў, на зямлі, разам адбіліся. Там яму і пашкодзілі нагу. Я на сваіх плячах яго, можа, дзвесце кіламетраў нясу. Проста аж сам дзіўлюся, з чаго я такі цягавіты зрабіўся? Гэта ж не жарты — цэлы бамбардзіроўшчык, можна сказаць, на карку,— нявесела пажартаваў Сяргей.— Ён у нас быў чэмпіёнам па боксу ў часці — па цяжкай вазе.

Аня маўкліва слухала. Яна ўспамінала знаёмых сваіх танкістаў, маёра Бродкіна, гай пад Полацкам, каля якога вёў бой і згарэў апошні ў батальёне танк... І ёй было прыемна слухаць побач сіплы, крыху насмешлівы голас лётчыка,— гэта быў такі ж самы чалавек, як і тыя, з якімі яна спазнала горыч адступлення і боль страты. Яна адчувала сябе такой, якой была з танкістамі. Той жа звычны абавязак.

А галоўнае, справа — важная, патрэбная.

— Сястра, нашы далёка цяпер.

Ён так гаворыць, што не зразумееш, ці ён гэта проста кажа, ці пытае. Пытае, мусіць. Што яму адказаць? Сказаць праўду, што гітлераўцы ўжо за Полацкам, ці зманіць?

Не, такому нельга маніць.

— Далёка.

— Мусіць, ужо каля Полацка?

— Далей. Полацк у іх...

У хляве хутка пасвятлела, праз шчыліны прарэзаліся белыя вострыя нажы святла — узышоў месяц.

«Трэба ісці ў хату»,— узнялася Аня.

— Сястра, прынясі махры... Смаліць нешта ў грудзях.

— Прынясу.

Яна прыадчыніла вароты — толькі б не зарыпелі. Выглянула ў шчыліну: нікога, цішыня. Праціснуўшыся, зачыніла хлеў, хвіліну пастаяла ў цені пад страхою. Цяпер можна ісці.

## IV

На наступны дзень Аня агледзела Сцяпанаву рану. Правая нага, на якой вышэй калена гнаілася рана, распухла і пакрылася фіялетавымі плямамі, біў моцны пах гніення; плямы былі ўжо і на бядры. Сцяпан трызніў.

«Гангрэна».

Яна зразумела, што цяпер позна ўжо лячыць, што яна бяссільна дапамагчы чым-небудзь, і ёй стала горка.

— Ён паправіцца? — трывожна шапнуў Сяргей, спасцярожліва зірнуўшы на Аню.

— Паправіцца...— Аня схамянулася, пачала хутка перавязваць рану.

Скончыўшы перавязку, яна стала адразу спускацца па лесвіцы ўніз, не гледзячы ні на кога, нічога не гаворачы нікому. Сяргей палез услед.

— Кепска?

— Кепска. Ніякай надзеі. Памрэ.

— І нічога нельга зрабіць?

Аня не адказала. Узяла пустое вядро і выйшла на двор.

Увесь гэты дзень яна была як бы прыглушаная. Некалькі разоў прыходзіла да хлопцаў, праведвала Сцяпана: яму станавілася ўсё горш і горш.

Увечары ён памёр.

Сяргей падняў таварыша на плячо, вынес яго ў поле, да тых жа трох бяроз, дзе яны ляжалі ўчора. Аня прынесла рыдлёўку.

Капалі зямлю і хавалі Сцяпана моўчкі. Павел амаль увесь час курыў.

— Ну вось, далей пойдзем? — сказаў раптам Сяргей Паўлу.

— Пойдзем. Чаго ж сядзець.

Яны не захацелі, каб Аня праводзіла: самі знойдуць, карта і компас ёсць.

Вярнуўшыся апоўначы ў хату, дзе чакала сястра, Аня, як ніколі раней, адчула сябе пакінутай і адзінокай.

## V

Дні цягнуліся нудныя, доўгія. Яна хадзіла па-ранейшаму на поле, у лес і ўсё чакала, чакала, марыла, што ўсё гэта зменіцца, што знойдзецца справа, сапраўдная справа.

Аднойчы пад вечар прыехала ў сяло варожая калона. Тры салдаты, гамонячы аб нечым, рагочучы, накіраваліся ў хату. Арына спалохана замерла. Адзін немец, высокі, з вострым падбародкам, загадаў даць вядро. Аня бачыла, як ён выйшаў на двор, выцягнуў вады са студні, стаў залівацъ у машыну. Калі ён вярнуўся, паставіў вядро на лаўку, Аня запыталася:

— Далёка фронт? — Заўважыўшы, што салдат не зразумеў яе, дадала: — Саветы, бальшавікі — далёка?

— Далёка...— адказаў за яго другі, маладзенькі, блакітнавокі, збіраючыся ісці.— Смаленск ёсць нямецкі, цяпер хутка Масква.

Ён стукнуў у грудзі.

— Будзем хутка там...

«Няўжо Смаленск ужо ўзялі? І на Маскву ідуць? Быць не можа»,— думала дзяўчына, сочачы, як яны ходзяць каля машын.

Хоць яна і не хацела верыць у гэта, ёй было трывожна. Да поўначы гаманіла Аня з Арынай, перабірала тое, што было, намагалася вызначыць, што будзе.

— Ты чакай. Бачыш, што робіцца,— супакойвала сястру, раіла ёй Арына.— Ты што, ты чалавек маленькі, дзяўчына... Што ты можаш зрабіць?

— Не магу я сядзець, Арына,— горача дыхала ў твар сястры Аня.

— А ты патрывай... Пара цяпер такая, што жыві ды аглядвайся. І галаву згубіць нядоўга. Яшчэ дзякуй богу, што не чапляюцца да цябе — усе ж ведаюць, што... настаўніца.

— Не магу я так! Не магу, ты разумееш?

Уранку Арына прыбегла ад суседкі і сказала ўстрывожана, што на дарозе каля Купін падарвалі машыну з гітлераўцамі, што дзевяць салдат забіта.

Аню гэта вестка ўсхвалявала па-свойму. Значыцца, ёсць людзі, што не марнуюць часу, не сядзяць так, як яна. Дзе яны, як іх знайсці?

Зноў нецярпліва, з надзеяю ўспомніла яна Андрэя

Віткоўскага. Як з ім звязацца? Андрэй жыў раней з бацькам, але бацькі ўжо няма... Хто ж можа ведаць пра Андрэя? Цётка?

Вярнуўшыся ў прыцемках з поля, яна зайшла да Андрэевай цёткі.

— А хто ж яго ведае, дзе ён, вісельнік,— неспадзеўкі, злосна размахваючы рукамі, амаль закрычала цётка.— Ён і бацьку да згубы давёў.

— Не ведаеце? — не паверыла Аня: ёй здавалася, што старая лаецца няшчыра.

— От што! Калі табе жыццё надакучыла, то ты як сабе хочаш. А мяне не чапляй!

Аня пагаварыла яшчэ з адной жанчынай, муж якой калісьці сябраваў з Андрэем і, мусіць, недзе хаваўся тут,— жанчына таксама нібы не ведала нічога пра Віткоўскага. Некалькі разоў Аня хадзіла ў лес, дзе б маглі быць тыя, каго ёй так хацелася бачыць, але не знайшла нікога. Вяртаючыся аднойчы, яна наткнулася на гітлераўцаў,— добра, што несла ягады, не затрымалі яе, забралі ягады і пусцілі.

І вось, калі Аня ўжо амаль страціла веру ў тое, што хутка ўдасца знайсці сляды партызан, Андрэй аб'явіўся сам.

Вечарам, калі Аня, напаіўшы карову, выходзіла з хлява, яе хтосьці ціха гукнуў з цемры. Яна паставіла вядро, зайшла за рог хлява.

— Хто тут?

Яна пазнала хто — па голасу, але яшчэ не верыла,— вельмі ж доўга яна чакала! Перад ёй чарнела постаць, і хоць было цёмна, яна адчувала — яго постаць!

— Добры вечар, Аня,— проста сказаў ён.

Яна прывіталася. Столькі думала раней пра яго і ў думках столькі гаварыла яму, але тут тыя словы кудысьці вылецелі. Ён загаварыў першы: пачаў распытваць, чаму яна вярнулася, дзе была гэты час, што рабіла.

— Я толькі ўчора даведаўся, што ты вярнулася.

— Кепска ж у цябе, відаць, разведка працуе.

Ён адказаў:

— У разведкі ёсць другія задачы...

— Вядома. Толькі штосьці вы так замаскіраваліся, што і не знайсці вас.

— Затое мы ўсіх, каго трэба, знаходзім... Але я прыйшоў не для таго, каб спрачацца. У мяне, Аня, ёсць справа. Важная справа. Зробіш?

Аня знарок памаўчала, як бы раздумваючы.

— Важная? Якая?

— Трэба пайсці ў горад, Аня... Мы хочам звязацца з нашымі людзьмі, што там працуюць. Яны табе раскажуць, як там справы... Мы ўсё не можам наладзіць сувязі... Ты зможаш пайсці?

— Добра,— сказала Аня.— Зраблю.

— Ты, Аня, улічы: зрабіць гэта не проста, задача твая небяспечная. Я табе дам тры адрасы, але ты будзь там асцярожна. Ёсць весткі: наладжвалі гэтыя дні аблавы. Можна наскочыць на засаду.

Аня слухала яго родны голас і адчувала не трывогу, а радасць, такую, якой яна не ведала з таго часу, як вярнулася.

— І калі можна — дастань, Анечка, медыкаментаў. Бінтоў, ёду, яшчэ чаго, што ўдасца. Да зарэзу трэба, разумееш?

Яна кіўнула галавой.

— Не падвядзеш? — Ён дадаў: — Не баішся?

Ён і раней быў задавака, а тут, калі яна апынулася ў такім становішчы, стаў яшчэ больш задзіраць нос. Падумаеш, калі ён партызан, калі ў яго вінтоўка, дык можна яму і крыўдзіць. «Не баішся?» Гэта яна збаіцца?

— Мог бы не гаварыць глупства. Скажы лепш — праўда, што немцы ў Смаленску?

— Не ведаю, Анечка. Газет і ў нас няма.

— Немец быў тут, выхваляўся, што занялі Смаленск, на Маскву ідуць... Я — чаго перадумала... а ты... эх ты!

— Не крыўдуй, Анечка, я так — к слову,— сказаў ён, нібы апраўдваючыся, і стаў шэптам дамаўляцца, дзе і калі яны спаткаюцца.

Калі ён пайшоў у цемру, Аня стаяла, глядзела ў яго бок,— доўга пасля таго, як ён знік з вачэй.

Яна адчувала, што ў яе жыцці толькі што адбылося тое вельмі важнае, якое яна чакала і аб якім яна марыла.

Скончыліся пошукі. Скончылася адзінокасць.

# НЕЗНАЁМЫ

У пакоі быў адзін Слава. Заклапочаны, вельмі сур'ёзны чалавек гадоў шасці, з малатком і абцугамі поўзаў вакол грузавічка, правіў машыну, што, відаць, сапсавалася. Грузавічок, змайстраваны з дошчачак, на бярозавых колцах, стаяў пасярэдзіне пакоя, на дарозе да канечнага пункта — кутка між печчу і дзвярыма. Хоць грузавік быў многа меншы за шафёра і хоць у кузаве ляжала толькі некалькі трэсачак ды старая шрубка, чалавек рабіў не на жарт — і стукаў малатком, і круціў колцы, і гуў.

Ці дзіва, што машына праз якую хвіліну гатова была зноў рушыць у дарогу, і яна б, вядома, рушыла, калі б у той момант не адбылася падзея, зусім неспадзяваная для Славы. Поўны клопатамі, шафёр не аддаў ніякай увагі таму, што ў кухню хтосьці ўвайшоў. Ён адарваў позірк ад грузавіка толькі тады, калі дзверы адчыніліся і на парозе нехта паявіўся, вядома, маці або бабуля. Ён гатоў быў ужо забыць грузавік, кінуцца паглядзець, што яны прынеслі,— але адразу ж асеў, здзіўлены.

Чалавек быў незнаёмы, у вайсковым шынялі, з чамаданам у руцэ, са скуранай сумкай на баку. Не паспеў Слава агледзець незнаёмага, як той дзіўна тузануўся, крыкнуў страшна: «Слава!» Выпусціў чамадан, хутка ступіў насустрач, схапіў яго, ускінуў на дужых руках і прыціснуў да шыняля так, што ў малога ледзь не зайшлося сэрца. Праз хвіліну незнаёмы зноў паглядзеў на Славу страшна і раптам, колючыся, пачаў прагна цалаваць шурпатымі губамі — лоб, шчокі, шыю.

Гэта было хоць і непрыемным, але такім дзіўным, неспадзяваным, што Слава адно моўчкі трываў, не мог апамятацца.

— Слаўка... Сыночак...— вымавіў вайсковы хрыпла, так, нібы яму балела.

Слава момант яшчэ патрываў пад позіркам, ад якога было нядобра, боязна, рукамі ўпёрся ў чужы нягалены твар, паспрабаваў вызваліцца.

— Чаго ты, сынок?

— Так...— Чорныя пукатыя вочы малога былі строгія, нават непрыхільныя, але незнаёмы не паслухаўся, не расшчапіў рук.

— Пагана табе?

— Пусці!

— Чаму?

— Так...

Незнаёмы лагодна, як бы тлумачачы, сказаў:

— Я ж твой бацька...

Малы нібы не чуў, зноў паспрабаваў вырвацца.

— Бацька — разумееш?

— Пусці! — не разумеў, не жадаў разумець, іраваўся яшчэ мацней Слава.

Незнаёмы хацеў усміхнуцца, але ўсмешка выйшла такая, быццам ён скрывіўся.

— Ну што ж...

Ён паставіў Славу на падлогу, адпусціў. Малы адразу, як звярок, што пачуў волю, шыбануў у куток, дзе быў ложак, прыціснуўся, дзікавата азірнуўся.

Незнаёмы не бег услед, не збіраўся, здаецца, зноў хапаць яго, але Слава, у якім быў яшчэ такі жывы ўспамін пра грозны палон, сачыў нямірна, недаверліва, гатоў быў у любы момант нырнуць пад ложак.

Вайсковы агледзеўся, нібы чагосьці шукаў і не знаходзіў.

— А мама дзе? На занятках?

Малы адказаў не адразу, быццам баяўся, што, калі скажа, трапіць зноў у якую-небудзь бяду.

— Пайшла ў магазін...

— Хутка вернецца?

— Хутка...

— А баба Анісся дзе?

— Па перац пайшла...

— Пазычыць?

— Ага...

Незнаёмы зноў агледзеўся, але ўжо не шукаючы нікога, а так, як бы перад ім было незнаёмае месца. Ён

нібы хацеў штосьці ўспомніць і не мог і стаў задуменны, сумны.

— Што ж, хоць ты і не прызнаешся,— сказаў ён усё з той жа задуменнасцю,— я ўсё-ткі буду як дома...

Ён зняў цераз галаву сумку, паклаў на лаву, пачаў расшпільваць шынель, і Слава ўбачыў, як на гімнасцёрцы штосьці весела бліснула. Гэта былі ордэны, і калі б Слава не страшыўся так незнаёмага, ён, вядома, падышоў бы, паглядзеў бліжэй на іх, пакратаў бы. Але яму было боязна, і нават калі ён глядзеў на іх здалёк, то не забываў, што трэба быць напагатове.

— Чакай! — схамянуўся, павесялеў незнаёмы. — Ледзь не забыў!

Ён падбег да чамадана, адамкнуў, выхапіў адтульдзіўную чырвоную дошчачку ці скрыначку. Зірнуўшы на Славу, ён першы момант намерыўся быў аддаць яе тут жа, але перадумаў, важны, як бы зараз хацеў быў адкрыць штосьці тайнае і вельмі цікавае, паднёс скрыначку да рота. І адбылося, праўда, дзіва — скрыначка зайграла! Зайграла, як гармонік!

Слава на хвіліну забыўся аб усім на свеце, толькі глядзеў на скрыначку, толькі слухаў.

— Падабаецца? — сказаў незнаёмы і працягнуў цудоўную скрынку Славе.— Гэта табе!.. Губны гармонік!..

Слава мімаволі падаўся ўзяць гэты цуд, але, ступіўшы крок-другі,— спыніўся. Не тое каб не верыў ён, што цуд гэты дастанецца-такі яму, а страх нейкі, асцярога зноў узялі яго.

— Бяры! Не сумнявайся! Табе належыць!

Незнаёмы сам падышоў, даў у руку скрынку. Слава ўзяў яе, але ні адным знакам не паказаў, што ў яго што-небудзь змянілася да ваеннага. Нават нібы і не вельмі ўзрадаваўся падарунку, вярнуўшыся зноў у куток, разглядаў ён скрыначку са здзіўленнем і недавер'ем, як бы яна была і не яго. Нават паспрабаваць, ці ў яго зайграе таксама, як у вайсковага, не наважыўся.

І ўсё ж, хоць у Славы і не было якой-небудзь прыхільнасці да незнаёмага, ён, гэты вайсковы, не здаваўся ўжо такім страшным.

Перад ім было як бы трохі ніякавата за сваю непадступнасць, з ім хацелася, хоць і з асцярогай, пагаварыць.

Слава памаўчаў, памаўчаў і заявіў:

— Мой тата — у Чырвонай Арміі...

— Ну, правільна,— ахвотна, з надзеяй адказаў незнаёмы,— я быў у арміі!

— А раней, калі вайна яшчэ не скончылася, ваяваў на фронце...

— Правільна, і на фронце ваяваў! — І, мабыць, таму, што Слава на гэтым рашыў і спыніцца пакуль, вайсковы загаварыў лагодна, нібы тлумачачы: — А цяпер мяне зволілі з арміі, каб я зноў працаваў настаўнікам. Разумееш?.. Вось я і прыехаў дамоў... Казала мама, што я... што бацька прыедзе?

— Казала,— кіўнуў галавою Слава, не гледзячы ўсё ж на таго, хто ўпарта зваў сябе бацькам.

Слава, было відна, не ведаў, што рабіць. Пасля развагі ён падышоў да камода, на якім стаялі дзве фатаграфічныя карткі, зняў іх і не вельмі каб смела наблізіўся да вайсковага.

— Вось гэта — тата...

Вайсковы ўзяў картку, узрадаваўся:

— Ну, правільна! Я і ёсць сам сабою! Не падабаюся хіба?

Слава і не запярэчыў, і не згадзіўся, ухіліўся адказваць, падаў другую картку:

— А гэта мама. І я тут, на руках... І тата...— Калі вайсковы стаў, хвалюючыся, глядзець на картку, Слава дадаў: — Я тады, кажа мама, пешкі пад стол хадзіў...

— Гэта мы былі такія... да вайны... Я, мама, ты...

— Я тады з бацькам на рэчку хадзіў купацца.

— Ты тады і хадзіць не ўмеў, выдумшчык...

Вайсковы хацеў быў зноў узяць яго, але Слава ўраз адступіўся і стаў наводдаль. Было відаць, што ён зноў падрыхтаваўся да небяспекі і не папусціцца нічым, каб уратаваць сваю волю.

— Ты чакаў бацьку, Слава?

— Чакаў...

— Ну вось. А такі няветлівы!..

Слава не сказаў нічога. Ці чакаў ён тату? Чакаў, яшчэ як чакаў! Але той бацька быў не такі, пра таго гаварыла маці, той быў заўсёды недзе далёка. І яшчэ на картцы... А гэты быў побач, страшна глядзеў на яго,

усё хацеў ухапіць, незнаёмы, небяспечны. Зусім не падобны на таго, якога Слава любіў...

У гэты час у кухні стукнулі дзверы, пачуліся хуткія крокі. Не паспеў Слава сказаць, што гэта мама, як маці ўляцела ў пакой, зірнула на вайсковага і нібы акамянела. Адкрыла рот, хапіла паветра, каб нешта крыкнуць, але не здолела вымавіць ні слова. Дзіўная была мама.

Чалавек, нічога не гаворачы, кінуўся да яе, схапіў у абдымкі і пацалаваў у вусны. Хустка з матчынай галавы ссунулася на шыю, чорныя бліскучыя валасы рассыпаліся, ускалмаціліся, але маці ні на што не звяртала ўвагі.

Потым яна прыціснулася галавой да грудзей вайсковага, а той то пяшчотна гладзіў рукою яе, то цалаваў валасы. Слава сачыў са здзіўленнем і непакоем, упершыню даводзілася бачыць, што мама цалуе не яго, а незнаёмага чалавека.

— Сяргей,— нарэшце ціха прамовіла маці, узняўшы галаву і вясёлымі вачыма пазіраючы на вайсковага. Яна зноў пацалавала яго. Пасля маці нечакана адразу засмяялася і заплакала, але Сяргей не супакойваў, а толькі пазіраў на яе і радасна ўсміхаўся.— Сяргей... хіба ж можна... так доўга... Вочы праглядзела,— сказала маці са слязамі на вачах.— Ой, колькі я чакала цябе! Іду адкуль-небудзь дадому і кожны раз думаю, што ты, можа, ужо даўно дома сядзіш. Пачую які стук і думаю — гэта ты стукаеш...

Маці выцерла слёзы, адышла ад Сяргея і абняла сына.

— Бачыш, які вялікі Расціслаў вырас! Ён таксама чакаў.

— Дзе там чакаў! Каб чакаў, то спаткаў бы інакш.

— Кожны дзень пытаўся, ці хутка бацька вернецца.

— Вось табе на́! А прыйшоў, дык выганяе з хаты,— з хітраватай усмешкай сказаў Сяргей.— Не, кажа, ты не мой бацька, ты чужы. Ідзі, кажа, адсюль.

— Не прызнае? — засмяялася мама.

— Ніяк не хоча прызнаваць.

— Шафёр ты мой дарагі! — пацалавала маці Слаўку і лёгка штурхнула да вайсковага.— Гэта твой тата.

Той, пра якога я табе гаварыла... Ён цяпер заўсёды будзе з намі.

Бачачы, як радуецца незнаёмаму бацьку маці, Слава пачаў абыходзіцца з ім больш ветліва. Ён згадзіўся падысці да бацькі, даў сябе ўзяць на рукі і нават не хаваў шчочкі ад пацалунка, хоць бацькава барада і цяпер балюча калолася. Ён адно не мог уцяміць, чаму маці з ахвотай цалуе такую калючую бараду, і быў задаволены, калі бацька пусціў яго.

Хутка прыбегла бабка Анісся. Яна як убачыла Сяргея, дык пачала і ахаць і охаць ад радасці, што зяць вярнуўся, называла яго і саколікам, і рыбкаю, і залатцам. А Слаўкава маці паглядзела на іх і зноў пачала плакаць.

— Трэба ж нечым пачаставаць госціка-саколіка,— схамянулася раптам бабка Анісся і дробнымі, частымі крокамі падалася на кухню. Даўгі бабчын андарак ледзь не цягнуўся па падлозе.

Бацька распрануўся, зняў гімнасцёрку, пагаліў бараду. Калі ён прыйшоў на кухню, маці прынесла начоўкі і цёплай вадою пачала мыць яму галаву. Вада ў начоўках зрабілася чорнаю, нібы там разбавілі фарбу.

— Глядзі, якая вада цёмная стала, неахайны ты,— засмяялася маці, быццам радавалася, што вада такая чорная. Сяргей, не ўзнімаючы галавы, адказаў:

— Дзіва што чорная! З самага Дрэздэна не мыў. Закурыўся, як чорт у пекле.

Бацька пайшоў з кухні і, выціраючы галаву ручніком, у сарочцы зноў хадзіў па пакоі і разглядаў карткі на сцяне, сшыткі на стале, кнігі. Усё яму хацелася пакратаць сваімі пальцамі, патрымаць у сваіх руках. Павесіўшы ручнік, ён падышоў да Славы.

— Ну дык як, прызнаеш цяпер мяне?.. Устрымліваешся? Ты бачыш, маці, не хоча прызнаваць!.. Ну што ж, будзем нейтралітэт захоўваць. Усё-ткі нейтралітэт лепш, чым варожасць...

Ён узяў Славу на рукі.

— Эх, а хлапчына які вялікі вырас за гэтыя чатыры гады, маці! Сапраўдны мужчына!

— Мужчына, канешне...

— І нацярпецца давялося, як даросла磨...

— Ды ўжо ж хапіла... За адны тыя два гады, што я ў партызанах была, чаго толькі не пабачыў: і холаду, і голаду, і ў блакадзе гібеў. Бывала, спалі на сырой зямлі ў холад. Як толькі ён і выжыў. Усяго паспытаў... Толькі вось бацькавай ласкі не бачыў...

— А за што табе ордэн далі? — неспадзявана перабіў Слава матчыну гаворку. Яго вельмі цікавілі гэтыя два бліскучыя ордэны, якія ён бачыў на бацькавай гімнасцёрцы, што ляжала цяпер на ложку.— За смеласць?

— За смеласць,— адказаў бацька.

— А Васеў бацька за смеласць атрымаў медаль. Толькі ён называецца «За адвагу». Ты таксама танк гранатай падбіў?

Бацька сказаў, што ён камандаваў артылерыйскай батарэяй і што батарэя падбіла сем танкаў.

— Ого-го! Аж сем танкаў! — матнуў галавой Слаўка.— «Тыграў»?

— І «тыгр» быў адзін. І «пантэру» прадзіравілі.

— І «пантэру»? Ты, значыць, яшчэ смялейшы за Васевага бацьку?!

Слава з пашанай паглядзеў на таго, каго звалі бацькам. Цяпер Слава ўжо не баяўся яго, ён, аказваецца, зусім не страшны, з ім нават цікава. І які ён смелы, аказваецца!

— А колькі ты разоў быў ранены?

— Два.

— А Васеў бацька пяць разоў,— не схаваў неспадзяванай зайздрасці Слава.

Пазней — на двары ўжо быў вечар — пачалі сыходзіцца людзі. Ніколі яшчэ не збіралася за ўсе гады Слаўкавага жыцця столькі людзей у гэтую хату. Было многа знаёмых і незнаёмых, суседзі былі, настаўнікі, бацькавы таварышы, партызаны, з якімі маці разам ваявала. Прыйшоў кульгавы Апанас — вартаўнік, з дручком, які паставіў у кутку, каля дзвярэй. Усе вельмі радаваліся таму, што Сяргей Антонавіч вярнуўся ў родны кут, віншавалі яго і абдымалі. Сэрца Расціслава Сяргеевіча пры гэтых знаках пашаны перапаўнялася пачуццём гонару за свайго бацьку. Вось ён які любімы і паважаны чалавек!

Потым гасцей пасадзілі за стол. Маці ўстала і падняла поўную чарку, і ўсе таксама ўсталі.

— Вып'ем першую чарку за сустрэчу!.. Каб жыць без ростані доўга і шчасліва! Каб не расставацца ніколі!

— Добра сказала. Малайчына, Марыйка! — бацька ўстаў і чокнуўся з ёй, а потым з усімі гасцямі.

— Значыцца, каб жыць без ростані і шчасліва!

Усе выпілі і селі на месца.

«Як добра, што вярнуўся тата!» — падумаў Слава. Упершыню паглядзеў ён на бацьку вачыма, якія ззялі ад шчасця і захаплення...

Раптам ён тузануў маці за рукаў і ціха, тонам змоўшчыка, каб ніхто не чуў, зашаптаў:

— Ма-ам! Дык гэта праўда... наш тата? Чэснае слова?

— Чэснае слова — твой...

— Добры ў нас тата!.. Праўда?

— Праўда,— згадзілася маці, чамусьці весела засмяялася і пацалавала ў лоб.— Добры!

# ПЕРАД НАВАЛЬНІЦАЙ

**Раса не выпала — быць дажджу.**
*Народная прыкмета*

Пачалося ўсё пасля полудня.

Стала вельмі душна. Сонца паўзло на захад, а задуха не толькі не спадала — гусцела і гусцела. Сарочка ліпла да спіны, мокла, як на дажджы.

Тады Алена і заўважыла: на небасхіле, над цёмназялёнай сцяной дубняку і асінніку, пухнуць белыя горы. Іх клубы зіхацелі так, што сляпіла вочы. Як толькі хлопцы давяршылі стог каля рэчкі, Алена сказала ім пабраць граблі ды ісці на падмогу жанкам.

Хлопцы, штурхаючыся, перакідваючыся жартамі, пайшлі па лузе.

Іх было сямёра. Аленін брат Грышка Атрошка, самы дарослы з іх, шырокі ў плячах, з русым кучаравым чубам, меў дваццаць адзін год, а ўсе іншыя былі шмат маладзей. Паўлік Чарняк і яшчэ трое — зусім дзеці, мусіць, і па пятнаццаць гадоў не мелі,— але касілі ўжо, бо добрых касцоў не ставала, а тут такая немагата — кожны чалавек патрэбны.

Жанчыны і дзяўчаты моўчкі зграбалі сена...

— Гэй вы, нездалякі! Цэлыя дні тут топчацеся, а работы не відаць...— падышоўшы да грабцоў, крыкнуў Грышка. Ён пальцамі расчасаў, адкінуў назад свой хвацкі непаслухмяны чуб.

— На нас спадзяюцца,— падхапіў самы малы з хлопцаў, Паўлік Чарняк. Ён кутком губ пагардліва цыркнуў сліну, падобна таму, як гэта рабіў Грышка.

— Глядзіце, герой які! — адгукнулася Лізавета.— Брыво калясом і сапель пад насом... Як вас зваць? Нешта ў нас такіх, здаецца, не было. Адкуль вы прыехалі? Ах, гэта ж Паўлік...

Жанчыны зарагаталі.

Алена заняла пракос поруч з Маланняй, пачала скатваць вал. Яна абыякава слухала смешкі хлопцаў

і дзяўчат, Лізавеціны кепікі над Паўлікам. Заўважыла адно, як Лізавета некалькі разоў прыхільна зірнула на Грышку.

«Хлопец які! — падумала з гонарам і шкадаваннем Алена.— І трэба ж — гэтае вока...»

Грышку пад Штэцінам асколкамі міны раніла ў шыю і вока. Шыю вылечылі, а вось з вокам горш — папала туды драбніца з пылінку, а хлопцу прыйшлося застацца калекам...

Ад лесу па пракосах, па шызых купах лазняку, па стагах нячутна і хутка падступіў прыцемак. Пасля яшчэ раз прабілася было сонца, і луг, як вялізнае лясное возера, прамяніста зазіхацеў. Праз некалькі хвілін цень зноў насунуўся.

Аднак, хоць сонца не было, млеў духмень. Усё наваколле драмала ў такой цішыні, што ні адна травінка, здавалася, не варушылася.

А хмары паўзлі. Яны прайшлі над галавой бліскучым празрыстым краем. Неба падзялілася — справа па-ранейшаму сінеў чысты глыбокі блакіт, а злева — грудзіліся хмары, над галавой — белыя, высокія, а там далей — цёмныя, панурыя, сіняватыя; ад іх да зямлі спадалі мутныя пісягі.

Яшчэ да таго часу, як зайшло сонца, на пракосы лёг змрок. Людзі перасталі гаварыць і толькі маўкліва скатвалі вал за валам ды капілі. Чым цяжэй лажыўся змрок, тым больш маўклівыя станавіліся людзі, тым хутчэй рукі ўпраўляліся з граблямі.

Усе яшчэ з паўгадзіны граблі і капілі ў прыцемку. Рукі нібы прыліплі да грабель.

— Ой, жанкі!.. Колькі ж гэта так рабіць! — звонкім гарэзным голасам крыкнула раптам Лізавета.— Ой, не магу!..

Яна кінула граблі і з рогатам упала ў капу.

— Найшла час скаліцца! — сярдзіта прабурчала старая Маланння.— Няма на цябе ўгамону!..

Жанчыны, хлопцы і дзяўчаты нібы ачнуліся. Лізавету, якая клялася, што «не ўстане сама, калі не памогуць», Грышка Атрошка і дзяўчаты падхапілі пад рукі і стомленым, але вясёлым натоўпам рушылі да буданоў. На пракосах засталася адна Алена...

Некалькі хвілін яна стаяла нерухома, зморана абапіраючыся на граблі, слухаючы галасы, што спакваля

аддаляліся, потым выпрасталася, ускінула граблі на плячо і павольна пайшла,— але не ўслед за грабцамі сваёй брыгады, а ў адваротны бок, цераз непрыбраныя пракосы.

Каля цёмнай купы лазняку спынілася.

Вечар быў млосны, дзённая спёка ўжо сышла, але ў паветры яшчэ патыхала духменем...

Алена каторы раз абвяла позіркам неба — над галавой нізка варушыліся важкія хмары. Правей, над чорным ламаным абрысам лесу, зелянела вялікая лапіна з мігатлівымі зорамі. Злева, на даляглядзе, разядва мігнулі зарніцы.

Тут, пры лазняку, канчаюцца рады, якія грабцы з яе брыгады не ўправіліся прыбраць...

Калі б не збіралася на дождж, Алена не трывожылася б за гэтыя рады: невялікая бяда — не прыбралі сёння, дык прыбяруць заўтра, абы толькі была трава не мокрая...

Але яна чула — даждджу не мінуць.

З вялікім намаганнем прымусіла сябе Алена адарвацца ад гэтых непрыбраных пракосаў і пайсці наўпрасткі цераз луг следам за ўсімі, да буданоў.

Калі яна падышла да вогнішча, пры ім некалькі чалавек ужо канчалі вячэраць. Усе іншыя разышліся. Суччa на вогнішчы дагарэла, і цяпер, то ўспыхваючы, то хмурачыся, тлелі зыркія барвовыя вугольчыкі. Алена намацала ў цемры за вогнішчам сухую ламачыну, адламала ад яе галінкі. Вогнішча не ўзгаралася. Алена нахілілася да вуголля, пачала дзьмухаць, пакуль не ўспыхнуў весела агеньчык.

«Як рана сённяляглі спаць,— падумала яна.— Відаць-такі вельмі ўсе змарыліся». У другія дні, можа, да світання рассыпаўся адсюль па ўсёй сенажаці малады нястрымны смех, суладна разліваліся песні.

Яна разламала таўсцейшую галіну і паклала на агеньчык.

Полымя ўспыхнула ярчэй, з трэскам весела пабегла па ламаччы. Цемра адступіла ад дуба, што стаяў непадалёк, ясна акрэсліўся закаваны ў тоўстую кару камель. Угары засвяцілася густое лісце і жылістае сплеценае галлё.

Алена адсунулася ад агню, які пачаў патыхаць гарачынёю. На яе твары, задуменным і неспакойным, з

шыракаватым дабрадушным ротам, на тонкай шыі, на шырокіх працавітых руках, на старэнькай з нейкімі палінялымі кветкамі кофтачцы хадзілі святло і цені. Была яна з выгляду кволая, непрыкметная, толькі рукі мела дужыя, сапраўдныя сялянскія рукі,— яны цяпер спачывалі на каленях.

Жанчына, што зварыла вячэру, наліла ў пагнутую бляшаную міску крупніку, падала Алене.

Пасля вячэры пры вогнішчы засталіся толькі Алена ды Маланн я, хударлявая старая жанчына з вострымі зеленаватымі вачыма, з сярдзітым заломам брывей. Падсеўшы да брыгадзіра, Маланн я стала распытваць, як ідзе ў калгасе жніво.

Ад таго часу, як пачалі жаць, большасць калгаснікаў паехала ў поле; на лузе пакінулі Маланню ды некалькі маладых касцоў і грабцоў. Яны тут днявалі і начавалі. Весткі пра жыццё ў калгасе, да якога адсюль было сем кіламетраў, прыносілі людзі, што па той ці іншай справе наязджалі сюды. Алена прыехала з калгаса толькі ўчора, усе першыя дні жніва яна працавала на полі, і Маланн я цяпер не давала ёй спакою сваімі роспытамі.

Нагаманіўшыся, Алена і Маланн я падняліся, пайшлі ад вогнішча, якое на той час зусім згасла. Маланн я адразу падалася ў будан спаць, а брыгадзір нейкі час стаяла яшчэ на двары. Вечар быў па-ранейшаму задушны і млосны. У натруджаных Аленіных нагах млела стома.

«Жніво заспела, а тут касавіца не спраўлена,— варухнулася неспакойная думка.— Да ўсяго — гэты дождж... Сена, як перац,— аж шамаціць, а тут, чаго добрага, змокне ўсё...» Яна скубнула са страхі будана жмут травы, скамячыла — сена было сухое, як удзень, раса не прыхапіла яго.

«Каб не спалі людзі,— хоць ты цяпер прыбірай».

За лесам, на чорным даляглядзе, нясмела міргалі зарніцы. Раптам да яе дайшло мернае, аднастайнае — ч-чап-чап-чап; гэта плыў па Прыпяці параход з Мазыра ў Кіеў. Ён праходзіць кожны раз у адну пару,— хоць бы калі праміну ў ноч...

Алена naўколенцах улезла ў будан. Маланн я ўжо спала; побач з ёю, шырока раскінуўшы рукі, нібы намагаючыся заняць увесь будан, ляжала Лізавета. Але-

на адвяла яе руку ўбок, прылегла поруч з дзяўчынаю. Ледзь толькі заплюшчыла вочы, адразу правалілася ў забыццё. Нібы не было ні трывогі, ні клопатаў.

Яна заснула так моцна, што здавалася — да рання нішто не абудзіць яе.

Аднак не мінула і паўгадзіны, як Алена неспадзявана прачнулася — трывожная, з такім прыкрым адчуваннем, быццам пабачыла непрыемны сон. Напэўна, неспакойныя думкі не пакідалі яе і ў сне.

Устала, выйшла з будана, зірнула на неба. «Няўжо ж такі не пройдзе бокам?»

Хмары ў чорным небе па-ранейшаму бесперастанку варушыліся. Непадалёк, на міг асвятліўшы блізкія кусты, палыснула бліскавіца.

Алена вярнулася ў будан. Драмала яна цяпер так квола, што праз сон чула вуркатанне далёкіх грымотаў. Калі яна абудзілася зноў, у грудзях штосьці ныла. Паветра пасвяжэла, хадзіў ціхі, але неспакойны вецер, шамацеў сухім лісцем над галавою, у страсе будана.

«Дождж хутка!» — кальнула здагадка.

Алена паднялася, выбралася з будана. Змрок, што ахутваў усё наваколле, быў цяпер не такі густы, як звечара. Справа на небасхіле ўсё яшчэ зелянеў шматок неба з мігатлівымі зорамі. Ён не пашырыўся, як чакала Алена, а звузіўся.

У страсе будана трывожна шалясцела сухое лісце. З Прыпяці, як і раней, даходзіла бяссоннае ч-чап-чап-чап,— параход, відаць, аддаляўся, бо шум яго пацішэў...

«Прыб'е сена... Чакай пасля, пакуль прасохне. Будзеш сядзець, як прывязаная, каля гэтых пракосаў...»

А ўсё было б інакш, каб яны хоць скапілі. Пройдзе дождж, выблісне сонейка, разварушы капу, не паспееш азірнуцца — падсохне. Бяры ды стагуй пахучае, як рута, сена. Крыўдна Алене яшчэ таму, што сена несабранага засталося мала, за дзве гадзіны, каб добра ўзяліся, дакончылі б. Яна звечара збіралася папрасіць людзей пасля вячэры вярнуцца на пракосы, але, як падышла да вогнішча ды пабачыла, якія стомленыя ўсе, перадумала. Цяпер Алене здавалася, што чакаць больш нельга. Трэба хутчэй будзіць усіх...

У гэтую хвіліну яна пачула прыцішаны далечынёю працяжны гудок парахода і падумала, што там таксама не спяць. І на полі, мусіць, многа людзей не спіць — возяць снапы ці сціртуюць...

Ледзь толькі намерылася яна пабудзіць Маланню, як убачыла, што старая выбіраецца з будана.

— Не спіцца, цётка Маланна?

— Не спіцца,— прабурчала старая.— Дождж будзе, хай ён згіне...— Яна ўзялася рукой за спіну і застагнала: — О-ох! Паясніцу ломіць. Не дай бог, у крук сагне. Тады мой зноў спакою не дасць. Гэта, скажа, за тваю злосць!.. Аленка, як жа тое сена, што пры лазняку?

— Я таксама думаю пра гэта... Добра б — прыбраць,— адказала Алена, з радасцю адчуваючы, што старая непакоіцца пра тое самае.— Я хачу, цётка, пабудзіць людзей...

— А што ж! Будзі,— сказала рашуча старая.— Усіх будзі!..

— Я скажу — баявая трывога,— прыйшло раптам Алене ў галаву.— Як у партызанах...

Першай яна раскатурхала Лізавету:

— Лізавета, а Лізавета, трывога!

Тая хутка ўсхапілася, ударыўшыся галавою аб нейкі сук у будане, спрасонку не ўцяміла.

— Што? Трывога? Якая трывога?

— Сена трэба даграбці... Дождж!

Калі ішлі на пракосы, былі маўклівыя і ціхія. Грыша Атрошка спрасонку спатыкнуўся аб купіну, басам вылаяўся.

— Ліха на іх, наставяць тут купін! — пакпіла Лізавета.

Раптам чорнае неба расшчапілася, успыхнула зломамі агністая шчыліна, і сіні бляск ураз выхапіў з цемры зубчасты край лесу, копы, пракосы, людзей, што ішлі з граблямі.

Праз хвіліну наваліўся змрок, чорны і цяжкі. Пасля святла ён здаваўся яшчэ чарнейшы, чым звычайна. На луг упаў і пакаціўся гром. Гэта адразу абудзіла ўсіх, адагнала дрымоту. Людзі пайшлі ўподбег.

— Тут!.. Пачынайце! — скамандавала Алена, калі дайшла да непрыбраных пракосаў.

Алена першая зачапіла граблямі сена з краю пракоса. Хутка і старанна заграбала яна траву, скатвала ў вал. Вал рабіўся ўсё большы, і каціць яго станавілася з кожным крокам цяжэй.

Аднак яна старалася не прыпыняць ходу. Адкуль толькі сіла бралася ў гэтай кволай з выгляду жанчыны! Звычайна павольная, ціхая, Алена ў гэтую трывожную хвіліну нібы перамянілася.

Поруч з ёй вядуць свае рады Маланння і Лізавета. На першай пары ўсе трое ідуць разам, потым Маланння пачынае патроху нібы адставаць.

Алена хутка і звыкла варочае граблямі. Ёй няма калі сачыць за тымі, што грабуць разам з ёю, аднак ні на хвіліну яна не губляе адчування, што тыя поруч. Гэта прыдае моцы. Нібы не адна яна коціць свой вал, а коцяць гэты вал разам з ёю і Маланння, і Лізавета, і Грышка. Усе яны зліліся з Аленай у адно. Нібы гэта не розныя людзі, а адзін чалавек, дужы, мнагарукі...

Грабці нялёгка — сена ледзьве віднеецца на цёмнай пакошы. Добра яшчэ, што месца роўнае — ні ямкі, ні купіны.

Затое каціць лягчэй... «Як там, ці ўпраўляюцца складаць копы?»

Праз некаторы час Алена заўважыла, што стала адставаць. Маланння выйшла наперад. «Жылаватая»,— успомніліся Алене словы людзей, якім даводзілася працаваць са старою.

Тыя казалі, што Маланння — нястомная і што мала хто можа зраўняцца з ёю ў працы.

Цяпер Алена ўжо не думала пра тое, каб выперадзіць Маланню, а старалася як-небудзь параўняцца са старою. Яна пачала хутчэй грабці, мацней кідаць граблі, коцячы вал, і неўзабаве дагнала Маланню.

Доўгі час яны зноў ішлі поруч. Алена не здавалася, аднак яна стала адчуваць, што ёй з кожнай хвілінай усё больш не хапае паветра, што яе рукі дрыжаць ад знямогі.

«Зараз прыцішыць»,— думала яна пра старую, але тая не прыпынялася, усё ішла і ішла наперад. І Алена не вытрымала, пачала пакрысе адставаць...

Зноў палыснула бліскавіца. Недзе зусім побач ра-

скаціста бабахнуў гром — нібы штосьці агромністае звалілася на зямлю і з трэскам разляцелася на дробныя чарапкі. Зямля скаланулася.

— Ой, матанькі! — спалохана прысела Маланння.— Пранясі ты, акаянны, стараною...

І зноў — цішыня. «Вусцішнасць якая! — падумала Алена.— Каб толькі не лінуў зараз».

Неспадзявана аднекуль з боку лесу вырваўся парывісты вецер, з посвістам і віскам прамчаўся над пракосамі, шпурнуў у Аленін твар абярэмкам сена. Вакол адразу пацямнела. Шыю абліло свежасцю і холадам, быццам вадою.

Алена гукнула Маланню і Лізавету:

— Капіць! Хутчэй! — Яна кінулася ў цемру.

Колькі часу працавалі — не ведалі. Можа, гадзіну, можа, болей, а можа, і менш за паўгадзіны.

Яны мала не паспелі скончыць. Грабцы ўжо былі пры самым лазняку, а тыя, што капілі, складалі ледзь не апошнюю капу, калі зашумеў дождж.

Дождж валіў сцяною, і яго шум быў чуваць яшчэ здалёк. З неба адразу секанула вадзяною хваляю.

А ў наступную хвіліну ўсё навокал танула ў шуме...

Алена спярша намерылася была падграбці сена вакол капы, але дождж так сыпануў, што яна, як прыйшлося, ускінула граблі ды наўпросткі пашыбавала да бліжэйшага дубочка, які прыкмеціла, калі грабла пры ім сена.

Тут толькі, прыціснуўшыся да дубка і аддыхваючыся, слухаючы, як угары порстка лапоча ад дажджу лісце, яна адчула, што адзежа ўся прамокла і прыліпла да цела. Прабіраў холад...

«А іншыя дзе? Дзе Маланння, дзе Лізавета? Мабыць, пабеглі да буданоў... Трэба было б і мне... Усё адно змокла...»

Але выбірацца з-пад дубка, які хоць і ненадзейна, а ўсё ж хаваў ад дажджу, выбірацца пад ручаі, што, як з латакоў, шчодра ліліся з неба,— не наважылася. З лісця на галаву сыпаліся важкія і халодныя кроплі, цяклі па твары, сплывалі ў рот... Яна выцерла твар мокрай далоняю...

«Усё-ткі ўправіліся»,— падумала яна, і ўсярэдзіне, у грудзях, пацяплела.

Яна думала пра тое, што ўдзень, як толькі перастане дождж, скончыць касіць той лапік, які застаўся, пра што, калі здарыцца добрае надвор'е, дні за два ўсё прасохне і можна будзе ўсё прыбраць і застагаваць, а людзей накіраваць на поле, на жніво — там яны даўно патрэбны...

А дождж сек і сек па маладым дубку, і ўгары нясціхна лапатала лісце, і ручай за ручаём сплывалі на яе галаву, твар; аднак Алене было светла і лёгка. Ён цяпер ужо не трывожыў так, як раней, гэты нежаданы дождж.

# ПАВЕЛ ПРЫЕХАЎ

У пакоі стала прасторна і ціха,— пайшлі госці і панеслі разам з сабою і шум, і крыкі. За сталом сядзелі адны Павел ды Марцін.

Насця зморана апусцілася на лаўку, паклала абедзве рукі на ўскрай стала, нібы ёй самой цяжка трымаць іх, спакойна акінула чорнымі, зацененымі бяссонніцай вачыма таварышаў. Марцін хрыплым пасля песень і гарэлкі голасам апавядае пра нейкую партызанскую засаду. Правая Марцінава рука ляжыць на Паўлавым плячы, пальцы трымаюцца за пагон; здаецца, што Марцін толькі што абдымаў таварыша. Павел слухае з цікавасцю, у вузкіх шэрых яго вачах час ад часу ўспыхваюць неспакойныя агеньчыкі...

Колькі ж гэта яны будуць апавядаць адзін аднаму пра свае баі і засады! Напэўна, канца не будзе іхняй размове, а на дварэ пачынае світаць. Насця знарок шырока пазяхнула і сказала:

— Пілі, елі, маладую бачылі? Пара і чэсць ведаць...

— Як гэта? — нібы не зразумеў Марцін. У кутках яго вуснаў затрапятала затоеная ўсмешка.

— А так — трэба ўставаць з-за стала.

— А-а, вунь што, загадваеш, значыцца, эвакуіравацца...

Марцін падняўся, падзякаваў Паўлу і Насці за пачастунак.

— Мусіць, і добра, што загадала, бо мы, пэўна, яшчэ сядзелі б тут, сядзелі, ліха яго ведае колькі... Глядзі, Павел, ужо ноч сыходзіць?!

На развітанне працягнуў Паўлу руку. Той рукі не падаў, прамовіў, зашпільваючы каўнер кіцеля:

— Я цябе праведу.

І вось — яны ідуць па маўклівай, зацягнутай ранкавым прыцемкам вуліцы, два шчырыя сябры, Мар-

цін і Павел. Ідуць разам — упершыню за доўгія гады ростані. На вуліцы ні аднаго чалавека. Пад нагамі шамрыць прамочаны начной вільгаццю пясок.

Міма праходзяць ціхія хаты, сочаць за таварышамі соннымі, чорнымі вокнамі. Каля хат цёмныя зданні дрэў, што прыселі да зямлі ад цяжару галля,— сады; ад іх патыхае водарам налітых вострым сокам яблык.

Здалёку, з тока, даходзіць ціхае мармытанне. Малоцяць. Павел слухае гэтую гаворку, і ў сэрцы яго трымціць нешта напаўзабытае, як успамін маленства.

Сябры ідуць і, паддаючыся маўклівасці раніцы, маўчаць. Абодва адчуваюць, што яны сягоння блізкія і дарагія адзін аднаму, як браты. Каля хаты, у якой жыве Марцінава сястра, спыняюцца.

— Ідзі, Насця там чакае не дачакаецца,— штурхае Марцін сябра ў бок, потым дадае з таварыскім дакорам: — Ты так і не расказаў нічога пра бой за Берлін.

— Раскажу калі-небудзь... Цяпер, браце, у мяне не тое на душы — усё ніяк не нагляджуся на сваіх партызанаўцаў... не надыхаюся, як пахне ў нас спасаўкамі.

Павел шумна і прагна, на поўныя грудзі, увабраў ранішнюю свежасць, настоеную пахам яблык.

— Эх, каб ты ведаў, што мы адчувалі, калі вярнуліся з лесу,— успомніў Марцін.— Паўсяла, як пустыня, толькі попел ды галавешкі... Сэрца крывавымі слязьмі абліваецца... А ўсё роўна, ведаеш, радаваліся звароту...

— Хараша ў нас, Марцін,— шырыня, прастор... Там, у Нямеччыне,— неяк цесна, вузка, гняце ўсё... Кожны аддзяляецца каменнаю сцяной. Толькі за свой куток ды свой шнурок дрыжыць — дзіка мне ўсё гэта было. Я табе калі-небудзь пад настрой раскажу абавязкова... Прыехаў дамоў, дык лягчэй уздыхнуў. Шырыня, прастор!..

— А мне сягоння, прызнаюся, больш за ўсё да сэрца музыка... Чуеш?

Павел, які ўвесь час мімаволі прыслухоўваўся да шуму малатарні, адказаў:

— Чую...

— У мяне, Павел, сягоння нібы свята — скончылі жаць, малоцім... Гара з плеч. Горача мне было з казакамі маімі ў жніўні гэтым, папёкся досыць.— Але — добра, што добра канчаецца...

Раптам схапіў Паўлаву руку.

— Ну, на гэтым скончым... Пара і чэсць ведаць, як Насця кажа. Ідзі адлежвайся, бо хутка ў работу вазьму. На адпачынак вялікі не спадзявайся,— хоць ты і друг мой — не дам. Патрэбны ты, казак, мне...

— Не, брат, нічога не зробіш.

Павел смяецца, б'е Марціна па плячы:

— Нічога не зробіш — хоць ты цяпер і маё непасрэднае вышастаяшчае начальства, якому я павінен падпарадкавацца... Не маеш ніякага права... Пасля сямі год — як ні круці — сем месяцаў на адпачынак выходзіць...

Павел паціснуў на развітанне руку, паволі пайшоў дахаты. Ён думаў пра тое, што мінула сем год, як ён не рабіў у калгасе, сем не абы-якіх год, адгрукала тры вайны — і вось ён зноў ідзе па вуліцы, як хадзіў некалі хлопцам пасля спаткання з Насцяю... І Марцін тут ходзіць. Паранены, скалечаны... «Як шкода, што няма яго Ганны!..»

Багата, багата каго не стала ў Каранеўцы. Андрэя няма... Гаркушы Андрэя, яго таварыша... Алена гадоў на дваццаць пастарэла... Колькі гаварыў, бывала, пра яе Андрэй. А ёй — кожны дзень, мусіць, па два лісты пасылаў, пакуль можна было...

І Каранеўка не тая цяпер. Палова яе — з таго краю, якi будаваўся ў апошнія гады — пайшла з агнём; там, дзе цяпер папялішчы і новыя зрубы, стаялі раней прасторныя, светлыя хаты, цвілі пад вокнамі акацыі і бярозы. Каля Андрэевай хаты на лавачцы збіраліся кожны вечар дзяўчаты і хлопцы — спачатку спявалі, гаманілі, потым разыходзіліся парамі, хто куды... Толькі Андрэй з Аленаю заставаліся на лавачцы, шапталіся аб нечым да світання...

Каля сваёй хаты Павел спыніўся, раздумваючы, ісці ў хату ці, можа, падацца ў поле, палюбавацца, пацешыцца даўно не чутым хараством празрыстай poльнай раніцы. Пастаяў хвіліну, ступіў на ганак, але ў хату не пайшоў, пастукаў па шыбе. Убачыў здзіўлены Насцін твар, кіўнуў, каб выйшла. Яна адчыніла акно.

— Ты чаго? Як кавалер усё адно!

— Хадзем, пагуляем. У поле...

— Ну, канечне ж, кавалер! Гуляць на світанні! Спаць ідзі.

— Галава баліць нешта. Ды і раніца — другой такой не будзе!

— Раніца як раніца. Самы час спаць!

— Надзень жакетку, бо свежа...

Ён сышоў з ганка. Чаму не хочацца спаць? Трэція ж суткі не счыняе вачэй, ушчэнт змардаваўся з дарогі і ад бяссонніцы. Чаму хочацца глядзець і глядзець на гэтыя палі, на хаты, слухаць няўціхнае мармытанне малатарні?

Эх, хто ведае, што цяпер у Паўла на душы?

Насця паявілася хмурная, на ўсмешку яго не адказала, не таіла, а знарок паказвала, што злуе.

— Кручаны! Ну і кручаны ж! — прамовіла з папрокам і замоўкла надоўга.

У канцы вуліцы напаткалі старога чалавека ў вайсковай шапцы з выцвілым малінавым аколышам. Стары ішоў павольна, апусціўшы галаву, згорбіўшыся, у правай руцэ была сякера з доўгім выслізганым рукамі тапарышчам. Чалавек быў паглыблены ў нейкія свае думкі, відаць, разважаў сам з сабою. «Стары Скорык, Васілёў бацька»,— пазнаў Павел.

— Дзядзька Скорык, куды вы так рана?

— А-а? — прахапіўся той.— Хто ж гэта? — жмурыў блеклыя слепаватыя вочы стары, узіраючыся ў твар вайскоўца: — Паўлік Абуховіч? — пазнаў ён нарэшце, і жоўтыя яго бровы слаба дрогнулі.— Мне казалі, што прыехаў, учора... Ды вось, на працу... Марцін сказаў, што трэба канчаць свіран... цеслярам сказаў.

— Вы ў цяслярнай брыгадзе?

— Што кажаш? Ага, цясляр, Паўлік... Дык я і іду...

— Рана ж яшчэ, дзядзька Скорык! Хто ж у такую рань пачынае працу?

— Э, чаго там рана, Паўлік. От дацягнуся памалу, вазьму сякеру ды буду цюкаць памаленьку...

«Колькі ж яму цяпер год?» — падумаў са здзіўленнем Павел, пазіраючы ўслед старому, які брыў па вуліцы. Яшчэ калі Павел ішоў у армію, Скорыку было каля васьмідзесяці, ужо тады ён быў ледзь не самы стары чалавек у Каранеўцы. Яго аднагодкі або спалі ў зямлі, або сядзелі на печы, а стары Скорык, яшчэ моцны, амаль штодня хадзіў са сваёю сякераю на калгасныя будоўлі...

Сонца пакуль спала, але наваколле ўсё больш яснела. На траве былі ўсюды відны мутныя кроплі расы.

З вуліцы Павел і пакрыўджаная, непадступная Насця збочылі на дарогу, што паўз калгасны двор слалася ў поле.

На двары, як і на вуліцы, было яшчэ пуста, адно каля кароўніка ішлі дзве жанчыны з цынкавымі вёдрамі, напэўна, даяркі. Раптам да Паўла дайшло спакойнае, працяжнае — му-у, му-у-у, дыхнула салодкім пахам цёплага сырадою.

Ён акінуў шэрымі, крыху стомленымі вачыма спачатку прыземістую даўгую будыніну кароўніка, на якой яшчэ не паспелі пасівець бярвенні, потым канюшню, што цягнулася насупраць, з другога боку двара. За канюшняй тырчаў яшчэ адзін даўгі зруб, але няскончаны; пляскаты яго верх, без крокваў, нагадаў Паўлу хаты, якія ён бачыў, калі ваяваў на Каўказе.

Паўлу ўспомніліся Марцінавы словы: «Горка было спачатку. Ні каня, ні каровы. Толькі вол, дый той гол, як у прымаўцы... Мяхі з насеннем цягалі аж на Кругі на ўласным гарбу. Зямлю дык жалязнякамі калупалі...»

Павел глянуў на Насцю і не вытрымаў:

— Ну, доўга ты будзеш яшчэ такою хмарай!.. Не разумееш — не бачыў жа ўсяго даўно!.. Ух і наравістая ж ты!

Ён абняў жонку за плечы, прытуліў, але яна вызвалілася.

— Не падлізвайся! Не разамлею! — Усё ж як бы трохі памякчэла: — Нібы не паспеў бы ўдзень паглядзець. А то вочы, як медзякі...— І неспадзеўкі — так мяняцца магла, мабыць, толькі яна адна ў свеце — гарэзна засмяялася: — Калі я гадзінку пабуду з табой удвух? То сустрэча, то госці — вечна хата поўная людзей. Нацалавацца ўволю няма як!

Павел таксама засмяяўся. Даспадобы была яму Насціна задзірыстая шчырасць і вясёласць...

— Што ж гэта вас ні свет ні зара прынесла сюды? — такімі словамі спаткала іх Алена, калі яны прыйшлі на ток.

— А ты вось запытайся ў яго! — Насця з папрокам зірнула на свайго чалавека.— Хіба ж яго, упартага,

стрымаеш?.. Ат, няхай, не перарвецца... Паспіць яшчэ, хопіць часу.

Алена засядзелася на вечары ў іх нядоўга. Павел, для якога яна была вельмі дарагім госцем, з самага пачатку вечара заўважыў, што ёй сярод гэтага вясёлага тлуму і гаворак нялёгка. Павел непрыкметна сачыў за ёю і стараўся развесяліць. Алена то смяялася разам з усімі, то раптам хмурнела, пухлыя, як у дзяцей, губы дрыжалі, і Паўлу здавалася, што яна вось-вось зарыдае. Яна першая паднялася і пачала была развітвацца, але Насця ўгаварыла яе застацца. Усё-ткі Алена села за стол неахвотна. Не мінула, напэўна, і паўгадзіны,— узнялася зноў...

На мастку стаіць Вольга. Як заўважыла Паўла, кінула ўсё, саскочыла. Усміхаючыся лагодна, папраўляючы рукою запыленыя бялявыя валасы, што выбіліся з-пад хусткі, падышла да Паўла...

— Дзень добры, Павел! Паглядзець хочаш на нас... Шумна тут, пыльна... Бачыш — чорная якая? І няёмка паказвацца такой госцю.

— Ну, скажаш. Самы прыгожы выгляд! Пазайздросціць можна!

— Не смейся, Паўлік!

— Ад шчырага сэрца, Волечка!..

Каля Паўла хутка збіраўся натоўп. Пра тое, што ён вярнуўся з арміі, ведала, мусіць, усё сяло, але бачыць яго давялося мала каму, бо людзі ўвесь дзень былі на полі. Ад скірды, ад трактара, ад вазоў, на якіх вазілі снапы і мяшкі са збожжам, падыходзілі і падыходзілі жанчыны, мужчыны, падлеткі. Віталіся з земляком.

Шмат каго з моладзі Павел не пазнаваў, бо тыя, калі ён ішоў у армію, былі дзецьмі і за гэты час вельмі змяніліся.

— Чый жа гэта? — не раз пытаўся ён, падаючы руку якому-небудзь доўгаму загарэламу падлетку з віхрастаю чупрынай.

Людзі лавілі кожнае слова, якое казаў Павел. Усе чакалі, Павел зараз пачне расказваць пра баі, пра заграніцу. А Павел нічога не апавядаў, а ўсё распытваў — пра іх клопаты, пра малацьбу, пра жніво.

Цікаўныя вочы маладых найбольш пазіралі на пагоны з трыма зорачкамі і маленькімі танкамі, на тры ордэны і на медалі, што зіхацелі на грудзях. Яны гля-

дзелі на земляка з гордасцю, і, напэўна, не адзін з іх пазайздросціў Паўлу... Старым больш кінулася ў вочы, што Павел вельмі змяніўся за гэтыя гады з аблічча. Па краях вясёлага, дабрадушнага рота глыбока ўеліся два раўчакі маршчын. На шчаках і невысокім, з надброўнымі дугамі, ілбе бялела некалькі плям, якія асталіся пасля аднаго бою, калі Паўлаў танк згарэў ад нямецкага снарада.

— Пусціце ж мяне хоць вокам зірнуць!..— пачуў раптам Павел за натоўпам сярдзіты старэчы голас.— За гэтай блазнотай ніколі нічога не пабачыш!.. Адыдзіце вы ўбок!

Праз жывую густую агарожку людзей да Паўла праціснулася хударлявая старая жанчына з сухім зямлістым тварам, з зеленаватымі, строга прыплюшчанымі вачыма.

— Можа, ужо і не пазнае́ш мяне? — наўмысля няласкава прабурчала яна.

— Як гэта не пазнаю вас! Што вы! Такога вядомага чалавека не пазнаць? Цётка Маланння!

— Помніш, значыцца...

Пад дабрадушныя смешкі людзей строга аглядзела ўсю шыракаплечую, карчакаватую постаць Паўла, сухою, учэпістаю рукою ўзяла кружок медаля і, наблізіўшы да яго твар, марудна, па складах прачытала: «За взяти-е Бер-ли-на».

— То ты Берлін, значыцца, браў? А бо, а я не ведала, што там наш караневец быў! То ты там увесь час і жыў? Гэта ж год, мусіць, цэлы год... Што ж ты там так доўга рабіў?

І раптам скамандавала:

— А ну, пакажы, рыбка, ручкі. Пэўна, беленькія, мякенькія — адвыклі ад мужыцкай працы?..

— Што вы, цётка! — папракнула з натоўпу Лізавета.— Саромеце нас перад чалавекам!.. Спатканне называецца — толькі што чалавек прыехаў, а вы да яго — з такім прыветам!..

— Не падказвай!

Старая памацала шырокія, з плямамі ад апёку рукі, але нічога не сказала. Відаць, рукі тыя Паўлавы былі таксама шурпатыя, натруджаныя.

— Указчыца знайшлася,— буркнула без злосці ў бок Лізаветы,— сама ведаю, што рабіць...

Ад таго, як стала малатарня, мінула якіх-небудзь некалькі хвілін, а Алена занепакоілася — трэба зноў пачынаць... Пабачылі Паўла — і хопіць, нельга больш марнаваць часу. «Вось хіба прыйдзе дзённая змена, тады, ідучы ў сяло, і пагаворым і паслухаем».

Няхай Павел не крыўдзіцца, што сустрэча такая кароткая. Ён жа ведае, што Алена адрывае людзей ад яго зусім не таму, што лічыць яго за абы-якога госця.

Яна загадала станавіцца на месцы. Трактарыст падышоў да трактара; упёршыся левай рукою ў бліскучы вобад пярэдняга кола, раз, другі крутнуў ручку. Трактар залапатаў — спачатку ціха, з перабоямі, нібы чалавек, што душыцца кашлем; потым усё хутчэй, пакуль лапатанне не злілося ў роўны, мерны гул. Крануўся і папоўз пас. Вольга падала ў барабан разгорнуты сноп, барабан перастаў ляскатаць, загуў басам — напружана і цяжка.

Павел, як зачараваны, пазіраў на спрытныя, быстрыя Вольчыны рукі, на вузкія пакатыя плечы, якія яна час ад часу паварочвае туды-сюды, нібы дапамагаючы рукам. «Умее рабіць, нічога не скажаш, умее...— думае Павел з адабрэннем.— А да вайны, здаецца, ніколі не станавілася на масток!»

— Волька ж — малайчына, а! — падышоўшы да Алены, ківае Павел у бок Вольгі.

— Гэ-эх, хлебным пылам пахне...— удыхае Павел забыты пах свежай саломы, пах сухога жыта — такі дарагі і знаёмы, што шчыміць у горле.— Даўно я не спытваў такога...

Праз шум малатарні Алена амаль не пачула, што гаварыў ёй Павел, але, і не чуючы тых слоў, яна ведала значэнне іх. Чулым сэрцам угадала Паўлаў настрой; не памылілася, калі падумала, штó запаліла салдата.

— Цяпер мне, напэўна, адстаўка? Куды мне, мусіць, да Волькі?.. Ці — можа, паспрабаваць?..

Не спяшаючыся, пачаў расшпільваць кіцель, зняў яго і, акуратна склаўшы, падаў Насці.

Цяпер — без кіцеля, без ордэнаў, у белай палатнянай сарочцы — ён раптам стаў падобны да ўсіх тых, хто працаваў пры малатарні. Ідучы да Вольгі, на хаду закасаў рукавы.

— Гэ-эх, даўно я не трымаў снапа...

Узляцеў на масток, узяў з Вольчыных рук разгорнуты сноп і пусціў на барабан. Людзі, што рабілі вакол, пабачыўшы шыракаплечую Паўлаву постаць на мастку, заварушыліся жвавей. Хоць і быў Павел сваім чалавекам і не раз некалі стаяў на мастку, хоць цяпер у сарочцы з закасанымі рукавамі і не вылучаўся звонку нічым ад іншых калгаснікаў, але ж даўно людзі не бачылі яго тут. З насцярожанасцю і ўвагай сачылі за мускулістымі дужымі рукамі, нібы правяралі, ці не адвык Павел.

Паўлавы рукі, шырокія, вузлаватыя, ходзяць спакойна і ўпэўнена, быццам нічога іншага не ведалі, а толькі калгасную працу. Нібы не танкам кіравалі яны сем год, а рассцілалі снапы перад барабанам або касілі сена.

Па ўсім відаць: не адвык Павел.

Сэрца Паўла захлынаецца ад радасці, што ён зноў стаіць за мастком, зноў убірае пах сухога жыта.

Увішная Малання без упынку развязвае сноп за снопам, падсоўвае да Паўла. Той падае ў барабан.

— Папрацуй, сынок. Гэта табе не ў машыне сядзець!

Мігатлівыя вылізаныя білы хапаюць сухія шапаткія сцяблiны, прагна ўцягваюць у пашчу малатарні. Барабан раве напружана, як танк, што ўзбіраецца на гару.

Ні на хвіліну нельга спыніцца, бо снапы ўсё падыходзяць і падыходзяць. Ледзь толькі прыпознішся падаць сноп, як барабан пачынае злавацца, ляскатаць...

Навокал мітусяцца людзі — адны падаюць і развязваюць снапы, другія — граблямі адкідаюць пульхныя скамечаныя абярэмкі саломы, трэція — коньмі адвозяць у стог пружыністыя копы. Нібы штосьці адлічваючы, рытмічна стукае саламатрас.

Усё варушыцца, спяшаецца, ходзіць, быццам часткі адной вялікай машыны. Над малатарняй падымаецца і трапеча ў ранішнім жнівеньскім спакоі рудая хмарка...

Прыйшла дзённая змена. Над полем, над сінім поясам далёкага лесу ўзыходзіла сонца. Малатарню спынілі.

Саскочыўшы з мастка, Павел убачыў каля незавя-

занага поўнага мяшка Марціна. Старшыня стаяў, абапіраючыся на кіёк,— ён зачэрпнуў далонню ў мяшку, падняў жменю, пачаў прыглядацца да зерня.

Поруч з Марцінам стаяла Алена, нейкая дзіўная, вінавата памаладзелая.

Абтрэсваючы пыл, што цёмным пластом наляпіўся на сарочку, Павел падышоў да іх.

— Што вы тут варожыце?

— Ды вось гляджу, ці не намалоў ты мне, малоцячы, мукі заадно? Думаю, можа, ён так пастараўся, што ў млын не трэба везці...

— Ну і як, не пабіў зерне?

— Не, пакуль, калі праўду казаць, нават круп не нарабіў! У млын, адным словам, трэба будзе везці.

— А салома чыстая? — запытаўся Павел у Алены.

— Чыстая...

Павел узяў дробачку сухіх, даўгаватых, з прадоўжнымі раўчачкамі зярнят і паклаў у рот. Расціснуўшы зубамі, ён адчуў прэсны смак свежай мукі.

На яго твары белаватыя плямы ад апёку і мутныя шнуры ад пылу перамяшаліся. Здаецца, што ўсе гэтыя плямы сыдуць адразу, як толькі пырснеш вадою.

Марцін раптам усміхнуўся:

— Ты што ж гэта, таварыш танкавы начальнік, не стрымаў свайго слова пра водпуск?

— Вінават! Каюся, Марцін!.. Не ўтрываў, разумееш,— захацелася паспрабаваць... І, брат, здаецца, някепска атрымліваецца, а, як ты думаеш? Атрымліваецца? Ну, вось... А наконт водпуску — мне, Марцін, і сем дзён замнога... Так што, як кажуць, ты май на ўвазе...

# НА РАЦЭ

Мы сядзелі ўтраіх на беразе ракі: бялявы, па-юнацку зграбны лейтэнант з чамаданам і рэчавым мяшком, пажылая калгасніца з плеценай кашолкай і я.

Лейтэнант меў ад сілы гады дваццаць чатыры, а нашай спадарожніцы можна было даць, здавалася, і ўсіх сорак пяць, калі не больш. На ёй была акуратна пашытая і выпрасаваная шавіётавая жакетка, з-пад якой выглядвала чырвоная ў палоску кофтачка. На галаве жанчыны цвіла яркімі кветкамі святочна-новенькая хустка; над абветраным смуглаватым ілбом віднеліся кранутыя сівізной цёмна-русыя валасы.

На пясчаным беразе ракі — навокал нас — было ціха. За намі ляжалі складзеныя ў штабель папяровыя мяшкі з суперфасфатам, вялікая скрынка, у шчылінах якой можна было бачыць металічныя часткі нейкай машыны; на скрынцы чарнелі надпісы: «верх», «ніз», «не кантаваць». Каля мяшкоў і скрынкі сядзеў, спакойна пакурваючы, дзед у пацёртым да хромавага бляску кажушку,— відаць, вартаўнік. У тым баку метраў праз пяцьдзесят, на ўзгорку, жаўцеў будынак канторы прыстані, дзе памяшчалася каса, жылі начальнік прыстані і вартаўнік.

Быў ясны халаднаваты дзень вясны. Паводка ўжо сышла, але Прыпяць разлівалася яшчэ значна шырэй, як летам. У лазняку, пры якім мы ўладзіліся на мурожнай лапінцы, спусціўшы ногі ў пясчаную ямку, віднеліся падсохлыя палосы зляжалага ілу і рознага намытага бруду, якія сведчылі, што нядаўна тут плёскалася рака. Другі бераг — нізкі, балацяны — у многіх мясцінах быў яшчэ схаваны вадою, якая блішчала глыбокімі залівамі і цэлымі азёрамі.

Выгляд шырокай ракі, яснага і празрыстага вясновага прастору весяліў вочы.

Мы чакалі парахода, што затрымаўся недзе каля Пінска.

Жанчына, паправіўшы марлю на кашолцы, якую яна трымала на каленях, пацікавілася, адкуль лейтэнант родам і куды едзе. Лейтэнант адказаў, што едзе з Далёкага Усходу дамоў, у адпачынак.

— У мяне сынок таксама ў арміі, у Германіі. Служыць другі год,— паведаміла яна вайсковаму, памаўчаўшы хвіліну.— За шафёра, на машыне, працуе. Піша, што жывецца яму там у арміі добра — і кормяць добра, і адзяваюць, і навучыўся ён многаму... Толькі я вось трывожуся надта за яго — неспакойна становіцца ў гэтай Заходняй Германіі...

Яна пацікавілася, куды я еду; я сказаў, што еду па справе — па меліярацыі — у Каржоўку.

— А, то добра... толькі вы гэта не да нас, а ў суседні раён. Я — з «Новага Палесся», можа, чулі? Зваць мяне Васіліна Карпаўна, Крэнь па прозвішчу.

Яна зноў перавяла позірк на лейтэнанта, уздыхнуўшы, запыталася, ці ваяваў ён.

— А як жа. Амаль з сорак першага... Спачатку тут у партызанах,— мне толькі пятнаццаць стукнула, калі я прыйшоў у лес. А потым — і ў арміі: вызваляў, будучы ў чыне сержанта і старшага сержанта, гарады Катовіцы і Прагу. Гэта пасля ўжо я трапіў на Далёкі Усход.

— Такі малады, а ўжо ваяваў,— уздыхнула жанчына.

— Ну што ж, хіба я адзін такі?

Ніхто лейтэнанту на гэтую выказаную філасофскім тонам сентэнцыю не адказаў. Васіліна Карпаўна з-пад далоні невялікімі, глыбока запалымі вачыма глядзела ўніз на ваду, на якой хмурылася рабацінне, што ціха падбягала да берага.

Мы нейкі час маўчалі. Цішыня, рачная пространь, пустата чакання — усё гэта наводзіла на роздум, а скупыя шчырыя словы трывогі нашай знаёмай пра свайго сына стварылі настрой інтымнай блізкасці між нас, асабліва чуласці. Я адчуваў, што Васіліну Карпаўну хвалююць нейкія свае думкі, чакаў, што яна хутка даверыць нам іх, падзеліцца з намі... І праўда, яна неўзабаве загаварыла.

— Пагана — калі ў маладыя гады чалавек жыве

цяжка... А я і зусім не ведала, што такое маладосць. Нібы адабралі ў мяне маладосць...

Лейтэнант, паправіўшы накінуты на плечы шынель, на пале якога ён сядзеў, зацікаўлена зірнуў на яе:

— Як гэта адабралі?

— А так, адабралі... Бо чым мне яе ўспомніць? Прайшла — і добрага знаку не пакінула. Вось так, як цень ад хмары ў полі ці на балоце — бачылі? — прабяжыць і прападзе за лесам і нічога пасля сябе не пакіне.

— Ну што-небудзь жа засталося ў памяці?

— Засталося. Толькі больш такога, што і ўспамінаць не хочацца...

— А ўсё-ткі помніцца і добрае?

— Ну вось, помню, як Кандрат — чалавек, значыцца, мой — прыязджаў сватаць. Мне тады і семнаццаці поўных не было... Помню, праўда. На вяселлі пасадзілі нас на дзяжу,— а тую дзяжу раней накрылі вывернутым кажухом...

— Каб былі, значыцца, багатыя і шчаслівыя?!

— Выдумалі, невядома для чаго. Усё — цемната людская...

Гаварыла яна ціха, расцягваючы словы, і крыху аднастайна, нібы думала ўголас,— у яе гаворцы адчувалася ўраўнаважанасць чалавека, які многа бачыў у жыцці. Хоць жанчына здавалася з першага позірку крыху абыякавай, усё ж, прыслухаўшыся, лёгка было заўважыць, што яна ўвесь час стрымана хвалюецца — то непакоіцца, то спачувае; гэта ажыўляла яе сінявата-тыя, запалыя, але дзіўна ясныя, маладыя вочы, прыдавала ім нечаканае хараство і прывабнасць.

— Выйшла, значыцца, я замуж, стала гаспадыняй. Гаспадыняй — гэта так, толькі к слову сказаць. Якая там гаспадарка?! Зямлі два моргі, хатка — трухля адна — проста дзівішся, як яна яшчэ стаіць... Біліся як рыба аб лёд. Кандрат мой усю вясну аж да самай прыборкі хадзіў па людзях, ставіў хаты. Часам і плыты ганяў тут на Піне ды Прыпяці. Бывала, і вымакне, і папакалее — да костачак... Ад таго ўсё ламала ў яго ногі. Жартачкі...

Я пазіраў на раку, на сонечных зайчыкаў, што пераліваліся, зіхацелі справа, стараўся ўявіць цёмную

дажджлівую ноч і плыты і не мог. «Чаму яна гаворыць пра мужа, нібы яго цяпер няма?» — праплыло ў мяне ў галаве, але я змаўчаў.

— Ды і вам, відаць, не лягчэй было? — прамовіў лейтэнант.— Як мужу, так і жонцы...

— Ну, мусіць жа... Я таксама прырабляла. Ткала коўдры... У нас і цяпер часам кажуць, што ў мяне — залатыя рукі. Гэта ад той пары... От не буду хваліцца, але як вытку пеўняў ці кветкі — дык не інакш жывыя. Удалая на руку была! Бывала, суседзі прыходзілі падзівіцца: «Ото ж коўдра,— хваляць,— як фабрычная!..» — Яна ўздыхнула: — Коўдры гэтыя, дарожкі прадавалі на хлеб...

— Невясёлая гісторыя...— зноў адгукнуўся лейтэнант. Ён слухаў вельмі чула, час ад часу ўстаўляў свае заўвагі, выказваў свой настрой, неспакойна папраўляючы на плячах шынель, пазіраючы на мяне, нібы шукаў падтрымкі. Ён быў з тых людзей, што любяць і ўмеюць слухаць.

— Дзень у дзень, дзень у дзень адно і тое ж — хата, поле, кросны. Як заварожаная!.. А калі што і было прыкметнае, то толькі крыўда. Многа было яе. Многа! Усякі, каму хацелася, мог пакрыўдзіць!..

Век не забуду аднаго дня. Дваццаць з лішкам год мінула, а і цяпер, як прыпомніш, паверыце, кіпіць усё нутро. То ж арыштавалі тады Пятра — брата майго. Нейкі нелюдзь выказаў, што Пятро, значыцца,— бальшавік. Наскочыла паліцыя, зрабіла вобыск, лістоўкі там супроць паноў, ці што, знайшла,— і павялі ў пастарунак!

Я, як толькі даведалася, што ён у Нялюбічах у пастарунку, адразу — хлеба ў торбу ды хутчэй туды.

Прыбегла задыханая,— паліцыянты не пускаюць! Як я ні прасіла, ні маліла,— не пусцілі. Адзін яшчэ,— помню, выкшталцоны такі, хванабэрысты, з казырком да самых вачэй,— стаў падсмейвацца з мяне: «хлопка», бачыце, «быдла», «яму нічога не трэба — і так здэхне».

А я, скажу, хоць і цёмная была, і ў падранай кофце, але — гордая. Нікому я не даравала здзеку з сябе!

Лейтэнант з павагай і нават захапленнем паглядзеў на яе і задаволена прамовіў:

— Вось і ў мяне маці такая!

— Загарэлася я. Аж рукі дрыжаць. «Хутчэй ты сам здохнеш», кажу. Ён адразу падскочыў, як аса яго ўкусіла, пачырванеў: «Що-о! Псякрэў, бальшавічка! Што ты кажаш, псякосць?!» Падбег да мяне і выцяў кулаком. А я ўсё роўна не магу змаўчаць яму. У мяне яшчэ большая злосць на яго. «Тое, што чуў... Усе вы хутка здохнеце!» Тут і іншыя наляцелі, як звяры, сталі біць. А я ўсё сваё крычу: «Здохнеце... Здохнеце!» Спачатку крычала, а потым ужо і гаварыць не магу. Жартачкі. Так збілі — у роце поўна крыві.

Адцягнулі мяне ад пастарунка і кінулі каля плота. Я, можа, там, каля плота, і зайшлася б. Ды толькі людзі наказалі Кандрату. Запрог ён каня — прыехаў па мяне... Палажыў на сена. А я ляжу ды ўсё хрыплю: «Здохнеце!.. Усе вы, нелюдзі!..»

З той пары, прыкмячаю, пачала я нядужаць. Штосьці такое пашкодзілася ўнутры. Дыхаць стала неяк цяжка, нібы паветра не хапае. І хрыпіць усярэдзіне... Адным словам, не магла ўжо я ачуняць... Праўда, і каб лячыцца па-людску, то не лячылася. У бальніцы за адны суткі трэба было аддаць сем злотых. Каб месяц паляжаць, дык і кароўкі не хопіць. А яна ж адна... Ну, і калі хварэць? Паляжыш крыху, аддыхаешся і, абы-толькі хадзіць здолееў,— адразу за працу.

Яна памаўчала задуменна, потым, звыклым рухам выцершы далонню сухія губы, прамовіла з вінаватай усмешкай:

— Мусіць, сум на вас толькі нагнала?

— Ну што ж, з песні слоў не выкідваць,— адказаў лейтэнант.— Якая доля, такія і словы... Ды і мая маці не багата шчаслівейшая была...

Ён, напэўна, стаў бы расказваць пра сваю маці, але я перабіў яго:

— А што ж з вашым братам?

— З братам? Ды судзілі. На восем год засудзілі. Сядзеў ён у Гродні і ў Бярозе быў, аж да самага верасня... Сем год і восем месяцаў! Толькі чатыры месяцы і не дасядзеў...

— Гэта не ён у Гракаве, у райкоме? — пацікавіўся я.

— Ён, Пятро,— прамовіла Васіліна Карпаўна.— З мінулай восені там... Раней дык ён у Бродах у эмтээсе быў, а летась выбралі ў райком...

Ён, Пятро, яшчэ пры Польшчы ведаў, як мы будзем жыць, калі вызвалімся. Ведама, камуніст... А я была што асенняя ноч. Вы думаеце, я заўсёды была такая, як цяпер?.. Калі ў нас арганізаваўся калгас, думаеце, я адразу пайшла? Не. Кандрат намерыўся быў падаць заяву, дык я так на яго насела. «Ты што, кажу, распетрыць дабро хочаш? Дзяцей сіратамі па свету пусціць? Не пайду і табе не дазволю. Не дазволю!» І ўламала яго. Жартачкі. Што ж яму было рабіць са мной?

— Сямейная баталія. Спроба наступаць — і рашучае контрнаступленне!.. Штосьці падобнае было і ў маіх, карціна знаёмая,— сказаў мне лейтэнант.

— Баялася яго, калгаса.

— А чаго ж яго баяцца?

— Сама не ведаю... Усё, думаю, было б добра, каб не ён. І зямлі досыць, і конь, і кароўка — усё, што трэба...

Нацярпеўся, харошыя вы мае, са мной Кандрат. І так ён падыходзіў да мяне і гэтак — нічога не дапамагае. Я такая, што, пакуль сваімі вачыма не ўбачу, не паверу. А калі не паверыла,— то ніхто не прымусіць мяне рабіць не па-мойму.

— Ну і што ж, доўга не верылі вы? — запытаўся я.

— Паверыла я толькі на другі год. Уступілі мы ў калгас... Ды позна паверыла! Прыйшлі ў нашы Вербавічы немцы, не адны прыйшлі, а прывялі яшчэ — каб яму немач! — графа Хвастовіча, які ўцёк у верасні.

А яшчэ праз год паліцаі схапілі Кандрата. Уламаліся ў хату ўвечары, перакапалі ўсё ў сенцах, на гары, на двары. Збілі яго — страх успомніць — і павалаклі. Дапытваліся, куды прыходзяць партызаны, толькі нічога не дапыталіся. Потым Кандрата перагналі ў Броды... А там — і след яго прапаў...

— І што — нічога невядома пра яго?

— Як і не было чалавека...

— Эх, гады. Колькі людзей перавялі! У нас у сяле семнаццаць чалавек расстралялі ў сорак другім,— сказаў лейтэнант да мяне.— Нейкая падлюга выдала...

— Гаравала я дужа па ім. Доўга ўбівалася. Толькі горам бядзе не паможаш. А трэба жыць — за дзяцьмі глядзець, на мне ж яны засталіся. Добра хоць, што па-



Іван Мележ са школьным таварышам Палеенкам.
*1939 год*



Глінішчы. Вёска, у якой нарадзіўся Іван Мележ.

чалі патроху падрастаць, з большымі — і клопат іншы...

Паразумнела, праўду сказаць, за вайну. І, калі германцаў прагналі і ў нас зноў калгас арганізаваўся, я адразу пайшла. Чула: з такой чарадой, як у мяне, без людзей не агарацца...

Пазалетась — от так напрадвесні — выбралі мяне на сходзе за брыгадзіра. Жартачкі сказаць: брыгадзір! Вы — людзі бывалыя і, мусіць, да ўвагі прызвычаеныя, вам, можа, і смешна: брыгадзір, падумаеш, начальства!

— А што ж, на ўсякай пасадзе знойдзецца клопату.

— Я дык чаго тады перажыла — расказаць не раскажаш. І радасна: от і мне, учарашняй «хамцы», вераць, даручаюць такую справу. Радасна было і — страшна: божа, як я спраўлюся з ёю, я ж ніколі не ведала нічога, акрамя сваёй хаты ды поля свайго. «Не,— кажу я,— за ласку дзякую, але не згодна. Дарэмна выбіраеце мяне. Не спраўлюся».— «Справішся. Дзе адна не здолееш, дапаможам»,— зашумелі людзі. «Гэта і добра, што ты сумняваешся,— крыкнула аднекуль з кутка Адар'я, суседка мая,— значыцца, да справы сур'ёзна будзеш брацца!»

Угаварылі. Дамоў я ішла ў клопаце. У галаве назолаю розныя трывожныя думкі. Як прыйшла дадому, бачу — не засну, дый годзе.

Прыбрала ўсё са стала пасля вячэры, паслала настольнік. Надзейку, дачку, адправіла спаць, а сама прыкруціла кнот у лямпе і села каля стала. А на сэрцы, як і раней,— і сонца і хмары. У хаце ціха, толькі ходзікі на сцяне — цік-так, цік-так, а я сяджу і думаю, думаю, што буду рабіць. Можа, да поўначы праседзела так... От як я прыняла сваё брыгадзірства!

Пра тое, як я працавала, не буду казаць. Асабліва багата клопату было летась — з тым аўсом, што на Мокрым, на тарфяніку. І славы і клопату. Пустазелля — адкуль яно толькі бралася? Ну проста забівала поле! Зноў жа, колькі турбот, каб авёс не палёг. Жартачкі... На балоце глеба далікатная — ёй трэба асобы дагляд...

— Далікатная... Гэта точна! — пацвердзіў тонам знаўцы лейтэнант.

— Бывала, з галавы тое Мокрае не выкінеш. Іншы

раз і няма чаго ісці ў поле, а цябе цягне — проста так, як да дзіцяці, каб праведаць: як ты, маўляў, тут без мяне?

Часта прыязджаў таварыш Хмялеўскі, сакратар наш. Ці то едзе з райкома ў нашы Вербавічы, ці то проста па тракту куды-небудзь едзе, у які калгас ці сельсавет, абавязкова спыніць сваю «Пабеду» і зойдзе на Мокрае. Не праміне... цікавіўся вельмі.

Многаму мне давялося павучыцца з тым Мокрым. Ляжала балота век перад вачыма, мазоліла вочы,— а як прыйшлося да справы, то аказалася, што я нічога пра яго не ведаю. У балотнай глебы свае капрызы. Тут бы мне і ўзяцца за навуку пра балота, а я паспадзявалася на практыку сваю ранейшую, падумала старой дарожкай ісці.

Цераз гэтую навуку далася я ў знакі аграному спачатку. На нажах, проста сказаць, былі. Ох і злаваў тады на мяне Сцяпан Ігнатавіч, аграном наш!.. Аднойчы нават «сляпой» абазваў, ей-богу, так і сказаў — «сляпая»...

— А ў вас, аказваецца, характар востры!

— Я часта спрачаюся больш цераз гонар, абы не паступіцца. Такая прывычка: вось і ведаю, што не мая праўда, а ўсё роўна не здаюся! Бы сябе зганьбіць баюся, ці што... Так і са Сцяпанам Ігнатавічам — спрачаюся, а пасля падумаю, падумаю, ды і раблю, як ён кажа...

Жартачкі: кніжкі пачала чытаць. Хай не думае, што я неразумная баба! Заўважылі мае жанкі, што я пра гэта чытаю, і нават жартам празвалі — «балотны прафесар». Так мяне цяпер часта завуць, асабліва Адар'я, насмешніца, тая ледзь што — «балотны прафесар»!

— Так і называе? Балотны прафесар? — лейтэнант засмяяўся.— Прыдумала ж!

— Яна прыдумае. Язык у яе — лёгкі на выдумку ўсякую!.. От жа разгаварылася,— схамянулася Васіліна Карпаўна.— Другі раз слова не выцягнеш, а тут як само льецца. Ну, ды ўжо, калі пачала, давяду да канца... І жыта было добрае, і ячмень удаўся, а авёс, што на Мокрым, на спрадвечным балоце, дык на дзіва людзям.

У мяне яшчэ і цяпер снапок таго аўса хаваецца для гасцей: часта прыходзяць з навакольных сёл, ды

і здалёку прыязджаюць — паказваю, бо ёсць такія, што на слова не вераць. А чаго тут не верыць? Быццам ужо рэдкасць гэтакая?.. На Бабруйшчыне, чытала я, яшчэ лепшы авёс вырасцілі... Будзеце ненарокам у Вербавічах,— сказала яна раптам да лейтэнанта, потым да мяне,— і вас таксама запрашаю: калі ёсць цікавасць, заходзьце паглядзець... Наш авёс цяпер ёсць і ў Мінску, у інстытуце...

У гэты час з-за пясчанага, з крутым берагам, мыска паволі выплыў невялікі светла афарбаваны параход, што шумна біў пліцамі па вадзе. Лейтэнант, надзеўшы шынель і зашпільваючы яго, стаў разважаць, ці ўдасца яму да вечара дабрацца да вёскі, да якой ад ракі было яшчэ не менш за пятнаццаць кіламетраў. Ён з неспакоем паглядзеў на чамадан, перавязаны двума плецёнымі рамянямі, на салдацкі рэчавы мяшок. З такім багажом ісці пехатой будзе нялёгка!

— От, не люблю ў дарозе з рэчамі цягацца. Гэта толькі таму, што ў адпачынак еду: падарункі маме, ды брацёнікам, і сястрычцы... А так — толькі рэчавы мяшок: закінуў за плечы — і гатоў!..

— А маці і не ведае, мусіць, што вы едзеце! От жа будзе шчасце, як убачыць!..— твар Васіліны Карпаўны засвяціўся добрай матчынай усмешкай.

Мне падумалася: якая яна, напэўна, клапатлівая аб сваіх дзецях і як добра разумее чужую радасць.

Лейтэнант пайшоў да касы, браць на ўсіх білеты, і мы на беразе засталіся ўдваіх. Васіліна Карпаўна паставіла кашолку да ног, абаперлася аб калені локцямі; цяпер яна ўвесь час маўчала, думала аб нечым сваім, згорбіўшыся і пазіраючы нязводна ўніз, на залацістую, варухлівую каёмку берага. Твар яе, нерухомы, з маршчынкамі, нібы застыў, скамянеў і здаваўся значна старэйшы, як раней.

Прыстань, дасюль маўклівая і пустая, хутка ажывала. Каля касы вырасла непрыкметна чарга чалавек з дваццаць. Да берага падышоў грузавік з белым надпісам на кузаве «пошта»,— ён спыніўся поблізу, чакаючы парахода; потым падляцеў, падскокваючы,ківаючыся з боку на бок, нізенькі «Масквіч». Да месца пасадкі два мужчыны сталі падносіць нейкія бочкі.

Параход, які перастаў дыміць і малаціць пліцамі па вадзе, ярка бялеючы свежай фарбай кают і поруч-

няў, падыходзіў да берага ціха, падуладны толькі рулю. На гладкі пясок пачалі, плёскаючы, пенячыся, даганяючы адна адну, кідацца, паўзці брудныватыя хвалі.

...Васіліна Карпаўна ўзяла кашолку і павольна, спакойна ўзышла па хісткіх сходнях, што, выгнуўшыся, віслі над каёмкай берага і паспакайнелай вадою. Я дапамог лейтэнанту занесці на палубу яго мяшок.

Параход захрыпеў, пасля загуў прарэзліва: два хлапчукі-матросы паспешліва сцягнулі сходні на палубу, і мы пачалі адыходзіць ад берага. Параход выйшаў на сярэдзіну ракі. Абапал ціха паплылі берагі: злева — нізкі, зялёны, з балотным хмызняком і шырокімі разлівамі вады; справа, за прыбярэжнай касой, віднелася невысокая града з дрэвамі і вёскай наводдаль.

— Тут большае, можа, і не ў тым брыгадзірстве. Не ў казцы, а ў прыказцы справа. Я інакш бачыць сябе стала. Адар'я нават раз пасмяялася: задавацца, кажа, я стала... І з маіх убораў пасмейваецца. Я от,— можа, і няёмка казаць,— Васіліна Карпаўна крыху збянтэжана ўсміхнулася,— стала больш глядзець за сабой, прыбірацца нешта пачала. Гады ў мяне немаладыя, дзеці выраслі, а я — што гэта са мной?

Бывала, божа мой, ходзіш задрыпаная, абарваная, у латаным зрэб'і, і — быццам так і трэба. Ці не ўсё роўна! А цяпер часам хочацца ў люстэрка паглядзець!

Люблю я прыбрацца ды прайсціся ў святочны дзень пад руку з Надзейкай, з меншанькай маёй. Яна ў мяне цružовенькая, высокая ды здаровая — проста мак цвіце. Семнаццаты гадок пайшоў. У свята — ведама што: людзі сабіраюцца каля хат, на прызбах, на лавачках,— падыдзем, пагаворым пра тое-сёе ды далей. Я часта раблю выгляд, нібы ў краму ідзём, а папраўдзе для таго, каб людзям паказацца: «Глядзіце, маўляў, на мяне, шчаслівую, радую, любуйцеся, якую я прыгажуню дачку выгадавала!»

Яна ў мяне вучыцца ў дзевятым. Ахвоту вялікую да вучобы мае, асабліва батаніку любіць. Летась усё хадзіла ў лес ці на балота, кветкі-траўкі розныя збірала ды на паперу засушвала. Гербарый называецца... І якія толькі ёсць у нас расліны — усё яна ведае, ды не проста, а па-вучонаму... От, скончыць школу, у Мінск пашлю, на вучоную вучыцца. Няхай ідзе ў людзі!..

Васіліна Карпаўна дастала з кашолкі некалькі кніжак, перавязаных шпагатам, і сказала:

— Вось вязу Надзейцы і сабе — пра каноплі. Сёлета каноплі на асушаным балоце будзем сеяць...— Хвіліну развaжыўшы, дадала: — Купіла яшчэ крэпдэшыну ў магазіне. Надзейцы на плацце — з кветачкамі сінімі і сабе шоўку — чырвоны з белым гарошкам...

— У вас — двое, цётка Васіліна?

— Пяцёра выгадавала. Тры сыны і дзве дачкі. Другая донька — Ганна — у Глінішчах за рахункаводам... А сыны — адзін пры мне, працуе за лесніка. Жаніўся той восенню, у Вербавічах жа, каля лесу, жыве. Хата яго стаіць от так наводдаль сяла. А другі — Пятро — той на агранома вывучыўся, толькі ў тым годзе тэхнікум скончыў, робіць аж пад Полацкам. А сярэдольшы — той у арміі, надоечы пісаў — шафёрам служыць.

Баліць у мяне — от кажу — сэрца за яго. Пра іншых меншы клопат, а пра гэтага, бывае, цэлыя ночы думаю. І лістоў вельмі чакаю ад яго. Бывае, пройдзе тыдзень, а ад яго — ні слоўца, дык я быццам сама не свая...

Жартачкі: што яны, амерыканцы, круцяць там, у Заходняй Нямеччыне! Зноў фашыстаў прыгравaюць, кулямёты ды мінамёты даюць. Толькі што адно такое ліхалецце перажылі, дык яны новае рыхтуюць. Мала ім гора людскога ды слёз!.. І пра што там думаюць маткі тых амерыканскіх салдатаў? Ці ім не шкада сваіх дзяцей? Чаго яны маўчаць?..

Эх, не даюць пажыць спакойна! Тут у нас, на сёлах, такія справы ідуць — такія справы... Самы час настаў для людскога жыцця ў нас, а там...

Васіліна Карпаўна сціхла, узрушаная трывогай за шчасце сваёй сям'і, за многіх такіх, як сама. Я з нейкай асаблівай павагай пазіраў на яе, гэтую, на першы позірк, непрыкметную жанчыну.

Насустрач нам шырокімі вільготнымі хвалямі плыў вецер, які абвяваў, халадзіў твар і шыю. Васіліна Карпаўна расшпіліла жакетку.

— Слухаю вас, і даўно карціць спытацца,— скажыце, колькі вам год? — прамовіў я і дадаў, што яна здаецца нейкай маладой душою.

— Я і сама чую гэта... І хто б думаў, што можа яно так стацца... Што... гады сыдуць з плеч! У песні вось спяваюць: «А маладосць не вернецца, не вернецца назад». А яна як бы вяртаецца!

І жанкі мае не раз дзівіліся з мяне. Аднойчы Адар'я мне сказала: «Адкуль у цябе, Васіліна, столькі руху? Ты такая непаседлівая, такая заўзятая. Ну, праўда, заўзятая!.. Мусіць, каб не ты, то ў нас нічога з балотам і не атрымалася б. А з табою — лёгка... Ты, няўрокам кажучы, як маладая!»

Васіліна Карпаўна засмяялася сарамяжа вачыма, у якіх і вясёлы жарт, і лёгкая іронія з сябе. Я, пазіраючы на яе, перастаў заўважаць і яе маршчыны на твары, і сівізну ў валасах, пасму якіх варушыў неспакойны веснавы вецер. Але ўсмешка хутка растала на яе твары,— жанчына загаварыла сур'ёзна і задуменна:

— Маладая! Столькі пражыўшы... Хіба ж гэта ўсё? — голас яе прыціх і задрыжаў.— Я ж, можа, толькі вось цяпер жыць пачала як мае быць. Па-чалавечаму пачала жыць... Дзетак у людзі вывела. Я, можа, толькі цяпер — пры нашай уладзе, дзякуй ёй! — паспытала, што яно такое, жаночая доля...

Васіліна Карпаўна зноў памаўчала.

— Доля... Запозна трошкі ты, маладосць мая, пачала вяртацца. Эх, каб гадоў на дзесяць раней прыйшла! Ужо ж пажыла б я!.. Ну, ды — годзе! Не ўсё яшчэ мінулася. Не ўсё!

Яна стала глядзець наперад, у шырокую, усхваляваную ветрам прасторнасць ракі, куды спакойна, важка ішоў параход.

# ПАМЫЛКА

За акном, каля якога сядзела Люда, неспакойны і злосны асенні вецер тузаў маладыя бярозкі, зрываў з іх пажоўклае лісце.

Бярозы былі ўжо амаль голыя. Лісце на іх ліпела толькі дзе-нідзе, а несціханы вецер усё тузаў гнуткае голле, збіваў лісты і, круцячы, гнаў некуды за агародчык, у апусцелае поле. Калі вецер на момант прыціхаў, нібы стаміўшыся, было добра відаць, як кволыя галінкі бяроз дробна дрыжаць, і здавалася, што дрыжаць яны ад холаду.

Тут, у класе, дзе над партамі раз-пораз старанна схіляліся галоўкі дзяўчынак і хлопчыкаў, было і цёпла і ўтульна. Настаўніца, Надзежда Пятроўна,— маладзенькая, строгая, з русявай касой,— павольна хадзіла між радоў парт, паглядвала ў сшыткі, сачыла за тым, каб пісалі роўна, акуратна.

— Скончылі? — запыталася яна, акінуўшы позіркам дзяцей.— Паўтараю, праверце ўважліва... «Лодка набліжалася да месца, дзе кіпела не затуленае ад ветру мора...» Праверылі?

Люда правяла вачыма па радку: «не затуленае... не затуленае ад ветру...» Словы гэтыя, тое, для чаго рабілі дыктоўку,— дзееприметнік з часціцай «не»,— амаль не затрымалі ўвагі старанкай дзяўчынкі з мяккім, добрым тварам, з белымі істужкамі ў заплеценых цёмна-русых косках. Люда спакойна падняла круты белы лобік, яснымі, уважлівымі вачыма стала глядзець на настаўніцу, чакаючы, калі Надзежда Пятроўна будзе дыктаваць далей.

— «Не затуленае»!..— зазірнуўшы ў Людзін сшытак, трывожна зашаптала ёй Галька, якая сядзела побач.

Вяртлявая смуглянка Галька амаль заўсёды зазіра-

ла ў суседні сшытак, і Люда, што лічылася першай вучаніцай у класе, адносілася да шэпту Галькі, як да гуду якога-небудзь назолы-камара.

— Памылка! «Не затуленае»! — паўтарыла перасцярожліва Галька.

Люда перачытала слова, пра якое гаварыла сяброўка, і не зразумела, пра што Галя непакоіцца, у чым яе памылка.

— У самой у цябе памылка! — адказала Люда.

— Трэба «не» — разам! Разам — трэба!

Тут Надзежда Пятроўна, пачуўшы шэпт дзяўчат, зрабіла абедзвюм заўвагу, і спрэчка між прыяцелькамі спынілася.

Надзежда Пятроўна пачала дыктаваць новы сказ. Асцярожна патросшы пяро над чарніліцай, каб не пасадзіць часам кляксы, нахіліўшы над партай галоўку з расчасанымі акуратна на два бакі трохі кучаравымі валасамі, Люда стала выводзіць літару за літарай. Але як толькі сказ быў напісаны, яна зноў вярнулася да таго, пра што шаптала Галька. Яна стала ўглядацца ў словы — «не затуленае ад ветру мора...», стараючыся высветліць неспакой, што ўзнік. Яна ўспомніла і паўтарыла сабе правіла, у якім гаворыцца, калі гэтае самае трывожнае «не» пішацца з дзеепрыметнікамі разам, калі асобна. Яно, па правілу, павінна было пісацца разам тады, калі дзеепрыметнік не мае пры сабе паясняльных слоў; калі ж у дзеепрыметніка ёсць паясняльныя словы, тады яго трэба аддзяліць ад часціцы. Гэта Люда добра ведала. Але калі яна думала, якім лічыць слова «ад ветру», што ішло за дзеепрыметнікам, паясняльным ці не паясняльным, яе думкі раптам трацілі сваю яснасць.

— «Луг шырока рассцілаўся, пакрыты зялёнай, няскошанай травою»,— павольна, выдзяляючы кожны склад, чытала-дыктавала Надзежда Пятроўна, і Люда выводзіла слова за словам. Аднак цяпер на душы яе не было ўжо ранейшага спакою, нявысветленае пытанне трывожыла яе. Напісаўшы апошні сказ, Люда адразу вярнулася на некалькі радкоў назад.

«Не затуленае ад ветру...» Як жа будзе правільна? «Не затуленае» ці «незатуленае»? Яна прашаптала гэтае слова, прыслухалася, як яно гучыць,— потым падсунула ружовую заплямленую прамакатку і напі-

сала — асобна і разам. Стала ўглядацца, спадзеючыся, што зараз усё стане зразумелым.

Яна амаль супакоілася, цяпер ёй здавалася, што ў яе напісана правільна, асобна.

Скончыўшы дыктаваць, Надзежда Пятроўна прачытала яшчэ раз:

— «Сцены хаты былі атынкаваны, але не пабелены... Хлопцы ўбачылі не заліты вадою астравок... Недаплецены кошык з лазы ляжаў на траве... Кожны спад ці прыбыль вады ў Нёмане не праходзілі не заўважанымі для сялян...»

Прачытаўшы ўсю дыктоўку, настаўніца паглядзела на маленькі ручны гадзіннік, потым на сваіх вучняў, паглядзела ўжо інакш,— строгія сінявата-шэрыя вочы яе чакалі. Малыя сталі зносіць свае сшыткі да настаўніцы.

Люда закрэсліла напісанае на прамакатцы слова, уклала яе ў сшытак і ўжо таксама намерылася ўстаць, калі Галька, прабегшы вачыма па Людзінай старонцы, здзівілася:

— Ты не паправіла? Не паправіла? Зробіш памылачку!

Галя выскачыла з-за парты і, весела памахваючы сшыткам, лёгка і ўпэўнена пабегла да Надзежды Пятроўны.

І тут, у апошнюю хвіліну, Люда наважылася зрабіць тое, над чым столькі думала, пра што столькі разважала. Цяпер яна ўжо не думала і не разважала, усе яе развагі ў гэтую мінуту заглушыла трывожнае раптоўнае жаданне: паправіць, выратаваць хутчэй. Люда ўмакнула ручку ў чарніла, хутка злучыла «не» з дзеепрыметнікам. «Незатуленае».

Ёй было лёгка, весела, калі яна ішла між двух радоў парт да настаўніцы.

Здаўшы сшытак, яна падбегла да стрыжанага тоўстага Грака Мікіты, які лічыўся таксама выдатнікам і за якім Люда заўсёды раўніва сачыла. Яна запыталася, як Мікіта напісаў «не затуленае».

— Ясна як — асобна! — паважна заявіў Мікіта.— Тут і пытацца няма чаго!

— Вось і няма чаго! Памылачка! Памылачка!

— У каго? У мяне?

— У цябе! У кантрольнай!

— А гаспадары на самалёт знайшліся, аказваецца! Амерыканцы!..

— Амерыканцы?! — здзівілася Галіна.— Але ж самалёт, гаварылі, быў без апазнавальных знакаў?

— Самі прызналіся. Ноту нам прыслалі. Ну, у ноце, вядома, усё перакручана, усё наадварот. Але справа не ў гэтым — факт, што самалёт быў іх.

— Пішуць, што нашы напалі на яго быццам бы на чужой тэрыторыі,— умяшаўся загарэлы, з светла-блакітнымі вачыма капітан.

Валя, не разумеючы, паглядзела на падпалкоўніка.

— Так, Валя, пішуць, што не яны, а мы парушылі граніцу. Аказваецца, мы атакавалі самалёт, які мірна ішоў над морам і зусім не над нашымі водамі, не над нашай тэрыторыяй!

Чапцоў зняў фуражку, раскудлачыў пасівелыя валасы, надзеў фуражку зноў, кінуў некуды ў расчыненае цёмнае акно абураны позірк. Калі ён зірнуў на Валю, яна прачытала ў яго вачах: вы бачылі такое?!

Валя разгубілася.

— Што ж цяпер будзе?..

— Пабачым. Крэн, адным словам, у гэтай гісторыі робіцца небяспечным...— Ён усміхнуўся.— Нарабілі мы спраў з Іллюшам!

— Шуму на ўвесь свет! — адгукнуўся капітан.

— Што ж, цяпер вам з Іллюшам... нічога не будзе?.. Непрыемнасці якой...

— Мы зрабілі, што нам належыць рабіць. Мы дзяжурым не для таго, каб на мора любавацца. Я так думаю. Ён над нашымі водамі быў? — Чапцоў кінуў на Валю такі позірк, нібы спрачаўся з ёю.— Над нашымі. Міндальнічаць з ім, калі ён не падпарадкоўваецца? — Падпалкоўнік устаў з канапы, прамовіў упарта: — У другі раз пасунуцца, зраблю тое ж!

— А як жа інакш! — адразу па-юнацку горача падтрымаў капітан.

— Ды не, непрыемнасці не будзе...— Галіна стаяла каля дзвярэй у кухню, прытуліўшыся спіной да вушака, неспакойна водзячы адной рукой па сценцы.— Ордэн далі... значыцца, лічаць — правільна зрабілі...

— Нам-та з Іллюшам непакоіцца, відаць, няма ча-

го. А для ўсяго народа — гэта непрыемнасць. Такія здарэнні не радуюць. Я так думаю...

— Так, неспакой ад іх.— Галіна раптам са злосцю кінула: — І што ім, гэтым амерыканцам! Што яны трывожаць усіх, лезуць усюды?.. Нідзе спакою ад іх няма!

Голас у яе быў нацяты. Чапцоў далоняю пагладзіў валасы.

— Амерыканцы бываюць таксама розныя...

— Розныя! — Галіна сказала гэта так нервова, што Валя паглядзела на яе са здзіўленнем.— Розныя!

На Галіным твары паявіўся выраз незразумелай крыўды. Яна б стрымалася, хутка супакоілася, але ўбачыла на сабе дапытлівыя позіркі, адчула няёмкасць, пачырванела і неспадзявана для другіх і для сябе заплакала. Гэтыя слёзы, здавалася, такія недарэчныя, усіх збянтэжылі. У пакоі наступіла нядобрая цішыня. Чапцоў хмурыўся, нецярпліва крывіўся, сочачы, як яна ражком каляровай хустачкі прыкрывае рот, капітан пазіраў на яе спачувальнымі вачыма.

Валя падышла да Галіны, узяла яе за плечы.

— Галя, што гэта з табой?

Галіна не адказала, хутка павярнулася і выйшла ў кухню. Валя, якая яшчэ секунду стаяла з паднятымі рукамі, паглядзела ўслед, разважаючы, ісці за ёй ці не ісці, ціха вярнулася да стала.

— Дзіўнае штосьці з ёю. Такая заўсёды роўная, а тут — вось... Перажыла калісьці многа... Яна ў Германіі, у лагеры смерці была.

— Нервы! — падпалкоўнік зірнуў на гадзіннік на руцэ.— Нервы і трошкі жаночай псіхалогіі...

## 4

Чапцоў і капітан ужо збіраліся развітацца, калі Галіна вярнулася ў пакой. Яна ўжо не плакала, але павекі былі падпухлыя, важкія. Паглядзела на гасцей вінавата, хутка адвяла вочы.

— Валя, можа, трэба б... гасцям чаю?

Падпалкоўнік сказаў, што вячэраць не хоча ды і часу няма.

— Вы не думайце чаго пра мяне...— няёмка перабіраючы ражок хустачкі, загаварыла Галя.— Самой со-

рамна. Як гэта яно, не ведаю... Не магу я спакойна чуць пра амерыканцаў... «Розныя», вядома, а як даведацца, добры ён, чалавек ён ці звер?!

Чапцову здалося гэтае пытанне недарэчным. Але, каб не пакрыўдзіць жанчыну, ён абыякава прамармытаў:

— З паводзін пазнаюць...

— «З паводзін»... Хто ж яго ведае, які ён цяпер?.. Якімі справамі займаецца?..

Ні падпалкоўнік, ні капітан, ні Валя нічога не разумелі,— гэта было добра відаць па іх тварах. Хто ён? Пра каго, пра што яна кажа?

Галіна не заўважала ні таго, што яе не разумеюць, ні таго, як адносяцца да яе дзіўных слоў. Ёй сваё пытанне здавалася такім натуральным і такім простым. Яна спасцярожліва глянула на падпалкоўніка і раптам запыталася:

— Як іх прозвішчы?.. Прозвішчы амерыканскіх лётчыкаў? Яны вядомы?

— У носе іх не называюць...

— Невядомы, значыцца?..

— Невядомы.

Галіна ўпершыню заўважыла, як глядзіць на яе падпалкоўнік,— ён не разумее! І Валя глядзіць на яе, як на дзівачку, і капітан. Ах, яны ж не ведаюць усяго, не ведаюць прычыны яе запытання, самага галоўнага не ведаюць!..

— У мяне ёсць знаёмы... Быў знаёмы,— папраўілася яна, хвалюючыся.— Амерыканец... Лётчык. Ён таксама на бамбардзіроўшчыку лятаў...

Валя здзівілася.

— Амерыканскі лётчык? Знаёмы? Адкуль?.. Ты, Галя, не... выдумляеш?

— Не, Валя, я праўду кажу. Знаёмы. Лётчык.

Чапцова, чалавека не вельмі ўражлівага, не чуллівага, гэта дзіўная вестка не ўзрушыла. Усё ж, пачуўшы яе, Чапцоў, хоць ужо і сабраўся ісці, запыніўся. Ён пазіраў на жанчыну ўжо не з неўразуменнасцю, не з далікатнай, прытоенай паблажлівасцю, на халаднаватым немаладым яго твары паявілася цікаўнасць. Што яна кажа, што гэта за такі знаёмы, адкуль ён узяўся? Тут, відаць, тоіцца нейкая, напэўна, не зусім звычайная гісторыя, недарэмна ж яна сёння дзіўная, незразу-

мелая, гэтая ціхая госця. Капітана Галініны словы заінтрыгавалі.

— Галя, дзе ты з ім пазнаёмілася? — запыталася Валя.

— Дзе,— у Германіі. Дзе ж яшчэ?

— Гэта ў вайну? Калі цябе вызвалілі?.. Ты ж была, здаецца, там у заходняй частцы, так?

— На захадзе... Але ўбачыліся мы раней, да вызвалення. Іх тады яшчэ і ў Францыі не было. Яны адно рабілі налёты...

— Было такое...— згадзіўся капітан.

— Начамі, бывала, прыляцяць штук па трыццаць ці болей, усё неба гудзе, дойдуць да горада і — пачынаюць...

Галіна зірнула на сваіх слухачоў крыху спасцярожліва — ці цікава, ці варта гаварыць. На тварах іх убачыла: хочуць слухаць.

— Я працавала недалёка ад горада, у аднаго панка, і адтуль усё бачыла... Немцы тады яшчэ моцна адбіваліся, у сіле былі, зенітак іхніх вакол многа стаяла. Кожны раз, як толькі пачне гудзець, уздымалі такую страляніну, што неба, здавалася, трэскалася...

Галіна сціхла. Нешта думала, перажывала сама ў сабе. Усе глядзелі на яе, чакалі, але яна не спяшалася.

Чапцоў дзелавіта, як пра звычайнае, кінуў:

— Яго збілі?

— Так, збілі... Збівалі іх нярэдка, але тыя падалі недзе над горадам ці далёка ад нас. А гэты ўпаў каля панскай сядзібы, за ляском... Нешта хутка пасля гэтага панаехалі ў маёнтак матацыклісты, шукалі кагосьці. Аказалася, лётчыкі нібы, адзін ці два, управіліся выскачыць на парашутах...

— Знайшлі?

— Не, капітан. Не знайшлі...

— Абышлося, значыцца...

— Не зусім...— яна памаўчала.— Іду я раніцай па гароду, і неспадзеўкі — што гэта, божа? — чалавек між градак! Глядзіць на мяне чорнымі вачыма — яны аж гарамь,— пісталет настаўляе. Божа, гэта ж амерыканец, думаю. З таго самалёта. Гэта ж яго шукалі! Азірнулася я, ці не бачаць, кажу яму, я — руская. Ён апусціў пісталет. Узрадаваўся нават: «А, рашэн?» Пераме-

ніўся, адным словам... А я гляджу на яго, думаю,— што з ім рабіць? Знойдзе яго хто-небудзь з чужых — канец яму. І так мне шкада яго тады стала! Як бы брата свайго!..

Яна зірнула на слухачоў: што яны скажуць на гэтую яе шчырасць? Зірнула крыху вінавата, пачырванела. Яе словы, здаецца, не здзівілі...

— Ну і што, куды ж ты... яго? — запыталася Валя.

— Дзень ён пераседзеў у гародзе. Паказала я, каб у кукурузу перапоўз, ён там і сядзеў. Боязна мне ў той дзень было — шукалі яго, па лесе, па полі шныпарылі, у вёску заходзілі. Але нічога, неяк абышлося. А ўвечары я пераняла яго,— за сіласнаю ямаю была будачка — ляжалі ў куточку дошкі, старыя рамы,— ніхто туды ні з немцаў, ні з нашых не заходзіў. Дык я там яго і прыхавала... Ён, як падаў з парашутам, вельмі нагу разбіў, не мог ісці... І крыві многа страціў, аслабеў. Я яму ёду, бінтоў прынесла, перавязала, як магла. Хлеба — як толькі дастану кавалачак — ці чаго-небудзь іншага з'есці,— яму... Цяжка было даставаць, усюды чужыя вочы...

— Рызыка якая! — Галя заўважыла на сабе дзіўны Валін позірк — шкадавання і спагады. Валя яшчэ ніколі не глядзела на яе так.

— Цяжка было. Галадаў ён вельмі. Але, помніцца, не наракаў, відаць, цярпець быў прызвычаены... Гаварыць з ім мы амаль не гаварылі, бо ён не ведаў ні па-руску, ні па-нямецку, а я яго слоў не разумела. Усё знакамі ды здагадкай. Да́від звалі яго, лейтэнантам быў,— толькі гэта, здаецца, я і разабрала з яго слоў... Малады ён быў, Давід, здаровы, хутка стаў аджываць. Праз тыдзень і два дні ўжо ў дарогу сабраўся. Правяла я яго да ляска, гавару, як лепш ісці. А самой — і шкада яго, і боязна,— нібы за свайго,— заплакала я. Давід — рукой па плячы маім ласкава, штосьці сказаў па-свойму... Ужо сабраўся ісці, але раптам пашукаў у кішэні, адарваў лісток ад нейкай кніжачкі, пасведчання, ці што, напісаў некалькі слоў, аддаў мне... Тады, не ведаю, як гэта сталася, схапіў мяне, пацалаваў! І — пайшоў!..

Прыціснуўшы рукі да грудзей, яна прамовіла апошняе слова з такім жалем, нібы ён пайшоў толькі цяпер.

Сказала і схамянулася, збянтэжана адвяла вочы ад слухачоў.

— Што ён напісаў табе? — у Валіным голасе чуліся і цікаўнасць і спачуванне.

— Адрас яго. Адрас і поўнае імя і прозвішча. Лейтэнант Давід Бартон...

Падпалкоўнік зноў сабраўся ісці. Ён спыніўся перад Галінай, паглядзеў сваімі халоднымі вачыма так, нібы заўважыў штосьці такое, чаго не бачыў дагэтуль.

— Відаць, не сустрэліся больш?

— Не... Але ён выратаваўся...

— Адкуль вы ведаеце?

— У першыя дні, як толькі прыйшлі амерыканцы, Давід заязджаў туды. Ён зноў служыў... Напалохаў дужа гаспадара, паявіўшыся! Гаспадар быў вельмі вінаваты перада мной... Давід шукаў мяне. Але мяне ўжо там не было. Далёка я была,— з дзіўнай, загадкава балючай ноткай сказала Галіна.

— У канцлагеры?! — насцярожана, амаль спалохана глянула на яе Валя.

Галіна неахвотна кіўнула галавой.

— Так, у канцлагеры...

Валя да гэтага дня нічога не ведала пра акалічнасці, што прывялі негаваркую сястру мужа за калючы дрот.

— Што — выкрылі... выдалі вас? — паправіўся капітан.

— Так...

— Гэта не адтуль... даруйце, знакі на руцэ, на шыі?

— Адтуль...— адказала за Галіну Валя.

Галіна маўчала і, відаць, не хацела гаварыць пра гэта. Валя ж, неспакойная, узрушаная, кінула ўстрывожаны позірк на Чапцова.

— Вы ведаеце, яна ж была «смяротніцай»!.. Яе асудзілі на смерць!.. Калі б не нашы танкісты... Яна ледзь не загінула... Праз таго амерыканца!..

Падпалкоўнік стрымана кіўнуў ёй, задумаўся. Потым востра, уважліва зірнуў на Галіну.

— Шукаў, значыцца?..

— Там яшчэ жыла мая зямлячка. Яна ўсё мне і расказала. А яму мой адрас дала... Напісаў. Амаль зразу, як вярнулася, прынеслі ліст...

— Пра што ён пісаў?

— Што ніколі не забудзе тых дзён... Пісаў, што ўспамінае, таксама... Але хутка перапіска разладзілася...

Капітан адразу дадаў:

— І перапіска, і дружба.

— Так...— Твар яе спахмурнеў.— Пачалося такое, што часам здзіўляешся таму, што было калісьці. Як паслухаеш, пачытаеш пра Карэю, пра бомбы, пра зверствы, дык адразу падумаеш: а дзе ён цяпер, а што ён робіць? Божа, няўжо ён таксама такі?.. Вы не падумайце,— прамовіла яна,— нібы я шкадую, што падала яму руку ў бядзе. Я не шкадую. Я трывожуся,— як лепш сказаць гэта? — чым ён цяпер адказвае на маё добрае?

— Загадалі вы загадку! — Чапцоў падаў руку Валі, зноў падышоў развітацца да Галіны.

Капітан, таксама развітваючыся, падтрымаў:

— Загадку з адным знаёмым!

Падпалкоўнік падкудлаціў валасы, надзеў фуражку і выйшаў; следам за ім падаўся і капітан.

Галіне дома не сядзелася. Хацелася пабыць адной, пастаяць на халаднаватым марскім ветры, падумаць, праясніць галаву, у якой блыталіся ўстрывожаныя думкі, калі можна, супакоіцца.

— Валя, я пайду. Пахаджу...

— Ідзі. Пагуляй.

Калі яна выйшла, у нявіднай вышыні прашалясцела, напаўняючы сваім шэлестам-гулам усё неба, група рэактыўных знішчальнікаў,— яны пайшлі над морам, усцяж берага. Гул іх сціх таксама хутка, як і ўзнік.

## 5

Вось і бераг, пругкі пясок. Над морам цяпер былі ноч, цемра, і яно не здавалася такім неабсяжным, як удзень; небакрай, што шарэў над чорнаю паверхняю вады, быў дзіўна блізка. Хвалі каля берага ледзь варушыліся, наплывалі на пясок, змянялі адна адну павольна. На моры стаяла спакойная ноч. І ўсё ж за гэтым яго вонкавым спакоем адчувалася скрытая, прытоеная сіла. Цемра надавала краявіду панурасць: толькі агеньчыкі, што гарэлі, не гаслі ўдалечы, агень-

чыкі нейкага судна, весялілі вочы. То, можа, быў вартавы пагранічны кацер...

Галіне раскідана ўспомнілася тое, пра што расказвала нядаўна. Зноў згадаліся ноч развітання з Давідам, тыя незабыўна-пагрозныя хвіліны, калі даведалася, што знайшлі акрываўлены бінт у будцы,— прыгадаліся, ажывіўшы ўсе, здавалася, ужо забытыя акалічнасці, падрабязнасці, якія так хвалююць і пра якія не расказала. Хіба раскажаш пра ўсё як мае быць, калі на душы неспакой?..

Пад гэтыя ўспаміны зноў ажылі, наблізіліся даўнія думкі пра Давіда... Тады, у бараку «смяротнікаў», яна суцяшала сябе: добра, што ён управіўся выбрацца. У яго ўдачы яна бачыла палёгку сваім пакутам, сваёй бядзе... Ці варты ён такой ахвяры? Кім ён стаў?

«Розныя і там ёсць»... Хіба яна не ведае гэтага? Але яе цяпер непакоіць іменна ён. З той пары многае пагана перамянілася,— але няўжо і ён перамяніўся? Няўжо ён мог забыць усё?

Што ён за чалавек? Хто ён?

# ЧУЛАЕ СЭРЦА

Ішла трэцяя восень вайны.

У тую восень у дачным пасёлку пад Масквой, на Сходні, упершыню за вайну сабралася прыкладна паўтары сотні дзяўчат і хлопцаў з заняволенай Беларусі. Гэта былі студэнты,— на Сходні пачынаў сваю працу наш універсітэт.

Мужчын было мала,— толькі некалькі звоненых з арміі пасля шпіталей хлопцаў у армейскіх шынялях ды паранены хлапчук-партызан.

Хлапчук, з адным пустым рукавом, чарнавокі, сталы не па сваіх шаснаццаці гадах, вечарам расказваў нам пра тое, што перажыў нядаўна на сваёй роднай Бабруйшчыне. Гэта былі расказы пра блізкіх, дарагіх людзей,— ён з затоеным болем гаварыў, як спалілі гітлераўцы жывымі яго маці і бацьку, як ён выратаваўся, уцёк у партызаны, як ваяваў у партызанскай разведцы.

За верандай падмаскоўнай дачы, над якой гусцеў змрок, мірна шумелі бярозы, а мы былі думкамі па другі бок фронту, на той зямлі, дзе стаялі іншыя вечары і ночы, дзе людзі выходзілі на справы са зброяй, дзе палалі вёскі і гінулі бацькі, дзе была няволя.

Гэты чарнавокі хлопец і сказаў:

— Днямі гаварыў са мной Кузьма Чорны, пісьменнік. У партызанскім штабе спаткаліся...

— Чорны?.. Які ён сабой? — зацікавіліся слухачы.

— Які? Просты ён, зусім просты. І вельмі дапытлівы. Казаў — кніжку збіраецца напісаць пра тое, што я расказваў... У госці нават запрашаў прыходзіць.

Якім ні цікавым здавалася мне жыццё хлапчука, я тады не паверыў яму. Не проста было паверыць у тое, што гэты мой знаёмы стане героем кнігі, ды яшчэ якой, кнігі Чорнага, і зусім не хацелася верыць, што вядомы пісьменнік так проста запрашаў у госці.

Пазней, пазнаёміўшыся з Кузьмой Чорным, я мог пераканацца, што дарэмна не паверыў партызанскаму разведчыку. Я ўбачыў, які ён цікаўны да людзей, які просты і шчыры ў абыходжанні з імі, як умее радавацца чужой радасці і спачуваць чужому гору. Няма ніякіх падстаў не верыць, што сярод шматлікіх няспраўджаных задум, ненапісаных твораў засталася ненапісанай і аповесць пра юнага партызанскага разведчыка.

Мне выпала пазнаёміцца з пісьменнікам праз некалькі месяцаў. Яшчэ ў шпіталі на Каўказе, а потым у заволжскім гарадку я напісаў два апавяданні і цяпер, у гуртку таварышаў, наважыўся прачытаць. Калі мы выйшлі пасля чытання на двор, М. Р. Ларчанка, які быў выкладчыкам універсітэта, параіў аддаць гэтыя апавяданні на суд Кузьме Чорнаму.

— Ён мой сусед. У «Якары» таксама...

Чорны жыў тады ў гасцініцы «Якар», што недалёка ад Беларускага вакзала. Там у той час былі многія беларускія пісьменнікі, вучоныя, артысты.

Ларчанка ўзяў сшытак з апавяданнямі і завёз у Маскву.

Праз дзень ці два, спаткаўшы мяне ва універсітэцкім калідоры, ён сказаў трывожна:

— Чулі? Чорны захварэў. Вельмі цяжка... Удар. Кровазліццё ў мозг.

Гэта быў адзін ■ тых трагічных «удараў», другі з якіх звёў пісьменніка ў магілу.

Сумная вестка ўзрушыла многіх студэнтаў, якія ведалі і любілі пісьменніка па яго творах. Кожны дзень, сустрэўшы каго-небудзь з выкладчыкаў, што жылі ў «Якары», мы пыталіся:

— Як здароўе Чорнага?

Здароўе пісьменніка было вельмі слабае, ачуньваў ён марудна, цяжка. Яму было забаронена працаваць, ды забарона была фактычна лішняй — ён не мог працаваць.

Як жа здзівіла мяне вестка, якую праз некалькі дзён паведаміў Ларчанка:

— Вашы апавяданні Чорны прачытаў. Учора.

— Ён жа не можа чытаць,— не паверыў я.

— Ён папрасіў дачку. Ірына, дачка, чытала, а ён слухаў, лежачы ў ложку.

У такім стане ўспомніў пра рукапіс нейкага студэнта, успомніў, пацікавіўся ім! Як гэта непадобна на тую абыякавасць, з якой часта даводзіцца сустракацца нашым пачынаючым у кансультацыях розных рэдакцый.

Ён тады яшчэ не мог хадзіць. А праз некалькі дзён, ледзьве ўзняўшыся з ложка, пісьменнік напісаў ліст, адказ на сшытак прынесеных яму апавяданняў.

Мне прынеслі ліст на занятці. З таго, што гаварыў выкладчык, я амаль нічога не чуў — мусіць, дзесятак разоў чытаў і перачытваў радкі, напісаныя на аркушыку паперы.

Я дасюль берагу гэты ліст як адзін з самых дарагіх успамінаў студэнцкіх год. Ён, гэты ліст, напісаны яшчэ не цвёрдай, не акрэплай пасля хваробы рукой: літары ў ім няроўныя, няўпэўненыя, хісткія. І пры ўсім тым ён напісан не абы-як, не для таго, каб адпісацца,— на дзвюх старонках хворы пісьменнік разабраў плюсы і мінусы абодвух апавяданняў, даў некалькі карысных парад, падбадзёрыў, пажадаў поспехаў у літаратуры.

«У Вашых апавяданнях,— пісаў Кузьма Чорны,— правільна дадзен аналіз чалавечай душы і добра нарысавана тыповая абстаноўка, у якой дзейнічаюць Вашы персанажы. І надалей сачыце за псіхалагічным абгрунтаваннем чалавечых учынкаў. У гэтым сэнсе ёсць хіба ў апавяданні «Апошняя аперацыя». Не пададзена псіхалагічная прычына таго, чаму немец так абышоўся з раненай жанчынай. Толькі таму, што ён немец? Тут трэба яшчэ нейкая псіхалагічная дэталь. Рэдакцыя,— Чорны працаваў тады ў рэдакцыі часопіса «Беларусь»,— возьме на сябе пры друкаванні ў гэтым месцы зрабіць у апавяданні ўдакладненне.

Сачыце за чыстатой свае мовы. Напр. замест *пакой* Вы пішыце *комната* і г. д. Займайцеся заўсёды сваёй беларускай мовай. Ведайце, што мова — гэта аснова літаратуры».

Тыдні праз два мне пашчасціла пабачыцца і гаварыць з ім.

Сшытак з апавяданнямі, перададзены Чорнаму, быў у мяне адзіным рукапісам, ніякіх копій я не зрабіў, і я прасіў М. Ларчанку, каб ён зайшоў да пісьменніка і ўзяў сшытак.

На другі дзень М. Ларчанка сказаў:

— Чорны не даў сшытка. Прасіў, каб вы самі зайшлі. Зайдзіце да яго ў рэдакцыю «Беларусь».

Мне, вядома, хацелася ўбачыцца з Чорным, але такое гасціннае запрашэнне зайсці тады ўсё ж здзівіла. Я яшчэ не ведаў, што пісьменнік вельмі любіў знаёміцца з людзьмі, гаварыць з імі, бачыць іх.

У першы ж дзень пасля заняткаў паехаў у Маскву. Рэдакцыя часопіса «Беларусь» у той час змяшчалася на плошчы Пушкіна, у будынку «Известий». Чорны акурат быў у рэдакцыі.

— Пачакайце крыху,— сказаў ён, калі я назваўся.— Пачытайце от газету нашу. А я тым часам зраблю, што трэба, і тады мы пойдзем да мяне.

Сапраўды, хутка ён стаў апранацца, узяў у рукі кіёчак. Ён быў з выгляду поўны, гэтая паўната здавалася нездаровою. Ішоў ён павольна, абапіраючыся на кіёк, адчувалася, што ў яго задышка.

Вуліца Горкага, на якую мы выйшлі, была асабліва шумлівая і гаманкая ў той дзень. Усталёўвалася вясна, па-веснавому чыста сінела неба, і ўжо вельмі лагодна ўгравала сонца. Пісьменнік быў таксама вясёлы і нібы святочны.

— Пешкі пойдзем? — ён усміхнуўся.— Пісьменніку трэба мець добрыя ногі. Каб многа хадзіць... Вы не ўрач? — неспадзявана запытаўся ён.

Я сказаў, што не. Чорны здзівіўся:

— А апавяданні абодва пра ўрачоў. І, здаецца, вы іх ведаеце...

Я сказаў, што пазнаёміўся з імі, лежачы ў шпіталі. З гэтага пачаліся яго роспыты: дзе быў у вайну, адкуль родам, дзе бацькі, як жывецца на студэнцкіх харчах.

На ўсё — добры просты позірк, час ад часу вясёлая заўвага, жарцік. Ён, было відаць, любіў і ўмеў заўважаць у з'явах смешнае, любіў пасмейвацца.

Увайшлі ў гасцініцу. «Кватэра» Чорнага мясцілася, калі не памыляюся, на другім паверсе. Гэта быў даўгаваты, невялікі і вельмі сціплы гасцінічны нумар. Ложкі каля сцен, дбайна прыбраныя, накрытыя светлымі пакрываламі, стол каля акна, якое выходзіла на двор, на стале, таксама прыбраным,— некалькі акуратна складзеных кніжак.

Ён узяў са стала сшытак і, падаючы яго, прамовіў:

— Ну, от — пазнаёміліся. Пішыце, абавязкова пішыце! І пабольш — калі толькі ёсць час... А часу вольнага, мусіць, небагата?

Я сказаў, што мала: вучымся па праграме пяцігадовай, а трэба адолець яе за чатыры гады. Ды розныя ранейшыя даўгі.

— Ну, усё роўна трэба пісаць. Часу заўсёды будзе мала... А напішаце — прынясіце!

Ён сказаў так, што адчувалася — гэта не абы сказаць на развітанне, а шчырае слова. Гэта ад сэрца: прынясіце. Гэта быў нібы наказ.

...Я прынёс цераз некалькі месяцаў. Былі ўжо даўно здадзены экзамены за трэці курс, сыходзіла ўжо незабыўнае лета сорак чацвёртага. Універсітэт рыхтаваўся да вяртання на радзіму.

Доўга і старанна пісалася апавяданне, якое я нёс на суд пісьменніку, нёс з трывогай і сумненнямі. Гэта было апавяданне «У завіруху», задума якога даўно, яшчэ з фронту, не давала спакою. У ім было многа перажытага, дарагога,— таму так трывожыў лёс яго.

Чорнага дома не было. Жонка — Р. І. Свераноўская — сказала, што ён заняты, але папрасіла пачакаць. Чорны прыйшоў хвілін праз пяць, прывітаўся.

— Прынеслі? Чытайце,— сказаў ён без далейшых роспытаў.

Прысеў да стала, узяў кавалачак паперы, склаў удвая. Слухаючы, ён раз-пораз штосьці адзначаў.

За акном гусцеў змрок цёплага летняга вечара. Звінелі дзіцячыя галасы, з недалёкай вуліцы даходзіў шум аўтобусаў і тралейбусаў, заклапочаны шум вялікага горада. Усё гэта было вельмі непадобна на тое, аб чым гаварылася ў апавяданні, дзе гула завіруха, дзе стомлены чалавек, грузнучы ў снезе, шукаў дарогу. Я хваляваўся, бачачы, што Чорны робіць нейкія заўвагі, апавяданне раптам страціла ў маіх вачах усялякую цікавасць, і я хацеў толькі аднаго, каб яно хутчэй скончылася.

Калі яно нарэшце было дачытана, Чорны хвіліну маўчаў.

— Добра,— прамовіў ён раптам.— Увогуле добра.

Ён сказаў, што яму спадабалася ў апавяданні,— гэтых слоў было дастаткова, каб прыгнечаны аўтар зір-

нуў на свет больш бадзёра,— услед за гэтым Чорны заначыў, што ў апавяданні ўсё ж недадуман сюжэт.

— Пружынкі не хапае. На самым важным месцы раптам пустата. Мне здаецца, трэба дапісаць, дамаляваць тое месца, дзе ваш герой падымаецца на геранчны ўчынак. Што яго падымае? Як ён расце? Гэта вельмі важна ведаць, а ў вас пра гэта — нічога. Тут штосьці трэба дапісаць... Падумайце.

Я абяцаў падумаць.

— А напішаце — прыносьце. Надрукуем у «Беларусі».

Ад Чорнага, чуў я і ад таварышаў, людзі выходзілі бадзёрымі, выходзілі з жаданнем працаваць. Умеў ён зрабіць заўвагу, паправіць, перасцерагчы так, што ў гэтым не было і ценю крыўднага. Ён, вядома, ведаў, як лёгка аўтар можа зняверыцца ў сваёй рэчы, кінуць яе, загубіць тое добрае, што ўжо зроблена, і таму, папраўляючы, раячы, заўсёды падтрымліваў, падбадзёрваў. Не губляйце надзеі, усё будзе добра,— як бы гаварыў ён кожнаму юнаку.

Гэта было добрае, чулае да людзей сэрца. Мусіць, ад гэтай сваёй дабраты, ад чуласці, а можа, ад перакакання, што лагоднае, добразычлівае слова больш дае сілы чалавеку, чым лаянка, ён людзям, што адкрывалі яму першыя, запаветныя свае спыткі, задумы, часта гаварыў добрыя, абнадзейлівыя словы. Напэўна, па гэтай прычыне ён быў шчодры на пахвалу. Каму, як не яму, былі добра відны шматлікія пралікі і прамашкі няспелых твораў нявопытных пачынаючых, каму лягчэй было «зарэзаць» такі твор, а ён — шукаў крупінкі добрага, назіральнасці, роздуму, жыццёвага вопыту, крупінкі таленту. Шукаў, знаходзіў і паказваў: глядзіце, вось тут у вас добра, вось тут, а тут — кепска, але вы не вешайце галавы, усё будзе добра! Папрацуйце і прынясіце!

Я вярнуўся да апавядання, якое нядаўна лічыў завершаным. Чорны чамусьці назначыў тэрмін, за які трэба было дапісаць рэч,— ён, здаецца, нярэдка ўстанаўліваў тэрміны «здачы працы», як бы даводзячы, што адкладу рабіць не трэба. Як і многім маім равеснікам, што хадзілі да Чорнага, папраўляць мне, дапаўняць сваю рэч было справай хоць і нялёгкай, але прыемнай: пасля сустрэч з ім кожнаму з нас, пачынаю-

чых, працавалася добра! Да таго ж тэрмін абавязваў: не марудзіць.

У назначаны тэрмін апавяданне, дапісанае, папраўленае, зноў было на стале ў пісьменніка. Ён зноў сказаў прачытаць, зноў паслухаў...

У той вечар пісьменнік многа гаварыў пра літаратуру. Найбольш, мусіць, пра Талстога, якога вельмі паважаў.

— Вы любіце Дастаеўскага? — неспадзеўкі запытаўся ён.

Помню, я сказаў, што Дастаеўскі здаецца мне вельме панурым пісьменнікам, што людзі ў яго хваравітыя, і настрой у творах нездаровы, і стыль нейкі сумбурны — нібы сядзеў і пісаў, пісаў, не вельмі абдумваючы раней.

— Гэта вы дарэмна нагаворваеце на яго. Хваравітасць — праўда. А от што не абдумваў — памыляецеся.

Ён павярнуўся к сталу і ўзяў адну кніжку.

— Глядзіце, якія папярэднія нататкі да «Братьев Карамазовых».

Ён падаў кніжку, далікатна кашлянуўшы. Гэта быў том «Литературного наследства» — спадчына Дастаеўскага. Пачакаўшы, пакуль я паглядзеў адгорнутую старонку, ён сказаў з захапленнем:

— От знаўца душы! От псіхолаг! Геніяльны чалавек!.. Адны «Братья Карамазовы» — якая глыбіня пачуццяў!.. Будзе час, перачытайце, прыгледзьцеся.

Памаўчаў.

— Усім бы нам напісаць сваіх Карамазавых. Не хворых,— з такой сілаю!

Ён стаў гаварыць пра тое, што кожнаму пісьменніку трэба старацца ствараць вялікія, глыбокія вобразы нашых сучаснікаў з іх сацыяльнымі рысамі і нацыянальным каларытам.

У той вечар ён сабраўся па нейкай справе да П. Глебкі, які жыў у гасцініцы на Пушкінскай вуліцы. У метро, на станцыі «Беларускай», Чорны загаварыў пра хуткі свой зварот на радзіму.

— Прыеду ў Мінск — абавязкова пасялюся дзенебудзь на далёкай вуліцы. У драўляным дамочку. Каб ціха было і каб можна было пісаць, пісаць, пакуль аж рука не забаліць. Як у касца...

Гэта было самае дарагое яму: вярнуцца і — пісаць, пісаць!..

...Хутка яго можна было бачыць у Мінску. Кожны дзень ён хадзіў па вуліцы Берсана, каля універсітэта — павольна, цяжка, абапіраючыся на кіёк, яшчэ малады, але вельмі хворы чалавек.

Ён радаваўся, сустракаючы знаёмых, ахвотна і доўга распытваў, расказваў сам.

— Ну, што новага напісалі? — запытаўся, прывітаўшыся са мной.

Мне здавалася, што ён нешта абдумваў перад тым, і я, адказаўшы на яго пытанне, хацеў быў развітацца, але ён апярэдзіў:

— Давайце паходзім.

Пакуль хадзілі, распытваў пра універсітэцкае жыццё, пра студэнтаў,— ён заўсёды цікавіўся моладдзю. Я прызнаўся, што задумаў адно невялікае апавяданне ці абразок, але не ведаю, ці брацца за яго. Ён папрасіў расказаць змест.

Апавяданне было просценькае: жанчына непакоіцца пра свайго чалавека, які недзе на фронце і ад якога другі месяц няма пісьмаў. Ёй сумна, балюча, свякруха раіць паплакаць, «каб адлегла ад сэрца», але яна не можа плакаць. «Усе слёзы высахлі». Вечарам прыносяць пісьмо: чалавек яе жывы! Ад радасці яна... плача!

— Задума, па-мойму, цікавая,— сказаў Чорны.— Гэта вельмі правільна псіхалагічна — тое, як жанчына паводзіць сябе ў горы і ў радасці. Па-жаночаму... Чаго ж вы сумняваецеся?

— Ды вельмі ж проста ўсё гэта. Можа, нецікава будзе...

— Калі ёсць праўда, дык будзе і цікавасць. Сапраўдная, а не тая, якую робяць літаратурныя цыркачы, з іх таннымі цыркавымі штучкамі.

Развітваючыся, сказаў ужо звыклае:

— Дык заходзьце, прынясіце, што напісалі. Паслухаю... Я тут, у гэтай мураванай хаце. На другім паверсе. Уваходзіць з гэтых дзвярэй. Заходзьце пад вечар, гадзін пасля пяці.

Я сказаў, што баюся, як бы не надакучыць, што і так многа часу яму даводзіцца марнаваць праз нашага брата.

— Не кажыце гэтага...— Ён усміхнуўся.— Мне ж таксама неахвота сядзець аднаму, як на хутары. Вечары цяпер вялікія, сумнавата, а от прыйдуць людзі — і нагаворышся, і пасмяешся...

І тут ён сказаў тое, што, відаць, тады асабліва балела:

— Працую мала. Дактары забаранілі многа пісаць... На рэжыме строгім жыць даводзіцца.

Калі зайшоў у гэты раз, ён ляжаў у ложку. Нібы апраўдваючыся, прамовіў:

— От усё нешта нездаровіцца.

Але, калі я намерыўся развітацца, разважыўшы, што лепш зайсці іншым разам, ён спыніў, папрасіў распрануцца.

— Слухаць я магу. Толькі от што ў ложку, прашу прабачыць...

Слухаў ён, як звычайна, уважліва,— не перабіваючы, крыху прыплюшчыўшы стомлена павекі...

Было гэта непагодным асеннім вечарам, тыдні за два да таго халоднага, ветранага дня, аднаго з апошніх дзён лістапада, калі мінчане правялі яго ў апошні шлях...

# ЗДАРЭННЕ

Добра летам было Валодзьку. Добра ўсюды, але, можа, нікуды не вабіла яго так, як у хмызняк за сялом. Ён прыходзіў сюды ледзь не кожны вольны дзень, часам і не адзін раз. У іншыя дні, здаралася, забываўся пра дом, пра маці, пра яе наказы, пра ўсё на свеце, толькі змрок, што ўпаўзаў між кустоў і рабіў хмызняк незразумела страшным, выганяў яго дахаты.

Чаго толькі не было ў гэтым хмызняку, што цягнуўся за Куранямі, здавалася Валодзьку, без канцакраю. У нізкіх з клейкім лісцем алешынах таіліся птушыныя гнёзды, між алешын нярэдка траппяліся стройныя тонкія крушыны, з якіх добра было рабіць кавенькі. Патрымаеш дручок над агнём, так, каб ён прапацеў, прапрэў, і бяры, гні з яго палазок-кавеньку! Можна такую кавеньку выгнуць, што, калі выйдзеш з ёю, як дзед, на вуліцу, усе хлопцы пазайздросцяць.

А колькі тут усялякай расліны, і горкай-прагоркай, такой, што калі возьмеш у рот, куснеш, дык язык нібы агнём апячэ, потым увесь дзень будзе гарэць, і пахучай валяр'янаўкі, за якую ў кааперацыі нават грошы даюць. Трава ў хмызняку такая высокая і густая, што праз яе церабіцца цяжка, як праз каноплі. Але самае цікавае ўсё ж зараснікі. Алешыны, крушына, лаза тут амаль усюды так густа пераплецены, што лезці ў іх мала хто і наважыцца. Дарослыя, ды і Валодзькавы сябры, тыя звычайна стараюцца ісці сцежкамі.

У гэты дзень Валодзька доўга сядзеў каля копані. Валодзькава мама казала, што копань тут не сама па сабе, а яе выкапалі, толькі Валодзьку ў гэта неяк слаба і верыцца. Як жа паверыць у гэта, калі яна ўся абраслая, так што і падступіцца цяжка.

Бераг у копані круты, гэта Валодзька ведае. Адзін раз тарфяная грудка, на якой ён стаяў, адламалася,

і Валодзька так шухнуў у ваду, што ледзь не схаваўся з галавой. Яму ўдалося ўхапіцца за лазіну, і ён утрымаўся, спалохана адчуваючы, што ногі яшчэ не дастаюць дна.

З таго дня Валодзька пабойваўся копані, яе вады. Але, можа, якраз таму так і цягнуў да сябе загадкавы зарослы астравок, што купчасціўся сярод копані. Чаго там, якіх цудаў не ўяўляў сабе Валодзька! Вось і сёння сядзеў ён на беразе са сваім дружком Хведзькам, пазіраў на зялёную плёнку раскі, такую густую і нібы цвёрдую, што, здавалася збоку, хоць ты ступай і ідзі сабе, як па сухому. З раскі то там, то тут цяжка выпоўзвалі зялёныя брыдкія лягушкі.

— Вунь,— сказаў Хведзька і замахнуўся. Камячок чорнай зямлі ціха сцепнуў, слаба варухнуўшы зялёную паверхню, і лягушка лена, неахвотна знікла.

— Не папаў! Цалко! — Валодзька знайшоў зялёны бугорчык лягушкі і шпурнуў камячок. Яшчэ да таго, як камячок упаў на раску, Валодзька, пасачыўшы за ім, зразумеў — пералёт. З гэтай прычыны на Валодзькавым твары адразу паявіўся абыякавы, нудлівы выраз.

Хведзька задаволена падскочыў:

— Сам — цалко!

— Вельмі мне трэба! — працадзіў Валодзька.— Каб я хацеў, я адразу б...

— Ты — адразу б? Хвалько!..

— Я — хвалько? — устаўшы, перапытаў Валодзька з рашучым выглядам, такім рашучым, што Хведзька прамаўчаў.— Не ведаеш, дык і не кажы!

Яны пастаялі, памаўчалі, насцярожаныя адзін да аднаго, нібы чужыя. Можа быць, яны б і разышліся, затаіўшы кожны лёд у сэрцы, але вакол было так цёпла, мірна і ў саміх іх было так бесклапотна, што лёд гэты не трымаўся. Спрачацца зусім не хацелася.

— Ну, глядзі...— мякчэй, хоць і з вельмі хмурным выглядам, прамовіў Валодзька. Ён паглядзеў на астравок, на загадкавы зараснік, і хмурнасць раптам сышла.— Ведаеш, давай знойдзем алешыну сухую!

— Нашто?

— Пакладзем туды. Адсюль туды — і перабяромся!..

— Уга, пакладзеш туды! — Хведзька тут жа літасціва згадзіўся.— Ну, давай!

Валодзька звярнуў са сцежкі і палез у зараснік. Хведзька з выглядам адвагі пацерабіўся за ім. Гэты выгляд быў недарма на Хведзькавым твары,— з галлём і гушчынёй лісця тут цесна абступала іх невядомасць. Усюды былі, чапляліся за рукі, за ногі высокая трава, галлё, гнілое, не віднае ў траве і зялёнае на дрэвах, шыю халадзіў сыры цяністы прыцемак, ад якога па спіне прабягалі мурашкі. Чамусьці здавалася, што нехта з гэтай гушчыні назірае, цікуе, і ў галаву мімаволі лезлі страшныя гісторыі з казак, якія расказваў хворы Валодзькаў дзед Ігнат. Ці ж дзіўна, што Хведзька меў такі адважны выгляд.

Валодзьку таксама было страшнавата, але ён і знаку гэтага не падаваў Хведзьку. Разам з тым, жыло ў ім, спрачалася са страхам і іншае. Яго цягнула да сябе гэтая страшнаватая загадкавасць, што, здавалася, таілася ў змроку і гушчыні зараснікаў. Цікаўнасць, дапытлівасць былі, можа быць, самымі моцнымі рысамі яго дзіцячай натуры. Яму чамусьці заўсёды хацелася ўсё бачыць, хацелася да ўсяго падысці бліжэй, дакрануцца, калі можна, рукамі, паспытаць...

— Во! — гукнуў ззаду Хведзька.

Валодзька вярнуўся да яго. Хведзька, задаволены, выцягваў з травы мокры, даволі тоўсты, з добры чалавечы кулак, камель алешыны. Дрэва было чорнае, і тонкая кара на ім пад Хведзькавымі пальцамі лёгка спаўзала.

— Склізкая! — паскардзіўся Хведзька, пачырванелы ад натугі, учэпліваючы ў яе пальцы.

— Гнілая! — заявіў тонам вопытнага чалавека Валодзька, адначасна беручыся дапамагаць прыяцелю.

— Гнілая! Сказаў! Яна яшчэ — як зялеза!

Кусты і трава, што трымалі алешыну, раптам адпусцілі яе, і яна лёгка папаўзла на прагалінку. Кінуўшы камель, прыяцелі агледзеліся і заўважылі, што яна вельмі кароценькая, пераламаная. Тут была толькі палавіна дрэва.

— Не хопіць! — заключыў Валодзька.

Хведзька ўздыхнуў. Ці то згадаўшы несправядлівую заўвагу сябра, ці то каб суцешыць сябе, наступіў з усёй сілай на дрэва, прамовіў:

— А так яна — як зялеза!

Падаліся далей. Неўзабаве трапілі на хліпкую забалочаную мясцінку, збочылі, абыходзячы яе, управа і неспадзявана для сябе выбраліся к канаве. Канава, выкапаная ў даўнія часы і ўжо аброслая кустамі лазы і алешнікам, перараzала амаль увесь хмызняк. Яна ішла ўсцяж сяла, пакуль не ўпадала ў другую, большую. Гэтая большая і перабівала грэбельку, што злучала Курані з Алешнікамі.

У канаве і ў балотах абапал грэблі, у шматлікіх затончыках вадзілася нямала дробнай рыбы.

Валодзька раптам забыўся пра нядаўні клопат, запаліўся новым:

— Хадзем на рыбу! К грэблі!

— Хадзем! — лёгка згадзіўся Хведзька. Ен адразу разважыў, што ісці на балота куды лепш, як бадзяцца, поўзаць па мокрым зарасніку.

Беражок канавы быў сухі, ад насыпанай калісьці зямлі крыху вышэйшы за іншую паверхню ўзболатку. Тут весела зелянеў па-веснавому маладзенькі муражок. У гэтым муражку і бегла ўсцяж канавы прамая, утаптаная сцежка, па якой цяпер хутка тупалі двое кураneўскіх прыяцеляў.

Каля аднаго куста, што кідаў на ціхую ваду зеленаваты цень, пастаялі некалькі хвілін, назіраючы за плотачкай, што нібы драмала ў зацішку.

— Во каб баўтуху! — пашкадаваў шэптам Валодзька.

Ён раптам затупацеў, шумнуў, і рыбінка ўміг знікла. Неўзабаве дайшлі да другой канавы, павярнулі берагам яе да няблізкай грэблі. Абодва ішлі ў гэтых мясцінах адны ўпершыню і адчувалі сябе нельга сказаць, каб вельмі ўпэўнена. Тут недалёка былі алешніцкія хаты, і лёгка маглі напаткацца самі малыя алешнікаўцы — напаткацца і надаваць у каршэнь. Такія падзеі былі не ў навіну каля Алешнікаў, як і — у дачыненні да алешніцкіх хлопцаў — каля Куранёў.

Ішлі таму з хуткасцю павялічанай, быццам хто-небудзь падганяў. Каб хутчэй дапасці да сваіх, збочылі на сцежку, што вяла напрасткі да балота. Хведзька часта соп, ледзь упраўляючыся за большым прыяцелем, час ад часу пераходзіў на дробны жарабячы тру-

шок. Ён, аднак, не скардзіўся, не прасіўся прыпыніцца. Абы хутчэй да ўзболатку, да сваіх.

Хмызняк ужо канчаўся, калі Валодзька спыніўся так рэзка, што Хведзька ткнуўся тварам у яго спіну. Яшчэ не разумеючы, што здарылася, чаго баяцца, ён збочыў услед за прыяцелем у кусты. Прысеў наўколенцах на траву, зморана аддыхваўся. Мяркуючы па Валодзькавым твары, устрывожаным і насцярожаным, яны ледзь не трапілі ў бяду, і гэтая бяда наперадзе, на сцежцы. Хто там, алешніцкія?

Хведзька асцярожна выглянуў з-за куста. Не, там былі не алешніцкія хлопцы, але тое, што ён убачыў, здзівіла і ўразіла так, як не ўразіў бы цэлы гурт алешніцкіх. Каля канавы стаяла двое незнаёмых. Адзін быў па-гарадскому апрануты, у пінжаку і ў кепцы, з сумкай цераз плячо. Другі, у зрэбным, трымаў нейкі брус.

Гарадскі ўздымаў на плечы нешта вельмі дзіўнае, проста незразумелае.

— А-а! — пачуўся неспадзеўкі поруч злавесны голас. Не ўправіўся Валодзька скочыць убок, як чыясьці моцная рука ўзяла яго за локаць, сціснула.— Куды?

Валодзька спалохана, зверавата азірнуўся. Страшны, нечаканы незнаёмец, па адзенні гарадскі, падобны да першага з тых двух, толькі без кепкі, вельмі весела, гарэзна смяяўся. Ні смех гэты, ні сам воблік чалавека, нязлосны нібы, добры, не супакоілі Валодзьку. Ён паспрабаваў вырвацца. Незнаёмы трымаў моцна.

— Ты што гэта нелюдзім такі? — зноў засмяяўся незнаёмы, здавалася, злавесным смехам.

З-за кустоў пачулася:

— З кім ты там, Паўлік?

— Звярка злавіў!... Зайца!

Ён павёў Валодзьку да двух сваіх таварышаў. Падышоўшы да іх, Валодзька заўважыў, што яны толькі што адпачывалі, падмацоўваліся і цяпер выкіроўвалі ў дарогу. Той, што трымаў на плячах дзіўную рэч, чарнявы, сутулы, спусціў яе зноў на зямлю, сказаў спачувальна:

— Напалохаўся хлапчына. Ахвота табе было палохаць яго,— як дзіця!..— Ён зірнуў на Валодзьку.— Ты адкуль? З Алешнікаў?

Валодзька адказаў не адразу, сабраўся з духам, наважыўся.

— Хто ты? Як зваць?

— Валодзька,— смялей адказаў ён. Пасля роздуму дадаў: — Дзяцел.

Той, што прывёў, Павел, зарагатаў:

— А я думаў — заяц! Пераблытаў звярка з птушкай!

Засмяяліся і іншыя. Павел, які дасюль ішоў босы, сеў на траву і пацягнуў да сябе вялікія боты з дзіўнымі даўжэзнымі халявамі. Гэтыя боты так зацікавілі хлопчыка, што ён, забыўшыся на свой стан і трывогу, толькі і глядзеў на іх, як на дзіўнае дзіва.

— Што, можа, табе надзець? — улавіў яго позірк чарнявы.

Валодзька заматаў галавою: не, ён у такім абутку з галавой схаваецца, хіба дзядзька не ведае гэтага? Павел жа, загарнуўшы цыгарку доўгімі пальцамі, выцягнуў тонкую, з кадыком, шыю, пусціў праз ноздры дым і сказаў, што ў гэтых вашых багнах і з такімі халявамі ногі вечна мокрыя. Валодзька на гэта шчыра сказаў, што лепш за ўсё басанож.

— Мы так і робім! — згадзіўся дзядзька, што паставіў ужо на зямлю незразумелую рэч. Валодзька заўважыў, што ён, як і Валодзька, стаіць босы, з падкасанымі штанамі. Ногі яго — худыя, з рудымі валасамі — былі памыты, але на іх яшчэ трымаліся разводы ўедлівай твані. Штаны да самага пояса таксама афарбоўвала твань, плямы яе, падсохлыя, клеіліся да вышмальцаванага пінжачка з падкасанымі рукавамі. Твань сядзела крапінкамі і на зямлістым твары.

Усё гэта не здзівіла Валодзьку, яно было вельмі звычайным, рабіла гарадскіх з выгляду незнаёмцаў зразумелымі, свойскімі. Трэці ж, увесь у зрэбным, з такімі ж, як у Валодзькі, цурбалкамі-палачкамі замест гузікаў, быў зусім свой, можа, алешнікавец. Валодзька асмялеў. Ён ужо не баяўся незнаёмых і нават пра Хведзьку ўспомніў, паклікаў:

— Ідзі сюды! Не бойся!.. Свае!

Але Хведзька не адгукнуўся. «Уцёк, значыцца»,— рашыў Валодзька. Ён больш не думаў пра сябра, аддаўся ўвесь блізкім цікавым праявам. Калі Павел устаў, чарнявы дзядзька, якога ён зваў Сцяпанам Іва-

навічам, узняў на сутулыя плечы дзівосную прыладу, аб'явіў:

— Што ж, рушылі?..

Ён нічога не сказаў да Валодзькі — ісці з імі ці не ісці,— і Валодзька на момант задумаўся. Але яшчэ да таго, як развагі зрабілі вывад, ногі яго нібы павяло за людзьмі.

Праз дзесяткі паўтара крокаў, каля ўваткнутай у мокрую траву на багністым беразе галінкі-меткі, Сцяпан Іванавіч зняў сваю прыладу, расставіў ёй ножкі, а чалавек з размаляваным брусам і дзядзька Павел дасталі перабірацца на другі бок. З таго боку пайшлі далей, цягнучы тонкую жалезную стужку, адмяраючы адлегласць.

Хмызнячок тут быў рэдкі і нізкаdébслы, і нават Валодзьку быў добра відаць над ім верх размаляванага бруска, на які дзядзька Сцяпан наводзіў трубачку сваёй прылады. Паглядзеўшы, ён выняў з сумкі запляміены сшытак і штосьці напісаў.

—' А, дзяцел? — заўважыў ён Валодзьку.— Памагаць рашыў?

Валодзька ўгукнуў, і дзядзька Сцяпан сказаў, што гэта вельмі добра, што памочнікі ім патрэбны. Валодзьку страх як захацелася зазірнуць у таямнічую трубачку, паглядзець, што ж там, якія цуды бачыць у ёй дзядзька. Але прасіць ён не наважыўся, а Сцяпан Іванавіч сам здагадацца пра гэта не даўмеўся.

Узняўшы на плечы прыладу, дзядзька Сцяпан палез у твань, у той бок, дзе ўжо былі іншыя. Ішоў ён цяжка, сутулячыся пад сваёй, відаць нялёгкай, ношай, багна моцна трымала валасатыя ногі і выпускала неахвотна, незадаволена хлюпаючы. Валодзька ішоў за ім як зачараваны.

— Вот, брат дзяцел,— дабрадушна гаварыў дзядзька, расстаўляючы зноў сваю трыногу,— несалодкая гэта справа — дыбаць па вашай багнюцы... Але нічога, трэба!.. Загад такі!..

— А што ето вы робіце? — не ўтрываў, нарэшце, Валодзька.

— Што, кажаш? Пакуль нічога... Справа потым будзе...— ён зрабіў націск на «потым».— Гэта — так...

Ён маўчаў, глядзеў у сваю трубачку, расставіўшы

худыя ногі. Калі даставаў сшытак, заўважыў, якімі вачыма глядзеў Валодзька на прыладу, сказаў:

— Ну што, паглядзі, калі ўжо рашыў памагаць.

Валодзька аж затаіў дух, становячыся на цыпкі, каб дастаць да трубачкі. Яна была высакавата, але і тое, што куранёўскі хлопчык убачыў у гэты момант, здалося яму незвычайна важным, асаблівым. Ён убачыў, і да таго ж кепска, ледзь дацягваючыся да трубкі, яркую купку куста, брусок, нейкія незразумелыя рыскі. Кусты былі вельмі блізка, быццам перад самымі вачыма, і гэта разам з такімі загадкавымі рыскамі, са знакамі на бруску проста ашаламіла яго. Яму здавалася, нібы ён заглянуў не проста ў трубачку, а ў нейкі зусім інакшы свет, нічым не падобны да ўсяго таго, што ён дасюль ведаў. Ён нібы зазірнуў за мяжу, за якой пачыналіся дзівы і цуды. Гэты нязведаны свет адразу запаланіў яго...

Момант, што мільгануў перад ім цяпер, урэзаўся яму ў памяць на многія, многія гады. Усё жыццё потым не раз успамінаў ён гэты момант, з якога пачыналася, можа, самае галоўнае ў яго жыцці...

Дзядзька Сцяпан згарнуў сшытак і, не заўважаючы, што робіцца з хлопчыкам у зрэбным, сказаў абыякава:

— Што ж, брат дзяцел, далей рушым?

# ДАДОМУ

Невясёлы вяртаўся Валодзя з Масквы. Ужо не так цікава было стаяць каля вокан цягніка, непрыемным быў пах вугальнага перагару, што ўлятаў з дымам у вагон, ужо не хацелася высоўваць галаву на вецер, смяяцца, чуючы, як валасы, раскідваючыся, казычуць лоб, вушы, шчокі.

Назад адышоў Бранск, адступіў Старадуб, блізка быў Гомель. Але набліжэнне яго цяпер не радавала, думкі пра Гомель выклікалі яшчэ большую тугу, узмацнялі трывогу.

А можа, спыніцца ў Гомелі, паспрабаваць там уладзіцца куды-небудзь, не ў інстытут, а на якую-небудзь працу? Пра іншы інстытут ганарлівы Валодзя не думаў, бо гэта было б яўнае адступленне, а ён і думкі пра адступленне не падпускаў. Зноў у Баўманскае, у Маскву, нікуды інакш, няхай праз год, праз доўгіх дванаццаць месяцаў.

У Гомелі было ціха і нудна. Заставацца ў горадзе цяпер раптам расхацелася, рашыў прыехаць як-небудзь пазней. Пасля перажытай у Маскве прыкрасці чамусьці нідзе не было спакою, ні да чаго не было цікавасці, усё было абыякавае, і ад таго не хацелася спыняцца, сядзець. Нешта нібы гнала далей, хоць гэтым далейшым быў ужо дом, дзе ён, мусіць, будзе глядзець у вочы настаўнікам, Васілю, усім, хто на яго гэтак спадзяваўся.

Да цягніка на Калінкавічы часу заставалася многа, і Валодзя ■ чамаданам у руцэ пайшоў бадзяцца па горадзе. У канцы залітай у гэты дзень сонцам Камсамольскай вуліцы ён забрыў у парк, у цёмныя прысады ліп і клёнаў. Безуважна павярнуўшыся бокам да славутага колішняга графскага палаца, што ўздымаў над зялянінай свае вежы, Валодзя па вузенькім масточку,

перакінутым цераз зялёны яр, стаў выбірацца на бераг Сожа. У парку ўсюды хадзілі, сядзелі людзі, шчаслівыя, бесклапотныя, многа было юнакоў і дзяўчат з кніжкамі, сшыткамі, мусіць, рыхтаваліся да экзаменаў,— яны напаміналі пра няшчасце, абуджалі прыкрую тугу.

«Чорт, проста жыць не хочацца! Бачыць не хочацца нікога!» Ён пралез у зараснік над самай кручай, прадчуваючы задавальненне ад таго, што зараз адгародзіцца ад гэтых непрыемна вясёлых твараў. З кручы адкрылася яму зноў шырокая зялёная далеч з сінім лесам, з россыпам хат, але і хараство яе не адагнала скрухі. Хмурна зірнуў ён на дзіўна лёгкія адсюль, з ажурным плецівам, паўдугі чыгуначнага моста, на нізкі, з пясчанымі лысінамі бераг насупраць, на якім грэліся, снавалі бяздумныя, амаль голыя людзі, на лодку пасярэдзіне Сожа, якая адсюль, зверху, была відна, як з самалёта, і ў якой драмаў загарэлы да чарнаты чалавек,— зірнуў на ўсё гэта Валодзя і, уладзіўшы чамадан каля бока, схаваўшы галаву ў куст, разлёгся на траве.

Ён неспадзявана заснуў. Прачнуўся аж пад вечар, пачуўшы недзе паблізу галасы. Калі сон зусім адышоў ад яго, разамлелага і пасвяжэлага, Валодзя трывожна ўскочыў: так, чаго добрага, і чамадан і цягнік праспаць можна!

Прыехаў Валодзя ў Калінкавічы яшчэ да ўсходу сонца. Частка пасажыраў, што высыпалі з вагонаў, падалася ў вакзал, мусіць, пачакаць, пакуль падыдзе аўтобус на Мазыр ці папутныя падводы, іншыя, не трацячы часу, выправіліся адразу на вуліцы, ісці пеша. Валодзя таксама выйшаў у пасёлак, для пэўнасці запытаўся, у які бок дарога на Мазыр, і нецярпліва закрочыў па макраватаму ранішняму бруку. Дванаццаць кіламетраў пехатой для яго былі б дробяззю, калі б не чамадан, які, ліха на яго, руку адцягваў.

Але і так ісці было непагана: ад хвойніку, ад роснай травы абапал шашы, ад халаднаватага паветра дыхала крынічнай свежасцю. Да таго, як выглянула сонца, ён ужо ўвайшоў столькі, што з-за павароту выступілі жоўтыя пясчаныя гурбы перад Прыпяццю і наводдаль круты гарбаты мазырскі бераг с раскіданымі па схілу дамочкамі, што ясна, весела ружавелі.

Прыпяці, схаванай гурбамі, адсюль яшчэ не было відаць.

Валодзя спяшаўся на параход, які адыходзіў уранку, ён баяўся не ўправіцца, і гэты клопат і яснасць дня, што ўставаў з празрыстым блакітам неба, з птушынымі спевамі, прытушвалі яго скруху. Ён ішоў бадзёра, пазіраючы на свет ужо з абнадзейлівай цікавасцю.

Калі не шанцуе, дык не шанцуе. Толькі Валодзя падышоў да берага, як пачалі разводзіць мост. Валодзя, сеўшы на чамадан, гатоў быў ужо аддацца адчаю, калі заўважыў непадалёку за кустом лазы старую, густа прасмоленую лодачку, на якой горбіўся барадаты чалавек з вудамі.

— Дзядзька! — гукнуў ён, кінуўшыся да рыбака.

Рыбак няветліва азірнуўся.

— Ну, што?

Ён прыжмуранымі, амаль схаванымі пад выгаралымі бровамі вачыма коса глядзеў на празрыстую роўнядзь вады.

— Можа б, вы на той бок перавезлі?

— Няма калі... Ды цішэй ты!.. Рыба цяпер за вярсту чуе...

Валодзя вінавата прыцішыў голас.

— На параход спазнюся.

— А куды табе?

— На Юравічы.

— То спознішся,— са спакойнай палескай разважлівасцю прамовіў стары.

Пачуўшы, што Валодзя заплаціць, стары падумаў, пачухаўся і стаў выцягваць вуды з вады.

— Сядай!

Рыбак вяслом саштурхнуў карму з пясчанай мелі, і лодка лёгка загойдалася. Моцнымі, рэдкімі ўзмахамі вёслаў стары накіраваў яе ад берага на сярэдзіну ракі. У цішыні было добра чуваць, як між рыпу ўключын звонка сцякаюць цуркі з вёслаў на ўздыме і плюскоча вада за кармой. Прыбярэжныя, густа пераплеценыя падставы моста, што быў злева, адступілі, і ў пройме разведзенай часткі яго Валодзя ўбачыў прастор вады, далей — бераг. Але ні прыстані, ні парахода, які цікавіў хлопца, не было відаць — нейкае нязграбнае судна закрывала іх.

Рыбак гроб, як і раней, павольна, нібы лянiва,— то правядзе вяслом, то быццам падрэмле, пакуль лодка сама рэжа ваду. Здавалася, няма такой сілы, якая магла б падагнаць яго.

Аддаўшы на беразе паўрубля, Валодзя, ухапіўшы ў руку чамадан, адразу рынуўся ў бок прыстанi. Параход яшчэ стаяў каля прыстані. На ім ужо былі пасажыры, грузчыкі зносілі па пругкай кладцы нейкія скрынкі.

Каля касы Валодзя ў апошні раз падлічыў свае фінансы. Грошы канчаліся. Непрадбачаны выдатак на перавоз цераз раку зусім парушыў і без таго няпэўны лад у Валодзевым бюджэце. На білет да Юравіч яшчэ сяк-так наскроб — не хапіла ўсяго пяць капеек, касірша дала білет,— але пра кавалак хлеба, не кажучы ўжо аб большым, не было чаго і думаць. Прыйдзецца цярпець да абеду, да дому.

Ён сеў на лавачцы на карме. Спачатку пазіраў на грузчыкаў, загарэлых хлопцаў, што хадзілі па кладцы на прыстань і з прыстані, перакідваючыся жартачкамі, спрытна трымаючы на плячах скрынкі; потым адвярнуўся, стаў глядзець на другі, нізкі бераг з кучаравымі кустамі лазы. Параход чамусьці марудзіў, бясконца чамусьці тырчаў каля прыстані, быццам і не збіраўся адыходзіць, і Валодзю стала гэтая нуда злаваць. Ён паспрабаваў задрамаць, даспаць за ноч, але сон, нібы знарок, не браў яго.

Блізка ад яго селі дзве дзяўчыны. Яны хіхікалі, пацяшаліся над нейкім Мішкам, які думае, што па ім усе дзяўчаты сохнуць, а ў самога нос кірпаты і шыя, як у гусака,— нейкага Астапавага,— і ходзіць, як гусак. Адна з дзяўчат пры гэтым гарэзна паглядзела на Валодзю, але хлопец зірнуў у адказ так, што яна і сама адсунулася далей і прыяцельку сваю пацягнула.

Яны час ад часу паглядвалі на Валодзю з цікаўнасцю і апаскай.

— У яго, мабыць, нехта памёр у Мазыры,— рашыла адна.— Таму ён і дзікі такі...

— З бальніцы, пэўна...

Валодзя не перамяніў паставы ні тады, калі ўгары басавіта тры разы запар прахрыпеў гудок, ні тады, калі за ім паплылі мазырскія кручы — гарбатыя сцежкі,

крывыя вулачкі, дамочкі, найбольш драўляныя, учарнелыя, што спаўзалі да ракі, запыленыя купкі дрэваў.

— Можна? — падсела да Валодзі нейкая постаць.

Валодзя не зразумеў.

— Што?..

— Сесці каля цябе можна?

Валодзя ўлавіў у голасе чалавека ноткі вясёлай кпіны, зірнуў на яго. Хмурна адвёў позірк убок.

— Не прызнаеш, брат, ці што?

— Прызнаю...

Каля яго сядзеў Сцяпан Іванавіч, такі ж усмешлівы, як заўсёды, з тымі ж вясёлымі маршчынкамі каля кончыкаў губ, з тымі ж хітраватымі, добрымі вачыма. Ён быў без кепкі, і сонца паблісквала на яго амаль голай галаве.

— Чаго ж ты такі, а?

— Які?

— Ну, няветлівы, ці што?

— Такі, які ёсць...

— Ты раней, брат, крыху іншы быў...

— Быў...

— Здарылася што?

— Не...

— Нічога, значыцца? Эге,— філасофскі адзначыў Сцяпан Іванавіч, больш уважліва зірнуўшы на Валодзю.— І ў мяне, брат, нічога... Балоты толькі розныя. А служба тая ж. Старая, брат, служба... Як там маці твая, брат, як?

— Нічога. Здаровыя.

— Брата, здаецца, Рыгорам зваць?

— Васіль.

— Васіль!.. Памяць дзіравая стала!.. Ну, а ты ўжо скончыў дзесяты?

Валодзя панура буркнуў:

— Скончыў.

Сцяпан Іванавіч здагадліва падціснуў губы: вось дзе, мусіць, прычына. Адразу, напрасткі ўзяў:

— Праваліўся? Не прынялі?

— Не прынялі.

— У Мінскі універсітэт ці ў Маскоўскі?

— Не. У Вышэйшае інжынерна-тэхнічнае імя Баўмана.

— Таксама нішто. Несправядліва абышліся?

Валодзя хмурна прамаўчаў. Што тут казаць!

— Несправядліва, брат. Едзе вас, мусіць, некалькі тысяч па ўсім Савецкім Саюзе такіх, несправядліва пакрыўджаных. На Прыпяці і на Енісеі... Панурыя, абураныя.

Валодзя зірнуў на яго, насцярожана, непрыхільна: чаго ён, здзекавацца надумаў?

— Пішуць, маўляў, «маладым дарога ўсюды», а як на праверку... Адным словам, на праверку — едзь дамоў. Ты не думай, брат, я не кажу, што гэта справядліва, што ты дамоў едзеш. Не, вельмі можа быць, што тваё месца там. Можа быць нават, што перахапіў яго які-небудзь бойкі сталічны сын. Які, брат, гады чатыры ці пяць акуратна будзе есці на дзяржаўныя грошы. А потым усё зробіць для таго, каб як-небудзь вылузнуцца ад дзякі, ад адплаты. Дзядзькоў добрых падыме, даведак нацягне. Змахлюе... А ты б, скончыўшы, канечне паехаў бы. І толк быў бы з цябе...

Валодзя пачуў, як, сагрэтая спачувальным словам, крыўда хваляй зноў напоўніла яго, падступіла к горлу. З яго толк быў бы, вядома! На край свету, абы трэба было, паехаў бы!..

— Паехаў бы, слова не сказаў бы!

— Але вось бяда, брат. Вы, маладыя, даруй, брат, як авечкі. Тыя — куды адна, туды і ўсе... Вы ўсё ў Маскву, у Ленінград, ва універсітэт, у акадэмію. І абавязкова, каб прафесія — з бляскам, відная! Што там, скажам, які-небудзь меліяратар, можна сказаць, балотны жук?

— Хто да чаго мае нахіл! — холадна запярэчыў Валодзя.— Хто да меліярацыі, а хто...

— А хто да авіяцыі? — падхапіў Сцяпан Іванавіч з прыкметнай насмешкай.— Авіяцыя — гонар, слава!.. А балоты — няхай чорт лазаты ў іх там корпаецца! У гэтай гразі, у твані. Нуда, нікчэмнасць...

— Я таксама не на лёгкі хлеб кінуўся!..

— Можа быць.

— Ну дык і няма чаго казаць!

— Гарачы ж ты, брат!

— Які ёсць! — Валодзя з непрыхільнасцю прыжмурыў вочы.— Нібы грэх, што не ў меліярацыю пайшоў!

— Можа, і грэх.— Ён заўважыў, што Валодзя не-

цярпліва паварухнуўся, строга прамовіў: — Ты паслухай! Старэйшы я, як-ніяк, крыху больш ведаю!.. Ты ў машынабудаванне гэтае, ці што, захацеў, пачытаўшы кніжак. Як тое дзіця, што, пасядзеўшы над якім-небудзь Фенімарам Куперам, уцякае з дому шукаць амерыканскіх прэрый...

— Параўналі!

— А тое, што пад бокам край у тысячу разоў цікавейшы, дзіця і не думае. І справы тут,— кінуў Сцяпан Іванавіч кудысьці на прыпяцкі бераг,— такія справы, якія і не сніліся каўбоям тваім. Яно, праўда, нялёгка ў балоце. І выходзіш з яго брудны, як сам чорт з пекла!..

— Чаго вы на мяне населі з гэтай сваёй меліярацыяй?!

— Яна, брат, такая мая, як і твая. Каму ж, як не мне, не табе, якія выраслі, можна сказаць, у твані, душыліся змалку балотным смуродам, і ўзяцца за гуж гэты?

Сцяпан Іванавіч зазірнуў у твар хлопца. Валодзя маўчаў, знарок адвеўшы вочы ўбок.

— Не пераканаў...— адзначыў уголас Сцяпан Іванавіч. Ён гэтым быццам бы закончыў спрэчку і ўжо інакш, больш дзелавіта, запытаўся: — Што ж цяпер рабіць будзеш?

— Не ведаю.

Сцяпан Іванавіч падціснуў губы, мармытнуў нешта падобнае на філасофскае «м-да-а!» і, як бы нечакана прыпомніўшы, схамянуўшыся, расшпіліў пашарпаную брызентавую сумку, што вісела цераз плячо, і выняў скрутак. Разгарнуўшы газету, ён паднёс бліжэй падсмажаную, з карычневай спінкай і бакамі куру, моцна, смачна ўдыхнуў.

— Ах! Ліха яе матары! Зефір! — Ён раптам падміргнуў Валодзю: — Прыкончым?

— Я пад'еў ужо,— зманіў Валодзя, стрымліваючы голад, што адразу напомніў пра сябе. Характар, непахісны Валодзеў характар не мог дазволіць які-небудзь кампраміс пасля пачулай, несправядлівай да яго размовы. Нельга ж было папускацца з-за нейкай смажанай куры!

— Ну, пад'еў! — здзівіўся Сцяпан Іванавіч.— Калі?

— У Мазыры.

— Дык пасля таго кішкі ўжо даўно марш маглі зайграць. Курыца якая, глядзі! Не курыца, каралева, каралева Марго!.. Хочаш сцягно?

Валодзя мужна крутнуў галавою: не хоча.

— Ну што ж, госцю гадзі дый сябе глядзі.— Сцяпан Іванавіч з хрустам разламаў курыцу і смачна заплямкаў. Валодзя ўжо быў завагаўся, ці правільна зрабіў, адмовіўшыся ад пачастунку. Каб адагнаць спакусу, адышоў, прытуліўшыся да агароджы, пачаў паглядаць на ваду. У гэты час параход перастаў біць па вадзе, паплыў павальней, прыпыняючыся. Калі ён спыніўся зусім, Валодзя заўважыў, што параход нязвычна завагаўся на хвалях.

Да яго прыстала лодка, што дзяжурыла на вадзе. Яна таксама гойдалася, і матросы прытрымлівалі яе баграмі, пакуль не спусцілі на яе жанчыну і хлопца, што выходзілі тут.

Ледзь лодка крыху адышла ад парахода, ён зноў затросся, забіў па вадзе. За яго кармой зноў пабеглі бугрыстыя рады, якія ўсё разыходзіліся клінам, шырыліся і, ухапіўшы лодку, сталі моцна кідаць яе з боку на бок.

Неўзабаве на градзе другога берага забялела юравіцкая цэркаўка. Валодзя адчуў, як па грудзях прайшла новая хваля смутку. Гэта была ўжо амаль родная мясціна, амаль дамоўка. І круты пясчаны адхон, і хатка ля прыстані, і знаёмы берагавы маячок, слуп з крыжыкамі-лесвічкай, які калісьці так хваляваў,— усё гэта гаварыла, што ён каля дому, выклікала скруху.

Калі ён узяў чамадан, каб ісці, Сцяпан Іванавіч паклаў на яго плячо руку, па-сяброўску нахіліўся.

— Будзе ахвота, прыходзь да мяне. У Бабры. Па знаёмству ўладжу.— Ён падбадзёрліва, спачувальна падмігнуў.— Добра?

— Пабачу...

Да сяла дайшоў Валодзя пад абед. Хоць цягнуў руку чамадан, вуліцай не пайшоў, а знарок збочыў на сцежку за гумнамі, каб не сустракацца. Пасля чаднага віру летніх маскоўскіх вуліц, пасля чыгуначнага стукату, што яшчэ нібы чуўся ў вушах, пасля клопату дарогі — цішынёй, сонным спакоем павеяла на яго ад

агародаў, садкоў, гонтавых дахаў і саламяных стрэх.

Ён заўважыў, што яго ўжо хто-ніхто ўбачыў, па хатах, напэўна, ужо ідзе чутка: Дзятлікаў Валодзька вярнуўся. Што ж, няхай ідзе, няхай гавораць, што хочуць. Яму ўсё роўна. Але калі ўбачыў маці, якая штосьці брала на агародзе, зноў падступілі крыўда і смутак.

Маці, убачыўшы яго, узрадавалася.

— Сыночак! Жывы! Слава богу!..

Яна пацалавала яго сухімі, абветранымі губамі і прыклала ражок хусткі да вачэй.

— Жывы. Чаго ж?..— адказаў ён.

Ці ад таго, што яна не запыталася пра яго бяду, ці ад цеплыні яе сустрэчы, ён паспакайнеў.

— А я трывожылася ўжо. Ні слыху ні дыху, як у вадзе прапаў...

— А што магло здарыцца?

— Мала што магло...

Яна зірнула на кроп, які трымала ў руцэ, заспяшалася.

— Хадзем у хату. Акурат прыйшоў — абедаць ладуемся!

Двор, таксама як і сяло, бачыў нібы чужымі вачыма. Які ён маленькі і ціхі, іх двор,— лёгкі, як пыл, пясок пад нагамі, свежы след каровы, цёмная трава каля плота. У сенцах знаёма пахла старою мукою і салёнымі гуркамі.

У хаце былі Васіль з жонкаю. Маня, з закасанымі худымі рукамі, зачыняла скрыню, Васіль надзяваў чыстую сарочку.

— А, явіўся! — спакойна прамовіў ён.— Здароў!.. А то мы пісем ужо чакалі... Надоўга?

Каб скончыць непрыемную гаворку, Валодзя адрэзаў:

— Пакуль не надакучыць!..

# КРЫМСКІЯ МАЛЮНКІ

## ПАРАСТАК

Не помню зусім, пра што думаў раней, ідучы, нічога не асталося ў памяці з таго, што было потым у той дзень, жыве толькі згадка, як стаяў, убачыўшы яго. Якія думкі ён узняў ва мне. Ён — маленькі, светлы, празрысты яшчэ парастак.

Пада мной быў нагрэты крымскім сонцам асфальт. Сярод асфальту — ён...

Ён здаваўся зусім слабенькі,— але вакол яго, яшчэ ціснучы на яго, уздымаліся потырч абломкі асфальту, ішлі ад яго ў бакі трэшчыны,— а ён цікаўна і весела выглядаў з пралому. Ледзь зялёны, колеру студзіны, здавалася, такі бездапаможны... Амаль непрыкметны, дробны, кволы, ён праламаў важкую тоўшчу і вылез напаверх!

## ЯК ПАМІРАЮЦЬ ДРЭВЫ

На схіле берага, ускрай Ялты, вялікі адмежак шызай зямлі трэснуў і аб'ехаў.

Зямля апаўзла акурат на дарозе, што ідзе над морам; доўгая паласа дарогі асела, пакрывілася, і асфальт разарвала,— усцяж відна павілястая, з зубамі, трэшчына. Разламала, пакрывіла і цэментавы бар'ер з боку мора. Трэснуў моцны, са сцэментаванага каменя падмурак пад прыгожай драўлянай будкай-павільёнам, і яна таксама нахілілася крыва, падатна. Яе ўжо разбіраюць рабочыя.

Бераг, мусіць, аб'язджае паволі і цяпер, але воку відно ўсё нерухомым. І ўсё ж гэта ўражвае нядобра: уражвае асабліва, мусіць, таму, што за ўсім гэтым адчуваецца вялікая, магутная сіла разбурэння. Ад гэтага

ў душу лезе адчуванне няпэўнасці, няцвёрдасці, трывогі.

І, можа, таму хвалюе іншае; кусты і дрэвы зелянеюць, нібы нічога кепскага не было і быць не можа. Вясна, і на кустах квецень, а на квецені пчолы. Усё ў звычайным клопаце, усё жыве... Асабліва хвалююць тры сасны: апоўзень нахіліў іх, яшчэ трохі — і яны зваляцца,— але колькі годнасці, велічы ў іх паставах. Як весела зіхацяць яны пад сонцам, над бліскотным, чамусьці радасным морам.

## ХОЧАЦЦА ПАДУЖАЦЦА

Мора ўсё ходзіць. Увесь марскі абшар у неспакоі. Шырокія палосы вады — то апускаюцца, угінаюцца, робячы лагчыны, то ўзыходзяць высока і дужа, несучы на кудлатым хібе пену, раскідваючы мутныя пырскі.

Хвалі — вялізныя, варухлівыя горы — рушаць адна за адной к берагу, рушаць паволі, з нейкім пагрозным як бы спакоем, з упэўненасцю, якая заварожвае. Ужо блізка ад берага яны, яшчэ дужэючы, набываючы як бы злосці, паскорваюць хаду сваю, пачынаюць бегчы, усё хутчэй, хутчэй і з усяго лёту, з усёй сілы, са страшэннай лютасцю б'юць у бераг. Гучыць удар, падобны на гарматны стрэл, і гранітны бераг увесь уздрыгвае.

Хваля — не хваля, хмара — ускідваецца высока над берагам, уздымаючы над сабой светлую грыву пырскаў, голасна пляскае аб асфальт вялізную масу вады.

Удар, яшчэ ўдар. Хмара, яшчэ хмара абрынаецца на мокры камень. Па ўсёй узбярэжнай поўна вады, а хмары яе з роўнымі нехапатлівымі прамежкамі ўсё ўздымаюцца і ападаюць ■ плюскам. Хвалі такія моцныя, што хмары вады перакідае цераз усю шырокую паласу ўзбярэжнай, вада крые лавачкі па другі бок яе, рады кустоў, будку кіёска. Шкляныя сценкі кіёска ўсе ў пісягах вады, амаль не відно выстаўленых у іх вокладак часопісаў і кніг.

На адным слупе, што стаяць усцяж берага, разбіты ліхтар: як доказ таго, што мора не проста грозіцца. Дарэчы, тут гэта добра ведаюць: усе судны, якіх звы-

чайна многа ціснулася ля берага, перабраліся ў зацішнейшае месца, у порт, пад прыкрыццё молу.

На моры пануе стыхія; гоніць, круціць мутную ваду, грымотна б'е ў бераг, вядзе свой незразумелы, шалёны наступ на камень, на Ялту, на зямлю. Як у баі дымам, усё агорнута вадзяным пылам, праз пыл цьмяна і панура выглядае порт, мол, маяк, на якім тухне і запальваецца трывожны чырвоны агонь...

На беразе поўна цікаўных: ці дзіва, такое відовішча. Большасць глядзіць зводдаль, з асцярогай і сур'ёзна; але там-сям рассыплецца раптам смех: кагосьці, пэўна, зачапіла неспадзявана прыткай хваляй. Я гляджу на цёмнае, варухлівае мора, чую гэты смех, але мне не хочацца смяяцца. Ва мне жывуць, не пакідаюць мяне радасць, трывога, страх. Я з захапленнем, апаскай і бояззю гляджу на гэтыя ўздымы і правалы вады; я дзіўна зноў бачу сябе сярод іх, чую, проста дзіва, як рэальна чую сябе сярод іх; чую, як уздымаецца лёгка і высока агромністая маса вады, як гэтак жа лёгка апускаецца, хаваючы неспадзявана і страшна далёкі бераг. Я нібы чую, як на мяне абрынаецца вада, залівае мяне ўсяго.

Я ўспамінаю, перажываю зноў амаль забытае. У тую восень я першы раз пабачыў гэты бераг, гэтыя горы і мора. Пёкся бяздумны на гальцы, радаваўся, чуючы, як лагодна вада плюскоча пада мной, паслухмяная маім рукам. Аднойчы мы з таварышам убачылі мора іншым, можа, не зусім такім, як сёння, але падобным. Стаялі на беразе, дзівіліся,— падышлі ўсутыч. Дзіўна вабіла яно, вабіла, заварожвала, цягнула да сябе. Мы былі маладыя, дужыя, нам хацелася быць смелымі. Мы раздзеліся, не гледзячы адзін на аднаго, але чуючы мужную еднасць, пакіравалі да хваль, што, круцячы зямлю і гальку, з ляскатам вырасталі насустрач. На момант узяло сумненне: хвалі былі вельмі ж вялікія, вышэй нас, але ў наступны момант ужо больш за ўсё захапіў задорны клопат: галоўнае, выбраць момант, урэзацца ў хвалю, каб не адкінула. Мой таварыш ці завагаўся раптам, ці яшчэ па якой прычыне прамарудзіў зручную хвіліну, хваля яго штурхнула назад, паваліла і, працягнуўшы па гальцы, выкінула на бераг. Гэта яшчэ падахвоціла мяне: я нарыхтаваўся, выставіў плячо ўперад, урэзаўся ў хвалю, як нож. Вада

таксама паспрабавала была адкінуць мяне, але я не даўся, дужым махам рук рушыў насуперак ёй. Яна яшчэ міг паспрабавала скінуць мяне, але не адолела і тады раптам падхапіла і ўзняла на сабе з дзіўнай раптоўнай лёгкасцю. Узрадаваны гэтай падтрымцы, я замахнуўся яшчэ раз, другі, шырокімі радаснымі махамі пакіраваў уперад. Ледзь зрабіў я два махі, як пачуў, што еду ўніз доўга і так глыбока, што знікае перад вачыма неба. Я ападаў, а нада мной вырастала зялёна-чорная імклівая сцяна. Не ўправіўся я яшчэ адчуць трывогі, апынуўшыся ў гэтай глыбознай, дзіўна нетрывалай яме, як мяне зноў стала магутна і радасна ўздымаць. Мяне раптам заліло, ад неспадзеўкі рот забіла горкай вадой, але праз заслону вады я ўбачыў, што адкрылася зноў шырыня. Увесь яшчэ поўны адчування радаснага і жудаснага палёту, я замахнуўся рукой і — зноў пачаў ападаць уніз, у плыўкую яму. Зноў прападала неба і расла, навальвалася гара, гатовая абваліцца. Потым стала зноў радасна-жудасна ўскідваць угару. Мяне ўжо трывожыла незвычайная сіла гэтай вады, я адчуў, што ■ ёю рызыкоўна мерыцца; але нейкая радасць, нейкая задзірыстасць разам былі ва мне, адганялі жудасць. Поўны радасці і жудасці, я дужаўся з хвалямі, з шалам стыхіі, чуў уладу над імі, заваяваную, нялёгкую, ганаровую ўладу. Трывога ўсё ж неўзабаве павярнула мяне назад, і, ледзь узняты хваляй, я ўбачыў бераг, пачуў, як працяў халадок — бераг аказаўся на дзіва далёка. У галаве цьмяна прамільгнула: калі я ўправіўся адплыць столькі,— ці мяне аднесла ад берага? У той жа момант бераг стаў хутка прападаць, яго зноў закрыла гара; я стаў падаць уніз так, што ўсярэдзіне пахаладзела, і ў гэты момант на мяне абрынулася хваля ззаду. З усёй сілы я стаў выбірацца напаверх, і выбраўся, але не ўправіўся хапаткой рукой сцерці ваду з вачэй, як бераг зноў пачаў знікаць. Зноў мяне заваліла гарой вады. Трэба было зноў выбірацца. З грэбня я ўжо разгледзеў — далёкі! — бераг — жаданую, хмурую, пустую, з варухлівасцю хваль паласу: ні адной душы на беразе; толькі адзінокая спалоханая постаць таварыша, які махаў рукою і штосьці крычаў. Што тут можна было пачуць! Я быў як у ліхаманцы, я быў увесь захоплены барацьбою. Цяжкай, няроўнай барацьбою, у якой мне нельга было здацца. Праваль-

ваючыся, выбіваючыся з прадоння на хіб хвалі, я адчуў, што жыццё маё цяпер толькі ў маіх руках. Я ні аб чым не думаў, нічога не ўспамінаў, усю сілу аддаваў барацьбе: хвалі наганялі, усё завальвалі мяне. Рукам, усяму целу хутка стала горача. У роце, усярэдзіне было поўна вады. Мне не хапала паветра. Я не ўпраўляўся ўхапіць яго. Я глытаў з паветрам ваду. Я задыхаўся, рукі брала знямога. А бераг набліжаўся марудна, а хвалі ўсё нападалі і нападалі ззаду. І да ўсяго мяне збівала ўбок. Зносіла. Як мара, як недасяжнае быў бераг за заслонай вады на вачах! Бераг, на якім спалохана бегаў, штосьці крычаў таварыш.

Скрозь шал барацьбы я заўважыў, што бераг то нібы падыходзіць, то аддаляецца. Мора нібы дражнілася са мною. Наблізіўшыся так, што ўжо вось-вось можна будзе пайсці, я раптам аказваўся далёка ад берага. Таму раптоўным і шчаслівым было збавенне: хваля паднесла мяне да берага, і я адчуў балючы і радасны ўдар зямлі. Тут жа яна паспрабавала, і вельмі моцна, пацягнуць мяне назад, але я ўжо не даўся. Прабег згарача некалькі крокаў і задыханы ўпаў. Сэрца маё калацілася так, што гатова было разарвацца. Я не чуў ні страху, ні радасці, я павінен быў аддыхацца.

Толькі багата пазней, калі ішлі ўжо ў санаторый, я поўна адчуў радасць ад таго, што пада мной зямля, што я бачу камяністую дарогу, дрэвы, прыпаленую сонцам траву. Я толькі цяпер пачынаў ясна разумець, якую небяспеку перабыў...

...І вось мора — грымаціць зноў у бераг. І ходзіць гарамі, такое ж, знаёмае. Толькі што бераг іншы, гранітная ўзбярэжная, і на беразе поўна цікаўных людзей. І гэты смех, бесклапотны, дзіўны смех. Я пайшоў усцяж берага і раптам убачыў карціну, якая ўразіла па-іншаму. Ля кустоў стаяла чародка падлеткаў з партфелямі, з сумкамі — школьнікі. То адзін, то другі, выбраўшы зручны момант, падбягаў да парапета, ускокваў на каменную лаўку і стаяў, пакуль хваля падыходзіла. Спрыт быў у тым, каб дачакацца, калі хваля падыдзе бліжэй і ў час выскачыць з-пад хмары вады, што ўскідваецца... Усе былі весела захоплены гэтай гульнёй, спрэчкай са штормам.

Дзіва, як вабіць чалавека сіла стыхіі і як хочацца яму з ёй падужацца!

## ТРЭБА ГЛЯДЗЕЦЬ НА СОСНЫ!

Далёка ўнізе, за галлём хвой, у лёгкай сонечнай смузе былі кучаравы схіл Масандры, мядзведзь, што піў з мора, і само мора — белавата-сіняе.

Са стромы бліскучай ніткай спадаў струменьчык вады, гатовы, здавалася, вось-вось перарвацца. Нітачку гэтую называлі вадаспадам; каб пабачыць яе, мы і прыехалі сюды. Але я спакойна глядзеў на нітачку. Калі што і хвалявала сэрца, дык гэта сама строма, з якой падаў вадаспад і якая затульвала паўнеба. Яна нібы звісала над намі, здавалася, гатова была кожны момант абрынуцца на нас, і ад гэтага мімаволі рабілася трывожна.

На самай вяршыні стромы, чапляючыся за неба, незвычайна выразна акрэсліваліся сосны. Такія, можа, як і тут, унізе, і — не такія, дзівосныя, недасяжныя, як легенды. Адсюль яны выглядалі лёгкімі, і здавалася, што трымаюцца лёгка, і толькі з таго, як пакрывіліля яны, іх галлё, можна было думаць, як нялёгка бывае ім там, пад шалам горных вятроў.

На чым яны трымаліся? Пад імі былі скалы, не падатныя нічому жываму,— як яны змаглі ўчапіцца ў іх карэннямі, уплесціся, знітавацца так, каб не паддацца ні сцюжам, ні навальніцам? Як яны наогул маглі ўрасці ў гэты мёртвы, не здатны для жыцця камень? І колькі іх, такіх, і тых, што на самай высі, і тых, што на строме, на гэтай дзікай абломнай, у трэшчынах сцяне. Па ўсёй строме, па ўсіх стромах — бліжэйшых і тых, што далей і далёка — сосны, сосны, адна над аднай, цягнуцца ўгару, нібы хочуць выйсці туды, на грэбень, на вятры.

Прабіліся праз камень, праз небыццё, ураслі, спляліся навечна карэннем. Якое дзікае хараство і якая цудоўная, дзівосная сіла жыцця!

Чаму аўтобусы з Ялты возяць глядзець на адну бліскучую нітачку, гатовую перарвацца? Вязіце глядзець на сосны, сосны на строме!

# БЕЛЫЯ ВІШНІ І ЯБЛЫНІ

## БАЦЬКІ І ДЗЕЦІ

Пад акном цэлы дзень крык. Нецярплівы, патрабавальны: чыр-ры! чыр-ры!

Там, у дзірцы між верандай і сцяной дома, сям'я. Цэлы дзень, ледзь развідняе, да змяркання, пырхаюць крылы — падлятаюць, адлятаюць чорныя, старанныя шпакі. І падлятаюць, і адлятаюць хапаючыся. Калі лятяць недалёка, відаць, як хапатліва кідаюцца ў пошуках пажывы. Хапаючыся, прагнучы хутчэй супакоіць, задаволіць, імчаць назад. Іх падганяе недавольнае: чыр-ры!

Шпачаняты нецярпліва высоўваюць з дзіркі галовы з разяўленымі дзюбамі. Дзюбы вялікія; можна сказаць, яны толькі і відны. Бацькі не падаюць пажыву, кладуць глыбока ў рот. Застаецца толькі каўтнуць...

Крык адразу сціхае. Але толькі на момант. Праз момант услед хапатліваму бацьку зноў ляціць недавольнае: чыр-ры!

З вясны, калі малых не было, старыя цешыліся вясне, зялёнай зямлі, сіняму небу. Цешыліся самі сабой. Славілі зямлю і неба песняй. Цяпер не да глупстваў, не да песень. Увесь дзень падганяе недавольнае:

— Чыр-ры! чыр-ры!

...Дзеці! Кажуць, што яны ў нас, людзей, на дзіва патрабавальныя і — няўдзячныя!..

## МОЖА — ПРАБ'ЕЦЦА

У лясным зацішку, у цені між сосен, уразіў кволы парастак. Чатыры адмыслова выразаных пляскатых лісты, падобныя на прапелер. Сцяблінка — тонкая,

кволая, танчэй за жытнюю — аж дзівішся, як яна трымае такія шырокія лісты!

З захапленнем падумалася, што з такіх вырастаюць волаты-дубы. З такога пачынаецца цар лесу! Пройдзе час і — уздымецца, узнясецца над зямлёй, над дрэвамі, магутна раскіне вузлаватае, нібы ўсё ў мускулах, галлё...

За захапленнем прыйшоў абачлівы одум: не, мусіць, на гэты раз цуда не будзе: пэўна, не будзе з гэтага парастка волата-дуба. Вельмі ж моцна ўраслі ў зямлю, спляліся карэннем, галлём сосны. Дружныя, дужыя, акружылі з усіх бакоў, захапілі зямлю, засланілі неба. Не дадуць разрасціся, не пусцяць...

Не хочацца верыць у такое. Бярэ нязгода, упартасць: а можа — праб'ецца, узнясецца? Усё ж ён не проста парастак, ён — зерне волата.

## БЕЛЫЯ ВІШНІ І ЯБЛЫНІ

Шчодра цвіў гэтай вясною сад. Спачатку вішні і грушы, потым — яблыні. Была пара, калі ўсе дрэвы стаялі, як белыя, ружаватыя воблакі. Млелі пяшчотныя, цудоўныя пахі,— пахі гэтыя поўнілі сад, вуліцу; уся зямля, здавалася, была поўная квецені, пахаў.

Сад звінеў пчоламі; звон быў як бы песняй цвіцення, было падобна, быццам гэта дзівоснае цвіценне звінела, спявала, славіла. Было падобна, вясна не магла задаволіцца толькі красой колеру, нават хараством пахаў,— не магла не звінець, не спяваць.

Спявалі дрэвы, і — няхай ціхім, але неадольным бесспевам — адгукалася сэрца. Было ў той нядумнай, бесклапотнай радасці нешта на дзіва юначае, даверлівае і абнадзейлівае. Спадзявалася ў нешта вельмі харошае.

Потым бела было на зямлі. Спачатку пад вішнямі, пад грушамі, потым — пад яблынямі. Спачатку было бела, потым — руда, іржава, потым нічога не было; краса квецені жыла ўспамінам, шкадаваннем, што ўсё хутка мінулася.

Тады на змену той красе прыйшла новая: стрыманая, сталая, як бы цвярозая. Завязаліся, дзень ада дня раслі, налівaліся вішні, грушы, яблыкі... Не было ўжо бесклапотнасці, але была надзея, таксама цвярозая, пэўная...

Тады ж пад вішнямі, пад грушамі, пад яблынямі — як пад хвоямі — зямлю пярэсціў недарэчы, сухі осып. Асыпалася завязь, якая цвіла кветкамі; дзень ада дня ўсё больш і больш усцілала зямлю пад дрэвамі. Нібы ігліца пад хвояй...

Асабліва багата было яе пад вішнямі і грушамі; цвіла хораша, цешыла надзеямі. І вось — асыпалася, зморшчаная, скручаная.

Колькі апала яе — няспраўджаных надзей!

# ГІСТОРЫЯ ПАРСЮКА

Пачынаецца гэта гісторыя, як належыць, з нараджэння. Нарадзіўся парсюк наш у хляве, разам з дзесяццю іншымі сваімі братамі і сёстрамі. З выгляду ён нібы не вылучаўся нічым, быў, здавалася, як усе. Можа, нават драбнейшы і цішэйшы, лагоднейшы за іншых. Але ўжо змалку стаў заўважацца ў ім талент: лагодны парсюк наш першы намацваў лепшае месца ў маці, набіраўся малака ўдосталь. Потым, калі ўжо настала пара цеста, парсюк навучыўся першы займаць лепшае месца ля карыта. Нюхам чуў ён, калі трэба падступіцца бліжэй да карыта і заўсёды ж у самую пару аказваўся на месцы. Пакуль іншыя падбяруцца, штурхаючыся, кусаючыся, ён ужо насыціцца, колькі ўлезе, падбярэ і сваё і чужое. І мірна, лагодна адыходзіць. Высакародна саступае сваё месца іншым.

Паважны, прывабны быў парсюк. Другія, бывала, век штурхаюцца, рыюць адзін аднаго лычам, зубы ўцінаюць адзін у аднаго. Гэты ніколі не лез у звадку: лагодна корпаўся сабе ўбаку ці драмаў соладка. Самае большае, на што дазваляў сабе турботу: мог прымірэнча рохнуць раз-другі: што́ гэта вы, маўляў, не падзялілі? Не было выпадку, каб ён калі ўмяшаўся, стаў на падмогу каму. Таму, напрыклад, каго пакрыўдзілі ні за што. І не было выпадку, каб ён чуў якую няёмкасць з-за гэтага — з-за таго, што не заступіўся. З чыстым сумленнем чуў сябе заўсёды лагодны, мірны парсюк. І сумленне чыстае, і шэрсцечка роўненькая, шаўковая. І роўнае, лагоднае рохканне да ўсіх.

Ля карыта паяўляўся, як і раней, нязменна першы. І ўвабраўшы і сваю, і чужую долю, таксама не чуў пакут сумлення: браў усё, што ўпраўляўся, як належнае. Цяжка сказаць, ці адчуванне было якое ў асобым сваім праве, але позірк вочак быў заўсёды наіўна чысты, сумленны. Сяброўскі.

І вось жа з-за яго лагоднасці браты і сёстры неяк нібы не прыкмячалі неэтычнасці ўчынкаў свайго брата. Адзін на аднаго тачылі зубы, а яго каб калі хто скубянуў — дык не! Вокам злым не кінуў на яго ніхто. Затое увішнасць і розум парсюка вылучыла, цешачыся, маці: назіраючы ласкава за сынам, думала задаволена: далёка пойдзе.

І, праўда, парсюка хутка вылучылі. Увішнага, адкормленага — як найбольш перспектыўнага — адабралі для вялікай гаспадаркі. Пачэсна, у машыне, адвезлі парсюка на новае месца, на новае жыццё.

Было тут ужо не тое, што ў бацькавым закутку, сярод сваіх. Сотні парсюкоў шчыравалі тут у цэментавых секцыях, выціскаліся, штурхаючыся, з віскам на шырокі, разлеглы выган. І тут парсюк перспектыўны не стаў са сваім талентам. І на двор першы, і ў хлеў першы, і першы ля карыта. І ціхі, і лагодны. І паслухмяны. Цуд, а не парсюк!

І тут яго хутка заўважылі і ацанілі. Калі падводзілі вынікі ці прыязджала камісія, яго вылучалі як аднаго з лепшых. Пра яго з ухвалой гаварылі, час ад часу нават пісалі ў газетах. Бывала, што здымалі на фотакарткі: у групе ці паасобку. Найбольш было — у групе, і тут парсюк паказаў яшчэ адзін талент: ахвотна пазіраваў. Не круціўся і не хаваўся за іншых, а выходзіў наперад, каб на самае віднае месца.

І не дзівіўся шчасцю такому: ужо, было відаць, верыў у сваё асобае права. Лагодны і ціхі, здзіўляўся, калі шчасце раптам вылучала недарэчна каго іншага. Ён верыў у сваю зорку, і, праўда, зорка гэта свяціла яму: цярплівы парсюк усё больш трывала асвойваў сваё асобае права. Рос, таўсцеў, набіраўся сілы.

Ужо калі парсюковае насельніцтва збіралася на сходы, не чакаючы там якіх-небудзь выбараў, ішоў проста ў прэзідыум. І займаў абавязкова віднае месца. Каб у першым радзе, і каб неадменна ўсярэдзіне.

Што праўда, то праўда: не задзіраў галаву. Ці так было ад прыроджанай ціхмянасці, ці тут быў тонкі разлік, але, займаючы відныя месцы, трымаўся між сваіх па-свойску. І пачасацца спіной аб спіну мог, як роўны, і парохкаць па-прасцецку. І падзяліцца лішкам цеста мог.

Дэмакратам, адным словам, застаўся...

Праўда, пацяжэў прыкметна, ходзіць, зыбаючы салам так, што дзіва бярэ, як такое чэрава трымаюць тонкія ногі. Вочы заплылі, ледзь выглядваюць зрэнкі з-за белых веек. Але глядзяць яны, зрэнкі, востра, цвёрда. Паспрабуйце стаць папярок.

Рознае кажуць пра яго, і аднагодкі, і — маладзейшыя парсюкі. Кажуць, што даходзіць ужо, канчаецца, кончыўся. Стаў спелым кабаном. Звычайным, маўляў, кабаном. Звычайнай свіннёю. Але ёсць і такія, што, бачачы яго, вішчаць з захапленнем: сілу набраў, далёка пойдзе яшчэ!

І, відаць-такі, пойдзе! Далёка!

# БУЛКІН

Нікога, пэўна, на Малой зямлі не сустракалі так прыветліва, як Булкіна. Кожны раз, калі яго чырвоны, з кропелькамі поту на лобе твар, паказваўся ў траншэі першага аддзялення, па ўсяму ўзводу разносілася добрая вестка: «Булкін прыйшоў». Ён прыходзіў кожны дзень амаль у адзін час — увечары, паміж дзесяццю і адзінаццацю гадзінамі,— і ў непагадзь, і ў яснае зорнае надвор'е, і ў зацішша, і ў дні жорсткіх баёў.

Ён увайшоў у жыццё нашага ўзвода, хоць і не лічыўся ва ўзводным спіску. Байцы прывыклі да яго, і калі ў вызначаны час Булкіна не было, то адзін, то другі не-не ды і ўздыхаў: «Булкіна няма». Уздыхаў, нібы не далічваўся любімага таварыша...

Прыйшоўшы ў траншэю, Булкін сціраў чырвонаю пухлаю рукою з глянцавіта-чырвонага лба пот і дакладваў:

— Адстаўны шэф-повар Булкін прыбыў... Праісшэсцвій на шляху не было. Прынёс грэчневую кашу з мясам.

Ён дабрадушна ўсміхаўся, задаволены жартам, і пачынаў адкрываць тэрмасы з кашаю. Падняўшы крышку, з-пад якой вырываліся шызыя клубы пару, зачэрпваў ложкай:

— Падходзьце, сыночкі...

Раздаўшы кашу, ён на нейкі час аставаўся між байцоў, распытваў пра баі ды спачувальна ківаў галавою, калі расказвалі аб таварышах, што загінулі ці ранілі. У такія хвіліны ён часта апавядаў пра сваё жыццё. Расказваць ён не ўмеў добра. Гаворка звычайна вялася пра параходзік «Грозны», на якім ён працаваў апошнія пяць год перад вайной шэф-поварам, пра таварышаў па параходу. Апавяданні нярэдка паўтараліся.

Але расказваў ён мала. Больш падабалася яму слухаць. Ён быў вельмі ўважлівым, чулым слухачом, і расказвалі яму ахвотна.

Яго любілі. За добрае, чулае сэрца, за прастату, за гарачую смачную кашу, прынесеную ў тэрмасах...

Хто не быў у акопах халоднымі асеннімі начамі, той не зразумее, як прыемна было нам есці гарачую кашу, прынесеную праз раку з таго берага, з Вялікай зямлі. Булкін, відаць, адчуваў важнасць сваёй работы, бо ніколі не адзываўся пра яе з пагардай. Сэрца повара, калі ён пазіраў, як мы елі, абпякаючы губы, яго кашу, напаўнялася гордасцю. Ён шчасліва ўсміхаўся і казаў:

— Ешце, сыночкі.

Аднойчы ён прыкульгаў з акрываўленай нагой. Раніла асколкам міны. Сястра перавязала рану. Пасля перавязкі Булкіна панеслі назад на насілках — ісці сам ён ужо не мог. Дзве нядзелі яго не было. Праз дзве нядзелі ён зноў прыйшоў з тэрмасамі.

— Адстаўны шэф-повар прыбыў...

Ніхто не глядзеў на яго пасаду з пагардай. Нават нашы адважныя кулямётчыкі і снайперы паважалі яго, як роўнага, гаварылі з ім, як з баявым таварышам.

— Я б табе, Павел Рыгоравіч, даў «Славу» ўсіх трох ступеняў,— казаў лепшы на Малой зямлі снайпер Воранаў.— Таму што ты знаеш сваю справу... Не то што старшына наш ротны, будзь ён няладны — табакі цэлую нядзелю не прысылае.

Так, Булкін знаў сваю справу. У канцы лістапада аднойчы вёз Булкін свае тэрмасы на лодцы. Была светлая ноч. Калі да берага аставалася метраў пятнаццаць, над галавой Булкіна завізжэла міна. Слуп зялёнай вады ўскінуўся да зор... і далей Булкін нічога не ўбачыў. Ён ачнуўся ў сцюдзёнай вадзе, ад якой зацінала дыханне. Гэта было так нечакана, што Булкін на хвіліну разгубіўся. Лодка была перакулена, днішча яе тырчала, як жывот дохлай рыбіны. Булкін чапляўся за лодку, барахтаўся, каб як-небудзь утрымацца на паверхні вады, бо мокрае адзенне цягнула на дно. Лодку несла па цячэнню, і ён адпусціў укарчанелыя рукі і паплыў да берага, апасаючыся, што не здолее пераадолець цяжару мокрага адзення, што цягне на дно. Падплыўшы да берага і выйшаўшы з вады, ён з палёгкай уздыхнуў:

«Слава богу, жывы!» Ён падняўся, каб накіравацца ва ўзвод, але новая думка апаліла яго: «А як жа яны без гарачай кашы. Цэлы дзень працавалі і — без кашы астацца!» Потым апанавала думка, што тычылася яго салдацкай чэсці, асабістага гонару: «Як жа я без тэрмаса прыйду!»

Ён пастаяў на беразе, пачухаў патыліцу, як заўсёды ў цяжкія хвіліны, засмучана заахаў: «Ах, як жа гэта раптам!»

Потым скінуў шынель, гімнасцёрку, штаны, ніжнюю сарочку і палез у ваду. Плыць цяпер было лёгка. Ён плаваць умеў нядрэнна, бо часта плаваў, калі працаваў на параходзе «Грозным». Даплыўшы да таго месца, дзе павінны былі быць тэрмасы, Булкін нырнуў, але тэрмаса не найшоў. Ён яшчэ некалькі разоў ныраў, але ўрэшце ўсё-ткі знайшоў. Плыць з тэрмасам было цяжка. Цяжэй, чым у шынялі.

Наступны тэрмас ён знайшоў хутка, бо прыкмеціў тое месца, дзе перакулілася лодка.

Гадзіну пазней вызначанага часу Булкін сядзеў у траншэі. Гімнасцёрка і штаны залубянелі, зрабіліся цвёрдымі і ламаліся з трэскам. З вусоў віслі празрыстыя ледзякі. Шынелі ён не апрануў, яна была, нібы бляшаная.

Яму паднеслі стакан гарэлкі, і, выпіўшы яе, сагрэўшыся, Булкін расказаў пра ўсё. Ён не ўмеў маніць.

Калі ён гаварыў, то дабрадушна ўсміхаўся: «сыночкі» елі кашу.

# НОЧ БЕЗ ЗОР

*(Псіхалагічны малюнак)*

Прытомнасць прыйшла да яго нечакана. Ён расплюшчыў вочы, але нічога не ўбачыў. Скрозь была шчыльная непраніклівая цемра. Імжыў дробны веснавы дождж. Гэты дожджык, мабыць, і вярнуў яго да прытомнасці. Увесь рот чалавека быў набіты зямлёю. З таго, што дожджык падаў на патыліцу, ён мог бы вывесці, што ляжыць ніцма. Аднак Міхась нічога не думаў,— ён ставіўся да ўсяго, што рабілася навокал і з ім, абыякава.

Доўгі час хлопец ляжаў нерухома, можа, паўтары ці дзве гадзіны. Да яго слыху даносіліся трывожныя гукі ветру, яны не рабілі ніякіх уражанняў. Усё, што дзеялася навакол, зусім не цікавіла Міхася, нібы не мела да яго дачынення, нібы не існавала сапраўды.

Раптам Міхась пачуў незвычайны гук, які адразу прымусіў яго насцеражыцца. Гук быў падобны ні то да стогну, ні то да плачу: гы-гы-гы, гі-гі-гі! «Што гэта?» — занепакоена падумаў Міхась і прыўзняў галаву. Плакала вельмі блізка. «Дзе я яго чуў, гэты стогн? Чаму ён мяне трывожыць?» — запытаўся ён сябе і не мог успомніць.

Міхасю захацелася вярнуцца зноў да спакою і бяздумнасці, але трывога не адыходзіла. Толькі цяпер да яго прыйшла думка, што вакол пануе ноч. «Якая чорная цемра!» — сумеўся ён, і сэрца здушыла адчуванне журботнасці і адзіноты. Нестрымана і бязладна змяняючы адзін другі, без усякай паступовасці, уварваліся ўспаміны.

Спачатку Міхасю ўспомнілася тая хвіліна, калі ён убачыў наперадзе нямецкія танкі, якія на ўсю хуткасць імчаліся на акопы роты, а затым — усе падзеі гэтай кароткай упартай бойкі. Яны паўсталі вельмі яскрава і выразна.

Увесь бой цягнуўся не больш за пятнаццаць — дваццаць хвілін. Відаць, немцы на гэтым участку парашылі выбрацца з «катла»,— яны кінулі на роту больш як трыццаць танкаў. Міхась падбіў са сваёй процітанкавай стрэльбы тры танкі. Апошні з іх спыніўся за якіх-небудзь трыццаць метраў... Іншыя ўжо імчаліся праз акопы...

Калі танкі прайшлі, Міхась падхапіўся і ўбачыў перад самымі акопамі нямецкіх аўтаматчыкаў. Ён пачуў побач з сабою вокліч: а-а-а!, закрычаў — ура і выскачыў з акопа. У руках яго была нечая вінтоўка. Процітанкавая стрэльба асталася ў акопе, яна была вельмі цяжкая для гэтай бойкі. Міхась і цяпер, успамінаючы, не мог ніяк зразумець, як тая вінтоўка папала ў рукі. Ён добра памятае, як размахнуўся прыкладам і з усяе сілы храпнуў па чэрапу рослага немца... Далей успаміны перарываліся. «Што ж было пасля? Дзе мяне ранілі?.. Дзе я?»

Дождж перастаў, кроплі ўжо не падалі на патыліцу. Цяпер стала халадней. Адзежа, прамокшая да апошняй ніткі, прыклеілася да цела і зусім не трымала цяпла. Зубы нястрымна трымцелі. Міхась памацаў вакол рукамі, спадзеючыся знайсці плашч-палатку або шынель, каб напнуцца. Побач ляжала толькі вінтоўка, ні палаткі, ні шыняля не было,— відаць, у акопе засталіся.

Замест таго, каб успамінаць, што дзеялася далей у бойцы, ён міжвольна прыгадаў пачатак дня. Вось і ўранку было так золка. У палатку, пад якой ён спаў, забраўся сцюдзёны вецер. Халадок папоўз пад гімнасцёрку, разбудзіў Міхася. Хлопец вылаяўся і прыўзняў плашч-палатку: набліжалася якраз світанне,— неба на паўночным усходзе пачало палавець, на ім усцяж змрочнага маўклівага далягляду напнулася яркая ліловая стужка. У баку нямецкіх пазіцый ускінулася асвятляльная ракета. Міхась саскочыў у акоп і лёг — там было зацішней...

Успомніўшы гэта, ён адчуў у грудзях дзіўную самоту. Тое ранне, хмурнае, звычайнае, здавалася цяпер дзівосна-прывабным.

«Чаго я сохну! Яно ж не апошняе, тое ранне»,— паспрабаваў ён заспакоіць сябе і прыслухаўся. Дуў мокры веснавы вецер. Ён напаўняў поле глухімі гукамі

і трывожным шолахам. Разы са два аднекуль з далечы да Міхася данесліся гукі гарматных выбухаў і нават урывак кулямётнай чаргі. Яны хутка згінулі. Цемра — шчыльная і глухая — адразу праглынула, раздушыла іх. «Дзе гэта страляюць? Чыя тут зямля?»

Цела яго было вельмі знясіленым, і ён толькі з вялікім напружаннем мог час ад часу варушыць пальцамі, якія ляжалі ў глеі і камянелі. «Калі так будзе далей, я нядоўга яшчэ пратрымаю»,— падумаў Міхась, і зноў дзіўная самота сціснула грудзі. «Яшчэ колькі часу — і скалею ці сыду крывёю... Можа, і гадзіны досыць. Да світання не дацягну, бадай...»

«Дзе ж санітары? Ці хлопцы?.. Чаму іх дасюль няма? Няўжо ж немцы адолелі-такі нашых?!» Міхась заскрыгатаў зубамі ад злосці на сваю бездапаможнасць. Перад яго вачмі пранеслася некалькі малюнкаў былога: спартакіяда, на якой ён заняў першае месца па бегу на тысячу метраў, яго маці,— як тая глядзела на сына, калі ён прыехаў з інстытута на канікулы. У гэтых простых успамінах Міхасю бачылася столькі хараства і прываблівасці, што ён ледзь не заходзіўся ад болю і крыўды за бязглуздую смерць.

Ён інстынктыўна прыцягнуў вінтоўку, халоднае дрэва дакранулася да скроні. Салдат не спяшаўся,— гэта на далей, на невыходны выпадак, калі апошняя надзея страціцца. А Міхась яшчэ спадзяваўся...

Нечакана зноў пачуўся ціхі стогн. Гэты стогн, знаёмы і ненавісны, абудзіў у ім пагрозы расквітацца з немцам. «Вось чаму ён так устрывожыў мяне»,— падумаў Міхась, успомніўшы першую хвіліну непакою. Тое, што немец недзе поруч з ім, узварушыла Міхася. Разам з тым хлопца вельмі здзівіла, што немец пагражаў звесці яго немаведама чаму стогнамі і што ён тады разумеў нямецкую гаворку, гэта было недарэчным, дзіўным. Ён цяпер стаў уважлівей прыслухоўвацца да блізкага шуму, трымаючы пісталет напагатове, аднак немец, нібы здагадваючыся пра небяспеку, маўчаў.

«Чаму ж іх дасюль няма?» — Міхась прагна прыслухаўся да наваколля, спадзеючыся злавіць галасы таварышоў. З-за густога шолаху нічога нельга было разабраць. Раз яму здалося, нібы ён чуў гаворку, але выявілася, што гэта была толькі зманлівая ўява. «Цемра. Праклятая цемра... Пэўна, ні адной зоркі. Хіба ў

такую ноч знойдзеш?!» Міхась зноў успомніў спартакіяду і паспрабаваў павярнуцца тварам угару, але раненыя ногі адклікнуліся такім немым болем, што яму адразу прыйшлося на ўсё забыцца.

Ён страціў прытомнасць. Цяпер у яго быў толькі адзін клопат — прымусіць немца сціхнуць, той, як і раней, стагнаў і не даваў ні хвіліны спакою.

Ад святла, якое ўпала на твар, Міхась расплюшчыў вочы. Ён убачыў над сабою цёмны абрыс чалавечай постаці, затым заўважыў яшчэ дзве постаці. Адна з іх свяціла кішэневым ліхтарыкам у Міхасёў твар. Міхась ляжаў на баку. Рука з вінтоўкай, нібы папярэджваючы небяспеку, нервова паварухнулася, хоць Міхась яшчэ нічога не думаў... Праз хвіліну святло саскаўзнула з твару, выхапіла з цемры разгорнутыя насілкі, якія стаялі пры Міхасю, і салдацкія боты, да верху залепленыя глінаю. Потым святло зноў засляпіла ў вочы, і Міхась заплюшчыўся.

— А-а! Акрыяў! — радасна, грудным жаночым голасам, адгукнуўся чалавек з ліхтарыкам. Міхась пазнаў першага нумара процітанкавай стрэльбы, свайго суседа справа ў апошнім баі. Яго прозвішча было Кавальчук. За жаночы голас Міхась даў яму мянушку «цётка», якой таварышы нярэдка замянялі сапраўднае імя.

— А мы цябе з самага вечара шукаем,— дадаў Кавальчук ні то з радасці, ні то для апраўдання.— Я кажу, што цябе тут ранілі, а ён, казёл барадаты, увапёрся: не-е, я жа, чаць, лепей знаю... Кажа, што ў лагчынцы, каля хмызу. Аблазілі і не знайшлі нічога. Вось табе і я жа, чаць, лепей... Тады я сказаў — сюды ісці.

— Добра, што прыйшлі,— прамовіў Міхась.

— Мы ўсю ноч шукаем цябе,— умяшаўся ў гаворку Кошачкін, падносчык, які толькі нядзелі тры назад прыйшоў у роту.— Камроты сказаў, каб мы ўшчэнт разбіліся, а хоць мёртвага знайшлі...

— Немцы адступілі, значыцца?

— Цяпер у іх, чаць, толькі вузкі мяшочак застаўся,— сказаў «казёл барадаты», рослы валжанін

Яфрэм.— І не мяшок, а торба, як у Беларусі кажуць. Нашы цяпер зайшлі далёка.

— Добра, што прыйшлі,— сказаў Міхась і раптам насцеражыўся. Ён прыслухаўся. Здалося зноў, што нехта ціха прастагнаў.— Пашукайце,— папрасіў ён.— Тут недзе стогне ранены немец.

Яны, можа, хвілін пяць шасталі вакол, свецячы кішэневым ліхтарыкам, натыкаючыся на забітых немцаў, на кінутае снаражэнне, але раненага немца не знайшлі.

— Няма нічога,— сказаў Кавальчук.

— Не, ён стагнаў. Я добра чуў, як мармытаў нешта. Ён мне ўеўся ў пячонку, фрыц чортаў!

Усе прыслухаліся. Нічога не было чуваць, акрамя начнога шолаху.

— Табе, чаць, здалося.

— Не, нехта стагнаў,— упарта пярэчыў Міхась.— Во, зноў стогне,— дадаў ён з непакоем.

Зноў усе прыслухаліся, але стогнаў па-ранейшаму ніхто, акрамя Міхася, не чуў. Ноч была напоўнена трывожным веснавым шолахам. Поле не зважала на цемру, жыло.

— Няма нічога,— сказаў Кавальчук.

— Ах, каб ты спрахла,— засмяяўся раптам Кошачкін, і ўсе здзіўлена паглядзелі на яго.— То ж ты сам стогнеш.

Міхась прыслухаўся і ўпершыню пачуў, што знутры ішоў ціхі стогн. Ён адразу пазнаў, гэта быў той самы стогн, ад якога ён усю ноч столькі пакутваў! Унутры нібы жыло яшчэ адно стварэнне, якое працягвала трызніць. «Гэта я... я сам стагнаў?! Што са мной — з чаго зрабіўся такі недарэчны падзел?..»

— Добра, што знайшлі...— ціха сказаў Міхась. Ён больш не думаў пра стогн. Сэрца яго пачало поўніцца вялікай радасцю звароту да жыцця, шчасцем збаўлення ад цемры, ад самоты.

# ГАРАЧЫ ЖНІВЕНЬ

Перад раніцай прашумела навальніца.

На світанні яна сціхла, дождж сышоў на захад, да Прыпяці, а за ім хутка сплылі хмары. Над вымытымі вадой палямі засінела чыстае неба і зазіхацела яркае жнівеньскае сонца. І неба, і сонца, пераліваючыся вясёлкавымі колерамі, адбіваліся ў незлічоных буйных кроплях, што былі шчодра рассыпаны на пожні. Здавалася, што гэта не кроплі, а крупінкі сонца, якія разам з дажджом асыпаліся на зямлю.

Калі сонца паднялося вышэй, на зямлю зноў сышла гарачыня. Луг ахутала трапяткая цякучая смуга. З гэтага дня гарачыня не спадала ўвесь жнівень. Дні стаялі ўвесь час пагодныя, духменныя; неба сінела высокае, бяздоннае і чыстае — на ім толькі зрэдку ў недасяжнай вышыні зіхацелі белыя, як пух, воблачкі.

Было ў самым разгары жніво; жыта ўжо зжалі, а ячмень і пшаніца яшчэ амаль усюды стаялі некранутыя, чакалі вострых сярпоў. Пад палючымі праменнямі сонца хутка выспявалі загоны аўса.

...Неспадзявана ўзгарэлася спрэчка.

## 1

Канчалася абедзенная дрымотнасць. Поле, што пяклося маўкліває і нерухомае, стала ажываць. Загаманілі жанкі, аднекуль з дарогі данеслася рассыпчатае сакатанне калёс. Каля недажатага загона ў Аленінай брыгадзе стала люднець. Праўда, шмат каго яшчэ не было. Некалькі жней, што вярнуліся з абеду, чакаючы, пакуль падыдуць астатнія, сядзелі на пожні, на прыпеку, ціха, аднастайна гаманілі. Іншыя драмалі, схаваўшы галовы ад сонца між снапамі ў бабках.

Яшчэ не паспелі сабрацца ўсе, як цётка Малання

ўсхапілася, быццам яе мурашка ўкусіла, і глянула на сонца.

— А бо! — крыкнула яна са здзіўленнем.— Вечарэе ўжо. Як час ляціць, скажы ты!!! Заспаліся.

Алена спалохана паднялася — няўжо ж праўда, што заспала; ёй здавалася — хвіліны не прайшло, як яна вочы заплюшчыла. Цень, што выпаўз з-пад бабкі, быў асцярожны, нясмелы.

Глянула на неба — і аслепла ад іскрыста-белага распаленага бляску: сонца толькі-толькі бралася на захад.

— Г-гых, як млосна,— прамовіла, устаючы, Лізавета, Маланніна суседка.— Няйнакш у лазні!.. Разамлела я.— Яна лена пацягнулася, выпінаючы грудзі, смачна пазяхнула, павольна завязала белую памятую хустку, што ссунулася з галавы.

— Зірніце на яе, разамлела яна! Млосна ёй! Зараз я табе разамлею!.. Вось як апяражу перавяслам па спіне. А вы што стаіце, як вешкі. Годзе абіваць бокі! — накінулася раптам на ўсіх разгневаная Маланння.— Абед ужо даўно скончыўся... Варушыцеся!

Строга звёўшы тонкія, з сярдзітым заломам бровы, яна азірнулася. Усе жнеі падняліся ўжо,— адны ваду пілі са збанкоў, другія весела перакідваліся смешкамі, браліся за сярпы. Хоць Маланння і выдавала гэты начальніцкі тон за жарт, жанчыны, было прыкметна, заварушыліся жвавей...

— От як трэба з імі, брыгадзір! Вучыся... Бач, я хоць і самазванец, а слухаюць. Ведаюць, што смешкі мае кепскія! Я во-страя! Яшчэ як у салдатках я хадзіла, дай бог памяць,— звалі мяне недарма фельдфебель у андараку.

— Фельдфебелі, цётка Маланння, цяпер адменены. Яны былі пры старым рэжыме...

— Як адмянілі? Хто табе сказаў?.. Дык то ж тых, хто быў у шынялі, а не ў андараку. Зразумела?.. Пагаварыце яшчэ ў мяне!

Маланння лёгка сагнула сваё старое хударлявае цела, прывычна захапіла жылаватымі, учэпістымі рукамі жменю спелых шапаткіх сцяблін, падрэзала іх сярпом і, кладучы на пожню, ускрыкнула:

— А бо! Алена! Колас пачаў асыпацца! Ай-яй! Асыпаецца. Жаць трэ хутчэй!..

Алена, якая ўвесь гэты час напружана да нечага прыслухоўвалася, заклапочана перабіла:

— І чаму жняяркі з Кругоў не чуваць...

— А хто там, рыбка, на ёй?

— Хто! Вольга Цімахова. Казала, што не забавіцца,— і на́ табе, да гэтага часу няма! Што там такое з ёю сталася? Даўмецца не магу... Эх, відаць, трэба бегчы на Кругі. Паглядзець. Мо адсюль не чуваць.

— А чаго ж, ідзі, Аленка... Ідзі, хутчэй пасылай жаць, бо, не дай божа, прападзе ячмень.

Алена шпарка пайшла да Кругоў, дзе жняярка павінна была жаць ячмень. Поле празвалі Кругамі таму, што калісьці на тым месцы былі невялікія азёрцы — кругі. З часам яны высахлі. Цяпер там заставаліся толькі дзве нязначныя нізінкі, у якіх вада блішчала хіба ў самую раннюю вясну.

Алена ідзе і раз-пораз выцірае далонню з твару пот. Босыя, паколатыя і падрапаныя пожняю ногі асцярожна ступаюць па гладкай, убітай, як ток, сцежцы. Зямля напалілася і, як гарачы прысак, пячэ ў падэшвы ног.

Вакол з усіх бакоў поле. Справа яно працягваецца далёка, аж да самага небасхілу,— толькі зрэдку дзенідзе выпадкам прымосціцца дзікая ігруша ці бярозка трапяткая, а злева — вось ён, узмежак. Поле тут адразае чорна-зялёная сцяна густога цяністага сасонніку. Далей, наперадзе,— вёска: рад саламяных, гонтавых і дашчаных дахаў і стрэх, сады, а за імі, атуленая ніклым купчастым лазняком, павілястая рэчка Тур'я.

Амаль усё вакол афарбавана ў два колеры — залацісты і блакітны — поле, бясхмарнае неба, лазняк, асмужаная далеч. Толькі бліжні лес выбраў іншы колер — густое, амаль чорнае зяленіва.

Яшчэ не даходзячы да Кругоў, Алена ўпэўнілася, што жняярка там не працуе. Яна падумала, што з жняяркай здарылася якая-небудзь замінка, бо не магла ж Вольга без прычыны ў такую гарачую пару запазніцца. Хто-небудзь іншы мог заседзецца на калгасным двары, гамонячы з суседам, ці дзе забавіцца, але не Вольга. Вольга не магла затрымацца, яна — акуратная, старанная жанчына. Што ж тады здарылася?

Алену апанаваў непакой. Яна недаўменна пагля-дзела на дарогу, што ішла з калгаса між яшчэ нязжатых спелых жытоў,— там таксама жняяркі не было відаць.

Раптам ззаду, на сцежцы, пачуўся порсткі тупат каня,— Алена борзда збочыла ў ячмень, каб даць конніку дарогу. Але коннік, пад'ехаўшы, рэзка спыніўся. Гэта якраз і была Вольга. Бялявыя, заўсёды акуратна прычасаныя, з праборам валасы яе выбіваліся з-пад хусткі, падалі пераблытанымі пасмамі на вузкі лоб. Рукі стрымлівалі тугімі вераўчанымі лейцамі распаленага бегам каня, які часта і прагна дыхаў.

— Трэцяя брыгада нашу жняярку забрала! — з роспаччу крыкнула Вольга.

— Нашу жняярку?! Хто табе гэта сказаў?

— Я сама бачыла!.. Гавораць, яна ім трэба — ячмень асыплецца.

— А як жа наш, хіба не асыплецца?

— І я ж тое, Алена, казала...

— Хто загадаў так?

— Хто? Ведама хто — брыгадзірша! Насця!

Алена не знайшлася адразу, што сказаць ад абурэння. «Ячмень у яе, бач ты, асыплецца. А ў мяне — дык не! У мяне няхай прападае!»

— Не выйдзе ж па-твойму!.. Дай каня! Дзе, скажы, жняярка?

Вольга паслухмяна саскочыла на зямлю, падала Алене павады.

— Каля кузні...

Жняярка дасюль не магла ніяк скрануцца ад кузні, з таго месца, дзе яе запынілі вязальшчыцы з Вольчынага звяна. Яны разам з Вольгай ішлі на калгасны двор, каб адтуль пры жняярцы пайсці на поле. Убачыўшы жняярку каля кузні, жанкі адразу спынілі яе. Жняяр, вяртлявы, як уюн, бойкі падлетак з кірпатым аблупленым носам, разы тры намагаўся вылузацца з «акружэння», заліхвацкі пасвістваў на коней, лейцамі іх сцябаў, але вязальшчыцы не выпускалі.

Хутка да жняяркі прыбегла Насця. Яна адразу накінулася на Петруся:

— Я табе што казала? Чаму ты тут валаводзішся?.. А вы? Гэта вашая справа? — чорныя Насціны вочы нацэліліся на вязальшчыц.— Без вас — калі трэба бу-

дзе — разбяруцца. Чым ацірацца тут, лепш рабіць ідзіце.

— Не мела ты такога права нашу жняярку...— пачала была адна вязальшчыца, але Насця і слухаць не стала.

Як толькі Пятрусь убачыў поруч з сабою Насцю, ён падняў галаву вышэй і, не зважаючы на едкія рэплікі і насмешкі, тузануў лейцы. Коні крануліся.

Так бы і звезла Насця жняярку, каб на той час якраз не паспела Алена. Яна, як дагнала шумлівую працэсію, яшчэ не спыніўшы каня, зляцела з яго і кінулася да хлапчука. Неяк так здарылася, што Насці яна ў першую хвіліну не заўважыла. Адчуўшы падмогу, калгасніцы з брыгады Алены сунялі жняярку.

— Ты куды? — хапілася Алена за лейцы і тузанула іх з рук Петруся. Той не выпусціў іх.

— Куды трэба, туды і еду...

Алена загарэлася. Невялікі твар яе, усыпаны каля малых шэра-сініх вачэй і на тонкім носе дробнымі крапінкамі вяснушак, густа пачырванеў.

— Гэта наша жняярка, разумееш? Нашай брыгады! Ты павязеш яе зараз жа назад да двара,— з натугай стрымліваючы ўзрушанае дыханне, строга загадала яна.

— Нікуды я не паеду.

Упартасць Петруся прывяла Алену ў замяшанне. Яна азірнулася і тут нечакана ўбачыла Насцю — у прыгожых чорных Насціных вачах трапятала ўсмешка, задзірыстая, самаўпэўненая. Алена не адразу знайшла, што сказаць...

— Чаму ты бярэш жняярку? Цяпер жа мая чарга...— прагаварыла Алена пакрыўджана.

2

Тым часам Ігнат Баршчэўскі, Маланнін чалавек, пасвіў на поплаве каля рэчкі Тур'і коней. Сонца загнала Ігната ў цень ад чэзлай алешынкі, што стаяла на ўскрайку поплава.

Усё ў наваколлі нібы замерла ад спякоты. Ігнат час ад часу пазіраў на сонца, спадзеючыся, што яно пасунулася на захад, але кожны раз расчароўваўся. Разамлелае сонца як быццам застыла ў нерухомай вышыні.

Коні лена церабілі траву або драмалі, адмахваючыся ад назол-сляпнёў. Адзін худы кашлаты конік бесперастанку цягаўся па поплаве — то кусане каго-небудзь, то гарэзліва выбрыкне, і ўсё, нягоднік, як бы знарок наравіць адысці ад гурта, да балота.

— Косці-ік! Адгані-і ты яго ад Льва-а! — ляціць цераз увесь поплаў да Тур'і сіплы Ігнатаў голас. Следам за гэтым Ігнат кашляе, ціха сам сабе бурчыць: — Паесці спакойна не дасць, баламут...

Каб давялося адганяць коніка самому, папамераў бы Ігнат поплаў. Але, на шчасце, прыліп да яго добраахвотны памочнік, Вольчын сын, дзевяцігадовы бялявы хлопчык Кастусь. Хлопчык больш за ўсё на свеце любіць коней. Ён згодзен хоць усё лета бясплатна бегаць з вузлаватай пугай за коньмі, абы-толькі дапускалі да іх.

— Бач ты, падла, утрапення на цябе, нячыстая сіла, няма...— з абурэннем сіпіць Ігнат, пазіраючы на рудога коніка, які, адбегшы ад Льва, мімаходам скубнуў за шыю маладую крутабокую кабылу. Коніка жартам празвалі Трахім Уласавіч, у памяць селяніна-нябожчыка, да якога, гаварылі старыя людзі, быў характарам вельмі падобны гэты конік: любіў заўсёды лезці туды, куды не трэба было.

Трахім Уласавіч з Аленінай брыгады. Алена вылучыла яго для работы пры жняярцы, бо гэта адзін з мацнейшых у брыгадзе коней.

Затое Ігнату вельмі даспадобы Леў. Рахманы, ляны Леў цэлымі днямі дрэмле,— зрэдку неахвотна скубне траўку-другую ды зноў спіць.

Львом назвалі яго, відаць, у насмешку, бо ў гэтага Льва толькі і было львінага, што доўгая калматая грыва.

Ігнат у гэты дзень вельмі мала дбаў пра коней. Коні толькі заміналі яму. Ігнату карцела іншае — ён кідаў нецярплівыя позіркі на вёску...

— Косці-ік! — не стрываў нарэшце Ігнат.— Хадзі сюды-ы...

Кастусёк, падтрымліваючы рукою закасаныя зрэбныя штаны, борзда падбег.

— Ты тут панаглядай за коньмі. Ты не бойся, я хутка вярнуся — праз гадзіну якую ці, можа, дзве. Пайду... працадні праверу. Там, бач, мне штось мала

запісалі, дык я хачу сам паглядзець... Можа, памылка якая ў канцыляршчыкаў выйшла...

— Добра, дзядзечка, я буду глядзець.

— Пільнуй, каб коні, барані бог, у балота не ўлезлі!

— Добра, дзядзечка, я не пушчу іх нікуды,— хутчэй адказаў хлопчык, баючыся, што Ігнат раптам перадумае і астанецца.

— А як прыйдзе хто, то ты скажы — пайшоў працадні праверыць... Тпр-ру, шэльма! Куд-ды ты?! — крыкнуў конюх на Трахіма Уласавіча, які адыходзіў ад гурта да балота.

Кастусёк пабег напярэймы, а Ігнат з палёгкаю ўзняўся і хутка пашыбаваў у зараснікі алешніку. Калі Кастусёк завярнуў каня і прыйшоў назад да алешыны, Ігната ўжо не было відаць. Ён ішоў па чорнай тарфяной сцежцы, прадзіраўся праз густыя зарасніకі алешніку і пякучай балотнай крапівы, наўпрасткі да крайніх хат сяла.

Кастусь паваліўся на пастухову світку і таксама, як Ігнат, разморана выцягся. Ах, як добра быць дарослым конюхам!

— Тпр-ру, падла! Куд-ды ты?!— крыкнуў ён з месца, як Ігнат. От каб хлопцы-равеснікі бачылі, як ён тут адзін упраўляецца з коньмі, як ляжыць на пастуховай світцы!

Кастусь, аднак, ляжаў нядоўга. Трахім Уласавіч нібы сумысля, каб больш дадзець хлапчуку, усхадзіўся, як ашалелы. Ледзь толькі Кастусёк на хвілінку адыдзе ад коней пад алешыну, каб паляжаць на дзядзькавай світцы, як гэты свавольнік наўпрасткі шыбуе да балота. І Кастусю, хоць яму так не хочацца ўставаць, трэба бегчы напярэймы.

Бегаў, ганяў за конікам Кастусь, урэшце змогся, стомлена паваліўся на світку і сам не заўважыў, як заснуў...

Разбудзілі яго вокрыкі. Кастусь соладка чмокнуў вуснамі, павярнуўся на другі бок, каб зноў заснуць,— яму вельмі не хацелася прачынацца, але ад яго чамусьці не адставалі.

— Ну-ну, хопіць спаць! Ды ўстань жа ты нарэшце,— ужо са злосцю сказаў неадчэпны голас.

Кастусь неахвотна расплюшчыў вочы.

Перад ім стаялі брыгадзір трэцяй брыгады Абуха-

віч Насця і яшчэ адна жанчына, незнаёмая,— невысокага росту, хударлявая, з лагоднымі чорнымі вачыма. Жанчына трымала ў левай руцэ аброць з вузлаватым пяньковым повадам.

— А дзе Ігнат? — запыталася пагрозліва Абуховіч Насця.

— Працадні пайшоў праверыць...

— Працадні пайшоў лічыць,— перакрывіла Насця.— А коні хай самі пасвяцца!

Кастусь яшчэ санліва паглядзеў на пашу, потым зірнуў на балота і сумеўся. Усхапіўся і ў другі раз, не верачы, паглядзеў... Трахім Уласавіч сядзеў у гразі, толькі спіна ды галава вытыркаліся з твані. Увапёрся-такі ў балота, паганец! Але ўслед за гэтым Кастусю давялося яшчэ больш здзівіцца, бо ён убачыў, што побач з Трахімам Уласавічам з твані тырчыць калматая галава рахманага Льва.

— Ну, от, угруз Леў! От і запражы яго вазіць ячмень! Бяры яго! — разгублена прамовіла хударлявая чарнавокая жанчына. Яна паглядзела на Насцю, нібы чакала ад яе адказу.

Кастусь моўчкі апусціў галаву. Ён так разгубіўся ад гэтага неспадзяванага здарэння, што, каб можна было, згадзіўся б лепш праз зямлю праваліцца. Дзядзька Ігнат паверыў яму, як сталаму чалавеку, а ён вось не стрымаў слова. Як пасля гэтага дзядзька Ігнат будзе на яго паглядаць! І што хлопцы скажуць, як даведаюцца пра ўсё!

— Чаго ж тут — трэба клікаць людзей ды выцягваць! А ты назірай тут. Глядзі ж, каб яшчэ які конь не ўлез,— строга наказала Насця.

Ігнат сядзеў за сталом у Гардзея Шкробата і смачна хлюпаў пахучым гурочным расолам, налітым у шурпатую гліняную місу. На стале стаяла літровая пляшка — самагонкі заставалася ў ёй пры самым дне. Ігнат і Гардзей сядзелі ўдвух. Старая Гардзеіха, сухая, як трэска, з бяльмом, корпалася на гародзе. Калі Ігнат увайшоў на двор, яна, пачуўшы скрып веснічак, выпрасталася, буркнула нешта няласкавае сабе пад нос і зноў пачала корпацца. Нават не адказала на прывітанне.

Шкробаты жылі адны. У сяле добра помнілі: быў у іх некалі сын, Радзівон, упарты, заўзяты: як намо-

жацца на што, горла другому зубамі перагрызе, а не саступіць. Характарам пайшоў у старую Гардзеіху. Пры немцах зрабіўся начальнікам паліцыі, некалькі разоў вадзіў на партызан карныя экспедыцыі, меў нават ад немцаў жалезны крыж. Але партызаны злавілі яго і павесілі.

— Ты пі,— упяўшы ў Ігната не п'янеючыя ад віна вочы, прасіў Гардзей.— Пі! Яна, братка, зелле. О! Душу лечыць. Як крыўда шкрабане мяне — я п'ю! Любую балячку гоіць...

Не толькі сына страціў Гардзей. Шмат чаго страціў ён акрамя сына. Яшчэ калі Радзівон быў падлеткам, адабралі ў Гардзея багатую гаспадарку: свірны, хату, малатарню, вятрак, а яго самога саслалі ў далёкі Котлас.

У Гардзея — буйны не па росту твар, упарты падбародак, зарослы рудою, з сівізной шчацінаю. Адно вока раз-пораз торгаецца нервова, і здаецца часам, што Гардзей некаму падміргвае. Ігнат помніць, што ў немцаў Гардзей, які цяпер ужо некалькі месяцаў робіць у рамонтнай брыгадзе на дарозе, быў у вялікай пашане. Пабудаваў дом на чатыры пакоі, купіў дзве пародзістыя каровы. Але ж ва ўсім гэтым вінаваты не Гардзей, а сын яго, бо стары Шкробат да людзей і тады не вельмі чапіўся. Людзі кажуць, што маўчаў ён таму, што асцерагаўся партызан, але хто тое можа ведаць — ці баяўся ён, ці проста не хацеў служыць ворагам.

— Мы цяпер адзінакія,— у Гардзея нервова торгаецца вока, нібы падміргвае,— мы з табой у падазрэнні. Я і ты... Чаго яны чэпяцца да чалавека: п'е — няхай п'е, каму баліць з таго? Абы справу рабіў.

Ігнат стараецца вызначыць, хто гэта «яны», тыя крыўдзіцелі. Думкі ў яго сталі цяжкія, непаслухмяныя, коўзкія.

— От і да мяне чэпяцца... Не так там, на дарозе, як тут... Яны. Ведама, сын, канечна, сваё крэўнае... Шкада, ведама. Але, сказаць,— бацька за сына не адказ.

Ігнат больш не слухае, думае ўпарта сваю непаслухмяную думку: яны... Яны — гэта Марцін, Алена, Вольга... Маланне — таксама выслужваецца, стаханаўка!

— А мне-е н-напляваць на іх!.. А я буду весяліцца, піць...

На душы Ігната лёгка і бесклапотна. Гардзей прыносіць новую пляшку і да краю налівае Ігнатаву шклянку.

— Пі! Весяліся, братка. Няхай яны грабуцца, а мы будзем — піць... Піць!.. Эх, шкада, Варывончыка засудзілі... Хлопец быў душэўны. Сапраўдны старшыня... Шкада хлопца. Распадаюцца, разлятаюцца добрыя людзі!..

Гардзей сціснуў далонямі галаву, заплюшчыў вочы.

— А мне — напляваць на іх,— паўтарае Ігнат, не слухаючы.

— Ён, братка, паўлітра першаку адразу выпіваў. Толк ведаў чалавек у гарэлцы, не тое, што цяперашні... Бывала, прыйдзе з кладаўшчыком: «Гардзей, сляза божая ёсць?» Пяршак, значыцца. «Для каго няма, кажу, а для вас заўсёды, таварыш старшыня, знойдзем». А ён: «Люблю, кажа, разумных людзей», падае руку. О!..

«Няма старшыні Варывончыка. Пасадзілі за п'янства, за растрату. Яны пасадзілі, яны — што хочуць, тое і робяць, у іхніх руках сіла... Але і я не без галавы. Што-небудзь і я кумекаю. Не лыкам шыты... Гне іх, гне!..» — думае гаспадар, халоднымі вачыма пазіраючы на Ігната, і ўспамінае сына: «Ах, Радзівон, Радзівон, не слухаўся, не сцярогся...» Да сэрца падступае балючая жаласць і злосць.

Гардзей не ўмее забываць крыўду. Ён толькі ўмее цярпліва чакаць, чакаць, калі нешта зменіцца.

Усе гады, як жыў у ссылцы, і пасля, калі вярнуўся ў Каранеўку, ён употай чакаў гэтай добрай пары. І яна была прыйшла, але ненадоўга. І ўсё-ткі нават пасля адступлення гітлераўцаў, калі ён другі раз згубіў усё, нават пасля гэтага ўдару жыве Гардзей. Праўда, згорблены, як ніколі, яшчэ пацішэлы, але ўсё-такі жыве і чакае...

Гардзей прыдушыў жаласць да сябе: «Перагрызецеся. Паясце адзін аднаго... Парадуеце яшчэ, людцы, мяне. Парадуеце... Быць не можа!»

— Алена і Насця паскубліся з-за жняяркі сягоння...

Гардзей смяецца, шчэрыць дробныя востранькія

зубы. «Можа, сказаць, што трэба памагаць скубціся?» Не, Гардзей такое не бразне марна, падумае.

— Не на добрае гэта. Кумекай! — асцярожна выціснуў Гардзей, з затоенай увагай працяў Ігната. Разумее ці не? Гардзей ніколі не траціў асцярожнасці і развагі — колькі б ні піў. Нават калі, бывала, пад стол звальваўся, не траціў галавы.

— Мы цяпер адзінакія,— дадаў для бяспекі ён. І падумаў:

«Хто цябе ведае, што ты за чалавек. Цяпер-то ты добры! А заўтра, можа, яшчэ ў сельсавет пойдзеш з даносам, што падбіваў. Скажаш, што спаіў знарок. Паспадзявайся толькі на цябе — з-за глупства клопату не абярэшся...»

Калі Ігнат выйшаў з хаты, было блізка да вечара. Ён некалькі хвілін пастаяў, трымаючыся за слуп веснічак, баючыся адарваць рукі, потым з натугай выпрастаўся і няроўнымі крокамі паклыпаў у кірунку поплава. Ледзь толькі конюх працерабіўся праз гушчар алешніку на поплаў, як убачыў каля балота людскі натоўп. Ігнат спыніўся і, хаваючыся ў алешніку, стаў глядзець, што там робіцца. Сцебанула здагадка, што здарылася нейкае няшчасце, бо звычайна ў гэты час людзей на поплаве не было.

Ён паправіў шапку і, намагаючыся ісці раўней, з насцярожанасцю падаўся да натоўпу. Людзі таксама заўважылі конюха — хмурна паглядалі на яго. Кастусь вінавата апусціў галаву. Паводдаль ад людзей тупалі мокрыя, залепленыя граззю Трахім Уласавіч і Леў. Трахім Уласавіч весела трос галавою, ад якой ляцелі брудныя пыркі...

Ігнат зразумеў усё.

— Ну, падлічыў працадні? — накінулася Насця, калі Ігнат падышоў бліжэй. Яна з пагардай усміхнулася краямі тонкіх насмешлівых губ. Ігната гэтая ўсмешка апаліла, нібы варам.

— Чаго вышчарылася? — адразу ўскіпеў ён.— Падлічыў.

Нехта кпліва хіхікнуў:

— Ён, пакуль працадні лічыў, замарыўся. Глянь-це, ледзьве на нагах трымаецца.

— Падлічыў? Ну дык скінь цяпер частку!.. Праўленне за сёння адлічыць табе! Глядзі, што ты натварыў! — Насця кіўнула галавой на коней, толькі што выцягнутых з балота.

Ігнату хацелася даць у адказ што-небудзь абразлівае, але ён не адважыўся.

— Марцін табе не даруе гэтага. Я ўсё скажу.— Па голасу, якім гаварыла Насця, Ігнат зразумеў: «Мабыць, скінуць з конюха». Але, падумаўшы пра тое, што яго здымуць з працы, Ігнат не пашкадаваў. «Ну і хай! — Ён са злосцю вылаяўся сам сабе: — Напляваць!.. Яшчэ крычыць на мяне. Я табе пакрычу!..»

Не гледзячы ні на кога, пацягся да коней. У натоўпе нехта сказаў услед: «Усыплюць гароху нашаму Атроху!»

## 3

Назаўтра пасля работы Алена забегла на хвіліну ў хату, памылася, хутка павячэрала і пайшла ў канцылярыю. Яе і Насцю выклікаў старшыня.

Марцін выпадкова трапіў на спрэчку: ён акурат ішоў у кузню праверыць, як каваль ладзіць плугі на асенняе ворыва. Падышоўшы да жняяркі, Марцін зразумеў усё без роспытаў. Аднак пры з'яўленні старшыні калгасніцы з абедзвюх брыгад паднялі такі крык, даводзячы кожная сваю праўду, што яму прыйшлося некаторы час стаяць моўчкі і толькі слухаць.

— Усё? — запытаўся Марцін, як толькі зрабілася ціха. Жанкі маўчалі, пазіраючы на яго.— Усё ці, можа, яшчэ будзеце? Не будзеце? Ну, любіце вы, казакі мае, пагаварыць. Пракрычалі вушы, а без толку. Пра ўсё гэта было рашэнне праўлення,— і ніякіх спрэчак не трэба... Няма чаго крычаць!

Ён гаварыў спакойна, крыху марудна, але цвёрда, і ад яго спакойнасці на распаленыя спрэчкай сэрцы жанчын нібы дыхнула свежым, цвярозлівым ветрам. Яны чакалі слоў старшыні з нецярплівасцю і непакоем. Марцін паглядзеў на ўсіх, паўтарыў:

— Так, казакі мае, няма чаго крычаць!.. Жняярку — Аленінай брыгадзе, і ніякіх спрэчак. І зараз жа каб усе былі на полі — нечага марнаваць час!.. А Насця і Алена — заўтра вечарам у канцылярыю.

Ён павярнуўся і, злёгку абапіраючыся на гнуткі арэхавы кіёк, пакульгаў да кузні. У яго словах і рухах хавалася такая ўпэўненасць, што, калі ён адышоў, ніхто ўжо не стаў спрачацца, людзі пачалі хутка разыходзіцца працаваць. Вязальшчыцы з Вольчынага звяна, задаволеныя і вясёлыя, пайшлі за жняяркай.

Алена ішла да Марціна з неспакойным сэрцам. «І чаму гэта ўсёналучылася,— такое прыкрае здарэнне... Усё добра ішло, гладка, і раптам — на́ табе... Цяпер хоць вочы ў каго пазычай — сорамна да Марціна ісці». З прыроды ўражлівая і прастадушная, яна вельмі хвалявалася, уяўляючы размову, што хутка мелася быць з Марцінам.

На вуліцы Каранеўкі, як звычайна летнім адвячоркам, было людна і тлумна. У жнівеньскі дзень ад ранку вуліца ціха дрэмле. Рэдка-рэдка пачуеш тут голас чалавека. Затое поле поўніцца жыццём — спорна і дробна стракоча жняярка, важка, працавіта рыпяць на дарогах, няўклюдна пагойдваючыся, нагружаныя снапамі вялізныя, старанна ўціснутыя вазы, прывольна і шырока плыве жніўная песня. У поўдзень, калі ўсё ў полі млее ад няшчаднага палу сонца, сяло ажывае, каб праз гадзіну-паўтары зноў замерці ў дрымотным чаканні да самага вячэрняга прыцемку. Увечары, калі над Тур'ёю спакваля апускаецца белы, як дым над вогнішчам бульбяніку, туман, на вуліцу зноў уваходзіць неспакойнае чалавечае жыццё.

З поля вярталіся загарэлыя, запыленыя людзі. Старэйшыя, натомленыя дзённай працай, ступалі паважна і спакойна, будзённа гаманілі пра свае гаспадарчыя турботы, пра калгасныя навіны, пра ўраджай — шмат што цікавіць старога калгасніка.

Дзяўчаты і падлеткі ішлі асобна. У іх гуртках чуліся звонкія рознагалосыя воклічы, гарэзныя жарты, выбухі смеху.

Каля хат, чакаючы бацькоў, стаялі дзеці. То адно, то другое дзіця, пабачыўшы яшчэ наводдалек бацьку або маці, з радасным крыкам, хутка мільгаючы нагамі, кідалася насустрач і разам з дарослымі паважна вярталася дахаты.

Калі Алена падышла да канцылярыі, то ўбачыла, што там ужо запалілі святло. У пакоі ішла ціхая гавор-

ка. Акно было знізу завешана газетай, і хто гаварыў там, не было відаць.

На двары працяжна рыкала карова, чуўся клапатлівы гаспадынін голас: «Стой, стой, не варушыся, Лысая... стой, кажу...» Канцылярыя мясцілася ў хаце калгасніцы, ранейшы будынак спалілі гітлераўцы.

Марцін быў удваіх [redacted] дачкою. Шасцігадовая Галька сядзела каля бацькі, задумлівага чалавека з крутым ілбом і залысінамі, што быў апрануты, як звычайна, у выцвілую ад сонца вайсковую гімнасцёрку з ордэнам Айчыннай вайны. Яна разам [redacted] бацькам схіляла сваю бялявую, падстрыжаную галоўку над паперкай, якую ён чытаў.

— Добры дзень, старшыня!..

— У каго яшчэ дзень, а ў мяне вечар. Бачыш, лямпу запаліў.

— Добры вечар, цёця Алена! — Галя жвава саскочыла з лаўкі, падбегла да Алены і радасна зашчабятала: — А мы з таткам на полі былі! Ячмень глядзелі... Валошак нарвалі!

— Ну! Валошак?

— Ага, валошак! Мно-ога! — Галя падбегла да лаўкі і прынесла жмут ярка-сініх пахучых васількоў, працягнула Алене.— Во колькі!

— Многа, праўда. Малайчына!..

Галя, радасная, вясёлая, вярнулася да бацькі і, падціснуўшы пад сябе ногі, села каля яго.

— Газу толькі дарма псуеш,— каб схаваць няёмкасць перад Марцінам, папракнула Алена.— На вуліцы такая відната, людзі з работы яшчэ не прыйшлі, а ты ўжо святло запаліў.

— Вочы свае дарагія шкадую! Папсуеш — не купіш потым,— адказаў жартам Марцін.— Галінка, ведаеш, аб чым я цябе папрашу? Бяжы да цёткі Насці, скажы, каб яна ішла хутчэй, добра? А потым ідзі дахаты...

— А ты хутка прыйдзеш? — запытала Галька.

— Хутка, Галька, хутка...

— Глядзі ж прыходзь, а то я буду нудзіцца без цябе...

Галя [redacted] вайны асталася сіратою — маці яе не вярнулася ў сяло з партызанскага атрада. Бацька прыйшоў адзін. Ён убачыў на сваім селішчы толькі груды абга-

рэлага, задымленага камення ды тлеючыя галавешкі, ад якіх ледзь цягнуўся сіні едкі дым. З той пары ён стаў жыць у хаце замужняй сястры. Марцін звычайна прыходзіць туды толькі начаваць, бо амаль заўсёды заняты рознымі калгаснымі клопатамі.

Сястра глядзіць па яго просьбе за Галькай. Яна вельмі любіць дзяўчынку, але тая ўсё-такі нярэдка сумуе, «нудзіцца», як яна кажа, калі бацька, здараецца, за ўвесь дзень не знойдзе часу праведаць яе...

— Якая ж яна падобная да Ганны,— з цеплынёй і замілаваннем сказала Алена, калі Галя выбегла.

— Так, падобная... Падобная,— задумліва прагаварыў Марцін.— Зірну часам, Алена, вось так згадаю,— сэрца аж зойдзецца... Эх, Ануля, Ануля!

Марцін шырокаю рукою закрыў хударлявы, з рэзкімі валявымі рысамі твар, дужымі пальцамі сціснуў сівеючыя скроні. Не варухнуўшыся, хвіліны дзве сядзеў маўкліва. Алене хацелася падысці да яго, адарваць руку ад твару і сказаць што-небудзь добрае, пяшчотнае, каб сціхнуў смутак.

Яго жонка Ганна загінула ў баі за Лапатаўскім шляхам, калі прарывалі варожую блакаду. Было гэта ў кастрычніку, перад вызваленнем. На вачах у Марціна скасіла яе блізкая чарга нямецкага аўтаматчыка. Партызаны тады беглі праз лазняк, прабіваючы шлях сабе на волю, прарываючы апошні ланцуг акружэння. Раптам Ганна ўзмахнула рукамі, ступіла, спатыкаючыся, крок-другі і ўпала,— калі Марцін падбег да яе, нахіліўся, яна была мёртвая...

Ён з сябрамі вынес яе цела з акружэння. Ноччу, калі наступіла цішыня, на бярозавым узлессі каля Тур'і пахаваў... Да смерці, відаць, не забудзецца той кастрычніцкі дзень і тая ноч 1943 года.

— Не ўспамінай, Марцін. У мяне тое ж самае: нашто трывожыць...

— А зарастае яно марудна, марудна,— нібы не чуючы Аленіных слоў, гаворыць Марцін.

На ганку нехта затупаў. Марцін адразу адняў руку і з намаганнем сагнаў з твару засмучонасць. Увайшла Насця. Насцярожана зіркнула вострымі чорнымі вачыма на абаіх, голасна прывіталася і села на лаўку.

— У вас тут гамонка, здаецца, вельмі душэўная

была. Прабачце, калі перашкодзіла. Я ж не ведала... Можа, мне пакуль выйсці, пачакаць?

— Сядай, ты чаму ж гэта пазнішся?

Задушэўны настрой, што прыйшоў да Алены ў размове з Марцінам, знік. Яна цяпер адчувала і непрыязнасць да Насці, і сорам перад Марцінам. Насця Абуховіч, менш чулая ад прыроды, не вельмі перажывала тое, што здарылася, хоць і ведала, што яна вінаватая. Думкі Насці былі накіраваны да таго, каб зменшыць сваю віну і як-небудзь апраўдаць свой учынак.

— Што ж гэта, памочнікі мае дарагія, у ясны дзень буру паднімаеце?

Алена мімаволі збянтэжылася і паружавела. Марцін светлымі нядобрымі вачыма паглядзеў на іх, потым пачаў корпацца ў шуфлядцы стала.

— От,— ён выняў невялічкі кулёк паперы, разгарнуў яго з асцярогай і паказаў брыгадзірам. На паперцы ляжалі спелыя вастраносыя зярняты.— Што гэта? Як вы думаеце?

— Ячмень,— прастадушна адказала Алена.

Насця кпліва ўсміхнулася краямі тонкіх насмешлівых губ:

— Няўжо ячмень? А я і не ведала!

— Ячмень, правільна. Зярняты, што высыпаліся з пераспелага коласа... З пятнаццаці каласоў толькі!.. Я знарок сабраў... Яны ляжалі ўжо на зямлі... Гэта гіне наша дабро! Гіне кожны дзень, кожную хвіліну! Кожную хвіліну, якую мы змарнавалі, мы трацім дабро сваё, хлеб!.. Вы — мае лейтэнанты, на вас і Коржыка першая мая надзея. Ён са сваёй брыгадай упраўляецца... А ў вас што — учора ў адзін дзень адразу два факты! Ігнат самавольна пакінуў работу. Два кані ўгрузлі... Прыйшоў жняяр узяць каня, запрэгчы ў жнярку, а конюха і блізка не відаць, недзе ў вёсцы!.. І вы ўзнялі сварку... брыгадзіры!

— Не раўняй мяне з Ігнатам,— перапыніла яго Насця.

— Я і не раўняю. У вас розныя ўчынкі, але атрымліваецца так, што Ігнат і вы аднолькава сарвалі работу. Сем чалавек прыйшлося зняць з работы, каб выцягнуць коней... А вы на гадзіну затрымалі жнярку без працы. А яна ў нас адна... і людзі марнаваліся праз гэта...

Жанчыны маўчалі.

На пераносіцы між брывей у Марціна напух працяты маршчынай бугорчык.

— Я Ігната сёння зняў з работы і перадаю на праўленне. У яго гэта не ўпершыню, такое нядбайства, і з ім у нас будзе асобая, суровая размова. А вас на першы раз перасцерагаю. Добра падумайце пра гэта...— Марцін жорстка зірнуў ва ўпартыя вочы Насці.— Асабліва цябе папярэджваю — ты ўсё гэта пачала... Па чарзе, якую ўстанавіла праўленне, жняярка павінна была быць у Алены...

Насця прыкінулася пакрыўджанай.

— Чаму толькі ў Алены? Жняярка ж агульная. Чым Аленіна брыгада лепшая за маю?

— Ты перад кім прыкідваешся? Я хто табе, старшыня ці які выпадковы госць? На пшаніцы жняярка была ў цябе?

— Хіба яна пасаромеецца? То такая хітрая, прывыкла ўсё вяршкі збіраць,— не ўтрывала Алена.

— Гэта хто прывык вяршкі збіраць? Я прывыкла?.. Ды калі б у мяне коні былі такія, як у цябе, я і гаварыць бы не стала нічога.

— Коні ў нас аднолькавыя, не выдумляй. Затое ў цябе людзей больш. Табе ж і жаць асталося мала, а я і не ведаю, калі скончу...

Спрэчка зноў ажывала...

— Эх, якія вы ў мяне ахвочыя да дыскусій!.. Ці няможна і мне сказаць?.. Прычыны шукаеце? Шукайце, шукайце — не адну знойдзеце. Так, у нас мала коней — у тры разы менш, чым да вайны! І машын таксама мала. Яшчэ менш, чым коней. А самае галоўнае — людзей не хапае... І доўга не будзе хапаць! Хоць і пачынаюць салдаты вяртацца з арміі... І машын доўга не будзе даволі. Не хутка станем усё рабіць машынамі... От, колькі прычын!

Марцін выцягнуў з кішэні вышыты капшук, скруціў цыгарку. Шырокія, спрацаваныя, у цвёрдых намулінах далоні цяжка ляглі на стол.

— І ўсё-ткі хоць многа прычын нам замінае, мы павінны зрабіць усё. Мала людзей, мала машын, и трэба зжаць і змалаціць! Трэба! Хлеб — аснова ўсяму!.. За дваіх, за траіх, можа, давядзецца рабіць, и — трэба! Людзі павінны зразумець гэта! І вы — таксама!

Разважлівы і цвёрды, ён здаваўся Алене нібы дужэйшым і вышэйшым, чым звычайна. Такое самае пачуццё было раней, калі Марцін, маўклівы, вёў іх на прарыў варожай блакады каля Лапатаўскага шляху. Тады ішлі зараснікамі лазняку, і хоць не ведалі, што іх там наперадзе чакае, жыццё ці смерць, усе слухаліся яго. У той дзень Алена яшчэ раз адчула, што ён мацнейшы за яе, і стала яго асабліва паважаць.

Марцін узняўся з-за стала, па-вайсковаму статны, і, накульгваючы, падышоў да іх.

— Ну, от! Пачубіліся — хопіць!.. Хто на старым спатыкнецца зноў — не пашкадую ні вока ні бока. Ну, але — хопіць... Заўтра да вас прыйдзе дапамога. Я сказаў, каб усіх, каго можна зняць са сталай работы, паслалі на поле. Усяго здымаем шаснаццаць чалавек. Цэлае аддзяленне! Мне здаецца, што іх лепш за ўсё паслаць на сціртаванне. Што вы скажаце пра гэта?

— Правільна, трэба сціртаваць! — Алена кіўнула галавою.— Сціртаванне ў нас зусім спынілася...

Насця таксама не пярэчыла:

— Хай будзе па-твойму, Марцін...

— Я баюся, каб не было разрыву паміж сціртаваннем і жнівом. Трэба і тое і другое разам.

У гэтую хвіліну дзверы расчыніліся, і ў пакой увайшла хударлявая чарнавокая жанчына.

— Насця тут? — запыталася яна ўзрушаным голасам, ледзь толькі адчыніла дзверы, і ўсе здагадаліся, што здарылася нейкае няшчасце.— Ага, ты тут.

Насця ўстрывожылася, усхапілася з лаўкі:

— Што?!

— Ячмень наш пабіў нехта.

— Які ячмень? Дзе?

— На Далёкім полі. Жанкі вось толькі адтуль прыйшлі, гавораць — коньмі... сляды там капытоў конскіх...

— На Далёкім полі? На рэкордным участку?! — перапытала Насця, быццам не верачы.

— На рэкордным, Насця... Кажуць, сотак, можа, дваццаць. Коласу там нацярушана — страх...

— Хто гэта мог зрабіць? — перабіў недаўменна і здзіўлена Марцін.

— Невядома... Але, відаць, хтосьці са сваіх... знаў, дзе дапячы!..

Надышло трывожнае маўчанне.

— Я ведаю, з чыёй гэта стараны,— ціха сказала Насця.

— З чыёй? — у адзін голас запыталіся Марцін і Алена.

— Ведаю,— спыніўшы на хвіліну нерухомы, калючы позірк на Аленіным твары, паўтарыла ціха Насця.— Ведаю.

Вусны Алены задрыжалі. Яна ледзь выціснула:

— З чыёй?

— Чаго ты яшчэ прыкідваешся?..

Алена разгубілася, бездапаможна паглядзела на Марціна, як дзіця, якое просіць спачування і падтрымкі. Яна так усхвалявалася, што сапраўды можна было падумаць: той учынак не абышоўся без яе.

— З тваёй!.. Гэта за ўчарашняе мне падзяка... і, мусіць, без тваёй парады тут не абышлося...— Насця раптам парыўна кінулася да дзвярэй.— Я зараз жанок распытаюся!

— Што ты сказала, адумайся!..— з дакорам прамовіла ўслед Алена.

Пасля таго як Насця выйшла, у пакоі настала нядобрая цішыня. Алена, як і раней, стаяла разгубленая і спалоханая,— пухлыя, быццам у дзяцей, вусны бездапаможна ўздрыгвалі... Марцін падышоў да яе, ціха, пазіраючы ў вочы, запытаўся:

— Можа, і праўда, з тваe брыгады?

— Н-не... не ведаю...

У тую ноч Алена доўга не магла заснуць. У галаве мітусілася рознагалосіца гукаў, чутая ўдзень на полі: трашчаць, стракочуць зялёныя конікі, жыкаюць сярпы, суха шамаціць салома...

...Яркае месячнае святло рэжа вочы. Алена кладзе далонь на твар, наступае цемра. І адразу ў змроку перад вачыма паўстае бачанае: звязаўшы сноп, жняя паволi выпроствае спіну, здранцвелую ад бесперапыннага згінання, выцірае засмяглыя губы і пазірае з-пад рукі на сонца.

Услед за гэтым цягнецца другі шматок бачанага: жанчыны жнуць сярпамі... «А бо! — сумелася Маланняя.— Глядзі, Аленка». Яна паказвае — вунь дзесяткі

два зламаных сцяблін. Перастаялая салома не вытрымала вагі каласкоў. Каласкі звесіліся ўніз — амярцвела, нерухома, быццам падсечаныя, тырчаць вострыя канцы сцяблінак. Малання асцярожна зрэзала сярпом сцябло, пакратала рукою — салома белая, крохкая.

Зранку, калі толькі пачалі жаць,— успамінаецца Алене,— спявалі. Над полем разыходзілася суладна:

Вецер вее, ой, вецер вее, ды вецер павявае,
А маці ў доні, ой, маці ў доні дый пра долю пытае.

У галаве Алены гучыць гэтая песня. Потым, як сталі прытамляцца, сціхлі. Толькі сярпы пераклікаюцца: ж-жык! жык-ж-жык! — ды жняярка зводдалеку па-са-рачынаму далучае: та-та-та!

— Не прыставаць, маладзічкі-і-і! — зычна, імкнучыся весялей гаварыць, кажа нястомная Маланння.— Жваве-ей варушыцеся! Не сарамаціцеся перад старой.

— Ці ж за табой, цётка Маланння, угонішся! — з жартаўлівай незадаволенасцю адказвае Лізавета, суседка.— Ты ж жылаватая, не раўнуючы, як той конь.

Апошнія словы жанчыны падхоплівае дружны порсткі рогат.

— Патрывай, насмешніца! Я табе гэтага не дарую,— пагражае, нібы люта, цётка Маланння і сама голасна рагоча, трасучыся пакатымі плячамі і ківаючы галавою.

...Алена аднімае далонь ад вачэй і гарачымі бяссоннымі вачыма пазірае ў прарэз дзвярэй на заліты святлом месяца шчарбаты, з учарнелых завостраных дошак, плот, на бярозу пры веснічках.

Хата, у якой жыве Алена, яшчэ не дабудавана. Здарылася так, што ўвішная летняя пара спыніла будаванне ў самым разгары. Калгасныя цесляры паспелі паставіць толькі зруб і кроквы ды пакласці столь над адным пакоем. У гэтым пакоі і жыве Алена з той пары, як пераехала сюды з хаты Марцінавай сястры, дзе ціснулася тры сям'і пагарэльцаў.

Бяроза Алене відаць да паловы — роўны малочна-белы ствол з чорнымі плямамі, дзве-тры гнуткія тонкія ніжнія галіны ды трапяткія лапатлівыя занізі дробназубых лісточкаў. Гэтую бярозу пасадзіў Андрэй, яе чалавек, калі яны пабраліся. Перад Аленай раптам, нібы

асветленая ясным бляскам, успыхнула тая вераснёвая раніца, у якую Андрэй ля гэтай бярозы абняў яе апошні раз. Калі Андрэй пайшоў служыць у армію, бяроза была яшчэ зусім малая: тады яшчэ і паўгода не было, як яны пабраліся.

Праз некалькі месяцаў Андрэй пачаў прысылаць пісьмы з фінскай вайны. Былі першыя ночы трывог за яго жыццё. Як яны памятаюцца, гэтыя першыя пакутныя ночы! Алена не ведала тады, што хутка надыдзе другая вайна, вялікая, усеабдымная, якая зробіць яе жыццё бясконцай трывогай. За ўсе доўгія гады гэтай вайны яна не атрымала ні аднаго ліста ад яго. Ні аднаго слова не было чуваць пра яго лёс. Пасля вайны Алена лістоў таксама не дачакалася. І цяпер, трэба ўрэшце паверыць, ніколі не дачакаецца...

Алене хочацца з кім-небудзь перамовіцца, выліць свае горкія думкі, пачуць ласкавае, спагадлівае слова...

Няхай бы тая ноч была не такая светлая, не такая прыгожая! Каб не было мігалак-зорак, каб не зіхацеў месяц! Можа, не паліла б так сэрца скруха па шчасцю, па маладосці, што непрыкметна прайшла за вайну, па пяшчоце...

У суседзяў закрычалі пеўні, а Алена ўсё думала пра сваё жыццё — згадвала маладыя гады, таварышаў па партызанскаму лагеру, Марціна, калі ён быў камандзірам роты. «Трэба б заснуць. Хутка світанне, хоць бы на гадзінку заплюшчыць вочы перад работай!»

Але сон, як і раней, не ішоў. Сталі варушыцца неспакойныя думкі пра брыгаду, пра жніво, з якім трэба як мага хутчэй управіцца. У цішыні бяссоннай ночы ёй зноў успомніліся ўсе абставіны той размовы, балючай і несправядлівай, паўтарылася кожнае слова, якое сказала Насця, яна ўбачыла ўважлівы позірк Марціна, пачула запытанне: «З твае брыгады?» І ў сэрцы зашчымела крыўда, сціснула горла...

* * *

— Дзень добры, Насця!

Насця азірнулася на Гардзея, які сказаў гэтыя словы, прыпынілася.

— Дзень добры, кажу,— паўтарыў Гардзей і кіўнуў галавою.

— Добры дзень,— неахвотна адказала жанчына. Насцярожана паглядзела на Шкробата. Яны ніколі не віталіся раней, хоць жылі адзін ад аднаго непадалёк і часта даводзілася бачыцца.

— А ты ўсё спяшаешся... Пачакай хвілінку,— сказаў Гардзей, адчуваючы, што Насця вось-вось падасца далей. Ён падышоў да Насці ад сваіх веснічак, дзе стаяў, калі Насця ішла па вуліцы. Наблізіўшыся, ціха, з дакорам прамовіў: — Чуў я. Усё чуў ад людзей. Нядобра зрабіла, Насця...

— А табе... што да гэтага?! — Яна не любіла Гардзея і ніколі не хавала сваёй непрыязнасці да яго.

— А ты цішэй. Чаго лямантуеш на ўсю вуліцу,— спакойным тонам парадчыка адказаў той.— Як гэта — што мне да гэтага? — паказаў здзіўленне Гардзей.— Хіба я чужы чалавек? Хіба я не з Каранеўкі? Не з аднаго сяла з табою?.. Вось вы раздзяляеце сваіх людзей, а я вам аднаго дабра жадаю.— Насця апаліла ўпартымі чорнымі вачыма, кпліва ўсміхнулася. Заўважыўшы гэты позірк, ён паўтарыў: — Аднаго дабра... Нядобра ты зрабіла, нядобра...

— Ведаеш што, стары... Не суй носа не ў сваё проса! Сама ведаю, што рабіць.

— Мала ты ведаеш, зелень ты,— па-бацькоўску прамовіў Гардзей. — Мала. А пыху трымаеш — не падыходзь. Я табе гавару на глум, а ты вазьмі на розум.

Спакойны павучальны лад гаворкі Шкробата распякаў Насціну ганарыстасць. Твар яе паступова бялеў, але яна стрымлівалася.

— Не суй носа, стары... Не вучы, я цябе ўсё роўна не паслухаюся.

Гардзей паківаў галавою, плюнуў пад ногі.

— Неслухмянка ты! От што. Не думаў я, што ты такая. Не чакаў... Куды табе да Алены! Да яе табе як зямлі да сонца. От то разумная жанчына. І сталая, і разважная. Другой такой, пэўна, па ўсяму свету не знайсці!.. Недарма Марцін так паважае яе. Я ўчора быў у канцылярыі, дык акурат бачыў, як ён яе сустракаў, сваю Аленку. Аж вочы ў Марціна запаліліся! А яна... А пра яе і гаварыць не трэба. Увогуле справа

ў іх, як той казаў — як па маслу... Ну і няхай — харошая жанчына! Дай бо ёй шчасця.

Насця, апусціўшы галаву, штосьці абыякава разглядала на дарозе. На яе чорных густых валасах, што выбіліся з-пад выпрасаванай шаўковай хусцінкі, глянцавіта паблісквалі сонечныя водсветы. Цяпер у Насці пярэчыліся цікавасць і ганарыстая ўпартасць,— хутка цікавасць адолела, і Насця, пагардліва ўсміхаючыся, запыталася:

— Дык ён вельмі радаваўся, калі тая прыйшла?

— Ну як табе сказаць? Я ж казаў ужо. Радаваўся. Нібы не бачыліся дзесяць гадоў...

— Брэшаш ты, стары? — недаверліва сказала Насця, пранізваючы Гардзея вострым позіркам.

— Ну, вядома, брашу... Усё выдумаў! — абыякава адказаў Шкробат.— Гэта я ўсё расказаў, каб цябе падражніць...— Гэтая абыякавасць Гардзея зусім збіла Насцю. Яна падумала, што ўсё тое, што ён расказаў пра ўзаемную прыхільнасць Марціна і Алены,— праўда, тым больш што яна ўчора і сама прыкмеціла. Яна тады падумала, што ёй проста здалося, але, выходзіць, усё гэта чыстая праўда.

Насця памкнулася ісці.

— А насуперак нашай указцы ты не зробіш. Не дазволім...

Насця азірнулася.

— Хто не дазволіць? Ты?

— І я... і ўсе. І Марцін, і Алена.

— Мне ніхто не ўкажа таго рабіць, чаго я не захачу.

— Мы ўкажам!

— Укажаце? Ты? Алена? — Насця з пагардай акінула позіркам Гардзея, ганарліва засмяялася.— Указчыкі!..— Яна рэзка павярнулася і, не азіраючыся, хутка пайшла па вуліцы.

Гледзячы на яе парывістую хаду, Гардзей падумаў: «Агонь-баба... Зачапі яе, — усю Каранеўку раскідае. Не тое што Алена: тая ўсё ў сэрцы трымаць будзе». Унутры соладка варухнулася радасць.

## 4

Марцін сядзеў на драбінках калёс, звесіўшы ногі, і нецярпліва кусаў пахучую завялую травінку, выцягнутую з сена. Ён некалькі разоў уздымаў галаву, паглядаў на вуліцу, але Насці не было відаць.

Калёсы, на якіх сядзеў Марцін, стаялі каля плота на двары МТС. Конь, прывязаны вераўчанымі лейцамі да альховай штакеціны, на якой дзе-нідзе віднеліся тонкія шчыліны, церабіў сена. Ён стаяў у цяню пад старой разгалістай таполяй з падранай унізе карою. Мухі і сляпні не давалі спакою каню, атакуючы яго з усіх бакоў, і Марцін час ад часу саскокваў з драбінкі, каб адагнаць іх.

На шырокім уезджаным двары, па якім беглі рады ромбікаў і квадрацікаў ад аўтамабільных скатаў, акрамя Марціна, нікога не было. Непадалёку, у майстэрні, нехта ўвесь час біў молатам па жалезе, прарэзлівы, назойлівы звон уядаўся ў галаву.

Марцін і Насця прыехалі разам у горад. Яму трэба было ў МТС дамовіцца, каб блізкімі днямі прыслалі ў калгас малатарню. Сабралася нямала таксама іншых спраў, якіх нельга было больш адкладаць. А Насця прыехала сустракаць свайго мужа Паўла. Павел прыслаў з Брэста тэлеграму, што сягоння прыедзе, і Насці хацелася спаткаць яго на станцыі. Ужо даўно быў час ім прыйсці, а іх не было.

«Мо цягнік запазніўся,— падумаў Марцін.— Інача чаго б яна забавілася». Каб адагнаць нецярплівае жаданне ехаць, ён пачаў думаць пра Насцінага чалавека. Павел і Марцін некалі былі таварышамі. Яны расталіся яшчэ да фінскай вайны... Марцін успомніў, што не давялося быць на вяселлі таварыша, бо Павел жаніўся, прыехаўшы з часці на паўмесяца ў водпуск, а ён у той час служыў пагранічнікам на Карпатах.

«А даўно ж такі не бачыліся. Глядзі ты, гэта ж амаль сем гадоў. Як гады ляцяць. Павел, відаць, вельмі змяніўся за такі час. Цяпер і не пазнаў бы, напэўна, каб адзін на адзін спаткаўся...» — падумаў Марцін, закурваючы.

Непрыкметна Марціна зноў атачылі клапатлівыя думкі. Ён успомніў пра здарэнне на Далёкім полі, пра спрэчку паміж Насцяй і Аленай, саскочыў з драбінак

і, не ведаючы, чым заняцца, пачаў нецярпліва тупаць вакол воза, перавязаў вяроўкі ў задку калёс, падгарнуў пад задок больш сена, раз-пораз пазіраючы на дарогу.

«Хто ж гэта той ячмень патравіў? Не можа быць, каб Алена падбівала на гэта каго-небудзь. Ліха яго ведае хто... Адно мне толькі вядома, што цяпер гэтая хмарка, чорт бы яе пабраў, вельмі не патрэбная». Ён пашкадаваў, што яшчэ дагэтуль не дабраў ладу ва ўчынку на Далёкім полі.

Насця, на яго здзіўленне, прыйшла адна. Марцін, як толькі ўбачыў яе статную постаць, адразу пачаў ладавацца ў дарогу. Падабраў з-пад конскай морды ў абярэмак сена і, паклаўшы на калёсы, стаў запрагаць каня. Калі Насця падышла, ён падцягваў церассядзёлак.

— Чаму адна, кума? — Марцін, жартуючы, заўсёды называў Насцю кумою.

— Не прыехаў.

— Не прыехаў? Што ж гэта з ім?

— Мабыць, затрымалі...

— Не, можа, дзе-небудзь на перасадцы марнуецца... Сядай!..

Марцін прытрымаў каня, пакуль Насця, падабраўшы край вішнёвай спадніцы, каб не мяць яе, садзілася на сена. Сам не сеў, да вуліцы, кульгаючы, ішоў побач з калёсамі, трымаючыся адной рукой за драбінку, а другой — за лейцы. Потым ужо, як калёсы жалезнымі шынамі застукацелі па бруку, падскокваючы на кожным камені, прысеў да Насці. Тая бліснула на яго чорнымі вачыма, памкнулася сказаць нешта вясёлае і, не сказаўшы, сціхла. Бровы здзіўлена падняліся.

— Ты што, як мыш на крупы, надзьмуўся. Глядзі, людзей настрашыш. А то яшчэ, чаго добрага, каб конь не спудзіўся. Разнясе.

Яна засмяялася, бліснулі роўнымі радамі белыя зубы. «Красуня якая! — праплыло ў галаве Марціна.— От і вайну перажыла і колькі перацярпела, а ўсё як дзяўчынка. Ніколі не пабачыш з апушчанай галавой — смяецца, жартуе... Без прымаўкі і з лаўкі не зваліцца!»

— Колькі гэта гадоў табе? — нечакана запытаўся старшыня.

— А што?.. Купіць хочаш? Не купіш. Грошай не хопіць.

— Гляджу на цябе: і гады да цябе не прыстаюць. Як да гуся вада. Да ста гадоў будзеш, як цётка Маланння кажа, маладухай хадзіць. Не тое, што Алена. Тая за вайну пастарэла гадоў на дваццаць.

— А што мне,— са смехам у чорных вачах сказала Насця.— Лягу не мята, устаю не клята... Чаго мне старэць? У калгасе ж таксама не ганяць за маю працу,— з задорам скончыла і, стрымліваючы смех, паглядзела на Марціна.

Старшыня не адказаў. Фурманка выехала ў поле, колы ціха і мякка шаргацелі па пыльных каляінах. Абапал пацягнуліся сады, агароды, ягаднікі.

— А як ты думаеш,— загаварыў раптам Марцін,— чаму я надзьмуўся?

— А хто ж цябе ведае? Табе ж нібыта відней.

— Відней то відней, праўда. А ўсё-ткі і ты б даведалася, каб трохі падумала. Мо ў старшыні ад ляноты паясніцу ломіць. А можа, ён трывожыцца, што на полі ячмень асыпаецца, а тут — разлад, спрэчка паміж дзвюма брыгадамі?

Наперадзе, праз паўкіламетра, шлях браўся направа. Ад павароту ён хаваўся між двума радамі старых бяроз. Калі Марцін і Насця пад'ехалі да павароту, насустрач ім з-за бяроз паказалася фурманка, нагружаная мяхамі. За ёй — другая, трэцяя, чацвёртая. Яшчэ зводдалек старшыня пазнаў, што гэта абоз са збожжам з іхняга калгаса, з «Партызана».

Ён саскочыў з калёс і пайшоў насустрач калгаснікам.

— Сёння ўсё вывезлі? — запытаўся Марцін у старшага абознага, вельмі шырокага ў плячах, рослага хлопца.

— Жыта вывезлі, колькі было намечана. Поўнасцю, словам... Кепска, што пшаніцы вось яшчэ не вявём,— адказаў абозны, стоячы поруч з Марцінам.

— Намалоцім і пшаніцы. Цяпер жа ўсё пакуль цапамі б'ём. От паслязаўтра скончым жаць ды малатарня прыйдзе — абяцалі ў эмтээсе,— тады пабачыш!.. Пакуль не забыўся, слухай — здасі, Рыгор, хлеб, за-

едзь у сельгасснаб, забяры запасны нож для жняяркі... Скажы, дома там усё ў парадку?

— Усё. А што там можа здарыцца? Працуюць...

Марцін, паспакайнеўшы, вярнуўся да Насці.

— Найшоў на мяне пасля той вашай спрэчкі неспакой. Насцярожаны нейкі стаў я... Быццам якая-небудзь гайка ў машыне скрышылася, так і ў нашым калгасе. Круціцца кола, бегае, як трэба, але — ненадзейнае. Няма веры яму. Бойся яго... Ты толькі пра сваю брыгаду дбаеш, а за ўвесь калгас — табе малы клопат. Пра ўвесь калгас мне застаецца думаць.

— Што ж, вялікаму каню вялікі хамут,— ■ усмешкай перабіла Насця.— Ты б, от, пра Алену меней думаў, тады б лягчэй было.— Потым дадала сур'ёзна і горача: — Ты што ж, хочаш, каб я памірылася? З ёй не тое што мірыцца, а... яе трэба, калі хочаш ведаць, можа, судзіць, тую тваю хвалёную Алену. А ты яшчэ прыкрываеш!

— Чым жа ты давядзеш, што Алена вінавата?

— Нечага і даводзіць. Я і так ведаю, што яна. Бачна па вочках, што ходзіць па ночках. І ўсе ведаюць, адзін ты не бачыш.

— Як ты можаш гаварыць так!.. Сама пачала спрэчку, а цяпер яшчэ сарамаціш чалавека...

— Ты мяне не агіціруй мірыцца,— адрэзала спакойна яна, спусціла з драбінак загарэлыя пруткія ногі ў падгорнутых шкарпэтках і чаравіках з высокімі абцасамі і стала моцна сцябаць пугай па запыленай прыдарожнай траве.— Як захачу — сама прыйду, працягну руку. Я хоць і ў спадніцы, а смеласці не стану пазычаць...

Старшыня пачаў гарнуць цыгарку. Тытунь, нібы знарок, церусіўся ў непаслухмяных пальцах. Чыркануў некалькі разоў запалкамі, запалкі тухлі. Ён кінуў лейцы Насці, саскочыў з калёс, але няўдала — павярэдзіў параненую пятку і ад болю мімаволі заскрыпеў зубамі. Выпрастаўшыся, адразу прыкурыў. Фурманкі не стаў даганяць, а ішоў наводдаль ад яе і думаў: «Баба ўпартая, паспрабуй уламай яе... На ліха мне такі брыгадзір... Не слухае добрых слоў, не разумее, не хоча разумець!.. «Як захачу, сама прыйду, не пасаромлюся». Чакай, калі ёй зажадаецца прыйсці!.. Важдайся тут з яе капрызамі!»

Ён ішоў так доўга. Абапал у сухім духмені жнівеньскага дня млелі палі — то голая пожня, першы знак развітання з летам, то бялявыя разлівы нязжатага ячменю, то зялёныя, прыпыленыя абсягі бульбы. Жыта ўжо не было відаць, а пшаніца і ячмень яшчэ дзе-нідзе сталі. Марцін разы тры збочваў з дарогі, шоргаючы зношанымі кірзавымі ботамі, ішоў па пожні, гаспадарскім вокам звыкла прыглядаўся да прысадзістых бабак, да ўмятых калёсных дарожак. На адным полі, то там, то сям на памятым іржышчы, дзе сталі раней бабкі, Марцін знайшоў каласы.

«Нацерушылі і не падабралі, абібокі! Гаспадары называецца! Чыё гэта поле? Здаецца, «Чырвонага шляху»... Ну, так, «Чырвонага шляху»... Трэба пазваніць старшыні — навучыць, як трэба рабіць...»

Яго зноў крануў непакой. Марцін збочыў з поля на шлях, кульгаючы, уподбег дагнаў калёсы і сеў.

— Я ў райкоме даў слова,— сказаў ён, беручы ад Насці лейцы,— што мы заўтра ўвечары скончым уборку.

Ён паглядзеў на Насцю, у позірку прыплюшчаных вострых вачэй было запытанне: скончым ці не? Насця сказала:

— Мая брыгада сёння скончыць. За мяне табе хваляваўца не прыйдзецца. Я, можаш быць спакойны, не падвяду.

— А іншыя?

— А іншыя? Што ж мне галаву лішне ламаць? У кожнага ёсць свая галава, свой розум... Да чужога цела няма каму дзела...

У вачах Марціна блrandnулі жорсткія агеньчыкі. Ён згарача памкнуўся сказаць штосьці злое, едкае, але перадумаў, змаўчаў. Потым, супакоіўшыся, суха выціснуў:

— Пашлі сягоння на ноч чалавек трыццаць сціртаваць.

Болей яны да самага калгаса не прамовілі ні слова.

Той дзень Ігнат сланяўся па двары, не знаходзячы сабе прытулку. Коні пасвіў цяпер другі калгаснік. Ісці працаваць у поле Ігнат не хацеў, бо гэта азначала

ўступку яго крыўдзіцелям — Насці і Марціну. «Не пайду я да іх кланяцца!»

Але працаваць карцела. Ён любіў працаваць. Два гады з таго часу, як у вызваленай Каранеўцы зноў стаў жыць калгас, Ігнат з дня ў дзень спяшаўся на працу, яго галава была напоўнена рознымі думкамі пра коней.

І раптам сёння Ігнату не трэба ні аб чым рупіцца, ні пра што дбаць. Спі, колькі зажадаецца, гуляй, як табе хочацца. Раней часамі ён думаў, што не меце клопатаў прыемна, а цяпер выяўляецца, што такое становішча вельмі дакучае. Асабліва, калі вакол гарачая жніўная пара і ўсе людзі, нават горкія падлеткі, з рання да позняга вечара не сыходзяць з поля...

Учора, перадаўшы коней другому конюху, у сваяка-суседа Ігнат выпрасіў пляшку гарэлкі. Цяпер даводзілася пакутаваць ад няўтольнай смагі, аднак пахмяліцца не было чым. Маланння, у якой ён прасіў «хоць кроплю» гарэлкі, сярдзіта накінулася на яго: «Трасцы табе, а не гарэлкі, абібок!.. І ёсць, а не дам»,— дадала яна напаследак, каб болей дапячы. І праўда, Ігнат ведаў, яна мае гарэлку, але болей не прасіў, помніў Маланніну ўпартасць. Хоць памірай, калі сказала: не дам,— не дасць. Вылаяўся ціха і паплёўся лянівa з хаты ў агародчык. Там каля хлява стаяла некалькі вішанек; пад вішнямі была густая аксамітная траўка, цень, прахалода. Ён разваліўся ў траве, спадзеючыся заснуць, але сон не ішоў. Ігнат некалькі разоў перавярнуўся з боку на бок,— дарэмна, смага не давала спакою.

Вось ужо Маланння пайшла на работу: Ігнат чуў, як заскрыпелі вароты. «Праклятая баба, шкода ёй гарэлкі!» Нейкі час увага былога конюха была занята мураўём, што рупліва поўз па травінцы, несучы паклажу. Потым пачуў ён дзіцячы плач, дзіця плакала недзе непадалёк, нехта яго супакойваў. Хутка яно сціхла, і над сялом запанавала непарушная цішыня.

Ігнат падняўся і паклыпаў у хату. Толькі знайшоў у сенцах пляшку з гарэлкай,— пачуліся на ганку крокі. Ён борзда схаваў бутэльку і ўскочыў:

— Хто там?

У сенцы ўвайшла Вольга. Са святла яна некаторы

час нічога ў змроку не бачыла, як сляпая, пазірала не на Ігната, а ў бок ад яго. Потым вочы спакваля звыкліся з прыцемкам.

— Дзядзька Ігнат...— Яна парывіста дыхала, напэўна, хутка ішла.— Дзядзька Ігнат, вам трэба ісці на работу. У нас не хапае возчыка... Вы ж цяпер не працуеце,— цішэй дадала яна.

«А-а, прыйшлі прасіцца! — з непрыязнасцю і радасцю падумаў Ігнат.— Патрэбны стаў! Учора скінулі з работы, а сёння клічаце... думаеце, Ігнат не помніць крыўды...»

— Ну і што, калі не працую,— цвёрда і цяжка выціснуў Ігнат.— Не працую... і не пайду працаваць!

Жанчына ад такога адказу збянтэжылася.

— Дзядзька, там не хапае возчыка... Паўлік захварэў, ліхаманка яго трасе.

— А табе што за клопат да гэтага?

— Мяне жанкі паслалі сказаць...

— Жанкі!.. Не пайду!

Ён павярнуўся і, не спяшаючыся, лянів a паплёўся ў хату. Як толькі жанчына выйшла, Ігнат вярнуўся да пляшкі.

Калі Ігнат сабраўся быў пацягнуцца да вішанек, зноў бразнула клямка. «Каго гэта нячыстая носіць?» — незадаволена варухнулася ў яго галаве. Прынесла Гардзея Шкробата.

— Наведацца прыйшоў, Ігнатка. Думаю, зайду, пабачу сваімі вачыма, як ён маецца адзін.

Азірнуўся вакол, левае вока ўвесь час таргалася, падміргвала загадкава. Гардзей зняў шапку, сеў за стол.

— Пляшачку гарэлкі прынёс табе, думаю, пакаштуем па-сяброўску разам, па даўняй памяці, аж, бачу, ты ўжо прылажыўся да горлачка. Не стаў чакаць... Ах ты, нецярпячка гарачы!

Сядзеў так, плявузгаў пра розныя дробязі, нервова падміргваючы вокам, Ігнату слухаць апрыкрала, потым такім жа дзіўным голасам, не паварухнуўшы брывом, загаварыў такое, што Ігнат, хоць п'яны быў, пахаладзеў:

— А я да цябе, Ігнатка, можна сказаць, па справе прыйшоў. Не па сваёй, праўда, а па тваёй. Аб табе непакоюся, смелая ты галава. Храбры ты, Ігнатка, храб-

ры!.. За такія справы менш за дзесяць гадоў не дадуць. Дзесяць гадоў, не менш! О! А ты што думаеш, гэта табе смешкі! І ты не пабаяўся, адвага!

Усярэдзіне ў Ігната нешта адарвалася. «Адкуль ён ведае?!» — сумеўся Ігнат. Паспрабаваў апраўдацца:

— То коні самі ўлезлі. Не даглядзеў...

— Кінь ты, Ігнат! Я ж не маленькі! Нібы хто паверыць?

— Не паверыць? Дык гэта ж праўда! Заснуў, ну, коні і ўбіліся...

— Убіліся? Ну і жартаўнік ты, Ігнат! Дай шклянку.

Ігнат паслухмяна прынёс шклянку. Гардзей наліў сабе, выпіў, наліў другую, падсунуў Ігнату. Той узяў шклянку, але піць не стаў,— ён быў прыгнечаны і разгублены.

— Горды ты, Ігнатка. Не даешся ў крыўду,— гэта па-мойму! А чаго ж даравацъ крыўду, праўда? Толькі ты не бойся, не дрыжы як заяц.

— А я і не дрыжу.

— І правільна. Я не скажу. Толькі ты мала, Ігнатка, даў ёй, Насці гэтай, і Марціну. Учора зжалі гэты рэкордны ўчастак, копы склалі, дык ты вазьмі ды раскідай іх. І ўсё! Глупства адно... Шкоды няшмат, але затое — грому, о!.. Як яны закіпяць!

Кожнае слова, якое кідаў Гардзей, важка асядала ў Ігнатавай душы. Ігнат яшчэ ніколі не бачыў Гардзея такім дзіўна-ўпэўненым, такім нязвычным і неразгаданым, і яму рабілася млосна.

Ён з натугай праглынуў цвёрды камяк, выціснуў:

— Ты што м-мяне хочаш... пад суд?!

— Ды не, што ты, глупства адно толькі! Ніхто бачыць не будзе... І падазрэння на цябе не будзе. Насця падумае на другога чалавека... Ніякага падазрэння.

— Т-ты што гэта... смяешся? — не знайшоўся нічога іншага сказаць Ігнат.

— Смяюся я ці не? Гм... Як табе сказаць? Не ведаю. Не ведаю, Ігнатка. Ты ўжо сам кумекай, смяюся ці не?

Ігнат рэзка адпіхнуў шклянку, ускочыў.

— Не хачу!

— А ты не кіпяціся, не кіпяціся. Жыццё табе на-

дакучыла? Я ж табе не вораг, хоць ты цяпер увесь у маіх руках. Я скажу толькі адно слова, і цябе ўпякуць на дзесяць гадоў. На дзесяць гадоў, як піць даць... А тут — глупства адно — раскідаў копы... Дробязь... ніхто і ведаць не будзе...

Упершыню з таго дня, як знялі Ігната, апанаваў яго непакой за мінулае.

— Трымайся мяне, Ігнат, не прападзеш!..

Гардзей узяў шапку, устаў, падышоў да Ігната і сказаў, блізка ўпяўшы ў конюха нерухомы позірк і нервова падміргваючы: — А пра тое я нікому не скажу!

Гардзей выйшаў. Ігнат узрушана абхапіў рукамі галаву і стомлена асеў на ўслон, паныла задумаўся. У яго душы, змяняючы адно другое, сталі варушыцца то непакой, то шкадаванне, то одум.

5

Перад полуднем некалькі жней з Насцінай брыгады вярталіся з поля. Жанчыны ішлі бязладна — па адной, па дзве, зморана, ■ радасным гоманам. За імі наводдаль, узбіваючы пыл, коні павольна кацілі жняярку.

Аленіна брыгада яшчэ жала. Алена адразу, як убачыла жанчын на дарозе, здагадалася, што яны скончылі жніво,— учора ўвечары Алена чула, што ў іх на сёння заставалася мала. «А ў маёй брыгадзе яшчэ такое поле нязжатае, што і за два дні не адолець. Пазней за ўсіх скончым»,— шчымлівы непакой сціснуў сэрца.

— Насціны ідуць палуднаваць...— сказала, перавязваючы хусцінку і пазіраючы на дарогу, Лізавета.

— Не палуднаваць, а з работы,— папраміла яе хмурна цётка Маланья.— Не бачыш, ці што,— жняярку за сабой валакуць...

Жнеі выпрасталіся і пачалі паглядаць на дарогу, на жанчын, што падыходзілі ўсё бліжэй і бліжэй. «Толькі б не прыйшлі дапамагаць,— з непрыязнасцю падумала Алена.— Калі не ■ добрай душой людзі прыходзяць, то не столькі дапамогуць, колькі стануць потым выхваляцца. Сажнуць жменю, а нагавору таго на год наробяць...»

Пасля здарэння са жняяркай, пасля несправядлівых і крыўдных Насціных слоў, якія кінула тая перад Марцінам, між Аленай і Насцяй лягла мяжа недавер'я. Алена мімаволі стала глядзець на Насцю і калгаснікаў з яе брыгады з нейкай насцярожанасцю. Гэты настрой, заўважыла яна, перадаўся таксама многім яе жнеям...

— Што ж гэта вы, суседкі, адстаяце?! Сорам! — крыкнула з дарогі худая, вастраносая маленькая жанчына. Гэта была Ганна Лаўрэйчыкава, у сяле яе часта называлі яшчэ Піскуніхай за незгаворлівы характар. У насмешлівым ладзе яе сухога, пісклявага голасу Алене пачулася знявага.

Цётка Малання знарок, каб падражніць, упёршыся рукамі ў бакі, паклікала:

— Заходзь, Ганна, няма чаго гультаяваць!

Маленькая Піскуніха пры гэтых словах спынілася, з'едліва адказала:

— Дай божа, каб вы так гультаявалі, як я. Каб вы ўсе хоць палову так пастараліся, як я, вы даўно б ужо зжалі. А то стаяць ды на неба пазіраюць — ці хутка абед.

— Бач ты, адна якая шчырая! Ідзі, куды ідзеш! — не ўтрывала, параіла спакойна Алена.— Чаго ты тут стала? Ніхто цябе і не просіць сюды, не бойся...

Жнеі сціхлі, сталі моўчкі жаць.

Алена задумалася і жне, не гледзячы, левай рукой забірае жмут шапаткіх сцяблін, звыклым поцягам правай рукі адразае іх ад зямлі. Брыгадзіра поўняць, хвалююць невясёлыя думкі: «Каб жа гультаявалі, не крыўдна было б. А то так шчыруем і ўсё роўна пасля ўсіх». Потым пачынае разважаць: «Людзей мала. Чатыры чалавекі захварэла якраз у такую пару. Ганна ды Васіліна не сягоння-заўтра народзяць... А што Ігната дадуць, то хіба дапамога. Толькі адна назва, што новы работнік, а карысці ад яго, як воўны з воўка...»

— А мой чалавек недзе па двары швэндаецца,— быццам адгадваючы Аленіны думкі, гаворыць Малання.— Крыўдзіцца, што з конюха знялі. Скажы ты, ганарлівы які. Проста дзіўлюся, адкуль у яго столькі гонару?.. Далікатнай просьбы чакае! Чакай, я цябе, даражэнькі, па-прашу!..

— Так ён і баіцца вас,— падбухторыла Маланню насмешніца-суседка Лізавета.

— Што? Мяне не баіцца?!

Цётка Малання падняла галаву і так паглядзела на дзяўчыну, нібы гэта была не жняя-суседка, а Ігнат. Твар у Маланні зрабіўся цвёрды, у вачах бліснулі пагрозныя зялёныя агеньчыкі. Лізавета ажно сумелася і зірнула на Маланню з асцярогай.

— Мяне, рыбка, не паслухае?!

— Каб жа слухаў, цётка Малання, на працу прыйшоў бы... А то ж не відаць яго нешта...

— А заўтра прыйдзе!

Якраз пад'ехала блізка жняярка, і Алена пабегла на дарогу, каб узяць яе ў сваю брыгаду. На сядзенні, знарок зморана згорбіўшыся, падрабляючыся пад дарослага, сядзеў Пятрусь, той хлопец з кірпатым аблупленым носам, што спрачаўся з Аленай каля кузні. Калі Алена загадала яму стаць, ён, не мяняючы паставы, паважна прыпыніў коней і запытаўся нездаволена:

— Ну што?

— Выпражы коней. А жняярку нам пакінь.

— Як гэта па-акінь?! А хто за жняярку адказвае? Ты ці я?

— Я буду адказваць.

— Ты будзеш адказваць! — з насмешкай свіснуў Пятрусь.— Шмат вас знойдзецца, такіх адказчыкаў!

І, даючы знак, што размова скончана, ён тузануў лейцы. Коні крануліся.

— Чакай жа! Я скажу Марціну, што жняярка палову дня праз цябе стаяла без работы...

— Кажы! Без загаду брыгадзіра я не аддам. Скажа Насця аддаць, я і аддам, а без яе і не прасі.

— Дык яна ж у горадзе...

— А мая справа маленькая.

— Ты хочаш паддобрыцца да Насці. Ну глядзі ж. Я ўсё скажу старшыні! — крыкнула ўслед Алена.

Яна вярнулася да жней. Хвілін праз дзесяць паказалася другая — большая група жанчын з Насцінай брыгады. Жанчыны, відаць, адсталі, каб назбіраць травы ці пустазелля для кароў і свіней: хусткі, якія жанчыны неслі за плячамі, як клункі, былі туга набіты травою. Параўняўшыся са жнеямі, жанчыны раптам збочылі і падаліся да Алены.

— Дзень добры, Аленка! Дзень добры, жанкі!.. А мы да вас...

Яны сталі скідаць клункі з плеч. Жнеі весела прывіталіся, з цікаўнасцю пазіралі на іх.

— Мы да вас, суседачкі, памагчы... От, хочам разам з вамі пашчыраваць... Ці прымаеце?

— Дзякуем,— не разгінаючыся і не гледзячы на жанчын, прабурчала Малання. Яна яшчэ нешта хацела сказаць, але Лізавета, быстра кінуўшы зірк на старую, перабіла:

— А чаму не прыняць! Памагайце... Мы з радасцю, калі да нас з добрай душою.

Шмат якія жнеі з Аленінай брыгады клікалі іх да сябе, каб жаць поруч. Жанчыны адразу разышліся, уладзіліся, дзе каму падабалася, і, не марнуючы часу, сталі жаць.

...Цішыня. Толькі сярпы пераклікаюцца: ж-жык! ж-жык! Духмень. У неагляднай глыбознай далечы ні адной хмурынкі.

Нерухомае спякотнае сонца.

На калгасным двары, дзе, прыехаўшы з горада, Марцін распрагаў каня, было пуста і ціха,— толькі ў другім баку канюшні конюх пакрыкваў на хворых коней.

З канюшні выйшаў стрыжаны хлапчук у майцы і зрэбных, закасаных да каленяў штанах — конюхаў сын. Ён вёў за лейцы гнедага нязграбнага каня, што ляніва тупаў маслакаватымі нагамі, звесіўшы гарбаносую галаву. Хлапчук стаў запрагаць каня ў пажарную бочку.

— Ты куды? — запыніў Марцін хлапчука.

— Па ваду на рэчку.

— А хіба тут у калодзежы ўжо няма вады?

— Няма. Уся высахла ад гарачыні... Бацька нядаўна набіраў, дык адзін глей.

Марцін ужо ведаў пра тое, што здарылася. Яшчэ на дарозе, не даязджаючы да сяла, ён спаткаў агароднага вартаўніка Васіля Скорыка, і той яму падрабязна расказаў пра спрэчку за жняярку. Васілю Марцін не вельмі верыў, бо Васіль, расказваючы што-небудзь, заўсёды любіў многа дадаваць сваёй выдумкі. Тым не менш словы вартаўніка ўстрывожылі Марціна, і ён спяшаўся

хутчэй распрэгчы каня і даведацца пра ўсё больш дакладна.

Занёсшы ў кладовую вупраж і выходзячы з канюшні, ён акурат убачыў Вольгу, што вярталася з поля.

— Пачакай трошкі! — паклікаў Марцін і хутчэй пакульгаў услед.

Яна спынілася, стомлена пераступіла з нагі на нагу, чакаючы, калі ён падыдзе.

— А дзе Алена?

— Алена на полі. Уся брыгада яшчэ на полі... Я прыйшла раней, бо дзіця малое нешта нядужае... Цэлы дзень рабілі. На абед не хадзілі нават. Там і палуднавалі — толькі я хадзіла, дзіця пакарміць.

Яна змарана перагнулася назад і выпрасталася, светлы, не пацямнелы ад загару твар перасмыкнуў боль.

— Спіна як чыгунная... Але і зрабілі многа.

— Колькі зжалі?

— Я шаснаццаць сотак. Авёс быў густы, спорны. І болей зжала б, каб не хадзіла ў сяло. Маланння сягоння больш за дваццаць сажне...

— Калі скончыце?

— Паслязаўтра, можа, і скончым. Але наўрад.

— Што гэта ў вас такое здарылася з трэцяй брыгадай? — запытаўся нарэшце Марцін.

Вольга расказала. Слухаючы яе, старшыня з трывогай падумаў пра сваё абяцанне, якое даў у райкоме. «Нібы знарок, каб перашкодзіць мне — ліха гэтае... Цяпер управіцца за два дні яшчэ цяжэй. Чорт, чаму я не ўцяміў папярэдзіць, каб перадалі жняярку. Як я прашляпіў, няўдача...»

Яны падышлі да Вольчынай хаты. Перад хатай, дзе ў агародчыку да вайны Вольга садзіла кветкі — мальвы, вяргіні, півоні, цяпер яшчэ густа буялі каструбаватыя калючыя кусты дурнап'яну, дзядоў ды крапівы. Пры вуліцы тырчалі два парэпаныя счарнелыя слупкі, што нейкім цудам уцалелі ад плота. Вольга стала.

— Ну, мне дадому...

Насцю апошняе здарэнне таксама ўстрывожыла. Яна, хоць і казала старшыні, што турбуецца толькі за сваю брыгаду, зусім не абыякава адносілася да таго, паспее ці не паспее калгас зжаць у час.

Пры гэтым ёй здавалася, што сённяшняе здарэнне

было як бы вынікам той спрэчкі, якую пачала яна. І Насця не магла адкаснуцца ад думкі, што яна, хоць і была ўвесь дзень не ў калгасе, вінавата разам з Петрусём.

Аднак Насця старалася не паказваць старшыні свайго непакою.

Як толькі калёсы ўз'ехалі на калгасны двор, яна саскочыла з драбінак і, ні слова не кажучы Марціну, накіравалася да хаты, у якой жыў малады жняяр. «Ах ты, нягоднае хлапчанё! — думала ўзлавана яна.— Ён ужо — бачыце вы — свае парадкі тут устанаўляе... Цэлага паўдня праз яго, нягодніка, змарнавалі!»

Пятрусь быў дома — папраўляў зубы ў граблях. Ён акурат жалезным тронкам ножыка забіваў выразаны кляновы зуб. Убачыўшы брыгадзіра, хлопец адразу адлажыў граблі ўбок і ўстаў.

— Што ты гэта натварыў! — не адказваючы на прывітанне, накінулася Насця на хлопца.

Пятрусь збянтэжыўся.

— А што такое?..

— Што такое? Ты не ведаеш?! Ты чаму жняярку не аддаў Алене?

— Чаму? Самі нібы не знаеце... Нібы не пры вас яна адабрала жняярку каля кузні. Нібы не ведаеце, што яна ячмень на Далёкім полі...

Насці хацелася сказаць, што Алена па праву ўзяла жняярку каля кузні,— але яна стрымалася — не такі быў у Насці характар, каб абы-як прызнавацца ў сваёй віне, ды яшчэ перад нейкім зялёным падлеткам.

— А табе што да гэтага? Прасілі цябе ўмешвацца? Калі яна і зрабіла тое, то ты ўсё роўна не меў права не даць ёй жняярку,— строга прамовіла Насця.— Што яна, Алена, для сябе брала? Для сябе?

— Не для сябе, канешне... Для брыгады.

— Не для сябе! І ты не меў ніякага права не адцаць, ясна? От мы зараз былі з Марцінам у горадзе,— ён там у райкоме сказаў, што наш калгас заўтра скончыць жніво. Ён слова цвёрдае даў! А цяпер што цераз тваю выхадку атрымліваецца?

— Я не ведаў...

— Трэба было ведаць!.. А да таго, што я маю з Аленай, ты не чапайся. Не ў свае проса не сунь носа!.. Я сама не дам сябе ў крыўду! Ясна?

Хлопец не ведаў, што адказаць. Хацеў зрабіць так, каб Насця пахваліла, думаў аб тым, каб было даспадобы сваёй брыгадзе, а тут, выяўляецца,— памыліўся.

Пятрусь вінавата заміргаў вачыма:

— Ясна...

6

Яшчэ не ўзыходзіла сонца, калі Алена выправілася на работу. З балота ад Тур'і, зацягнутай шырокай коўдрай белага туману, патыхала свежым халаднаватым ветрам. Было золка. Неба ўсюды абложвалі цёмныя панурыя хмары. «Хоць бы дождж не пайшоў!» — падумала Алена. Выйшаўшы з хаты, яна апранула пінжак, падагнула доўгія рукавы, зашпіліла ўсе гузікі. Жанчын яе брыгады на вуліцы яшчэ не было, і Алена падумала, што паднялася зарана, што трэба было б пачакаць трохі дома. Але яна не вярнулася, ведаючы, што жанчыны стрымаюць сваё абяцанне, не спозняцца.

І праўда, ужо на павароце з сяла на калгасны двор яе дагнала Вольга.

— Ну вось, да двара пойдзем удзвюх,— сказала яна, аддыхваючыся ад хуткай хады і стараючыся ісці ў нагу з Аленай.

— Хоць бы дождж не нагнала. Хмары якія...

— Хмары разыдуцца,— запэўніла Вольга.

Алена ішла маўкліва і задуменна. Вольга, зірнуўшы на яе яшчэ соннымі вачыма, узрушана загаварыла:

— Рана як, Алена! Цялят і кароў не чуваць нават... Мая Арынка спіць со-оладка! — яна шчасліва ўсміхнулася простай, адкрытай усмешкай.— Як ішла, накрыла яе, а яна нават не паварухнулася. Калі б ты бачыла, Алена, як спіць! Ручкі раскінула, вось так... Ну, я на двор па жняярку.

Алена не адказала. Вольга здзіўлена зірнула на яе і толькі цяпер заўважыла, што Алена зусім не слухала, думала аб нечым сваім.

Над полем, над шырокім прасцягам нячутна плыў ранак. На прыдарожнай траве, у вясёлых пялёстках рамонкаў, на пляскатых лісцях трыпутніку, на белых галоўках дзьмухаўцу абапал дарогі густа туманіліся кроплі расы. Стаяла такая цішыня, што ў ёй было чу-

ваць, як побач, устрывожаныя крокамі Алены, з ясным шэлестам ападаюць расінкі.

«Калі добра сягоння пастараемся, можа, як-небудзь заўтра да вечара ўправімся,— думала Алена. Пухлыя, падобныя да дзіцячых, вусны задрыжалі ад крыўды.— Пазней за ўсіх...»

Першая пачала працаваць жняярка. Пры жняярцы была Вольга, якая нікому ў Аленінай брыгадзе не саступала гэтага месца — яна лічылася ў брыгадзіра за самага стараннага, спрактыкаванага жнеяра. Усё, што ні даручалі, Вольга рабіла акуратна. Разам з Аленай яна шчыра перажывала ўсе брыгадныя непаладкі. Пры жняярцы ішлі калгасніцы з Вольчынага звяна.

Жанчыны збіраліся дружна і адразу браліся за працу. Неба спакваля яснела. Радуючыся, што надвор'е правіцца, Алена праверыла, ці ўсе прыйшлі. Было сорак чатыры чалавекі — больш, як у іншыя дні, бо прыйшло некалькі калгасніц, якія звычайна не хадзілі на жніво. Чацвёра падлеткаў-дзяўчат, што жалі ўпершыню, трымаліся між дарослых нясмела, нязвычна, як навічкі ў школе. Алена адвяла ім асобны ўчастак, назначыла старшую. Да іх далучылася бабка Прося, сухая, маўклівая, строгая жанчына: дзе ў яе гады раўняцца з маладымі жнеямі. У іншыя дні бабка сядзела сабе пры хаце ды глядзела ўнука, а сёння дзіця аддала ў яслі і таксама прыйшла на поле.

Мужчын і хлопцаў — іх было дзевяць — Алена накіравала вазіць снапы.

Потым, як ужо ўсе пачалі працаваць, прыйшоў Васіль Скорык, Вольчын чалавек. Каўнер яго даматканай ільняной сарочкі, старанна вышыты Вольгаю, быў шырока расхрыстаны. Пусты правы рукаў, каб не матляўся, Васіль засунуў з ніжняга краю за тонкі скураны паясок, што слабка перахопліваў сарочку. Пры наступленні на Мінск Васілю, які быў у той час мінамётчыкам гвардзейскай часці, асколкам з нямецкага снарада адарвала па плячо правую руку; вярнуўшыся ў калгас, ён стаў працаваць агародным вартаўнікам. Як агародны вартаўнік, Васіль не меў дачынення да Аленінай брыгады, але ён разам з Вольгаю перажываў брыгадныя нелады.

— Прымаеце ў памочнікі? — голас у Васіля басавіты, моцны: яго ў сяле за гэта жартам называюць

трубою. Некалькі жанчын цікаўна зірнулі на яго.— Га, прымаеце? Чаго ж маўчыце?

— Чаму ж не прыняць? Калі ласка...

— Куды яго, такога нездаляшчага! — наўмысна запярэчыла Алена, хоць у душы радавалася прыходу Васіля.

— Хто нездаляшчы? — весела адгукнуўся Васіль, ён любіў жарты.— Я? Ты б, мілая, лепей спытала маю Вольгу, яна вунь там на жняярцы сядзіць, яна табе сказала б, які я нездаляшчы.— Ён схапіў Алену за стан і прыцягнуў да сябе. Алена ўперлася рукамі, паспрабавала вырвацца, але дзе там — Васілёва рука як жалезны абруч.

— Ну што, нездаляшчы? — з пераможнай усмешкай сказаў Васіль, адпускаючы Алену. Тая, заружавеўшы ад супраціўлення, лагодна ўсміхаючыся пухлымі губамі, развязвала змятую хустку, каб паправіць ускалмачаныя валасы. Жанчыны весела падсмейваліся з Алены, кпілі.

— Дык то адно, з бабай управіцца, а гэта другое, рабіць...— не здавалася Алена.

— А як жа ж агарод! Там жа свінні націнне вытаўкуць ці вераб'і выдзеўбуць каноплі без цябе, вераб'іны начальнік!..

— Не выдзеўбуць! Яны ў мяне свядомыя! — пажартаваў Васіль, потым, схаваўшы ўсмешку, сказаў сур'ёзна: — Там Лідка мая засталася...

Ён пайшоў зносіць снапы ў бабкі.

— Калекі хлеб зарабляюць, а мой гуляе! Чакай, абібок! Чакай, катаржнік, я табе не дарую,— цётка Маланя касцістай учэпістай рукою захапіла поўную жменю аўсяных сцяблоў і парывіста, са злосцю, разанула сярпом.— Я табе не дарую...

У нейкі міг у лагоднай сінечы між разарваных воблакаў зазіхацела сонца, і поле адразу радасна заззяла. Зямля пачала прыкметна параваць і сохнуць. Дыхнула гарачынёй.

Та-та-та! — далятае зводдалек прагавіты клёкат жняяркі. Ён нібы падганяе коней, жнеяра, вязальшчыц. Жняярка ідзе спорна, кладзе за сабою шапаткія абярэмкі спелых сцяблін.

Жанкі, што працуюць там, спяшаюцца, стараюцца не адстаць. Гарачы едкі пот, сплываючы з ілба, засці-



Іван Мележ з жонкай Лідзіяй Якаўлеўнай
і дачкой Людмілай. *1947 год*

лае вочы. Толькі б паспець у час, толькі б хутчэй звязаць снапы.

І раптам — клёкат адразу ціхне, нібы адсечаны адным махам, у вушах прыкра звініць, шалясціць непрывычная цішыня. Алена ўстрывожана выпроствaецца, глядзіць туды — жняярка стаіць нерухома. З ускінутымі крыллямі, што паднімаюцца над аўсом, машына здалёк нагадвае нейкага вялізнага матыля. Алена бачыць — Вольга саскочыла з сядзення і бяжыць наперад, чамусьці прыглядаючыся да аўса. Прабегла метраў сто, спынілася, паглядзела наперад. «Што там такое? — не церпіцца хутчэй даведацца Алене.— Чаму сталі?»

Неўзабаве Вольга, устрывожаная, з панурым тварам, падышла да брыгадзіра.

— Што там у цябе?

— Авёс ад перастою паламаўся... няможна жаць...

— Паламаўся? Многа яго?

— Сотак дзесяць... Увесь той узгорак.

— Абміні. Я з жанкамі сажну... Ідзі.

Вольга не чула апошніх слоў Алены, яна наўпросткі пабегла да жняяркі. Жняярка зноў пачынае стракатаць. Аднак Алена не спакайнее, трывожная вестка, прынесеная Вольгаю, зноў абуджае горкія, назольныя думкі: «Спазніліся. Заўтра трэба хоць уночы рабіць, а скончыць».

Трэба рабіць, не трацячы дарэмна ні хвіліны, спяшацца, а тут Маланння, нібы сумысля, нібы знарок насуперак, касцістай учэпістай рукою шмаргае Алену за спадніцу:

— Глядзі, Аленка, што там за працэсія?

Алена непрыхільна падумала: «Вось няшчасце яшчэ: жала б, пра жніво больш думала б, чым попусту па баках сарок лавіць... Глядзі ды глядзі... Такая непаседа, быццам маладая!»

— Нечага мне, цётка Маланння, туды глядзець.

— Не, рыбка, паглядзі,— не адстала, голасам, поўным здзіўлення і зацікаўленасці, сказала Маланння.

Алена выпрасталася, зірнула на дарогу. Вольная рука, якую яна была падняла, каб сцерці з твару пот, неспадзеўкі застыла. Алена ўбачыла на дарозе жанчын, якія павольна набліжаліся сюды. Няўжо яны да нас? Жанчыны ішлі наўпросткі па ржышчы гаманлівым

нястройным гуртам, рознаапранутым і шматгалосым. З сярпоў, што яны неслі на плячах і ў руках, час ад часу зыркім бляскам біла сонца.

— Жаць ідуць...— выказаў нехта ўголас думку.

— Няйнакш жаць... Сярпы на плячах!

— Да нас ідуць, жанкі...

— Гэта ж Насціна брыгада!..

— Не-э, Коржыкава брыгада! Вунь жа Агата...

— Памагаць, мабыць, ідуць...

Тут нечакана ў рознагалосіцу ўзрушаных і радасных воклічаў і меркаванняў уварваўся зычны Маланнін голас:

— Не трэба нам іхняй помачы!

На нейкі час усе сціхлі.

— Чаму гэта не трэба?.. Няхай папрацуюць, хутчэй скончым,— запярэчыла Лізавета. Некалькі галасоў падтрымалі яе.

— А я кажу — не трэба! — настойвала Малання.— Мы і адны справімся!..

Жанкі між тым падыходзілі гамонячы. Добра ўсе бачылі, што ў натоўпе пераважна былі калгасніцы ■ Насцінай брыгады — яны ішлі разам са сваім брыгадзірам. Некалькі жней прыслала і брыгада Коржыка. У Коржыка жаць заставалася не шмат, яму даволі было і паловы брыгады, і ён, ведаючы, што Аленіна брыгада адстае, прыслаў частку жней сюды.

— Дзень добры, жанкі! — загучалі наперабой галасы гасцей.

— Добры дзень...

— Ці будзем на парозе стаяць, ці, можа, за стол папросіце?..— пажартаваў нехта з гасцей.

Лізавета адказала ў тон:

— Калі ■ добрай навіной — за стол! Ды яшчэ на кут пасадзім.

— Бачыце, колькі яны зрабілі, пакуль мы збіраліся! — падышоўшы, ■ захапленнем прамовіла Васіліна, смуглая, з ласкавымі чорнымі вачыма жанчына, у сіняй сацінавай кофце — адна з тых, што ўчора прасіліся дапамагчы.— Мусіць, ні свет ні зара прыйшлі сюды! От як стараюцца!.. Нават брыгадзір з сярпом!..— сказала яна далей, звяртаючыся да сваіх таварышак.

— Тут жанкі ўвішныя, як мурашкі...

Гэта былі словы добрыя, спагадлівыя, жнеі з брыга-

ды Алены сталі па-сяброўску вітацца. Нібы вецер лагодны павеяў.

Шчырыя словы суцішылі прыкрую насцярожанасць, якая не пакідала Алену з дня спрэчкі за жняярку. Жанкі пачалі па-таварыску гаманіць між сабою. Гледзячы на іх, нельга было б і падумаць, што між брыгадамі нядаўна быў нейкі нялад. Хоць гэта быў пакуль пачатак звароту добрай дружбы, але і ён радаваў Алену. Значыць, і ў трэцяй брыгадзе шмат хто, думалася, верылася ёй, не лічыў яе вінаватай. Алена адразу, узрадаваная, гатова была забыць усе свае крыўды — добрая ад прыроды, яна не ўмела злавацца.

— Напрацаваліся, а як жа! — буркліва адказала жанчыне Малання.— Не тое што вы, абібокі, у поўдзень збіраецеся...

— Цётка Маланя...— Лізавета з дакорам тузанула Маланню за рукаў. Тонкія, з сярдзітым заломам бровы цёткі Маланні падняліся ўгару.

— Што, цётка Маланя?! Хіба ж я не праўду, ягадка, кажу?

Жанчына з чорнымі вачыма не пакрыўдзілася:

— Гэта мы абібокі! — звярнула яна Маланніны словы на жарт.— Мы зараз пакажам, якія мы абібокі, праўда, жанкі?

Насця падышла да Алены, спакойная і ўпэўненая, як заўсёды.

— Пакажы, дзе жаць,— сказала яна.

Алена павяла яе на правы край загона...

Ігнат доўга не мог дадумацца да чаго-небудзь пэўнага. Пасля таго як Гардзей, кінуўшы страшныя словы, выйшаў з хаты, Ігнат чым больш думаў, тым больш упэўніваўся ў тым, што заўтрашні дзень яго чорны. Ён імкнуўся выбрацца з заблытаных ходаў панурых думак, але нязменна вяртаўся да таго месца, адкуль пачынаў. Было толькі два шляхі — адзін, які прапанаваў Шкробат, і другі — той, на які вяло Ігната яго сумленне.

Сядзець без справы з такімі думкамі было нялёгка. Ён бадзяўся то па агароду, то па вуліцы, не знаходзячы месца.

Было толькі два шляхі.

Зрабіць тое, чаго дабіваўся Гардзей, Ігнат не хацеў. Але боязь ганьбы і пакарання пасля Гардзеевых слоў, як цень, усюды валаклася пры думках Ігната. Яна неспакоіла Ігната, прымушала яго вяртацца назад, думаць, шукаць якога-небудзь нявызнанага, беспакутнага шляху.

Шукаючы выйсця і не знаходзячы яго, Ігнат не адзін раз успомніў нечаканы прыход Вольгі і неаднойчы пашкадаваў, што няветліва [redacted] ёю абышоўся... Прыйшла сама, запрасіла на работу. Прыйшла да яго як да паважанага чалавека, бо абы-каго на працу не запрашаюць жа. Калі б пайшоў, не было б гэтай ненавіснай размовы з Гардзеем...

На наступны дзень перад абедам Гардзей прыйшоў зноў. Прывітаўся за руку, зірнуў на Ігната,— не зірнуў, [redacted] нібы наскрозь праця́ў чалавека, хаваючы аднача́с ад яго сваю ўважлівасць. Шкробат спаткаў нядобразычлівы позірк.

Можа, цэлую гадзіну ён знарок, не зважаючы на непрыхільнасць Ігната, плявузгаў пра розныя дробязі. Гаспадар то садзіўся за стол, то падымаўся і неспакойнымі, хоць і павольнымі, крокамі тупаў па хаце. Знянацку, нібы прачнуўшыся, Гардзей здзіўленымі спагадлівымі вачыма паглядзеў на Ігната, сумеўся:

— Ты што ж гэта нахохліўся? — Ён раптам наўмысна засмяяўся, міргаючы вокам, трасучы буйным, не па росту, тварам.— А-а, думаеш! Хе-хе, думаеш? Аб чым гэта? А-а! А я ўжо даўно забыўся... Пажартаваў я, дурань... Хіба ж можна такое і падумаць сур'ёзна?! Дурань ты, дурань, дзівак-чалавек! От пасмейся з табою! — Падышоў, важкай далонню пастукаў па плячы.— Ты — малайчына, Ігнатка... От і я такі ж... Жартаваў я! Ты — разумны чалавек, Ігнатка, добры... Свой чалавек! Даўпадобы ты мне, ей-бо, даўпадобы, будзем сябрамі... Дурань ты, дурань, дзівак-чалавек. От пасмейся з табою!..

Паціснуў руку, сабраўся нібы ісці, вярнуўся і, нахіліўшыся да вуха Ігната, так што скронь таго калоў зарослы рудой пасівелай шчацінаю падбародак, прашаптаў:

— Дык пра тое... пра турму... ты не думай... Не скажу нікому!..

У Ігната адразу нібы гара з плеч звалілася. На твары выступілі белыя, халодныя, падобныя на гарошынкі, кроплі поту.

— Жартаваў? — здзіўлена выдыхнуў Ігнат.— А я... дурны чалавек, галаву ламаў!

— От пажартуй з табою!.. От дзівак жа ты! Ей-бо...

— Дзівак. Такі, мусіць, праўда, дзівак...

Але калі Гардзей выйшаў, непакой зноў вярнуўся да Ігната. «Так ты жартуеш: кепскія жарты твае, Гардзей!» Цяжкі, трывожны ўспамін, што застаўся на душы, не хацеў пакідаць Ігната.

«Лепш далей ад цябе хадзіць...».

## 7

Загон, на якім жала Алена са сваімі жанкамі, падзялілі на дзве часткі — па колькасці людзей у брыгадах, каб на кожную жняю прыпадаў роўны па велічыні шнурок. Жанчыны з Насцінай і Коржыкавай брыгад ішлі разам, з правага боку загона. Каля паўдня дажалі да канца загона, да маладога шапаткога асінніку на ўскрайку лесу. Першая дайшла Аленіна брыгада. Скончыўшы, жанкі вярнуліся да сваіх памочнікаў, прыладзіліся, дзе каму прыйшлося.

Ніхто з жанчын, што вярнуліся дапамагаць, не трымаўся цяпер сваёй брыгады. Жнеі перамяшаліся. Калі ў каго-небудзь і засталася яшчэ была ў пачатку працы незлагаднасць, то яна сама сабой непрыкметна суцішалася пры агульным клопаце. Нават цётка Маланння, якую ў сяле ведалі як вельмі ўпартую і незгаворлівую жанчыну, пакрысе пераставала бурчаць сама сабе: «Не трэба нам іхняй помачы». Недаверліва сочачы за Насцінымі жанчынамі, яна бачыла, што тыя жнуць старанна, не марнуюць час у пустых гаворках, і яе раўнівае сэрца паступова спакайнела.

Праўда, гэты спакой неаднойчы змяняўся сумненнем. Часамі тое сумненне так узварушвала Маланню, што яна пераставала жаць і ішла на ўчастак, дзе жалі памочнікі. Як строгі інспектар, яна хадзіла па пожні, пільна прыглядаючыся, ці чыста зжата, ці добра звязаны снапы.

— Цётка Маланння,— ушчувала Лізавета,— як вам не сорам!

— Што — сорам! — не паддавалася тая.— Хіба ж можна пакідаць поле без нагляду?! А можа, яны, ягадка, абы-як, нядбайна робяць, псуюць толькі? — Але гаварыла спакойна — людзі, што прыйшлі дапамагаць, жалі добра... Маланння стала побач з той смуглай, з чорнымі ласкавымі вачыма жанчынай у сіняй сацінавай кофце...

Жалі маўкліва. Сухія, ломкія, спелыя сцяблы жменя за жменяю спорна кладліся на перавяслы, дужымі загарэлымі рукамі сціскаліся ў тугія, пругкія снапы. Вязалі снапы асцярожна: крохкая салома, калі моцна закручваць перавясла, ірвалася.

Не было чуваць ні жартаў, ні песень. Стома напаўняла рукі і ногі цяжарам, скоўвала здранцвелую спіну. Але змора гэта была прыемная: людзі задаволена бачылі, як усё даўжэйшыя становяцца за імі рады бабак.

Толькі як скончылі разам той лапік, перадыхнулі крыху. Выпрасталі спіны, прылеглі ў пярэстым цяньку пад галінкамі маладога частага асінніку, кволіліся пад лянівае лапатанне срабрыстых, знізу быццам падбітых белаватай байкай, лісточкаў.

На ўзлессі пахла апошнімі, пераспелымі суніцамі, прывялай духмянай травою, асіннікам.

Высока ў жнівеньскім небе зіхацела празрыстае воблака, падобнае на бліскучы камяк пены.

— Бусел,— пазіраючы на воблака, зачаравана прагаварыла Лізавета. Алена падняла вочы ў неба.

— Дзе ён?

— Вунь... Каля хмаркі. Справа.

Алена, прыплюшчыўшы вочы, стала ўзірацца, але доўга не магла яго ўбачыць. Воблачка сляпіла яе. Потым убачыла — бусел кружыў вакол воблачка ў бяздоннай глыбіні ясна-блакітнага паднябесся, з зямлі ён здаваўся ледзь прыкметнаю, нікчэмнаю кропачкаю. Алена ляжала на траве і з замілаваннем сачыла за ім, захопленая вострым адчуваннем вялізнай вышыні. «Цікава, якім здаецца адтуль наша поле, і гэты асіннік, і мы...»

Адпачывалі нядоўга. Нельга было ляжаць,— іх чакала яшчэ вялікая паласа нязжатага поля.

У гэты дзень Гардзею Шкробату і Ігнату выпала сысціся яшчэ раз.

Каля свірна, на выхадзе ў поле, гаманіла некалькі чалавек, збіраючыся разыходзіцца на працу. Гардзей, па-старэчаму горбячыся, павольна падышоў да Марціна, паздароўкаўся за ручку з ім, ■ Насцяю, што забегла сюды, вяртаючыся з абеду.

— Ну што я казаў, Насця? Тады на вуліцы... Не па-мойму хіба выйшла, а?.. А ты не хацела слухаць!

Насця насмешліва кінула на яго чорнымі непрыязнымі вачыма.

Гардзей па-таварыску і разам з тым з павагай узяў Марціна за локаць і папрасіў адысці, пагаварыць па важнай справе.

Марцін адышоў ■ ім крыху.

— Марцін Пятровіч,— сказаў Гардзей, пазіраючы ў вочы старшыні. Шыя ў Гардзея, нягледзячы на жнівеньскую гарачыню, была абвязана пярэстым шарсцяным шалікам. Гардзей раскруціў яго і сказаў, апраўдваючыся: — У горле нешта душыць. Глынуць нічога не магу. Прастыў недзе, відаць... Адным словам, старасць, старасць — не радасць!.. Марцінка, я, тое самае, наконт маёй заявы. Я хачу спытацца, ці разбірала яе праўленне?

Марцін знарок марудзіў адказваць. Ён маўкліва пазіраў убок, паглыблены ў нейкія свае думы.

— Разглядала,— сказаў ён нарэшце. Шкробатаў твар выцягнуўся, у вачах бліснула штосьці.— Рашылі пачакаць пакуль. Пажыві сумленна, каб людзі паверылі.

— А-а,— адразу абвяў Шкробат.— Колькі ж можна правяраць. Ці ж бацька адказвае за сына. Я ж не вінен, Марцінка, што дзіця такое непуцяшчае пайшло...

Тут размова перарвалася. Увагу Марціна захапіла дзіўнае відовішча. З калгаснага двара ў акружэнні дзіцячага гуртка выйшлі дзве дарослыя постаці: адна, было відаць, упэўненая, прамая, другая — згорбленая, нясмелая. «Маланння з Ігнатам»,— пазнаў Марцін і стаў ■ цікавасцю сачыць за імі. Ігнат панура азіраўся на дураслівае акружэнне ды час ад часу пагрозна замахваўся дручком, што трымаў у руцэ.

— Такі спраўдзіла сваё слова,— задаволена прасіпеў Шкробат, падміргваючы Марціну.— Яна, Малан-

ка, а-а? Сіберная баба, не дай бог... А дзеці? Падшыванцы...

Ніякавеючы пад уважлівымі людскімі позіркамі, акружаны неадчэпным дзіцячым гуртам, Ігнат насцярожана наблізіўся да Марціна.

— От я прыйшоў...

Ён азірнуўся навокал — усе, хто быў поблізу, сачылі за ім і Марцінам.

— Я — куды трэба...— дадаў ён, з абыякавасцю пазіраючы на гузік на Марцінавай гімнасцёрцы. У голасе Ігната Марцін пачуў прыдушаны сорам, схаваны пад выглядам наўмыснай абыякавасці.— Словам, Марцін, назначай на работу.

— Катаржнік! Абібок ты! Колькі я за цябе сараматы прыняла! — не ўтрывала, залямантавала цётка Маланння.

— Ціха ты, звон! От жа язык!.. Мне хіба прыемна перад людзьмі?! У мяне ж таксама жывая душа, а не, к прыкладу сказаць...

— А бо — жывая душа! — перабіла нецярпліва Маланння.— Гарэлка, от што твая душа, п'яніца ты прапашчы!

Нечакана Маланння страціла ўсю сваю гнеўнасць і строгасць і расплакалася, як дзіця малое. Людзі ад гэткага павароту спрэчкі сумеліся: мала хто чакаў такую маладушнасць з боку цёткі Маланні.

— Хадзем,— пацягнула Маланння свайго чалавека.

— Ідзі... Мне тут пагаварыць трэба з Марцінам...

— Ідзіце, цётка Маланння. Ён зараз прыйдзе,— бачачы, што жонка не давярае Ігнату, уступіўся Марцін.

— Што з ім гаварыць! Што ён разумнае скажа! — махнула зняважліва жанчына і падалася адна.

Цяпер яны стаялі ўтрох — Марцін, Ігнат і Гардзей. Шкробат адчуваў, што ён між іх лішні, што Марцін і Ігнат хочуць застацца ўдвух, але ён не адыходзіў. Яго трымала пры Ігнату трывожнае адчуванне блізкай небяспекі.

Марцін кіўнуў галавою Ігнату:

— Хадзем. Пасядзім каля свірна.

Гардзей затрывожыўся: Ігнат хоча пра штосьці расказаць. Пра што? Чаму адзін на адзін? Тое, што Ігнат ні слова пра гэта не сказаў пры ім, навяло Шкробата на думку, што размова будзе мець да яго, Гардзея,

блізкае дачыненне. Гардзей падаўся да бліжэйшай будыніны і схаваўся за ёю. Агледзеўся — за ім ніхто не сачыў. Цяпер, калі Марцін азірнецца і не пабачыць яго на ранейшым месцы, падумае, што Гардзей пайшоў дамоў.

Будынкі стаялі ў рад, недалёка адзін ад другога. Абышоўшы будынак, за якім хаваўся, Гардзей пайшоў на другі бок да свірна. Ён баяўся, што яго прыкмецяць, але не мог спыніцца, неадольная цікаўнасць і трывога вялі яго ўслед за імі.

Хутка ён пачуў непадалёк галасы. Гардзей пачаў ісці асцярожней. Ён спыніўся ля таго самага вугла, дзе стаялі Ігнат і Марцін. Цяпер іх раздзяляў толькі рог свірна, і Шкробат мог чуць амаль кожнае слова гаворкі.

— ...Дык гэта ты патаптаў?!

— Я...

— Як жа гэта ты?

— Недагледзеў. Заснуў... Ну, коні і ўбіліся... Трахім і яшчэ двое.

І раптам Гардзея сцебанулі Марцінавы словы:

— А я думаў, гэта Гардзей зрабіў. Ён у тую ноч трымаў у сябе каня з рамонтнай брыгады.

— Не, я... Не Гардзей...

— Які там ячмень прапаў! — строга прамовіў Марцін і дадаў спакайней: — Што ж, перадам на праўленне, няхай разбярэ.

Шкробат з асцярогай, ад сцяны да сцяны, адступіўся прэч. Азірнуўся — ніхто не бачыў. Сэрца яго калацілася, ён прагна аблізаў языком засмяглыя раптам губы.

«Ледзь не ўліп... Добра, што я звярнуў тады гэта ў жарт. Беражонага бог беражэ. Яны заўсёды знюхаюцца...— Рукі яго дрыжалі.— Усе... Усіх сцеражыся».

...Толькі ўвечары, пасля захаду сонца, калі пожня заблішчала ў блакітным туманным святле маладзіка, зжалі апошнюю жменю аўса, склалі апошнія бабкі. Бабкі гэтыя складвалі ўсе жнеі разам.

Маланка з апошняй жмені скруціла перавясла: яна строга шанавала старыя звычаі. Глянулі жнеі на апусцелае поле, на доўгія рады блакітных бабак і радасна загаманілі.

— Колькі, скажыце, хапілі! За адзін дзень!

Задаволеныя, гарэзныя жнеі, абкружыўшы Алену цесным кругам, населі на яе:

— Ну, гаспадыня, цяпер расплачвайся, стаўляй вядро гарэлкі! Ды пабольшае!

— Конікі гагочуць — піць хочуць!.. Заслужылі ж...

— Не выкручвайся!

Алена ■ удзячнасцю паглядзела на жанчын,— яе і «чужыя», усе перамяшаліся ў радасна-ўзрушаным натоўпе. Крыху разгубленая гэтай гарэзнай шумлівасцю, яна сказала:

— Ды ўжо ж трэба б паставіць. Нічога іншага не скажаш. Варта...— Усміхнулася.— Дзякуй вам вялікі, жанкі, за шчырую работу, за ваш клопат... Ад душы... ад усіх нас дзякуй!

Людзі знарок нездаволена зашумелі ў адказ:

— Э, а мы не ведалі, што ты такая скупая, гаспадыня... Ну, ну, не шкадуй, раскашэлься!

— Не-э, падзякай не адбудзеш!

Алена глянула на Марціна, які гадзіны за тры да вечара прыйшоў паглядзець, як ідзе жніво ў брыгадзе, і бездапаможна развяла рукамі — выручай, таварыш старшыня. Марцін вельмі непакоіўся, што брыгада не прыйпаспее зжаць усяго за дзень. Тое, што ён убачыў, прыйшоўшы на поле,— бадзёрая ўзрушанасць жней, запал, суладная работа абедзвюх брыгад,— узрадавала яго і ўсхвалявала. Ён застаўся з жанчынамі да канца работы — памагаў зносіць снапы і складваць іх у бабкі.

— Гаспадар, відаць-такі, трэба раскашэліцца,— сказала Алена.— Заслужылі!

«Заслужылі... заслужылі, Алена»,— падумаў Марцін, але, хаваючы ўсмешку, каб жартам паспрачацца са жнеямі, сказаў абыякава:

— Трэба будзе, відаць, як-небудзь падумаць пра гэта...

У той момант Маланння, непрыкметна падкраўшыся ззаду, перахапіла яго, нібы поясам, перавяслам:

— Цяпер, рыбка, не адгаворышся!

— Прыйдзецца-такі капітуліраваць.— Марцін адразу падняў рукі.— Здаюся!

Жанчыны задаволена зашумелі.

— Дажынкі згуляем... на тым тыдні ў нядзелю.

Узрушаным, гаманкім гуртам жанкі рушылі аўсянішчам наўпрасткі на дарогу. Алена адстала, нібы ёй

рупіў які-небудзь гаспадарскі клопат. Астаўшыся адна, акінула вачыма ахопленае дзіўным дымчатым прыцемкам поле, прысадзістыя шырокія бабкі,— такі загон зжалі! На апусцелым полі быццам казачны гарадок вырас. У паўзмроку, як здані, цьмянымі плямамі вызначаюцца дзве маўклівыя ігрушы, пасаджаныя некалі на мяжы Вольчыным бацькам.

— Скончылі! — уздыхнуўшы, выказала Алена ўголас пачуццё, якое яе поўніла. Ёй раптам успомніліся трывогі апошніх дзён, калі яна баялася, што спозніцца са жнівом, і сэрца яе цяпер зайшлося ціхай, глыбокай радасцю: Алена ўсё блізка брала да душы — і боль і радасць. Якое шчасце пасля неспакойных, зморных дзён працы, пасля ўсіх трывог, удач і няўдач адчуць нарэшце нязвыклую радасць перамогі! Сэрца Алены было ўсё напоўнена гэтай радасцю. Нават стома, што скавала цела, была салодкая і хмельная, нібы радасць.

— Ну, хопіць любавацца! — неспадзявана пачула Алена Марцінаў голас.

Яна здрыганулася, здзіўлена агледзелася. Ззаду непадалёк стаяў Марцін. Ён з дакорам, усміхаючыся, паківаў галавою. Як яна не заўважыла, што ён стаіць амаль поруч і слухае! Марцін, не перастаючы дакорліва ўсміхацца, падышоў, узяў яе за руку.

— Ну, колькі ж можна ўздыхаць! Як малая. Хадзем.

— Пачакай! Яшчэ трошкі...

«Чаму так добра, калі ён бярэ сваёй рукой маю руку?» — праплывае мімаволі ў галаве Алены думка. Ад яго поціску радасць Алены шырыцца, мацнее.

Раней таксама хораша было з ім, асабліва тады, калі яна не ведала гэтай непатрэбнай спрэчкі і крыўднага падазрэння. Цяпер сяброўскі поціск Алена прымае як узнагароду.

«У Андрэя таксама былі такія харошыя рукі...»

І раптам, нібы подых вячэрняга ветру, перапоўненае радасцю сэрца Алены крануў ціхі даўкі сум. Не той вядомы сум па Андрэю, а іншы. Яна сама не ведае, што гэта за пачуццё. Нібы чагосьці не хапае. Вельмі неабходнага...

— Стамілася я! Здаецца, села б тут на месцы і нікуды не пайшла б.

— То давай сядзем,— сказаў Марцін. У голасе яго Алена пачула нейкія нязвыклыя хвалюючыя гукі, і сэрца яе сціснула няяснае шчымлівае прадчуванне. Гэта было такое харошае і такое нечаканае пачуццё, што яна збянтэжылася.

— Не, нельга,— таропка, амаль спалохана сказала яна і хутка пайшла.— Што... людзі скажуць?

Ён падаўся побач, не выпускаючы яе рукі са сваёй.

— «Стамілася»... Дзіва якое! Усё — самі, гарбом сваім... Але — нічога. Прыйдзе час — зноў пусцім машыны. Больш, як да вайны... Лягчэй будзе! Добрае жыццё будзе!

Некалькі хвілін абое ішлі моўчкі, напоўненыя адчуваннем нязнанай раней між імі блізкасці.

— Ноч якая!.. Дзіва, а не ноч! — прашаптала Алена. Яна ўзрушана стала. Следам за ёй спыніўся Марцін. Стоячы поруч, яны дзівіліся хараству навакольнага свету, зыначанага ў дымчатым блакітным святле. Алена ўспомніла, што такая самая ноч была тады, калі яна думала адзінока ў сваёй нясканчанай хаце тыя горкія думы.

«Не, не такая,— запярэчыла сэрца.— Тая ноч была іншая...»

— Алена,— сказаў Марцін, калі яны пайшлі,— а ведаеш, яна сама надумала пасляць табе помач.

— Насця?

— Насця. Прыйшла ўвечар да мяне, кажа: заўтра пашлю брыгаду Алене. І больш нічога не гаворыць — ганарлівая. А я акурат на тое збіраўся зрабіць нараду, пасляць усіх свабодных людзей у тваю брыгаду.— Марцін засмяяўся.— Я ўсё роўна паслаў бы. Але яна апярэдзіла мяне,— ну я гэтаму і рад, добра, думаю, прыйшла — значыцца, шура-бура сціхла... Толькі яна... не ведаю, ці казаць табе? — пасур'ёзнеў зноў Марцін.

— Кажы.

— Яна нібы прачытала, што ў мяне ў галаве, кажа: ты не думай, што я для Алены пайду, я для калгаса раблю, а не для Алены. А ў тым, кажа, што не Аленіны людзі нашкодзілі, я сумняваюся яшчэ...

— Сумняваецца? А ты таксама?

— Не, Алена. Я і тады не верыў у тое.

— Не верыў?! — узрадавана сказала Алена і ўдзяч-

нымі цёплымі вачыма паглядзела на Марціна.— Не верыў... — сказала яна цішэй, апусціўшы вочы.— Гэта добра, што ты ў тую дарэмшчыну не паверыў, а мне... верыў... Хоць і не ведаў дакладна, а верыў... што я не магла зрабіць такую шкоду...

— Мне здаецца,— адказаў Марцін,— у сям'і так і павінна быць, каб усе адзін аднаму верылі. А інакш і сям'і добрай не можа быць. Якая ж гэта сям'я — дзе адзін аднаму не давяраюць?

— Я ведаю, што прыйдзе час — і ўсё выйдзе наверх. Але мне крыўдна, што яна можа, Марцін, думаць пра мяне такое...

Старшыня ўбачыў наперадзе цёмную статную постаць Насці, што стаяла на дарозе, відаць, чакала іх, і выпусціў Аленіну руку.

— Заўтра пачнём малаціць,— перавёў на другое гаворку Марцін.— Твая брыгада, Алена, пойдзе першая. Апавясці людзей на заўтра.

Насця падалася насустрач ім і пайшла поруч.

Уперадзе нечы ласкавы голас журботна, цягуча заспяваў:

Вецер вее, ой, вецер вее, ды вецер па-а-вява-ае,
Ой, вецер вее, вецер павявае!..
Ма-аці ў до-оні дый пра долю пыта-а-е.

Некалькі жаночых і мужчынскіх галасоў падхапілі дружна, суладна.

— Прыходзь сягоння ўвечары да мяне,— сказала Насця Алене.— Толькі не баўся вельмі дома. Павел прыехаў. І ты, Марцін, не спазніся...

— Я ўжо чула, што прыехаў...— Алена схапіла Насцю за руку.— Які ён цяпер?

— Усё такі ж...— спакойна адказала Насця.— Учора, позна ўвечары прыйшоў. Спазніўся на пасажырскі, дык ён да таварнага прычапіўся!

— Прыехаў!.. Радуешся?

Сказала і падумала: якое глупства пытацца пра гэта. Вядома, радуецца. І раптам радасць Алены патухла. Сэрца апаліў боль. Павел прызываўся ў армію разам з Андрэем, у адзін дзень, на адной машыне ехалі яны ў горад. І служылі паўгода ў адной часці, пакуль не раніла Андрэя на фінскай вайне. Са шпіталя

ён вярнуўся ў другую часць,— і з той пары таварышы не бачыліся.

«Мой Андрэй не прыедзе...» Навеяны Паўлавым зваротам, у яе памяці зноў яскрава і жыва паўстаў вобраз Андрэя, шчаслівыя дні замужжа. Яны на час выцеснілі радасць, што прынёс Марцін.

— Чаго ж ты прыйшла на работу? — з дакорам і здзіўленнем папракнула Алена.— Сем жа год не бачыла.

— Ну дык што? Цяпер жа ён нікуды не дзенецца. Праўда, Марцін? — Вочы яе, было відаць, хітра заблішчалі.— Дома будзе, яшчэ і надакучыць, хопіць часу... Я ўчора, як даведалася пра жняярку, раззлавалася на хлапчанё тое. Праз яго, нягоднага, цэлага паўдня страцілі. Раззлавалася на яго, а сама думаю — хіба я лепшая? Сабрала людзей сваіх — ды на выручку. Пашчыравалі разам, нібы адлягло ад сэрца...

Яна сціхла на хвіліну, а потым проста, нібы гаворка ішла пра нешта самае звычайнае, сказала з усмешкаю:

— Разышліся, як чорныя хмары, а сышліся, як ясны дзень.

— Я не рабіла таго, што ты на мяне ўзвяла...

— Ты гаворыш, нібы вінаватая... А я не люблю каяцца. Каянне, кажуць, позна ходзіць...

— Ты верыш, што не я?

— От якая ты. Не веру, а ведаю.

— Як гэта ведаеш? Ты ведаеш — хто?

— Ведаю. Не ты! — засмяялася Насця.

— Ты ўсё рагочаш! А мне не смешна...

— Каяцца позна, а падумаць пра гэта, можа, і не лішне,— сказаў Марцін.— Трэба дбаць не толькі пра сябе. Не адна ты ў калгасе. Даражыць трэба, адным словам, сям'ёй нашай...

Наперадзе ў дзіўным месячным прыцемку шырокі і моцны голас усіх жней, падтрымаўшы ласкавы задумлівы альт, журыўся:

> Шэры гусі, ой шэры гусі дый на моры начуюць.
> Ой, шэры гусі дый на моры начуюць.
> Яны маё, ой, яны маё дый усё горачка чуюць.

Насця таксама заспявала ціха, лёгка, але без пачуцця. Раптам яна сціхла:

— Пра сям'ю ты правільна гаворыш, Марцін... Каб думала я пра яе, не стала б узводзіць на Алену такое без доказу... і жняярку не ўзяла б...

Яна абняла сяброўку.

— Шчаслівая ты, Настуля,— прамовіла раптам з тугою і задуменнасцю Алена.— У сарочцы нарадзілася. І прыгожая, і ўдачлівая. І чалавек жывы... Усюды ты шчаслівая!..

— От нашла што казаць! Дык ты прыйдзеш, Алена?..

— А як жа, прыйду...

# ТАВАРЫШЫ

## I

— Больш ніхто не хоча выступіць? Ніхто... Тады будзем галасаваць. Ёсць адна прапанова — абвясціць вымову. Хто за яе — падыміце рукі...— Гаўрыльчык, які быў за старшыню сходу, стоячы за сталом, абвёў позіркам пяцярых чалавек, што сядзелі ў пакоі.— Усе. Апусціце рукі. Аднагалосна... Абвяшчаем вымову...

Хвіліну была неспакойная цішыня. Хтосьці варухнуўся, важка зарыпела крэсла.

Гаўрыльчык узяў са стала лісток, на якім быў напісан парадак сходу, каб прачытаць другое пытанне,— Баклан падняўся і павольна пайшоў да дзвярэй.

— Ты куды? — пачуў ён ужо за спіною голас Гаўрыльчыка.

— Пакурыць...

Баклан стараўся ісці спакойна і ўпэўнена, як чалавек, які не зважае на тое, што пра яго гавораць, ведае сабе цану. Вайсковыя хромавыя боты яго стукалі цвёрда і моцна, і ўсе, хто быў на сходзе, павярнуліся на гэты стук і сачылі ўслед.

Бразнуўшы дзвярыма, ён апынуўся ў цёмным калідоры сам-насам. Спыніўся, закурыў, але, разы са два пацягнуўшы, кінуў папяросу на падлогу і наском бота расцёр. Мімаволі падумаў, што хоць і хацеў здавацца на сходзе спакойным, усё-такі хваляваўся, перажываў. Прыкра было адчуваць, што іншыя заўважылі ўсё гэта, і ён цяпер лаяў сябе ў думках.

З пакоя даходзіў роўны, сіплы, нібы прастуджаны, голас Зубца, парторга. Баклан абыякава прыслухаўся — гаворыць пра зімовыя нарыхтоўкі лесу для данбаскіх шахт.

Прыгадаліся апошнія словы Гаўрыльчыка, якімі той закончыў абмеркаванне яго, Бакланавай, справа-

здачы: «абвясціць вымову...» «Абвясціць вымову...» Баклан аж хмыкнуў: гэтыя словы здаваліся ў дачыненні да яго такімі дзіўнымі, недарэчнымі. «Вымову — мне?!.»

Ён хвіліну пастаяў нерухома, нібы чакаў адказу на сваю думку, потым, не дачакаўшыся, выйшаў на двор.

Жоўтае святло з акна падала на змятую мокрую, з цьмяным, масленым водбліскам траву, падымалася на завостраныя штакеціны агароджы. Ідучы праз двор, Баклан на міг азірнуўся на акно і ўбачыў у ім рослую, з тонкай шыяй, з вузкімі віслымі плячыма, постаць Зубца.

Гэтая вымова — галоўным чынам праз Зубца, які ўжо даўно настойваў, каб паставілі Бакланаву справаздачу, а цяпер, на гэтым сходзе, выступаючы першым, кідаў калючымі словамі: «адарваўся ад жыцця», «зазнаўся»... «заспакоіўся»...

У іх даўно былі нелады, у Баклана з Зубцом. Зубец даўно ўжо чапляўся да яго, назаляў бясконцымі размовамі, папрокамі. «Дабіўся свайго! Павярнуў усіх, як хацеў!..» — падумаў са злосцю Баклан і дадаў з пагардай: — «Герой тылу!» Ён, праўда, тут жа ўспомніў, што Зубец таксама ваяваў недзе на фронце, але адразу ж падтрымаў сябе: як ён там ваяваў — нікому невядома. Нешта ж дзіўна не любіць ён гаварыць пра гэта. Відаць, ваяка быў такі — лепш не успамінаць... «Герой тылу!..»

Баклан даволі далёка адышоў ад канцылярыі, калі схамянуўся, падумаў, што час вярнуцца на сход. Аднак вяртацца не хацелася, і ён паволі пабрыў дахаты.

Дома была маці, маўклівая жанчына з уважлівымі чорнымі вачыма,— яна вязала сыну з белай шэрсці шкарпэткі на зіму. Старая чулым мацярынскім позіркам адразу заўважыла, што сын нечым занепакоены.

— Што з табою, Вася?

Васіль,— каб не дапытвалася,— буркнуў як мог абыякава: нічога...

Ён падышоў да стала і, рассеяна пазіраючы на свае фотакарткі, што ў некалькі радоў ільсніліся на сцяне, думаў узрушана.

Кепская ў людзей памяць. Ці даўно Баклан зняў з гэтага шырокага афіцэрскага пояса, які ён і цяпер носіць, трафейны «вальтэр», ці даўно куляліся пад адхон вагоны апошняга нямецкага эшалона, спушчанага Бакланам,— а вось сёння яго папракаюць ужо за тое, што ён носіцца са сваімі партызанскімі заслугамі.

Ён адчуў сябе пакрыўджаным і адзінокім і ад душы пашкадаваў, што поруч няма таварышаў з тых незабыўных дзён.

Позірк Васіля мімаволі спыніўся на фотакартцы, дзе ён быў зняты з камандзірам атрада. Кавалевіч сядзіць, прытуліўшыся шырокай спіною да таўшчэзнага камля, а ён, праслаўлены падрыўнік, на кукішках паказвае штосьці на карце, дакладвае пра вынікі аперацыі на «жалезцы».

Баклан раптам прыгадаў, што не бачыўся з Кавалевічам вось ужо два гады, ад таго, як партызаны разышліся па калгасах, па розных установах выконваць новыя, мірныя заданні. Воблік камандзіра, Івана Савіча, пастаў перад ім так яскрава, нібы толькі ўчора яны рассталіся.

Баклану захацелася раскрыць перад ім свае думкі, падзяліцца сваёю крыўдаю. Хто, як не Кавалевіч, зразумее і ацэніць усё па-сапраўднаму.

Ён дастаў з палявой сумкі, што вісела на сцяне, як насупамятка былых дзён, лісток паперы, сеў за стол і пачаў адразу хутка пісаць — ламаным няраўным почыркам: «Пісьмо ад вядомага табе падрыўніка Баклана...»

Аловак у цвёрдай яго руцэ не пісаў, а выціскаў на паперы рэзкія, адрывістыя літары. «Сэрца» алоўка некалькі разоў крышылася. Баклан нагадваў тыя слаўныя дні, калі з Кавалевічам біў гітлераўцаў, скардзіўся, што некаторыя хутка забылі людзей, якія зламалі хрыбет фашысцкаму зверу, што яго, камандзіра-падрыўніка, тут заціраюць... У гэтым месцы «сэрца» алоўка зламалася. Баклан завастрыў аловак і стаў пісаць далей.

Увесь ліст — чатыры старонкі са сшытка — ён напісаў адным дыханнем. Ліст быў гарачы, бязладны; адна думка перабівала другую.

Напісаўшы, Баклан адчуў прыемную палёгку, быццам радкі ліста забралі ўвесь цяжар, што зваліўся на

сэрца пасля сходу. Вымова... Няхай — вымова. Ці варта яму вельмі непакоіцца праз гэта. Тыя, хто даў яму спагнанне,— людзі звычайныя, не выдатныя нічым, нераўня яму...

На заўтра ўранку ён занёс ліст на пошту.

...Калі Баклан вярнуўся, то неспадзявана стаў разважаць — ці трэба было пра ўсё пісаць Кавалевічу. Яго пачало тачыць сумненне: а можа, Кавалевіч таксама забыўся. Столькі часу прайшло. Так усё змянілася. Новая праца, новыя таварышы... Гэта было б горка — расчаравацца ў камандзіру, бо Баклан вельмі верыў яму.

Праходзілі дзень за днём, а адказу на ліст не было. Ён так чакаў вестку ад камандзіра атрада, што кожны дзень пасля абеду, калі звычайна прывозілі газеты і лісты, хадзіў на пошту.

— Нешта вы зачасцілі да нас, Пятровіч,— заўважыў аднойчы загадчык аддзялення, старэнькі беленькі чалавек.— Можа, які-небудзь важны цыркуляр чакаеце?

— Цыркуляр, Майсеевіч!..— іранічна прамовіў старшыня і таямніча на вуха шапнуў старому: — Дзяўчына ў мяне ў горадзе ёсць... Абяцала пісаць і — хоць бы слова!..

— А, вер ты цяпер дзяўчатам!..

Тым часам у гэтыя дні Баклана ўсё больш апаноўвала няўпэўненасць, не вядомая яму раней.

Ён пачынаў у глыбіні душы адчуваць, што, як ні прыкра, трэба прызнацца, што ён памыліўся, што мае рацыю не ён, а іншыя — якія галасавалі за вымову.

Сумненне пачало змяняцца непакоем. Цяпер Васіль стаў часам пабойвацца прыезду Кавалевіча.

Кавалевіч яшчэ, чаго добрага, дадасць да ўсяго. Партыйнага сходу, скажа, не паслухаўся. Распусціўся... Забыў пра абавязак перад камсамолам, перад партыяй...

Цяпер, пасля сходу, бачылі, ён стаў нейкі стрыманы, паглыблены ў сябе. Пачаў больш прыглядацца да жыцця ў калгасе. Праверыў, як трымаюць у свірне насенне, і выявіў у ім многа вільгаці. Ну і дасталося кладаўшчыку ад старшыні: доўга будзе помніць, нядбалец. Некалькі дзён пасля гэтага Баклан зноў заходзіў сюды, сачыў, як ідзе прасушка. Выклікаў да сябе ў

канцылярыю ўсіх людзей, якія мала хадзілі на працу, гаварыў з кожным...

Часам, аднак, непакой адыходзіў. Да яго вярталася ранейшая ўпэўненасць і бесклапотнасць. «Не, Кавалевіч — не Зубцу раўня...— думаў ён.— Кавалевіч разумее, што да чаго...»

Аднойчы, так і не дачакаўшыся ліста, Баклан запрог каня і паехаў на Прыпяць да знаёмага рыбака, куды ён любіў часта наязджаць і раней. Васіль вельмі любіў, як сам казаў, «ласавацца рыбкаю»,— бывала, цэлымі тыднямі прападаў з рыбакамі на ціхіх прыпяцкіх водах. Прыемна, спакойна на рацэ, асабліва, калі багаты ўлоў, але не менш падабаліся Васілю вечары на беразе — вясёлы агонь, на якім булькоча-кіпіць у катле юшка...

Пад вечар у той самы дзень прыехаў Кавалевіч... Яго сустракаў Гаўрыльчык, Бакланаў намеснік.

## II

Як толькі пачало займацца на дзень, Кавалевіч прахапіўся. Першае, што ён пачуў, — недзе непадалёк аб дрэва бразнулі вядром, услед за гэтым працягла зарыпеў журавель. Кавалевіч адкінуў коўдру, пачаў апранацца. Можна было б яшчэ спаць: ноччу яны з Гаўрыльчыкам доўга гаварылі і разышліся толькі а чацвёртай гадзіне. Да таго ж спяшацца сёння няма куды — ён прыехаў у госці. Але Кавалевіч ведаў, што заснуць больш не зможа, гэта быў той час, у які ён заўсёды падымаўся. Кавалевіч у змроку вобмацкам знайшоў боты, хутка абуўся і выйшаў у другі пакой, дзе спаў Гаўрыльчык.

Таго ў хаце ўжо не было. Арына, Гаўрыльчыкава жонка, завіхалася пры печы, у якой лютавала прагнае полымя. Яна якраз, пазіраючы ў печ, ставіла на вілках чыгун, накрыты скавародкаю. Паставіўшы чыгун, яна кісцю рукі выцерла лоб і лагодна прывіталася з госцем. Гэта была невысокая, але дужая маладая жанчына, вельмі спакойная і павольная. На яе пухлых пяшчотных шчочках, каля кірпатага носіка, пунцавелі ад спёкі, якая патыхала з печы, два кругі. Арына сказала, што Рыгор ужо гадзіну, напэўна, як на калгасным двары.

— Па сена людзей, бачыце, трэба паслаць. Дык Рыгорка падаўся, непакоіцца, каб якой замінкі часам не было...— Яна вілкаю прыгарнула жар да чыгунка, уздыхнула.— Ой, гора мне з ім... Цэлыя дні, бывае, не загляне ў хату...

Арына падала госцю мыла ў мыльніцы з зялёнай пластмасы, стала паліваць з мядзянай конаўкі на вялікія бледныя рукі госця. Пры гэтым, не сціхаючы, увесь час гаманіла.

— ...Ну што б яму — рабіў бы за сябе, і хопіць. Гэта ж столькі людзей у калгасе, столькі клопату ў кожнага. Хіба за ўсякім дагледзіш? Дык не ж, ён да ўсяго мае дачыненне. Усюды сваё слова ўставіць!.. Баклану мала клопату... бывае... дык ён і за яго, за старшыню, стараецца... А як жа, ён, бачыце, намеснік.

Разлатыя чорныя бровы Кавалевіча насцярожана падняліся — зараз яшчэ што-небудзь скажа пра Баклана. Не, усё пра адно, пра Рыгорку свайго...

— Баклан — што ж, выходзіць, не глядзіць? — запытаўся, здавалася, абыякава Кавалевіч, далонню сціраючы з шырокага зямлістага твару ваду.

Яна адказала не адразу. Вынесла з пакоя, дзе спаў Кавалевіч, чысты з вышыванымі пеўнікамі ручнік, падала госцю. Потым махнула рукою...

— Кепска, скажу я вам, калі тваім начальнікам заслужаны чалавек. Яму хочацца то на Прыпяць, то ў горад ехаць,— ліха яго ведае, чаго захочацца чалавеку на выгодзе! — а калі што трэба, то ты рабі, Рыгорка... Прыедзе хто з райза ці з эмтээса — усе да Рыгоркі.

Яна падалася была да печы, але раптам спынілася і, павярнуўшы да Кавалевіча поўны, круглашчокі твар, бліснуўшы весела вачыма, дадала:

— Тут у нас пра яго, пра Баклана, жартуючы, кажуць: харошы старшыня — трынаццаць нямецкіх эшалонаў спусціў!

Яна засмяялася так шчыра і прастадушна, што Кавалевіч таксама ўсміхнуўся. Цяпер яна пачала зноў гаспадарыць пры печы. Рабіла яна, як і гаварыла, павольна, без мітусні.

Кавалевіч вярнуўся ў свой пакой. На дварэ цяпер сінеў негусты ранішні змрок, і ў вулічным акне былі відаць голыя кусты бэзу, што курчыліся ад вільгаці і

сцюжы, і чорныя, як бы сатлелыя, сцябліны кветак. Да Кавалевіча вярнуліся неспакойныя думкі пра Баклана.

Словы Арыны не былі для яго нечаканыя. Ён ужо ведаў пра партыйны сход, на якім слухалі справаздачу старшыні, пра адносіны старшыні да парторга,— аб гэтым яму расказаў учора Гаўрыльчык. Праўда, Рыгор гаварыў пра Баклана неахвотна і ўсяляк імкнуўся абысці гэтую прыкрую тэму. Часцей за ўсё ён адгаворваўся двума словамі — «сышоў з рэек». Аднак Кавалевіч і з тых вестак прыкладна ўяўляў сабе паводзіны Баклана, і яны выклікалі ў ім трывогу.

Баклан калісьці быў камандзірам падрыўной камсамольскай групы. Партызанскім атрадам «Смерць фашызму», у які ўваходзіла гэтая падрыўная група, камандаваў Кавалевіч. Камандзіру атрада прыйшоўся даспадобы малады начальнік падрыўнікоў за адвагу і рашучасць. Ніхто іншы, а камандзір атрада — Кавалевіч — вызначаў Баклана да ўзнагарод, Кавалевіч жа паручыўся за камсамольца-падрыўніка, калі той уступаў у партыю.

Месяцы чатыры назад Баклан стаў старшынёй калгаса. Ён у той час прыехаў з Мінска, з курсаў, на якіх правучыўся амаль год. Кавалевіч аб выбранні Баклана даведаўся на адной з абласных нарад ад сакратара райкома,— ён сказаў, што лепшага старшыні і жадаць не трэба, бо яго падрыўнік быў, акрамя ўсяго, добрым арганізатарам. І вось — на́ табе...

Неўзабаве Кавалевіч пачуў, што ў суседні пакой, бразнуўшы клямкаю, нехта ўвайшоў. Дзверы між пакоямі былі зачынены, і хто ўвайшоў, яму не было відаць, аднак ён пазнаў крокі Гаўрыльчыка. Гаўрыльчык хутка прабег праз пакой да печы, дзе поркалася Арына. «Зачакалася, мусіць, перапёлачка? Не?! Ой, няпраўда: не паверу... Я замаркоціўся без цябе...» — дайшло да Кавалевіча. Арына лагодна папракнула: «Маўчы, пасаромеўся б чужога чалавека — там жа ўсё чуваць».— «Чуваць! Што там чуваць... баязліўка ты мая!» — каб пацешыцца над Арынінай асцярогай, знарок мацней загаварыў Рыгор. Арына, мусіць, закрыла яму рот. Кавалевіч, чуючы ўсё гэта, не мог стрымаць усмешкі.

Потым Рыгор прыадчыніў дзверы ў Кавалевічаў пакой:

— Можна да вас?

— Заходзь.

На маладым абветраным твары Гаўрыльчыка асабліва выдзяляліся цікаўныя карыя вочы, падобныя на два спелыя жалуды. Ён быў апрануты ў суконны пінжак, з-пад якога віднелася вышываная чырвоная манішка; сінія армейскія штаны былі запраўлены ў кароткія, з шырокімі халявамі, старыя боты.

— Ну, накіраваў людзей па сена,— сказаў ён павольна, з выразам заклапочанага нечым чалавека.— Сёння адправілі сем падвод. Паехалі далёка, аж у Церамоскае. Адсюль кіламетраў сем, мусіць, будзе... Што гэта вы так рана ўсхапіліся, Іван Савіч?

Куточкі строгіх, рэзка акрэсленых вуснаў госця ледзь прыкметна задрыжалі ад затоенай усмешкі: гэта перад ім той самы гарэзны хлопец, які толькі што жартаваў з жонкаю. Паважнеў, нахмурыўся...

— Ты ж яшчэ раней устаў,— адказаў Іван Савіч.

— Раней то раней. Але мне нельга спаць, Іван Савіч, я на рабоце. У мяне клопаты. Тут, здаецца, рад паспаць бы яшчэ гадзінку, дык думкі розныя раскатурхаюць да часу. Падымаюць самі. Як кажуць: каму прырупіць — вочы пралупіць. А вы — госць, птушка вольная, прыехалі ў адпачынак, пагуляць, дык гуляйце.

«З майго атрада»,— падумаў мімаволі Кавалевіч. Ён раптам заўважыў, што з учарашняга дня, з сустрэчы, стаў неяк асабліва ганарыцца тым, што Гаўрыльчык з яго атрада. Баклан і Гаўрыльчык былі ў адной групе, першы — камандзірам, а другі — байцом. Гаўрыльчык таксама лічыўся ў атрадзе някепскім падрыўніком, хоць і не было ў яго паводзінах такой кідкай адвагі і шумлівасці, як у яго камандзіра. Ён усё рабіў ціха, проста, нічым не вылучаючыся з дзесяткаў другіх, такіх жа малапрыкметных людзей...

Арына паклікала снедаць. Кавалевіч прыпыніў Рыгора.

— Баклан яшчэ не прыехаў?

Па тым, як Кавалевіч запытаў, Гаўрыльчык здагадаўся, што той нецярпліва чакае Баклана.

— Не... няма,— вінавата адказаў Рыгор, нібы ён быў вінен, што Баклан не прыехаў.

Пасля снедання пайшлі на поле паглядзець, ці добра ідзе малацьба. Кавалевіч прыехаў сюды не толькі для таго, каб пабачыцца з Бакланам,— яму таксама хацелася даведацца, як жывуць яго таварышы-партызаны, як цяпер выглядаюць мясціны нядаўніх баёў.

Быў хмурны асенні дзень. Здавалася, што збіраўся дождж,— паветра было насычана вільгаццю; нізка плылі кашлатыя цёмныя хмары. Поле пласталася голае, аднастайна-пустое, але цяпер гэта не кідалася так у вочы, як адразу пасля жніва,— надышоў лістапад. Уводдалі чарнела шырокая лапіна ворыва.

Малатарня стаяла сярод поля, каля дзвюх сціртаў. Адна з іх, стромкая і высокая, накрытая саломаю, была яшчэ не распачата, а другую ўжо больш чым напалову змалацілі. На ёй завіхалася некалькі жанчын, падаючы снапы да малатарні.

Людзі, што працавалі на зямлі, пабачыўшы каля малатарні Гаўрыльчыка і Івана Савіча, прывіталіся. Жанчыны, якія стаялі на сцірце, крычалі штосьці вясёлае, прыветнае, але Кавалевіч не мог разабраць ні аднаго слова, бо замінаў гул трактара і стукат малатарні. Былога камандзіра тут добра ведалі — у яго атрадзе было многа калгаснікаў з гэтай вёскі.

Малатарня ні на хвіліну не спынялася. Сноп за снопам глытала прагная зяпа машыны, людзі ледзьве ўпраўляліся накарміць гэтую ненажэру — усё падавалі ды падавалі. Сочачы за калгаснікамі, што спрытна ўвіхаліся каля малатарні, Кавалевіч нібы набіраўся новых сіл, адчуваў сябе маладзейшым і дужэйшым. Трывожныя думы пра Баклана непрыкметна развеяліся.

Адначасна Кавалевіч з цікавасцю назіраў за намеснікам. Гаўрыльчык, хоць і быў вельмі рады, што Кавалевіч задаволены тым, як працуюць пры малатарні, не выказваў гэтага.

На людзях Гаўрыльчык знарок марудзіў, стрымліваў прыродную жвавасць, якая толькі зрэдку авалодвала ім, стараўся паказаць сябе сталым і разважлівым чалавекам. З выгляду непрыкметны і прастадушны, з наіўным позіркам адкрытых вачэй, ён падпарадкоўваў

усіх спакойнай упэўненасцю і развагай, якія прыходзяць толькі з гадамі і вопытам.

«Як ён пасталеў!» — не адзін раз падумаў Іван Савіч, назіраючы задаволена за былым падрыўніком. Ён памятаў, які́м быў Гаўрыльчык у атрадзе, і ўсё не мог звыкнуцца, што з таго зялёнага хлопца вырас такі чалавек.

## III

Непрыкметна гадзіна за гадзінаю прамінула паўдня. За гэты час яны пабылі на полі, каля Чорнага лесу — праверылі, як трактарыст арэ ржышча... Кавалевіч да ўсяго ўважліва прыглядаўся, нібы ён быў не госцем, а гаспадаром.

Спачатку з раніцы Іван Савіч шкадаваў, што не застаў старшыні дома. Аднак новае знаёмства, з Гаўрыльчыкам, той светлы працавіты настрой, які перадаўся яму ад калгаснікаў і не пакідаў увесь час,— усё гэта неспадзявана ператварыла яго вымушанае, здавалася б, непрыемнае чаканне ў радасць. Ён так захапіўся тымі праявамі, якія бачыў навокал, што непрыкметна для сябе амаль забыўся пра Баклана.

Толькі раз, калі абодва ішлі з іржышча, Іван Савіч ні з таго ні з сяго запытаў:

— Дык як вы жывяце з Бакланам цяпер... пасля вымовы?

— Як жывём?! Вядома. Пакрыўдзіўся ён. Амаль перастаў са мной гаварыць. А я — што, хіба я што злое меў да яго? — сказаў Гаўрыльчык, нібы апраўдваючыся.— Мне і самому, паверыце, шкада яго,— я ж ведаю, хто такі Баклан...

— Пакрыўдзіўся, значыцца?.. — адгукнуўся дзіўна Кавалевіч.— І на цябе пакрыўдзіўся...

Пад вечар Рыгор павёў Кавалевіча да зруба, каля якога цесляры збівалі кроквы. Зруб быў складзены, відаць, зусім нядаўна: жоўтыя ачэсаныя бярвенні яшчэ не паспелі ні пацямнець, ні патрэскацца. Дзе-нідзе на іх выступілі светлыя, клейкія, падобныя на парэчкі, бурштынавыя пацеркі смалы.

Заставалася паставіць кроквы, накрыць хату ды зрабіць, як кажуць будаўнікі, «сталярку» — вушакі, рамы, дзверы.

— Для Кацярыны будуем,— сказаў Рыгор.— Помніце, у Марцінавай роце быў Гаравец Васіль — то яе чалавек... Загінуў, калі мы бралі Балачанскі гарнізон...

Пад нагамі весела трашчалі свежыя, яшчэ вільготныя, трэскі. Каля сталюгі некалькі цесляроў, нагнуўшыся і расставіўшы ногі, цясалі бярвенні. У паветры стаяў моцны, казытлівы пах смалы. Каля цесляроў хадзіў белагаловы хлопчык гадоў дванаццаці — ён збіраў у кошык трэскі. Напэўна, маці прасіла прынесці, каб падпальваць дровы ў печцы...

У гэты час непадалёк пачулася пералівістае конскае ржанне, непаспешлівае, лянівае пастукванне колаў.

— Баклан едзе,— прамовіў Рыгор, прыслухоўваючыся.— Звер, Бакланаў конь, іржэ... Эх, якая галасістая жывёліна, што свісток паравозны!..

Гаўрыльчык не памыліўся. Сапраўды, праз хвіліну-другую з-за зруба выехала новая лёгкая каламажка з шыракаплечым чалавекам у вайсковай вопратцы, які прыгорблена сядзеў на драбінцы, звесіўшы ногі.

— Баклан! — паклікаў Рыгор.

Баклан спыніў каня. Саскочыў з драбінак, зачапіў лейцы за абгарэлы слупок ад агародчыка, уцалелы пасля пажару, і, сцябаючы па хромавай халяве пугаўём, неахвотна, уразвалку пайшоў да намесніка. Ён абыякава акінуў позіркам сваю гімнасцёрку, адкалупіў камячок гразі, што закарэў на рукаве.

Толькі падыходзячы да намесніка, падняў вочы:

— Савіч?!

Баклан адразу перамяніўся. Куды падзелася абыякавасць,— парывіста кінуўся да Кавалевіча, на ўсю сілу сціснуў яго ў абдымку.

— Ну, мядзведзь! Рэбры паломіш! — застагнаў, усміхаючыся, Іван Савіч.— Хто ж гэта так бесцырымонна з гасцямі абыходзіцца. Гэтак і задушыць, чаго добрага, нядоўга!..

— Так табе і трэба! — не выпускаў Баклан былога камандзіра з абдымку.— Будзеш ведаць, як наведвацца раз у два гады...

Шэрыя смелыя вочы, амаль бязбровы, пакрыты густым чарнаватым загарам твар. Крутыя ўпартыя скі-

віцы са шрамам... Няўжо гэта не той самы Васіль, якога ён ведаў і любіў у атрадзе?

Баклан адышоў, падазваў да сябе хлопца-цесляра, штосьці паціху сказаў яму. Хлопец уткнуў сякеру ў бервяно і, падаўшыся да калёс, адчапіў лейцы; неспакойны конь крануўся, выгінаючы дужую шаўкавістую шыю.

Баклан вярнуўся да госця.

— Ах, каб ты быў, Іван Савіч, няладны! Я ж столькі часу цябе чакаў! І хоць бы адно слова ў адказ! Я ўжо быў падумаў, што і зусім не адкажаш. Зазнаўся, думаю... Пабачыў цябе побач [redacted] Гаўрыльчыкам — і не пазнаў: не інакш начальства [redacted] раёна. Я тут у пашане, можна сказаць... яны да мяне часценька заглядаюць...

Ён зарагатаў. У Кавалевіча мільганула думка — Баклан таксама змяніўся за гэтыя два гады. Праўда, ён не мог сказаць, што гэта за перамена такая...

Баклан па-прыяцельску абняў камандзіра:

— Як гэта ты добра зрабіў, што прыехаў! Самым дарагім госцем будзеш!.. За тое, што пачатак атрымаўся такі няўдалы, не крыўдуй: не ведаў, што прыедзеш... Ну, але мы гэту хібу зараз паправім! Правільна, Рыгор?.. Дарэчы, Іван Савіч, нашто нам час марнаваць,— хадзем, свежай рыбкай пачастую, толькі што вось прывёз... А рыбка сёння — пальцы абліжаш!.. Згодзен?

Кавалевіч кіўнуў галавою ў знак згоды:

— Добра. Толькі, Васіль, пачакай хвіліну. Мы з Рыгорам у хату сабраліся зайсці.

Яму хацелася агледзець хату ўсярэдзіне — як прыгнаны адно да другога бярвенні, дзе будуць пастаўлены грубка і печка, ці сагрэюць яны хату. Іван Савіч меў звычку — усё бачыць сваімі вачыма. Тым больш ён не мог быць абыякавым цяпер,— перад ім была хата, якую будавалі для сям'і яго баявога таварыша.

— Як тут у цябе, Васіль, з цэглай: для печы і грубкі? Ёсць? — запытаўся Іван Савіч у старшыні, калі яны пераступілі дубовую падваліну пад прарэзам дзвярэй.— Трэба б паспець да марозаў скончыць.

Ці ёсць цэгла, Баклан не ведаў. Яго выручыў Рыгор, які сказаў, што цэглы цяпер у калгасе няма, бо тая, якую раней атрымалі з завода, ужо разышлася.

— Заўтра паеду ў выканком. Папрашу даць яшчэ...— заўважыўшы, што Кавалевіч нездаволены такім няпэўным адказам — «папрашу», паправіўся: — Адным словам, цэгла будзе.

— Так бы і сказаў адразу!

Іван Савіч ведаў — цэгла будзе. Рыгор прамовіў гэтыя словы такім тонам, што нельга было не паверыць.

Калі яны выйшлі з хаты, цесляры, цягнучы за доўгую вяроўку, падымалі на зруб першыя кроквы. Вяроўка паволі паўзла па верхняму бервяну, нібы па блоку. Кавалевіч хвіліну зацікаўлена пазіраў на цесляроў, потым, як бы схамянуўшыся, пapляваў на рукі і сам узяўся каля аднаго хлопца за вяроўку. Гаўрыльчык, а за ім і Баклан далучыліся да яго. Тры таварышы і цесляры дружна пацягнулі вяроўку. Людзі, што працавалі ўгары на зрубе, паставілі крокву і прымацавалі ніжнія, з выразамі, канцы яе да верхніх бярвенняў. Кавалевіч ужо доўгі час не працаваў у калгасе і цяпер, у гэтыя хвіліны, адчуваў сябе радасна, па-святочнаму.

Калі паставілі пяць краквaў, стары, з ружоваю лысінай і падстрыжанай бародкай, цясляр весела крыкнуў:

— Мо няхай астынуць сякеры?.. Годзе, хлопчыкі, перакурым хвіліну...

Седзячы ўгары на верхнім бервяне зруба, ён скруціў з абрыўка газеты цыгарку. Дастаючы з кішэні гімнасцёркі карабок з запалкамі, папрасіў Гаўрыльчыка:

— Цвікоў бы вялікіх, таварыш намеснік! Цвікі канчаюцца! Бачыце, кроквы дроцікамі пачалі збіваць...— Ён выняў з кішэні падобны на цвік абсечак тоўстага дроту.

— Ведаю, дзядзька Пятро. Заўтра ў раён еду — буду стукаць там. А пакуль — дроцікамі трэба. Сам ведаеш, цвікоў столькі расходзіцца, што хоць ты завод у нашым сяле адчыняй!..

Цясляр засмяяўся, кіўнуў у знак згоды галавой:

— Правільна сказаў — цэлы завод трэба!..

«І гэты да Гаўрыльчыка,— заўважыў Кавалевіч,— а не да Баклана...»

Яму здавалася, што дзядзька Пятро запытаўся ў намесніка не выпадкова.

IV

Пайшлі да Баклана ўтрох. Адсюль хата яго стаяла недалёка, на ўскраі сяла.

Іх спаткала на ганку Васілёва маці, прыветлівая жанчына са светлымі, ледзь прыкметнымі, як у сына, брывамі. На галаве ў яе была новая пярэстая хустка з махаркамі. Старая чакала гасцей,— дачуўшыся ад хлопца, які прывёз рыбу, што прыехаў сынаў камандзір, яна пачала адразу смажыць і пражыць, напякла цэлую гару дранікаў.

Пакуль збіралі на стол, Кавалевіч разглядаў фотакарткі, што віселі над сталом. Карткі амаль усе былі новыя, пасляваенныя. Некалькі маленькіх захавалася і з партызанскага часу: гэтыя памятыя і невыразныя,— відаць было, рабіў неспрактыкаваны чалавек. На адной картцы, устаўленай у рамку вішнёвага колеру, пад шкло, Кавалевіч убачыў сябе: ён, седзячы пры камлі, слухае партызана, які на кукішках нешта паказвае на памятым лісце паперы. Партызан зняты са спіны, але па абрысах постаці не цяжка пазнаць, што гэта Баклан.

Побач другі здымак, таксама ў рамцы, але на ім зняты Баклан адзін. На грудзях бялеюць ордэны і медалі. Картка зроблена пасля вайны, можа, пасля атрымання апошняга ордэна. Вось яшчэ два такія самыя здымкі, толькі што без рамак; яны пажоўклі. А вось тут Баклан зняты ў адных штанах, закасаных вышэй каленяў,— ён стаіць у вадзе і, весела ўсміхаючыся, трымае за галаву вялізнага шчупака. Шчупак бездапаможна расчыніў вострую драпежную пашчу,— напэўна, калі здымалі, ён быў яшчэ жывы. На другой сцяне здымкі з газет. «Уся біяграфія ілюстравана»,— падумаў мімаволі Іван Савіч.

Баклан дастаў са скрыні дзве літровыя пляшкі. Паставіў на стол, падміргнуў таварышам:

— Хопіць гаручага?.. Усё роўна як чуў, што госці прыедуць, прызапасіў.

Ён задаволена акінуў вачыма стол. Кавалевіч не можа пакрыўдзіцца, што сустрэў яго не так, як трэба. Вось хіба нядобра, што не спаткаў адразу. Але ж ён не ведаў, што камандзір прыедзе; а каб ведаў, то падводу нават паслаў бы насустрач, на станцыю.

Перш выпілі за спатканне, потым за Бакланаву маці. Трэці тост паднялі за атрад «Смерць фашызму». Бакланава маці, якая таксама выпіла чарку за спатканне, устала, пакінула таварышаў адных.

— Ноч. Сцюжа... Месяц, як знарок, каб ён быў няладны...— пачаў Баклан,— а ты дзяжурыш дзе-небудзь каля «жалезкі», цікуеш. Падабраўся да рэек, хутчэй разгроб шчэбень, падставіў шашачку, адбег... І вось, паравоз — чы-чы-чах, чы-чы-чах... Вагоны адзін за адным ляцяць — гарматы, заваёўнікі. На ўсход спяшаюцца, па «сусветную прастору»... І раптам — г-га-ах! Усё к чорту, адразу! Р-работка!

Баклан, ахмялелы ад гарэлкі, ад успамінаў, не гаварыў, а грымеў — «г-га-ах», «р-ра-а-ботка». Ён ад узрушання прыўзняўся, на грудзях, нібы ў пацверджанне яго слоў, зырка бліснулі два ордэны і тры медалі.

Цяпер, калі Баклан зноў убачыў перад сабою камандзіра атрада, калі з такой хвалюючай яркасцю ажыло былое, трывожныя думкі і няўпэўненасць пакінулі яго. У іхніх адносінах, здалося яму, нічога не змянілася: Кавалевіч быў такі, як і раней, блізкі, «свой». Да Баклана зноў вярнуліся звыклыя прыемныя думкі, якія адна за адной пачалі знікаць пасля партыйнага сходу. Тая слава, якой Баклан ганарыўся, цяпер зноў заззяла ў яго вачах, засланіла сабой усё іншае.

Падрыўніка захапілі ўспаміны. Ён стаў прыгадваць баі, паходы на «жалезку».

Аднак Кавалевіч, які, бывала, сам любіў успомніць і пагаварыць пра «тыя дні», на гэты раз слухаў успаміны абыякава. У яго быў сёння багаты новымі, яркімі ўражаннямі дзень, яго думкі ўвесь час кружыліся вакол таго, што ён бачыў на ржышчы, каля малатарні, каля зруба. Думкі гэтыя не давалі спакою, нецярпліва біліся вонкі.

Гаўрыльчык здагадваўся, аб чым хочацца гаварыць госцю, і спрабаваў змяніць гаворку, але Баклан не заўважаў нічога. Ён у другі раз стаў апавядаць пра тое, як падарваў мост на Тур'і, па якому праходзіла захопленая ворагам чыгунка.

— Досыць ужо, Васіль, пра гэта... Мы ж ведаем усё і самі...— перапыніў нарэшце Іван Савіч старшыню.— Ды і чаго тым хваліцца столькі!

Ён падумаў, што гаварыць так таварышу, з якім даўно не бачыліся, нядобра, але не хацеў крывіць душой. Баклан ад нечаканасці асекся, не адразу знайшоўся, што сказаць.

— Новым пахваліцца? — прамовіў ён пасля.— Чым жа пахваліцца? От ліньaccount, бачыце, прывёз з Прыпяці... Сам налавіў, сваімі рукамі! — паспрабаваў Васіль звесці гаворку на жарт.

Кавалевіч ад гэтага жарту спахмурнеў.

— Ліньkoў, кажаш, з Прыпяці прывёз? Сам сваімі рукамі налавіў? Што ж, ліньkі смачныя — не га́ню. За ліньkі, Васіль, дзякуй!..

Ён змоўк. Баклан толькі цяпер заўважыў, што Кавалевіч нібы чымсьці незадаволены. «Відаць, я вельмі выстаўляў аднаго сябе»,— вытлумачыў па-свойму Баклан і рашыў паправіць памылку.

Ён наліў шклянку, устаў:

— Я хачу, Рыгор, сказаць яшчэ адно слова. Гэта слова, вядома, пра нашага Івана Савіча... Хоць перад намі зараз сядзіць цывільны чалавек, мы не забылі, якім быў Іван Савіч у лесе. Помніш, Рыгор? Вядома, помніш. І ўсе мы помнім, кім быў для ўсіх нас у тую пару Іван Савіч. Ён быў і бацькам, і камандзірам. Ён нас з табой зрабіў салдатамі... Адным словам, вып'ем за нашага камандзіра!

— Не хачу,— Кавалевіч адсунуў ад сябе шклянку.— Не хачу... Я не камандзір...

Можа, другім разам ён і не пярэчыў бы супроць таго, каб памянуць добрым словам сваю камандзірскую славу, але цяпер гэты тост яму не спадабаўся. Кавалевічу здалося, нібы яго пакрыўдзілі.

Стала ціха. Баклан апусціў шклянку, недаўменна паглядзеў на Кавалевіча. Іван Савіч, каб выправіць няёмкае становішча, прапанаваў свой тост — за жыццё, кіпучае, імклівае, поўнае працы і змагання! Яны выпілі.

Аднак размова ўжо не ладзілася. Усе зрабіліся маўклівыя, кожны думаў пра штосьці сваё. Баклан, які раней быў такі гаваркі, самаўпэўнены, цяпер, адчуваючы Кавалевічаву непрыхільнасць, не знаходзіў слоў для размовы.

«Кепска неяк атрымалася»,— думаў з тугою Баклан. Ён вельмі даражыў сяброўствам з камандзірам.

У гэты час Іван Савіч быў яму асабліва дарагі, таму што Баклан адасобіўся ад іншых сяброў. Знешне, праўда, нічога нібы і не змянілася: гаварылі, віталіся, але блізкасці ранейшай не было. Баклан час ад часу адчуваў сябе адзінокім.

— Ведаю, Васіль, што табе няма чым цяпер пахваліцца, акрамя ліњкоў,— прагаварыў Кавалевіч стрымана.— На спачын, казалі мне, падаўся...

Кавалевіч устаў, узрушана прайшоўся па пакойчыку, крыху сутулаваты, але ўсё ж стройны, па-вайсковаму падцягнуты.

— Няўжо заслугі твае закрылі перад табой увесь свет? — сказаў ён, падышоўшы да стала і гледзячы цёмнымі, уважліва-дапытлівымі вачыма на Баклана; той неспакойна варухнуўся, выпростаўся, адвёў позірк убок.— Адзін чалавек сказаў мне пра цябе, што ты які быў у атрадзе, такі і цяпер... Нічога, адным словам, не змянілася. Нібы і праўда — усё ў табе ранейшае, партызанскае... Але мне здаецца — той чалавек памыліўся. Ты змяніўся, Васіль, вельмі змяніўся! Душа нібы стала іншая.

— Ты памыляешся, Савіч,— пакрыўджана перабіў Баклан.

— Памыляюся? Каб жа памыляўся! Ты сам — нібы той лінь. Тлусты нейкі, сыты... Глядзіш толькі ў сваю душу. Сябе аднаго бачыш...

«З чаго гэта ён так змяніўся?.. А можа?.. — Кавалевіч зірнуў на Баклана ўважліва і недаверліва, нібы хочучы праверыць раптоўную прыкрую здагадку.— Можа, ён і не мяняўся?» Няўжо Кавалевіч проста не бачыў, не заўважаў гэтага?!

— Скажы, ты і ваяваў толькі для таго, каб... мець заслугі?

Бакланаў твар пабялеў, ліловаты шрам на ніжняй упартай сківіцы, здалося, зрабіўся сіні. Ён рэзка падняўся.

— Не жартуй гэтым, Савіч... Прашу як таварыша!.. Ты добра ведаеш, за што я кроў праліваў...

Кавалевіч, пачуўшы гэты ціхі, напружаны шэпт, паспакайнеў.

— Я так і думаў, што не для заслуг... Ты, здаецца, проста пасля заблудзіўся,— зрок папсаваўся ад бляску




Вокладка адной з першых кніг Івана Мележа

славы. Ці, можа, галава закружылася ад хвалебнага шуму...

Ён сеў побач з Бакланам, прамовіў па-сяброўску, са спачуваннем:

— Паслухай, Васіль, і падумай добра — пакуль не позна. Я табе скажу рэч, пра якую, магчыма, мне і не трэба было б гаварыць. Але сёння я скажу. Я, калі ехаў сюды, заходзіў у райком. Там была размова і пра цябе... Ёсць у іх скаргі ад калгаснікаў на цябе... Скажу праўду, у райкоме была такая думка — сабраць калгасны сход і вырашыць, ці не час табе вызваліць месца для іншага старшыні. Я заступіўся, параіў — трэба пачакаць, паспрабаваць выправіць справу з тваім удзелам... Цяпер — твае слова. Памятай, што сказаць яго яшчэ не позна, але хутка можа стаць — позна...

Яшчэ быў вечар, калі Кавалевіч і Гаўрыльчык падняліся. Іван Савіч зняў з цвічка сваё паношанае драпавае паліто, надзеў яго, узяў кепку ў рукі. Баклан стаяў сярод хаты, панура сачыў за таварышамі.

— Ты не крыўдуй, Васіль, што сапсаваў табе вечар. Характар мой знаеш — не люблю крывіць душою...

Кавалевіч падышоў да Баклана, паціснуў на развітанне руку.

— Не думаў я, што пабачу цябе такога... Як жа гэта ты, Васіль?..

Баклан не знайшоў, што сказаць.

Не апранаючыся, правёў іх на ганак. Кавалевіч і Гаўрыльчык моўчкі сышлі па ступеньках, падаліся па вуліцы. Васіль, абапершыся плячом аб слупок ганка, бяздумна сачыў, як цемра спакваля хавае дзве пастаці.

«Пайшлі... Пайшлі...» А ён два гады чакаў гэтай сустрэчы...

Аднекуль ■ поля — чуў і не чуў Васіль — вецер даносіў аднастайнае гуркатанне трактара... Раптам унізаўся гарэзны і задорны дзявочы голас — нібы знарок:

Палюбіла трактарыста,
Ён красівы і прасты.
Называе мяне мілай
І клянецца — халасты.

Вецер сцябаў парывістымі ўдарамі, холад забіраўся ўсё глыбей. Ноч была сцюдзёная, а Васіль нават шыняля не накінуў на плечы. Але вяртацца ў хату не хацелася.

Пасля таго як Кавалевіч і Гаўрыльчык вярнуліся ад Баклана, яны яшчэ доўга сядзелі і гаварылі.

У абодвух пасля сустрэчы з Бакланам быў узбуджаны, гаваркі настрой і вострае адчуванне блізкасці. «Нібы і не расставаліся ніколі»,— падумаў Іван Савіч, заўважыўшы, што Гаўрыльчык разумее яго з паўслова.

— Дзякую табе, Рыгор. Павадзіў ты мяне, пацешыў... Радасна мне было... Так радасна, як у Лапатаўцы, калі атрад прымаў першы самалёт з Вялікай зямлі, памятаеш?

— Ну чаму ж, помню... Вы тады спазніліся на аэрадром. Нам тры разы прысылалі тэлеграмы — сустракайце. Мы выходзілі, а яго не было... Ён прыляцеў, калі мы ўжо не спадзяваліся...

— Не забыў. Сёння ў мяне такі ж радасны дзень. Багата вы зрабілі.

— Зрабілі тое-сёе,— сказаў Рыгор.

— Зрабілі. Не марна зямлю таптАлі. Не прыйдзецца чырванець за гэтыя два гады. Як і за тыя, за партызанскія...

Кавалевіч падумаў, што Гаўрыльчык правільна разумее жыццё, і яму стала спакайней. Ён адхінуўся на спінку крэсла, рукою адвёў пасму валасоў, што ўпала на шырокі круты лоб; каля рота лягла строгая глыбокая складка.

— Так, кіснуць у нас можа толькі той, хто адарваўся ад жыцця... Жыццё наша ні хвіліны не стаіць...

— Яно не дасць спыніцца...

Рыгор памаўчаў, загаварыў з пашанай:

— А вы за гэтыя два гады, Іван Савіч, вельмі пасівелі. Гэта ж ужо, не крыўдуючы, паўгалавы пабялела.

У Кавалевіча раней былі густыя чорныя валасы, цяпер белыя і чорныя ніткі ўсюды пераблыталіся, а скроні, дзе кучаравіліся падстрыжаныя валасы, быццам хапіў іней.

— Клопат, брат... Такі клопат.— Іван Савіч усміхнуўся: — Не годы малайца гнуць — клопат!..

Увесь гэты час, пасля вайны, Кавалевіч жыў неспакойным, імклівым жыццём.

Ён працаваў у абкоме партыі загадчыкам прамысловага аддзела. Аддзел быў цяжкі, гарачы. Вобласць да вайны лічылася адной з першых у Беларусі па развіццю прамысловасці. Цяпер усе заводы былі разбураны, іх трэба было аднаўляць як хутчэй, а спецыялістаў — кожнага па імені ведаў — і дзесятай часткі не было таго, што трэба. З будаўнічымі матэрыяламі таксама — кожная цагліна на ўліку.

Але будаваць трэба было, будаваць, не зважаючы ні на што. З рання да позняй ночы жыў ён гэтым — на нарадах, на будаўнічых пляцоўках, на прадпрыемствах, што ажывалі так марудна, так цяжка. Колькі б ён ні рабіў, у яго не выходзіла з галавы думка, што робіць ён усё ж мала, не столькі, колькі трэба, і ён як бы падганяў сябе.

А вось Баклан спяшацца і не думаў. Не думае...

Значыцца, праўда. Тое, у што яму не хацелася верыць, праўда: Баклан адступіўся. Ашукаў. Забыўся пра ўсё навокал — на таварышаў, з якімі ваяваў, на людзей, якія яму верылі...

V

Баклан таксама не спаў. Ён сядзеў за сталом, падпёршы галаву рукамі, і абыякава, няцямна пазіраў перад сабою. На стале каля яго стаялі талеркі з недаедзенай закускай і тры гранёныя шклянкі [illegible] недапітай гарэлкай.

На душы ў Васіля было трывожна і прыкра. У галаве ні адной думкі. Пуста. Толькі бязладнымі ўрыўкамі ўспаміны — падрабязнасці сустрэчы з Кавалевічам, словы былога свайго камандзіра.

«Ліньkoў, кажаш, з Прыпяці прывёз?.. Лінькі смачныя — іх не га́ню...» І нашто Васілю здалося пра гэтыя лінькі не ў час вякнуць?!

«Не думаў я, што пабачу цябе такога».

— Не думаў?! Ну і няхай! — Васіль раптам ускочыў, сарваў з цвіка шынель і, на хаду накінуўшы на плечы, бразнуў дзвярыма.

Маці ўстрывожана выйшла з суседняга пакоя, выбегла следам за ім у сенцы.

— Куды ты, Вася?

Ён не абазваўся.

На дварэ ў твар Васіля ўдарыў золкі вецер. Ён кінуў валасы на лоб, на вочы.

«Калі ішоў на кулі, тады добры быў,— думаў Васіль,— а цяпер — па лінькі ездзіш».

Вецер, які хвалямі налятаў збоку, то намерваўся сарваць шынель з плеч, то доўгім крысом біў па ботах, замінаў нагам.

Баклан ступаў не разбіраючы дарогі. Куды ішоў — не думаў. Ці не ўсё роўна яму цяпер — куды ісці?

Ён абражаны, пакінуты сябрамі, адзінокі.

Быў у яго адзін таварыш, самы любімы, самы справядлівы — Кавалевіч. Цяпер і той пакінуў. А ён, Васіль, на яго так спадзяваўся, верыў яму. Ашукаў Іван Савіч! Што ж, Васіль перажыве і гэтае расчараванне. Перажыве! Хоць нялёгка, відаць, будзе, але ён вытрымае і на гэты раз. Ён не хлюпік які-небудзь!

Непрыемная рэч — здрада сябра, але, калі так здарылася, яна не спалохае яго...

Ён лічыў сябе несправядліва пакрыўджаным, і гэта прыдавала яму спачатку, пакуль крыўда была балючай, моц і ўпэўненасць. Але крыўда пачала паступова як бы гаснуць.

Ён трохі паспакайнеў. Адкідваючы рукою валасы назад, ён ахвотна падстаўляў галаву дужым павевам свежага ветру. Некаторы час Васіль ішоў, ні аб чым не думаючы, аддаўшыся толькі адчуванню чыстага халаднаватага ветру. Яму прыемна было спрачацца з ветрам — папраўляць валасы, утрымліваць на плячах шынель, які вось-вось мог сарвацца...

У такі час, калі на душы было лёгка, а ў галаве ясна, ён успомніў словы Кавалевіча:

— Як жа гэта ты?

Яму так ясна прыгадаліся гэтыя словы, што ён пачуў Кавалевічаў голас. Той голас, хоць і строгі, быў спагадлівы, прыязны. Боль і таварыская крыўда чуліся ў ім. Ён апаліў сэрца. Васіль убачыў вочы — строгія, дапытлівыя — і спыніўся...

У ім нечакана з'явілася няўпэўненасць. Цяпер ужо дужаліся крыўда на Кавалевіча і жорсткая праўда

тых слоў. Баклан быў самалюбівы і таму не ўмеў лёгка прызнаваць праўду за другім чалавекам.

Задумаўшыся, ён пабрыў па вуліцы,— у хатах дзенідзе свяціліся агні. У адным акне фіранку не зацягнулі, і з вуліцы было відаць, як стрыжаны белявы хлопчык чытае кнігу. Маці і дзве дзяўчынкі слухалі хлопчыка. Баклан прайшоў паўз акно, нічога не заўважыўшы.

«Праўда — як жа гэта я?»

Упершыню за два гады ён азірнуўся назад, стаў пераглядаць тое, што рабіў. Улетку сорак чацвёртага года разам з атрадам ён вярнуўся ў вызвалены раён. Тады яго выбралі старшынёй сельсавета; былы падрыўнік амаль нічога не рабіў на сваёй пасадзе, толькі выступаў з дакладамі ды ўспамінамі аб партызанах. Сельсавет быў адсталы, але старшыню гэта не трывожыла. У райвыканкоме, шануючы яго заслугі, таксама абміналі гаварыць на гэтую прыкрую тэму.

Потым, каб паставіць старшынёй іншага чалавека, Баклана паслалі на курсы.

Ён спачатку пакрыўдзіўся, але, прыехаўшы на курсы, хутка ўсё забыў. На курсах было нават лепш — ён быў паважаным чалавекам і пры гэтым не меў асаблівага клопату.

Яго заўсёды выбіралі ў прэзідыум; з музея прыходзілі людзі, якія запісвалі ўспаміны; аднойчы заявіўся да яго мастак маляваць партрэт.

І, нарэшце, апошняе — тры месяцы таму назад яго прыслалі сюды, у гэты калгас. Старшыні пашанцавала на добрага намесніка, і ён, Баклан, па прывычцы і далей жыў бесклапотна — часта ездзіў гуляць у горад, лавіць рыбу на Прыпяць.

Яму было прыкра, няёмка ў гэтую восеньскую ноч, калі ён пачаў перабіраць свае ўчынкі за апошнія два гады. Ён здзівіўся, што не заўважаў усяго гэтага раней.

З вуліцы Васіль павярнуў на выган, адтуль праз калгасны сад зноў прыйшоў у сяло, ужо з процілеглага боку. Ён сам не ведаў, як апынуўся каля Гаўрыльчыкавай хаты. Можа, яго прывабіў агеньчык, бо гэты агеньчык свяціўся цяпер адзін на ўсё сяло. Была поўнач. Хаты стаялі чорныя і маўклівыя.

У пакоі сядзелі Кавалевіч і Рыгор. Баклана пацяг-

нула да іх. Ён ступіў да ганка, але спыніўся. Упершыню за ўсе гады іх знаёмства задумаўся, як будзе паводзіць сябе з імі, што гаварыць.

Ён пастаяў крыху і рашыў не заходзіць. Не чакаюць яго. Ды і позна.

Усё ж яму хацелася пабыць з імі, паслухаць іх. Чаму яны яшчэ не спяць? Пра што яны гавораць? Ці не пра яго?..

Васіль бачыў: Кавалевіч устаў, узрушана прайшоў па пакойчыку, схаваўся за акном. Ён тут жа зноў вярнуўся да стала, спіною загарадзіў святло. Кончыкі валасоў на яго галаве ад святла былі залацістыя.

Баклан адступіўся ад акна.

Ён пайшоў па вуліцы — непаспешліва і, здавалася, зусім спакойна. Куды яму было спяшацца?

Васіль спыніўся каля нейкага агародчыка. Абапершыся спіною аб штакеціны, доўга стаяў нерухомы і маўклівы. Збоку магло здацца, што ён спіць.

Яго абудзіў вясёлы дзявочы рогат. Потым высокі жаночы голас бесклапотна заспяваў:

Я дзяўчынка маладая,
Мне ўсяго семнаццаць лет.
Палюбіла брыгадзіра
За яго аўтарытэт...

«Чаго ёй так весела?» — з непрыхільнасцю падумаў Васіль. Ён пазайздросціў, што не можа так весела засмяяцца...

Васіль схамянуўся, адчуў, што замёрз, паварушыў плячыма ад холаду, зірнуў у неба. Там цямнелі ледзь прыкметныя абрысы хмар. Толькі каля гарызонта адзінока свяцілася зорка, але ад яе бляску Васілю стала халадней.

«Памыліўся... Хіба гэта памылка?»

Трэба было некуды ісці. Ён з намаганнем адштурхнуўся ад шурпатых, вымаклых штакецін і пабрыў прывычным кірункам дахаты.

Неўзабаве, аднак, спыніўся, пастаяў нерухома трохі, нібы раздумваючы. Ісці дамоў не хацелася.

Вецер нечакана данёс прыцішаны далечынёю гул трактара. Васілю і раней быў чутны гэты гул, але тады ён не даходзіў, не ўзрушаў, бо хлопца поўнілі неспакойныя думкі.

Цяпер Васіль стаў услухоўвацца ў гул, як у добрую, блізкую душы музыку. Ён стаяў і слухаў хвіліну-другую. Потым раптам рашуча павярнуў назад, праз вузкую вулачку хутка шырокімі крокамі пайшоў у поле, на бадзёры гул, што абуджаў цішыню.

Ён яшчэ не думаў, не ведаў, чаго туды ідзе... Сяло засталося ззаду ў неглыбокай лагчынцы. Справа, непадалёк, як нейкія дзіўныя жывёлы, чарнелі дрэвы — сад. У полі па ахутаным змрокам іржышчы хадзіў стыглы неспакойны вецер, намагаўся сарваць шынель.

Гуркатанне трактара набліжалася. Вось ужо відаць, як у яркім зарыве святла весела завіхаюцца пастаці.

Васілю зрабілася лягчэй. У сэрцы засвяцілася штосьці яснае, светлае, падобнае на зарыва каля малатарні.

Калі Баклан падышоў блізка, малатарня спынілася. «Што там?» — занепакоіўся Васіль і паскорыў крок.

Малатарня стаяла. Каля яе, акружаны людзьмі, юнак у шарсцяным світэры ■ закасанымі рукавамі, які быў машыністам, выцягваў шылам ■ разарванага паса абрыўкі ўшывальніка. Убачыўшы Баклана, людзі расступіліся, далі яму дарогу.

— Ушывальнік ад паса парваўся...— сказаў машыніст, апраўдваючыся.

— Ну, а запасных ушывальнікаў хіба няма?

— Няма...

Баклан заўважыў на сабе некалькі здзіўленых позіркаў — не прывыклі тут бачыць яго.

— Чаму няма? Ты што — не ведаў, што можа парвацца?

— От, чорт!.. Казаў жа... Няма... У МТС няма!

— Яны ўжо другі раз у яго рвуцца,— сярдзіта ўставіў нехта з жанчын.

Пасылаць за ўшывальнікам у сяло — значыць марнаваць час. Шкада часу. Але што рабіць?

Баклан неспадзявана расшпіліў свой партызанскі пояс, працягнуў машыністу. Той, не цямячы, запытальна зірнуў на старшыню.

— Рабі ўшывальнік.

Машыніст паглядзеў на пояс, пакруціў яго ў руках, любуючыся добрай глянцавіта-бліскучай скурай,

віхатлівай афіцэрскай спражкай. Ці не жартуе старшыня, аддаючы на глум такую добрую рэч. Але па позірку Баклана было відаць, што ён не жартуе і што трэба спяшацца...

Хутка пас быў сшыты. Людзі разышліся, сталі на свае месцы. Трактарыст уключыў прывадное кола «ХТЗ».

Пас крануўся, пасунуўся да малатарні, спачатку лена, павольна, пругка пакалыхваючыся, а затым — усё хутчэй, хутчэй. Падавальшчык падаў у барабан развязаны сноп. Барабан перастаў ляскатаць, зашумеў басам, натужна, старанна, цяжка. Людзі, што стаялі на сцірце і каля барабана, пачалі спрытна завіхацца. Баклан з няведамай даўно цікаўнасцю сачыў за іх хуткімі ўмелымі рукамі, адчуваючы, як імклівы тэмп гэтага жыцця захапляе, заваблівае яго. Васілю захацелася таксама падняцца на сцірту, якая пахне сухой саломай, стаць поруч з гэтымі спрытнымі людзьмі.

Ён скінуў з плеч шынель. Хвілінай пазней Васіль стаяў ужо на сцірце, падаючы сноп, і зачэпліва, ■ усмешачкай, крычаў штосьці жанчыне-суседцы.

Малатарня не спынялася, яна прасіла ўсё новых і новых снапоў. І Васіль ахвотна падаваў.

Потым Баклана бачылі каля вагі, дзе ён правяраў запісы вагаўшчыка, каля вазоў, што адвозілі поўныя важкія мяхі ў свіран, каля машыніста...

Быў ён яшчэ на ржышчы каля Чорнага лесу — правяраў, як трактары аруць уначы.

Неба на ўсходзе непрыкметна набракла пунцовай чырванню, і навокал шырока расчыніліся ціхія, паранішняму чыстыя далягляды. Паветра стала празрыстае і марознае. Ён адчуваў сябе вельмі змораным, бо даўно не шчыраваў так.

На сэрцы было па-ранейшаму неспакойна і прыкра.

З усіх думак, што прайшлі ў ім, у полі, яму асабліва запомнілася адна: «Калі ты чалавек заслужаны, то старайся быць уперадзе». Яна здавалася яму найбольш важнай і справядлівай.

Нараджаўся дзень. Ён прыносіў Баклану новыя клопаты. Трэба было ісці на двор — накіраваць на ссыпны пункт фурманкі з бульбай. Трэба было... Старшыня яшчэ не ўяўляў усяго, што менавіта трэба зра-

біць яму за гэты дзень, бо не ведаў, што рабілі ў калгасе ўчора.

З-за далёкага поля выглянула сонца. На ржышчы ад першых праменняў заблішчала раса, пераліваючыся вясёлкавымі колерамі. Баклан, стомлены і задумлівы, ішоў праз поле, падмінаючы ботамі вільготную пожню. У пераблытаных валасах яго тырчалі саломінкі. Шынель на ім, як звычайна, быў унакідку.

Уваходзячы ў сяло, каля калгаснага двара, старшыня ўбачыў знаёмую, крыху сутулаватую постаць Кавалевіча, які разам з Гаўрыльчыкам ішоў у поле. Баклан занепакоіўся, мімаволі прыкрыў шынялём ордэны.

— Як гэта ты паспеў нас апярэдзіць? — здзівіўся Гаўрыльчык.— Даўно ўстаў?

— Устаў,— усміхнуўся сам сабе Баклан.— Ды не, нядаўна... Можна сказаць, толькі што...

Яны прывіталіся.

Кавалевіч кіўнуў галавой у бок сяла.

— Ну, хлопцы ў вас! — у яго з партызанскага атрада засталася звычка называць усіх мужчын хлопцамі.

Баклан зірнуў туды і за ніклымі голымі яблынямі, каля высокай бярозы, што схіліла задуменна набок вяршалінку, убачыў зруб Кацярынінай хаты. Наверсе стаялі ўжо ўсе кроквы і да паловы, да папярэчын, быў прыбіты радамі паплёт.

Калі яны разышліся, Васіль у другі раз кінуў позірк у бок зруба. Свежааце́саныя бярвенні, як бронзавыя, блішчалі ў праменнях сонца...

# БЛІЗКАЕ І НЯБЛІЗКАЕ

## 1

У нашы мясціны Зыбін трапіў прызыўніком, года за паўтара да вайны.

Як і яго таварышы, думаў ён адслужыць прызначаны па закону час і вярнуцца дамоў. Калі недалёкай стала другая восень службы, Зыбін пачаў часцей думаць пра родны Ніжні Тагіл, пра бацькоўскі дом. Але ў адну чэрвеньскую раніцу ўсё нечакана перайначылася — адышоў і Тагіл, і дом, і мары пра вяртанне, якія здаліся цяпер далёкімі і яшчэ больш дарагімі.

Ён быў блізка ад граніцы, у зялёным ляску, у які артполк перабраўся з Брэста ў летнія лагеры, і грукат бою, смерць абрушыліся на яго ў першую ж хвіліну вайны.

Праз тры тыдні, за якія ён набачыўся столькі смерці і пакут, колькі не бачыў за ўсё сваё жыццё,— ужо каля Мінска,— яго параніла асколкам нямецкага снарада. Батарэя, у якой служыў Зыбін і ў якой засталася толькі адна гармата, адбівала атаку нямецкіх танкаў. У той дзень над яго акопам, паўз разбітую гармату, прапаўзлі, прагрукаталі важкія машыны з крыжамі на шызай брані, але Зыбін не бачыў і не чуў гэтага, —ён апрытомнеў значна пазней, калі пачаў церусіць дождж.

Збіраючы ўсю сілу, якая яшчэ заставалася ў аслабелых, нязвыкла непаслухмяных руках, асцярожна цягнучы пякучую акрываўленую нагу, Зыбін дапоўз да ратоўнага гушчару.

Тут ён два дні перабіваў голад суніцамі і чарніцамі.

На трэці дзень на яго натрапіла дзяўчына. Яна ўбачыла незнаёмага неспадзеўкі і ад таго, што ён быў страшэнна худы, пачарнелы і абшарпаны, у першы момант спалохалася, асцярожліва падалася назад.

Трымаючыся за яловую галіну-лапку і выглядваючы збоч яе, як з-за ахо́вы, дзяўчына пасмялела:

— Ой, божа,— хто вы?!

— Бачыш — хто,— рэзка адказаў Зыбін.

— Вы... ранены?

— Не, так адпачываю.— Ён пры гэтым паварухнуўся, і на яго аброслым рудаватай шчацінаю твары, дзе жылі адны вочы, паявіўся выраз болю. Гэты ж выраз узнік і на маладзенькім, чыстым твары дзяўчыны: як яму, беднаму, цяжка!

Яна тут жа чула заўважыла, што незнаёмаму не падабаецца яе шкадаванне, і сагнала з твару гэты выраз. Яна старалася цяпер здавацца спакойнай. Стоячы яшчэ наводдалек, дзяўчына ўраз аддалася клопату: чым яму дапамагчы, што зрабіць, каб падтрымаць яго?

— Хочаце...— яна папра́вілася.— Я зараз хлеба прынясу... Мы тут недалёка. Я мігам збегаю...

Яна гаварыла хутка, нібы баялася, што ён недаслухае, перапыніць. Зыбін дадслухаў яе, памаўчаў, выціснуў хрыпата:

— За гэта — дзякуй... І запалак прынясі.

Яна радасна кіўнула яму галавой: усё зраблю,— лёгка, спрытна мільганула просценькай, з нейкімі кветачкамі суконкай і знікла ў зарасніку.

Праз паўгадзіны, не больш, яна зноў была каля Зыбіна. Прысеўшы поблізу пад лапкай яліны, добрымі, пяшчотнымі вачыма сачыла, як ён прагна еў хлеб і салам, як, чутна каўтаючы, ускінуўшы зашчаціне́ны падбародак, запіваў вадою з пляшкі, якую яна таксама прынесла. Дзяўчына бачыла, што ў яго хваравітых вачах засталося галоднае, няўтоленае: ён не наеўся тым акрайцам хлеба,— яна знарок прынесла хлеба небагата, бо чула недзе, што галоднаму чалавеку нядобра есці многа.

— Як цябе зваць? — запытаўся чалавек.

— Жэня. Крушынская Жэня.

Зыбін на гэта нічога не сказаў, але Жэня і без таго ўзяла яго запытанне за знак давер'я. Пасмялеўшы зусім, яна спрытна перавязала, папра́віла сіненькую хусцінку і так, як раней, калі прасілася схадзіць па хлеб, хутка загаварыла, што трэба яго неяк уладаваць,

што так нельга ляжаць, што яна ўжо гаварыла з мамаю і тая сказала, што можна пакуль перахаваць у іх...

— Я ноччу забяру вас, добра? Ціхенька дастаўлю,— ніхто бачыць не будзе, добра?

Зыбін, які зноў нейкі час маўчаў, прамовіў панура:

— Ахвота табе важдацца! Неспакою мала...

— Які тут неспакой?

— Ну, а калі гэтыя... гады дазнаюцца? Ну, і цябе, і маці...— Ён чамусьці пачаў злаваць.— Ты думала?.. Можа такое здарыцца...

— Не дазнаюцца. Мы так схаваем, што не знойдуць!

Яна пазірала на яго, прасіла, чакала згоды. А ён не спяшаўся, таіў нешта ў сабе незразумелае.

— Ды — і ісці я не магу!..

— Я ведаю,— хутчэй перабіла яна.— Я з калясачкай прыйду...

У яе, у гэтай пяшчотнай, худзенькай дзяўчыны, на ўсё, здаецца, быў гатоў адказ!

2

Цёплай, бяззорнай ноччу Жэня прывезла яго да сябе.

Пад самы канец зімы, напрадвесні, калі пад нагамі ўночы хрупасцеў зашэрхлы снег, Жэня правяла яго ў партызанскі атрад.

Калі яна выправілася ісці назад, Зыбін таксама падаўся з зямлянкі. Яны развітваліся на паляне, над якой ужо густа, па-веснавому шумелі голыя бярозы.

— А ты мне не спадабалася тады, першы раз...— раптам, са здзіўленнем, прамовіў Зыбін, трымаючы яе руку.— Кволая такая. Хліпкая здалася... Не крыўдуеш?

— Не...

Яны памаўчалі. Ім не хацелася развітвацца, і яны стаялі ціха, задуменныя, неяк асабліва блізкія. Такой блізкасці, як тут, у іх не было, можа, за ўсе гэтыя месяцы, і Зыбін здзіўлена думаў, якая вялікая сіла — ростань!

— У цябе тады барада была, як у дзеда...— успомніла яна.— Я думала, што ты стары... Дзядзькам ледзь не назвала...

Яна ціха засмяялася. Зыбін таксама засмяяўся, адчуваючы за гэтымі словамі, такімі нібы лёгкімі, нешта вельмі важнае і значнае.

Ён заўважыў, што Жэня, у сваёй кароткай ватоўцы, у няцёплай хустцы, стыне на ветры, і стаў так, каб затуліць яе.

— Мне было сорамна — ляжыш, бездапаможны, як інвалід. Ну, таму і рэзкі быў, хмурны. Не злуйся... Са мной ніколі асабліва не няньчыліся, разумееш. І не хварэў ніколі. А тут... Разумееш? Як маленькі.

Яна кіўнула галавою: разумею.

Жэня заспяшалася. Ён моцна, ад сілы пацісну́ў яе руку, потым,— нечакана для сябе, сам добра не цямячы, што робіць,— парывіста абхапіў яе, тоненькую, паслухмяную, нахіліўся да мілага, роднага твару, да ледзь відных у змроку губ, што сталі такімі вабнымі, такімі жаданымі.

Жэня адхіліла твар, паварухнулася, хочучы вызваліцца.

— Чаму ты, Жэнечка?

— Не трэба, Васіль.

— Не хочаш?

— Нельга. Сам ведаеш...

— Чаму?

— Васіль, успомні... У цябе дзяўчына. Нявеста...

Ах, як ёй цяжка было сказаць апошнія словы! Яна вымавіла іх з горыччу і нават з адчаем. Зыбін гэта заўважыў.

Так, дзяўчына, амаль нявеста. У Тагіле, яго родным Тагіле. Надзя, Надзейка — недасяжна далёкая і нязменна блізкая. Ачуньваючы, ён некалькі разоў расказваў пра яе Жэні, расказваў з гонарам, журботны і шчаслівы. Ён любіў яе, Надзю...

Зыбін разняў рукі, адчуваючы ў душы такую прыкрасць, быццам у нечым схлусіў.

Схлусіў? У чым ён схлусіў? Хіба ён зрабіў гэта з пустой забавы? Хіба яго не вабіць да яе, да Жэні, хіба ён — няшчыра? Глупства — ні ў чым ён не зманіў...

«А Надзя? Што ж Надзя!» — затрывожыла Зыбіна. Ён жа любіў яе... Зыбін злавіў сябе на гэтай думцы: «Любіў». Хіба ён толькі — любіў? Хіба з тою ўжо ўсё скончана: ужо не любіць?

У галаве блыталася.

Зыбін спадылба пазіраў, як Жэня папраўляе такімі ўжо знаёмымі рухамі валасы, што выбіліся з-пад хусцінкі. Краем увагі пачуў, як шумяць-гудуць узварушліва навакольныя бярозы, падумаў: «Жэня, хто ж ты цяпер для мяне? Хто з вас цяпер бліжэй, паспрабуй зразумей».

Яны зноў маўчалі, але гэтае маўчанне было інакшым, як раней, добрая таварыская блізкасць — бясхмарная і ясная — невядома куды знікла. Зыбін адчуваў сябе незразумела ў чым вінаватым. З гэтым прыкрым для абодвух адчуваннем чужаватасці яны і развіталіся.

Зыбін прайшоў некалькі крокаў, важка топчучы старымі кірзавымі ботамі снег, спыніўся няўпэўнена. Павярнуўся, з тугою паглядзеў, як у шэрым змроку, ледзь хістаючыся, аддаляецца яе ўжо цьмяная постаць, і не ўтрываў, падаўся таропкім, шырокім крокам услед.

— Жэня!.. Пачакай!..

Ён сказаў глуха, нібы выдыхнуў. Яна пачула, спынілася — што яму трэба?

— Жэня...

Зыбін, задыханы, з ходу схапіў яе, разгубленую, сціснуў моцнымі сваімі рукамі, прыпаў да схаладнелага на марозным ветры твару, да яе жаданых губ. Яна паспрабавала была супраціўляцца, але хутка аслабела, абвяла, бязвольная, пакорлівая.

— Ой, што ты?..

— Жэнечка... родная...— толькі і сказаў між пацалункаў.

Ён цалаваў і цалаваў яе губы, халодныя шчокі, выпуклы лоб, мяккі падбародак, і яна, збянтэжаная гэтым шалёным парывам пяшчотнасці, была ў яго абдымку як аглушаная. Раптам яна сама прыпала да яго кажушка, і Зыбін адчуў, што губы яе раскрыліся, адаваліся, гарачыя, адданыя.

Рукі Жэні абвіліся вакол яго шыі.— Мілы!..

Ён ішоў назад уподбег. Лёгка было, не каяўся — хай будзе што будзе! Жэня, любая мая Жэнечка!..

3

Зыбін, або, як звычайна яго звалі тады,— Васіль з Тагіла, лясным сябрам палюбіўся. Ён быў, праўда, рэзкаваты, насмешлівы, але затое таварыскі і вельмі цярплівы, і людзі адносіліся да яго прыхільна.

Часам, у добрым настроі, ён любіў расказваць. Людзі хутка заўважылі, што ў гэтых яго апавяданнях было адно агульнае — найбольш ён гаварыў пра Тагіл, пра нейкую гару Высокую, якая ўся нібыта з цудоўнай руды,— капай яе, руду, бяры, колькі хочаш — не вычэрпаеш,— пра заводы гаварыў, пра былых таварышаў па цэху. Гэта была самая блізкая тэма: у роце, дзе ён служыў, не знайшлі б такога чалавека, які б не ведаў, што Зыбін рабіў да арміі майстрам на адным вялікім тагільскім заводзе.

Ён, было відаць, вельмі любіў Тагіл і востра сумаваў па далёкай сваёй радзіме. Зыбіну спачатку даводзілася трывожыцца ад няведання: недзе там, за франтавой лініяй, за многімі лясамі і гарадамі, заставаліся бацька, маці, дзве сястрычкі. Потым Васілёва скруха скрыху прыціхла, а трывога знікла зусім — адтуль сталі прыходзіць лісты.

— Эх, хутчэй бы кончыць вайну ды прыкончыць Гітлера! Памчаў бы дадому! — не раз марыў ён, чытаючы лісты сябрам.— Як з гарматы, панёсся б!..

Таварышы, якія заўважылі, што Зыбін вельмі часта заглядвае ў тую вёску, дзе жыла Жэня, што ў іх насмешлівага тагільца не абы-якая прыхільнасць да дзяўчыны, з хітрынкай пыталіся,— няўжо так лёгка будзе адарвацца яму ад Беларусі, ад прыгожых беларусак. Зыбін на гэта ў тон — з усмешачкай — адказваў, што адрывацца зусім і не збіраецца, што адну з іх, з дзяўчат, хай хоць з боем — забярэ з сабой...

Калі ён думаў пра тое, як вернецца дамоў, як будзе жыць, ён заўсёды поруч з сабою бачыў Жэню. Ён не раз уяўляў, як яны прыедуць у іх домік каля Гарбатага моста, як ён пазнаёміць з маткаю, як будзе паказваць Жэні тыя мясціны ў Тагіле, што асабліва дарагія яму, школу сваю, завод, гару Высокую... З Высокай яны будуць глядзець на горад: цудоўны адтуль від, неаглядны, неабдымны!

Калі ён стараўся ўгадаць, як старая будзе абыхо-

дзіцца з Жэняю, было крыху трывожна: «Папракаць, мусіць, будзе за Надзю,— ёй падабалася тая... Нічога, прывыкне, палюбіць Жэньку...» І пра Надзю думаў,— што дарэмна чакала, што балюча будзе перажываць усё. Яна так верыла яму, а ён, выходзіць, не варт быў таго. Што ж, хай думае што хоча. Ён зрабіў як мог, як сэрца сказала...

Хутка сталася так, што Жэні давялося перабрацца ў лес. Мокрай жнівеньскай ноччу яна, ператрывожаная, прыбегла ў зямлянку да Зыбіна і расказала, што ледзь вырвалася з паліцэйскай пасткі. Мінулы дзень яна перахавалася ў суседкі, у яме — патаемнай схованцы, і толькі ноччу змагла агародамі выбрацца з сяла...

Яна засталася ў лесе. Пякла хлеб у партызанскай пякарні, варыла кашы ці баршчы на ўзвод, а калі трэба было, хадзіла, не шукаючы адгаворак-замінак, пастражэлая, у мястэчка, у разведку. Таварышы Зыбіна хутка заўважылі, што тагіляк стаў красавацца заўсёды ў чыстай, памытай і ўмела залатанай вопратцы,— і не толькі гэта заўважылі.

Жэня і Васіль сталі разам жыць. У іх, праўда, зямлянкі былі розныя, бачыліся яны звычайна толькі ўдзень і то не ў кожны, але хіба ты схаваешся ад столькіх людскіх вачэй? Трэба сказаць, закаханыя і не думалі хавацца,— калі яны сустракаліся, ім здавалася, што ва ўсім гэтым лесе яны толькі адны.

Лес гарэў, палаў дзівосным пажарам лістапада. Ападала пажоўклае лісце, кружачыся, слалася пад іх ногі, задуменна, журліва шамацела, калі яны, абняўшыся, хадзілі, падала ім на плечы, на рукі, калі яны сядзелі на падасланай, вайсковага пашыву Васілёвай ватоўцы. Лес галеў, панура выстаўляючы сукі, сумна шумеў вятрамі, а ў іх сэрцах цвілі пралескі.

Жэня стала Васілёвай жонкай, не беручы ад яго ні клятваў, ні абяцанняў. Яна была нібы захмялелая.

Любоў не баіцца сораму. Спачатку, калі таварышы пакідалі іх адных у зямлянцы, Жэня чырванела, а потым нібы і заўважаць перастала.

Часам хмель, аднак, праходзіў, і яна тады пачынала крытычна пазіраць на сваё становішча, на свае адносіны з Зыбіным.

— Баюся я, Вася, за сябе,— прызналася яна аднойчы, устаўшы з ватоўкі. Яна сарвала з бярозы белы,

тонкі лісток кары, старалася не глядзець на Зыбіна.— Цябе баюся...

— Чаго гэта?

— Што ты можаш кінуць мяне, баюся...— ціха-ціха, са страхам, прамовіла яна.— Як я тады?.. Пакінутая... Без цябе...

Зыбін, легкадумны, вясёлы на тую пару, паспрабаваў абняць яе, але Жэня адвяла яго рукі. Ён заўважыў, што вочы яе, добрыя, шэрыя, з зелянінкаю, напаўняюцца слязамі.

— Што ты выдумляеш! З чаго ты ўзяла, што я пакіну?

— Далёкі ты... Усё ў Тагіл свой ірвешся... Паедзеш,— яна з болем вымавіла гэтае слова,— паедзеш... Што я табе тады?..

Думка яе раптам пайшла інакш:

— Як яно ўсё сталася?! Як у тумане!..

У голасе яе Зыбіну пачуўся адчай, одум. Ён раўніва насцеражыўся:

— А ты шкадуеш?

Жэня цвёрда сказала:

— Не, не шкадую. Не шкадую... Баюся я, што без цябе буду...— Яна не дала яму сказаць. Упершыню за ўсю размову паглядзела Зыбіну ў вочы.— Хто я табе? Жонка?

— А хто ж? Жонка, вядома.

Яна крыва ўхмыльнулася, паўтарыла горка, насмешліва:

— «Жонка»!..

Зыбін недаўменна, з вінаватасцю, чакаў, што яна яшчэ скажа. Ціха, але строга, як бы помсцячы сабе за былое, караючы сябе, Жэня дадала:

— Палюбоўніца я, от хто...

Зыбін зазлаваў.

— Што гэта з табой?

— Тое, што чуеш,— зноў мякка, нібы апраўдваючыся, прамовіла яна.— Баюся я... От паедзеш ты дамоў, пабачыш там Надзю сваю. А я... а пра мяне і ўспомніць, можа, забудзешся. «С глаз долой, из сердца — вон...» Вы, мужчыны, гэта ўмееце...

— Умеем, вядома... А чаго тут — навука няхітрая,— спакойна сказаў Зыбін.

Яна кінула на яго быстры, спацярожлівы позірк:

жартуе ён ці шчыра гэта? Не, мяркуючы па яго выгляду, ён не жартаваў. Жэня сціснулася, сабралася ўся, чакаючы страшнага.

— А нашто ўспамінаць?.. Ну, пажылі, дзякуй богу, пацешыліся — разышліся. Што ж тут такога асаблівага, каб успамінаць?

— Праўда?

— А чаму ж не? Што тут дзіўнага? Не, успамінаць не буду,— зараней кажу...

Яна разгубілася. Гэта была ўжо не тая строгая да сябе, да яго жанчына, якую ён бачыў хвіліну назад, Жэня здавалася цяпер кволай, няшчаснай дзяўчынкай,— яна была ўся ў яго ўладзе.

— Не буду.

Зыбіну стала шкада яе, і ён не вытрымаў гэтага жорсткага тону.

— Эх, дзівачка!.. Я ж казаў — паедзем разам! Удваіх паедзем.

Васіль абняў яе і стаў гаварыць пра тое, што ён не нягоднік які, што ён глядзіць на іх адносіны сур'ёзна, што ён не ўяўляе сабе жыцця без яе.

— І калі ты нават не захочаш потым ехаць на Урал, то забяру сілком! Я такі!..

— Не палохай,— Жэня шчаслівa засмяялася.— І трэба табе было так далёка нарадзіцца! — сказала яна, пяшчотна цярэбячы яго мяккія русыя валасы.— Не мог нарадзіцца бліжэй!

## 4

Але паехаць яму адразу не давялося. Пасля вызвалення, калі яго рота разам з іншымі ачысціла ад немцаў лясы над Волмай, Зыбіна накіравалі на работу ў райвыканком каля Мінска.

У гэтыя дні Зыбін, нарэшце, па ўсіх загсаўскіх законах ажаніўся з Жэняй. Тады ж ён напісаў пісьмо ў Тагіл, паведамляючы пра гэта і тлумачачы свой учынак; ён іменна толькі тлумачыў, а не апраўдваўся. Зыбін наогул не любіў апраўдвацца.

Раён дастаўся яму цяжкі, вельмі пацярпелы ад вайны. Больш за палову вёсак чарнела папялішчамі, людзі туліліся ў цесных панурых зямлянках. Жыта на

палях стаяла дробнае, кволае, лёгка трымаючы беднае, нікчэмнае калоссе.

Вайна прайшла, а людзі яшчэ жылі нібы па-ваеннаму. І Зыбін адчуваў сябе, як на вайне: ці таму, што не так проста было адвыкнуць ад таго, што ўелася ў душу апошнімі гадамі, ці таму, што многае вакол было падобна на ваеннае. Тое ж запусценне, тая ж нішчымніца, і — зямлянкі, зямлянкі...

Зыбін на нейкі час нібы забыўся пра даўняе сваё жаданне. Тагіл пакуль што быў для яго далёкім,— не так за палямі, лясамі ды гарадамі, як за справамі, за штодзённым клопатам, часам, здавалася б, дробным, але неадступным і неадкладным. Зыбін лічыў, што нават пачынаць гаворку, каб адпусцілі, нядобра, несумленна. «Вось калі падымемся крыху, тады хіба». Ён жыў, чым жылі тут людзі,— будаўніцтвам хат, сяўбою, калгаснымі ўраджаямі, незадаволены тым, што многія яшчэ туляцца ў зямлянках і што зямля родзіць скупыя жыты...

Ён прыязджаў дадому часта стомлены, невясёлы. Жэня добра ведала, што ў такім настроі ён не любіць гаварыць, і не пыталася нічога. Яна ўмела адчуваць яго жаданні, беражліва адносілася да іх,— Зыбін бачыў, што яна гатова ўсё аддаць, каб яму было добра.

Яму было добра дома. Тут яго заўсёды разумелі, заўсёды гатовы былі падтрымаць чым маглі. У двух цесненькіх пакойчыках са старымі шпалерамі, з пафарбаванай некалі падлогай, на якой фарба добра яшчэ трымалася толькі ў кутках, было ўтульна, чыста, светла; тут у яго душы таксама было хораша і светла.

Нешта праз паўгода пасля таго, як прыйшлі з лесу, віхурным зімовым вечарам ён завёз жонку ў радзільны дом. Праз тыдзень ён прывёз Жэню, дзіўна памаладзелую, пахарашэлую, ужо з малым, загорнутым у белую коўдрачку.

Шчасце гэтай перамены як след Зыбін адчуў не адразу, а тады, калі малое пачало, пускаючы бурбалкі, штосьці вымаўляць сваімі маленечкімі, вільготнымі губкамі,— маці, якая пасля народзін стала хутка паўнець, запэўнівала недаверлівага Васіля, што яно кажа: «тата». І праўда, неўзабаве Зыбін і сам ужо разбіраў: «тата»!

Пацешны народ, гэтыя малыя! Не было такога меснца, каб цудоўны сынок чым-небудзь не здзіўляў Васіля Цімафеевіча...

Усе гэтыя падзеі адводзілі ад яго думкі пра зварот у Тагіл.

Так прайшло больш за тры гады, пакуль няшчасце, што неспадзеўкі звалілася на яго, не абудзіла зноў затоеныя, прыглушаныя жаданні...

Перад Новым годам — пад раніцу — яго разбудзілі стукам у дзверы і, калі ён адчыніў іх, падалі маленькі, згорнуты лісток — тэлеграму з Тагіла. Распісаўшыся за яе, яшчэ сонны, Зыбін прабег вачыма лісток і ў першы момант не зразумеў, не паверыў: памёр бацька, прасілі тэрмінова прыехаць на пахаванне! Зыбіну гэтая вестка прыйшлася не тое што нечаканай — неймавернай: бацька быў яшчэ дужы, як не крануты нічым знутры дуб, здаровы, колькі помніў Васіль, ні на што не хварэў, і — раптам — памёр, прыязджай на пахаванне.

Зыбін адразу пазваніў у аэрапорт,— было вельмі туманна, і самалёты не ішлі. Давялося выпраўляцца на вакзал.

Ён не застаў бацькі: пакуль поўз цягніком, які чамусьці называўся хуткім, пакуль марнаваўся паўсутак на перасадцы,— старога пахавалі.

Вярнуўся Зыбін белым, як на свята прыбраным, днём. На чысценькай вуліцы, на памаладзелых, падмаляваных беллю дрэвах, на дахах ляжаў першы мяккі сняжок, той снег, які яшчэ не скрыпіць, з якога так любяць малыя ціснуць вясёлыя камякі — «снежкі».

— Ну, ад чаго гэта ён? — пыталася ў Зыбіна Жэня, прыбіраючы са стала ежу.

Васіль неахвотна адказаў:

— Рак...

Ён паглядзеў у акно, стаў здымаць боты, але, зняўшы адзін, выпрастаўся, загаварыў зноў:

— За некалькі дзён згінуў. Хадзіў усё, трымаўся, не любіў скардзіцца. Ён ніколі не хварэў і быў, ведаеш, упэўнены — адолее. Хацелі ў бальніцу, занаравіўся — не пайду! Гонар быў у яго на гэта! Лічыў, што хварэць — справа ганебная, што хварэюць людзі ад таго, што лечацца... Пасля, калі падаўся зусім, прыціх. Паслалі па доктара,— ды было позна...

Жэня сказала, што пры такой хваробе ўрачы наўрад ці маглі б выратаваць.

— Можа, хіба прадоўжылі б жыццё на тыдзень, другі

Зыбін нібы не чуў гэтага.

— Я вось што думаю. Кепскія мы, любая, дзеці. Паднімемся на ногі, адчуем, што хадзіць можам і адны, без падмогі, і — забывай, як звалі. Вось і я — калі кончылася вайна — як пісаў? Раз у год. Нібы і не было бацькоў. Грошы пасылаў і думаў, усё. А яму, можа, не так тыя грошы, як сэрца, любоў, добрае слова былі патрэбны. Маці казала: перад смерцю вельмі ўспамінаў усіх, як бы ведаў, што ўжо ненадзейны жыхар, што канец блізка. Асабліва мяне ўспамінаў... Пабачыцца б, казаў, разочак, і лягчэй было б; ажыў, можа б, адразу. Заехаў, казаў, на край свету,— не пабачыш яго, не даклічашся!..

Зыбін стаў цяпер, як ніколі, думаць пра тое, каб вярнуцца.

На наступны вечар ён загаварыў пра гэта з лясным сваім другам і таварышам па цяперашняй рабоце Собалем.

— Ну вось рашыў прасіцца... Думаю напісаць заяву,— сказаў Зыбін.

Яны ішлі з райвыканкома пасля пасяджэння цераз цемнаваты, увечары ціхі сквер. Зыбін памаўчаў, чакаючы, што скажа таварыш, але не дачакаўся і зірнуў на яго.— Не адпусцяць? Як ты думаеш?

Собаль, паўнатвары, з пухлымі шчокамі, у вузкім паліто з паднятым цыгейкавым каўняром, голасам стомленага чалавека неахвотна адказаў:

— Думаю, што не.

— Ты — думаеш толькі ці... упэўнены ў гэтым?

— Упэўнен, калі хочаш ведаць. Ды і ты, я думаю, не сумняваешся... І чаго ты яшчэ тлуміш сабе галаву, дзівак-чалавек? — усё так жа стомлена, недаўменна папракнуў ён.— Чым табе тут кепска? Столькі працы рукам! Толькі рабі — не лянуйся!

—Працы — усюды даволі,— запярэчыў Зыбін. Ён адчуў, што гаварыць далей з Собалем марна, што той усё роўна яму нічога карыснага не скажа і не зразумее яго, але Зыбін не мог маўчаць.— Ну, а калі вельмі папрасіць — катэгарычна, скажам, а?

— Можна і зусім уцячы,— мякка, з яхіднасцю параіў Собаль,— дэзерціраваць. Прыкрыўшыся, вядома, якой-небудзь выдуманай прычынай...

Гэтая мяккая, яхідная парада друга ўзлавала Зыбіна,— ён стрымаўся і змоўк...

Собаль, відаць, заўважыў, што таварыш крыўдуе, і загаварыў шчыра:

— Ты проста, Васіль, не ў форме, па-мойму. Я разумею тваё гора,— разумею і спачуваю! Але нельга ж, каб гора асляпляла чалавека і ён губляў галаву. Ну што ж — гора, вядома, вялікае гора — смерць такога чалавека... Толькі хіба яму лягчэй будзе ад таго, што ты прыедзеш?

— Не лягчэй. Але хіба мне абы-як, хіба мне пустое, што нават не пабачыліся? Маці казала, перад смерцю ўспамінаў усё, жалкаваў: «Эх, каб Васіль быў! Заехаў у такую далячынь, не даклічашся!..» А цяпер маці сумуе, удава!..

— Супакоіцца. Там жа сёстры, падтрымаюць!.. І ты супакойся! Жыві!

Зыбін на гэта нічога не адказаў, і можна было падумаць, што Собаль пераканаў яго. Некалькі дзён яны не бачыліся, бо Зыбін паехаў на раён, але пры новай іх сустрэчы таварышу Зыбіна давялося ўбачыць, што думкі Васіля пра зварот куды больш моцныя, сталыя, чым здавалася Собалю ў той вечар.

Прывітаўшыся з Зыбіным, Собаль звыкла запытаўся, як ездзілася.

— Як? Бачыш! — адказаў з ноткай нейкай узлаваласці Зыбін.

Ён уваліўся ў пакой, абляпаны граззю да пояса, у прамоклым нашчэнт, калісьці белым кажусе.

— Хвалі, брат, не хвалі свае зялёныя мясціны,— а мне не да душы тут...— Зыбін незадаволена выцер рукой мокры каўнер.— Клімат! Ну што гэта за клімат? Ні зіма, ні восень.

Ён паглядзеў у акно, за якім стаялі дрэвы, высокія, голыя, падбеленыя з аднаго боку мокрым ліпкім снегам. Адразу за шыбамі зябка туліўся бэз, на галінках якога віселі мутныя кроплі вады.

— У студзені — адліга, дождж!

— Ну, ён жа не заўсёды! — адгукнуўся здзіўлена Собаль. — Ды і што ў гэтым кепскага,— хоць цёпла!

— Поскудзь! Макрэча!.. Вось у нас — мароз,— аж дым стаіць. Дых зацінае!.. Ідзеш па снезе,— кожны крок твой — рып-рып. Музыка! У лёгкіх — прастора, чыста! На душы — светла!..

І ён, тулячыся да печкі, грэючыся і сушачыся, стаў з захапленнем маляваць карціну ўральскай зімы.

— Ну, і што ў гэтым добрага! — адказаў знарок абыякава Собаль.— Што?

— Не разумееш ты нічога,— рашуча махнуў рукой Зыбін.— Вось правёў бы ты ночку, як я, зразумеў бы, што добрае і што кепскае! Як заселі на Закрашынскай грэблі, дык хоць ты кідай машыну. Што крок,— то вылазь у месіва праклятае ды сцялі галлё, плячом у кузаў гняці. Буксуе і буксуе!.. Плячо да крыві сцёр!..

— Ну, грэбля не вінавата, што яе не паправілі.

— Грэбля!..

Сядзець моўчкі цяпер Зыбін ужо не мог. Ён наогул любіў спрачацца, горача атакуючы праціўніка і ўпарта абараняючыся.

— Ды хіба ў адным надвор'і корань?

— А ў чым жа?

— У чым? А ў тым!.. Скажы, што табе сніцца?— запытаўся раптам Зыбін.

Собаль недаўменна павёў плячыма.

— Нічога такога...

— Нічога! А мне ўжо колькі разоў, ледзь засну,— прыходзіць, нібы я стаю на Высокай,— гара такая ёсць у Тагіле,— нібы я стаю на ёй і пазіраю ўдалеч. І бачу, як над усімі сямю тагільскімі ўзгоркамі дымяць высокія трубы — трубы мартэнаў. Бачу, як пара і дым ахутваюць домны. Або як над домнамі ўспыхвае полымя... Ты не бачыў, як яно ўспыхвае?

Собаль павёў галавою: не бачыў.

— Ну вось! А кажаш!..

Ён памаўчаў, падумаў.

— Кожнаму сваё падабаецца. Можа, табе Тагіл і не такім здаўся б, як мне. Там, брат, снег чорны ад дыму і вугальнага пылу, хмары дыму ў небе... Але я чалавек рабочы. Ты разумееш, што значыцца быць рабочым? У мяне душа тужыць па гулу станкоў. Я, дарэчы, не металург, я па халоднай апрацоўцы металу спецыяліст,— гэта так, для даведкі табе, май на ўвазе... Я, як не ведаю што, хацеў бы слухаць, як шыпяць фрэ-

зы! Гэта мой, калі хочаш, клімат!.. А тут... Што тут у вас? Запалкі, скура, дошкі... Эх, ды што я кажу!.. Хіба ты можаш хоць бы ўявіць сапраўдны завод?

— Ну, што-што, а ўявіць я магу, дарэмна ты так не верыш у мае здольнасці. Але справа не ў гэтым. Будуць і ў нас сапраўдныя, як ты кажаш.

— Будуць?

Ён ведаў пра тое, што ў Мінску пачалася будоўля вялікіх аўтамабільнага і трактарнага заводаў. Але, запалены спрэчкай, не хочучы саступіць, са звычайнай сваёй упартасцю дадаў:

Будуць, вядома. Але — тое яшчэ будзе!..

## 5

Восенню яго адпусцілі ў Мінск, на аўтамабільны завод. Ён напісаў з такой просьбай пісьмо ў ЦК партыі, і яму дазволілі: на заводзе была вялікая патрэба ў спецыялістах.

Жэня аднеслася да гэтага яго ад'езду без радасці: вось і апусцее іхні, такі мілы куток, для якога яна нічога не шкадавала,— паедзе Васіль, застануцца толькі яна ды малы Лёнік. Яна старалася суцешыць сябе тым, што недалёка едзе Васіль, што, можа, гэта і добра,— не ў Тагіл жа едзе, і там, у Мінску, глядзі, супакоіцца, перастане рвацца ў далеч тую сваю.

— Ты ж глядзі, каб пісаў,— наказвала, праводзячы на вуліцу мужа.— А час будзе — прыязджай, не забывай нас. Праўду я кажу, Лёнік?

Лёнік, што сядзеў у маці на руках, апрануты, у хустцы, з якой віднеліся адны цікаўныя вочкі і кірпаты нос, аўтарытэтна пацвердзіў:

— Праўда.

— Ах ты, падпявала мамін! — сказаў Зыбін, беручы на руку сына. Каля «газіка», які павінен быў падвезці яго да вакзала, Зыбін пацалаваў у пухмяную шчочку малога, абняў жонку: — Беражы ты яго...

— Ды ўжо ж, як жа не берагчы? Наш, адзіны...

— Глядзі, каб не прастудзіўся. Надвор'е сырое.

— Не прастуджу... Плашч бы ўзяў. Дажджы могуць быць...

— Яшчэ што скажаш! — Зыбін махнуў рукой, ні-

бы прасіў не казаць лішняга.— Як на Чукотку збіраеш...

Праз некалькі гадзін Зыбін быў у Мінску. Сеяў нудны дождж, той дождж, які можа ліць без упынку і дзень, і два, і месяц.

Адразу за будынкам вакзала ён трапіў на гразкую плошчу. Яна была ўся раз'езджаная коламі аўтамашын, глыбокія каляіны ад якіх праставалі і круціліся на самыя розныя кірункі; у раўчаках каляін і ямах поўна льснілася бруднай вады. Абапал плошчы моклі на дажджы пахіленыя, учарнелыя слупы з правадамі. У розных месцах стаяла некалькі легкавых машын і грузавікоў,— адзін з грузавікоў, амаль сярод плошчы, кідаючы назад гразь, заходзячыся сіплым выццём, спрабаваў выбрацца ■ калдобіны, але калёсы буксавалі.

Зыбін адразу накіраваўся да машын, што стаялі непадалёк убаку. Ён запытаўся ў шафёраў, ці не едзе хто ў бок завода, але туды не было,— і, падняўшы каўнер, трымаючы ў руцэ чамаданчык, падаўся на Магілёўскае шасэ пешшу.

Зыбін думаў, што завод пачынаецца адразу за горадам. Аднак ён мінуў і апошнія, вясковага складу будынкі ўскраіны і выйшаў у поле, а ніякага завода не было відаць. Ён занепакоіўся, ці не памыліўся, але хлапчук, які яму трапіўся, сказаў, што завод далей.

— Дзе гэта далей? Пад Магілёвам?

— Ды не, за гэтым вось узгоркам,— сур'ёзна адказаў хлопец.

Падняўшыся па мокрым асфальце на ўзгорак, Зыбін, нарэшце, убачыў у сасняку наперадзе цьмяныя, шэрыя абрысы камяніц...

Праз паўгадзіны ён ужо ўладкоўваўся ў драўляным бараку, над якім дробна стукацеў па даху няўцíхны дождж.

Усяго ў пакоі стаяла ў рад пяць ложкаў і жыло, пра гэта Зыбін ужо ведаў, чатыры чалавекі, але гаспадары трох у той час акурат працавалі. Дома быў толькі адзін санлівы губаты хлопец, які ляжаў на ложку ў пінжаку і ў ботах.

Хоць хлопец яўна не меў ахвоты размаўляць, Зыбін, падсунуўшы чамаданчык пад ложак, аглядваючыся, запытаўся, як жывецца.

— А так — жывём. Жывём, хлеб жуём,— хлопец лянiва зiрнуў на Зыбiна, дадаў больш пэўна: — Жытка — так. Не надта...

— Не вельмi, кажаш? Чаму гэта?

— Ну, чаму! Харчы слабыя.

— Як гэта слабыя? Што — не хапае?

— А то што ж? Хапае? Толькi паабедаеш, а ўжо есцi хочацца.

— Гэта — дрэнь справа... А ты б па два, цi што, браў...

— Хаджу на рынак... Ды капеек нягуста...

Пачуўшы гэта, Васiль Цiмафеевiч уважлiва агледзеў хлопца i перастаў распытваць. Той яму не спадабаўся: «Такi здаравенны, а смаркач».

Зыбiн быў звычайна катэгарычны i рэзкi ў сваiх ацэнках.

— Ну, ды i не заўсёды дастаiшся,— памаўчаўшы, загаварыў хлопец.— Бывае, што i так пойдзеш...

Зыбiн, якi прысеў на табурэтцы каля акна, запытаўся стомлена:

— Не ўпраўляюцца паабедаць?

— А то што ж. Стаiш, стаiш, а потым i пойдзеш з «такам». Ну, можа, калi захопiш акраец хлеба ды сала, то самнеш, а — не, дык так i станавiся, выконвай план!..

— I многiя... не ўпраўляюцца?

— Многiя. Не менш за палавiну,— а можа, i больш...

«Пажывём — пабачым»,— падумаў Зыбiн, сочачы, як дзяўчына, што прыйшла з бялiзнай, засцiлае яго ложак.

— Не слухайце вы яго,— нечакана прамовiла спачувальна Зыбiну дзяўчына.— Няпраўду ён кажа.

Была яна не рослая, але моцная, з велiкаватым тварам, поўнымi добрымi губамi i прыгожымi бялявымi валасамi. Вiдаць, з вёскi прыехала.

— Гэта чаму — няпраўду кажу? — хлопец узняў галаву, павярнуўся да дзяўчыны. Дзяўчына перастала засцiлаць ложак, выпрасталася, упартая, непахiсная:

— А што ж, праўду?

— А можа — хлушу?

— А не хлусiш? Палавiна не ўпраўляецца?

— Не менш.

— «Не менш»! Пасаромеўся б у вочы глядзець, гаворачы такое. І кажа яшчэ так, нібы лічыў усіх, да аднаго чалавека...

— Ну што, калі не лічыў? Я — не лічыльшчык...

— Дык і не казаў бы... А што зарабляюць мала некаторыя, то праўда.— Яна гаварыла ўжо зноў да Зыбіна: — Кваліфікацыя ніякая — не рабілі раней на заводзе. Нормы не выконваюць — такі і заробак!.. Ну, а вось Сярожка — ён тут спіць — той мінулы месяц больш за тысячу... Кваліфікацыі ў людзей няма, вось што!

— У цябе — кваліфікацыя! — працадзіў хлопец.

— Якая ёсць...— яна пачала засцілаць шэрую байкавую, яшчэ навенькую, у ляжалых складках коўдру. На момант зірнула на хлопца, кінула строга: — Зняў бы хоць боты! Чужога чалавека пасаромеўся б!

— Ён цяпер свой.

Хлопец, пазяхнуўшы, знарок абыякава адвярнуўся.

Зыбін стрымаўся, прамаўчаў. А дзяўчына, павесіўшы на спінку ложка таксама новы, шорсткі вафельны ручнік, папрасіўшы Зыбіна распісацца за рэчы на паперцы, сказала супакойліва:

— Не звяртайце ўвагі на гэтага. Тут усякага набачыцеся.

Што праўда, то праўда — многае было неўладкавана. Ужо ў той вечар Зыбін убачыў, як у сталовай пасёлка віліся нязвычна доўгія чэргі.

— У заводскай у перапынак паадзіночцы ніколі не ўправішся,— амаль павучальна сказаў яму рабаваты, плячысты хлопец у сіняй спяцоўцы, з якім Зыбін апынуўся за адным сталом.— Мы заўсёды ўтраіх прыходзім...

— Адзін за талонамі стаіць...— перабіў яго таварыш, з хітрым позіркам вачэй, які раз-пораз камусьці падміргваў,— адзін за талонамі, другі месца трымае, а трэці афіцыянтцы кампліменты гаворыць, каб хутчэй абслужыла...

— Метад верны! — адгукнуўся трэці, відаць, больш маўклівы з іх.

Ён стараўся трымацца на ўзроўні сяброў. Тройка, напэўна, была дружная, жвавая і, задаволеная, быццам выхвалялася: вось якія мы хлопцы, удалыя, бравыя!

Зыбін шчыра пахваліў іх.

Вячэраючы з увішнымі хлопцамі, ён распытваў пра завод.

У цэху ад сцюжы дранцвелі рукі і стылі ногі. Праз дах, у якім многа было выбітых шыб, дабіраўся дождж. Наогул завод, аказалася, быў мала падобны на аўтазавод: у цэхах рабілі толькі асобныя дэталі, якія пакавалі ў скрынкі, грузілі ў полі за заводам на платформы і адпраўлялі як запасныя часткі.

І ўсё-ткі гэта быў завод, гэта было тое, да чаго рвалася, па чым тужыла душа.

Уранку, слухаючы ўсемагутны бас гудка, што ракатаў, разыходзіўся над пасёлкам, над сасняком, над блізкімі і далёкімі палямі, хапатліва збіраючыся на працу, Зыбін пачуў, што сэрца яго спявае.

Неўзабаве ён ішоў у заклапочаным, але вясёлым натоўпе, адным з многіх натоўпаў, што густа і хутка цяклі да ўвахода на завод, ішоў сярод хлопцаў і дзяўчат, якія перагаворваліся, жартавалі, сам такі ж, як яны, бадзёры, стрымана-гарэзны, дзіўна памаладзелы. Мімаволі прыгадвалася далёкае, агорнутае смугою даўнасці — такія ж натоўпы, няхай у другім горадзе, і чароды каля ўваходных варот, і ўсё, усё, што берагла пра такія хвіліны душа,— успаміналася не па-звычайнаму бесклапотна, радасна...

У гэты дзень ён упершыню браўся за справу, якую яму належала рабіць,— Зыбін быў назначаны начальнікам аддзялення ў механічным цэху. Яго пазнаёмілі з майстрамі, з наладчыкамі, з рабочымі, з усёй яго цяперашняю гаспадаркаю, якую яму давяралі і за якую ён мусіў з сённяшняга дня адказваць.

Застаўшыся адзін, без начальства, Зыбін пачаў хадзіць у пramежку між станкоў, спыняючыся, падоўгу стоячы, з насцярожанасцю і цікаўнасцю прыглядаючыся да механізмаў, што няспынна гулі. Многае ў станках было новае, удасканаленае за тыя гады, якія прайшлі ў яго не на заводзе, і Зыбін хацеў, прагнуў хутчэй убачыць гэтае новае, зразумець. Яму здавалася, што такая, як ён баяўся ў думках, шкалярская цікаўнасць

прынізіць яго перад рабочымі, і ён стараўся ўдаваць з сябе чалавека заклапочанага, хмурнага.

Можна сказаць, што ўвесь дзень Зыбін прыглядаўся, прыкідваў, адзначаў сабе. За гэтым жыло ў ім тое, што ўзнікла ўранку ў натоўпе,— ён быў увесь напоўнены ўспамінамі няблізкай ужо маладосці, напоўнены знаёмай, такой хвалюючай у той дзень многагалосай, напружанай музыкай цэха. Да самага канца змены не пакідаў Зыбіна гэты радасны, добры настрой...

Калі ён увечары, вярнуўшыся з працы, пачуў, як хлопец з тоўстымі губамі, першы яго знаёмы, сказаў, што збіраецца ўцячы,— Зыбіна гэта ўкалола. Ён адчуў сябе як бы пакрыўджаным. Пакрыўджаным за завод, які ён яшчэ амаль не ведаў...

— Я думаю, завод нічога не страціць,— сказаў ён рэзка суседу.

Хлопца гэтая рэзкасць уразіла.

— А я і не чакаю, каб па мне плакалі.

— Слёз не будзе!.. Можаш быць спакойны! — запэўніў Зыбін.

— А я і не шкадую!..

— І заводу не шкада. Адным трусам будзе менш.

— А ты...— хлопца яго словы, відаць, узялі за жывое.— Пабачым, што ты сам запяеш, пабыўшы.

— Ты гэтага не ўбачыш!..

Праз дні тры незадаволены сусед кудысьці знік, і Зыбін больш яго не бачыў і не думаў пра яго.

Іншае, больш важнае, захапіла, паняло Зыбіна, апанавала яго клопатам.

## 6

Рабочымі ў Зыбіна, як і ў іншых цэхах у той час, былі простыя вясковыя хлопцы, якія яшчэ вельмі мала разбіраліся ў сваёй справе. Шмат хто з іх вызначаўся хіба тым, што на дзіва часта псаваў станкі ці ламаў дэфіцытныя фрэзы.

Не адну гадзіну штодзень Зыбіну прыходзілася корпацца ў станках, наладжваючы іх, цярпліва і стрымана ўтлумачваючы таму ці другому хлопцу, чаму прылючылася бяда і чаго трэба асцерагацца на далейшае. Была такая пара, калі ён амаль палову часу траціў як наладчык,— гэта тады, калі і сваіх абавязкаў было до-

сыць. Але іншага нічога ён не мог бы прыдумаць, бо наладчыкаў сапраўдных таксама не хапала...

Святочны настрой першага дня хутка ўступіў месца клопатнай, не надта шчодрай на радасці абыдзённасці. Але Зыбін не расчароўваўся ў сваёй справе — нягоды здаваліся яму зусім звычайнымі, нават натуральнымі. Ён адчуваў сябе добра, і думкі пра зварот у Тагіл зноў адышлі кудысьці далей, прыціхлі, прыглухлі. Яны ўжо не прыспешвалі, не хвалявалі, як нядаўна. Трэба, аднак, сказаць, што яны яшчэ жылі, і Зыбін не гнаў іх,— ён лічыў, што іх пара прыйдзе, што ці пазней, ці раней ён усё ж вернецца да родных берагоў...

А дзень за днём, месяц за месяцам, што пакідалі сляды ў цэху і ў сэрцы Зыбіна, рабілі сваю справу.

Сустракаючыся ў Мінску з таварышамі, ён побач з успамінамі пра Тагіл, пра лясныя дні цяпер часта гаварыў пра свае заводскія будні...

Бадай, найбольш блізка і неадступна турбавала яго цяпер тое, што жыць даводзілася на дзве сям'і — жонка з маленькім сынам яшчэ была ў раёне, на яго даўнейшым месцы. Жыць ім тут не было дзе. Зыбін, праходзячы па вуліцы, уранку — на працу, ці ўночы — з завода, заўсёды раўніва сачыў, як ідзе будоўля жылых карпусоў. Яны раслі чырвонымі мураванымі сценамі, абазначаючы першыя, яшчэ не зусім зразумелыя абрысы заўтрашніх плошчаў і вуліц. Ён не раз вылічваў, калі зможа перабрацца ў сапраўдную кватэру ці хоць у асобны пакойчык, уяўляў, як будзе жыць утраіх з жонкай і малым сынам.

Амаль кожны выхадны дзень, «падлавіўшы» папутную машыну ці купіўшы на вакзале чыгуначны білет, ён ездзіў да сваіх. Ездзіць было нязручна: мястэчка ляжала ў баку ад чыгункі, і яму адзінаццаць кіламетраў даводзілася дабірацца як прыйдзецца.

Дома ён аддаваў сыну падарункі, якія заўсёды прывозіў з Мінска, браў малога на калені, пытаўся, чым займаўся той мінулымі днямі. Сын дакладваў са смешнай сур'ёзнасцю, падрабязна,— Лёнік і любіў бацьку і пабойваўся. Спусціўшы сына на падлогу, седзячы за сталом і вячэраючы, Зыбін меў звычай распытваць жонку, слухаў яе крыўды, расказваў сам.

— Дровы, мусіць, канчаюцца?— запытаўся ён у адзін са сваіх апошніх прыездаў.

— Канчаюцца... І на тыдзень, бадай, не хопіць. Думала — больш не трэба будзе, пераедзем...

— Ужо хутка, Жэня. Пабялілі наш дом, сам бачыў. Падлогу пафарбуюць,— тыдзень, другі, і, калі ласка: уваходзь, гаспадыня!.. Мясціна там добрая,— агародчык перад вокнамі, дрэвы, трава, як у лесе — раздолле будзе Лёніку!

— Хутчэй бы, здаецца... Лёнік дык з серады часам пачынае лічыць, калі ты прыедзеш. Сумуе часта...

— А ты?

— Сам ведаеш!

Яна падумала са здзіўленнем, што ён даўно пра Тагіл не гаворыць, не ўспамінае быццам. Выпадкова гэта ці, можа, прывык?

— Перабрацца б, Вася, хутчэй. І нічога больш не хацела б я! — яна ўздыхнула.

— Хутка ўжо, сказаў.

Зыбін быў у гэты свой прыезд больш, як звычайна, задуменны, унураны ў сябе, і жонка адчувала, што ў яго штосьці здарылася,— можа, нават непрыемнасць якая-небудзь. Але ад прывычкі, якая ўжо стала ў яе як бы законам, Жэня не запыталася, што яго так хвалюе.

Ён сам адкрыў прычыну роздуму. Раздзеўшыся, лёгшы ў пасцель, сказаў:

— Начальнікам прапануюць стаць... Начальнікам цэха. Нарма́лей.

— Што гэта за... нармалі? — няўпэўнена запыталася яна.

— Ну, цэха, што робіць розныя шрубкі, гайкі, арматуру. На другіх заводах такія цэхі называюць аўтаматнымі, а ў нас — цэх нармалей...

Пра самае галоўнае, што больш за ўсё непакоіла, не сказаў: становішча ў цэху нармалей, зусім нядаўна створаным, было цяжкае — цэх затрымліваў выпуск машын, зрываў усе графікі. На кожнай нарадзе цэх лаялі,— лаялі начальніка цэха, начальнікаў аддзяленняў, майстроў.

Пазіраючы бяссоннымі вачыма ў цемру, Зыбін зноў слова за словам успамінаў нядаўнюю размову.

— Уся работа наша ідзе к чорту з-за гэтага цэха, разумееш? — пытаўся дырэктар, экспансіўны, плячысты, з капой чорных валасоў. Ён парывіста правёў вялі-

кімі, відаць, дужымі рукамі, нібы падмацоўваючы свае словы: «к чорту».

У дырэктара была манера гаварыць грубавата, абавязкова на «ты», па-сяброўску, тонам чалавека, які нічога не хавае.

Зыбін, успамінаючы, хмурыўся.

— Цэх — нялёгкі, адкрыта кажу. Сам чуў — начальніка, начальнікаў аддзяленняў, майстроў цэха нармалей мы заўсёды з наждачком працiралі. Не давалі літасці. Цяжкі цэх, ясна. Там не кожны падніме. Туды трэба чалавека цягавітага, з галавой, такога, што можа любую справу на ногі паставіць. Мне здаецца, што, акрамя цябе, такую справу даручыць няма каму... Няма каму.

Ён развёў рукамі, як чалавек, які трапіў у безвыходнае становішча.

— А вы ўпэўнены, што я буду лепш за... былога?..

— Веру табе. Ты можаш выцягнуць. Ну, а падвядзеш — запомні — і табе літасці не будзе! Да цябе яшчэ злейшы буду, бо ведаю, што, калі на цябе націснуць, ты вывезеш!..

Дырэктар па-прыяцельску ўзяў Зыбіна за руку. «Дзіўная манера гаварыць —і палохае, і кампліменты адначасова»,— прайшло цяпер у галаве Зыбіна.

— Ну, я не чуў твайго слова?! Што ты скажаш, Зыбін?

Васіль Цімафеевіч не спяшаўся гаварыць: ён, здавалася, уважліва разглядаў грузную мармуровую, з чыгунным коннікам чарніліцу на дырэктарскім стале, што стаяла поблізу.

— Што скажу? Пастараюся.

— Гэтага мала — пастараюся.

— Ну, што ў сіле, зраблю.

— Гэта — лепш. А дзе сілы не хопіць, мы падбавім. Падкажам, параім, а то і з наждаком пратром. Глядзі, і прыбавіцца сілы...

— Гэтага будзе, ведаю. «Здымаць стружку» ў нас умеюць.— Зыбін устаў з мяккага крэсла, адчуўшы, што размова закончана. З ніякавай усмешкай раптам прамовіў: — А я ўжо, дзівак, падумваў, што час, можа, падавацца ў родныя мясціны.

— Куды гэта?

— На Урал. У Ніжні Тагіл.

— Ну, што там рабіць табе, у Тагіле?! З Тагіла едуць сюды, а ты ў Тагіл! Хоць, ведаеш што,— адпусцім. Абяцаю. Наладзь справу, падрыхтуй змену і, бог з табою,— едзь з пашанай! Дамовіліся?

«Так усё гэта проста — «наладзь справу»!» — падумаў з іроніяй Зыбін, пераварочваючыся на другі бок.

7

Яму давялося перажыць нямала горкіх дзён. Зыбін хутка зразумеў, у чым прычына таго, што цэх не спраўляецца з тэмпам жыцця завода, але паправіць справы не мог. У прывычнай вечнай скураначчы хадзіў ён у тыя дні пануры, паглыблены ў сябе, тоячы настойлівы позірк халаднаватых і шэрых, як лістападаўскія хмары, вачэй.

Ніякіх дзіваў асаблівых не было ў тым, што ён хацеў зрабіць для цэха,— нічога незвычайнага. Але ад гэтых простых рэчаў залежала справа; хоць, трэба сказаць, гэтая прастасць іх была не так ужо простай, калі Зыбін пачаў ажыццяўляць свае намеры.

Больш за ўсё ён біўся над тым, каб лепш арганізаваць працу. Цэх павінен быў выпускаць некалькі тысяч розных дэталей, і станкі часта пераналаджвалі, губляючы на гэта многа часу. Зыбін хацеў скараціць час, які ідзе на пераналадку станкоў, выпускаючы дэталі вялікімі партыямі. Гэта нярэдка прыводзіла тады да затрымак канвеера, бо некаторых дэталей канвееру своечасова не хапала.

Справы ў яго доўга не ладзіліся, і да Зыбіна даходзілі чуткі, што яго вось-вось здымуць з пасады. Такога ў жыцці Зыбіна, чалавека самалюбівага, даўней не было, і гэтыя нелады яму вельмі абыходзіліся. Ён стараўся на ўсю сілу, не бачачы ні дня ні ночы.

Жыць бы яму ды жыць цяпер шчасліва, такая зручная кватэра, прасторная, светлая, цёплая, сям'я, нарэшце, перабралася ўся,— і жонка, і сынок-гарэзнік,— а нягоды ў цэху ўсё засланялі трывожнымі, нядобрымі хмарамі.

— Змарнелі вы, Васіль Цімафеевіч,— чорны нейкі...— пашкадавала яго тэхнолаг цэха Алена Сяргееўна.

Яна была поўная, з пышнымі валасамі, кучаравымі над ілбом і каля маленькіх ружовых вушэй.

Жанчына збянтэжылася, пачаўшы такую размову, відаць, прыкрую яму, і, каб схаваць няёмкасць, параіла спакойна:

— А вы не бярыце гэтак да сэрца.

— А... хто бярэ?

— Ды вы... хіба ж я не бачу?.. Васіль Цімафеевіч, здымуць — ну, здымуць, што ж!.. Вядома, непрыемна, але — толькі і таго свету, што наш цэх?!

Яна ніколі не гаварыла яму гэтак шчыра, і на такую тэму. Зыбін звычайна адносіўся да яе стрымана і суха, вельмі рэдка жартаваў, і Алена Сяргееўна таксама трымалася строга афіцыйна.

Да таго ж, яна і зайшла зараз сюды на выклік начальніка цэха не для такой размовы, а для таго, каб даць нейкія непрыемныя тлумачэнні, мусіць, пра забракаваную амаль напалову партыю шпілек. Уваходзячы сюды, яна ў дзвярах спаткалася з панурым начальнікам аддзялення, якое рабіла шпількі.

— Вы чулі, што мяне... здымаюць?— важка падняўся з-за стала Зыбін. На лоб яго спаўзла пасма цёмна-русых даўгаватых, з глянцавітым адлівам валасоў, якія ён гладзенька зачэсваў угору. Зыбін не паправіў іх.

— Чула...

Ён маўчаў.

— Эх, і што гэта за цэх! — сказала Алена Сяргееўна.

— Так, цэх — з характарам. Наравісты.

— Васіль Цімафеевіч, — тэхнолаг рашуча глянула на Зыбіна.— Вы ўсё хацелі ехаць дамоў, на радзіму...

— Ну і што, калі хацеў?!

— Не бярыце да сэрца... Здымуць, дык вы прасіцеся і... едзьце дамоў. Цяпер, мусіць, не будуць затрымліваць, адпусцяць...

— Адпусцяць! — іранічна паўтарыў Зыбін.— Што адпусцяць, то адпусцяць. Напэўна, нават ахвотна... Я гэтага толькі і чакаў...

— Ну што ж, калі так атрымліваецца?

— Дажыў да чэсці!..

Ён стаў хадзіць за сталом: тры крокі ў адзін бок, тры — у другі. Так ён хадзіў часам пры нарадах, ка-

лі слухаў тое, што не падабалася, ці калі проста хваляваўся. Твар яго быў задуменны, і Алене Сяргееўне здавалася, што Зыбін цяпер думае якраз пра яе параду: ехаць ці не ехаць?

— А можа, і праўда — паехаць? — Ён зірнуў на Алену Сяргееўну, нібы раіўся з ёю.— Старая будзе так рада!.. Колькі ўжо чакае!.. Адной паперы колькі спісала, запрашаючы прыехаць!.. Сястрычкі на шыю пачэпяцца, выцалуюць! — ён усміхнуўся так пяшчотна, што Алена Сяргееўна таксама заяснела.

— Едзьце. І не трывожце сабе душу дарма...

Але Зыбін раптам нахмурыўся.

— Не, такім чынам я адсюль не паеду...

Ён так нечакана перамяніўся, што ў Алены Сяргееўны была яшчэ пры гэтых словах ясная ўсмешка.

— Не магу паехаць, разумееце?.. Я не з такіх, што лёгка прыходзяць і лёгка выходзяць! Я, Алена Сяргееўна, чалавек з норавам. З рабочай чэсцю. Я яе, здаецца, не страціў яшчэ. І калі, можа, страчу, то не хацеў бы, каб гэта было тут, разумееце?

— Разумею, Васіль Цімафеевіч,— збянтэжана адказала жанчына, мімаволі ўстаючы. Маленькія вушы яе крыху заружавелі.

— Да той пары, пакуль я не дакажу, хто такі Зыбін, я не хачу ехаць дамоў,— мне туды няма чаго ехаць... Пачакаю!.. А чуткі розныя,— адразу перайшоў ён на іншае,— прашу больш сюды не насіць! Я іх не хачу ведаць. Зразумелі?

— Добра, Васіль Цімафеевіч!

Яна пазірала на яго, як паслухмяная школьніца на строгага настаўніка. Алена Сяргееўна, здавалася, гатова была згадзіцца з усім, што ён зараз скажа.

Зыбін апусціўся на стул.

— Сядайце. Зоймемся справамі... Буду зараз «здымаць з вас стружку». Я хачу ведаць,— хударлявы, з рэзкімі рысамі твар Зыбіна стаў сухі, афіцыйны,— як гэта сталася, што партыю пяцідзесятай шпількі забракавалі?

— Парушылі тэхналогію, Васіль Цімафеевіч!

— Парушылі? А вы на што глядзелі?

Алена Сяргееўна не сказала нічога, каб апраўдацца: яна ведала, што ў такіх выпадках Зыбін вельмі не любіў, калі апраўдваліся.

— Зноў закавыка з гэтай шпількай! Ніяк не можам наладзіць новы графік работы станкоў, а тут — гэтае!..

Гэты брак, які столькі разоў блытаў надзеі Зыбіна!

— Алена Сяргееўна, я хачу спадзявацца, што такіх фактаў — па вашай віне — больш не будзе!

Жанчына, як у клятве, скрыжавала на грудзях маленькія ружовыя рукі.

— Васіль Цімафеевіч, я зраблю ўсё.

— Глядзіце!.. Нічога, няхай б'юць, няхай лаюць,— загаварыў ён да Алены Сяргееўны ўжо іншым галасам, як бы супакойваючы сябе.— Потым, можа, дзякуй скажуць... А не скажуць,— і не трэба. Абыдземся і так... Шлях наш правільны, я ўпэўнен. Трэба прастоі станкоў скараціць да мінімуму. А інакш — усё роўна будзем у прарыве. І з кожным месяцам — усё больш. Тэмпы растуць!..

Алена Сяргееўна згаджалася, ківала галавой з пышнымі кудзеркамі.

Амаль кожны вечар сядзеў ён у сваім пакоі пры цэху, на другім паверсе, куды плыў шум станкоў і дзе на шышкінскай карціне поўзалі ў ціхім ранішнім лесе мірныя медзведзяняты,— меркаваў з начальнікамі аддзяленняў, з тэхнолагамі, з планавіком, якія станкі пераналаджваць, якія дэталі трэба рабіць.

Зыбін разумеў: каб заўсёды ўпраўляцца з тым, чаго патрабуе галоўны канвеер,— трэба ведаць усё, што ёсць у яго зробленага, колькі ўсіх гэтых разнастайных шрубак, гаек, арматурных прыстасаванняў і — што не менш важна — колькі іх трэба будзе заўтра, паслязаўтра, праз тыдзень, з чым можа здарыцца праклятая многа разоў затрымка. Яго галава была заўсёды запоўнена разлікамі, назвамі розных дэталей, лічбамі.

— І як вы іх помніце столькі? — здзівілася Алена Сяргееўна. Гэта было ў той выдатны дзень, калі цэх у першы раз не лаялі.— Памяць у вас — аж дзіва!

— Была б у вас памяць такая, каб вам так дорага абыходзіліся яны.

— Такі многа прыкрасці было з імі ў вас!

— Многа не многа, але не сказаць, каб і мала. Ха-

піла, адным словам... А вы ведаеце,— загаварыў больш лагодна Зыбін,— люблю я ўсё ж яго, гэты цэх. Проста дзіўна! І крыві ён мне папсаваў больш, як трэба, і «стружкі знялі» з мяне за яго многа, а ўсё ж люблю. Больш за механічны, бадай. Зрадніўся з ім...

— Гэта бывае,— кіўнула кудзеркамі Алена Сяргееўна.— Вы яму многа аддалі,— вось ён і дарагі. Ён ужо дарагі вам не толькі сам па сабе, а і як частка вашага жыцця, вашай душы...

— Ну, вось — душу ўспомнілі! — усміхнуўся Зыбін.

— Вы не згодны са мной, Васіль Цімафеевіч?

— Не ведаю...

Зыбін і праўда не разумеў, як гэта сталася, што ён нібы прырос да гэтага неспакойнага цэха.

Прырос, як ніколі раней...

## 8

Увосень яго выбралі на абласную партыйную канферэнцыю. У перапынку між пасяджэннямі Зыбін пахаджваў сярод дэлегатаў, вітаўся са знаёмымі, разглядваў партрэты артыстаў, што красаваліся на сценах высокага, аж занадта прасторнага тэатральнага фае.

Уціснуўшыся ў гурток, што акружаў кніжны кіёск, ён купіў Лёніку дзве каляровыя кніжкі, у якіх малюнкаў было больш, як вершаў, а калі адышоў, то адчуў, што хочацца піць. Ён падаўся рашучай хадою да буфета. Круглыя маленькія столікі амаль усе былі заняты, і Зыбін стаў шукаць вачыма вольнага месца. За адным столікам ён заўважыў даўняга свайго знаёмага Собаля.

— Кваском прабаўляешся? — прамовіў Зыбін, падышоўшы.— Ці не з яго ты гэта пухнуць пачаў?

Собаль, праўда, за той час, што яны не бачыліся, яшчэ больш растаўсцеў.

— А, Зыбін! Прывітанне і пашана рабочаму класу! — весела сказаў Собаль.— Ну, рапартуй. Як справы?

— Пачакай, дай глыну вады.— Зыбін выпіў, паставіў шклянку, пахваліўся: — Тысячу машын ужо далі! Кадры рыхтуем...

— Усё рыхтуеш? Усё абяцаеш?.. Калі ж падрыхтуеш?

— Не спяшайся. Гэта табе — тэхніка. Але добрая

палова,— клянуся, не маню,— працуюць ужо як майстры. Ручаюся, любому кадравіку не паддадуцца.

— Значыцца, не горш, як у Тагіле тваім, умеюць рабіць? — падлавіў яго таварыш.

— Ну, да тагільцаў, можа, далёка, але ўмеюць рабіць! — адказаў больш стрымана Васіль Цімафеевіч.

Зазвінеў званок, і яны хутка ўсталі. Ідучы ў зал, Зыбін запрасіў таварыша ў госці: Собаль яшчэ не быў на яго новай кватэры.

— Добра, зайду абавязкова. Калі?

— Ды хоць сягоння. Можаш сягоння? Вечарком?

— Буду.

Собаль прынёс навасёлам падарункі — Жэні аддаў настольны гадзіннік з прыгожай шкляной падстаўкай рубінавага колеру, а сыну ўрачыста ўручыў маленькае ружжо. Сын завішчаў ад радасці, схапіўшы падарунак, і тут жа «стрэліў» у акно.

— Ты што гэта, разбойнік! Акно разаб'еш!

Собаль, смешна прыгразіўшы малому, разам з жонкай Зыбіна, якая за апошні час неяк раздалася ў шырыню і стала лянівай у рухах, пайшоў па пакоях: Жэня паказвала гасціную, спальню, кабінет, і Собаль добра бачыў, што яна ганарыцца плёнам рук сваіх. Пакоі былі старанна і любоўна прыбраны. У жоўтай гасцінай, з распіснымі сценамі, на падлозе каля акна стаяў разгалісты фікус у вялікай драўлянай кадушцы, і жонка Зыбіна сказала, што купіла яго на рынку і аддала дзвесце пяцьдзесят рублёў.

— Не пераплаціла я?

— Думаю, што не. Такі цяжка знайсці...

У гасцінай, і ў спальні, і ў кабінеце было многа падушачак на канапах, вышывак. Собаль запытаўся, ці сама яна вышывае, і, пачуўшы, што сама, пахваліў:

— Малайчына. Толькі ж корпання з імі многа — у мяне б , каб загадалі, цярплівасці на гэта не хапіла б...

Ён палюбаваўся соснамі, што высіліся адразу за акном. Адна галіна з пажоўклай шышкай, з іглістымі кусточкамі, ціха гайдаючыся, цягнулася да расчыненай форткі, нібы заглядвала ў пакой.

— Чорт вазьмі! — як здарава тут у вас! Проста — Сочы. Курорт.

— Добрае месца... Лес.

— Ну вось, нарэшце ты, відаць, знайшоў сваё месца,— сказаў нечакана Собаль, агледзеўшы кабінет і апускаючыся важкім целам на мяккую канапу, пружыны якой жаласна заскрыпелі.

— Знайшоў. Вучыцца, брат, нават паступіў у інстытут, на вячэрняе.

— Значыцца, усё? Асеў?

— Асеў пакуль што. А там падрыхтую змену, развітаюся па-добраму, і...

— З людзьмі, мусіць, не сышоўся душа ў душу, а?

— Ды не. Людзі мне падабаюцца.

— Дык чаго ж ты рвешся? Радзіма? Цягне?

— Яна, брат. Усё-такі, што ні кажы, роднае месца вабіць!.. Маці, брат, спакою не дае — бамбардзіруе лістамі: калі прыедзеш, калі пашкадуеш ды падтрымаеш старую? Пяцёра сыноў было — двое на вайне загінулі... Іншыя раз'ехаліся хто куды, адзін нават на Курылах, рыбачыць трэці год. Толькі сястрычкі дзве засталіся — адна, Верка, замужам, а другая, меншая, у дзесяцігодцы вучыцца, вось-вось возьме ды паляціць з матчынага гнязда. На аднаго мяне ў старой надзея. Ну, як я павінен думаць пра ўсё гэта? Сын я ці не сын?

— Сын... Паехаў бы ды забраў яе сюды, як добры сын.

— Забраў бы — лёгка сказаць. Усё жыццё пражыла там!.. Куды ёй у такія гады перабірацца! Сумаваць будзе тут... Старую таполю, брат, не проста перасадзіць.

— Нічога, прывыкне. Сын пры ёй ды яшчэ — унук, што больш трэба тваёй таполі?

— Ёсць там у яго яшчэ адна таполя — маладая! — адазвалася Жэня. Яна гаварыла з усмешкай, нібы жартавала, але ў гэтым жарце, заўважыў Собаль, адчувалася не вельмі прытоеная трывога.— Надзечка ёсць такая! Першая любоў!

— Ну, успомніла! От, брат, народ — жанчыны,— век будзе раўнаваць, упікаць, калі даведаецца, што яшчэ хтосьці, акрамя яе, падабаўся.

— Нічога я не ўпікаю! — запярэчыла знарок весела Жэня.— Толькі ў мяне і клопату!

Ёй, мусіць, не хацелася, каб госць убачыў, што ў яе, няхай недзе глыбока, ёсць трывожныя і раўнівыя думкі,— каб не падумаў часам, што ў іх, у Зыбіных, дзе так светла і чыста, не ўсё добра.

Яна схамянулася, хутка выйшла ў кухню гаспадарыць, а неўзабаве на знак жонкі падаўся да яе і Зыбін. Жэня пра нешта пачала шаптаць яму.

Разлёгшыся на канапе, Собаль загадаў сабе задачу, колькі ўжо часу Зыбін жыве на Беларусі. Шэсць год сплыло, шэсць [redacted] лішкам, сёмы ішоў, як ён ажаніўся з Жэняй, сёмы пачынаўся іх хлопчыку.

— Вось ты кажаш — радзіма, роднае месца,— загаварыў Собаль, як толькі Зыбін вярнуўся.— А што такое яно, гэтае роднае месца? Для цябе ясна — Тагіл. А для мяне — мае Гунькі, дзе я нарадзіўся? А што ж тады, скажы, Мінск, дзе я вучыўся? Або Ленінград, дзе я на флоце служыў? Чужына?.. І слова якое, скажы,— халоднае, дзікае...

— Адным словам, ты хочаш адкрыць мне тую ісціну, што радзіма — ад Брэста да Камчаткі і ад берага Рыбачага да Паміра. Дзякую. Але гэта я, дарагі, і сам ведаю... А роднае гняздо ўсё ж роднае гняздо. Было і будзе.

— Я і не спрачаюся — роднае месца павінна быць у чалавека. Але вось у чым справа, дружа. Бывала, як бы табе сказаць, адно было ў чалавека. Адно-адзінае, маленькае, вузенькае. Адразу дзе-небудзь за межамі Гунькоў чалавек адчуваў сябе чужым... За межамі сваёй вуліцы, свайго двара,— многім здавалася — быў чужы, халодны свет... А цяпер вунь на Курылах жывуць, як дома, у Сібір едуць, як у родны дом. Хіба яшчэ было калі такое рассяленне, перасяленне, засяленне! Цэлыя дзікія, пустынныя землі засялілі, абжылі, абрабілі, заводамі, гарадамі ўпрыгожылі!

— Гэта ўжо іншая тэма.

— Так, іншая, згодзен. Вяртаюся... Вось ты падумаў, колькі цяпер родных месц у чалавека? Тут нарадзіўся, там вучыўся, першы раз, скажам, палюбіў,— як не лічыць такое месца родным? Тут служыў у арміі, тут працаваў — праславіўся, тут жаніўся...

— Ну, налічыў, філосаф! — упарта, з насмешачкай у голасе і на тонкіх губах запярэчыў Зыбін, паказваючы, што ў яго на гэта ёсць свая думка.— Налічыў, філосаф! — паўтарыў ён.— Галава можа закружыцца. А дзе ж усё-такі адно,— асноўнае, можна сказаць? Ці няма яго?

Гэтая насмешачка яшчэ больш распаліла Собаля, які звычайна не любіў спрэчак.

— Ёсць! Там, дзе ён больш патрэбны людзям, адсталы ты чалавек! Зразумеў?

— Не зусім. А чаму ты думаеш, што я больш патрэбны тут?

Жэня, якая, пачуўшы з кухні размову сяброў, увайшла ў кабінет і, стоячы ў дзвярах з ручнікам, слухала,— адазвалася так узрушана, што Собаль здзівіўся,— гэта ніяк не пасавала з яе звычайнай павольнасцю і лагоднасцю:

— А можа, я ў Тагіл не паеду? Можа, мне клімат у Тагіле не падыходзіць?

— Як гэта не паедзеш?

— А так, вазьму ды, можа, развод запатрабую. Скажу — кліматамі не сышліся. І сына не аддам.

— Ну-ну, ты гэта кінь.

Усміхаючыся, Зыбін дабрадушна абняў яе за поўны стан, як бы даводзячы, што ён разумее гэты жарт і ўпэўнены, што яна паедзе туды, куды ён захоча.

— Ты што гэта, Барыс, разлад у маёй сям'і робіш? — сказаў Зыбін, жартуючы, таварышу.— Нядобра, не па-прыяцельску!..

9

Вечарам Зыбіну, які збіраўся ісці дамоў, пазванілі, што заўтра мае быць дэлегацыя. Васіля Цімафеевіча прасілі паказаць дэлегатам свой цэх, пазнаёміць з лепшымі людзьмі.

Вестка гэтая была ўжо звычайная: дэлегацыі на завод прыязджалі нярэдка.

Завод, побач з карпусамі якога ў хвойніку жаўцелі і белелі дамы цэлага горада з шырокімі вуліцамі, з аўтобусамі, са стадыёнам, ужо шумеў усімі цэхамі; яго машыны, якія няспынна сыходзілі з галоўнага канвеера, можна было цяпер бачыць бадай па ўсёй краіне, і на заводзе ўжо не здзіўляліся ні славе сваёй, ні дэлегацыям...

На другі дзень Зыбін прыйшоў апрануты па-святочнаму — у новым бастонавым касцюме, з двума баявымі ордэнамі, у шаўковай сарочцы з зялёным пярэ-

стым гальштукам і ў фетравым капелюшы. Такі ўжо быў у Васіля Цімафеевіча звычай сустракаць.

Калі госці пайшлі па суседнім цэху, Зыбіна паклікалі. Ён спаткаў іх у «суседзяў», з паважным і гасцінным выглядам стаў знаёміцца. Неспадзеўкі аказалася, што адзін з іх — Гвозд — з Ніжняга Тагіла! Праўда, з другога завода. Металург.

— Вось цуд! Землякі, значыцца!.. Я ж таксама адтуль. Што ж, дарагім гасцям пашана, а земляку — удвая!.. Рад!

Пакуль госці развітваліся з «суседзямі», Зыбін стаў распытваць, што новага ў Тагіле, называючы сваіх знаёмых, успамінаючы. Праз якую-небудзь хвіліну яны былі ўжо вялікімі сябрамі.

Адказаўшы на пытанні, якія ўзрадаваны Зыбін сыпаў і сыпаў, госць, хударлявы, з усмешачкай, што не сыходзіла з твару, пацікавіўся:

— Не збіраецеся назад?

— Ды пакуль не. Не адпускаюць,— адказаў Зыбін з ноткай як бы задавальнення тым, што затрымліваюць.

— Вядома. Хто ж адпусціць добрага спецыяліста...

Гвозд запытаўся, ці добра яго, Зыбіна, уладзілі: якая ў яго кватэра, якая зарплата.

— Усё добра. Калі б толькі ў Тагіл не цягнула!.. Вось сустрэўся — і нібы прывітанне з радзімы атрымаў. Тужліва стала. Засмактала ў сэрцы!..

Зямляк быў чалавек добры, далікатны — на ўсё, што казаў Зыбін,— падтакваў, ківаў галавою.

— Так, так... вядома...

— Што значыцца роднае месца! Вы і ўявіць не можаце, як цягне часам! Бывае, у працы забудзеш пра ўсё, а потым адразу як наплыве, надыдзе, агорне! Эх, Тагіл, Тагіл!.. Чорт пабяры, там у нас і паветра пахне, здаецца, інакш!..— раптам расчулена прамовіў Зыбін.

— Паветра? — здзівіўся зямляк, але, ніякавата пакашляўшы, падумаўшы штосьці, далікатна кіўнуў: — Яно, вядома, напэўна... Паветра...

Увёўшы гасцей у цэх, Васіль Цімафеевіч адчуў, што яму вельмі не хочацца, каб хто з іх, асабліва Гвозд, падумаў што-небудзь кепскае пра яго цэх, яго завод, яго таварышаў.

— Наш цэх самы малы па плошчы і робіць самыя

дробныя дэталі, можна падумаць — дробязь: шрубачкі, гайкі. Але без гэтых шрубачак не можа жыць ні адна машына, так, як нельга пашыць паліто ці касцюм без ніткі. Нашы дэталі і можна вобразна назваць ніткамі! Значыцца, можна сказаць, што мы робім заводу ніткі!.. Пры ўсім тым наш цэх — цэх самай высокай тэхнікі. Мы робім на станках самых складаных і дасканалых сучасных канструкцый!..

Ён расказваў ахвотна, бо любіў тлумачыць,— тым больш такім гасцям. Напэўна, усе адчувалі, што ён быў, хоць і хаваў гэта часам за жарцікам, за каламбурам, горды і за шырокі, са шкляным дахам цэх, у якім стаяць роўнымі радамі такія цудоўныя станкі, і за сябе, якому даверылі гэта. Ён вельмі хваліў, нязвыкла шчодра хваліў рабочых.

— Вас ужо, мусіць, не дзівіць, што ў нас такія маладыя рабочыя... Такія ж рабочыя на ўсім заводзе — па ўзросту кадраў мы, відаць, адзін з самых «маладых» заводаў... Так!.. Гэтыя хлопцы прыехалі з вёсак. Некалькі гадоў назад многія з іх і да станка падысці баяліся!

Неўзабаве, прабраўшыся між станкоў і скупіўшыся ў вузкім праходзе, госці сталі сачыць за працай аднаго з аўтаматчыкаў. Бледны тварам, кволы з выгляду, з тонкімі рысамі, з зачэсанымі назад каштанавымі валасамі, хлопец пачаў ніякавець.

Васіль Цімафеевіч крануў яго за плячо, супакоіў:

— Не спяшайся. Пакажы, Грынь, што не збяднела зямля наша талентамі!..

Хлопец мякка, па-дзявочаму, усміхнуўся: пакрыху стаў спакайнець. Ён пераходзіў ад аўтамата да аўтамата, што няспынна гулі, вылі, сіпелі, выпускаючы тонкую вітую гарачую стружку, паплёскваючы жаўтаватым ручаём масла, выкідваючы па замасленым жалобку цераз роўныя прамежкі адна за адной гатовыя дэталі. Рухі хлопца, асабліва рухі тонкіх худых рук, станавіліся ўсё больш упэўненыя.

Чалавеку пабочнаму, які не знаёмы са справай, магло б здацца, што ён робіць усё залішне павольна. Ён не мітусіўся, не спяшаўся,— то стаяў, то хадзіў мерна, з нейкай дзіўнай ленасцю ў хадзе, у рухах. Гэтая марудлівасць нібы зусім не пасавала з тым, як працавалі станкі. Іх шасцерні круціліся са страшэннай хуткас-

цю — станкі спяшаліся, сіпелі, аж дрыжалі ад натугі, а кволы з выгляду хлопец стаяў і хадзіў сабе паволі, як чараўнік, упэўнены ў сабе, у сваёй сіле. Ён не рабіў ніводнага лішняга руху і ні разу не прыпазніўся туды, дзе патрэбна была яго дапамога.

Сочачы за аўтаматчыкам, за станкамі, госці паціху перагаворваліся, паказвалі адзін другому, што заўважылі цікавае. Калі ж па знаку Зыбіна станкі спынілі, усе шумлівым гуртком акружылі хлопца, сталі паціскаць яму рукі, пляскаць па плячах, хваліць.

Васіль Цімафеевіч, і сам усцешаны працай аўтаматчыка, задаволена далажыў:

— Гэты хлопец, можна сказаць, не ведае, што такое брак!..— Ён дадаў з задзірыстай усмешачкай: — Вось як мы, беларусы!.. Праўда, Грынь?

Грынь засмяяўся.

Зыбін тут жа схамянуўся: «мы, беларусы!..», зірнуў на земляка. Але Гвозд зрабіў выгляд, што нічога не заўважыў. Адзін з гасцей, высокі, лысы, трымаючы шапку ў руцэ, разважліва сказаў:

— Так, у вас ёсць чаму павучыцца!

Калі госці перайшлі ў новы цэх, Зыбін, па-прыяцельску ўзяўшы пад локаць Гвазда, затрымаў яго.

— Ну вось так і жывём... Ведаеце, усё-ткі тут кавалак жыцця пражыты,— і не абы-які,— сказаў ён, як бы тлумачачы штосьці.

— А як жа ж... Вядома...

— Я тут, недалёка адсюль, партызаніў... А потым у выканкоме тры гады — усё па вёсках, зямлянкі выкарчоўвалі, за ўраджаі ваяваў. Было не лягчэй, чым раней на вайне. А гэта,— ён павёў даўгаватым носам у бок цэха,— думаеце, усё гэта проста далося?.. Не адна маршчынка на твары... што — на твары,— мусіць, на сэрцы адбілася.

Госць спачувальна кіўнуў.

— Пажывеш так,— хіба будзе чужая тут зямля?..

— Вядома... Але ўсё-ткі не родная?

Зыбін адвёў позірк ад госця, задумаўся.

— Не ведаю. Родная яна ці не родная, не зразумееш... І не чужая, не крыўдзіць. Што не чужая, гэта ясна. Столькі гадоў пражыў, і каб кепскае што сказаць,— не магу. Не крыўдзіла... Ну, а ўсё ж штосьці дамоў вабіць, на Урал... Відаць-такі, не парадніўся...

Госць хацеў быў кіўнуць, але стрымаўся, нешта тоячы ў сабе. «Скрытны,— падумаў Зыбін.— Тагіляк. Сапраўдны тагіляк,— пазнаю... усё выслухаў, а сам амаль нічога і не расказаў. Ну, ды што,— вось збяромся, пасядзім разам, язык у яго і развяжацца».

Па-прыяцельску, амаль бесцырымонна ўзяўшы Гвазда за локаць, Зыбін папрасіў зайсці ўвечар да яго на кватэру.

— Пасядзім. Паўлітра раздушым, пагаворым. Ёсць?

Госць чамусьці ціхенька, вінавата кашлянуў.

— Гм. Дзякую, вельмі дзякую... Не пакрыўдуйце часам, дарагі, і рад бы, ды шкада, не змагу. Не змагу, дарагі...

— Чаму?

— Ды вось білет у кішэні,— сказаў ён, засоўваючы белую, з рудымі валаскамі, вузкую руку за борт пінжака, нібы збіраўся дастаць білет, каб Зыбін не падумаў, што гэта адна адгаворка.

— Хіба вы сягоння ўжо едзеце?

— Ды не, не ўсе. Праўду кажучы, я адзін. Дамоў хачу заскочыць.

Зыбін здзівіўся:

— Як гэта — заскочыць?

— Так, заскочыць. Я сам, бачыце, магілёўскі... родам, разумееце, з Магілёва. Вось я і думаю наведацца...

— З Магілёва? Дык вы — не тагіляк?

— Ды як сказаць — тагіляк, мусіць, усё-ткі... семнаццаць год ужо там...

— А-а! — прамовіў Зыбін няпэўна.

Ён быў крыху збянтэжаны і хвіліну маўчаў, не знаходзячы, што сказаць. Яго паклікалі па нейкай справе, і ён больш, як трэба было, заспяшаўся.

— Едзеце, значыцца... А я думаў, што пасядзім, пабалакаем...

— У чатыры гадзіны цягнік...

— Шкада. Ну, што ж!..

Яны развіталіся.

## 10

У нядзелю з узгорка, на якім уздымаліся высокія сосны, каторымі пачынаўся тут край бору, Зыбін з Жэняй і сынам любаваліся горадам.

Быў ясны, крыху ветраны дзень верасня, самага пачатку восені. У ветры яшчэ не чулася асенняй свежасці. Моцна ўгравала сонца, і было добра чуваць, як пахне разамлелай смалой. Будынкі, што віднеліся ўдалечы за шырокай зялёнай лугавінай, ахутвала сіняватая празрыстая смуга, і абрысы дамоў здаваліся лёгкімі і тонкімі.

— Чорт пабяры, няёмка атрымалася з гэтым земляком,— сказаў Зыбін, сочачы за паравозным дымком, што ўзнік, забялеў удалечы між пабудоў.

— Ты, Вася, рэзкі на язык,— павучальна прамовіла жонка.

— Рэзкі ці нярэзкі,— хто ж яго ведаў, што ён магілёўскі, адсюль...

Павярнуўшыся да сына, Зыбін пачаў паказваць яму далёкія будынкі і называць іх.

— А там што, тат?

— Дзе? А... Гэта на Прывакзальнай плошчы. Гэта, як бы сказаць, гарадскія вароты. Уезд у горад. Калі хто прыедзе ў горад па чыгунцы, ён перш за ўсё праходзіць праз гэтыя вароты...

— Гэта, можа, тыя, што на плошчы каля вакзала? Я іх бачыў. Калі мы з мамай ездзілі... Тат, а чаму яны такія вялікія?

— Хто? Вежы?

— Вароты гэтыя! Цэлых адзінаццаць павярхаў. Большыя за дамы!..

Зыбін не адказаў нічога. Прабегшы позіркам па горадзе, ён прамовіў ні то са здзіўленнем, ні то з роздумам:

— А ты ведаеш, жоначка, прывык я да яго.

— Да каго? — не зразумела жонка.

— Да каго... Да яго, да горада. Усё-ткі падабаецца ён мне, Мінск. Жвавы, шумлівы, заклапочаны. Горад заводаў... Ну, а наш завод — пра гэта і не кажы... Усё-ткі гэта не абы-што — столькі гадоў аддаць яму, столькі крыві!..

— Мне таксама падабаецца тут.

— Табе-то я ведаю,— спадылба, крытычна зірнуў на жонку Васіль Цімафеевіч.

— Зручна,— як бы стала апраўдвацца яна.— Горад блізка — і ў тэатр можна, і на канцэрт, і ў магазін любы.

Яна была чалавекам практычным.

— Чорт пабяры, яшчэ — чаго добрага — я буду сумаваць па гэтых сасонках.

— А што ж, хіба не хораша ў нас?..— Памаўчаўшы, яна прамовіла: — Вася, а чалавек гэты, што ты казаў, вямляк, сам з Магілёва, а застаўся там і нішто — жыве сабе...

— Ну і што ж, хай сабе жыве, дзе хоча,— не адразу зразумеў жончын намёк Зыбін.

— Прывык ён, Вася. Таксама, мусіць, спачатку сумаваў... думаў: пажыву трохі, а там, можа, вярнуся. Роднае месца ж кожнага вабіць.. Не толькі аднаго цябе...

— А што з таго?..

— А потым, бач, прывык ён. І нішто, задаволены...

— А-а... Прыклад узяць? Ну і хітрыя вы, жанчыны, усё ў свой бок павернеце.

Зыбін гаварыў дабрадушна, і яна, прыгарнуўшыся да яго, лашчачы яго руку сваёй, поўнай, мяккай і белай, соладка, з надзеяй, ціха-ціха прашаптала:

— А можа... не паедзем, а, Вася? Нашто нам ехаць?

Ён маўчаў. Слухаў лагодны, супакойлівы шум зялёных вяршалін сосnaў, што плаўна хісталіся над ім. Васіль Цімафеевіч любіў слухаць лясны шум.

— Столькі гадоў пражылі тут. Партызанілі... Хіба табе не шкада лясоў, дзе мы хадзілі? Не шкада?.. Эх ты, чэрствы чалавек, Вася,— крыўдуй не крыўдуй — праўду кажу...— Ён маўчаў, задуменны, строгі, і яна адчувала, што словы яе разварушваюць яго душу. Пасмялела: — Кватэра такая!..

— «Кватэра». Што — кватэра?..— ён адняў яе руку, як бы ў знак таго, што незадаволен яе словамі.

Дамоў ён ішоў маўклівы, паглыблены ў нейкія свае думкі.

Праз некалькі дзён Зыбін атрымаў водпуск. Ён не ў першы раз атрымліваў адпачынак, не раз ездзіў дамоў на месяц, але гэты адпачынак быў непадобны на ранейшыя.

Ён даведаўся пра водпуск у кабінеце дырэктара, куды яго выклікалі з цэха.

Распытаўшыся пра справы, параіўшыся, што трэба

зрабіць у цэху бліжэйшымі днямі, дырэктар высунуў скрынку пісьмовага стала і, дастаўшы адтуль зялёную папку, пачаў з таямнічым выглядам развязваць чырвоныя шаўковыя завязкі. Ён выбраў адну з паперак і працягнуў Зыбіну.

— Пазнаеш?

Зыбін кіўнуў галавою. Гэта была яго даўняя заява, у якой ён прасіў адпусціць на радзіму.

— Ну, вось скажы, што з ёю рабіць? І так заляжалася — трэба, як кажуць канцылярысты, даваць ёй ход... Першае слова — тваё. Ты ж, можна сказаць, віноўнік...

Зыбін не адказаў адразу. Што з ёй рабіць? Ліха яго ведае, што рабіць з ёй? Шырокая, вялікая дырэктарская рука паклала паперку на папку.

— Якое ж вам слова трэба?

— Ты не перадумаў?

Дзіўная рэч: яму раптам стала цяжка адказаць на гэтае пытанне, адказ на якое быў заўсёды для яго такі просты. Зыбін завагаўся,— гэта здаралася ў яго так рэдка. Як ён не любіў, калі ў душы з'яўлялася няпэўнасць, а тут — зноў. Што з ім такое?

Гэта ненадоўга, гэта зараз пройдзе, яго кволасць. Не паддацца ёй, адагнаць яе!

— Не, не перадумаў...

— Шкада. Ну што ж, тады мы тут параімся...

Ён даўно чакаў гэтага, але цяпер, калі адбылося чаканае, калі ён выйшаў з канторы дырэкцыі на заводскі двор, то адчуў, што радасці ў яго няма.

Тупаючы ў апошні раз па сваім пакоі на другім паверсе, пакоі са сталом для вытворчых нарад і са смешнымі медзведзянятамі ў дубовай раме, спускаючыся па металічнай, як на караблі, да бляску выцертай нагамі лесвіцы, праходзячы між такіх знаёмых станкоў, Васіль Цімафеевіч стаў адчуваць, што ў ім ные смутак.

Ён зайшоў у кладоўку пад сваім пакоем, пастаяў, паглядаючы на палічкі, дзе ляжалі капіры, разцы розных форм, патупаў у суседнім памяшканні, дзе ў металічных адсеках былі гатовыя дэталі і паўфабрыкаты.

— Як у вас справы з дваццаць пятым штуцэрам? — запытаўся ён у дзяўчыны-кладаўшчыцы.

Ён тут жа падумаў, што пытацца пра гэта не трэба, што тое, колькі яшчэ ёсць у кладовай штуцэра дваццаць пятага, яго ўжо не датычыць. Не павінна датычыць. Гэтыя дэталі скарыстае ўжо яго заступнік, які пра іх і будзе клапаціцца. Зыбін адчуваў, што гэты цэх, і гэтыя загатоўкі, і ўсё, усё гэта — ужо яго і не яго. Ён ужо нібы чужы тут. Ён стараўся не звяртаць увагі на дзіўны свой настрой, але недарэчны смутак не знікаў.

Выйшаўшы з пакоя, ён убачыў тэхнолага, спыніў яе.

— Алена Сяргееўна, вы не крыўдуеце на мяне?

— За што, Васіль Цімафеевіч?

— Ну, за ўсё. Працавалі разам, усякае было. Можа, і пакрыўдзіў не раз.

— Ну, што вы!

— Прабачце, я чалавек грубы, можа — чэрствы, мог не так сказаць. Дык вы не помніце зла.

— Дзіўныя рэчы вы кажаце сёння.

— Вось я і еду!..— паведаміў ён, тут жа адчуўшы, што гаворыць лішняе.

— Шчаслівай вам дарогі!..

— Дзякую... А вы ведаеце,— яму здалося зноў, што ён гаворыць лішняе.— Вы ведаеце, я, здаецца, назусім еду. Назаўсёды.

— Праўда?

Алена Сяргееўна добра не ведала, што ж сказаць з такога поваду, парадавацца ці паспачуваць. Як ён сам, рад? Ёй усё ж, відаць, было шкада Зыбіна: яна звыкалася з людзьмі.

— Не спадабалася, значыцца, у нас, Васіль Цімафеевіч?

— Ды не, не тое. Тут іншыя прычыны...

Ён развітаўся, расчулены. «Што гэта я такі — як дзяўчына?! — падумаў незадаволена.— Глядзі, каб не заплакаў!» — паіранізаваў ён. Зыбін супакоіў сябе тым, што гэта яго журлівасць нядоўгая.

«Паеду — супакоюся хутка!..»

Ён неўзабаве падаўся дамоў.

Дома, фыркаючы пад умывальнікам, расплёскваючы ваду, Зыбін расказаў аб размове ў дырэктара жонцы. Ён амаль адразу ж пашкадаваў, што прагаварыўся, бо, паслухаўшы яго, Жэня пакрыўджана па-

чырванела і не стрымала слёз, захліпала. Выціраючы твар і рукі, Зыбін адвярнуўся, каб не бачыць жонкі: і так на душы моташна, а тут гэтыя слёзы!..

— Вася, а можа, застанемся...— пакуль не позна.

— Я ўжо казаў. Не люблю паўтараць адно і тое ж.

За абедам яна была маўклівая і ціхая, і Зыбін ведаў, што яна крыўдуе. Але ён быў упэўнены, што крыўда і гэты маўклівы дакор яе будуць не доўга, што іх зменіць звычайная пакорлівая ласкавасць, да якой прывык ён за гады жыцця. Жэня больш не заводзіла размовы пра тое, каб застацца, і толькі моўчкі сядзела каля яго, тоячы сумныя думкі, і думала, мусіць,— мяркуючы па выгляду,— пра тое, што нічога не зробіш, куды ён — там і ёй быць.

Яны сталі гаварыць пра паездку. Зыбін хацеў быў забраць і жонку з сынам, але Жэня сказала, што гэта лішняе.

— Усё роўна, Вася, хутка трэба будзе перабірацца ўсім... Толькі непатрэбныя траты цяпер — утраіх ехаць...

— Гэта, можа, і правільна,— згадзіўся Зыбін.

Стараючыся не паказаць, што ёй сумна, Жэня гаварыла пра тое, што яна пакладзе ў чамадан на дарогу, і пыталася, чаго яму яшчэ трэба.

— Якія табе сарочкі пакласці? Мусіць, тую шаўковую ў палоску і вышываную. Хопіць дзве?

— Хопіць. А наогул, рабі як хочаш.

Ён прылёг на канапу.

— Ты толькі глядзі, каб з Надзяй там чаго-небудзь... Даведаюся, пабачыш, не дарую.

— Ну, вось што — тэму гэту адкладзём як лішнюю, ясна? — адказаў рашуча Зыбін, і яна паспакайнела.

Пасля абеду Зыбін любіў, лежачы на канапе, лістаць часопіс — разгадваць красворды, чытаць розныя кароценькія заметкі на апошніх старонках. Ламаючы галаву над адным словам з красворда, ён намерыўся быў клікнуць жонку на дапамогу і заўважыў, што яна стаіць задуменная каля фікуса, які толькі што паліла.

Як бы схамянуўшыся, Жэня ўздыхнула і пайшла павольна на кухню.

Зыбін не паклікаў яе.

## 11

Ён вярнуўся праз месяц. Калі таксі спынілася перад вокнамі яго кватэры, акрамя радаснага Зыбіна выйшла з машыны старая дзябёлая жанчына ў суконнай паддзёўцы і пуховай хустцы. Больш поўная, чым Зыбін, старая тварам вельмі нагадвала яго. Гэта была маці Зыбіна.

— Ну, вядзі, паказвай, куды тут ісці! — загадала старая сыну, узяўшы пад руку клунак, які падаў ёй шафёр.

Зыбін, з чамаданам у руцэ, павёў яе ў пад'езд дома. Старая ішла ўгору поруч з ім, і калі сын запытаўся, ці не спыніцца перадыхнуць, адказала, што і так — у цягніку — наадпачывалася добра. Усё-ткі, пакуль паднялася на трэці паверх, Зыбін заўважыў — задыхалася.

Дзверы адчыніла жонка. Яна кінулася б на шыю, зацалавала б, але неспадзеўкі ўбачыла старую і не змагла ўхаваць ад Зыбіна здзіўлення.

— Заходзьце, мама! — яна ўзяла з рук старой клунак.

У калідоры старая, скінуўшы паддзёўку, выцерла губы, тройчы пацалавала нявестку, якая ўсё яшчэ, хоць і старалася не паказваць гэтага, не магла прывыкнуць да нечаканасці. Чаму яна прыехала, Васілёва маці, прыехала ў такую пару? Навошта Васіль пацягнуў яе цяпер? Перад самым ад'ездам...

Старая, развязаўшы клунак, штосьці дастала адтуль, зірнула ў пакой.

— А дзе ж унук?

Жэня сказала, што ён гуляе, недзе на двары гуляе, што яна зараз пакліча. Але ўнук не стаў чакаць,— калі маці накідвала на плечы паліто, ён пазваніў і, ледзь расчынілі дзверы, як вецер, уварваўся ў калідор. Убачыўшы перад сабою незнаёмую старую, ён хацеў быў абмінуць яе, каб кінуцца да бацькі, але бабуля строга спыніла яго:

— Ты што ж гэта, бабулі роднай не прызнаеш?

Ён спасцярожліва зірнуў на маці, чакаючы падтрымкі, і пачуў ад яе, што бабулю трэба пацалаваць. Лёня паслухмяна, без асаблівай ахвоты, выканаў пара-

ду. Прыкметна ўсцешаная, строгая бабуля ўручыла яму вязаны світрык, прымаючы які, малы пачырванеў.

— Малаваты, мусіць, будзе, світэр-та,— пашкадавала старая.— Такі вялікі хлопец,— выцягнууся, як дубец. У Зыбіных ростам. Не дураслівы?

Бацька адказаў:

— Усяляк бывае.

— У мяне не падурэе! — Яна строга паглядзела на Лёню і павярнулася да нявесткі: — Пакажы свае харомы, мілая. Вася хваліўся вельмі.

— Ну, Жэнечка, паказвай. А я тым часам збегаю па адной справе,— нечакана сказаў Зыбін.

Неўзабаве ён ішоў у сваёй расхрыстанай скуранцы ў кірунку завода.

На асфальтаванай вуліцы, што вяла к запаветным варотам, Зыбін спаткаўся з аўтаматчыкам, за працай якога калісьці сачылі госці. Грынь быў у пінжаку і белай сарочцы з адкладным каўняром, хоць дзень выпаў халаднаваты і хадзіў вецер.

Хлопец, відаць, ішоў з магазіна,— у руках ён трымаў загорнутую ў газету буханку хлеба.

— Васіль Цімафеевіч! Добры дзень! Даўно прыехалі?

— Толькі што з вакзала...

— А-а...— хлопец падумаў хвіліну і запытаўся баском: — Ну, што там... на радзіме вашай?

— У Тагіле? Навін харошых многа. Усяго адразу і не раскажаш. Заходзь сёння, пасядзім, пагаворым... Заходзь, праўда — без цырымоній!.. А што тут цікавага ў нас?

— Новую машыну зрабілі.

— Зрабілі ўжо? Глядзі ты, якія навіны! Дзе яна, навінка гэтая? Хадзем... Ты не спяшаешся?

Яны пайшлі к заводу. Алена Сяргееўна, што трапілася ім каля ўваходных варот, убачыўшы Васіля Цімафеевіча, заззяла. Яна павіншавала яго з прыездам, і маленькія вушы яе чамусьці паружавелі. Звычайна сухаваты, Зыбін неспадзеўкі схапіў яе руку, патрос, відаць, усцешаны тым, што яго сустракаюць як свайго, любяць.

— Ну, што ў нас, у цэху? Ці — не трэба. Зараз я прыйду — раскажаце ўсё! І пра ўсе чуткі таксама. Абавязкова!

— Пра чуткі — ёсць строгі загад,— напомніла Алена Сяргееўна, зноў ружавеючы і развітваючыся.

— Загад адмяняю... Ведаеш, проста дзіва — засумаваў я штосьці там,— па-дружбацку сказаў Зыбін Грыню.

Хлопец далікатна кіўнуў галавою:

— Не спадабалася дома?

— Ды не, яно не тое,— не спадабалася... Горад за гэтыя два гады, што я не быў дома, яшчэ разросся, пахарашэў. І завод, дзе я працаваў, пашырэў — два новыя карпусы пабудавалі. Праўда, з нашым аўтамабільным яго не зраўняць. Не тыя маштабы!.. Але справа не ў гэтым, не ў памерах. Сумаваць я штосьці пачаў па нашым аўтамабільным. Пакуль ездзіў туды так сабе, на месяц, не заўважаў гэтага, а як сабраўся назаўсёды, паспрабаваў адарвацца,— бачу...

— Прывыклі...

— Людзей знаёмых засталося не сказаць каб многа. Адны з вайны не вярнуліся, другія пераехалі, тыя пастарэлі, перамяніліся... Але хто-ніхто з сяброў застаўся. Сустрэлі і ў гэты раз добра, лепш няможна!.. І работа знаходзілася. А ўсё-такі на другі тыдзень пацягнула сюды...

Зыбін агледзеў вясёлымі, пацяплелымі халоднашэрымі вачыма шырокі двор, абсаджаны маладымі клёнамі.

— Ледзь не кожны дзень думаў, што тут у нас. «Правду» сястрычцын муж выпісвае, дык як толькі атрымаю, адразу ў газету — што ёсць з Мінска. Ці няма чаго-небудзь пра наш, пра аўтамабільны?..

Яны спыніліся каля машыны, што стаяла на двары, непадалёк ад шырокіх варот цэха. Магутны цёмна-зялёны грузавік з такім знаёмым упартым лабастым зубром на баку, сам падобны да гэтага зубра, гатоў быў, здаецца, вось-вось рушыць у дарогу, нецярпліва чакаючы гэтай хвіліны.

— Эх, які асілак!..— Васіль Цімафеевіч павольна абышоў машыну, падняўся па лесвічцы ў кабінку, зазірнуў у сярэдзіну яе, спусціўся, ацэньваючым позіркам аглядзеў задні мост. Падышоў, памераў па сваім росце вышыню кола, на шыне якога выступалі моцныя касыя рубцы.

— А ведаеце што, Васіль Цімафеевіч,— загаварыў не зусім упэўнена Грынь.— Задаволілі, аказваецца, просьбу вашу. Задаволілі — сам чуў... Гэта ўжо точна.

— Якую просьбу?

— Нібы не ведаеце!.. Тую самую.

Зыбін, відаць, у першы момант і праўда не здагадаўся, пра якую просьбу гаворыць аўтаматчык, але хутка Васіль Цімафеевіч зразумеў усё, спахмурнеў.

Ён раптам пачуў, як побач задуменна, па-асенняму шалясціць-гамоніць пажоўклым, ападаючым лісцем малады клён. Штосьці такое задуменнае і асенне-тужлівае было і ў яго сэрцы.

— Праўда гэта... Дырэктар казаў, што вырашылі задаволіць вашу просьбу. Адпускаюць...

— Ты праўду кажаш?

— Праўду, Васіль Цімафеевіч. Толькі што гэта — вы нібы перадумалі? — Грынь глядзеў на Зыбіна запытальна, уважліва.— Не хочаце быццам?

— Не паеду... Чаго ўжо ехаць? — Як бы апраўдваючыся, чамусьці зашпільваючы скураную паддзёвачку, дадаў: — Цяжкаваты я нешта, Грынь, стаў на пад'ём...

— А радзіма? Не цягне хіба?

— Радзіма? — хмыкнуў Зыбін, потым злавіў медны, з тонкімі чырвонымі жылкамі ліст, што паволі падаў, кружачыся, прамовіў задуменна: — А тут што — Афрыка? Не свая хіба зямля?..

Зыбін прыслухаўся:

— Што гэта клёны так цягуча шумяць?

# ДОМ ПАД СОНЦАМ

*(З гісторыі аднаго дома)*

## ПЕРШЫЯ ДНІ

Некалькі гадоў назад на цэнтральнай вуліцы горада высіўся між руін пануры, суровы кораб дома. Ён глядзеў у свет, як сляпы, пустымі вокнамі, над якімі на сцяне веерам расплываліся чорныя, дымныя сляды.

У ім не было ні пакояў, ні калідораў. Усё ўнутры выпаліла бязлітаснае полымя. Калі ўваходзілі ў пройму дзвярэй, то бачылі вакол высачэнныя сцены, на якіх пяць разоў адзін над адным цягнуліся рады вокан, а над самай галавой угары бачылі сіняе, белае ці шэрае — гледзячы па надвор'ю — неба. Сцены ўнутры там-сям былі яшчэ задымлены, але збольшага дажджы ўжо змылі ўедлівую чорную сажу. Там-сям на сценах яшчэ трымаліся ржавыя, падобныя на гармонікавыя мяхі, батарэі.

Праз пройму свабодна гуляў вецер, заносячы сюды летам пясок, а зімою — снегавыя крупкі...

У першыя дні пасля вызвалення прыйшоў сюды, да гэтага дома, кульгавы, сутулаваты чалавек у паблеклым армейскім адзенні. Ён, горбячыся, патупаў-патупаў вакол дома і ўсярэдзіне яго і, не сказаўшы нічога, але з нейкім намерам, што было відаць па выразу яго добрага, крыху хваравітага твару, падаўся прэч.

На наступны дзень ён — Загорскі — з жонкаю расчысціў ад гліны і камення адзін невялікі куток, адгароджаны сценамі [redacted] трох бакоў. Пасля гэтага ён прывёз на фурманцы дошак і ўвесь доўгі дзень, перамагаючы боль у параненай назе, рэзаў, цясаў, прыбіваў.

— Ды сядзь ты, папалудну. Вунь вечарэе ўжо...— гаварыла жонка. Яна падтрымлівала дошку, якую ён прымацоўваў да слупа.

— Упраўлюся... Не ўцячэ абед...

— Суп зноў астыў. Зноў трэба падаграваць!

— Ну вось адразу і папалуднуем і павячэраем. Як той цыган.

Ён усміхнуўся: усмешка ў яго была добрая, нібы сарамлівая.

— Зацяты. Як возьмешся за што, дык не ададрваць... Глядзі, каб гэта назе не пашкодзіла.

— Адпачне потым...

— Каб не позна было — гэтае «потым»!

— Што ж гуляць да часу. Кончыў, тады і гуляй.

— Кончыў! Тут колькі яшчэ да канца!..

Мужчына, неахвотна пасёрбаўшы супу, спяшаўся зноў вярнуцца да справы, і жонка, склаўшы талеркі і накрыўшы кацялок ручніком, ішла за ім.

Яны тут і днявалі і начавалі. Ложкам ім былі дошкі, складзеныя пры сценцы і накрытыя шынялём і коўдрай.

Калі будаўніцтва было скончана, гаспадар сеў на каменне і, выняўшы з кішэні кісет, з асалодай закурыў. Ён курыў павольна, глыбока зацягваючыся, як чалавек, які даўно сумаваў па табачным дымку.

— Чорт зялёны, я, здаецца, за гэтыя дні і не закурыў ні разу... Маруся, курыў я ці не курыў — не заўважыла?

— Ды курыў, здаецца... Бяда якая — не курыў! Кінуў бы ты зусім гэтую атруту,— можа б, здаравейшы быў!..

Жонка гаварыла з папрокам,— Загорскі адчуваў, што яна поўна вялікай трывогі за яго, трывогі за яго нагу, за яго натруджаную рану, за тое, што ён пажаўцеў за гэтыя дні.

— Што ж, куток нічога! — прамовіў ён, гледзячы на сваё збудаванне.— Жыць можна!

— Добры куток, Андрэйка!..

— Ёсць дах, сцены ёсць, акно...

— От, як прыбяру ўсярэдзіне, ты пабачыш...

І яна дзелавіта падалася ў пакой...

Было відаць па тым, як Загорскія хутка аснавалі сваё простае, немудрашчае жытло, як адолелі бяду, што людзі гэтыя цярплівыя, прывыклыя да ўсяго, у тым ліку да руін. Да вайны Загорскі жыў недалёка адсюль у драўляным доміку, на месцы якога, вярнуўшыся, убачыў нечы агарод.

У пакоі, які ён цяпер абсталяваў, было трое: Загор-

скі, жонка яго і сын. Жонка Загорскага працавала ў трамвайным парку, а сам ён першы час тупаў паціху дома, калоў абрэзкі дошак, паліў у печцы, гатаваў у задымленым кацялку кашу ці суп, адным словам, рабіў тое, што ў іншых сем'ях робяць жонкі.

З паржавелай трубы, што выходзіла на двор у акенца і нечым нагадвала гармату, уранку і ўвечары віўся дым.

Нярэдка, прысунуўшыся бліжэй да святла, Загорскі сукаў дратву ці, дробна пастукваючы малаточкам, прыбіваў падмёткі — абуваў сям'ю. Занятак гэты быў яму прывычны — Загорскі калісьці рабіў у шавецкай арцелі на Камароўцы.

Сын лазіў па руінах дома, усё нешта капаў, вышукваў, неахвотна выконваў бацькаў загад прынесці з бліжняй будоўлі трэсак. Ён быў падобны на маці — чарнявы, рухавы, быстры, яўная процілегласць маўкліваму, павольнаму і лагоднаму бацьку.

Малы даваў шмат турбот бацькам. Яго часта бачылі высока на лесвіцы, і маці, млеючы ад страху, гаварыла бацьку:

— Зноў! Зноў на лесвіцы! Упадзе, упадзе!..

— Высока? — спакойна пытаўся Загорскі.

— На трэцім!..

— Ну, гэта яшчэ нічога...

— Ты, можа, хацеў бы, каб ён быў на самым версе?

— Будзе і там...

— Ідзі, ідзі хутчэй! Ды асцярожней.

— Добра.

— Не спалохай, глядзі.

— Ведаю.

Задраўшы галаву, гледзячы знізу, Загорскі ласкава клікаў:

— Жорка!

— А,— адгукаўся не адразу сын.

— Хадзі. Нешта дам.

Сын не верыў.

— Ты не дасі. Ты падманваеш.

— Дам. Хадзі.

— Ай! Не пайду.

Загорскі ведаў, што ўпрошваць не варта, што малы ўсё роўна не паслухаецца,— бацька ішоў на хітрасць:

— Не верыш? Як хочаш...

— Ты праўду кажаш?

— Як хочаш...

Гэтае абыякавае «як хочаш» дзейнічала на Жорку мацней за ўсё. Ён сыходзіў уніз і атрымліваў ад бацькі які-небудзь ласунак...

Калі прасіла малога спусціцца ўніз сама маці, Жорка звычайна не слухаўся. Ён ведаў, што строгая маці будзе лаяцца, а то яшчэ, чаго добрага, і па адным месцы напляскае.

Найбольш жа любіў Жорка корпацца ў каменні, у зямлі. Тут ён не раз знаходзіў цудоўныя рэчы: прыгожыя, праўда, паржавелыя шары (бацька казаў, што яны з ложкаў), розныя металічныя пруткі, бліскучыя пліткі кафлі, пагнутыя лыжкі. У зямлі траплялiся пазелянелыя патроны. Бацька да ўсіх гэтых пошукаў адносіўся спакойна, пакуль аднойчы Жорка ледзь не падарваўся на нямецкай гранаце.

Загорскі, заўважыўшы, якую рэч трымае ў руках Жорка, пабялеў. Ён зразумеў, што ледзь толькі крыкне на малога, той кіне сваю страшную знаходку і... аб далейшым бацька не мог думаць. Ён, стараючыся не паказваць трывогі, падышоў да сына і папрасіў:

— Дай, сынок.

Сын схаваў знаходку за спіной.

— Ай! Не хачу!..

— Я толькі паглядзець! Пагляджу і... зноў аддам!..

— Ты не аддасі!

— Аддам!

Жорка неахвотна перадаў гранату ў руку бацькі, якая дробна дрыжала. Загорскі хутка агледзеў гранату: з запалам!

Загадаўшы малому адысці, ён асцярожна разрадзіў яе, разабраў на дробныя часткі, а запал закапаў у зямлю.

— Сынок, не гуляй тут. Ідзі на двор лепш.

— Чаму не гуляць тут?

— Тут нельга. Тут — смерць,— бацька хмурна кіўнуў на руіны.

— Смерць?

— Не будзеш?

Бацька запытаўся такім страшным голасам, што Жорка згадзіўся:

— Не буду.

ДОМ АЖЫВАЕ...

Увосень і ўвесь першы год кульгавы чалавек і яго сям'я былі адзінымі жыхарамі гэтага дома.

Зімою ўпарты вецер свістаў у праломах сцен, ляскаў недзе наверсе бляхаю, невядома як уцалелаю. У доўгія і неспакойныя студзеньскія ці лютаўскія ночы сцены вялізнага дома гулі, як дрэвы ў лесе. У такія ночы сынок Загорскага Жорка нярэдка прачынаўся і, прыціскаючыся да цёплага бацькавага бока, трывожна шаптаў:

— Баюся...

— Чаго, дурненькі?

— Плача нехта...

— Гэта — вецер.

Загорскі супакойліва гладзіў малога па галаве, і той хутка засынаў. Тады нярэдка адгукалася жонка.

— Вецер які... Андрэй, а скажы, не можа ён... зваліць сцяну? — запыталася яна аднойчы.

— Зваліць! Што выдумала!

— Лютуе ж як ён, вецер!

— Што яму вецер! Ад бою ўстаяў!..

— А мне неспакойна...

— Выдумала!

— Значыцца, вецер — нічога?

— Нічога. Спі ты...

Летам вятры так не гулі.

Летам унутры на замшэлых каменнях раслі неперабарлівая і ўчэпістая трава, высокія жытнія каласы, тырчаў калючы дзядоўнік.

Дом быў амаль пусты і здаваўся мёртвым. Адзіным, што ажыўляла гэтую амярцвеласць, было жыллё Загорскага і яго неспакойны сын, які ўвесь час бегаў ці корпаўся на двары.

Поблізу паступова ўбіралася ў сілу жыццё. Заклапочана спяшаліся на працу людзі, ішлі гарэзнымі чародкамі школьнікі...

На другі год — за тры месяцы — побач узнялася будыніна школы, пераліўна зазіхацела шклом квадратных вокнаў; непадалёк за пустырамі і гарбамі руін задыміла жалезная заводская труба, а тут, у гэтым доме, на Савецкай, было ўсё па-ранейшаму.

Пра яго нібы забыліся.

Прайшоў год і яшчэ амаль цэлы год — лета, зіма. Настала вясна...

Аднойчы, ясным вясновым днём, прыехалі да дома тры чалавекі. Яны доўга тупалі вакол дома, разглядалі яго з усіх бакоў ад нізу да верху, заходзілі ў пустэчу былых дзвярэй, падымаліся па ўцалелых цэментавых ступеньках угору, прычым адзін з іх вышэй другога паверха не адважыўся ісці, а два другія пайшлі далей, аглядваючы сцены, шукаючы трэшчын.

— Я ўсё-ткі лічу, што дом можа жыць,— сказаў адзін, з папкай у руцэ, зняўшы кепку і паціраючы далонню паголеную галаву. Тоўсты, у пенснэ, ён нечым нагадваў доктара.— Я яшчэ раз у гэтым пераканаўся, можа жыць і жыць доўга. I я за тое, каб ажыўляць... Мне здаецца, асцярога Карпенкі тут лішняя.

Месяца праз паўтара сюды прыйшоў гаманлівы натоўп з рыдлёўкамі і ламамі. Некалькі дзяўчат адразу з захапленнем акружылі малога Жорку:

— Які харошы!

— Які цудоўны малы!

Яны пачалі распытваць, як яго зваць, хто яго бацька, дзе маці. Жора не бянтэжыўся ў гэтым шумлівым акружэнні,— аглядваючы дзяўчат чорнымі цікаўнымі вачыма, малы адказваў спакойна.

— Ты што, адзін дома?

— Угу.

— А дзе ж маці, Жорка?

— Мама на трамваі. А тата,— далажыў, падумаўшы, Жорка,— у магазіне, хлеб купляе...

Дзяўчат паклікалі, і яны пакінулі малога.

Прараб Лосік, ён жа Арцём Іванавіч, пажылы, з чырвоным, падобным на бульбіну носам, з рудымі вусамі, у ватоўцы са слядамі цаглянага пылу, павёў іх у дом, размеркаваў на групкі, паказаў, што якой групе рабіць.

Між маўклівых задымленых сцен, дзе гарбаціліся горы сцэментаванай цэглы, тынку і пераплеценага дроту, пачуліся стук жалеза аб каменне і вясёлыя, задзірыстыя галасы.

— Ганна, Ганначка, хадзі сюды!.. Папрасіся — разам будзем!..

— Яна — і калі Сяргей прыходзіць — Ганну кліча!.. Цягне ўсюды яе з сабой!

— Яна ж баіцца хлопцаў!
— Га-га-га...
— Дзе Косцік? Косціка сюды з ломам! Бач ты, глыба якая!..
— Скажы ты, як спрасавалася гліна! Хоць ты яе — сякерай!
— А мы кіркай!.. Кіркай дзеўбанём!..
— Тачку сюды!
Дом, пусты і забыты, адразу як бы перайначыўся, ажыў, скінуў з сябе магільную здранцвеласць.
Неўзабаве ад дома, важка крэкчучы на калдобінах, выехала першая машына, поўна нагружаная розным друзам.
Вярнуўшыся з магазіна, Загорскі ўпершыню нібы не пазнаў свайго ціхага аселішча. Перадаўшы хлеб Жорку, ён моўчкі стаяў, узрушана назіраючы за ўсім, што адбываецца навокал. Як часта ў хвіліны хвалявання, ён пацягнуўся па кісет і, прысеўшы на каменне каля свайго кутка, закурыў.
Курыў ён павольна, жмурачы вочы, і пра нешта думаў.
Ён падаўся ў пакой па-ранейшаму заклапочаны. Калі Загорскі, накарміўшы малога, стаў абіраць бульбу на абед, увайшоў Арцём Іванавіч — прараб.
Госць, прысеўшы на табурэтку, падсунутую яму гаспадаром, зняўшы кепку, агледзеў пакой і сказаў няпэўна:
— Так, значыцца, жывём...
— Так і жывём,— адказаў Загорскі ў тон, здагадваючыся, чаго прыйшоў госць, і чакаючы гэтай размовы.
Але прараб не спяшаўся. Ён пацікавіўся, дзе жонка Загорскага і ці заўсёды гэта гаспадар варыць сняданні ды абеды. Толькі пасля гэтага Арцём Іванавіч, пакашляўшы, пачаў пра галоўнае:
— Вось што, дарагі, як хочаш, а прыйдзецца палац твой...— Прараб правёў рукой так, як даюць знак адвезці ўбок.
Загорскі памаўчаў.
— А як жа я?.. Куды ж мне, з сям'ёю, з сынам?
— Куды? Ну, куды...— Арцём Іванавіч зноў закашляў.
— Куды?!

— Ну, куды?.. Куточак які, гм... наймiце.

— Наймiце! Проста сказаць.

— Няпроста. Цяжка зараз. Але ж гэта часова...

— Часова то часова. Але трэба неяк той час перабыць?

— Пабудуем дом тут,— нiбы не чуў апошнiх яго слоў госць,— тады, калi ласка, вяртайцеся, займайце! Пакой — светлы, чысты, сухi!.. Падлога фарбаваная!

— Фарбаваная падлога! Вокны светлыя! Паслухаць вас: чысты рай.

— Рай! Iменна — рай!..

Арцём Iванавiч, шчаслiвы, вясёлы, ужо гатоў быў падумаць, што непрыемнай размове канец, усё дамоўлена, калi Загорскi сказаў яму:

— А хопiць у тым раi... месца?

— Такi дом! Пытаецеся!

— Ахвотнiкаў дужа многа ёсць — на райскае жыццё.

— Многа. Але вам будзе.

— Будзе?

— Будзе... Дык што ж вы надумалi?

— Ды што ж! Што тут яшчэ надумаць,— нечакана спакойна сказаў Загорскi.— Што ж, рабiце што трэба.

— Ну, вось i добра.

Арцём Iванавiч уздыхнуў з палёгкай...

## АРЦЁМ IВАНАВIЧ ЗЛУЕ I РАДУЕЦЦА

Пад вечар прывезлi сюды смалiстых дошак, бярвенняў, i новы вясёла-жоўты паркан, што акружыў дом i двор у наступныя днi, быў лепшай адзнакай таго, што i тут пачынаецца новае жыццё.

Жыццё гэтае, праўду сказаць, нараджалася нялёгка...

Машын было мала, усяго тры грузавiкi, i то адзiн з iх больш стаяў на рамонце, як працаваў. Таму дом ачышчалi ад друзу доўга i марудна.

Трэба было пачынаць рабiць перакрыццi, але праца гэтая затрымлiвалася, бо не было «лесу». Арцём Iванавiч, гарачы i неспакойны чалавек, то лаяўся ў будканторы, то, атрымаўшы згоду i подпiс начальства, пасылаў пагрозныя тэлеграмы на лесазавод, якi затрымлiваў высылку матэрыялу.

— Ісус адзін ведае, што робіцца! — Твар яго чырванеў ад абурэння.— Пачалі агарод гарадзіць, а пра жэрдкі не паклапаціліся. Майстры! — цадзіў ён з пагардай, нярэдка дадаючы да гэтага некалькі моцных слоў.

Ён у такія дні, як бура, налятаў на шафёраў, на брыгадзіраў, бязлітасна прыдзіраўся да ўсяго.

— Гэта што?! — грозна пытаўся ён у вадзіцеля, заўважыўшы, што задняе акенца ў кабіне грузавіка не прыкрыта.

Шафёр, малады белабровы хлопец, з ледзь прыкметным пушком над верхняй губою, глядзеў здзіўлена, нібы не разумеў, пра што ідзе гаворка.

— Чакаеш, пакуль выламяць?!

— Ды чаго яго выламяць, Арцём Іванавіч? Я ж гляджу, каб паасцярожней... Каб не кідалі на акенца, гляджу...

— Глядзіш ты!.. Больш, мусіць, на дзяўчат... Прыкрый, кажу.

— Ну добра, зраблю, калі вы хочаце.

— Загадаць абавязкова трэба,— сам не здагадаешся!..

Брыгадзіраў і рабочых Арцём Іванавіч прабіраў за кінутую паламаную тачку, за забыты дзе-небудзь лом:

— На нянек спадзеяцеся?! Не можаце ўсё без нянек! Нянькі абавязкова вам трэба!

Ён кідаў пагардліва:

— Майстры! Як дзеці малыя...

Арцём Іванавіч хадзіў цяпер у сарочцы-касаворотцы, заўсёды зухавата расшпіленай.

Калі толькі прыйшоў на станцыю «лес», што нецярпліва чакалі, усе машыны былі пасланы туды. За дзень пусты двор, на якім адно сівеў палын, закрасаваў штабелямі дошак, лаг і стоек, добра запах прагрэтай сонцам сасною.

У той жа дзень Арцём Іванавіч накіраваў будаўнікоў ладзіць перакрыцці.

— Цяпер пойдуць справы! — сказаў ён Загорскаму, які наведаўся паглядзець, як жыве «яго» дом.— Пабачыце! Мне — дайце матэрыял, дайце ўсё, што трэба, а тады ўжо ўбачыце, што я магу...

Загорскі ківаў галавой у знак згоды: вядома, што ж можна зрабіць без матэрыялу.

— А то ж — матэрыялу няма, а атрымліваецца, быццам я вінаваты, зрываю план. Я не сарву, будзьце ўпэўнены!.. Я да вайны адзінаццаць аб'ектаў пабудаваў. І ніколі не зрываў справы. Усе ведалі, што калі Арцём Іванавіч кіруе, то можна быць спакойным! І за якасць, і за тэрмін! І за тое, што людзі будуць працаваць!

Ён гаварыў горача, але дабрадушна, як гавораць пра крыўду, якая ўжо адышла.

Арцём Іванавіч стаў распытваць Загорскага, дзе і як той асталяваўся. Пачуўшы, што інвалід плаціць сто пяцьдзесят рублёў за пакойчык, будаўнік пакруціў галавою..

— Яно, праўда, і сам я, браце, не лепш. Плаціць-та мне не многа, але — таксама не рай. Барак,— паскардзіўся Арцём Іванавіч.

— Як жа так гэта?! Будуеце самі — і без жытла!..

— Трэба, браце, спачатку пабудаваць!..

— Значыцца, таксама пакуль не ў раскошы жывецца?

— У бараку?.. Ён, браце, падобны вельмі на твой «палац»!

— Выходзіць: шавец — без ботаў!..

— Без ботаў!

Прараб, а за ім і Загорскі засмяяліся.

З гэтага дня Арцём Іванавіч і Загорскі пасябравалі. Загорскі стаў часта прыходзіць да дома, пагаварыць з прарабам, з рабочымі, паглядзець, пакурыць...

Трэба сказаць, прараб не папусту хваліўся, абяцаючы, што «цяпер пойдуць справы». Тыдзень за тыднем, хоць і павольна, дом усё ажываў і ажываў.

Спачатку столі вызначыліся над першым паверхам, потым яны ляглі над другім, затым над трэцім. Цяпер калі і можна было ўбачыць з нізу дома неба, то толькі ў прасветы між усходаў ці ў шчыліны між дошак, на якіх працавалі людзі. Дом перастаў быць корабам, у ім акрэсліваліся паверхі.

Месяцы праз два старанныя цесляры сталі ўжо снаваць па насціле са смалістых дошак на самым версе, там, дзе сінела глыбокае і пагоднае летняе неба. Ставілі кроквы.

Арцём Іванавіч, павесялелы і падабрэлы, рухавы, то хадзіў па двары, аддаючы загады, то ўздымаўся да

будаўнікоў, што ладзілі дах. У такія дні ён любіў пагаварыць, пажартаваць, пасмяяцца.

— Жыве наша хата! А, жыве?! — гаварыў ён цеслярам.

— Жыве, Арцём Іванавіч!

— Прыбіраецца! Як нявеста...

— Як нявеста? Гэта праўда!..

— Паветра тут, нібы ў санаторыі. У Друскеніках... Чыстае!

Арцём Іванавіч акідваў позіркам далячынь.

— Здалёк відаць!

— Што кажаце?

— Красуню нашу, кажу, адусюль відаць!

— А то што ж!..

Гэта былі цудоўныя дні,— цудоўнымі яны былі найперш таму, што Арцёму Іванавічу ўсё падабалася і ён таксама падабаўся ўсім...

— Душа-чалавек Арцём Іванавіч! — сказаў неяк Загорскі да бялявага шафёра, назіраючы за прарабам.— Праўда, душа?

— У настроі чалавек... Ззяе, як сакавіцкае сонца, не раўнуючы сказаць.

— Ззяе... Сэрца ў яго добрае!

— Задаволены, вось і ззяе...

Але даўно вядома, што няма нічога такога пад векавечнымі зорамі, што б так ці інакш не змянялася. Гэтая ісціна з самым поўным правам адносілася і да Арцёма Іванавіча пры яго няўстойлівай, уражлівай натуры. Да таго ж для такой перамены мелася і вельмі ўважлівая прычына,— іх у той час, як ужо гаварылася вышэй, было вельмі многа.

У адзін блакітны, добры сваім плёнам, дзень Арцём Іванавіч зноў спахмурнеў, надзьмуўся:

— Ісус святы ведае, што яны думаюць будаваць: дом ці халадзільнік? З чаго я буду складаць пліты? Майстры!

Усе, хто працаваў у доме, заўважылі, што ён зноў стаў часта знікаць з двара і што вяртаўся сярдзіты. Хто-ніхто чуў, як ён аднойчы, вярнуўшыся і ўзрушана ходзячы па двары каля склада матэрыялаў, напрарочыў сабе:

— Гэты дом мяне зарэжа!

Ён сказаў так, як чалавек, да канца перакананы.

Многія адчулі, што справы з домам не ладзяцца.

А тыя, хто сачыў за домам збоку, з-за агароджы, праязджаючы ў перапоўненым трамваі ці праходзячы па процілеглым тратуары, глядзелі на дом інакш.

— Дах ужо крыюць. Да наступнай вясны закончаць, мусіць.

— Вядома. Лічы, палову работы ўжо зрабілі ж!

— Зіма будзе, тэмпы не тыя!..

— Зіма? Што ж зіма?

— Сто кватэр, не менш...

— Сто? У такім гмаху?! Тут і дзвесце набярэцца!

— Хоць бы куточак!..

І радаваліся і ўздыхалі. Адразу за домам, як відаць воку, былі руіны і руіны.

## ДЗВЕ СОТНІ НАВАСЕЛЛЯЎ

Зімой сцюдзёныя вятры біліся ў фанерныя лісты, што закрывалі пустыя калісьці праймы вокнаў. Не могучы прарвацца ўсярэдзіну, заглядвалі ў зашклёныя дробныя вочкі-акенцы ў фанеры. Там па-ранейшаму працавалі...

Толькі на наступную восень дом скончылі.

Разабралі рыштаванні, і ён адкрыўся людзям, радуючы вочы сваім хараством, сваёй чысцінёй, сваёй маладосцю. Сярод руін ён здаваўся асабліва прыгожым. Вокны на ўсіх чатырох жылых паверхах былі расчынены, каб лепш сохлі сцены і падлога,— здавалася, што яны расчынены, запрашаючы новых жыхароў. У пакоях свежа пахла падсохлай фарбай. Фарба — барвова-чырвоная на падлогах, светла-блакітная на сценах у калідорах і на кухнях, разнастайныя ўзоры на сценах пакояў. Гулкая цішыня ў пустых яшчэ кватэрах. Чыста падмеценыя лесвічныя сходкі... Цудоўныя, слаўныя дні дома!

На двары, на лесвіцах, а дзе-нідзе і ў пакоях ужо хадзілі ўсхваляваныя жыхары. Кватэры яшчэ задоўга да гэтай урачыстай пары былі размеркаваны. Будучыя жыхары былі такімі нецярплівымі, што ў выканкоме вырашылі падзяліць кватэры загадзя, каб уціхамірыць непакой і хваляванні.

Уцішыць непакой! Ён, непакой, увесь пасля гэтага

апанаваў няшчаснага — мы гэта можам з поўным правам сказаць,— няшчаснага каменданта.

— Не магу я! Не маю права,— упіраўся камендант.

— Як гэта вы не маеце права? — громка наступаў адзін [redacted] жыхароў — важкі, поўны, з выгляду настойлівы, відаць, з характарам.

— Ну чаму, ну чаму вы не маеце права? — саладка, па-сяброўску падбіраўся другі.

Хударлявы, хваравіты, з неспакойным позіркам вачэй, павёўшы здзіўлена плячыма, адрэзаў:

— Глупства! Вы — камендант! Як гэта вы не маеце права?

— Ну што вам, калі пакажаце?

Камендант, былы вайсковы, яшчэ ў афіцэрскай форме, без пагонаў, дробны, прастадушны, доўга трымаўся, упарта даводзіў сваё:

— Не магу. Камісія не прыняла...

З тымі, хто лез напралом, ён распраўляўся проста, па-афіцэрску. Настойлівасць на настойлівасць. Горш было з лагоднымі.

— Камісія? Камісія не будзе ў прэтэнзіі...

— Нам жа толькі зірнуць!

— Мы ж не збіраемся ўсяляцца.

— Вядома.

Гэтыя і зламалі ўпартасць адстаўнога афіцэра: уступіў ён, здаўся,— ды і хто, хто ўстаіць перад такімі просьбамі? Стаў вадзіць, паказваць...

І вось прыйшла камісія. Адчыняліся падрыхтаваныя для жыхароў пакоі, што зіхацелі чысцінёй і фарбамі, і Арцём Іванавіч раўніва сачыў за членамі камісіі, асабліва за чалавекам, падобным на доктара.

— Запішыце — у 17-й канфорні ў пліце няма,— гаварыў «доктар» дзяўчыне, што ішла з блакнотам.

— Шыба выбіта!..— заўважыў ён у 23-й кватэры.— Запішыце — шыба.

— Таварыш Зуб! — з папрокам, з просьбай, у якіх былі і кроплі непрыязнасці, адгукнуўся Арцём Іванавіч.

Але прычэпа, фармаліст Зуб быў непадступны.

Запісалі, што падлога ў 41-й кватэры дрэнна пафарбавана, што ў пліту ў 72-й кватэры нейкі гультай завaліў бітую цэглу, паленаваўся вынесці,— чаго толькі не знайшлі прыдзірлівыя людзі ў доме.

Як ні запэўняў Арцём Іванавіч, што ўсё гэта нікчэмныя дробязі, што ўсё будзе за дзень-другі дароблена, дом не прынялі. І Арцём Іванавіч зноў хадзіў барвовы, і прыдзіраўся да ўсіх, і казаў, што гэты дом яго «зарэжа».

Але — як стала вядома пазней — прароцтва гэта, на шчасце, не збылося. Дом яго не зарэзаў.

Роўна праз два тыдні дом пачаў запаўняцца жыхарамі, і разам з іншымі Арцём Іванавіч перавёз сваю сям'ю ў новую кватэру.

О незабыўны, шчаслівы час усялення ў новую кватэру! Хто не адчуваў з нас хвалявання, атрымліваючы жаданы ордэр на права заняць пакой ці некалькі пакояў з кухняй, з ваннай ці без ванны, у каго не білася часцей сэрца, калі яму ўручалі запаветныя ключы, каму яны не здаваліся ключамі шчасця! Хто не ўзбягаў па-юнацку спрытна на свой паверх, не адчыняў дзвярэй з нумарам, які значыўся на ордэры, не хадзіў на пальчыках па нятоптанай, яшчэ клейкай падлозе!..

Да позняга вечара к дому пад'язджалі і пад'язджалі грузавікі, легкавыя «газікі» — з клункамі, з шафамі, са сталамі, перавернутымі ўгору ножкамі, з этажэркамі, стусамі кніжак, фікусамі. На лесвіцах было цесна, як на самай люднай вуліцы,— то там, то тут непаваротлівыя шафы перагароджвалі дарогу, і тым, хто збягаў уніз, даводзілася не раз спыняцца і цярпліва чакаць.

Яшчэ не сціх тлум на лесвіцы, а ўжо ў многіх кватэрах людскія сэрцы браў новы клопат: дзе што як паставіць ці пакласці. Перасоўваліся ад сцяны да сцяны канапы, ложкі, пакуль не займалі месца, ухваленае ўсёй сямейнай радай.

Многа клопатаў было і ў сям'і Арцёма Іванавіча. Складанасць гэтай праблемы ў кватэры прараба была ў тым, што ў двух пакоях, якія атрымаў Арцём Іванавіч, належала ўладзіць пяць чалавек. З тае прычыны, што не было зручнай нагоды, мы не сказалі, што Арцём Іванавіч і яго жонка Марыя Іванаўна, ціхая паўнацелая жанчына, хворая на сэрца, мелі трох дзяцей: дзвюх дзяўчынак-школьніц і сына. Сын Саша, рослы, звычайна маўклівы, канчаў школу і рыхтаваўся паступаць у політэхнічны інстытут.

Трэба зазначыць, гэтае пытанне — пра «рассяленне» — абмяркоўвалася яшчэ да пераезду, і тады было

згодна вырашана, што другі, далейшы ад уваходных дзвярэй пакой трэба будзе падзяліць шафай на два. Па адзін бок шафы будуць спаць дзяўчаты, па другі — Арцём Іванавіч з жонкай. Сашу адводзілася месца на канапе ў гасцінай.

— Мне і на канапе добра! — коратка і з яўнай пагардай да рознай там абывацельскай утульнасці заявіў Саша.

Цяпер, калі даўні план быў ажыццёўлен і вялізная шафа, прыблізна карычневага колеру, утварыла два пакоі-спальні, дзяўчаты раптам забаставалі. Яны сказалі, што лепш памясціць сюды, у ціхі, не відны староннім вачам куток, Сашу з яго жалезам, зубіламі, пілкамі, маторамі. Сапраўды, Саша меў усё гэта, часта любіў майстраваць, і таму, дзе ён жыў, падлогу звычайна аздаблялі жалезныя стружкі, абсечкі розныя, часам — плямы масла.

— Сорамна будзе, калі хто зойдзе да нас! — па-гаспадарску заклапочана сказала адна з дзяўчат.

— Так, сорамна! — падтрымала другая.

Гэтыя заўвагі дзяўчат выклікалі глыбокі разброд і спрэчкі ў сям'і Арцёма Іванавіча. Утварыліся дзве непрымірымыя групы. Арцём Іванавіч далучыўся да дачок, а Марыя Іванаўна стала ў абарону сына, які трымаўся за кут, дзе ўжо стаяў яго моцны, пакляваны, падрапаны жалезам стол. (Стол гэты для гасцей прыкрываўся газетамі.)

Спрэчка не прывяла да якіх-небудзь змен. Саша не хацеў аддаваць кутка, што спадабаўся яму, і дзяўчаты, назваўшы брата «паганым» і «праціўным», таксама не выказвалі міралюбнасці.

У дачыненнях між бацькамі і між бацькамі і дзецьмі наступіла нядобрая хмарнасць. Свята ў кватэры ледзь-ледзь не сапсавалася. На шчасце, гэтая хмарнасць праз некаторы час, аднак, спакваля развеялася — агульны клопат, агульная радасць зноў зрабілі ўсіх блізкімі. Толькі дзяўчаты яшчэ нямірна зіркалі на Сашу.

Калі ўсе сышліся за сталом, за якім сядзелі і госці, таварышы Арцёма Іванавіча, калі выпілі па адной, па другой, усе так павесялелі, што Арцём Іванавіч па старой памяці пусціўся з адной госцяй «упрысядкі».

— Стары ты, стары! — з дакорам паківала Марыя Іванаўна. Але дакарала яна не злосна, нават нібы задаволена...

Спаткаўшыся выпадкам на кухні, яна раптам падалася...— вы што б думалі? — цалавацца.

— Ты што гэта, старая? — напаў на яе Арцём Іванавіч.— Маладосць успомніла?.. На кухні цалавацца!..

— Успомніла... ты думаеш, толькі ты ўспомніў, што з маладымі выкаблучваеш?

Арцём Іванавіч пагладзіў крыху збянтэжана рудыя вусы, сказаў, што ён не сам пайшоў, што яго запрасілі і што, каб не запрасілі, ён і не пайшоў бы.

— Не хочаш — не трэба,— адказала моцна пакрыўджаная жонка.— Я таксама свежага знайду.

Марыя Іванаўна павярнулася, каб ісці. Але Арцём Іванавіч затрымаў яе.

— Чакай. І пажартаваць нельга. Як у маладыя гады...

Ён па-маладзецку абняў яе, прыклаўся да яе шчок рудымі вусамі.

— Успомніў, колькі бегаў калісьці? — супакоеная, але, нібы помсцячы, запыталася яна.

— Помню...

— Вось-вось, не забывай!..

Арцём Іванавіч, чалавек рэалістычны, цвярозы, напомніў, што не час пра гэта гаварыць, што гады не тыя.

— Не тыя! Эх ты! На-ва-сёл! Толькі ўсяліўся, а душа — як...

— І праўда! Вінаваты! Мы ж усё роўна што маладажоны!..

Ён разгладзіў вусы, але жонка сказала, што трэба ісці да гасцей...

Усяленне было цудоўным святам не для адной сотні людзей. Гэта былі, можа, самыя светлыя дні ў гісторыі дома, у якім даўно не было столькі шчаслівых і вясёлых людзей адначасова. На кожным паверсе, у кожнай кватэры спраўлялі наваселлі — звінелі чаркі, а таксама шклянкі — круглыя і з гранямі,— дзе-нідзе стукалі і карцы з кансервавых бляшанак. Усюды гучалі тосты. Хвала табе, слаўная часіна наваселля, часіна спадзяванняў і мар!..

Трэба прызнацца, адно наваселле было не такім бясхмарным.

У той дзень, калі пачалося ўсяленне, у доме ўжо аказаўся адзін жыхар, які хоць і падаў заяву, але не чакаў дазволу. Гэта быў Загорскі. Ён пісаў быў у свой час заяву з просьбай выдзеліць кватэру ў доме. У той жа дзень, калі адбылося пасяджэнне, на якім размяркоўвалі кватэры, энергічная жонка Загорскага даведалася, што ім чакаць няма чаго, і пачала падбіваць мужа на тое, каб заняць пакой самавольна. Загорскі спачатку вагаўся: ён, хоць і адчуваў сябе пакрыўджаным, лічыў, што рашэнне ёсць рашэнне,— закон, якога трэба слухацца.

— Слухацца! Чаго яго слухацца, калі яно няправільнае?! — наступала на мужа, даводзіла сваё Маруся.

Загорскі, які добра ведаў упарты характар жонкі, суцешліва сказаў, што ў такой сітуацыі лепш за ўсё напісаць скаргу «па партыйнай лініі».

— Пішы, пішы, а пакуль там пачытаюць ды разбяруцца — дом зоймуць!

— Не зоймуць! Там, у гаркоме, гэта хутка — на пісьмы...

— Хутка! Сядзі ды чакай!..

— І пачакаю. А што ж крычаць без толку?..

— Маўчы, маўчы — з «толкам»!

— І пачакаю...

— Чакай! Чакай!..

Яна заплакала, і гэта зламала ўпартасць мужа. Праўда, ён напісаў скаргу ў гарком партыі, але, як толькі будаўніцтва скончылі, Загорскі, не зважаючы ні на якія «фармальнасці», перабраўся ў адзін пакойчык на другім паверсе і асеў.

Арцём Іванавіч, што ад душы спачуваў Загорскаму, хоць і ведаў незаконнасць учынку інваліда, не стаў спрачацца з ім.

Але старшыню гарсавета, які толькі што ўступіў на пост і быў поўны рашучасці адразу ж навесці парадак, такое самаўпраўства абурыла.

— Як гэта ўсяліўся? А хто дазволіў? — гледзячы на Арцёма Іванавіча, запытаўся ён.

Арцём Іванавіч у такія хвіліны ніякавеў, толькі разводзіў рукамі.

— Ніхто не дазваляў... Ён раней жыў там. І не пытаўся ні ў каго дазволу...

— Што яму, законы не пісаны?!

— Яму няма дзе жыць...— пашкадаваў Загорскага Арцём Іванавіч.

— У нас пакуль такіх тысячы, разумееце! Што, калі ўсе яны самавольна будуць захопліваць кватэры?

Арцём Іванавіч прамаўчаў, адчуваючы, што спрачацца лішне.

Помніцца, былому сціпламу, нічым асобым не слаўнаму стралку з адной слаўнай пяхотнай дывізіі, Загорскаму давялося пераЖыць хмурныя дні. Давялося пазнаёміцца і з добрымі парадамі выехаць, і з катэгарычнымі загадамі, і нават з міліцыянерам, былым партызанам, з выгляду грозным, але мяккім хлопцам, які зайшоў даведацца, ці збіраецца парушальнік выконваць пастанову.

— Не... Не выеду,— адказаў адразу Загорскі. Ён раптам запытаўся ўзрушана, з адчаем: — Куды я выеду, скажы ты?

Міліцыянер спачувальна ўздыхнуў. Загорскі ж дапытваўся, падступаў:

— Куды? Што, я буду плаціць сотню рублёў за куток?! З чаго я іх вазьму?

— Так, кватэры цяпер дарагія!..

— А я ж жыву пакуль на адной пенсіі. Дзе я іх дастану, столькі грошай на жыллё? Вось каб нага папраўілася, дык на работу падаўся б.

— А што, не правіцца?

— Не, ліха на яе... Свішч, чорт...

— Так, становішча!..— філасофскі і мінорна сказаў міліцыянер. Ён задумаўся, адчуваючы сябе чалавекам, што трапіў у становішча, з якога няма выхаду. Невядома, што б ён прыдумаў, але тут увайшла пажылая, ужо амаль зусім пасівелая жанчына ў чорным касцюме і сказала Загорскаму, што яна з гаркома, што яна па яго скарзе. Міліцыянер ахвотна ўстаў і, казырнуўшы, паспешліва выйшаў.

Загорскі падаў жанчыне табурэтку, яна падзякавала, села, агледзела пакой беглым позіркам. Загорскі, стоячы каля акна, сачыў за ёй насцярожаны, поўны надзеі і адчаю.

— Дзе вас параніла? — запыталася жанчына, і Загорскага гэта падбадзёрыла.
— Пад станіцай Клецкай... Калі ўжо наступалі...
— Куляй?
— Асколкам...
Яна слухала, ківала галавой, у яе вачах было такое, нібы яна штосьці ўспамінала.
— Што ўрачы абяцалі? Паправіцца нага?
— Павінна, казалі! Ды толькі ўсё як было... Не праходзіць!
— А ў шпіталь даўно хадзілі?
— Эт! Шпіталь! — Загорскі махнуў рукой: ці да шпіталяў цяпер?
— Нельга так! — нібы не заўважаючы тону яго размовы, няласкава сказала жанчына.— Так і нагу нядоўга згубіць!..
— Чорт мне з ёю, з нагою!
— Ну, вось! Сказалі!.. Ці вы ўсё жыццё думаеце на пенсіі пражыць? Інвалідам?
— Не ведаю.
— Хто ж ведае?
— Вышэй сябе не скочыш! Як будзе, так будзе.
Жанчына не сказала нічога, але Загорскі адчуваў, што словы яго не спадабаліся. У ім мацнела непрыхільнасць да яе,— вось яшчэ настаўніца знайшлася, вучыць, усё ёй не падабаецца!
— У вас адно дзіця?
— Адно. Сын.
— Сын ёсць. А вы так адносіцеся да сябе!
— А як вы адносіцеся да мяне?
— Як я? Я пакуль — ніяк. Не ведаю вас...
— Ніяк. Курэнь мой разбурылі...
— Вы вельмі шкадуеце яго?
— Шкадую не шкадую...
— А што?
— Што! Тады ў мяне ўсё ж быў куток.
— Хутчэй — пячора.
— Няхай — пячора. А цяпер і яе няма... Нічога няма!
Яны замаўчалі, і Загорскі адчуў, што гэта маўчанне перад схваткай...
— У нас, таварыш Загорскі,— ціха загаварыла

жанчына,— без кватэр — многа. Мы пакуль — зразумейце — не можам усіх задаволіць!

— Я гэта чуў. Гаварылі ўжо іншыя... Але мне ад гэтага не лягчэй.

Ён пачынаў злавацца, станавіўся ўпартым.

— Даюць жа другім, а я што — горшы?!

— Не горшы! Але ж нельга ўмясціць усіх у адзін дом! Для гэтага трэба пабудаваць цэлы горад!

— Усё-такі ж многім месца знайшлося!

— Не ўсім!.. Многім не хапіла! Многім!..

— Другія маюць права, а я не маю,— не хацеў слухаць ніякіх довадаў Загорскі.— У мяне яго мала!

— Вы гаворыце няпраўду. У вас іх досыць. Мала не правоў, мала месца... Разумееце?

Не, Загорскі не разумеў. А можа, не хацеў разумець,— відаць, тут сыходзіліся дзве праўды, абедзве непрымірымыя...

— Не разумееце?

— Не разумею...

Жанчына ўстала.

— Значыцца, гарком лічыць, што трэба высяляцца?

— Я далажу пра ўсё гаркому. А што ён вырашыць, даведаецеся... Я асабіста буду падтрымліваць вас.

Пасля таго як жанчына развіталася, Загорскі пражыў яшчэ адзін дзень у неспакоі.

Гэта быў апошні хмурны дзень,— больш яго не турбавалі.

## ЖЫХАРЫ ДОМА

І вось дом загаманіў.

Кватэр у ім лічылася толькі крыху больш за сотню, і кватэры гэтыя былі прасторныя, па два, а то і па тры і чатыры пакоі, але жылося людзям тады ў доме не вельмі раскошна. Амаль кожная кватэра давала прытулак дзвюм, тром ці нават чатыром сем'ям.

Асобныя кватэры дасталіся толькі некальнім чалавекам, сярод якіх аказаўся і дырэктар не існуючага яшчэ тады цырка. Праворны цыркач (так яго іменавалі непрыхільныя суседзі) толькі месяц назад як прыехаў быў у горад з Сярэдняй Азіі і атрымаў кватэру таму, што прыгразіў адразу ж пакінуць межы горада, калі

яму не дадуць у бліжэйшыя дні кватэры з чатырох пакояў.

Людзі здзіўляліся і абураліся:

— Бач ты, нахаба які!

— Адно слова — «цыркач»!..

— Што «цыркач», то «цыркач»!

Казалі, нібы яго спрабавалі ўгаварыць на меншую, але ён толькі адказваў: «Ці — чатыры пакоі, ці — бывайце здаровы».

І яму саступілі. Бо як жа, вялікі горад, хіба ж можна без цырка?

Дом быў падобны на вялізны вулей.

Ужо тады ён пачаў тое жыццё, якое можна назіраць і цяпер. Раніцай, днём і ўвечары ў ім было неспакойна і шумліва, а ўночы наступала цішыня. То там, то тут на ўсіх чатырох жылых паверхах паступова тухлі асветленыя вясёлыя вокны, і ён маўклівым чорным гмахам акрэсліваўся ў змроку.

Даўжэй за ўсё свяцілася акенца ў кватэры на трэцім паверсе ў крайняй злева секцыі, дзе жыў паэт Дуброўскі. Яно гарэла заўсёды спакойна і роўна. Зусім не так гарэла сэрца паэта, які то радаваўся за свайго героя і за сябе, то, калі справа не клеілася, сядзеў панура, учапіўшыся рукамі ў валасы, гатовы стагнаць ад крыўды.

Дуброўскі быў яшчэ малады чалавек, вельмі паўнацелы, з гладзенькай адвіслай складкай пад падбародкам. Ад таго, што ён быў не рослы і не шырокі ў плячах, ён здаваўся проста-такі тоўстым і грузным. Трымаўся ён прама, выпнуўшы жывот, горда ўзняўшы прыгожую галаву, як бы з пагардай прыплюшчыўшы блакітныя вочы, і гэта надавала яму важны, нават трохі ганарлівы выгляд. Але гэты знешні выгляд яго не пасаваў з характарам: паэт быў чалавекам дабрадушным, нязлым, заваблівым, чыста, па-дзіцячаму смяяўся і толькі хіба, калі часам выпіваў з сябрамі, станавіўся задзірыстым.

Каб дапоўніць яго партрэт, трэба сказаць, што ён быў блізарукі, нават вельмі блізарукі,— ад чаго паэт і прыплюшчваў вочы (а зусім не ад пагарды да людзей, як маглі б падумаць тыя, хто не ведаў яго). Нягледзячы на блізарукасць, хадзіў паэт звычайна без акуляраў і чытаў на літаратурных вечарах свае творы таксама

без акуляраў, як мага наблізіўшы твар да лістка з вершам, так што нос яго датыкаўся да радкоў.

Дома — у бяссонныя ночы — Дуброўскі сядзеў за сталом у рагавых акулярах. Складаючы вершы, ён ціха мармытаў іх, паўтараў па некалькі разоў. Ён нібы ўслухоўваўся:

Дружбакі мне аднойчы сказалі:
Мала пішаш пра выплаўку сталі.

Ён напружана думаў, падбіраючы неслухмянку-рыфму, якой не хапала, каб завяршыць двух- ці чатырохрадкоўе.

Прызнаюся — пісаў я...
Пра лугі,
Пра плугі,
Пра калёсы,
Бо і ў гэтым...

Толькі калі радкі набывалі закончаную форму, ён занатоўваў іх на паперы:

Прызнаюся — пісаў я нямала
Пра лугі,
Пра плугі,
Пра калёсы,
Бо і ў гэтым звон чую метала
І напеў шматгалосы...

Напісаўшы, нібы не даючы таму ўражанню, якое ёсць, калі глядзець праз шкельцы, паэт меў яшчэ звычай здымаць іх і падносіць лісток да прыплюшчаных вачэй. Здавалася, што ён з падазронасцю нешта шукае. Не знайшоўшы, відаць, злога, ён зноў надзяваў шкельцы і тады пачынаў мармытаць-абдумваць новыя радкі...

Жыў ён у горадзе многа гадоў, але чамусьці амаль увесь час пісаў пра вёску. Гэтаму прычынай было не толькі тое, што ён чуў у вёсцы «напеў шматгалосы», прычынай былі, напэўна, і любыя сэрцу ўспаміны маленства. Любіў ён вёску і — што праўда, то праўда,— пісаў ахвотней за ўсё пра яе.

Паэт часта ездзіў у калгасы, многа бачыў і цікава расказваў. Але ўчэпістыя крытыкі ўсё ж знаходзілі, бывала, у яго творах быццам бы нейкія сляды архаікі.

Трэба сказаць, час ён не прамарнаваў і зрабіў шмат карыснага — хвала яму, бяссоннаму працаўніку, чый

агеньчык у доўгія зімовыя і асеннія ночы амаль нязменна гарэў у акенцы на трэцім паверсе!

Не будзем шмат дакараць паэта,— ён чуў даволі дакораў ад крытыкаў. За адно папракнём яго — хай ён пачырванее,— да гэтага часу наш паэт не напісаў ні аднаго верша пра гасцінны дом, які прытуліў яго і сагрэў.

Пра дом, у якім ён перажыў столькі шчаслівых гадзін!..

Яшчэ не тухла святло ў паэта, а ўжо дом пачынаў абуджацца. Калі ночы былі доўгія, то агні зноў там і тут запальваліся; летам жа ў гэтую пару ўсюды расчыняліся вокны, дзверы на балконы...

Праз гадзіну-дзве дом прыкметна пусцеў, і тады можна было бачыць, колькі працаўнікоў жыве тут. Першымі спяшаліся на працу жанчыны — прадаўшчыцы з прадуктовых магазінаў, пазней лёгка плылі какетлівыя сакратаршы-машыністкі з сумачкамі самай апошняй моды, строгімі гурткамі ішлі старанныя школьніцы і з крыкамі задзіры-хлапчукі.

Арцём Іванавіч хадзіў заўсёды пеша. Машыны ў яго не было, але ён казаў, што, калі б і была, не стаў бы ездзіць, каб не нажываць сабе інтэлігенцкіх хвароб. Амаль тады ж, абапіраючыся на кіёк, кульгаў да трамвайнага прыпынку Загорскі, які ўладзіўся працаваць у шавецкую майстэрню пры гасцініцы.

Неўзабаве ва ўсім доме, нібы вартавы, што здаў начную вахту, спаў, мусіць, толькі адзін паэт, задаволена пахропваючы. Сон яго быў аднолькава моцны і пасля ўдачы і пасля няўдачы.

На двары часта кіпелі трэніроўкі юных футбалістаў і ў наваколлі разносіліся ваяўнічыя воклічы:

— Пас, пас давай! Не адзін гуляеш!

— Ты чаго ўсё падстаўляеш нагу?! Суддзя — «падножка»!

— Рука была! Штрафны! Рука!

— Не было рукі!

— Суддзю — на мыла!

— Жорка, бі!

— Гол!..

— Ура-а!..

Прызнаным усімі на двары каралём футбола быў сын інваліда Жорка Загорскі. Ён так біў па мячу, што

ніхто з малых варатароў, як яны ні стараліся, не мог аберагчы свае вароты ад гола. У Жоркі ніхто не мог адабраць мяч, так умела ганяў яго па вытаптаным двары ўвішны малады Загорскі. Жору паважалі як самы высокі аўтарытэт. Жору стараліся спадабацца, перад Жорам ліслівілі.

Толькі худая, вечна буркліваая дворнічыха, якая цэлымі днямі цягалася каля сваіх парасят, што рохкалі ў закутку дрывянога хлеўчука, не прызнавала таленту Жоркі, гаварыла, нібы ён разбіў акно ў канторы магазіна, нібы ён ганяе парасят і нібы наогул ён псуе дзяцей.

— Вось жа, скажы ты, урадзілася дзяціна! Бегае, круціцца, галёкае, як ашалелы: вечны вэрхал праз яго на двары. Вачэй з яго не зводзь!..

Жора глядзеў на яе спадылба, спакойна і мужна, выклікаючы адабрэнне ў шматлікіх сваіх прыхільнікаў, якія стаялі тут жа.

— Чаго вы да мяне чэпіцеся!.. Ці я вам сонца засціў?! Выдумляюць усё — акно разбіў, парасяты. Трэба мне акно разбіваць.

— Значыцца, не ты?..

— Не я.

— А хто ж?! — падступала старая.

— Не ведаю. Я вам не даносчык...

— Не ведаеш? Значыцца, ты!..

— Няхай — я!

— Ты, ты!

— Я! Сказаў!..

— Ты, ты, ты!

— Ну, я! Я!

Дворнічыха на ўвесь двор скардзілася:

— Няма на цябе бацькі добрага, каб навучыў!

Бацька Жору ніколі не лаяў і не папракаў яго.

У юнакоў і тады — як і цяпер — заняткі былі іншыя. Вечарамі ў пад'ездах і каля іх можна было ўбачыць ціхія парачкі, якія звычайна стараліся быць далей ад шуму гарадскога і ад лішніх людскіх вачэй.

Любоў не абыходзіла гэтага дома!

Тут многія недасыпалі праз яе начэй, многія снілі любыя сэрцу вобразы, гарэлі, нібы ў агні, ад самых гарачых пяшчот, уздымаліся на крылах шчасця, а нярэдка — было і такое! — горка плакалі. Не аднаму з

мінчан запомніліся пад'езды, лесвіцы і пакоі гэтага дома — маўклівыя, дарагія на ўсё жыццё сведкі кахання!

Яшчэ ў першы год, пераехаўшы сюды, сын Арцёма Іванавіча Саша пачаў прыкмячаць дзяўчыну з суседняга пад'езда. Яны часта стаялі на трамвайным прыпынку, і Саша — рослы, нязграбны ў рухах, з упартым позіркам — адчуваў у душы нейкі прыгожы і незнаёмы неспакой, калі глядзеў на тоненькую, зграбную смуглявую дзяўчынку ў чырвоным берэце. Ён яшчэ не сказаў ёй ні слова, а ўжо быў нібы знаёмы.

Яму вельмі хацелася запытацца, хто яна, як яе завуць,— у яе, напэўна, асаблівае імя! — хацелася ехаць з ёю, ісці з ёю, але яны звычайна моўчкі раз'язджаліся ў розных трамваях. Саша да сябе ў школу, а яна невядома куды. З акна сваёй кватэры Саша часта пазіраў на вуліцу, спадзеючыся ўбачыць яе, часта «дзяжурыў» каля дома, каб спаткаць яе.

Хлопец заўважыў, што яна выходзіць пасля паўдня з чамаданчыкам і вяртаецца ўвечары. З назіранняў сваіх Саша вывеў, што дзяўчына ў берэціку ходзіць на нейкія вячэрнія заняткі, і стаў чакаць яе на рагу вуліцы, па якой яна вярталася. Саша думаў, як падыдзе да яе, што скажа, але, калі дзяўчына паявілася, у яго першы час не хапіла сілы крануцца з месца. Ён анямеў! Ах, як часам цяжка сказаць самыя звычайныя словы!

Як заварожаны, Саша падаўся ўслед за ёй, папракаючы сябе за нясмеласць. Толькі амаль каля дома хлопец падышоў да дзяўчыны і выціснуў:

— Нам, здаецца, разам ісці?..

— Разам? Чаму вы так думаеце?

— Таму, што вы жывяце ў тым доме!

— У тым. Але што з гэтага?

— Я таксама...

— Вы хіба з нашага дома?..

Сашка ўзрадаваўся.

— З гэтага.

— Што ж,— раптам непадступна адказала дзяўчына.— Гэта яшчэ нічога не значыць!

— Чаму?!

— Таму што тут жыве многа людзей.

Яна, мусіць, адчула, што пакрыўдзіла хлопца, і дадала мякчэй:

— І наогул вы маніце...
— Чаму?
— Вы не жывяце тут. Я вас першы раз бачу.
— А я вас... я вас — даўно!
— Гаварыце!
— Праўда! Чэснае слова!
— Ну, і... нядобра, што ведаеце!
Саша здзівіўся.
— Чаму?!
— Таму...

Саша памаўчаў, хацеў раззлавацца: «Падумаеш, задавака якая!» Ён ледзь не сказаў ёй гэтага проста ў вочы,— Саша быў чалавек адкрыты і прамы. Але нешта на гэты раз стрымала яго, нешта апанавала яго звычайную рашучасць. Ён развітаўся з дзяўчынаю панура і холадна.

Можа, гэта і здасца дзіўным, але ў наступны вечар Саша зноў «выпадкова» спаткаў яе і зноў правёў дадому. У трэці вечар яна была згаворлівейшаю, і Саша запытаўся, адкуль яна ідзе.

— Гімнастыкай займалася.

У гэты раз Саша даведаўся нават яе імя. Яе звалі Люба.

Люба!

Сашу здалося, што лепш за гэтае імя няма на свеце!

Нарэшце Саша запрасіў яе ў кіно, і яна згадзілася, не адмовіла! Саша быў бязмежна шчаслівы: і ці дзіўна — хіба ёсць шчасце, большае за тое, калі самы любы чалавек ківае галавой у знак згоды!

Яны потым многа разоў хадзілі ў кіно і многа вечароў стаялі ў неасветленым кутку лесвіцы. І ўсё было між іх згода, аж пакуль Саша не наважыўся пайсці на незвычайна дзёрзкі, страшэнны ўчынак. Ён пацалаваў яе!

Дзяўчына гнеўна ўскінула галаву ў чырвоным берэце.

— Гэта што такое?!
— Ну... што? Нічога...
— Нічога?! Гэта — нічога?!!

Люба сказала, што калі гэта яшчэ раз паўторыцца, то яна ніколі нікуды з ім не пойдзе, што яна не думала, што Сашка такі!

На гэта Саша пакрыўджана і рашуча адказаў, што ён не такі.

— А калі я... Калі, адным словам... гэтае... то я таму,— у голасе Сашы пачуўся адчай,— што... люблю цябе!

— Любіш...— не паверыла дзяўчына.— І ўсё ты маніш!

— Яшчэ як люблю! Як...— ён запыніўся, шукаючы таго самага моцнага слова, якое магло б перадаць усю глыбіню яго пачуцця,— як... як Ізольду!..

— Як каго? — раўніва загарэлася дзяўчына.— Хто гэта яна такая?

— Ізольда?..

— Ну, яна...

— Ты хіба не ведаеш?

— Каб ведала, то не пыталася б...

— Рыцар быў такі, Трыстан, а ў яго... ён любіў Ізольду. Вельмі любіў, ну так любіў, што жыцця свайго не шкада было для яе! Розныя ўчынкі геаічныя ён рабіў з-за кахання да яе!.. Вобраз яе ён усюды бачыў перад сабою...

— А ты мой бачыш хіба калі-небудзь? — хітравата пацікавілася дзяўчына.

— Заўсёды!..

Яна неспадзеўкі пырснула смяшліва. Сашка пакрыўдзіўся.

— Ты што?!

— Трыстан! Рыцар! На кані... З пі-каю!..

— Хто?

— Ты!

Дзяўчына засмяялася і нечакана пацалавала хмурнага Сашку сама!..

Але над шчасцем Сашкі хутка навісла хмара. Заняты будоўлямі, Арцём Іванавіч не адразу дазнаўся, чаму сын стаў позна прыходзіць дамоў, а калі дазнаўся, то пачырванеў сярдзіта. Яго сын, аказваецца, упадабаў дачку дырэктара цырка! З тых дзён, калі той захапіў цэлых чатыры пакоі, калі ён так нахабна дабіваўся — або чатыры пакоі, або — бывайце здаровы! — Арцём Іванавіч цвёрда знелюбіў гэтага чалавека. Ён не любіў і тых, хто да яго меў блізкія адносіны.

— Вось ты дзе, сынок, прападаеш. І з кім. З цыркачкай!

— Яна не цыркачка! Яна — студэнтка,— запярэчыў сын, чырванеючы.

— Студэнтка?

— Студэнтка! У фізкультурным тэхнікуме вучыцца!..

— Ну вось-вось,— адразу ўчапіўся бацька.— Угадаў — цыркачка!

— Яна не цыркачка!

— Праўду гавораць — яблыка ад яблыні недалёка падае,— не слухаў, наступаў Арцём Іванавіч.— Быць таго не можа, каб у такога бацькі было паважнае дзіця. Гэта ўжо я ведаю. Ведаю!..

— Нічога вы не ведаеце!

— Ты б лепш памаўчаў, цыркун! Рана яшчэ вучыць бацьку! Бач ты, ён ужо вучыць — не ведаеш! Многа ты ведаеш!

— Што трэба, ведаю!.. І наогул — гэта мая справа... Мне яна... ну, падабаецца... І ўсё!

— Усё? Не, не ўсё. Яго справа, бач ты! А я дзе павінен вочы пазычаць, калі запытаюцца, каго сын выбраў?! Яго справа! Гонар ужо!

Сын больш нічога не гаварыў, толькі каменна паглядваў на бацьку, і Арцём Іванавіч крыху прыціх.

— Узрадаваў, сынок, дзякуй, узрадаваў.

Голас бацькі задрыжаў ад крыўды. Столькі дзяўчат разумных, сталых, а ён на́ табе — выбраў! Легкадумную цыркачку, вецер!

Зайшоўшы ў такім настроі да Загорскага, пацягваючы з гаспадаром жыгулёўскае піва, Арцём Іванавіч, якому страшэнна хацелася скардзіцца, сумна здзіўляўся, наракаў:

— Чым яна яго прывабіла, верціхвостка?!

Добры Загорскі супакойваў:

— Нічога, Іванавіч. Не перажывай марна. Праўда ж, не перажывай! Гэта часова. Дай, я дальню піўца!.. Яшчэ сто разоў пераменіцца!..

— Пераменіцца, ты думаеш? — недаверліва зірнуў на яго Арцём Іванавіч.

— Сто разоў!.. Піва якое — дубам пахне!.. Маладыя — вецер... Пабачыш, пройдзе час.

— Калі б яно так было!..

Многа чаго змянілася ў горадзе за такі невялікі час. Гэтыя гады былі гадамі незвычайных, вельмі хуткіх змен.

Крывая і вузкая вуліца, на якой яшчэ нядаўна былі адны абломкі сцен, стала шырокім цудоўным праспектам. Абапал яго выраслі стройныя, прыгожыя дамы, смелыя ансамблі будынкаў; усцяж прасторных тратуараў зазелянелі роўныя рады купчастых ліп.

Многія з былых жыхароў пераехалі ў іншыя дамы, у лепшыя кватэры, і большасць з тых, што засталіся, займаюць ужо не па адным пакойчыку. Прасторней стала ў некалі цесным доме.

Кожнаму, хто ведаў, як жылі тут некалькі гадоў назад, адразу кінецца ў вочы, што цяпер нямала развялося прыватных машын.

У свой час будаўнікі не падумалі пра гаражы,— ды і хто мог ведаць, што за якія-небудзь чатыры-пяць год так развядзецца прыватны транспарт у жыхароў дома.

За гэты свой і свайго начальства промах Арцём Іванавіч сам разлічваецца. Вельмі лёгка заўважыць, што даводзіцца ім, машынам прыватным,— у тым ліку і «Масквічу» Арцёма Іванавіча,— нялёгка: прыгожыя, з вясёлым люстраным лакам і зіхатлівым нікелем, яны трапілі тут у нязграбныя, цесныя хлявы.

Што ж, гэта ўжо гора не ад беднасці!

Як можна здагадацца з папярэдняга сказа, Арцём Іванавіч таксама набыў уласны транспарт.

— А як жа наконт інтэлігенцкай хваробы? — падчапіў аднойчы Арцёма Іванавіча Загорскі.— Не баіцеся ўжо?

Арцём Іванавіч, пакуль сын запраўляў машыну бензінам, абціраў пакуллем і без таго чысты капот «Масквіча».

— А чаго ж мне баяцца?

— Мякка вельмі сядзець!..

— Колькі я тут! Тры гадзіны ў тыдзень!

— Гэта ўсё роўна!

Загорскі пастаяў, патупаў каля прыяцеля і ад таго, што хацелася яму пакпіць, пакруціў галавою:

— Клопату з ёю!.. Ды і грошай столькі, ліха на яе!

— А што грошы,— філасофскі зазначыў Арцём Іванавіч,— вада. Былі грошы, няма іх...

Ён акінуў позіркам машыну.

— Затое рэч — заўсёды рэч!..

Заўважыўшы, што Саша нечага пабег у дом, Арцём Іванавіч прамовіў, уздыхнуўшы:

— Для яго, неслуха, гэта! Любіць ён машыну ўсякую. Больш за бацьку роднага!..

Тое, наколькі лепш жывецца людзям, асабліва відаць, калі зайсці ў пакоі. Некалькі год назад у кватэрах амаль усюды стаяў разнастайны зброд: сталы, якія ледзь трымаліся на хісткіх нагах, зялёныя трафейныя шафы, табурэткі вытворчасці саматужнай. Не ўсе — далёка не ўсе — вокны аздаблялі тады нават цюлевыя гардзіны! Што ўжо казаць пра дарагія аксамітныя шторы! (У кабінеце паэта акно было, напрыклад, прыкрыта газетамі, якія час ад часу мяняліся.)

Цяпер не тое. І калі звонку дом такі ж, як і быў раней, то ўсярэдзіне ён змяніўся так, што не пазнаць. Бадай не бывае такога дня — выключаючы хіба панядзелкі,— калі б хто-небудзь не вёз ці не нёс у сваю кватэру абновы. На звычайныя цюлевыя гардзіны цяпер тут пазіраюць спакойна. Ды што казаць пра гэта, калі Загорскія, якія зарабляюць менш за многіх у доме, аздобілі сваё сціплае жыллё — няхай не дарагім — дыванам. Дарэчы, дываны даволі часта прыносяць сюды: жыхары дома любяць упрыгожваць свае кватэры дыванамі! І яшчэ можна заўважыць адну рысу, новую ў жыхароў дома: яны часам прывозяць да сябе не асобныя рэчы, а цэлыя «спальні», «сталовыя». А некаторыя, калі і выбіраюць што-небудзь з мэблі асобна, то прыдзірліва прыглядаюцца, каб і колер быў адпаведны таму, што ёсць дома, і стыль каб быў такі.

Багацеючы, людзі робяцца пераборлівымі.

Змяніліся людзі! Змянілася шмат што і ў Арцёма Іванавіча. Ён, праўда, як і раней, будуе. Як і раней, ён то радуецца, то злуе, але цяпер злуе часцей за ўсё па іншых прычынах. Матэрыялу — і дошак, і цэглы, і раствору, і многа іншага, што патрэбна,— прывозяць цяпер на будоўлі звычайна дастаткова і ў час, а тэхнікі столькі, што Арцёму Іванавічу тады і не снілася. Але затое і тэрміны будаўніцтва цяпер другія, куды карацейшыя — прыходзіцца працаваць на ўсю моц! Ну і за

якасцю работы трэба вельмі сачыць,— за гэтую якасць Арцём Іванавіч і распякае нярэдка сваіх падначаленых. За якасць, ды за дысцыпліну, ды за нядбайныя адносіны да прылад. Адным словам, чалавек гэты характарам, як і раней, строгі, і, калі ён чырванее, у дрэнным настроі, яго пабойваюцца.

Так распякае Арцём Іванавіч падначаленых. Але і Арцёму Іванавічу нярэдка моцна перападае.

— Няма горш справы, чым наша, будаўнічая! — неаднойчы скардзіцца Арцём Іванавіч.

Скардзіцца ён звычайна дома.

— І хто толькі не прыдзіраецца да нашага брата — і начальства сваё, і гарсавет, і жыхары нават!..

Дома ўсе ведаюць, што, калі Арцём Іванавіч гаворыць такія рэчы, у яго на працы былі нейкія прыкрасці. Тады з ім абыходзяцца асабліва ветліва і мякка. Быў, праўда, адзін выпадак, калі жонка Арцёма Іванавіча, Марыя Іванаўна, як вядома, вельмі добрай душы жанчына, аднойчы парушыла гэты моцны сямейны звычай.

— І чаго ты бурчыш, стары?! — проста, грубавата запыталася яна.

Арцём Іванавіч уразіўся.

— Што?.. Што ты мне сказала?

— А тое! Не падабаецца быць прарабам, дык ідзі ў вартаўнікі!..

— У вартаўнікі! Я сам ведаю, дзе мне быць!..

— А ведаеш, дык маўчы і трымайся!

— Не вучы! Настаўніца таксама знайшлася!

Арцём Іванавіч цэлыя суткі потым не гаварыў з ёю, злаваўся. Але чалавек ён адыходлівы, нарэшце забыў спрэчку і нават пра тое, што жонка не заўсёды спачувае, забыў. У дрэнным настроі па-ранейшаму скардзіцца дома...

Набудаваў Арцём Іванавіч нямала,— пры яго ўдзеле канчаюць ужо чацвёрты дом, ці, як ён звычайна кажа, аб'ект.

Паэт, у акне якога ўсе гэтыя гады ноччу нязменна гарэў агеньчык, стаў аўтарам некалькіх новых паэм і кніжак вершаў, стаў вядомым.

Сустрэўшы паэта на вуліцы, прахожы цяпер — нярэдка бывае — штурхне лёгка другога і скажа:

— Дуброўскі ідзе!

— Той самы?!

— Той самы!

Вось што значыць слава! Слава ўзнёслая, крылатая, хмельная, як віно,— салодкая ўзнагарода за недаспаныя ночы, за творчыя пакуты і ўзлёты!

Шкада толькі, што яна, слава, бывае часам, паварочваецца і другім бокам. Варта толькі цяпер якой-небудзь газеце пацерабіць паэта за сляды архаікі ці за няўдалыя рыфмы, як гэта таксама становіцца ўсім вядомым. У такім выпадку словы: «Той самы?!», «Той самы!» набываюць ужо зусім іншы змест.

О капрызная, няверная слава, хіба ж можна так абыходзіцца ■ паэтамі!

Трэба зазначыць, усё ж дасюль мала хто ведае, што Дуброўскі стаў славутым іменна ў гэтым доме.

Яшчэ менш ведаюць, з кім Дуброўскі любіць пагаварыць, параіцца, і зусім не ведаюць, хто падбівае паэту набойкі на чаравіках. Не ведаюць больш за ўсё таму, што не цікавяцца такой празаічнай справай, нібы паэтам ніколі не даводзіцца мець справу з прозай жыцця.

А пытанне гэтае, трэба сказаць, не дробязь. Дуброўскі не толькі многа ездзіў, але і многа хадзіў: адпраўляючыся ў камандзіроўку, ён абавязкова заходзіў да шаўца і рабіў капітальны рамонт чаравікаў. Давяраў ён гэтую справу Загорскаму, які працаваў цяпер у пакойчыку на першым паверсе гэтага дома.

— Вытрымаюць? — пытаўся ён у Загорскага, блізарука прыплюшчыўшы вочы, разглядаючы падбітыя, падфарбаваныя і начышчаныя чаравікі.

Загорскі пытаўся, куды едзе паэт, і, падумаўшы, запэўніваў, што вытрымаюць.

І, трэба сказаць, звычайна не ашукваў паэта.

За гады ён так звыкся з Дуброўскім, што, хоць і быў чалавекам сціплым, лічыў яго сваім сябрам і нярэдка ўступаў у шчырыя, прыяцельскія размовы.

Аднойчы ён сказаў, што прачытаў кніжку Дуброўскага і знайшоў у ёй сур'ёзны недахоп. Паэт насцярожана запытаўся, які.

— Вы пішаце ўсё пра брыгадзіраў, пра поле. Можаце сачыніць пра артыстку, якая праспявала вам адну песеньку. Адной песенькі яе даволі!.. Вы ўжо растаеце!.. А вось я столькі вам папраміў абцасаў, набоек

столькі падбіў, а вы хоць бы радок пра шаўца!.. Не тое, што верш,— радок! Адзін радок!..

Паэт сказаў, што ён і рад бы напісаць, але ў шаўца такі занятак, што невядома, як зрабіць гэты занятак прадметам паэзіі. Іншая справа — проза. Да таго ж, занятак гэты старажытны, кансерватыўны, а ён, паэт, павінен пісаць пра новае і пра характэрнае для нашага часу. (Дуброўскі вельмі баяўся, каб у яго вершы зноў не трапіла архаіка).

— Можа, вы і праўду кажаце,— сумна прамовіў Загорскі.— Такім малатком забівалі цвікі і пры Пятру Першым, і, можа, раней.

— Раней, многа раней!

— Але як жа гэта атрымліваецца: калі пісаць пра шаўца,— дык ён устарэлы, а як абцас зносіцца ці падмётка,— дык да яго... Не да спявачкі...

Паэт засмяяўся, згадзіўся:

— Не да спявачкі!

— Ну вось... У мяне ўвесь квартал, можа, ратунку шукае. Тры народныя артысткі прыходзяць. Шаціла не раз быў! Сам Платонаў, Барыс Віктаравіч... Балерыны, браце, былі! Мастакі — тых і не запомніш усіх,— настаўнікі, інжынеры. У мяне часам не менш перабывае, як у якой прыёмнай. Усе да мяне! І ўсіх я выручаю!..

А вось вы кажаце — я ўстарэлы...

Паэт не ведаў, што сказаць.

— Гм... Цікава...

Загорскі горача адгукнуўся:

— Вам — цікава!.. Тут такая несправядлівасць...

Паэт згадзіўся:

— Бадай што — несправядлівасць...

Ён абяцаў падумаць над усім гэтым і паспрабаваць праславіць на фоне новага горада і сціплага шаўца.

Кажуць, што паэт піша гэты верш і што, хутка ці не хутка, і шавец увойдзе ў паэзію...

А па жыцці ён ідзе ўпэўнена. Горбіцца ён менш, як калісьці, паздаравеў. Бляклую гімнасцёрку даўно ўжо зняў і цяпер ходзіць у цывільным касцюме: у пінжачку, з гальштукам, і толькі боты, якія ён усё не мяняе на чаравікі, нібы сведчаць пра тое, што Загорскі не ад усіх салдацкіх звычак адышоў. (Хто не ведае, што ўсе

салдаты, нават тыя, якім належыць насіць чаравікі, паважаюць боты.)

Любіць наш шавец футбол і часам любіць пахваліцца знаёмым, што да вайны ён таксама някепска гуляў. Трэба прызнацца, гэта няпраўда: любоў да футбола перадалася яму ад сына, ад Жоркі...

Як бы там ні было, у горадзе цяпер ніводнага матча не абыходзіцца без шаўца.

Загорскія часта сумуюць па сыне. Няма ўжо на двары Жоры. Іншая пара — іншыя героі. Замест Жоркі выклікае захапленне малых футбалістаў блакітнавокі спрытны сын паэта. А Жора — у Латвіі, вучыцца ў мараходным тэхнікуме. Наш марак акуратна паведамляе пра свае поспехі, сваё жыццё. Амаль кожны тыдзень лістаносец прыносіць Загорскім вестачку-ліст.

Дворнічыха, якая калісьці цярпець не магла Жоркі, цяпер, сустракаючы яго бацьку, заўсёды пытаецца, што піша сын, і кажа, што шчасце мець такое дзіця і што яно далёка пойдзе.

— Які харошы, сур'ёзны быў хлопец!

— Сын добры. Паслухмяны! — згаджаецца Загорскі, які добра памятае яе прычэпкі да Жоры.

— Яшчэ які паслухмяны. Парасяці ніколі не кране, а не тое, што чалавека... Добры чалавек, ён з самага маленства відаць...

Загорскі хоча хутчэй адысці ад жанчыны, але яна не адстае:

— Гэта не тое, што цяперашняя блазнота...

— Дзеці заўсёды дзеці...

Дворнічыха махае рукамі.

— Спакою ад іх няма!.. Генералам будзе,— прарочыць яна.

— Не кажыце,— няўпэўнена пярэчыць прыкметна памякчэлы бацька.

— Генералам марскім. Не інакш генералам...

— Дай бог!..

— Будзе!.. Чую я!.. Паклон яму напішы...

— Пастараюся... добра...

— Глядзі, напішы ж...

— Добра...

Загорскі кульгае ў пад'езд...

Жывуць Загорскія мірна. Праўда, шавец часам п'е, але, выпіўшы, робіцца маўклівы і яшчэ цішэйшы і спя-

шаецца хутчэй дадому. Маруся, жонка, па яго старанный хадзе і вінаватым выглядзе пазнае, у якім ён стане, яшчэ здаддалек.

— Зноў? Няшчасны ты, горкі чалавек, гарэлачная твая душа!

— Зноў... Прыяцелі, Марусечка...

— Прыяцелі! Каб ім ні дня ні ночы! Знойдзеш жа ты заўсёды такіх...

— Сустрэліся на вуліцы...

— На вуліцы ці пад вуліцай! У-у, прыгожы! Няма чаго сказаць! На нагах — ледзь-ледзь...

Кожны раз пасля падобнага ўступу жонка паказвае на партрэт сына, што вісіць на сцяне.

— Пасаромеўся б! Яго пасаромеўся б, калі людзей не сорамна! Пра яго падумаў бы, калі жонкі не шкада!..

Маруся часам доўга яшчэ гаворыць у такім стылі і тоне, але таму, што чалавек у адказ толькі пакорліва маўчыць, яна ўсё ж нарэшце таксама сціхае.

Такім чынам, сцэны гэтыя праходзяць ціха, і ў доме мала хто ведае, што ў Загорскіх здараюцца сумныя праявы...

Змянілася многае і ў Сашкі Арцёма Іванавіча, толькі не так, як прадракаў Загорскі. Не пераменіўся ўпарты Сашка да сваёй «цыркачкі», якая даўно скончыла тэхнікум, вучыцца ў інстытуце, не ў політэхнічным, дзе Сашка, а ў фізкультурным. Другі год падрад яна — чэмпіёнка па гімнастыцы...

Летась маладыя закаханыя пажаніліся, наперакор не толькі Арцёму Іванавічу, але і бацьку маладой жонкі. Дырэктару цырка таксама не спадабаўся выбар дачкі.

Апошняя акалічнасць нечакана сцішыла смутак Арцёма Іванавіча.

— А, што — не падабаецца? Правароніў дачку?

Пасля гэтага Арцём Іванавіч стаў нават ганарыцца самавольствам сына.

— Спрытны які! Майстар! Такую дзяўчыну адхапіў! Падумаць толькі — чэмпіёнку!

З той пары пераменіўся ён і да «цыркача». Як-ніяк — сваяк жа, ды яшчэ таварыш па няшчасцю. Цяпер, сустракаючыся, ён абавязкова пагаворыць з дырэктарам, распытае, як справы. За лета ён нават хадзіў некалькі разоў у цырк...

У апошні час непрыязнасць Арцёма Іванавіча ўзяла іншы кірунак. Побач з яго кватэрай пасяліўся нейкі несамавіты тэхнік з аўтобуснага парка, вялікі прыхільнік музыкі. У першы ж дзень, толькі што ўнёсшы рэчы і яшчэ, напэўна, не ўправіўшыся азірнуцца, тэхнік аб'явіў пра свой прыезд і пра адзін свой звычай, уключыўшы на ўсю моц радыёлу.

Першы канцэрт Арцёму Іванавічу слухаць было, можна сказаць, цікава, ды і потым некалькі іх перанёс ён лёгка, але хутка гэты дзікі, шквальны грукат і роў, ад якіх здавалася, што здарыўся нейкі страшны абвал ці дом пачаў разламвацца, сталі выводзіць яго з душэўнай раўнавагі.

Часцей за ўсё яму даводзіцца чуць задзірыстую песеньку нейкай простай дзяўчыны, і яе Арцём Іванавіч асабліва знелюбіў, як і тэхніка. Яна пачынае кожны раз свой спеў ваяўнічым барабанным трэскам і шчоўканнем:

Говорят, я простая девчонка...

Далей словы ў яе сыплюцца, як гарох з рэшата,— так хутка, што Арцём Іванавіч нічога не разумее. Атрымліваецца нешта такое:

Из та-та-га-га дзи-да-дзи-да.

Наступныя словы Арцём Іванавіч управіўся ўлавіць:

И что в шумных кварталах мне не место,
Что...— зноў чулася,— дзи-ры-да-дзи-дзи,
Не мне чета.

Па скупых урыўках Арцём Іванавіч здагадаўся, што нейкі капітан — Брылянцін ці Валянцін Задрыга (ёсць жа такія прозвішчы!) збіраецца жаніцца, а гэтая задзіра хоча разбіць іх «саюз».

Трэба дадаць, хоць бы ў косках, што мы, стараючыся, каб ва ўсёй нашай гісторыі было як найменш недагаворанасці, якая часта прыводзіць да розных, іншы раз вельмі недарэчных здагадак, з навуковай дакладнасцю расшыфравалі тэкст песні «Простая девчонка». Мы ўстанавілі, што гукі, якія Арцём Іванавіч чуў як «из та-та-га-га дзи-да-дзи-да», напраўду азначаюць: «из далекого предместья Мадрида».

Говорят, я простая девчонка
Из далекого предместья Мадрида...

Намі таксама ўстаноўлена, што ў капітана ніколі не было такога нікчэмнага прозвішча — Задрыга. Відаць, Арцём Іванавіч палічыў за прозвішча Задрыга імя капітана Радрыга. Не быў, значыць, капітан ні Брылянцінам, ні Валянцінам,— тое, што здалося Арцёму Іванавічу імем, азначала назву нежывога стварэння, «брыганціна» — карабель.

Говорят, что назначена свадьба
Капитана бригантины Родриго.

Адкуль было Арцёму Іванавічу ведаць пра нейкія брыганціны, калі ён за жыццё не збудаваў не толькі карабля, а і лодкі і бачыў тое мора хіба з берага!

Але нашы тлумачэнні наўрад ці зробяць простую дзяўчыну больш прывабнай Арцёму Іванавічу.

Задзіра, як і раней, ваяўніча пагражае на ўвесь дом, на ўсю вуліцу адбіць жаніха-капітана.

Там то-олько де-деньги...
А здесь — любовь и песни...

Яна з пагардай вымаўляе «де-еньги», якія нібыта ёй і не патрэбны, і зусім інакш, з гонарам, гэтая верціхвостка заўсёды хваліцца, што ў яе ёсць песні.

Ветраная і ганарыстая, яна аб'яўляе, яўна ўпэўненая ў сваёй перамозе:

Ну что же, посмотрим — кто сильней!

Пры гэтым яна трашчыць-барабаніць так, быццам зараз жа кінецца ў атаку.

— Вельмі б ты пражыла са сваім тэхнікам на адной любові і песнях, пустуха! — сярдзіта сказаў ёй Арцём Іванавіч.

ЗНОЎ У РЫШТАВАННЯХ

Відаць, усе, хто ведае дом, яго жыхароў, яго гісторыю, заўважылі, што змяніліся за гэтыя гады не толькі людзі, але і дом. Бадай, больш правільна сказаць, не сам дом, а адносіны да яго, тое ўражанне, якое ён робіць. Бо сам дом застаўся такім, якім быў і раней, калі не лічыць таго, што крыху пацямнелі ад пылу і ветру яго сцены ды ў адным рагу каля карніза адваліўся кавалак тынку.

Неспадзявана сярод прыгажуноў, што выраслі і рас-

туць усцяж праспекта, дом стаў выглядаць вельмі сціплым і не здаецца ўжо чым-небудзь выдатным. Рэдка-рэдка хто з тысяч людзей, што праходзяць і праязджаюць паўз яго, праводзіць па ім зацікаўленым позіркам.

Не вабіць ён цяпер, трэба прызнацца, архітэктурнай формай.

— Гм-м, нельга сказаць, каб ён надаваў хараство праспекту,— прамовіў аднойчы гаспадар горада, праязджаючы паўз яго.

Ёсць факты, што незадаволен ім і галоўны архітэктар, які непахісна лічыць, што гэты дом не стварае з суседнімі будынкамі адзінства. Архітэктар на нарадзе пры ўсіх гнеўна заявіў:

— Ён разбурае ўсю гармонію ансамбля!

Відаць, па гэтых прычынах дом нядаўна пачаў змяняць аблічча. Вось ужо другі месяц палавіна яго апранута да самага верху ў густое плеціва рыштаванняў. Зноў, як калісьці — ужо ў трэці раз,— завіхаюцца пры ім будаўнікі — тынкоўшчыкі, маляры.

Апрануўшыся ў рыштаванні, ён стаў падобным да многіх сваіх маладых таварышаў, якія толькі што ўздымаюцца на праспекце.

Над ім плывуць высокія воблакі і нізкія цёмныя хмары, мыюць яго вясёлыя і невясёлыя дажджы, страляюць быстрымі стрэламі-маланкамі і грукочуць грамамі навальніцы.

Каля яго за стройным радам ліп бягуць з працавітым сіпеннем тралейбусы з сіняй палоскай, праносяцца, лёгка шархочучы, легкавыя аўтамашыны, вірліва пярэсцяць ад людскіх постацей тратуары...

Яшчэ месяц, другі,— і яго, кажуць, цяжка будзе пазнаць: ён стане такім жа, як новыя дамы, маладым, гэты стары ветэран.

I

*У дадзены том уваходзяць апавяданні (першы раздзел) і аповесці (другі раздзел), якія былі напісаны Іванам Мележам на працягу 1942—1972 гг.*

*Апавяданні і аповесці падаюцца ў храналагічным парадку паводле часу іх напісання.*

*Крыніцай асноўнага тэксту з'яўляецца тэкст апошняга прыжыццёвага выдання — зборнік «Белыя вішні і яблыні», выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1976, які найбольш поўна выражае апошнюю аўтарскую волю. З прычыны таго, што крыніца асноўнага тэксту адна для ўсіх твораў, то яна не ўказваецца ў каментарыях да кожнага апавядання і аповесці (выключэнні агавораны). Адзначаюцца толькі першыя публікацыі і даты напісання твораў.*

*Крыніцамі для варыянтаў і датыроўкі твораў з'яўляюцца:*

*1. Прыжыццёвыя выданні асобных зборнікаў І. Мележа: «У завіруху», Дзяржаўнае выдавецтва БССР, Мінск, 1946; «Гарачы жнівень», Дзяржаўнае выдавецтва БССР, Мінск, 1948; «Блізкае і далёкае», Дзяржаўнае выдавецтва БССР, Мінск, 1954; «У гарах дажджы», Дзяржаўнае выдавецтва БССР, Мінск, 1957; «Што ён за чалавек», Дзяржаўнае выдавецтва БССР, Мінск, 1961.*

*2. Збор твораў у шасці тамах. Мн., «Беларусь». Т. 1, 1969; т. IV, 1971.*

*3. Перыядычныя выданні: часопісы «Полымя», 1945, №№ 4, 5; 1946, № 10; 1947, № 10; 1953, № 2; 1954, № 6; 1957, № 3, «Беларусь», 1945, №№ 1, 3; 1947, № 10; 1954, №№ 7, 11, 1956, № 10; 1957, № 10; «Работніца і сялянка», 1956, №№ 6, 9; «Бярозка», 1956, № 4; «Маладосць», 1978, № 6; газеты «Звязда», 1944, 25 лютага; 1945, 17 лютага; 1947, 3—4 чэрвеня; «Літаратура і мастацтва», 1946, 9 сакавіка; 1955, 3 снежня; «Калгасная праўда», 1959, 18 лютага.*

*4. Машынапісы апавяданняў «Спатканне за горадам», «Здарэнне», «Ноч без зор», «Дадому» і рукапісы апавяданняў «Крымскія малюнкі», «Белыя вішні і яблыні», «Гісторыя парсюка», «Булкін», якія захоўваюцца ў архіве І. Мележа (у яго сям'і).*

*5. Машынапісы апавяданняў «Хто ён?», «У гарах дажджы», «На скрыжаванні», «Канец размовы» і рукапісы апавяданняў «Чулае сэрца», «Спатканне за горадам», «Ноччу», «Пабыўка сержанта», «Незнаёмы», «Памылка», якія захоўваюцца ў Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы АН БССР (вопісы №№ 1—10, №№ 11—26).*

*У каментарыях прыводзяцца ў асноўным важнейшыя варыянты першадруку, а таксама іншых выданняў. У варыянтах пачатак і канец тэксту, які адсутнічае, не прыводзіцца зусім, а ўказваюцца толькі старонкі і лічбы першага і апошняга радкоў.*

## II

Іван Мележ як пісьменнік пачынаў з вершаў. Першыя яго творы трапілі да М. І. Пакроўскага, настаўніка рускай мовы і літаратуры сярэдняй школы ў Хойніках, дзе пісьменнік закончыў дзесяцігодку, які падтрымаў літаратурныя захапленні юнака.

Яшчэ да Вялікай Айчыннай вайны, у лютым 1939 г., газ. «Чырвоная змена» надрукавала верш І. Мележа «Радзіме». Некалькі вершаў было змешчана ў мазырскай абласной газеце «Бальшавік Палесся», у асобных мінскіх выданнях, а пазней, у лютым 1943 г., у «Бугурусланской правде». У гады армейскай службы, таксама да вайны, І. Мележ, па яго словах, «пачаў спрабаваць свае сілы ў прозе» («Чырвоная змена», 1972, 22 красавіка).

Пачаткам празаічнай працы па сутнасці з'яўляецца франтавы дзённік, які І. Мележ вёў у 1941 і 1942 гг. «Гэта была своеасаблівая, суровая проза»,— адзначаў ён значна пазней («Чырвоная змена», 1972, 22 красавіка).

Уласна апавяданні І. Мележ пачаў пісаць у шпіталі, у Тбілісі. У запісе ад 24 жніўня знаходзім наступнае: «...я сяджу і пішу. Апавяданне! Проста гару ад хвалявання. Нават руку тузае боль. Але я спыняюся толькі на хвіліну. І далей. Здаецца, будзе штосьці вельмі добрае! Ва ўсякім разе, я гару, як у полымі.

Як у ліхаманцы, галава, сэрца, увесь!

Што ж выйдзе з гэтага?» (Іван Мележ. Першая кніга. Мн., «Мастацкая літаратура», 1977, с. 112).

Іменна ў гэты час малады празаік востра адчуў, што такое творчая праца і што такое горыч і радасць творчага натхнення. Іменна ў гэты час ён усвядоміў, што яго і цяперашнім, і будучым з'яўляецца проза. Само пісанне давалася цяжка: непаслухмяным быў аловак у няўпраўнай левай руцэ, бо правае плячо было разбіта асколкам бомбы. «У апошнія дні я багата думаю пра сваю будучыню. Ладую планы на новы год. Калі мяне не возьмуць у армію — трэба пачынаць вучыцца... І вядома — пісаць сваё. Кожны дзень. Закончыць вершы, якія засталіся са шпіталя. Напісаць — «У апошні час». І пісаць апавяданні. Апрацаваць «Сустрэчу ў шпіталі» і «Апошнюю аперацыю».

Адным словам, не траціць попусту часу!» (Там жа, с. 185).

Пазней І. Мележ успамінаў: «Мне ніколі не пісалася лёгка. Заўсёды цяжка было напісаць не толькі апавяданне, але і старонку; мяне здзіўлялі тыя мае таварышы, якія за адзін раз маглі спісваць цэлыя сшыткі і амаль на адным дыханні стваралі цэлыя аповесці, а то і раманы. Відаць, у кожнага маладога разам са сваім характарам і свае цяжкасці. І калі некаторым перашкаджае ў маладосці залішняя гаварлівасць, размашыстасць, то, думаецца, не аднаму мне перашкаджала нясмеласць у абыходжанні са словам. Доўга адчуваў я сябе перад лістом паперы настолькі скаваным, што, ледзь пачаўшы пісаць апавяданне, спяшаўся паставіць кропку. Мне здаваліся лішнімі апісанні, партрэты, псіхалагічныя характарыстыкі: яны быццам перабівалі адзіны, імклівы рух сюжэта, быццам бы не хацелі ўжывацца ў тканіну апавядання, нязграбна тырчалі з яго; з пакутлівым пачуццём я вымушаны быў выкідваць іх. Пасля ўсіх гэтых цяжкіх аперацый нярэдка аказвалася, што ў апавяданні сапраўды не

было ўжо нічога лішняга, але мала было і добрага. Як трывожыла мяне тады (ды нярэдка і цяпер) гэтая немагчымасць спалучыць дзве якасці, сплаў якіх і нараджае сапраўднае мастацтва: нічога лішняга і разам з тым — нічога страчанага!

З-за ўсіх гэтых цяжкасцей апавяданні мае былі нярэдка схематычныя, людзі ў іх паказваліся звонку, ім не хапала глыбіні, аб'ёмнасці. Не хапала натуральнасці фарбаў, свабоды дыхання. Калі перачытваю гэтыя раннія свае рэчы, ствараецца ўражанне, што гаворыць чалавек, які ці то вельмі спяшаецца, ці то вельмі ўсхваляваны — коратка, ірвана, блытана... Творы псавала таксама боязь прастаты, якая немінуча прыводзіла да нейкай уяўнай значнасці ў стылі, у характары адлюстравання, у адборы матэрыялу» (Іван Мележ. Жыццёвыя клопаты. Мн., «Мастацкая літаратура», 1975, с. 394—395).

Апавяданні «Сустрэча ў шпіталі» (першы варыянт назвы апавядання «Сустрэча») і «Апошняя аперацыя» яшчэ ў рукапісе трапілі да Кузьмы Чорнага, які падтрымаў І. Мележа: «У Вашых апавяданнях правільна дадзен аналіз чалавечай душы і добра нарысавана тыповая абстаноўка, у якой дзейнічаюць Вашы персанажы. І надалей сачыце за псіхалагічным абгрунтаваннем чалавечых учынкаў. У гэтым сэнсе ёсць хіба ў апавяданні «Апошняя аперацыя». Не пададзена псіхалагічная прычына таго, чаму немец так абышоўся з раненай жанчынай. Толькі таму, што ён немец? Тут трэба яшчэ нейкая псіхалагічная дэталь. Рэдакцыя возьме на сябе пры друкаванні ў гэтым месцы зрабіць у апавяданні ўдакладненне.

Сачыце за чыстатой свае мовы. Напр., замест пакой Вы пішаце комната і г. д. Займайцеся заўсёды сваёй беларускай мовай. Ведайце, што мова — гэта аснова літаратуры» (Іван Мележ. Збор твораў у 6-ці т. Т. IV. Мн., «Беларусь», 1971, с. 111—112).

У пісьме Кузьмы Чорнага былі і такія важныя для маладога аўтара радкі: «Я прачытаў Вашы апавяданні, і раю, і жадаю Вам не выпускаць з рук пісьменніцкага пяра». Пісьмо заканчвалася так: «Я адчуваю ў Вас талент і жадаю Вам вялікіх поспехаў у літаратуры» (Іван Мележ. Жыццёвыя клопаты, с. 562).

Пазней, у час асабістай сустрэчы, Чорны сказаў: «Пішыце, абавязкова пішыце! І пабольш — калі толькі ёсць час... А часу вольнага, мусіць, небагата?.. Ну, усё роўна трэба пісаць. Часу заўсёды будзе мала... А напішаце — прынясіце!» (Іван Мележ. Збор твораў, т. IV, с. 113). Малады празаік успрыняў словы класіка беларускай літаратуры як наказ: «...Я прынёс цераз некалькі месяцаў... Доўга і старанна пісалася апавяданне, якое я нёс на суд пісьменніку, нёс з трывогай і сумненнямі. Гэта было апавяданне «У завіруху», задума якога даўно, яшчэ з фронту, не давала спакою. У ім было многа перажытага, дарагога,— таму так трывожыў лёс яго...

— Прынеслі? Чытайце,— сказаў ён без далейшых роспытаў.

Прысеў да стала, узяў кавалачак паперы, склаў удвая. Слухаючы, ён раз-пораз штосьці адзначаў...

Калі яно (апавяданне.— *М. Т.)* нарэшце было дачытана, Чорны хвіліну маўчаў.

— Добра,— прамовіў ён раптам.— Увогуле добра.

Ён сказаў, што яму спадабалася ў апавяданні,— гэтых слоў было дастаткова, каб прыгнечаны аўтар зірнуў на свет больш

бадзёра,— услед за гэтым Чорны зазначыў, што ў апавяданні ўсё ж не дадуманы сюжэт.

— Пружынкі не хапае. На самым важным месцы раптам пустата. Мне здаецца, трэба дапісаць, дамаляваць тое месца, дзе ваш герой падымаецца на гераічны ўчынак. Што яго падымае? Як ён расце? Гэта вельмі важна ведаць, а ў вас пра гэта — нічога. Тут штосьці трэба дапісаць... Падумайце.

Я абяцаў падумаць.

— А напішаце — прыносьце. Надрукуем у «Беларусі» (Там жа, с. 113—114).

«Я вярнуўся да апавядання, якое нядаўна лічыў завершаным,— пісаў далей І. Мележ.— Чорны чамусьці назначыў тэрмін, за які трэба было дапісаць рэч,— ён, здаецца, нярэдка ўстанаўліваў тэрміны «здачы працы», як бы даводзячы, што адкладу рабіць не трэба. Як і многім маім равеснікам, што хадзілі да Чорнага, папраўляць мне, дапаўняць сваю рэч было справай хоць і нялёгкай, але прыемнай: пасля сустрэч з ім кожнаму з нас, пачынаючых, працавалася добра! Да таго ж тэрмін абавязваў: не марудзіць.

У назначаны тэрмін апавяданне, дапісанае, папраўленае, зноў было на стале ў пісьменніка. Ён зноў сказаў прачытаць, зноў паслухаў...

У той вечар пісьменнік многа гаварыў пра літаратуру... Ён стаў гаварыць пра тое, што кожнаму пісьменніку трэба старацца ствараць вялікія, глыбокія вобразы нашых сучаснікаў з іх сацыяльнымі рысамі і нацыянальным каларытам» (Там жа, с. 115—116).

Задума апавядання «Ноччу» таксама выспявала пры непасрэдным удзеле Кузьмы Чорнага, з якім І. Мележ падзяліўся сваімі планамі: «Я прызнаўся, што задумаў адно невялікае апавяданне ці абразок, але не ведаю, ці брацца за яго. Ён папрасіў расказаць змест.

Апавяданне было просценькае: жанчына непакоіцца пра свайго чалавека, які недзе на фронце і ад якога другі месяц няма пісьмаў. Ёй сумна, балюча, свякруха раіць паплакаць, «каб адлегла ад сэрца», але яна не можа плакаць. «Усе слёзы высахлі». Вечарам прыносяць пісьмо: чалавек яе жывы! Ад радасці яна... плача!

— Задума, па-мойму, цікавая,— сказаў Чорны.— Гэта вельмі правільна псіхалагічна — тое, як жанчына паводзіць сябе ў горы і ў радасці. Па-жаночаму... Чаго ж вы сумняваецеся?

— Ды вельмі ж проста ўсё гэта. Можа, нецікава будзе...

— Калі ёсць праўда, дык будзе і цікавасць. Сапраўдная, а не тая, якую робяць літаратурныя цыркачы, з іх таннымі цыркавымі штучкамі» (Там жа, с. 117).

Амаль праз трыццаць год, прыгадваючы Кузьму Чорнага і яго спагадлівыя, добразычлівыя адносіны да яго, Іван Мележ зазначаў, што чорнаўская шчырасць і дабрата акрылілі яго і «з'явіліся добрай падтрымкай. Я зразумеў, што змагу нешта зрабіць для літаратуры» («Настаўніцкая газета», 1972, 19 ліпеня). Адно з лепшых сваіх першых апавяданняў «У завіруху» пісьменнік прысвяціў Кузьме Чорнаму. У 1946 г. выйшаў з друку першы зборнік «У завіруху», які аб'ядноўваў апавяданні, напісаныя маладым аўтарам у 1942—1945 гг.

Першы зборнік у тэматычных адносінах вельмі цэласны. Апавяданні, змешчаныя ў ім, у той ці іншай ступені звязаны з падзеямі вайны. Вайна, пісаў І. Мележ пазней, «аказалася ўсё ж нечаканай, незвычайнай, не параўнанай ні з чым страшнай бядою. Доўга, балюча гнёў душу разлад паміж нядаўняй лагоднасцю, маладой любоўю да зямлі, да жыцця — і жорсткасцю бамбёжак, страхоццем першых пажараў і першых смерцяў. Адзін за адным пам.ралі таварышы-студэнты, хлопцы-калгаснікі, рабочыя людзі; смерць цікавала з кожнай дарогі, з кожнага поля, з чыстага, яснага неба» (Іван Мележ. Збор твораў у 6-ці т. Т. IV, с. 407). Галоўны ідэйны і мастацкі змест апавяданняў І. Мележа гэтага часу складалі пытанні чалавечай мужнасці і гераізму, грамадзянскага подзвігу простых савецкіх людзей, тэма выпрабавання чалавека і народа, магчыма, адна з стрыжнявых у творчасці і жыцці празаіка.

Гісторыя стварэння многіх апавяданняў першага зборніка цесна звязана з жыццём і дзейнасцю І. Мележа ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Прынамсі, за многімі героямі твораў угадваюцца рэальныя жыццёвыя прататыпы. У дзённікавым запісе ад 29 ліпеня 1942 г. сустракаюцца словы: «Быў, рабіў абход доктар Бачылава, наш галоўны лекар, стары, сівы, хударлявы. Таксама малагаваркі» (Іван Мележ. Першая кніга, с. 101). Яго знешні воблік, некаторыя рысы характару выявіліся ў вобразе галоўнага героя апавядання «Сустрэча», урача Цулукідзе. У запісных кніжках пісьменніка знаходзім і паведамленне аб асноўным сэнсе сітуацыі гэтага ж апавядання: «Доктар хварэў на сэрца. Жыццёвыя нягоды пагражалі б яму смерцю. У доктара сын у арміі. Доктар хваляваўся — пяць месяцаў ад сына няма пісьмаў. Яго супакойвалі, хоць ведалі, што чатыры месяцы назад сын загінуў. Ён радаваўся!» (Там жа, с. 233).

Выразна выяўляецца жыццёвая аснова і сюжэт апавядання «Канец размовы». У сшытках І. Мележа сустракаецца наступны запіс: «Стары машыніст вядзе нямецкі поезд. Ён прыгнечаны падзеямі — немцы імкліва наступаюць, нашы ўсё адыходзяць. Немец, што наглядае за старым, здзекаваецца, стары не супраціўляецца — ён прыгнечаны. Тады машыніст даведваецца пра наступленне нашых — да яго вяртаецца ўпэўненасць. Ён ажыў духам. І калі немец патрабуе весці састаў назад, адмаўляецца. Гіне героем» (Там жа, с. 268).

Зборнік «У завіруху» выразна сведчыў аб таленце пісьменніка і атрымаў адзінадушную станоўчую ацэнку ў тагачаснай беларускай крытыцы. Зборнік, адзначаў адзін з яе рэцэнзентаў У. Ігнатовіч,— «удалы пачатак на творчым шляху маладога празаіка» («Беларусь», 1947, № 1, с. 58). Ён жа пісаў: «Ёсць адна характэрнасць у апавяданнях маладога празаіка, якая надае яго творам своеасаблівую свежасць, робіць іх па-сапраўднаму хвалюючымі: ён умее бачыць рысы гераічнага ў звычайных, на першы погляд, будзённых справах простых савецкіх людзей, паказвае іх мужнасць, іх высокія маральныя якасці» (Там жа).

Рэцэнзент К. Цітоў пісаў: кніга дазваляе меркаваць, што яе аўтар, «пры ўмове ўпартай працы над сабой, напіша ў будучым добрыя творы аб жыцці і працоўных подзвігах савецкага народа» («Советская Белоруссия», 1947, 11 красавіка).

Я. Казека («Літаратура і мастацтва», 1946, 21 снежня) адзначаў такую адметную асаблівасць І. Мележа-апавядальніка, як імкненне выяўляць унутраны свет чалавека, яго душэўныя перажыванні і штодзённы побыт. Героі Мележа, пісаў ён, часцей за ўсё паказваюцца ў момант цяжкіх выпрабаванняў і высокага напружання душэўных сіл. Пісьменнік, па яго словах, выказвае ў лепшых сваіх творах ідэю моцы чалавечага духу.

Творчасць І. Мележа заўважыў і высока ацаніў Міхась Лынькоў, які ў дакладзе на Пленуме праўлення СП БССР у 1946 г. «Задачы беларускай літаратуры ў перыяд аднаўлення» гаварыў: «З маладых аўтараў найбольш выявілі сябе Мележ і Брыль, у якіх ёсць усе падставы, каб стаць майстрамі беларускай літаратуры» («Літаратура і мастацтва», 1946, 1 студзеня).

Разам з тым беларуская крытыка аднеслася да першага зборніка твораў І. Мележа досыць строга, іншы раз нават перабіраючы меру. Так, У. Ігнатовіч пісаў, што ў кнізе змешчаны «творы невысокія па сваіх ідэйных і мастацкіх вартасцях». Сярод апошніх ён называў апавяданне «Пабыўка сержанта» (так называлася апавяданне «Такі кароткі водпуск»). У аснову яго, лічыў крытык, пакладзен «дробны» факт, які «не мае вялікага грамадскага значэння, і ўжо адно тое, што пісьменнік выбраў яго тэмай для апавядання, з'яўляецца промахам». Аўтару ставілася ў папрок і тое, што ён нібыта «абмежаваўся малацікавым і расцягнутым апісаннем» і «звыш усякай меры абцяжарыў гэта апавяданне непатрэбнымі дакладнасцямі».

Па сутнасці тое ж самае, але значна пазней, у рэцэнзіі на зборнік «Што ён за чалавек» (Мн., 1961), паўтарыў Я. Герцовіч, беспадстаўна папракаючы І. Мележа ў драбнатэм'і і празмернай схільнасці да індывідуалістычнай псіхалагізацыіі паводзін герояў («Беларусь», 1961, № 10, с. 30).

Сучасная беларуская крытыка з вышыні пройдзенага вопыту заўважыла наватарскую навізну ў падыходзе Мележа да жыцця і называла гэта і іншыя раннія апавяданні празаіка сярод лепшых твораў пасляваеннага перыяду (Беларуская савецкая проза. Апавяданне і нарыс. Мн., «Навука і тэхніка», 1971, с. 103).

Пісьменнік, як гэта можна зразумець з яго выказванняў, у прынцыпе пагадзіўся з крытычнай ацэнкай некаторых сваіх твораў ранняга перыяду і ў далейшым, уключаючы іх у зборнікі «Блізкае і далёкае» (Мн., 1954), «Што ён за чалавек» (Мн., 1961), збор твораў у 6-ці т., зборнік «Белыя вішні і яблыні» (Мн., 1976), значна дапрацаваў. Першаступенную ролю мела тут такая ўласцівая І. Мележу ў высокім сэнсе якасць, як самакрытычнасць і патрабавальнасць.

Імкнуўся ён і да таго, каб павысіць псіхалагічную верагоднасць і мастацкую пераканаўчасць самога ходу апавядання, удакладніць малавыразныя і нярэдка наіўныя матывіроўкі паводзін герояў. У першых выданнях апавядання «Сустрэча», напрыклад, быў эпізод, дзе сын урача Цулукідзе, каб не траўміраваць бацьку сваім калецтвам, піша яму, нібыта з іншага шпіталю, пісьмо, перабольшана жыццярадаснае і бадзёрае. Аўтар адчуў, што гэты эпізод уносіць у сюжэт твора непатрэбную займальнасць і выклікае сумненне ў жыццёвасці і праўдзівасці перажыванняў герояў, і ў выданні кнігі «Што ён за чалавек» (Мн., 1961) зняў яго.

Творчая гісторыя апавяданняў — прыклад выключна строгіх адносін пісьменніка да сваёй працы. Супастаўленне розных варыянтаў дазваляе зрабіць вывад, што аўтар быў заклапочан тым, каб найбольш глыбока раскрыць тэму мужнасці савецкіх людзей, іх упартасці і здольнасці да супраціўлення цяжкім абставінам, якая надзвычай хвалявала яго і ў першы перыяд творчасці, і ў пазнейшыя.

Паказальнымі з'яўляюцца змены, унесеныя аўтарам у новых выданнях апавядання «Канец размовы». Дыялог машыніста з немцам у варыянце, надрукаваным у час. «Беларусь» (1945, № 3), выглядаў, як звычайнае імкненне нямецкага вартавога, ва ўладзе якога, яму здавалася, было жыццё машыніста, паздзекавацца з старога, бездапаможнага чалавека, зняможанага весткамі аб наступленні фашыстаў: нагадаць яму пра яго ўзрост, пра тое, што Савецкая ўлада нібыта недаацэньвала яго, пра тое, што новая ўлада як мае быць узнагародзіць яго за дапамогу... У варыянце, апублікаваным у зборніку «У завіруху», дыялог напаўняецца глыбейшым псіхалагічным і філасофскім сэнсам і ўспрымаецца як спрэчка-паядынак дзвюх чалавечых асоб з процілеглымі поглядамі на свет і жыццё, прадстаўнікоў варагуючых лагераў.

Імкненне да большага змястоўнага напаўнення твораў заўважаецца і ў зменах назваў. Параўнайце: «Сустрэча ў шпіталі» і — «Сустрэча», «Васіль Дзянісавіч» і — «Канец размовы», «Салдатчына ноч», «Жаночыя слёзы» і — «Ноччу», «Пабыўка сержанта» і — «Такі кароткі водпуск».

Адзінадушную высокую ацэнку ў крытыцы атрымала апавяданне, якое дало назву зборніку, «У завіруху». «Самым цікавым у дадзеным зборніку ў сэнсе раскрыцця душы чалавека, у паказе сілы волі» назваў яго К. Цітоў («Советская Белоруссия», 1947, 11 красавіка). Да лепшых апавяданняў пісьменніка адносілі яго В. Матусевіч («Советская отчизна», 1956, № 2, с. 152), Я. Казека («Літаратура і мастацтва», 1946, 21 снежня), С. Александровіч («Літаратура і мастацтва», 1955, 9 красавіка») і інш.

Сам пісьменнік, узгадваючы гісторыю стварэння гэтага апавядання, адзначаў: «Бадай, найбольш удалае з ранніх апавяданняў (гэта думка не толькі мая, але і крытыкаў, і чытачоў) — «У завіруху». Цяпер, прачытваючы яго, добра бачыш сляды нявопытнасці: не хапала ўпэўненасці, смеласці — шырэй, глыбей разгарнуць дзеянне, даследаванне душы. І ўсё ж, па таму вопыту, па таму ўменню, якое ў мяне тады было, гэта быў, канечне, крок наперад. З вялікім хваляваннем пісаў я ўсё: завіруху, лясную дарогу, бязмерна змучанага чалавека, які цягнецца, ведучы на повадзе зморанага каня... Мусіць, прычына ўдачы ў тым, што ўсё гэта я перажыў сам. І завіруха, і дарога, і стомленасць — усё гэта было ў мяне, я пісаў, можна сказаць, пра сябе. Я са здзіўленнем убачыў, як раптам ажывае ўсё пад пяром, калі пішаш пра тое, што табе знаёмае і дарагое: апавяданне як бы само па сабе напоўнілася цяплом, гукамі, фарбамі, жыццём...» (Іван Мележ. Жыццёвыя клопаты, с. 395—396).

Здавалася, адбылося самае важнае ў жыцці пісьменніка — ён спазнаў, у чым моц і ў чым слабасць яго таленту, як ён можа лепш выказаць сябе, што можа даць людзям, ён знайшоў сваё месца ў жыцці і літаратуры, спазнаў, знайшоў сябе. Тым не менш,

творчы шлях І. Мележа ў літаратуру не быў простым і лёгкім. «Здавалася б,— пісаў ён,— вось урок, замацуй знойдзенае, ідзі ў тым жа напрамку. Але за ім зноў цяжкія блуканні, незадаволенасць. Адна ўдача — простая жыццёвая сцэнка: як жанчына чакае пісьма ад мужа з фронту,— няхітрае псіхалагічнае апавяданне пра адну з многіх цяжкіх начэй жанчыны ваеннай пары... І зноў мітуслівыя пошукі з вострым адчуваннем: «Не тое, не выходзіць...» (Там жа).

Пасля цяжкіх сумненняў, нават роспачы, пасля складаных і супярэчлівых пошукаў пісьменніка напаткала творчая ўдача. Летам 1946 г. ён напісаў у родных Глінішчах, «на скрыні, адзіным сямейным скарбе і набытку, што, закапаны ў зямлю, уцалеў ад ваеннай навалы», па словах аўтара, «адзін з самых мілых» яму твораў (Іван Мележ. Жыццёвыя клопаты, с. 159) аповесць «Гарачы жнівень».

Упершыню аповесць была надрукавана ў скарочаным выглядзе ў час. «Полымя» (1946, № 10). Са скарачэннямі яна была ўключана ў зборнік «Гарачы жнівень» (Мн., 1948), пад назвай «У адной сям'і». Пад рубрыкай «З цыкла апавяданняў «Гарачы жнівень» друкаваліся таксама асобныя творы «Перад навальніцай» і «Павел прыехаў», з якімі аповесць мае шмат агульнага. Па сутнасці, яны ўспрымаюцца як асобныя раздзелы аповесці.

У гэтым цыкле пісьменнік упершыню звярнуўся да паказу мірнай працы калгаснікаў на вызваленай зямлі. У аповесці створаны запамінальныя вобразы простых працаўнікоў: клапатлівага і чулага старшыні калгаса Марціна, ціхай і сардэчнай жанчыны-брыгадзіра Алены, ганарлівай, упартай Насці, прамой і праўдзівай Маланні. Вылучаецца аповесць і сваёй светлай танальнасцю.

Цыкл «Гарачы жнівень» быў заўважан і станоўча ацэнен Міхасём Лыньковым у дакладзе на пасяджэнні СП БССР «Беларуская савецкая проза за 1947 год»: «Да лепшых апавяданняў мінулага года адносяцца такія творы Івана Мележа, як «Перад навальніцай» і «Павел прыехаў» з вядомага ўжо нам цыкла «Гарачы жнівень». «Перад навальніцай» — цікавая замалёўка, поўная паэзіі калгаснай працы, радаснага пачуцця простага савецкага чалавека, якое вынікае з вялікага ўнутранага задавальнення ад споўненага абавязку. У добра пабудаваным апавяданні «Павел прыехаў» аўтар перадае нам пачуцці дэмабілізаванага воіна, які, вярнуўшыся ў родны калгас, адразу ж уключаецца ў калгаснае жыццё» («Літаратура і мастацтва», 1948, 28 лютага).

«Апавяданні Івана Мележа,— пісаў Р. Шкраба,— выгодна вылучаюцца з многіх апавяданняў і нарысаў на калгасную тэму, якія друкуюцца на старонках нашых газет і часопісаў, асэнсаваным паказам жыцця... Новы зборнік Івана Мележа — сведчанне творчага росту пісьменніка» («Літаратура і мастацтва», 1948, 6 сакавіка).

«Гарачы жнівень»,— пісаў Т. Хадкевіч,— сведчыць аб тым, што ў асобе Івана Мележа мы маем пісьменніка з вялікімі творчымі магчымасцямі». «Мележ,— працягваў ён,— смела бярэ надзённыя і часта хвалюючыя пытанні з пасляваеннага жыцця... Вобразы, якія стварае Іван Мележ, жыццёвыя, праўдзівыя. Яны запамінаюцца. Мележ добра адчувае прыроду, любіць родную зямлю, бачыць у ёй шмат хараства, і гэтае адчуванне прыгожага ў

прыродзе і людзях перадаецца чытачу» («Звязда», 1948, 31 сакавіка).

Р. Няхай таксама адзначаў, што «зборнік апавяданняў «Гарачы жнівень» сведчыць, што Іван Мележ па-сур'ёзнаму вывучае жыццё, умее раскрыць тыповыя рысы нашага чалавека, смела бярэцца за новую тэму — тэму паказу пасляваеннага жыцця», што ён ставіць на першы план «духоўны свет героя» («Беларусь», 1948, № 5, с. 30).

Праніклівасцю і глыбінёй вызначаюцца назіранні І. Навуменкі, які, маючы на ўвазе першыя кнігі Івана Мележа, падкрэсліваў, што ў ранніх апавяданнях і аповесцях «паявіліся асаблівасці творчай манеры пісьменніка: уменне ў звычайнай будзённай з'яве знайсці праяўленне чалавечага характару, зазірнуць у яго душэўны свет. Апавяданні падкуплялі чытача непасрэднасцю, шчырасцю, праўдзівасцю адлюстраваных у іх жыццёвых фактаў. За невялікім выключэннем пабудаваны яны не на вострых сутыкненнях, а ўяўляюць сабой кавалкі па-мастацку асэнсаванага паўсядзённага жыцця» («Чырвоная змена», 1953, 9 ліпеня).

Пазнейшая крытыка па-рознаму ацэньвала аповесць «Гарачы жнівень». Былі і вельмі крытычныя закіды. Крытык А. Бачароў, напрыклад, пісаў, што ў творы «няма ніякіх слядоў цяжкага пасляваеннага жыцця», няма «праўдзівай атмасферы жыцця тых напружаных пасляваенных гадоў у беларускай вёсцы» («Дружба народов», 1962, № 4, с. 252).

Аўтар аповесці не прыняў гэту крытыку, справядліва адзначаючы яе суб'ектывізм і аднабаковасць. «Праз паўтара дзесятка год адзін крытык,— пісаў І. Мележ,— па тагачаснай модзе напісаў пра гэту аповесць, што яна нясе на сабе адбітак лакіровачнай літаратуры, другі справядліва заўважыць, што яна не сказала ўсёй цяжкай праўды пра вёску той пары, але я і цяпер перачытваю гэтую немудрагелістую першую сваю аповесць без пачуцця сораму. Вядома, яна не сказала ўсёй праўды, якую, натуральна, я разумеў тады менш глыбока, чым цяпер. Але пры ўсім тым аповесць гэтая, мне здаецца, поўная жывым адчуваннем цяжкага лета, першага лета пасля вайны. Пра якую лакіроўку можна гаварыць, калі ўся работа, і жаночая, і мужчынская,— на жанчынах, калі яна знясільвае людзей, калі ўся гаспадарка разбурана, калі амаль што кожны лёс пакалечаны вайной; калі памяць пра вайну так шчыміць, што не дае спакою ні ўдзень ні ўночы. Светлая і горкая гэтая аповесць — я гэта адчуваю і цяпер — сказала сваю праўду пра тое лета, калі нечаканая засуха звалілася на стаптаныя вайной палі; сказала без надрыву, але і без прыхарошвання, з той глыбінёй праўды, з якой я тады глядзеў на жыццё і разумеў яго» (Іван Мележ. Жыццёвыя клопаты, с. 396).

Пасля апублікавання аповесці ў друку аўтар не пакідаў працу над яе тэкстам. Ён пісаў: «Для мяне, з прафесіянальнага пункту погляду, аповесць гэтая важная і тым, што ўдалося зрабіць нейкія крокі па шляху самага цяжкага: больш выразна і зрокава выпісаць людзей, іх партрэты, характары, дыялогі. Вопыт гэты карысны быў і ў тым сэнсе, што я ўпершыню паказваў рух жыцця па некалькіх лініях, імкнуўся даць разгорнуты многалінейны сюжэт з масавымі сцэнамі, вучыўся складанай кампазіцыі» (Там жа, с. 396—397).

Значныя змены ўнесены пісьменнікам у тэкст выдання «Што ён за чалавек» (Мн., 1961), а таксама ў час падрыхтоўкі аповесці да друку ў шасцітомным Зборы твораў. У выніку скрупулёзнай, уважлівай працы — ад выдання да выдання — памацнялася ідэйна-мастацкае гучанне аповесці, удакладняліся, паглыбляліся і ўзбагачаліся характарыстыкі дзеючых асоб, паляпшалася мова, знікалі доўгія мясціны і сэнсавыя неадпаведнасці, статычныя, апісальныя абзацы, залішне падрабязныя тлумачэнні. І. Мележ паслядоўна імкнуўся да кампазіцыйнай стройнасці і сэнсавай цэласнасці свайго твора, дабіваўся натуральнага гучання кожнай фразы, кожнага слова. Аб гэтым сведчаць перастаноўка некаторых эпізодаў і цэлых сцэн у мастацкай тканіне аповесці, знікненне назваў раздзелаў, якія ў пэўным сэнсе драбнілі агульную карціну твора: «Спрэчка», «Крыўда», «На новым селішчы», «Цяжкія дні», «Спёка», «Да нас ідуць жанкі», «У адной сям'і».

Вельмі шмат зроблена стылёвых паправак, якія ў сваёй сукупнасці ўдакладняюць намаляваны малюнак жыцця беларускай пасляваеннай вёскі, надаюць твору так неабходную яму выразную рытмічнасць і паэтычную настраёвасць. За кошт нязначных, на першы погляд, змен становіцца больш жывой і натуральнай мова персанажаў, больш напружанымі і драматычнымі дыялогі. У выніку ж адбываецца непрыкметная, але дакладная карэкціроўка сацыяльнага і духоўнага вобліку галоўных і другарадных герояў. Дыялог галоўных герояў аповесці ў апошнім варыянце набыў асаблівую шматзначнасць і глыбіню.

Працяглая і напружаная праца над раманам «Мінскі напрамак» надоўга адцягнула ўвагу пісьменніка ад малых эпічных жанраў. Да іх І. Мележ звярнуўся толькі ў пачатку 50-х гадоў. «Пасля «Мінскага напрамку»,— пісаў ён,— я апынуўся нібыта на раздарожжы... Каля трох гадоў я не пісаў вялікіх твораў. Надрукаваў некалькі апавяданняў, дзве аповесці: «Зямля, якую любіш» і «Дом пад сонцам», дзве п'есы: «Пакуль вы маладыя» і «Дні нараджэння»... Тое, што я пісаў у гэтыя гады, магло здавацца бессістэмным, вельмі стракатым: мяне як бы кружыла на вялікай вадзе. Але ва ўсім гэтым былі свае заканамернасці. Стракатасць пісанняў маіх была выклікана часткова тым, што за гады работы над раманам узніклі новыя задумы, якія хацелася рэалізаваць. Захапляла, вядома, і зваблівая магчымасць, якая паявілася пасля доўгай работы над раманам,— пісаць кожны раз новае, адкрываць новыя характары, новыя пласты жыцця. Тым больш што жыццё навокал было багатае вельмі цікавымі з'явамі, многае, вельмі многае хацелася ўхапіць, замаляваць, даць доўга жыць у апавяданнях, аповесцях. Здаецца, ад гэтага і нарадзілася жаданне, асабліва адчувальнае пасля работы над раманам,— угнацца за хуткаплынным жыццём у кароткіх апавяданнях, лаканічных аповесцях, п'есах» (Іван Мележ. Жыццёвыя клопаты, с. 402—403).

Крытыка, трэба сказаць, была ў гэты час не вельмі ўважлівай да пошукаў празаіка. «Элементы рэпартажу», драбнатэм'е і павярхоўныя адносіны да жыцця заўважаў у аповесці «Дом пад сонцам» Пілiп Пестрак. «Гуллівы тон аповесці робіць герояў лялькамі,— пісаў ён.— Людзі ў сваіх клопатах адрэзаны ад шырокага свету, да іх як бы не даходзяць весткі пра падзеі жыцця. Аў-

тар павярхоўна, ілюстрацыйна прайшоўся па тэме» («Полымя», 1958, № 3, с. 158).

Разам з тым крытыка ўсё ж імкнулася вызначыць тое новае, што з'явілася ў яго творах у гэты складаны перыяд. С. Александровіч пісаў: «Стыль Івана Мележа ў лепшых творах характарызуецца спакойным эпічным тонам апісання, цёплым лірызмам, тонкім аналізам пачуццяў і думак героя, скупым, але каларытным пейзажам, дынамічным дыялагам». І. Паўлюкоўскі таксама адзначаў як прыкметную асаблівасць твораў І. Мележа «цеплыню і шчырасць, з якой пісьменнік ставіцца да сваіх герояў. Гэтая мяккая, надзвычай праніклівая манера абмалёўкі дасягаецца тым, што аўтар глыбока і ўдумліва падыходзіць да жыцця, усе яго праявы ацэньвае не толькі розумам, але і сэрцам» («Маладосць», 1958, № 5, с. 151). А Піліп Пестрак так і назваў сваю рэцэнзію «У пошуках тэмы», ужо адным гэтым даводзячы, што празаік знаходзіцца на раздарожжы.

Пазнейшая крытыка, ацэньваючы аб'ектыўны сэнс творчых пошукаў І. Мележа ўсярэдзіне 50-х гадоў, адзначала: «... не пашырэнне тэматыкі і не разнастайнасць узнятых пытанняў характарызуюць далейшы ідэйна-мастацкі рост пісьменніка. Адметная рыса яго творчай эвалюцыі выяўляецца ва ўзбагачэнні мастацкай палітры, у выкарыстанні новых мастацкіх сродкаў і прыёмаў. Пастулова акрэсліваюцца і ўмацоўваюцца ў творах Мележа рысы пісьменніка-псіхолага, які ў звычайным, непрыкметным чалавеку ўмее заўважыць і паказаць прывабныя якасці яго душы... Яго псіхалагізм набывае такія асаблівасці (хоць яшчэ і не заўсёды ўстойлівыя), якія садзейнічалі паўнейшаму адлюстраванню рэчаіснасці, адкрывалі шляхі да больш сціслай і лаканічнай абмалёўкі чалавечых характараў, вялі да ўшчыльнення аб'ёму твораў і паглыблення іх зместу» («Гісторыя беларускай савецкай літаратуры» ў 2-х т. Т. 2. Мн., «Навука і тэхніка», 1966, с. 492—493).

Сам І. Мележ, прыгадваючы той перыяд, пісаў: «...гэта быў вельмі важны для мяне час, час пошукаў, роздуму, расчараванняў, самапазнання. Я спрабаваў цвяроза ўзважыць усё, што зрабіў да гэтага часу, высветліць прычыны сваіх памылак і промахаў. Можа быць, гэта прыходзіла сталасць: я раптам адчуў, што магчымасці мае як мастака не такія шырокія, як мне здавалася раней па маладосці; што ў тым, чым надзяліла мяне прырода, ёсць не толькі добрыя якасці, але і слабасці. Я ўбачыў, што і ў выбары тэмы, і ў спосабе паказу жыцця я хацеў здавацца як бы больш сталым, больш значным — як юнак, які хоча выглядаць старэйшым. Не верыў таму, што было ў мяне, не давяраў сабе» (Іван Мележ. Жыццёвыя клопаты, с. 408).

Сярод найбольш дарагіх яго душы твораў І. Мележ называў тыя, героі якіх былі блізкімі яму, у падзеях якіх ён сам быў удзельнікам: «У завіруху», «Гарачы жнівень», «У гарах дажджы», некаторыя раздзелы «Мінскага напрамку». На іх ён і арыентаваўся, шукаючы свой стыль, свой шлях у літаратуры. Калі ў ранейшых творах празаік прытрымліваўся строга прынцыпу аб'ектыўнага паказу, з пункту погляду як бы староннягa назіральніка, то ў многіх творах, напісаных усярэдзіне 50-х гадоў, заўважаецца яго асаблівая прыхільнасць да суб'ектыўна-лірычнай плыні, да паэтычна-адухоўленага мастацкага апавядання.

Немалую ролю ў складванні новай ідэйна-стылёвай сістэмы творчасці І. Мележа мела ў гэты час і праца над творамі ранняга перыяду. «У гэтыя гады,— адзначаў пісьменнік,— я не раз вяртаўся да напісаных сваіх рэчаў, перачытваў, правіў нанова. Працуючы над старымі рэчамі, я адчуў немалое задавальненне: я бачыў, якая карысная для іх гэтая работа! Але карысная гэтая работа была і для мяне: гэта была вучоба, усеагульная перааценка зробленага, праз якую праходзіла ўсё напісанае ад першых рэчаў да апошніх. Я свядома браў на ўзбраенне каштоўны вопыт, набыты ў апавяданні «У завіруху», у аповесці «Гарачы жнівень», у лепшых раздзелах рамана; у п'есах, вопыт работы над якімі вельмі дапамог прозе. Небескарыснай была і работа над апошнімі аповесцямі «Зямля, якую любіш» і «Дом пад сонцам».

Так у мяне складвалася ўяўленне пра тое, як пісаць, уяўленне пра мой стыль. У выніку гэтага роздуму і паявіліся два апавяданні, якія як бы падводзілі вынік маім пошукам: «Спатканне за горадам» і «У гарах дажджы». Абодва апавяданні напісаны ў манеры ўважлівага псіхалагічнага даследавання, з разгорнутымі характарыстыкамі, лірычна афарбаваным пейзажам. Наогул, лірычны пачатак вельмі шырока ўвайшоў у апавяданні. На гэта я раней звычайна не наважваўся» (Там жа, с. 403—404).

Іван Мележ падыходзіў шчыльна да сваёй «галоўнай кнігі» — рамана «Людзі на балоце», першага твора «Палескай хронікі».

Аповесці і апавяданні І. Мележа перакладаліся на розныя мовы, публікаваліся ў калектыўных зборніках твораў беларускіх пісьменнікаў. На рускай мове выйшлі наступныя кнігі апавяданняў і аповесцей празаіка: «Товарищи» (М., «Советский писатель», 1951), «Дом под солнцем» (М., «Советский писатель», 1957), «Свидание за городом» (М., «Художественная литература», 1966), «В горах дожди» (М., «Библиотечка «Огонька», 1966).

*М. А. ТЫЧЫНА*

## III

### СУСТРЭЧА (стар. 25)

Упершыню — газ. «Звязда», 1944, 25 лютага, пад назвай «Сустрэча ў шпіталі». Гэта першы твор, з якім аўтар выступіў у друку. З гэтым і апавяданнем «Апошняя аперацыя» ў лютым 1944 года ў рукапісе пазнаёміўся К. Чорны.

«Апавяданні «Сустрэча» і «Апошняя аперацыя»... — першыя мае празаічныя творы.

Напісаны яны далёка ад роднай зямлі, у ваенным Тбілісі, увосень, калі варожыя салдаты падыходзілі к Сталінграду і Каўказу. Я ляжаў у шпіталі ранены: правае плячо было разбіта асколкам бомбы. Рука, якую ледзь не адрэзалі, як нежывая, вісела на падвязцы з марлі, рана зажывала марудна. Я спрабаваў пісаць левай рукой.

Аднак не хацеў слухацца. Пісаць не правай рукой з непрывычкі аказалася задачай на дзіва цяжкай. Але куды цяжэй было пераказваць паперы тыя пачуцці, якія не давалі спакою мне, юнаку, якому здавалася тады, што ўсё зведана, пераджыта...

Гэтыя крымзолі ў аялёным рэчавым мяшку пераплылі Каспійскае мора, жылі са мной у трывожным заволжскім гарадку Бугуруслане, у ціхім падмаскоўным пасёлку Сходня. Там, у Сходні,— не ў першы раз — апавяданні былі перапісаны ў новы спытак і трапілі на суд чуламу, шчодраму чалавеку — Кузьме Чорнаму.

Мне потым пашанцавала некалькі разоў з ім сустрэцца, гаварыць...» [1]

У зб. «У завіруху» з паметкай: Каўказ, шпіталь, 1942 г.

## *Варыянты зб. «У завіруху»:*

Стар. 29, радкі 31—35, замест: — Як? ∞ калі // — Вы праўду кажаце? Калі б вы ведалі, якую небяспеку вы адхіляеце! Вы ратуеце бацьку.

— Ён вас так любіць! Ён называе вас не інакш, як «мой хлопчык»... Ён так цяжка перажывае ваша маўчанне,— нечакана сумна закончыла яна.

— Я ведаю.

Георгій таксама затужыў. Потым весела ўсміхнуўся нечакана прыйшоўшай думцы.

— Ідэя! Я напішу пісьмо... нібы з фронту.

— Над вашымі словамі трэба падумаць. Бацька можа здагадацца, і тады...

— Не турбуйцеся! Ён паверыць, я ведаю. У вас не знойдзецца паштоўкі?

— Зараз пашукаю... А мы вас пастараемся ўладзіць у які другі шпіталь. Добра?

Георгій скачкамі на адной назе дабраўся да стала. Оля знайшла паштоўку, і ён пачаў шпарка пісаць.

— Слухайце,— сказаў ён, скончыўшы пісаць.— Як на вашу думку? «Дарагі тата! Вельмі вінаваты перад табою і прашу прабачэння за доўгае маўчанне. Ты сам добра разумееш прычыну яго. Работы многа — вайна. Здароўе маё выдатнае. Другі месяц жывем у лесе сасновым. Паветра дзівоснае. У вольную хвіліну ходзім па ягады. Тут іх вельмі многа. Адно я вельмі хвалююся, што ад вас даўно няма пісьмаў. Вельмі прашу — пішыце, пішыце часцей, кожны дзень. Буду з нецярплівасцю чакаць. Кожная вестачка ад вас — вялікая радасць. Моцна цалую цябе і маму. Твой хлопчык. 20 ліпеня». Усё... Ну, што вы скажаце?

— Добра. Толькі я... палохаюся. Я такая баязліўка... Дайце, занясу яго.

Яна ўзяла пісьмо і падышла да дзвярэй.

Стар. 29, радок 36, пасля: крокі. // Оля адскочыла да вушака і шчыльна прыціснулася да яго.

Стар. 30, радкі 35—37, замест: — Хадзіла па пошту! ∞ раненага. // — Хадзіла за поштай. Вам пісьмо, Анастас Паўлавіч.

Цулукідзе хмура ўзяў пісьмо. Ён пазнаў почырк, уздрыгануў і чамусьці трывожна паглядзеў на Олю. Ён не ведаў, што прынесла гэтае, такое доўгачаканае пісьмо — радасць ці гора.

---

[1] Іван Мележ. Аўтарская прадмова «Гартаючы старонкі» да кн. «Што ён за чалавек». Мн., 1961, с. 3.

Потым бацька адразу прачытаў яго, адным позіркам. Калі ён падняў твар, Оля бачыла, што ён па-дзіцячаму радасна ўсміхаецца, а на вачах блішчаць слёзы.

— Слухайце. Пісьмо Георгія! — ён прачытаў паштоўку з артыстычнай дыкцыяй і паглядзеў спачатку на Васілёнка, потым на Олю.— Як добра? Не, гэта выдатна! Ай, Георгій! Мой хлопчык! За чатыры месяцы парадаваў бацьку.

Пабачыўшы ва ўсмешцы лётчыка цень самоты, прачытаў яшчэ раз ад пачатку да апошняга радка, уключаючы дату.

— Нічога, не сумуйце! Вы таксама яшчэ палятаеце з Георгіем! — Ён пяшчотна пастукаў Пятра па плячу. Оля з радасцю бачыла, што ўрач не звяртае ўвагі на пячатку. Яна ўнутрана святкавала перамогу. Усё ішло, як ёй хацелася.

— Прабачце, жонка ж яшчэ нічога не ведае. Яна таксама чатыры месяцы чакае пісьма. Пабягу! Хадземце, Оля, да тэлефона.

Стар. 30, радок 43, пасля: калідор. // Урач неспадзявана спыніўся і заспяваў:

— Я люблю вас. Я люблю вас, Ольга!

Потым задумаўся.

Стар. 33, радок 31, пасля: прычыны. // Яшчэ многа пра што думала Оля, калі пачула крокі. Стукаючы мыліцамі, ішоў Георгій. Яго падтрымліваў бацька. Падышоўшы да яе, бацька нечакана спыніўся.

— Чаго ж вы баяліся, недарэчная дзяўчынка? Я ж цяпер таксама ваенны. Вайна, яна ўсіх нас зрабіла ваеннымі. Так!

АПОШНЯЯ АПЕРАЦЫЯ (стар. 34)

Упершыню — газ. «Звязда», 1945, 17 лютага (на рускай мове ў газ. «Бугурусланская правда»).

У зб. «У завіруху» друкавалася пад загалоўкам «Васіль Дзянісавіч».

У Зб. тв., т. 1, 1969 датуецца 1942—1943 гг.

### *Варыянты газ. «Звязда»:*

Стар. 34, радок 16, замест: — Трэба ∽ вочы. // 'Але я, мілы, урач, стары ўрач. Тысячы аперацый я зрабіў. Другія вочы закрывалі ад жаху, а мне нельга. Такі мой абавязак, бо я ўрач. Я павінен бачыць усе хваробы для таго, каб ад іх вылечыць. Вось і цяпер, у гэтыя жудасныя дні, я гляджу проста, нібы перад аперацыяй. Нельга, мілы, закрываць вочы. Больш трыццаці год мы пражылі ў Бярозаўцы. Усё жыццё аддалі ёй. Усё — надзеі, мары, маладыя сілы. А цяпер павінны пакінуць... Цяжка.

Стар. 36, радкі 7—9, замест: «Трыццаць ∽ год...» // — Трыццаць год таму назад я прыехаў нясмелы, але малады і моцны,— ён змоўк і заплюшчыў вочы.— Заўтра пайду адсюль — стары і слабы... Трыццаць год... Дзесяць тысяч... дзевяцьсот... шэсцьдзесят дзён працы. Столькі часу служыў табе, Беларусь! Можа часам не паспяхова, але заўсёды аддана. Усё, што было, аддаў. Калі б меў болей, то і тады не пашкадаваў бы нічога... О, як радасна было глядзець, як уздымалася ты, родная! Кожны поспех, кожная драбніца радавала...

Стар. 36—37, радкі 26—9 — адсутнічаюць (у час. «Полымя», 1945, № 4 таксама).

Стар. 39, радкі 1—7, замест: — Антось ∽ выйшаў. // У суседнім пакоі, відаць, прачнуўшыся, заплакала дзіця. Настаўнік выбег на гаспадарскую палавіну. Дзіця ляжала ў калысцы, якая была падвешана да столі. У пакоі скакалі чырвоныя цені ад пажару, таму твар дзіцяці зрабіўся незвычайна чырвонага колеру. Настаўнік доўга калыхаў дзіця, пакуль яно заснула.

Стар. 41, радкі 27—29, замест: На падлозе ∽ пад бок. // Кінулася ў вочы — нага раненай жанчыны канвульсіўна падрыгвала на тонкім звязку мышцаў. На падлозе ляжаў урач тварам уніз. Цьмяна адсвечвала голеная галава. Рука нязручна падгарнулася пад грудзі.

КАНЕЦ РАЗМОВЫ (стар. 42).

Упершыню — час. «Беларусь», 1945, № 3.
У машынапісным тэксце дата: 1943 г.

*Варыянты час. «Беларусь»:*

Стар. 42, радкі 1—18, замест: Машыніст ∽ з думкамі. // Чым бліжэй эшалон падыходзіў к фронту, тым мацней трывога і разгубленасць апаноўвалі машыніста. Фронт здаваўся Сідару Іванавічу нейкім страшным рубяжом, на якім павінна скончыцца яго пакута. З кожнай хвілінай гэты рубеж набліжаўся. Трэба было сабраць усе сілы, каб знайсці выхад са становішча, а тым часам у яго думках і пачуццях стаяла такое бязладдзе, узнікалі такія супярэчнасці, што нічога пэўнага нельга было вырашыць. І з кожнай хвілінай гэтыя супярэчнасці ўзмацняліся.

Адно пачуццё, якое выклікалася ўсведамленнем віны, настойліва патрабавала дзеяння, рабіла спробы шукаць выйсця. А другое — палахлівае, разважлівае, халоднае — адганяла нават думкі аб дзеянні, не верачы ў яго поспех. «Быццам табе прыемна весці нямецкі цягнік. Прыставяць аўтамат да патыліцы — не выкруцішся. Хіба ж ты вінаваты? Не свая ж воля. Ніхто і словам не папракне цябе». Ад такіх думак рабілася спакайней. Ён з палёгкай адчуваў, як з сэрца звальваўся камень. Але першае пачуццё — бязлітаснае і суровае — не хацела згаджацца. «Ты — баязлівец і здраднік, ты вядзеш нямецкі эшалон супроць сваіх, і ніпгго цябе не апраўдае». Яно прыпамінала Сідару Іванавічу тую ноч, ад якой пачаўся гэты праклятый маршрут. У памяці ўставала, як немцы ламаліся ў хату, як схапілі яго і, нічога не кажучы, з аўтаматамі вялі па вуліцы, як наўздагон яму чуўся роспачны плач жонкі. Ён тады ўзрадаваўся, што немцы прывялі не ў турму, а на паравоз. Прыпаміналася Сідару Іванавічу, як Валя, яго памочнік, угаварвала пусціць цягнік пад адкос і як ён баязліва адмовіўся.

Машыніст занепакоена пазіраў у акно. На снежных пачарнелых дарогах усё часцей сустракаліся нямецкія аўтамашыны, цягачы з гарматамі, групкі салдат, коннікі, фурманкі са скрынкамі і клункамі. Часамі ўсё гэта цягнулася бесперапынна, нагадваючы вялікіх чарвякоў. На скрыжаванні двух дарог стаяла некалькі зенітак, яны насцярожана задралі ўгару даўгія тонкія

ствалы. Прыслуга завіхалася каля іх. Абапал дарог відаць былі адзнакі нядаўных баёў — чорныя варонкі, разбітыя машыны, іх не паспеў яшчэ нават запарушыць снег.

А немцы ішлі ды ішлі. І калі Сідар Іванавіч глядзеў туды, яго пакідалі сілы, ногі падкошваліся ад слабасці, унутры рабілася холадна і пуста. Яго ахопліваў такі страх, што ён неўзаметку пазіраў на немца, каб праверыць, ці не чуе той часам яго думак. Убачыўшы, што немец сядзіць як ні ў чым не бывала і курыць, ён супакойваўся. Тады яму ясна рабілася, што ён давядзе эшалон да фронту, што ў яго не хопіць сілы супярэчыць немцу, хоць ён і будзе дакараць і праклінаць сябе за сваё маладушша.

Паравоз напружана шыпеў, шалёна грымеў коламі, кожным сваім рухам і гукам напамінаючы ўстрывожанаму Сідару Іванавічу, што хутка дойдзе да фронту.

Стар. 42—43, радкі 30—11, замест: — Можаце ∽ да машыніста. // Лейтэнант Кох сядзеў каля процілеглага акна. Ён паважна курыў і паглядваў у поле. Падбягалі і адбягалі тэлефонныя слупы. Постаць лейтэнанта выражала нуду і абыякавасць да ўсяго, што дзеецца на свеце. Але машыніст адчуваў, што ён насцярожана сочыць за кожным яго рухам. Маленькія карыя вочкі немца праціналі наскрозь, і нават думкі, здавалася, нельга было захаваць ад іх. Кох абыякава глянуў у акно, ненатуральна спакойна пазяхнуў і павярнуўся да машыніста.

Стар. 43, радок 27, пасля: ўдавалася. // Кох любіў размовы з «перажываннямі». Ён умеў знаходзіць у субяседніка балючае месца і ў размовах беспералынна дакранаўся да яго, адчуваючы ў гэтым, як відаць, асалоду. Такім балючым месцам у старога было адчуванне таго, што ён вядзе нямецкі цягнік.

Стар. 43, радкі 36—43; стар. 44 — уся; стар. 45, радкі 1—32, замест: — Няма калі, ∽ кроў ішла. // — Наадварот... Рады.

— Не бачу гэтага.

— Што вы, пан афіцэр...

— О! Вам прыемна? Я таксама вельмі рады. У дарозе лепш за золата добры спадарожнік...

Ён спыніўся. Сідар Іванавіч стаяў разгублены, прабуючы ўсміхнуцца, але нічога не выходзіла.

— Немец,— паважна гаварыў, смакуючы словы, Кох,— і ў ваеннай форме ёсць чулліўейшы і сантыментальнейшы чалавек. О, немец ёсць не толькі суровы ваяка. Ён не можа без хвалявання бачыць прыгажосць прыроды. Мне, напрыклад, падабаюцца беларускія... як гэта называецца... бярозы. Яны падобны на семнаццацігадовых дзяўчат. Колькі вам год?

— Шэсцьдзесят чатыры.

— Вам пара б на печ, а не на паравозе ездзіць.

— Мяне прымусілі вашы салдаты...

— Мае салдаты не могуць прымушаць. Мае салдаты могуць толькі прасіць. Вельмі ветліва прасіць: калі ласка, будзьце добры. Так яны запрашалі.

— Яны білі мяне...

— Яны білі вас? Я не веру. Вы мне іх пакажаце. Я іх пакараю.

— Дзякую...

— Такога машыніста біць? Вы добра вядзеце нямецкі поезд. Колькі вы не працавалі перад вайною?..

— Увогуле — сем...
— А на паравозе?
— Дзесяць...
— Хо! Дзесяць год не працаваць. Вы былі пенсіянер? Інвалід? У вас не было сілы? Старасць? О, я вас разумею. А цяпер вы — герой. Калі б у мяне быў фотаапарат, я б зняў вас на картачку. І пад картачкай напісаў: «Беларускі машыніст Сідар Іванавіч — быў інвалід, цяпер стаў на паравоз, каб весці нямецкую ваенную тэхніку супроць бальшавікоў». Брава, Сідар Іванавіч! Вы хутка будзеце зусім юнаком. Немцы не забудуць вашых паслуг. Чаму вы так усміхаецеся? — нечакана запытаўся немец у Валі.
— Так сабе.
Лейтэнант доўгім немігаючым поглядам утаропіўся ў дзяўчыну. Вострыя карыя вочкі сустрэліся з Валінымі вачыма. Некалькі хвілін працягвалася маўклівае змаганне. Яна вытрымала погляд. Немец першым адвёў вочы ўбок. Стары, ад якога не схавалася гэта, у глыбіні душы задаволена засмяяўся.
— З людзьмі,— сказаў немец,— якія не паважаюць пераможцаў, я гавару толькі мовай зброі. Другой мовы не ўжываю. Другая мова ёсць для харошых людзей, як пан машыніст.
Стары глядзеў на Валю. У яго поглядзе было здзіўленне і радасць. Яму хацелася кінуцца да яе, паціснуць руку. Ён у думках дзякаваў ёй — за тое, што яна спыніла Коха і здолела вытрымаць гэты агідны калючы позірк, ад якога ў Сідара Іванавіча ўсё нутро пераварочвалася. У яе было тое, чаго яму не хапала: адчуванне ўнутранай сілы, упэўненасць. Сідар Іванавіч зайздросціў ёй.
Валя стаяла. Вочы яе гарэлі ад патаемнага неспакою і нерухома пазіралі ў адно месца. У тым, як яна трымала сябе, у гэтым яе поглядзе было нешта прыгожае, велічнае і непахіснае.
Яна падняла вочы на старога машыніста і не ўсміхнулася, як даўней, а толькі з дакорам некалькі разоў кіўнула галавой. І ціха, стрымана, з болем у голасе, прамовіла:
— Вы ануча. Мне сорамна за вас.
«Што з ёю?» — стары збянтэжана глянуў на Валю, а затым чамусьці на немца. Той не перашкаджаў, а нават, як заўважыў стары, зацікавіўся. Стары ўстрывожыўся, прадчуваючы нядобрае.
— Я вас ведала такім справядлівым і сумленным. Вы калісь хвалілі мяне за праўдзівасць... Памятаеце?
— Памятаю,— з цяжкасцю вымавіў Сідар Іванавіч. Ён устрывожыўся яшчэ болей. Тое, над чым ён хвіліну назад радаваўся, цяпер яго напалохала. Ён зразумеў, што набліжалася небяспека. Валя амаль усю дарогу маўчала, а цяпер выкажа ўсё. Яна ні перад чым не спыніцца. Ён ведаў Валін характар. «Трэба зараз жа скончыць размову».
— Памятаю. Як жа. Нічога не забыў... Усё, як ёсць, памятаю, нібы ўчора было. Твой бацька і я былі сябрамі. На адным паравозе колькі год адпрацавалі. Ці ж можна забыцца, ластаўка ты мая. Пялёначкі сушыў табе. Шаснаццаць гадоў мінула, а памятаю... Твой бацька быў тады памочнікам, а ў мяне дзяцей не было. І любіў жа я цябе, можа болей твайго бацькі. І ты мяне любіла. Ты нас абодвух называла таткамі, птушачка мая...
Яна нецярпліва перабіла:

— Яшчэ што памятаеце?

— Усё памятаю.

— Забудзьце, Сідар Іванавіч. У мяне нічога, акрамя нянавісці і агіды, няма да вас. Я ўвесь час спадзявалася, усё думала, а можа яшчэ буду патрэбна, і ехаць згадзілася толькі з-за гэтага.

— Ты мне заўсёды патрэбна.

Яна рэзка абарвала:

— Для чаго ж гэта? Дапамагаць служыць немцам? Вы і адзін справіліся б! Эх, дзядзька Сідар, не пазнаю я вас. Ці вы гэта?

— Ты мяне зневажаеш, Валечка.

— А вы хіба мяне не зневажаеце?

— Не трэба быць такой бязлітаснай,— не ўсе героі, Валя.

— Не ўсе. У тым і гора, што не ўсе. А тут так выходзіць, што трэба быць героем, каб не быць здраднікам. Ці герой, ці здраднік,— увесь выбар. Сярэдзіны няма.

— Маўчаць! — закрычаў, ускочыўшы з месца, Кох.

— Я вас не перабівала. Я мела цярплівасць чакаць...

Кох, не гаворачы ні слова, з усёй сілы ўдарыў яе па галаве. З разбітай шчакі палілася кроў, чырвоным шнурком пацягнулася да шыі. Валя захісталася, але здолела ўстаяць. Яна прытулілася да сценкі, выцерла шчаку чорнай ад мазуты далонню, кроў зноў пацякла. Валя прыціснула руку да раны.

Стар. 45, радок 34, пасля: вінавата.// Канец размовы — расстрэл. Канец мы зробім на апошняй станцыі.

— Я і не чакаю ад вас іншай ласкі. Дзякаваць хоць за такую.

Стар. 45—46, радкі 35—7, замест: — Божа мой! ∽ і стаміўся. // — Божа мой! Валя, замаўчы... Пан лейтэнант, вы не злуйцеся, яна ж дзіця. Прабачце...

Валя загарэлася, устрапянулася і крыкнула:

— Не шкадуйце!

У старога пацямнела ў вачах. Ён бачыў толькі крывавую пляму і яе непакорны пагардлівы позірк і адчуваў сябе бязмерна вінаватым і за гэту пляму, і за позірк. Сідар Іванавіч маўкліва расшпіліў пінжак і адарваў ад сарочкі белую стужку.

— Супакойся, дай перавяжу.

Пасля перавязкі ён, можа, упершыню падумаў, што застаўся цяпер адзінокім. Не было ні сяброў, ні таварышаў. Што з таго, што ніхто аб гэтым яшчэ не гаварыў. Ён ведаў, што ні адзін з іх болей не будзе з ім сябраваць. Здрадніку таварышам пажадае быць толькі здраднік. Але яму не трэба такіх таварышаў. «Чужы, чужы. Усім чужы». Нават жонка здавалася цяпер далёкай і чужой, і калі ён успамінаў, то не было болей ані журбы, ані пяшчоты да яе.

Стары падкінуў вугалю ў топку, затым з вялікім намаганнем выпрастаўся. Сінія і чырвоныя кругі мітусіліся ў вачах. Ён апусціўся на лаўку. Паравоз дрыжаў, нібы ў ліхаманцы, грымеў, скрыгатаў.

Стары адчуваў сябе вельмі слабым, годы даваліся ў знакі. Раней, калі была нейкая светлая надзея, забывалася старасць і знаходзіліся сілы. Цяпер, пасля апошняй размовы з Валяй, пасля дум пра адзіноту яны кудысьці зніклі. Стары адразу аслабеў і стаміўся.

«Трэба дзейнічаць» — недзе глыбока ў душы ціха трымцеў галасок... Стары падняўся з заклапочаным выглядам і высунуўся ў вакно.

Стар. 46, радкі 18—20, замест: Ніколі ∽ Жудасная ў // Тысячы кіламетраў. Сотні гарадоў захапілі, бадай усю Еўропу. Што ім каштавала сагнуць мяне, прымусіць падпарадкавацца. Страшная

Стар. 50—52, радкі 30—15, замест: Антонік нахмурыўся. ∽ у будку.— Працягнем //

— Не магу...

— Вы не бойцеся. Цяпер ён нічога не бачыць.

Уцячэм. Чэснае слова, уцячэм. Тут недалёка нашы.

— Нельга. Я і пяці крокаў не прабягу. Мне толькі і ўцякаць, што верхам на паравозе.

— Я дапамагу. Спяшайцеся. Ну!

Сідар Іванавіч маўчаў. Яна нецярпліва азірнулася.

— Не марудзьце.

Стары нічога не сказаў, толькі з сумам паківаў галавой.

— Бывай, ластаўка. Шчаслівa.

— Бывайце.

Яна саскочыла на зямлю, потым азірнулася і сказала на развітанне:

— Дрэнна буду думаць, нікчэмны вы чалавек.

Самалёты вярталіся. Сідар Іванавіч адразу забыў пра Валіны словы. Ён быў у забыцці. Стары перабягаў ад акна да акна, высоўваўся з іх. Ён паглядаў то на неба, то на зямлю, на перапалоханых немцаў. Яму хацелася ўсё бачыць. Душа старога хацела ўсё ўмясціць у сябе. Ён радаваўся і хваляваўся так, быццам сам бамбіў. «Туды, туды ў кучку страляй!» — крычаў ён самалёту. Яму перадалася тая сіла, якую неслі самалёты і якой баяліся немцы. Ён цяпер ёю жыў.

Штурмавікі пранесліся зноў. Ад выбуху бомб пад нагамі скаланулася падлога. Стары ўпаў, балюча выцнуўшыся аб шуфель, якім падавалі вугаль.

Самалёты адышлі. Некалькі хвілін стаяла цішыня. Енчылі і стагналі параненыя. Уперадзе, каля станцыі, гарэлі эшалоны.

Лейтэнант устаў, азірнуўся, пачаў выбіраць снег з-за каўняра. Калі ён падняўся на падножку, стары машыніст усміхнуўся:

— Прадоўжым

Стар. 52—53, радкі 20—11, замест: — Э, палохаць?.. ∽ павялі ў турму..." // — Э, пан лейтэнант, не палохай. Мы і без гэтага дужа палоханыя, і цяпер нічога не баімся...

У ЗАВІРУХУ (стар. 54)

Упершыню — час. «Беларусь», 1945, № 1.

Апавяданне прысвячаецца К. Чорнаму.

У зб. «Блізкае і далёкае» датуецца 1944 г.; у зб. «У завіруху» паметка: Масква.

*Варыянты час. «Беларусь»:*

Стар. 56, радок 26, пасля: Дайсці...» // Убачыўшы збоку дрэва, Засмужац з нейкай надзеяй скіраваў на яго, але хутка прыйшлося расчаравацца. Гэта стаяў той магутны дуб са зламанай

верхавінай, каля якога ён садзіўся на каня. Ён зразумеў, што заблудзіўся. Гэта зусім знясіліла хлопца.

Засмужац зноў пайшоў па дарозе ў напрамку вёскі.

Стар. 57, радкі 7—20, замест: Перад вёскай ∽ нечай бяды... // Агеньчык толькі здаваўся блізка. Хлопец ішоў на яго, а ён не набліжаўся, нібы ўцякаў. Засмужац зноў пачаў губляць сілы, пакуль падышоў да вёскі. Перад вёскай яго аклікнулі патрулі. Ён узрадавана адказаў.

Калі Засмужац падышоў да агеньчыка, то ўбачыў, што ён гарэў у лямпе ў хаце. Лямпа вісела над сталом. Святло лямпы ляжала блакітнымі палосамі на снезе і плоце побач з хатай. У хаце каля стала стаяла жанчына і ручніком выцірала міскі. За сталом сядзелі два байцы. Адзін невысокі, з пухлым дзявочым тварам смяяўся, а другі, пажылы мужчына, з квадратнай галенай галавой апавядаў. Відаць, толькі што скончылі вячэру.

Стар. 57, радкі 25—27, тэкст: Салдат весела ∽ паківала галавой. — адсутнічае.

Стар. 60, радкі 20—22, замест: вывалак ∽ падаць голасу. // але хто, ён ніяк не прыпамятае. Ён толькі ведае, што ляжыць цяпер ужо на беразе і яго варочаюць, каб вярнуць прытомнасць. Засмужац ясна чуе, што яго клічуць, хоча адказаць, але ніяк не можа адклікнуцца.

Стар. 61, радок 14, пасля: смерць. // Ён, як заварожаны, пазіраў на нябожчыка. Пачуццё віны перад таварышам, на якога ён прасіў капітана ўскласці свой абавязак, было першым пачуццём, якое выклікалася смерцю Бондара.

Стар. 61, радкі 16—18, замест: «Што ты ∽ мяне!» // «Ты! Як ты можаш звальваць на нас свой абавязак! Што ты яшчэ хочаш патрабаваць ад нас! Мы ўсё аддалі. Як ты можаш шкадаваць сябе, спасылацца на стому. Хіба ж наша салдацкая смерць не кліча цябе да нянавісці, да помсты немцам? Адпомсці за нас!»

Стар. 62, радкі 3—4, замест: Яго вялікае ∽ гераічнага. // Калі б яго кінулі ў тую хвіліну на смяротны бой, ён з радасцю пайшоў бы на заклік, і не было б меры яго храбрасці. Яго вялікае пачуццё патрабавала вялікага — подзвігу, помсты, рызыкі.

Стар. 62, радкі 24—31, замест: Хлопец сутаргава ∽ а дайду...» // На марозе самі сабой непрыкметна паплылі думкі — чыстыя, ясныя.

«Як я мог прасіць спачынку,— думаў ён,— калі іх няма з намі. Іх абавязкі лажацца на мае плечы. Я ў адказе за іх. Хай жа пракляты немец ведае, што я буду помсціць за сябе і за іх. Іх нянавісць цяпер будзе ляжаць у маім сэрцы. Я не буду ведаць ні спачынку, ні літасці».

«Цяжка за іх аднаму, далей думаў ён, але я вытрымаю. Разам з нянавісцю і горам да мяне прыйшлі сілы. Я стаў намнога мацнейшым. Раней я не мог ісці, а цяпер іду і дайду. Як бы цяжка ні было, я дайду. На гора немцу».

Стар. 62, радкі 35—37, замест: Агеньчыка ззаду ∽ азіраўся. // Ззаду, як і раней, гарэў агеньчык. Агеньчык, нібы развітваючыся, па-сяброўску падмігваў яму і зычыў шчаслівага шляху. Засмужац адарваў позірк ад агеньчыка і болей не азіраўся.

НОЧЧУ (стар. 63).

Упершыню — час. «Полымя», 1945, № 4 — пад назвай «Салдаткіна ноч» (Эцюд).

У зб. «У завіруху» друкавалася пад загалоўкам «Жаночыя слёзы». У час. «Полымя» і зб. «У завіруху» быў эпіграф:

«Солдаткина ночь как годы долга.
Мой любый! Желанный мой!
Побейте скорее немца-врага
Да приходите домой».

*А. Сурков «Думы солдатки».*

У зб. «Блізкае і далёкае» датуецца 1945 г.

*Варыянты час. «Полымя» і зб. «У завіруху»:*

Стар. 67, радок 19, замест: Але ∽ туга? // Тужліва сціснулася сэрца. У Машы такое адчуванне, што нібы сэрца зусім і няма, а адна балючая рана — туга.

Стар. 67, радок 23, пасля: коўдру. // — Ты не хворая? — у другі раз, са здзіўленнем і трывогаю, спытаў ён.

— Не, Максім...

Стар. 67—68, радкі 43—18, замест: — Ты, мабыць,∽ жыцці...» //

— За мужнасць і адвагу, праяўленую ў баях з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, Ваш муж узнагароджаны высокай урадавай узнагародай — ордэнам Чырвонага Сцяга. Наша часць ганарыцца ім, мужным сынам нашай вялікай Радзімы...

ТАКІ КАРОТКІ ВОДПУСК (стар. 70)

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 1946, 9 сакавіка пад загалоўкам «Пабыўка сержанта».

У зб. «У завіруху» пад назвай «Пабыўка сержанта» з паметкай: Мінск; датуецца 1945 г.

АДНА (стр. 78).

Упершыню — час. «Беларусь», 1954, № 11.

Асновай апавядання паслужыў фрагмент аповесці, над якой пісьменнік працаваў у 1947 г.

У Зб. тв., т. 1, 1969 датуецца 1947 г.

НЕЗНАЁМЫ (стар. 96)

Упершыню — зб. «Гарачы жнівень» пад загалоўкам «Незнаёмы бацька».

У архіве пісьменніка маецца зб. «Гарачы жнівень», 1948 з праўкамі, дзе аўтар ад рукі датуе апавяданне 1947 г.

ПЕРАД НАВАЛЬНІЦАЙ (стар. 104)

Упершыню — час. «Беларусь», 1947, № 10 з падзагалоўкам «З цыкла апавяданняў «Гарачы жнівень».

У зб. «Гарачы жнівень» друкавалася ў скарочаным выглядзе, з перастаноўкамі.
У зб. «Блізкае і далёкае» датуецца 1947 г.

*Варыянты час. «Беларусь»:*

Стар. 104, радок 1, пасля: полудня. // Калі грабельніцы, скончыўшы дзённую працу, гаманкім натоўпам рушылі ў вячэрнюю цемру ў напрамку буданоў, Алена Гаркуша, брыгадзір, яшчэ засталася на пракосах.

## ПАВЕЛ ПРЫЕХАЎ (стар. 113)

*Друкуецца па Зб. тв., т. 1, 1969.*
Упершыню — час. «Полымя», 1947, № 10 з паметкай: «З нізкі «Гарачы жнівень».
У зб. «Блізкае і далёкае» датуецца 1947 г.

*Варыянты час. «Полымя»:*

Пачатак апавядання быў наступны:
Праводзіўшы гасцей, Насця вярнулася ў хату.
Стар. 119, радкі 35—38, замест: — Саромiце ∽ — Не падказвай! // — Чалавек жа не з курортаў прыехаў...
Стар. 122, радок 16, пасля: — Чыстая... // Рэдка дзе зерне пападаецца.
— Ведаеш што, Алена, мне здаецца, можна было б прасвет пад барабанам зрабіць шырэй...
Марцін сыпнуў жменю ў мяшок, падняў цёмныя вочы на Паўла:
— Ён жа і так шырокі...
— Павел правільна кажа,— азвалася Алена.— Я таксама падумала пра гэта. Жыта такое, што на руках ледзь не асыпаецца. Я толькі не хацела перапыняць работу...
— Думаеце, што вымалат будзе чысты!
— Будзе,— запэўніла Алена.— І малаціць станем хутчэй.

## НА РАЦЭ (стар. 123)

Упершыню — час. «Полымя», 1953, № 2 пад назваю «На Прыпяці».
У зб. «Блізкае і далёкае» датуецца 1953 г.

*Варыянты час. «Полымя»:*

Стар. 129, радок 34, пасля: казаць. // Пра гэта ў газетах пісалі многа, ды і сама я не на адной нарадзе колькі разоў гаварыла. Можа, чулі?
Стар. 132, радкі 9—16 — адсутнічаюць.
Стар. 133, радок 30, пасля: справы... // Хутка палі залатыя будуць паўсюль — замест дрыгвы ды твані. І ў сне такога не прысніш, што будзе.

ПАМЫЛКА (стар. 135)

У п е р ш ы н ю — час. «Бярозка», 1956, № 4.
У зб. «Што ён за чалавек» датуецца 1954 г.

НА СКРЫЖАВАННІ (стар. 142)

У п е р ш ы н ю — час. «Работніца і сялянка», 1956, № 6.
У машынапісе пад назваю «На скрыжаванні пад гадзіннікам» (назва «Яе сын» — закрэслена) з датай: 1954 г.

*Варыянты час. «Работніца і сялянка»:*

Стар. 142, радкі 10—15, замест: «На пероне ∞ натоўпе. // Яна шукала таго, дзеля каторага выбралася ў гэты далёкі шлях. Старая ведала, што ён наўрад ці будзе тут, бо не паслала ні тэлеграмы, ні ліста, калі прыедзе. Але ўсё ж шукала вачыма...
Стар. 146, радкі 8—19 — адсутнічаюць.

У ГАРАХ ДАЖДЖЫ (стар. 149)

У п е р ш ы н ю — час. «Беларусь», 1956, № 10.
У машынапісным тэксце дата: 1954 г.
Карабутэнка У. Ф., крытык, перакладчык, нарысіст.

СПАТКАННЕ ЗА ГОРАДАМ (стар. 168)

У п е р ш ы н ю — час. «Работніца і сялянка», 1956, № 9.
У архіве пісьменніка знаходзіцца машынапіс апавядання з праўкамі, якія супадаюць з тэкстам «Работніцы і сялянкі» (23 старонкі).
У машынапісным тэксце дата: 1955 г.

ШТО ЁН ЗА ЧАЛАВЕК (стар. 186)

У п е р ш ы н ю — час. «Полымя», 1957, № 3 пад загалоўкам «У прыморскім горадзе».
У машынапісе пад назваю «Хто ён?», з датай: 1955 г.

ЧУЛАЕ СЭРЦА (стар. 201)

У п е р ш ы н ю — газ. «Літаратура і мастацтва», 1955, 3 снежня з паметкай: «Некалькі сустрэч з Кузьмой Чорным».
У зб. «Што ён за чалавек» датуецца 1955 г.

ЗДАРЭННЕ (стар. 210)

*Друкуецца на машынапісе.*
У п е р ш ы н ю — Зб. тв., т. IV, 1971, дзе датуецца 1956 г.

ДАДОМУ (стар. 218)

Упершыню — газ. «Калгасная праўда», 1959, 18 лютага з паметкай: «Урывак з рамана «Час спадзяванняў», над якім І. Мележ працаваў у гэты час. Дзеянне рамана адбываецца ў перадваенныя гады на Палессі. Гэта раман аб тым, як у гады Савецкай улады расло, пераўтваралася Палессе, як раслі, мяняліся людзі, гаспадары свайго лёсу».

У Зб. тв., т. IV, 1971 датуецца 1956 г.

КРЫМСКІЯ МАЛЮНКІ (стар. 227)

Упершыню — час. «Беларусь», 1967, № 10 пад назваю «Свет поўны цудаў» з эпіграфам:

«Што я думаў,
калі глядзеў
на Каспійскае мора...»
*П. Панчанка.*

У архіве пісьменніка захоўваецца рукапіс з падзагалоўкам: з нізкі «Позіркі». Тут аб'яднаны «Крымскія малюнкі» і «Белыя вішні і яблыні». Рукапіс пранумараваны, усяго 14 старонак. Парадак: 1) Бацькі і дзеці; 2) Цар лесу; 3) Веснавы цвет; 4) Парастак; 5) Сосны на строме; 6) Як паміраюць дрэвы; 7) Шторм.

У рукапісе «Парастак» датуецца 15 чэрвеня 1966 г.; «Як паміраюць дрэвы» (у машынапісе пад назваю «Чамусьці радаснае мора») — 17 чэрвеня 1966 г.; «Хочацца падужацца» («Шторм») — 18 чэрвеня 1966 г. з паметкай: «Ждановічы»; «Трэба глядзець на сосны» («Сосны на строме») — 16 чэрвеня 1966 г. з паметкай: «дача»; «Бацькі і дзеці» — 7 чэрвеня 1966 г. з паметкай: «Ждановічы, дача»; «Можа — праб'ецца» і «Белыя вішні і яблыні» («Веснавы цвет») — 15 чэрвеня 1966 г. з паметкай: «дача».

БЕЛЫЯ ВІШНІ І ЯБЛЫНІ (стар. 233)

Упершыню — зб. «Белыя вішні і яблыні», 1976.

ГІСТОРЫЯ ПАРСЮКА (стар. 236)

*Друкуецца па рукапісе, дзе датуецца 18/XII 1972 г.*

Упершыню — час. «Маладосць», 1978, № 7.

БУЛКІН (стар. 239)

*Друкуецца па рукапісе.*
Упершыню — час. «Маладосць», 1978, № 7.
*Дата напісання невядома.*

НОЧ БЕЗ ЗОР (стар. 242)

*Друкуецца па машынапісе.*
У п е р ш ы н ю — час. «Маладосць», 1978, № 7.
*Дата напісання невядома.*

ГАРАЧЫ ЖНІВЕНЬ (стар. 249)

У п е р ш ы н ю — час. «Полымя», 1946, № 10 з паметкай: *жнівень, 1946;* в. Глінішча (са скарачэннямі).

Друкавалася ў зб. «Гарачы жнівень» у цыкле пад той жа назвай пад загалоўкам «У адной сям'і».

У зб. «Блізкае і далёкае» былі наступныя назвы раздзелаў: «Спрэчка», «Двое», «Крыўда», «Цяжкія дні», «Да нас ідуць, жанкі!», «У адной сям'і», ад якіх аўтар пазней адмовіўся.

Поўнасцю аповесць публікавалася ў кнізе «Што ён за чалавек» і ў Зб. тв., т. IV, 1971.

*Варыянты зб. «Гарачы жнівень»:*

Стар. 249, радок 15, пасля: воблачкі. // Праз дзень пасля дажджу Аленіна брыгада скончыла касавіцу. Людзі пабралі граблі, косы, насілкі і з вясёлым гоманам падаліся ў сяло. Луг апусцеў і сціх. На ім асталіся толькі шызыя, прысадзістыя, крутабокія стагі, якія адны цяпер сведчылі, што тут яшчэ нядаўна кіпела праца.

*Варыянты час. «Полымя»:*

Стар. 253, радок 8, пасля: крануліся. // Жанчыны пайшлі следам, імкнучыся ўсё-такі затрымаць жняярку, але Пятрусь не спыняўся. Ён у душы нават ганарыўся тым, што яму выпала ісці ў такім небяспечным акружэнні, што можна паказаць сваю мужчынскую стойкасць. Хай брыгадзір ведае, які ён смелы.

Стар. 253, радок 32, замест: — прагаварыла Алена пакрыўджана. // Насця перастала ўсміхацца.

— А чаму ты камандуеш маімі людзьмі?

— Не, ты не прыдурвайся! Ты скажы, хто табе дазволіў браць жняярку, калі мая чарга?

— А ты не камандуй маімі людзьмі! Са сваімі не зладзіш, а яшчэ сюды тыцкаешся... Таксама знайшлася мне начальніца!

— Завяртай назад! — крыкнула Алена хлапчуку. Вязальшчыцы падтрымалі свайго брыгадзіра такім дружным гоманам, што коні спалохана ўскінулі галовы.

— У поле вядзі! — загадала Насця.— Но-о! — замахнулася яна на коней. Коні крануліся, але тут жа Алена хапіла за аброць і спыніла іх.

Стар. 256—258, радкі 32—14 — адсутнічаюць.

Стар. 261, радкі 16—28, замест: было людна ∽ жыццё. // нібы вада ў быстрым ручаю, нястрымна вірыла жыццё.

Стар. 261, радкі 37—43, замест: Каля хат, ∽ святло. // У канцылярыі запалілі лямпу.

Стар. 262—263, радкі 37—9 — адсутнічаюць.

Стар. 264, радкі 25—35, замест: З пятнаццаці каласоў ∽

брыгадзіры! // Мы не ўпраўляемся жаць. Нам трэба скарыстаць кожную хвіліну, пакуль стаяць сухія дні... Вы мае камандзіры, лейтэнанты, на вас першая мая надзея. Вы павінны памагчы мне... Пазаўчора ў Коржыкавай брыгадзе цэлае звяно спазнілася на работу на паўтары гадзіны. А ўчора ў адзін дзень адразу два факты — Ігнат самавольна пакінуў работу і вы адкрылі сварку... брыгадзіры!

Стар. 267, радок 28, пасля: не ведаю... // Яна сказала такім голасам, што Марцін падумаў — шкоду зрабіў нехта з яе брыгады і можа па Аленінай указцы.

Стар. 268—269, радкі 31—15, замест: Хата, ∽ не дачакаецца... // Была б тая ноч не такая светлая, не такая прыгожая! Каб не было мігалак зорак, каб не зіхацеў месяц! Можа не паліла б так сэрца скруха па шчасцю, па маладосці, знявечанай вайною, па пяшчоце...

Стар. 269, радкі 18—22, замест: Няхай бы ∽ па пяшчоце... // Яна шкадуе, што не ўзяла з сабою Гальку. Марцінава дачка жыла ў Насцінай хаце. Старшыня калгаса таксама, як і Алена, астаўся без свайго кутка. Сам ён пакуль жыве ў замужняй сястры, але звычайна прыходзіць туды толькі начаваць, бо амаль заўсёды заняты рознымі калгаснымі клопатамі. За Галькай па яго просьбе глядзіць Насціна маці. Дзяўчынка часта сумуе па бацьку, калі ён, здараецца, за ўвесь дзень не знойдзе часу ні разу наведацца да яе.

Галя памагала Алене збірацца на новае селішча.

— І я з вамі паеду, праўда? — радасна шчабятала дзяўчынка.

— Не, ты астанешся з цёткаю Насцяю. У мяне хата няскончаная, ты можаш прастудзіцца.

На Галіны вочкі набеглі слёзы.

— Я не хачу аставацца ■ цёткаю Насцяю, я паеду ■ вамі.

— Ты будзеш да мяне прыходзіць у госці. А як закончым будаваць хату, тады пераедзеш назусім. Добра?

— Добра... Але я хачу цяпер.

Ледзь Алена ўгаварыла яе астацца...

Бяроза Алене бачна да паловы — статны малочна-белы ствол, дзве-тры гнуткія тонкія ніжнія галіны ды трапяткія лапатлівыя занізі лісточкаў. Гэтую бярозу пасадзіў Андрэй, яе чалавек, калі яны пабраліся. Перад Аленай раптам, нібы асветленая ясным бляскам, успыхнула тая вераснёвая раніца, у якую Андрэй ля гэтай бярозы абняў яе апошні раз. Калі Андрэй пайшоў служыць у армію, бяроза была яшчэ зусім малая: тады яшчэ і паўгода не было, як яны пабраліся.

Праз некалькі месяцаў Андрэй пачаў прысылаць пісьмы з вайны. Былі першыя ночы трывог за яго жыццё. Як яны памятаюцца, гэтыя першыя пакутныя ночы! Алена не ведала тады, што хутка надыдзе другая вайна, вялікая, бязлітасная, і ўсё яе жыццё зробіцца бясконцай трывогай. За ўсе доўгія гады гэтай вайны яна не атрымала ні аднаго ліста ад яго. Ні аднаго слова не было чуваць пра яго лёс. Пасля вайны Алена лістоў таксама не дачакалася і цяпер, гэта пэўна ўжо, ніколі не дачакаецца...

Стар. 269—271, радкі 36—39 — адсутнічаюць.

Стар. 284—286, радкі 39—5, замест: Насцю ∽

— Ясна... // Марцін таксама спыніўся.

— Ты з Аленай дружыш,— сказаў ён ціха, быццам баяўся, што іх падслухаюць.— Ты мне скажы, хто гэта тады на Далёкім полі?.. Скажы шчыра. Ты ведаеш больш за іншых.

— Не, гэта не Алена... Як можна на яе падумаць! Гляджу на яе, аж шкода мне — яна сама столькі перажывае. Такое падазрэнне на нявіннага чалавека...

— І я думаю, што не Алена. Няма ёй [redacted] гэтага ніякай карысці. Я здагадваюся хто...

Стар. 287—288, радкі 30—37, замест: Каўнер яго ∽ гарачынёй. // Ён падышоў да Алены насцярожана, ніякавата адчуваючы сябе пад уважлівымі людскімі позіркамі.

— От, я прыйшоў...

Ён азірнуўся навокал — усе, хто прыйшоў на працу, сачылі за ім і Аленаю.

— Я сам прыйшоў,— дадаў ён голасна, з абыякавасцю пазіраючы на жменю аўса, якую 'Алена забыла пакласці на пожню і трымала ў руцэ. У голасе Ігната Алена пачула збянтэжанасць.— Не хачу быць на старане, адшчапенцам... От, назначай на работу, брыгадзір.

— Абібок! Колькі я за цябе сараматы прыняла! — не ўтрываўшы, залямантавала цётка Маланння.

— Ціха ты, палямёт! От жа язык!.. Хіба мне прыемна перад людзьмі?! У мяне таксама жывая душа, а не, да прыкладу сказаць, суконка...

— А бо — жывая душа! — перабіла Ігната нецярпліва Маланння.— Гарэлка, от што твая душа, п'яніца ты прапашчы.

Нечакана Маланння страціла ўсю сваю гнеўнасць і строгасць і ўсхліпнула, як дзіця,— у душы яна пакутліва перажывала за паводзіны Ігната.

— Я можа сам шкадаваў пасля таго... — апраўдваўся Ігнат.— З людзьмі хоць не сустракайся... Дык куды мне ісці рабіць, брыгадзір?

— Пойдзеш на скірту складаць.

Ён пайшоў да скірты. Маланння захапіла поўную жменю аўсяных сцяблоў і парывіста рэзнула сярпом.

ТАВАРЫШЫ (стар. 304)

Упершыню — газ. «Звязда», 1947, 1 і 4 чэрвеня ў скарочаным выглядзе.

У зб. «Гарачы жнівень», 1948 з праўкамі аўтара, які захоўваецца ў архіве (у сям'і І. Мележа), ад рукі датуецца сакавіком 1947 г.

*Варыянты газ. «Звязда»:*

І раздзел — адсутнічае.

Стар. 309, радкі 1—40 — адсутнічаюць.

Стар. 309—310, радкі 41—2, замест: На двары ∽ вярнуліся // Яго ахапілі

Стар. 310, радкі 4—16, замест: Словы Арыны ∽ Кавалевіч. // Гаўрыльчык, Бакланаў намеснік, пісаў, што Баклан «сышоў з рэек». Можна сказаць, Кавалевіч прыехаў сюды галоўным чынам таму, што непакоіўся за Баклана. Не стаў бы ён раптам ні

з таго ні з сяго неадкладна прасіць у сакратара абкома водпуск, каб не ўсхвалявалі яго словы «сышоў з рэек». Праўда, Гаўрыльчык больш нічога не пісаў пра Баклана, і Кавалевіч добра не ведаў, што азначаюць гэтыя словы.

Ён пазнаёміўся з Бакланам, калі той быў начальнікам падрыўной групы партызанскага атрада «Смерць фашызму», якім камандаваў Кавалевіч.

Стар. 313, радок 3—7, замест: «Як ён ∽ чалавек. // «Як ён пасталеў!» — было першае, што падумаў Іван Савіч, калі ўбачыў Гаўрыльчыка.

Гаўрыльчыку было дваццаць адзін ці дваццаць два гады, але выглядаў ён старэйшым. Дробны з постаці, як і яго жонка, ціхмяны, лагодны, ён тым не менш падпарадкоўваў усіх упэўненасцю, развагай, ад якіх здаваўся нібы дужэйшым. Кавалевіч памятаў, якім быў Гаўрыльчык у атрадзе, і ўсё не мог звыкнуцца з думкай, што з таго непрыкметнага хлапца вырас такі чалавек.

Стар. 313, радкі 10—14, замест: Кавалевіч ∽ дома. // пад участак рэкорднага ўраджаю. Поле было далёка ад калгаса, кіламетраў за сем, і абодва, пахадзіўшы па полі ды прамераўшы гэты шлях у два бакі, стаміліся.

Кавалевіч, які прыехаў сюды галоўным чынам для таго, каб пабачыцца ды пагаварыць з Бакланам, спачатку вельмі шкадаваў, што не застаў старшыню.

Стар. 313, радкі 23—31, замест: — Дык як ∽ пакрыўдзіўся... // — Як табе падабаецца Баклан як старшыня?

— Баклан? Старшыня? — перапытаў Рыгорка; ён, відаць, не ведаў, што адказаць.— Нічога сабе... Заслужаны чалавек, вы ж ведаеце. Трынаццаць нямецкіх эшалонаў пад адкос пусціў...

Кавалевіч, пачуўшы такі адказ, здзівіўся, але больш дапытвацца не стаў. Гэтая дзіўная характарыстыка старшыні моцна запала яму ў галаву.

Стар. 317, радкі 10—32 — адсутнічаюць.

Стар. 320—321, радкі 6—16 — адсутнічаюць.

Стар. 321, радок 27, пасля: Васіль?.. // Ён паціснуў на развітанне руку, нахмурыў чорныя густыя бровы.— Не думаў, што спынішся. Адзін чалавек мне сказаў пра цябе: харошы старшыня — трынаццаць эшалонаў спусціў. І ўсё. Крыўдна...

Стар. 322, радок 27, замест: спакайней. // радасна.

Стар. 322, радок 27, пасля: спакайней. // Ён устаў з-за стала, шыракаплечы, карчакаваты, як камень, падышоў да Гаўрыльчыка, па-сяброўску паклаў таму руку на плячо.

— Што ж такое з Бакланам? Скажы — як жа гэта ён? Чаму ён не так, як іншыя?

Кавалевіч трывожна пазіраў у задумёныя светлыя вочы Рыгоркі.

Гаўрыльчык адказаў не адразу.

— Я таксама думаў пра гэта... Мне здаецца таму — аб сабе адным дбае. Нічога вакол не хоча бачыць... Неяк я сказаў яму пра гэта, дык ён пакрыўдзіўся — «у мяне, кажа, столькі заслуг было ў партызанах, што мне да канца жыцця можна быць спакойным...»

Кавалевіч адышоў ад Гаўрыльчыка, сеў, задумаўся.

Стар. 324—325, радкі 42—2, замест: У ім ∽ чалавекам. // Гэтыя словы яму сказаў камандзір атрада!..

Сэрца Баклана ўпершыню апаліла горыч за сябе. У сэрцы бадужаліся крыўда на Кавалевіча і жорсткая праўда яго слоў. Баклан быў самалюбівы, і словы камандзіра балюча ўразілі яго. Да таго ж ён звык вельмі цаніць думкі Кавалевіча.

Старшыня не ўпершыню чуў пра сябе такія словы, якія сказаў Іван Савіч. Пра гэта яму казаў неяк інструктар райкома партыі Зубец, калі прыязджаў у калгас. Аб гэтым таксама, хоць і асцярожна, з павагай да яго, гаварыў Рыгорка. Баклан не паслухаўся інструктара, абразіўся (як ён наважваецца такія заўвагі даваць яму, заслужанаму партызану!), а Рыгорку і слухаць не стаў «Малады ты, каб мяне вучыць».

І цяпер гэтае ж самае сказаў яму Кавалевіч.

Стар. 325, радкі 9—36 — адсутнічаюць.

Стар. 326, радок 3, пасля: гаварыць. // Баклану здалося, што цяпер, пасля той размовы, ён стаў чужым для іх...

Стар. 326, радкі 4—8, замест: Ён пастаяў ∽ пра яго?.. // Тыя акурат гаварылі пра яго.

— Я, калі ехаў сюды, зайшоў у райком,— чуўся павольны бас Кавалевіча.— Там думаюць, што Баклана лепш зняць са старшыні. Я заступіўся за яго... сказаў — трэба пачакаць, спяшацца няма чаго... Цяпер мае апошняе слова — калі Баклан не зразумее мяне, сам пайду ў райком і скажу, каб знялі...

— Баклан можа кіраваць... толькі б не гэтае...

— Ён і перад намі не мог памаўчаць пра свае заслугі! — сярдзіта прамовіў Кавалевіч.

— Думае, што заслугі даюць права чалавеку нічога не рабіць... Вы, таварышы, рабіце, а я буду пазіраць з боку, я не абы-хто, я — чалавек заслужаны.

Стар. 326, радкі 16—42, замест: Васіль спыніўся ∽ неспакойныя думкі. // І ўсё ж тая хата прыцягвала яго да сябе. Тыя таварышы, што сядзелі там.

Чым далей адыходзіў Баклан ад хаты, тым павольней рабіліся яго крокі.

Урэшце ён спыніўся зусім. Рашыў вярнуцца, сказаць Кавалевічу, што ён выправіцца... і ў тую ж хвіліну астыў:

«Не, я не магу гаварыць аб гэтым. Ён наўрад ці паверыць слову — я так позна адумаўся...»

Стар. 329, радок 8, пасля: унакідку. // «Як жа гэта я? Чаму я сам не аглядзеўся... Што я скажу ў апраўданне за сваю віну...»

Яму ўспомнілася, як стаяў уначы каля акна, прыгадаліся словы былога камандзіра: «Калі ты чалавек заслужаны, то ідзі заўсёды наперадзе».

На калгасным двары толькі што пачыналі збірацца падводчыкі. Прыйшлося чакаць брыгадзіра трэцяй брыгады, з якой ішла ледзь не палавіна вазоў.

Стар. 329, радок 18, замест: Яны прывіталіся. // Ён прывітаўся з Кавалевічам. Той, здалося, стаў нібы бліжэйшым яму; быў іншым, чым учора, такім, як у партызанскім атрадзе. А можа — не камандзір, а Баклан стаў іншым...

Канец апавядання быў наступны:

Старшыня здзівіўся — калі толькі цесляры ўправіліся.

БЛІЗКАЕ І НЯБЛІЗКАЕ (стар. 330)

Упершыню — час. «Полымя», 1954, № 6 пад загалоўкам «Блізкае і далёкае» без раздзелаў. У дапоўненым выглядзе аповесць увайшла ў зб. «Што ён за чалавек» пад назваю «Зямля, якую любіш».

У зб. «У гарах дажджы» пад назвай «Край, які любіш», у перапрацаваным выглядзе, дапоўнена, падзелена на раздзелы; датуецца 1954 г.

*Варыянты час. «Полымя»:*

Пачатак аповесці быў наступны:

Зыбін быў родам [illegible] Ніжняга Тагіла.

Стар. 331—334 — адсутнічаюць.

Стар. 335, радок 5, пасля: расказваць. // У доўгія зімовыя ночы ў натопленай зямлянцы, на халодным прывале або на жніўеньскіх палянах пасля паходаў вакол яго заўсёды збіраўся гурток, чуўся рогат, воклічы здзіўлення.

Ён ведаў безліч розных гісторый — вясёлых, трагічных, сумных, пацешных.

Стар. 335—336, радкі 25—27 — адсутнічаюць.

Стар. 339—340, радкі 20—5, замест: Ён прыязджаў [illegible] у Тагіл. // Хутка пасля вайны ён жаніўся на той самай Жэні Крушынскай, якая калісьці выхадзіла яго. Тады ж ён напісаў пісьмо дзяўчыне ў Тагіл, паведамляючы пра гэта і тлумачачы свой учынак; ён іменна толькі тлумачыў, а не апраўдваўся, хоць і адчуваў сябе нямала вінаватым. Зыбін наогул не любіў апраўдвацца. Праз год ён ужо чакаў дзіця, і гэтае чаканне яшчэ больш аддаліла ранейшыя думкі пра Тагіл.

Стар. 340—341, радкі 9—17 — адсутнічаюць.

Стар. 342, радкі 6—26 — адсутнічаюць.

Стар. 344—345, радкі 13—2 — адсутнічаюць.

Стар. 350, радок 29, пасля: сынам. // Сустракаючыся ў Мінску з таварышамі, ён стаў, поруч з успамінамі пра Тагіл, аб лясных днях, цяпер часта гаварыць пра свае заводскія будні. Па гэтых яго апавяданнях можна было б пабачыць, як паступова развіваецца, развінае свае сілы малады завод-гарадок, што вырас у ляску за мінскімі ўскраінамі. Спачатку Зыбін пахваліўся, што асвоілі каленчаты вал, што пачаў працаваць ліцейны цэх, потым перадаў, што выпусцілі ўсю,— цалкам! — аўтамашыну.

Ён [illegible] захапленнем расказваў, якая яна вынослівая і моцная, гэтая машына-самазвал, як яна добра прыстасавана да цяжкіх нашых дарог!

Крыху пазней, калі ён падвучыў хлопцаў і наладзіў справу, калі [illegible] завода ўжо выходзілі дзесяткі, сотні машын, яго назначылі начальнікам у новы цэх, які толькі што ўладкоўваўся. Гэта быў цэх аўтаматаў, што рабілі для машын самыя разнастайныя балты і гайкі, а таксама арматуру. На другіх заводах такія цэхі называюць аўтаматнымі, а тут яму далі назву «цэх нармаляў». Становішча было цяжкае: цэх нармаляў затрымліваў выпуск машын, зрываў усе графікі. На кожнай нарадзе цэх лаялі, лаялі былога начальніка цэха, начальнікаў аддзяленняў, майстроў, хутка сталі лаяць і Зыбіна.

Стар. 350—353, радкі 30—6 — адсутнічаюць.

Стар. 356, радок 4, замест: Гэты брак, ∽ Зыбіна! // Больш за ўсё ён біўся ў тыя горкія дні над тым, каб правільна арганізаваць працу. Цэх павінен быў выпускаць некалькі тысяч розных дэталей, і станкі часта пераналаджвалі, губляючы многа часу. Зыбін хацеў скараціць час, які ідзе на пераналадку станкоў, выпускаючы дэталі вялікімі партыямі. Гэта нярэдка прыводзіла тады да затрымак канвеера, бо некаторых дэталей канвееру не хапала. А тут яшчэ гэты брак!..

Стар. 357, радкі 16—27 — адсутнічаюць.

Стар. 363, радкі 9—21 — адсутнічаюць.

Стар. 369, радкі 23—39, замест: — Дзякую... ∽ дамоў. // У гэтым дзіўным настроі яго выклікалі да дырэктара. Распытаўшыся пра справы, пра тое, што, на яго думку, трэба зрабіць у цэху ў наступныя дні, дырэктар выняў са стала даўнюю яго заяву пра тое, што ён просіць адпусціць на радзіму.

— Ну, вось, скажы, што з ёю рабіць? І так заляжалася — трэба, як кажуць канцылярысты, даваць ёй ход... Першае слова — тваё, як, можна сказаць, віноўніка. Ты не перадумаў?

Зыбін памаўчаў, нібы ў роздуме, але адказаў цвёрда:

— Не.

— Шкада. Ну што ж, тады мы тут параімся...

Стар. 370, радкі 15—21, замест: Яны сталі ∽ Зыбін. // Яны рашылі, што паедзе туды — на радзіму — пакуль ён адзін. Зыбін хацеў было забраць і яе з сынам, але жонка сказала, што гэта зусім лішняе, бо ўсё роўна хутка трэба будзе перабірацца ўсім. Так што цяпер ехаць утраіх — толькі непатрэбныя выдаткі.

Зыбін згадзіўся.

Стар. 371—372, радкі 1—13, замест: Калі таксі ∽ ён ішоў // не дабыўшы канца адпачынку. Ледзьве прыехаўшы, занёсшы рэчы ў кватэру, паказаўшы спехам пакоі рослай, дужай маці, якую прывёз з сабой, ён пабег

Стар. 373, радкі 6—24 — адсутнічаюць.

Стар. 374, радкі 15—18, замест: — Ты праўду∽быццам? //— Ты жартуеш?

— Клянуся, праўда... Можаце збірацца... Але ж і доўга вам прыйшлося чакаць гэтага, а? — Грынь здзівіўся.— Што ж вы такі?! Вось жа характар у вас — і не зразумееш, ці рады вы, ці незадаволены!.. Няўжо не хочаце? Вы ж, казалі, столькі рваліся туды!

Канец апавядання быў наступны:

І, цярэбячы апалы, зазубраны, з тонкімі чырвонымі жылкамі лісток, сам сабе адказаў:

— Восень, Грынь, ужо... І не заўважыў, як прыйшла...

ДОМ ПАД СОНЦАМ (стар. 375)

Упершыню — час. «Беларусь», 1954, № 7 пад назваю «Дом на праспекце» (са значнымі скарачэннямі).

У зб. «Блізкае і далёкае» датуецца 1954 г. пад загалоўкам «Дом на праспекце».

*Варыянты час. «Беларусь»:*

Стар. 375—376, радкі 24—40, замест: — Загорскі — ∽ Да вайны // прыйшоў з рыдлёўкай, расчысціў ад каменя адзін невялікі куток, абгароджаны глухімі сценамі з трох бакоў, потым прывёз дошак і за два дні абсталяваў пакой.

Было відаць па тым, як ён хутка ўсталяваўся, як ён спакойна зжыўся са сваім простым, немудрашчым жытлом, што чалавек гэты франтавы, прызвычаены да ўсяго, у тым ліку да разбурэння. Чалавек гэты

Стар. 377—378, радкі 19—43 — адсутнічаюць.

Стар. 381—382, радкі 14—25 — адсутнічаюць.

Стар. 383—384, радкі 38—30 — адсутнічаюць.

Стар. 387, радкі 37—43, замест: — Таварыш Зуб ∽ ў доме. // Будучыя кватаранты былі такімі нецярплівымі, што ў выканкоме рашылі размеркаваць раней, каб уціхамірыць непакой і хваляванні. Камісія агледзела дом

Стар. 388—390, радкі 11—32 — адсутнічаюць.

Стар. 391—394, радкі 1—28 — адсутнічаюць.

Стар. 396, радкі 33—37, замест: Гэтаму ∽ пра яе. // Можа, у гэтым вінаваты любыя сэрцу ўспаміны маленства, можа, яшчэ якія прычыны, але пісаў ён ахвотней за ўсё пра вёску. Грузны і тоўсты

Стар. 397, радок 20, пасля: задзіры-хлапчукі. // Разыходзіліся на свае пасты разнастайныя загадчыкі і памочнікі,— большыя ў той час звычайна выпраўляліся пазней,— ехалі многія з іх на машынах, што цярпліва чакалі каля пад'ездаў.

Стар. 398—399, радкі 39—2 — адсутнічаюць.

Стар. 405—408, радкі 38—8 — адсутнічаюць.

Шаціла Іван Браніслававіч (н. 1910) — беларускі савецкі акцёр. Народны артыст БССР.

Платонаў Барыс Віктаравіч (1903—1967) — выдатны беларускі савецкі акцёр. Народны артыст СССР.

*К. В. ПІЛІПОВІЧ*

ЗМЕСТ

Ад рэдакцыі . . . . . . . . . . 5
*Алесь Адамовіч.* Хараство прастаты . . 7

АПАВЯДАННІ

Сустрэча . . . . . . . . . . . . . . 25
Апошняя аперацыя . . . . . . . . . 34
Канец размовы . . . . . . . . . . . 42
У завіруху . . . . . . . . . . . . . 54
Ноччу . . . . . . . . . . . . . . . 63
Такі кароткі водпуск . . . . . . . . 70
Адна . . . . . . . . . . . . . . . 78
Незнаёмы . . . . . . . . . . . . . 96
Перад навальніцай . . . . . . . . . 104
Павел прыехаў . . . . . . . . . . . 113
На рацэ . . . . . . . . . . . . . . 123
Памылка . . . . . . . . . . . . . . 135
На скрыжаванні . . . . . . . . . . 142
У гарах дажджы . . . . . . . . . . 149
Спатканне за горадам . . . . . . . . 168
Што ён за чалавек . . . . . . . . . 186
Чулае сэрца . . . . . . . . . . . . 201
Здарэнне . . . . . . . . . . . . . . 210
Дадому . . . . . . . . . . . . . . 218
Крымскія малюнкі . . . . . . . . . 227
Белыя вішні і яблыні . . . . . . . . 233
Гісторыя парсюка . . . . . . . . . 236
Булкін . . . . . . . . . . . . . . 239
Ноч без зор . . . . . . . . . . . . 242

АПОВЕСЦІ

Гарачы жнівень . . . . . . . . . . 249
Таварышы . . . . . . . . . . . . . 304
Блізкае і няблізкае . . . . . . . . . 330
Дом пад сонцам . . . . . . . . . . 375

Каментарыі . . . . . . . . . . . . 413

Мележ І.
М 47 Збор твораў. У 10-ці т. Т.1 Апавяданні, аповесці.— Мн.: Маст. літ., 1979.— 448 с., 5 л. іл.

Літаратурная спадчына лаўрэата Ленінскай прэміі, народнага пісьменніка Беларусі Івана Паўлавіча Мележа (1921—1976) стала нашым нацыянальным гонарам. Гэты дзесяцітомны Збор яго твораў уключае ў сябе ўсё лепшае, што створана пісьменнікам.

Першы том склалі апавяданні і аповесці Івана Мележа. У томе публікуецца прадмова доктара філалагічных навук, прафесара і пісьменніка Алеся Адамовіча, а таксама каментарыі.

ББК 84 Бел 7

М $\frac{70303-179}{М 302(05)-79}$ падпіснoе

Бел 2

Иван Павлович Мележ

Собрание сочинений в десяти томах

ТОМ 1

*Рассказы, повести*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар П. З. Шаўцоў. Мастак Н. У. Сустава. Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Папкова. Карэктары Л. Т. Калюжная, Л. С. Мануленка.

ІВ № 451

Здадзена ў набор 05.01.79. Падп. да друку 26.09.79. АТ 01270. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 23,52+0,53 укл. Ул.-выд. арк. 23,96. Тыраж 52 000 экз. Зак. 1838. Цана 1 р. 70 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, Паркавая магістраль, 11.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.